БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

## ЛЯ САМАЙ СКРОНІ СВЕТУ...

Вястун. Вядзьмар. Суразмоўца з душамі продкаў. Верны рыцар крывіцкага духу. Словатворца. Паэт з вялікай літары. Шалёны талент. Шалёны да геніяльнасці.

Гэта толькі мізэрнасць з тых азначэнняў, якія трэба казаць пра аднаго з самых непаўторных творцаў на мяжы стагоддзяў. Імя яго — Уладзімір, сын Пракопаў, Някляеў.

Некалі я напісаў прадмову да ягонай першай кнігі. Кніга была па-руску — і я прарочыў рускаму, народжанаму ў Беларусі Паэту вялікую будучыню.

Кніга тая не выйшла: Някляеў забраў з выдавецтва рукапіс. Але вялікая будучыня — і тым самым маё прароцтва — не адмянілася: Някляеў прынёс у выдавецтва рукапіс беларускі. Невялічкая рэчка Крэўлянка, на берагах якой прайшло маленства Паэта, перамагла ў ім магутную Волгу, на беразе якой нарадзіўся ягоны бацька. Гэта, як і ўсё ў Някляеве, амаль неверагодна, але здараюцца ў свеце, дзякуй Богу, дзіўныя, неверагодныя рэчы.

Мы займелі ў айчыннай літаратуры выключнага творцу.

Паэт. Эсэіст. Празаік. Гэта калі падганяць пад жанры творы Уладзіміра Някляева. А па сутнасці ён застаецца Паэтам, у якія б жанры ні падаваўся.

Узняўшыся на вяршыні паэзіі і прозы, ён раптам падаўся ў драматургію. І адразу на вяршыню, на самы пік. Стварыў драму «Армагедон». Яе няма з чым параўнаць. Дзіва, што такая п’еса з’явілася. Напісаць яе мог толькі Някляеў — і ён яе напісаў.

У гэтага твора доўгая і складаная будучыня. П’еса няпростая, як само жыццё, для разгадак — і феерычная для фантазій, імправізацый. Шкада, што яна не ўвайшла ў «Выбранае».

Уражвае дасведчанасць Паэта, абсяг ягоных інтарэсаў і, калі можна так сказаць, двухжыльнасць радка.

Някляеў умее перадаць самога сябе праз сябе, праз сябе прапусціць сваіх герояў. І чытач адгукаецца, прымае героя як свайго. Нават тады, калі герой той, як у «Армагедоне», Тэлевізар ці Тумбачка, Апендыцыт ці Без Дыягназу, Псіх ці Ліхтарык.

Чытаеш — і чуецца інтанацыя, голас Някляева. Гэта унікальна, гэта не проста радкі, сказы.

Рэдка хто валодае майстэрствам трымаць сур’ёз на ўсмешцы і ўсмешку на сур’ёзе.

Гэта Уладзіміру Някляеву ўдалося перадаць, кажучы высакапарна, імгненні натхнення, калі радкі загадваюць іх занатаваць, пакуль не позна.

Вар'яцею ціха-ціха.
Так, як трэба. Пакрысе.

Што рабіць Паэту з ягоным «вар'яцтвам» у наскрозь «нармальным» свеце?

У камень увайсці — і ў камяні
Агонь раскласці, сесці пры агні,
Да дыму прываліўшыся спіной, —
І жыць, як за каменнаю сцяной.

Тады — у камяні — вядома, напішацца:

Мы сябе ўспамінаем самі,
Як агню ўспамінаецца дым.

Каб з усяго — і ў тым ліку з каменя, з агню і дыму — зрабіць выснову:

А што твой лёс? Змаганне з Богам?
Сабаку кінутая косць?
Недасягальнасць перамогі —
Усё, што ў гэтым лёсе ёсць.

Уладзімір Някляеў зведаў шум славы і гаркоту выгнання, калі:

Адна Айчына за плячыма —
І анікога за спіной.

За савецкім часам модна было, вярнуўшыся з-за мяжы (хто вырываўся) пісаць нізкі вершаў — нібы справаздачу. (Шчырэў і я ў гэтым жанры.) Нізкі былі наколькі вялізныя — настолькі няшчырыя. А ў Някляева пра славутыя Лазенкі, каралеўскі парк у Варшаве, коратка і пранізліва:

Прастытутка мая маладая,
Дай за ўсіх пашкадую цябе!..
Слаўна з Зосяй бадзяцца ў Лазенках,
Забываючы, хто ты такі...
На яе сінякі на каленках,
Як на кветкі, ляцяць матылькі.

І ўсё. Усё, апроч таго, што світае за метафарай, за радкамі.

1999 год, перадапошні год стагоддзя, свой год выгнання ў Польшчы, Уладзімір Някляеў навечна пазначыў паэмай «Паланэз».

Бывай, Яблонская, бывай!
Прабегла восень па фальварку —
І графіка такая ў парку,
Хоць парк у раму забірай…

Якая інтанацыя! Вобраз, жывапіс, гукапіс!.. Фантастычная паэма пра каханне. Пра лёс і шлях.

Свае гады выгнання ў Фінляндыі Уладзімір Някляеў скараціў паэмай «Ложак для пчалы». Мяркую, ствараючы яе, ён не заўважаў часу.

Чуваць, як адрастае барада, —
Так ціха тут... У возеры, бы ў сподку,
Як вока, поўным, круглая вада
Уздрыгвае, калі штурхаю лодку
Ад берага... Слізгаюць па вадзе
І расхінаюць возера дзве хвалі...
Дзве хвалі... два жыцці...
Адно нідзе…

Дзе яно — тое жыццё *нідзе?* На чужыне? Не, на радзіме.

Што ж адбылося? Як яно так сталася?..

Пытанні патрабуюць адказаў — і Паэт называе кнігу, напісаную ў выгнанні: «Так».

У паэзіі майстра і роздум, і смутак, і шкадаванне. Усё, што ў свеце можа быць. І яшчэ тое, як у «Ложку для пчалы», чаго быць не можа.

Глыбінная рэч. Эпас. Хваля за хваляй — быццам акіян дыхае. І выплёхвае на бераг схаваныя ў глыбінях скарбы.

У жанры паэмы Някляеў унікальны. Але і ў лірыцы яго ні з кім немагчыма зблытаць.

Адзін раз воля — калі ты з нябыту,
Другі раз воля — калі ты ў нябыт.

Нечакана. А як яшчэ?.. Уладзімір Някляеў заўсёды нечаканы, бо сапраўдны.

У паэзіі мы з гэтым звыкліся. А вось у прозе ён зноў здзіўляе, ашаламлівае. Дасведчанасць, далягляднасць мыслення, усмешка, якая асцерагаецца перайсці ў кпіну, дакладнае апісанне рэчаіснасці і вясёлая фантастыка, у якую верыш. Хоць амаль кожны сюжэт — гэта,

як сам аўтар кажа, «...фантастычна-дакументальная, малаверагодная гісторыя».

Проза Уладзіміра Някляева еўрапейская. Нарэшце дачакаліся. Гэта ж некалі самы тонкі лірык Міхась Стральцоў дасціпна кпіў з нашай так званай палескай прозы: «Стары насунуў шапку-кучомку, старая накінула хустку-канаплянку, і селі на прызбе».

Уладзімір Някляеў узняў узровень нашай прозы. Прычым, узнятая да ўзроўню еўрапейскай, проза Някляева наскрозь беларуская. Не падманліва беларуская, а насампраўдзе такая. Бо аўтар не лозунгавы беларус, а натуральны, як дзень, як лес, як камень. Пра тое, што яму баліць, кажа як быццам з усмешкай, ад гэтага боль яшчэ болей гарыць. І ўсё гэта з глыбінным веданнем крывіцкай (нездарма ж карані ягоныя ў Крэве), матчынай мовы.

На ёй, на цнатлівай нашай мове, немагчыма, здавалася, напісаць такі раман, як «Лабух» — з ягонымі эратычнымі матывамі. Выпісаць усё так, каб не было ў гэтым безгустоўшчыны, а тым болей пошласці. Напісаўшы «Лабуха», Някляеў давёў, што талент пра пошласць нічога не ведае. Ён стварыў не столькі эратычны, колькі драматычны раман. Твор пра тое, што быць беларусам — бяда. Але гонар не дазваляе кімсьці іншым стаць.

Апошнюю кнігу нервовай прозы аўтар назваў «Цэнтр Еўропы». Гэта не выпадковы загаловак, гэта сутнасць асобы і творчасці Уладзіміра Някляева. Кніга ягоная мусіць будзіць думку, яшчэ раз нагадаць беларусам, што яны *беларусы*, еўрапейцы!

Эсэ Уладзіміра Някляева пра Янку Купалу («Шлях») і Якуба Коласа («Праз лес, праз лёс») зноў жа нагадваюць нам пра гэта. Бліскучыя рэчы. У іх навідавоку трагедыя народа і ягоных Паэтаў.

За плячыма жыццё трывожнае і невыпадковае.

Адсюль і заключэнне:

Божа мой, якая стома — жыць...

Адкрыццё творчасці Уладзіміра Някляева — гэта і праца, якая патрабуе натхнення, і палёт у захмар'е думкі і пачуцця. Бо аўтар акрылена працавіты, плён ягоны відзён.

А наогул, каб сказаць, што такое Уладзімір Някляеў у творчасці і ў жыцці, трэба мець талент роўны ягонаму. Някляева трэба адкрываць, як Амерыку. Калумб яшчэ расце...

*Рыгор Барадулін*

# ВЕРШЫ

## *ЦЕРНІ*

***Божа з цернем на ілбе,***
***Мой Ісусе!***
***Ты мне снішся, а табе***
***Я ці снюся?***

***Я ўсю ноч з гасцямі піў,***
***Меў каханку.***
***Ці мяне Ты не прысніў***
***Хоць на ранку?***

***Праўду сваіх гасцей***
***На дарогу.***
***Мне б хацелася часцей***
***Сніцца Богу.***

*11.01.2008*

## СТУДНЯ

Сасмяглай рыбай боўтнецца вядро…
Затархаціць пашчэпаная корба…
Адзін глыток — і вось яно: дабро!
І жыць на свеце хораша і добра!

Абуджан зрок: мільгне птушыны цень…
І слых: у ліпах пчолы зноў шчыруюць…

На жоўты жвір сцякае з рук струмень,
І на вадзе каменьчыкі танцуюць.

*1969*

## НЯДЗЕЛЯ

Купі мне самую казачную кнігу.
Купі мне дождж.
Купі мне човен,
Купі маленькую малпу,
Купі гушкалкі
І гэтую крычалку, у якую крычыць
Дзядзька міліцыянер…

Я купіў марожанае —
І гэтага ёй хапіла.

***1970***

* * *

У доме насупраць мыла жанчына акно.
Мокрае сонца ў шкле зіхатлівым дымілася.
Ён падышоў. І яна да яго прыхілілася.
У доме насупраць мыла жанчына акно.

Больш у той дзень
анічога ў мяне не здар*ы*лася.

***1971***

* * *

Што за сумныя песні
спяваеш ты, Белая Русь!
Як валошкі на ўзмежку,
тужліва яны прарастаюць.

«Ой, ляцеў белы гусь…»
А куды ён ляцеў, белы гусь,
Калі ў небе тваім
толькі шэрыя гусі лятаюць?

З далячыняў сівых
наплывае самотны напеў,

Я прадоўжыць яго —
нават голас мне дай —
не вазьмуся…
Дык суцешыцца б тым,
што не толькі хацеў,
што паспеў
Праляцець над табой,
прамільгнуць над табой белым гусем…

*1971*

* * *

Горкім дымам пацягне
Ад барвова-чырвонага лісця,
Ад асенняга… Больш не асенняга…
Хто па смерці мне скажа,
З якой ён знікае пары?
Адчуваецца ў дыме пах адмерлай кары
І сапрэлага сена, —
Гэта новы наш дворнік парадак завёў:
запальваць кастры…
І яшчэ абяцаў ён
у нашым двары
перамены.

*1972*

* * *

І больш сяброў — і менш… Такая справа.
І зойме раптам адзінота дых,
І ты вярнуць хацеў бы нават тых,
Каго вяртаць даўно не маеш права.

Як на слупах пажоўклыя аб’явы,
У памяці размыты рысы іх,
Былых каханых і сяброў былых,
З кім ты дзяліў вясновыя забавы,
З кім быў вясёлы і самотны быў…

Цяпер, бадай, не ўспомніш: як любіў,
Каго любіў? — яны абапал, міма,
Яны праз лёс твой, быццам пілігрымы,
Прайшлі,
        ніхто з іх не зірне назад…

Ніхто не скажа, хто ў тым вінаваты,
Што ўсе мы неяк прадчуваем страты,
Але ніяк не пазбягаем страт.

*1972*

* * *

*Міколу Сідаровічу*

Святкуем дзень сустрэч.
Удвух святкуем. Ціха.
Спявае ў хаце печ
Чырвонай салаўіхай.

З-пад чорнага крыла
Выпырсквае вуголле
Той песні, што прыйшла
Да нашага застолля.

Відаць, яна на раз.
Усё, чаму спявацца,
Згарае ў лепшы час —
І нельга ўратавацца.

Дык што ж рабіць, стары?
Падкінем дроў бярэмя…
Няхай агонь гарыць
І кот на куфры дрэмле.

Не лічачы гадзін,
Давай змарнуем вечар,
І моўчкі пасядзім,
І вып'ем за сустрэчу.

Адну з усіх сустрэч,
Калі ў сусвеце ціха…

І толькі ў хаце печ
Спявае салаўіхай…

*1973*

## З БАДЛЕРА

Не прыйдуць уначы — і катаваць
Не павядуць у змрочны склеп, за краты…
Злачынец, спі! Няма каму пытаць,
Ты вінаваты ці не вінаваты.

Суддзя твой спіць, і спяць вартаўнікі,
І спіць твой кат, бо ў ката сёння свята,
Няўцям яму, што ты жывеш такі,
Хай вінаваты, хай не вінаваты.

Забойца, спі! У кнігах спіць закон,
Дзяржаўны пыл на літары закона
Палёг…
                    Ты спі! Твой палахлівы сон
Ніхто не прыйдзе патрывожыць сёння, —

Дык што ж крычыш! Чаго баішся? Ты!..
Прад кім гатовы ўпасці на калені?
Перад сумленнем? Прэч яго! Сумленне —
Вярыгі рознай дробнай свалаты,
А ты!..

І ўсё ж не спіш…
Крычыш…
Баішся ты…

*1973*

* * *

Калі ваўкі збіраюцца у зграі
І глуха выюць, давяцца тугой,
Я вар'яцець паціху пачынаю,
Нібыта пазнаю, прыпамінаю

У іх выцці знаёмы голас.
Мой.

Мне жудасна.
Я чую, як звярэю.
Ратуюся чакаць, калі заднее
І знікне гэта ноч у небыццё…
І днём не ўспомню нават той падзеі,
Хаця пад языком і халадзее
Працяглае звярынае выццё.

*1973*

* * *

Ты хмаркаю плыла…
Высока…
Не дастаць…
Свяцілася ледзь-ледзь
Над рэчкай і над борам.
Ад слоў маіх плыла,
што я сказаў учора —
Да слоў маіх плыла,
што заўтра меў сказаць.

Ты хмаркаю плыла…
Пад поўняй…
Над зямлёй…
Між вокладкамі дзён
Наступных і мінулых
Мы дзіўную з табой
старонку адгарнулі:
«Дзень вашай цішыні» —
напісана на ёй.

*1974*

## ДЭЛЬФІНСКАЕ

*Памяці Сямёна Кірсанава*

Паэт
Сядзеў за столікам, курыў.
Сівыя валасы стаялі стрэшкай.
Кагосьці быў ён прывітаў з усмешкай.
Сядзеў…
Курыў…
Вітаў кагосьці…
Быў…
Плылі, што поўні,
Да сталоў талеркі,
І цёк, як над вулканам,
Душны дым.
І людзі адбіваліся ў люстэрках —
Адзін…
Другі…
Адзін перад адным…

Паэт сядзеў за столікам, курыў,
Штосьць гаварыў, што быў казаць павінны.
А ў гэты час блакітныя дэльфіны
Плылі ў Басфорскі месячны праліў.

З-пад плаўнікоў
Да зор ляцелі пырскі,
І малаком кіпеў у хвалях след.
— Ты размаўляць умееш па-дэльфінску? —
Спытаў паэт…

Была ўжо ноч.
Па сцішанай Маскве
Плылі праз дождж дэльфінамі машыны.
Паэт хаваў запалку ў рукаве,
Шукаў манету і званіў жанчыне.

Над тэлефоннай будкай цвіў ліхтар.
Узмахваў клён намоклаю чупрынай.
А ў гэты час блакітныя дэльфіны
Пераплывалі сіні Гібралтар.

І недзе ля Астанкінскіх ставоў
Сярод садоў ужо канала лета…
Паэт званіў —
На шэпт дэльфінскіх слоў
Перакладаў жанчыне гул планеты.

*1975*

## ГАЛУБІНАЯ ПОШТА

Блакіт галубіных палётаў.
Сінеча настыглай вады.
Адчынены ў восень вароты.
Засыпаны ў лета сляды.

Іржышчам, па колішнім жыце,
Бяжыць басаནож дзетвара…
І ўсё-ткі: хто знае — скажыце,
Якая ў сусвеце пара?

Скажыце: куды і навошта
Над пожняй, над полем пустым
Гадоў галубіная пошта
Нясе расцярэблены дым?..

*1976*

## АБЛАЧЫНКА

Дзесьці ў Крэве, на высокіх могілках,
У буянні руты і гарквы,
У зямлі змаганай, ды не зможанай,
Дзед з бабуляй — тварам да царквы.

Іх жыццё падманамі і звадамі
Праплыло, як месяц па вадзе.
І ляжаць Іван з Алімпіядаю…
Дзе іх душы? Невядома дзе.

У хмурынках тых вунь?.. У тумане?..
На губе крывінку прыкушу…

Як твая душа, мой дзед Іване?
Ці знайшла Алімпіну душу?

Не збалела, крылы не намуляла
Над царквой маўкліваю кружыць?..

Вымытай хусцінкаю бабулінай
Аблачынка сохне на крыжы.

***1976***

## ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ БАГДАНОВІЧА

Ведаю тое, што ведаў:
Вынішчу памяці сад —
І паплыву, і паеду,
І не паклічуць назад.

І на зямлю Беларусі
Наканаванай парой
Толькі травою вярнуся,
Цёмнай магільнай травой.

***1977***

## ГАЙ

За гаем зноў пачаўся гай.
Не ўспомню, што было да гаю.
Усё наперад забягаю
Сабе самому… А, няхай!
Дальбог, нічога не шкада.
Бывае вось пара такая,
Калі жывеш, нібы сцякае
З палёў напоеных вада.
Шт*о* знаць, куды яна цячэ,
Гадаць, куды бяжыць дарога!..
Ніхто на свеце не ўцячэ
Ад лёсу, ад сябе самога.
І мне з самім сабою жыць,
Які ўжо ёсць я, дзе тут дзецца.

Жыць, як шчаслівае смяецца,
Жыць, як балючае баліць.

*1977*

## ЖАНЧЫНА

Жанчына…
Каханая ўстала над цёмнай ракой.
Жанчына…
Каханая доўга глядзела ў ваду.

На поплаве дальнім
Я потым русалку знайду,
Русалчыны вочы закрыю спакойнай рукой.

Пасля я — аслеплы — па беразе
Буду
Ісці.
І будуць дзве чорных гадзюкі
За мною
Паўзці.
Дагоніць адна з іх —
Ударыць маланкаю лютай.
Дагоніць другая —
І высмакча з раны атруту.

*1979*

## ЛЕСНІЧОЎКА

Прагінае вецер кроквы.
Мёртвы снег пластае дах.
Пуста. Гулка.
Крыкі, крокі
У завеяных палях.

— Мама, хто там?
— Спі. Нікога.

Вецер… Снег…

— Зірні ў акно:
Ваўкалак!
— Пабойся Бога!
— Нехта ёсць усё адно!

Крык.
— Ты чула?
— Падалося…

Стрэл.
— Ты чуеш?
— Гром.
— Зімой?..
Мама,
Мама, ён галосіць!
— Гэта сцюжа, хлопчык мой.

Кожнай дошкай стогне хата,
Клямка бразгае сама.
— Мама, страшна…
Дзе наш тата?
— Тата ў горадзе…

Зіма.
Пуста. Гулка.
Крыкі. Крокі.
Зноўку стрэл. І крык.
І ціш.
Леснічоўка. Край далёкі.
Шлях далёкі. Снег глыбокі.

Дні.
Гады.
Стагоддзі.
— Спіш?

…Ён заснуў, нібыта згінуў.
Ваўкалак трубіў у рог.

Раніцою вецер кінуў
Шапку бацькі на парог…

*1979*

* * *

Не па ваду, не па дровы
Маці — да скрынкі паштовай,
Што да асіны за плотам
Коса прывязана дротам.

Скрынку журба адчыняе —
Жоўты лісток выпадае.

«Ліст прычакала ад сына?..» —
Ціха пытае асіна.

*1979*

## СЕМЯ

…І сціраўся лягчэй,
чым сціраецца след ад алоўка,
На імклівай вадзе чаратамі запісаны лёс…
Ён ішоў наўздагад;
да хрыбта прыкарэла ватоўка,
У хусцінцы шаўковай ён семя таемнае нёс.

Як ад смерці ратуюцца,
ён ад жыцця ратаваўся,
І жыццё абмінала,
і смерць не шукала яго.
Тры разы пакідаў,
тры разы да каханай вяртаўся,
На чацвёрты вярнуўся —
ды ўжо не было да каго.

Ён на полі пустым
тры начы прастаяў нерухома,
На чацвёртую ноч
кінуў семя з хусцінкі ў раллю.
І зямля скаланулася,
быццам ад нізкага грому, —
А адрынула семя…
Тады ён пакінуў зямлю.
У чатыры канцы
ён ляцеў у здабытай прасторы —

І нікога за ім, і нічога прад ім не было.
…На абражаным полі зраселі апалыя зоры,
І паўночнае ззянне
паўліным хвастом расцвіло…

*1980*

* * *

Не дазволь пайсці мне… Затрымай…
Рукі на грудзях скрыжуй стамлёна…
Хай сабе не варты я праклёну —
Праклінай.

Праклінай, галосячы пра страты,
Адзіноту, здраду і тугу.
Не магу я
Быць
Невінаватым!
Чуеш, не магу.

У імя няўмольнага расстання —
Над бяздоннем,
На апошнім дні —
Не карай мяне ўсёдараваннем!
Злітуйся…
Даруй мне…
Пракляні…

*1980*

## ТРУНА

…І ляжала яна, нежывая,
Не чужая яму, не чужая.

Адышоў, да дзвярэй прываліўся.
Не чужы ёй цяпер, ці чужы?
Нешта помніў — а болей забыўся.
Азірнуўся назад: міражы.

Азірнуўся наперад: нікога.
Ні тугі не адчуў, ні бяды.
Толькі збітая ў камень дарога,
На якой пазнікалі сляды.

Так стаяў, сам сабою замглёны,
І глядзеў за абрысы зямлі,
Па якой
І ў якую мільёны
Невядома і грозна прайшлі.

Толькі ў час, як выносілі з дому
І калі яго ўбок павяло,
Невядомае стала вядомым,
А вядомага — як не было.

*1980*

* * *

Прызнаць віну, якой не варты вы, —
Адчэпка толькі для суда людскога…

Калі душа, як за сцяной астрога,
І сочыш ты за ёй, як вартавы, —
Не абвяшчай: я вінаваты ў тым,
Што ёсць мана, што пыл яе і дым
Твар праўды захінае, як аблога.
Не словамі, а справай пачынай:
Астрог паруш — і ў сэрцы паламай
Нож асцярогі, зброю вартавога.

*1981*

* * *

Выйшаў. Хіснулася поле
За небасхіл неадольны.
«Любая, што гэта?»
«Воля».
«Волі не ведае вольны».

Біўся. Вяртаўся дахаты.
Голаў качаў на падоле.
«Любая, што гэта?»
«Краты».
«Знаю. За кратамі — воля».

*1981*

## У САДЗЕ НАД РАКОЙ

Несупадзенне дат.
Несупадзенне вех.
Вяртаецца назад
Даўно забыты снег.
Узняў забыты дождж
Крыштальнае крыло.
Усё было — і ўсё ж,
Што будзе — не было.
І ў садзе над ракой,
Чырвоным ад калін,
Пружынай
Пад рукой
Напружанне галін.
Галінку адпушчу —
Мільгне за далягляд
І вернецца назад,
І вернецца назад.

*1981*

## НОВЫ СНЕГ

Столькі снегу, што галіны ломяцца.
Белы снег — таму і белы свет.
Чысціня. На чысціні і ловяцца.
След у след
Ты ступай за мной паміж сумётамі,
Дзе слядоў не бачна нічыіх.
Не сумуй былою адзінотаю —
Мы ўдваіх
Каля ўскрайку лесу вечаровага,

Дзе пазёмка запыняе бег…
І нічога ў нас з табою новага —
Толькі снег.

*1982*

## КАМЕНЬ-ЖАЛЬНІК

На сівы быльнёг,
На разбег дарог
Да вясёлых ног
Камень-жальнік лёг.

Не ступі — згарыш! —
На каменны крыж.

Калі ж смелы: кліч!
Пад сырой зямлёй
Залатой змяёй
Звіўся Вечны Зніч.

Як не ўпадзе кліч
З рота жабаю,
Выйдзе Вечны Зніч
З камень-жальніка.

Пабяжыць, гарун,
Да Старых Барун, —
Дзе згубіў Пярун
Залаты бізун, —

Не тварыць мальбу,
Не спраўляць жальбу,
А ці волю гуляць
Альбо неба сцябаць.

*1982*

## ВОЛАТАВА ГАРА

1

Грымнуў у грудзі гары —
Пала прад волатам:
«Колькі захочаш бяры
Срэбра і золата».

Не нахіліўся падняць.
Рушыў.

Устала
І засталася стаяць
Там, дзе стаяла.

2

Шляхам зваротным ішоў,
Грымнуў — не ўпала.
«Што ж ты, — спытала, — знайшоў?
Сіла — і тая прапала».

Глянула — цёмна ў вачах!
Страшная сіла!
«Ты засланіла мне шлях…»

3

І саступіла.
Долы адкрыла. А ён
Зноў рушыў верхам.

…Плач, што ляцеў наўздагон,
Зносіла ветрам.

*1982*

## КОСМАС

Аднойчы, прачнуўшыся ўночы,
Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць,
І стане наіўныя вочы
Халодная бездань смактаць.

І зманлівай згадкай быцця
Цябе працягне аж да поту, —
І роднае станеш дзіця
Вучыць не хадзе, а палёту.

*1983*

* * *

Пералётная птушка зламала крыло аб драты
Каля бацькавай хаты.
І крычыць, як жалеза пілуе, яна:
«Гэта ты! Гэта ты!
Гэта ты вінаваты!»
І на крык яе
кругам
вяртае важак чараду —
Што ён стане рабіць?..

Вёдры ў хаце пустыя…
Так страшна ісці па ваду,
Быццам
Будуць
Бамбіць.

*1983*

## ПЕРАД ТАБОЙ

…Я з лёсам
Біўся на нажах,
Пакуль мяне ты не любіла.
Ты мне адкрыла смерці жах.
Не,
Жах жыцця ты мне адкрыла.

На міг
На росстанях Сусвету
Любоў
Знайшла маю душу.
Я не прашу кахаць за гэта…
Я літасці тваёй
Прашу.

*1983*

## СПАДАРОЖНАЯ

…І выпадкова, плоць да плоці
Нас кінула на павароце,
І шляху пыльная шляя
Між ліп згубілася высокіх.
Зеленавокая мая!
Я не люблю зеленавокіх.
Ды асляпіла гэта сіла,
Што скразнякамі ў нас гудзе.
На міг адзін яна зрадніла —
Яна навекі развядзе.
Ніхто не будзе вінаваты!..
А ты —
да страты, да расплаты,
да развітання за вярсту —
Глядзіш,
нібы сястра на брата.
Як сірата на сірату.

*1983*

## ХАДОК

*Уладзіміру Караткевічу*

Біклага, кульба, торба на плячах—
Па нашым часе
выгляд маскарадны.
Нікому і ні ў чым не падуладны

Хадок ідзе, таму што выбраў
Шлях.

З дубровы ў бор, з нізіны на грудок
Ідзе хадок, —
                    а бэйбусы, барыгі
Крычаць:

«Гэй ты! Дзе крыж твой? Дзе вярыгі?»
Хадок ідзе. Таму што ён
Хадок.

Ён выбраў шлях — і ўжо не зверне ўбок
Ад ісціны, вядомае спрадвеку:
Амаль усё, што трэба чалавеку, —
Скарынка хлеба ды вады глыток,

Амаль усё. Амаль, амаль, амаль…
Але не ўсё — калі камяк у горле,
Не ўсе, не ўсё — калі душу агорне
Па незабыўным непазбыўны жаль.

Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім:
Па каласах тых, што на ўзмежку поля,
Па тым — што праўда, і па тым — што воля,
Па самым любым, самым дарагім,
Па ўсіх, па ўсім — да слёз, да слёз, да слёз,
Па самым крэўным у чужынным свеце,
Што княжым ветрам прашуміць у вецці
Заслаўскіх сосен, полацкіх бяроз
Ці паляўнічым рогам прагудзе
Ля Турава — і адгукнецца ў Крэве…
Хай шлях кружны, нібыта кольцы ў дрэве,
Бясконцы шлях. Але хадок
Ідзе.

Усё сваё з сабой нясе… Яму
Таго даволі — больш, чым неабходна,
Каб зратаваць сасмяглых і галодных…
Каго? — яму вядома аднаму.

Ідзе хадок.
Над ім дажджыць, сняжыць,
Яму не выйсці з гэтай кругаверці:

Ён ведае так мала, каб памерці.
І гэтак многа ведае, каб жыць.

*1979, 1984*

## ПЫЛ ДАРОГ

Ці пясок залаты ён, ці смецце —
Пыл дарог, што круцілі па свеце?..
Мітусня!
Вызваляюся.
Вецер
Лёг ля брамы ў нядрэмны дазор,
Як сабака.

Бы сховы разор,
Дні спусцелыя…
І на дасвецці
Вызваляецца неба ад зор.

*1984*

* * *

На радасць, на радасць, на радасць
Зямлі, чалавеку, былінцы
Вясёлая зорка над садам,
Руплівы шпачок на галінцы.

На радасць —
                    а нехта канае,
Пакутуе хтосьці нявінна.
А зорка міргае, міргае,
Спявае шпачок і спявае
Наіўна, наіўна, наіўна.

*1984*

## СІТУАЦЫЯ

Дрыготкія цені чароту…
Ударыш вяслом па вадзе —
І пырскі рассыплюцца шротам,
І рэха кругамі ідзе
Да берага: «Што ты?.. Чаго ты?..»

Не віскне сабака ў двары,
Прыходзь — і што хочаш бяры,
Не ўскінуцца гаспадары,
Бо спяць, як прадаўшы пшаніцу,
Нічога ніхто не баіцца,
Ніхто і нічога!..
Назад
Ад берага рэха адрыне.
…І толькі шалохнецца сад
Ды ўспудзіцца конь у адрыне…

І вуха нядрэмнае ўскіне
У чуйную ноч
Канакрад.

*1984*

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

У Менску адліга шарэе,
У лютым, калі вечарэе
І ўзяцца магло б на мароз…

Таварыш мой без папярос
Застаўся — і сумна ківае:
«Глядзі ты, адліга якая…»

Апроч папярос, нам стае
Астатняга: хлеб і цыбуля,
І пляшка стаіць на стале…

Тры дні як памерла матуля
Таварыша… «Колькі разоў
Збіралася… До ўжо… Даволі… —

Таварыш глядзіць, як у поле,
У барву і бель абразоў… —

Не будзе ўжо болей ніколі
Такіх, як пры ёй, маразоў».

*25.02.1985*

* * *

Дзе голаў прытулю,
Там і знайду начлег.
Снег першы —
На зямлю,
Наступны снег — на снег.
На рану —
Першы боль,
Наступны — на шрамы,
На лёс, на стынь і золь,
На першы след зімы,
Што толькі пачала па снежні свой разбег.

Прыбегла. Абняла.
З плячэй страсае снег.

*1985*

* * *

Тая, што днём і ўначы
Побач за лёкая,
Блізкая
спіць на плячы —
Сніцца далёкая.

Соладка сон прытулю,
Колькі ў ім горычы,
Як яму горача —
Каля агню матылю.

*1985*

## ЗВЕР

Помні ўсіх — і нікога не помні.
Ідучы ў нікуды,
Толькі ты, што праходзіш па полі,
Засяваеш сляды.

Знай пра ўсё — і нічога не ведай.
Ідучы наўздагад,
Толькі ты, што праходзіш без следу,
Не павернеш назад.

Пасярод мітусні і зняверу,
Між бязладдзя ўсяго
Ты адзін усміхаешся зверу
За самога яго.

***1985***

## ІДАЛ

«На, — ён сказаў. — Павер — і не памрэш.
Мяне і род мой ты перажывеш».

І я яму паверыў. Напавер
Злізаў атруту з далані, як звер.

«Не бойся, — ён шаптаў, — не бойся, не…»
Памерці даў — і ўваскрасіў мяне.

І з той пары дапытваць стаў: чаму
Паверыў не сабе я, а яму?

Штодня, штоночы, дзе б мы ні былі,
Вымучваў ён мяне: а што б, калі…

«Не! — я крычаў. — Ты Богам быў маім!»
І ўсё страшней было мне побач з ім.

І ўстаў адчай між намі, як сцяна.
Тады ён зноў сказаў аднойчы: «На…»

***1985***

* * *

*Міхасю Стральцову*

Восень. Сівізна ды пазалота.
Веерам раскінецца лістота,
Змеценая ветрам да акна.
Адзінота, друг мой, адзінота.
Налівай віна.

Сядзем. Памаўчым ды пагаворым.
Дзякуй Богу, тут ніхто не хворы
І няма пытання: піць ці не?
Апрыёры, друг мой, апрыёры:
Ісціна ў віне.

Хораша сядзім. І п’ём са смакам.
За сцяной сусветнага барака
Вые недарэзаны сабака
У глухія, шэрыя палі.

А на шклянках — знакі задыяка,
Вершы па кутах — хоць печ палі.

Будзь.
Як той казаў:
Хай скажуць дзякуй
нам, што мы пілі.

*1986*

* * *

Добра быць ні бацькам і ні сынам,
І ні дзядзькам, і ні братам быць.
Анікому ні чарта не вінным
Жыць у краме,
у аддзеле вінным,
Дзе ў чарзе — уся радня стаіць.

*1986*

## СУЗОР'Е РЫБ

За ноч адну і тысячы начэй,
Заплеценых абдымкамі ў абдымак,
Не наталіць да слодычы вачэй,
Не злашчыць губ — не сцалаваць з плячэй
Рассыпаных
Сузор'ем Рыб
Радзімак.

А неба, дзе плыве сузор'е Рыб,
Ушыркі рассыпаецца і ўглыб
Пустотамі міжгалактычных дымак,
Хоць нанава нябёсы перасып,
Сузор'і ўсе — абдымкамі ў абдымак.

Што нам да неба — і яму да нас?..
Так соладка, нібы ў апошні раз
Ляцім у снах — абдымкамі ў абдымак,
І ў валасах, не выбраныя ў час,
Праменяцца сузор'і невідзімак
І сыплюцца, як срэбра на атлас.

*1986*

* * *

Неба застаўлена пасткамі,
Глянеш — і цягне ў нябыт…
Што ты згубіла ў ім, ластаўка,
Бліскаўка, метэарыт?

Там, пад сінечаю цупкаю,
Зор захінаючы рацъ,
Воблакі, сшытыя дзюбкаю,
У бліскавіцах гарацъ.

Што ты шукаеш там, мілая?
Там без цябе ўсё было,
Швейка мая хуткакрылая —
Спаленае крыло.

*1987*

## СВЕЧКА

Вільготныя зрэнкі начы —
На сподку
пад свечкай
парэчкі і слівы.

Маглі вы,
Сюды ідучы,
Прадбачыць, якім будзе ранак?

З усіх калыханак
Я выбраў такую, што нельга заснуць.
Снуюць
За вокнамі цені,
нібы вартавыя.

Мы з вамі — не тыя.
Абняўшы калені,
Задзьмулі вы свечку,
Каб зманныя словы пачуць.

*1987*

* * *

Здабыў я ўрэшце волю на зямлі.
Сябры былі.
Каханыя былі.
Іх стала меней.
Адзіноты — болей…
І гэта ўсё, бадай, што я займеў ад волі.

*1987*

## АДЗІН

Чужы чужым — яны знайшлі свайго,
Не свой сваім — яны пайшлі з чужымі,
Не тузайся ні з тымі, ні з другімі.
Як ты адзін — ты больш за аднаго.

У высі птушка,
Рыба ў глыбіні,
Вандроўнік на фантомным небакраі,
Як ты адзін — ты не змарнуеш дні
На тое, каб спазнаць законы зграі.

Як ты адзін — аднойчы ўночы ты,
Угледзеўшы імгненны след каметы,
Уцяміш таямніцу пустаты,
З якой Гасподзь саткаў усе сусветы.

Як ты адзін — ты боскай тканкі ніць
У вушка голкі зловіш і, быць можа,
Пустое станеш ткаць, пустое шыць, —
Як ты адзін,
Як Бог у тым паможа.

*1988*

## СТАН

Як прывіды,
як сны пра сны,
як здані
Душу маю
пакінулі жаданні.

Як пры пажары выбягаюць з дому,
Яны з мяне — натоўпам! прэч!
Нікому
Казаць пра тое нельга — я кажу:
Нібы жабрак абкрадзены, дрыжу
Сярод руін на шэрым папялішчы,
Дзе ў коміне сіроцкі вецер свішча
І гоніць, круціць попел, сажу, дым…

З усімі так?..
Ці так са мной адным?..

*1988*

* * *

Ветраны ранак апошняга дня лістапада.
Першыя подыхі неасмялелай зімы.
Далеч наперадзе…
Сцены і лесвіцы ззаду.
Не азірайся, каханая: гэта не мы!

Гэта не нас даганяе па лесвіцах здрада,
Гэта не мы сярод сцен, як з нямою нямы,
Гэта не з намі нянавісць засела ў засаду, —
Ты не палохайся, любая: гэта не мы…

Гэта ў пару, калі мёдам набраліся соты,
Згаслі маланкі, бязладна грамы адгулі,
Раптам над ранкам,
над ветрам,
над снегам з лістотай
Прывіды нашы, спалохаўшы нас, праплылі.

*1988*

## ЗНІЧКА

Ля самай скроні свету
Слізне і прападзе.
Ні водгуку, ні следу
Нідзе, нідзе, нідзе.

А свет сабе гудзе,
Як перад святам пошта.
Слізне — і прападзе.
Адкуль? Куды? Навошта?

Праз ніцы вербалоз —
Сцяжына ў вольным полі.
Адно і ёсць — што лёс.
…А што бывае болей?

*1989*

## ЗМЕІ

Лёс як лёс: з двух бакоў — пустата.
Век да веку — мастом да маста,
І чытаецца драма з ліста,
Не дабрэе жыццё і не злее…

Бог з машыны.
Маліна з куста.
І ў маліннiку любяцца змеі.

*1989*

## КОСЦЬ

А што твой лёс? Змаганне з Богам?
Сабаку кінутая косць?
Недасягальнасць перамогі —
Усё, што ў гэтым лёсе ёсць.

*1989*

## МАЎКЛІВЫ МІТЫНГ

Усё, што коціцца,
Дакоціцца да нас…

І дакацілася.

Ля могілак якраз,
Дзе сны пра вечнасць сняць
Ці спяць без сноў
З усімі
          Караткевіч,
                              Куляшоў… —
Маўклівы мітынг.

З кожным, хто прыйшоў,
З'явіліся і сталі побач продкі…

Маўклівыя
                    стаялі цені родных,

Маўклівыя
                    стаялі цені блізкіх:
Пад крыжам злеглых. Зоркай. Абеліскам.
Ва ўсіх Хатынях спаленых. Забітых
Пад Грунвальдам. На Калыме «прышытых».
Бясследна зніклых. Хапам пахапаных.
Нікім, нідзе, ніяк не пахаваных,
Ці ў Курапатах
                    скінутых у роў…

Ад плоці плоць
І ад крывінкі кроў —
Мы ведалі,
                    пра што маўчалі з імі.
Жывыя з мёртвымі.
І мёртвыя з жывымі.

І ўпершыню, маўкліва сцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ.

*1989*

## ГУЛЬНЯ

Ранкам неба пацямнела, а днём
На дарогу ўпала чорным агнём.

Нахіліўся і падняў я агонь,
Перакінуў з далані на далонь.

І на правай прапаліў скуру ён,
І на левай, як кляймо, стаў відзён.

І спытала даланя ў далані:
— Для чаго нам перакідваць агні?

І сказала далані даланя:
— Гэта забаўка такая. Гульня.

*1989*

* * *

Адхінецца
                    вада ад зямлі —
Да агню прыхінецца.
Аблачынкаю стане,
Растане…
Вось — каханне.
Гэты шлях мы з табою прайшлі.

*1989*

* * *

Тым быў час і не тым, а затым
Нават часам не быў ён, затое
Праступала імя залатое
На пярсцёнку тваім залатым.

І калі, не ўтаіўшы імя,
Ты адкрыла яго і назвала,
Ты ўжо знала, што часу не мала
І не многа, а проста няма.

Ён з нічога, з малітвы тваёй
Узнікаў, як пустэча ў пустэчы,
І яго абняла ты за плечы —
І сышліся далонь з даланёй.

Ты ўжо знала: нікога няма
У абдымках тваіх, — ты ўжо знала
І пустое ў пустым абдымала,
І ў пустэчы блукала сама.

І збірала пустое ў пустым,
І складала пустое ў пустое,
І было залатым залатое —
І пустое было залатым.

*1989*

* * *

Прыбегла з марозу, на вейках зара —
І хрумстка, і свежа, і снежна з парогу!
Яшчэ ў нас наперадзе, дзякаваць Богу,
І срэбная, і залатая пара.

Яшчэ майскім мёдам гарчыш на губах,
І пахне каханне пралескай пад снегам,
І ў смех — раўнаваць, каб наяве і ў снах
Не верыць вяртанню, сачыць за пабегам.

Яшчэ не ў апёк дакрананне да болю,
І лёгка наш лёс вызначаецца тым,
Чаго перад чым назбіраецца болей:
Пабегам адным ці вяртаннем адным.

*1990*

* * *

Заплакаць мне
па той вясне?
Як соладка… так горка…
Там з ночы ў ноч скакала ў сне
Агнём па залатой сасне
Чырвоная вавёрка.

Адзін адну
гукну вясну —
Ні голасу… ні рэха…
Прачнуся плакаць, зноў засну,
І мне вавёрка сніць сасну
У залатых арэхах.

*1990*

## ДЫМ

Як дым —
зямное на зямлі;
Як тым, што і да нас жылі,
І будуць жыць пасля.

У спраты прыбярэ зямля
Наш боль, што высахне асотам,
Адчай, што згоркне палыном
І зорным змелецца млыном.

І ўсё. І тое ж будзе потым,
Як і раней, як перад тым:
Адчай і боль з крывёй і потам, —
як дым.

*1990*

## АГОНЬ

Спапяліўшы былое ў былым,
Стаўшы ценямі,
зданямі,
снамі,
Мы сабе ўспамінаемся самі,
Як агню ўспамінаецца дым.

*1990*

## КАМЕНЬ

У камень увайсці — і ў камяні
Агонь раскласці, сесці пры агні,
Да дыму прываліўшыся спіной, —
І жыць, як за каменнаю сцяной.

*1990*

* * *

Шастае вецер па даху.
Гулка — як б’юць у званы.
Ноч набіраецца страху.
Зданямі поўняцца сны.

Гэтак душы адзінока,
Скрушна — хоць крыкам крычы…
Днём яна — д’яблава вока.
Боскае вуха ўначы.

*1990*

## МАТЫЛЁК

Замкнуў яму я горла, да таго ж
Другой рукой над ім занёс я нож.

Як ён баяўся, гледзячы ў нябыт!
І плыў, і плыў з вачэй яго блакіт.

Ніхто ўжо быў ён і ніщто, мярцвяк,
Мой вораг, ненавіснік мой. Аднак

З дзяцінства, з лугавіны ля ракі
Блакітныя ўзляцелі матылькі.

І сеў яму на вейка матылёк.
Я кінуў нож і адпусціў замок.

*1991*

* * *

Глухі завулак.
Вецер.
Ноч.
Расстанне.
Я затулюся, падыму каўнер
І ўспомню мімалётнае каханне,
Як паляванне ўспамінае звер.

Імя згадаю.
Плечы.
Вусны.
Вочы.
Было ж яно! Ну як я мог забыць!
І цень ягоны над прадоннем ночы,
Нібы анёл ружовы, праляціць.

У цені тым, знікаюча-імклівым,
Што ледзьве ўзняў — і абламаў крыло,
Хоць міг адзін я пражыву шчаслівым…
Як звер, што п’е ружовае святло.

*1991*

## СЛІВА

Сінечаю свяціла сліва,
Гулі між намі скразнякі,
І ты глядзела з-пад рукі
Няўцямна, мройна, палахліва
У далячынь, дзе небасхіл
З зямлёй зліваецца шчасліва,
Адкуль да нас дабегла сліва
Задыхана, з апошніх сіл…

— З апошніх сіл цябе кахаю
І з ночы ў ноч, і дзень пры дні
З апошніх сіл да небакраю
Кідаю сінія агні…

На тую сліву цемра легла!
На камень, у пясок —
куды
Пападалі яе плады,
Пакуль да нас яна дабегла?..

*1991*

## ПРАЗ КАЛІНУ

Кіну ўсё, чаго дасюль не кінуў,
Пакладу стамлёна галаву
На даспелую траву
Пад чырвоную каліну.
На нябёсы вольныя, на хмары
Праз пажар калінавы зірну
І пад ім засну
З тараю аб тым, пра што не марыў.

***1992***

* * *

Бронь Божа мне ўспомніць пра тое,
аб чым ты забылася,
Што з пылу ляпілася, а паўставала сцяной.
Як ты стамілася, любая,
як ты стамілася
Побач са мной!

І тая птушынка, што ў вокны азяблыя
білася,
Таксама стамілася грэць невідушчае шкло.
Колькі было ўсяго, любая!..
Пералюбілася —
Як не было.

І тая травінка, што ў сне да мяне
прытулілася,
Таксама травою стамілася быць у траве,
Ды ўсё так сплялося, звязалася,
перакруцілася —
Бог разарве.

***1992***

## ГАЛУБЯТНЯ

Над хатай галубіны дах.
І ўсе нябёсы ў галубах,
І брат на галубятні.
Са свістам кружаць галубы
І ніжуць круг на круг,
                                        любы —
Апошні і астатні.

І ніжуць
                круг на круг
                                    гады.
Адбіўшыся ад чарады,
Што свіст у небе сее,
Апошні братавы галуб,
Астатні —
                    п'е з ягоных губ
І на вачах сівее.

*1992*

* * *

Струменіцца па жылах халадок.
Сплывае час па стылых небасхілах.
Завершана. Дапісаны радок.
Плачу даўгі і плачу на магілах.

Ужо надзеі белы галубок
Мяне не ўздыме на самлелых крылах.
Завершана. Гасподзь глядзіць з аблок.
Плачу даўгі і плачу на магілах.

Лучыць і блытаць вусце і выток
Ракі быцця мне болей не па сілах.
Завершана. Я сеў на беражок.
Плачу даўгі і плачу на магілах.

Мне галасы гукаюцца здалёк —
І памяць на астылых небасхілах

То пырхае, нібыта матылёк,
То круціцца, нібы змяя на вілах.

*1992*

## ВАР'ЯТ

«Што робіш, брат?»
«Грудок капаю брату.
Прасіўся пахаваць каля царквы».

Не замінайце вар'яцець вар'яту.
Тым больш, што ён капае, а не вы.

Тым больш — нікога: ні сястры, ні брата
Няма ў яго, ніколі не было.
Не набягайце шкадаваць вар'ята —
Яму няўцям, што розум адняло.

Не з вамі ён,
Ягоны брат не з вамі.
Вялікаму ў дзіцячым паліто
Яму баліць над зрослымі брывамі, —
Бог ведае, з чаго баліць і што.

Бог ведае, каго якія страты
Пільнуюць — і да страты не дапяць:
Хто ў немачы, хто ў розуме
вар'яты,
Хто брату брат — адно грудок капаць.

*1993*

* * *

У сферных люстрах плаўных небасхілаў
Абвалы зор і роўны рух снягоў
Пад поўняю, што вёслаў не згубіла
Над водамі, што выйшлі з берагоў.

Свет шырыцца да незанятых ніш
І пустату закідвае насеннем,

Што прарасце маланкамі
паміж
Самаз’яўленнем і самазнікненнем.

Бясконцае ствараецца бясконца —
То скручваецца ў ніць на верацёнца,
То рвецца на спіралі і кругі,

Як гэта высь халодная, нямая,
Як гэта плынь, што берагоў не мае
І шырыцца — шукае берагі.

*1993*

## РАДОК

Намацваць рух радка, які ў зачыне,
Як шыць туман ці аблачыну ткаць…

І ўсё ж пачаць — хоць напачатку знаць,
Што слоў, напісаных на аблачыне,
Ніколі і нікому не чытаць.

*1993*

* * *

Малітвы.
Клятвы.
Споведзі.
Законы.
І неназваным
Бог дае імёны,
Каб доўжыць род, асуджаны на звод.

Чытаюцца, але наадварот
Нябёсаў таямнічыя пісьмёны
На стылай плыні раўнадушных вод.

Пракляцці.
Здрады.
Вераломствы.

Бітвы.
Хай Страшны суд, нібы да шыі брытва
Усё бліжэй —
што будзе на Судзе?..

Калі па плыні
сам Гасподзь ідзе,
Калі ўсе клятвы, споведзі, малітвы
На хуткаплыннай пішуцца вадзе.

*1993*

* * *

Не названых
нас няма.
Колькі слоў-званоў ні гушкай —
Не здабыўшыя імя
Абыходзяцца мянушкай.

Рот кармілі — род звялі.
Значавалі лёс пад плотам.
Не здабыўшыя зямлі
Абыходзяцца балотам.

Не названых
нас няма.
Над Радзімай мы, як вырай.
А на ўсход і захад выбар —
Толькі воля ці турма.

Толькі цьмяны бунт крыві
У скроні кінецца раптоўна:
Назавіся. Назаві.
Безназоўным. Безназоўна.

*1993*

* * *

Не з тымі пайшоў і дарогай не той.
Дарэмна дарога прасіла:
«Чакай.
Азірніся.
Падумай.
Пастой».
Вяла невядомая сіла.

Дарозе казаў: «Ты не тая. Маўчы».
Ні д’яблу не верыў, ні Богу —
І крочыў, і крочыў
удзень і ўначы,
Пакуль не адолеў дарогу.

І рушыў далей — на цалік, і сляды
Пакінуў, што сцежкаю сталі.
А тыя, што з ім не пайшлі,
хто куды
Пазбочвалі і заблукалі.

Глядзелі яны — хто з дупла, хто з нары,
Абраслыя мохам з карою —
Як ён пад гарою,
як ён на гары,
як знік
і прапаў за гарою.

*1993*

* * *

У нашых снах было каму прысніцца.
Перад тваім партрэтам на стале
Дыміцца цыгарэта ў папяльніцы
І кава ў філіжанцы астые.

Сто сноў яшчэ да несаснёнай страты,
А ўжо ў адхіст, як травы ад касы,
Зламаны жэст, якім бакал падняты,
І рух, што папраўляе валасы.

Нібы па ветры мроіва сняжынак —
Усё ў адхіст!..
Нічога не ўтрымаць.

Застацца жыць. Глядзець на фотаздымак.
Паліць цыгарку. Каву дапіваць.

*1993*

* * *

Выйшаў летам.
Вярнуўся зімой.
«Дзе ты быў?»
Ён маўчаў, як з партрэта.
«Дзе ты быў?»
Раптам ён:
— Божа мой,
Не давайце мне плакаць пра гэта!

Павялі на магілы: «Тут брат.
Тут сястра. Ці за гэта не плацяць?
Дзе ты быў?!»
А ён зноў, як вар'ят:
— Не давайце пра гэта мне плакаць!

«Хоць падробныя слёзы сатры,
Хоць адну
па сястры ці па браце,
А пасля хоць жыві, хоць памры,
Дзе ты быў?!»
А ён зноў:
— Не давайце…

Адракліся яго. Ён прадаў,
Што было на падворку і ў хаце,
І прапіў, і пайшоў, і прапаў,
І ніхто не жалобіўся ў страце.

Летам плакаў туман па сястры,
А зімою завея па браце,

Захлыналіся плачам вятры:
«Не дава… не дава… не давайце».

*1994*

* * *

Точыць стачонае моль —
Хопіць трухі на запас.
Ператрываць — гэты боль.
Перамаўчаць — гэты час.

Вырваўшы пальцы з вузлоў,
Локці не даць бы звязаць.
Некалі ж выпадзе зноў
Голасу голасам стаць.

Ну, а не выпадзе — што ж:
Зменаю знакаў і вех
Хай сабе цупае дождж,
Хай сабе шорхае снег.

*1994*

* * *

Хто па чым маркоціцца ў журбе,
Да жніва дапесціўшы сяўбу.
Я сумую па самім сабе,
Па сваім жыцці спялю журбу.

І па ўсім, чым я не даражыў,
Што касіў, як ля дарог траву,
Я смуткую так, нібы не жыў,
Толькі бачыў сон, нібы жыву.

Гэты сон мне нанава не сніць.
Незабудкай ён засне са мной.
Я спакойны ўжо, калі шуміць
Несаснёны вецер за спіной.

Мне журбу дакошваць і сушыць,
Мне маркоту спелую збіраць.
Божа мой, якая стома — жыць
І да самай смерці паміраць.

*1994*

## «ЗІМОВЫЯ МРОІ»
*Надпіс на карціне А. Марачкіна*

Гэта жыццё — быццам жыць я не ўмею:
Злое, крывое.
Разбагацею — куплю ў Аляксея
Зімовыя мроі.
Іх пасялю я не ў хату, не ў клець —
У прасторную пушчу,
Каб неспатольна і вольна глядзець
На саснёную птушку…

…Перад вачыма — хоць акасей! —
Крамы, праграмы.

Жах, як крычыць твая птушка, Ляксей!
Б'ецца аб рамы.

*1994*

* * *

Што затужылі,
воі, мужчыны?
Волі ўдыхнулі — і дух заняло?
Як там і што там ні стане з Айчынай —
Горай не будзе, бо лепш не было.

Шлях свой зблукала Айчына ў трох соснах,
Збегала шлях чаўнаком, нібы ў кроснах,
Кідаючы невідушчы народ
З пасткі на захадзе ў пастку на ўсход.

Можа, відушчымі стануць нашчадкі?
Шляху няма. Ні канца, ні пачатку.

Прывідам — у пустату з пустаты —
Рвецца Пагоня з дзяржаўнай пячаткі,
Непадкаваныя б'е капыты.

*1995*

* * *

У Баранавічах снег.
Праз дарогу — змеі:
Нізкі, роўны, доўгі бег
Белае завеі.

Анікога тут няма
З тых, хто быў бы любы.
Ды забытае імя
Вышапталі губы.

І забыты твар узнік
Прывідна — да рання
У акно глядзеў двайнік
Юнага кахання.

Там яно — на тым баку
Змушанай разлукі
На расстайным скразняку
Прасцірала рукі.

Там пытала — з нематы,
З даўніны, з нябыту:
«Да каго вярнуўся ты,
Калі ўсё забыта?».

«Да цябе», — азваўся я
Так, каб не пачула
Не чужая, не свая,
Што са мной заснула.

*1995*

* * *

Вечар у ветраным Віцебску —
Ды не падмануць цябе
Слёзы, што вецер мне выціснуў
У развітальнай журбе.

Я з тваіх рук вырываюся,
Як крыгалом па Дзвіне!
Роспач, якой захлынаюся,
Ды не падмане мяне.

Хай мы ўдваіх не падманемся
Мройным імгненнем адным,
Ценем, з якім абдымаемся
І застаёмся ў якім.

Мы застаёмся ў ім, скрушныя,
З тым, што прыснілася нам,
З горадам, з храмам парушаным,
З небам, што ўпала на храм.

Божа! Малюся ды каюся:
Перад Тваім алтаром
З рук Тваіх я вырываюся,
Як па Дзвіне крыгалом!

З ёй застаюся, знікаючы
Зманлівым ценем начным,
Роспачных слёз не хаваючы,
Слёз невядома па чым.

*1995*

## СТАЎ

Басаfurnace пройду па пожні
Да мяжы, дзе цёмны стаў…
Так настане дзень апошні,
Як і кожны наставаў.

І ў замежнай той старонцы,
Дзе я страчу ўсё і ўсіх,

Не заплачу я па жонцы,
Па каханках па сваіх.

А па кім жа я заплачу
На мяжы, дзе цёмны стаў?
А па Той, якой не бачыў,
Той, што ў свеце не застаў.

Па адной,
                нецалаванай,
Той, якой не цалаваць,
Па адзінай,
                неспатканай,
Той, што Бог не даў спаткаць.

*1995*

## НАД ВАДОЙ

*Ігару Шклярэўскаму*

Святая, запаветная,
Уся ў сабе сама,
Вада
        такая светлая,
Нібы яе няма.

І да святла празрыстая,
Уся сама ў сабе,
Душа
        такая чыстая,
Нібы няма яе.

*1996*

* * *

Пацалавала ў чало
І засмяялася…
Гэта амаль што было
Тым, чым здавалася.

Што, як са срэбрам эмаль,
Музыка з голасам,
З лёсам зраслося амаль —
І раскалолася.

Што заблукала, як боль,
Сэрца паблізу,
Не паўтарыўшыся больш
Нават прыблізна.

*1996*

* * *

Усё, што ўбірае пагляд,
Напрамку не мае:
Сад-Верасень… Дым-Лістапад…
І дым застаецца, і сад —
Пагляд прападае.

Знікае.
Душу ледзяніць
Над дымам, над садам…
І вецер сустрэчна глядзіць
Тым самым паглядам.

*1996*

КРЫВІНКА

Журбую — помнішся ў журбе.
Святкую — у святочнай скрусе.
О, Украіна! Я табе
І за гарою пакланюся.

Наканавана помніць двум,
Што па нялюбых не сумуюць,
Што зберагае толькі сум
Не памяць рэчы — рэч самую.

І калі б’юць наводмаш страты —
Каб нешта зберагчы,

Цябе
Прыкусваю, саланаватую,
Нібы крывінку на губе.

*1996*

## П’ЯНКА

У пакоі, замглёным ад дыму,
Непрытомным амаль ад віна,
Трое
        поўныя шклянкі падымуць
І налітае вып’юць да дна.

Утаропяцца ў сцены. Запаляць.
Вочы ў вочы няўтульна зірнуць.
Ні за што не зачэпіцца памяць —
І яны наліваюць і п’юць.

Трое — з Менску, з Бярэсцця, з Гародні —
Ледзьве знаюць адзін аднаго,
Дык з чаго яны п’юць так гаротна?
Проста так.
                Проста п’юць.
                                Ні з чаго.

Бо пакуль на абшарах Айчыны,
Што ўсё толькі збіраецца быць,
Аніводнай не знойдзеш прычыны,
Каб не піць.

*1996*

* * *

Нервова накіну кашнэ
(Французскае нешта).
— Ты прыйдзеш яшчэ да мяне?
— Канешне.

Глядзіць, як русалка ў ваду.
— Сагрэць яшчэ чаю?

Я ведаю, што не прыйду.
Яна адчувае.

Паводле законаў гульні,
Абняўшы за плечы,
Пакорліва кажа: «Звані.
Пакуль. Да сустрэчы».

З двара азірнуся ў акно —
Рукой памахае…
За ёй тэлевізар міргае.
Французскае сёння кіно.

*1997*

* * *

Чакаць
гэтых дзесяць хвілін
Няведама колькі! З нізін
Падняцца паспеюць туманы
На вішні, на бэз, на язмін —
Насыпала іх, нечаканых,
Запозненых дзесяць хвілін!..

Ды во ты мільгнула ў вагоне,
І во мы бяжым па пероне,
Мілуемся, — дзесяць хвілін
Наперадзе!..
Ззаду ўсё тоне:
і вішні…
і бэз…
і язмін…

*1997*

* * *

Вазьму ў далонь лязо калянае
І кроплю выцісну з ляза…
Агню — агнём наканаванае,
Вадзе — сляза.

У цемру болем перакулены,
Па-азіяцку торгну скуламі,
Зглыну слязу…
А па лязе
З вады ў агонь
Змяя паўзе.

*1997*

## ЗМЯІНЫ БОГ

Усё, што ёсць — ёсць назва. Ёсць палова
Таго, што ёсць…
У цэлае не сшыць
Змяю — і рух — і рукі змеялова —
І шып, які шыпіць…

*1997*

## УЦЁКІ

Я ўцёк з Радзімы…

*Адам Міцкевіч*

Прасцяг нябёс зацьмілі крумкачы,
І страшна стала — хоць ты ў ноч крычы,
І ён з Літвы надумаўся ўцячы,
І выбіраў краіну межавую,
А ўцёк ён — мову выбраўшы чужую.

За выбарам адным паўстаў другі:
Жытло чужое, не свае даўгі,
І ўрэшце — на чужой зямлі магіла…
Хіба яго Радзіма не любіла,
Ён быў не крэўны ёй, не дарагі?..

Дык за свае ці продкавы грахі,
Альбо па нечай патаемнай змове
З Радзімай развялі яго шляхі
У неадольным — у радзінным слове?

І да якой мужыцкае страхі
Яму вяртацца на памежнай мове
З малітваю: *«Літво! Ойчызно моя...»*

*1998*

* * *

Быў я — як і ўсе былі.
Жыў — за што плачу.
Гнеў нябёс і спеў зямлі
Зведаў. Бачыў. Чуў.

І нібыта меў свой лёс —
І не меў яго...
Спеў зямлі і гнеў нябёс
Быў ні для чаго.

*1998*

## ЭМІГРАНТЫ

Ні тэарэм. Ні аксіём.
Спажыўнае ў цане.
Што Бог пашле — ядзім і п'ём,
А не пашле — дык не.

Учора — склеп, сягоння — дах,
А заўтра
без жытла,
І ўсюды горка-кіслы пах
Прыгарку, пылу, тла.

Ні аксіём. Ні тэарэм.
Цыбуля. Хлеб. Алей.

Як добра ўсё ж, што мы памрэм
Прад тым, як жыць далей.

*1999*

## ВЕРАБЕЙКА

На рабіне золак стыне.
«Верабейка, як жывеш?
Што ты робіш на рабіне,
Як рабіны не дзяўбеш?»

Верабейку на мякіне,
Чык-чырык, не правядзеш:
«Што ты робіш на чужыне,
Як жывеш і сэрца рвеш?

Як няма на ёй нічога,
Да чаго душой прывык?..»

Верабейка,
птушка Бога,
скок ды скок,
чырык-чырык.

*1999*

* * *

Зламаўся лёс… Ну, што ж, не ў першы раз,
Жыццё не да капейчыны прайграна,
І кажа пакаёўка: «Проша пана,
Я сёння зноў малілася за вас…»

Яна таропка накрывае стол,
Бялее тварам, быццам на марозе…
— Малілася? Чаму?
— А тут касцёл
Ад нас да вас якраз напаўдарозе.

*1999*

## ВУЛІЦА ВАРШАЎСКАЙ БІТВЫ

*«Зялёная вода,*
*Вада зеляная»,* —
Спявае ў застоллі сябрына хмяльная,
Што мае прыгоду,
бо мае нагоду:
Сягоння дзень бітвы дваццатага года.

Варшаўская бітва дваццатага года!
Скрываўлены шаблі за шчасце народа!
Пасеклі налева!
Пасеклі направа!
Чарга за табою, паненка Варшава!

Жалезнай рукою —
да шчасця тутэйшых!
Танцуе на белым кані Тухачэўскі!
Чатыры ў адзін у яго перавага,
Не лічачы сілы чырвонага сцяга!

А сцяг бел-чырвоны
нічый і ніякі.
Якая там Польшча! Якія палякі!?
А тыя, якія насмерць тут паўсталі,
Чаго не даруе «пілсудчыкам»
Сталін.

Не, кроў гэтай бітвы не хутка астыне:
Напоўніцца роў да краёў у Катыні,
Прадасць яшчэ Сталін варшаўскіх паўстанцаў, —
Прыпомняцца ўсім Тухачэўскага танцы.

І сам камандарм, што не знае пра гэта,
Які зваяваць яшчэ марыць паўсвету,
Чырвонаму сцягу аддаўшы ўсе сілы,
Ужо недалёка ад краю магілы…

О, колькі пабітых!
Агнём і віхурай
Касіла іх рэвалюцыйная бздура!..
Жылі б — дык спявалі б:
«Зялёная вода…» —
На вуліцы Бітвы дваццатага года,

Дзе іх памінае ў застоллі,
Спявае
Сябрына хмяльная, уся маладая,
Якая не знае, што свет залівае
Раз-пораз то кроў, то вада зеляная.

*1999*

## ВУЛІЦА 3 МАЯ

Генерал Ярузельскі
аспрэчвае права свабоды
бунтаваць сярод тых,
хто яе не прымае.

Мы ідзём пад дажджом
праз Варшаву
па вуліцы 3 Мая.

Генерал Ярузельскі
падобны на гальштук, што з моды
хоць і выйшаў, а вузел трымае.

*1999*

## СКАРЫШЭЎСКІ ПАРК

На Скарышэўскі парк за лета ўсё не ўпала
Ні кропелькі дажджу, а ўсё адно раса
На скурчаным лісці крыштальна высыпала,
І ззяла ў Боскі свет адчайная краса.

Ты ў Скарышэўскі парк ні разу не ступала
Ні летам, ні зімой, а ўсё адно відно,
Як дрогкую расу, блукаючы, збівала
З вясельных нашых руж, што высахлі даўно.

Каханая, даруй!.. Але не ўсё прапала,
Калі я помню ўсё… Калі я плачу так…
Ах, як яно было! Ах, як яго не стала!..
Прабегла па расе праз Скарышэўскі парк.

*1999*

## ЛАЗЕНКІ

Тое ўсё, што назвалася Зося
І паклалася ў лёсе, як знак,
Я не ведаю, як пачалося,
І не думаю, скончыцца як.

Проста гэтак яно выпадае,
Праступае кляймом на ілбе…
Прастытутка мая маладая,
Дай за ўсіх пашкадую цябе!

Адкіпела і збегла, як пена,
Адбыло, што было… Перадых.
…Слаўна слухаць, як граюць Шапэна
А дванаццатай па выхадных.

Слаўна з Зосяй бадзяцца ў Лазенках,
Забываючы, хто ты такі…
На яе сінякі на каленках,
Як на кветкі, ляцяць матылькі.

*1999*

* * *

Устаць. Прыбрацца. Выпіць каву.
Пісаць і кінуць. Праз Варшаву
Ісці, не знаючы куды.

Купіць цыгаркі, піва. Злоты
Падаць жабрачцы. З павароту
Вярнуцца на свае сляды.

Так пражываеш адзіноту.

*1999*

## САМАЛЁТ

Першы раз за ўсё жыццё
Новы год
у адзіноце —
І такое пачуццё,
Як адзін
у самалёце.

Што ж, і так яно бывае…
І нябёсаў пасярод
З пляшкі корак выбіваю:
— З Новым годам,
самалёт!

*1999*

* * *

Перайначыць, парваць, папаліць —
Божа мой, колькі попелу ў лёсе!
І нічога ўжо не засталося,
І няма —
а баліць.

Дык няхай бы застаўся, не тух
Сам агонь, што мы ў ночы расклалі,
Сон пра той, што над рэчкаю, луг,
Сон пра тыя — за рэчкаю — далі…

Сон пра сны… Пра той бераг лясны,
Дзе нічога майго не ўцалела,
Дзе ў мяне і былі толькі сны…

Што ж тады
там згарэла?

*2000*

* * *

Да Бога дрогкая дарога…
Здарожаны,
                    сабой самім
Зняможаны,
                    шукаў я Бога
Ва ўсім, бо Ён і быў ва ўсім.

Яго ў спакусах прагла цела,
І дух быў з целам заадно…

А неба ямінай цямнела —
І праступала ў небе дно.

Над ямай неба стаўшы з краю
І ўбачыўшы сябе на дне,
Спытаўся я:
«Каго шукаю?..»
І выдыхнула дно:
— Мяне.

*2000*

## АНЁЛЫ

Як час настаў —
                    і рушыў я да Бога,
Анёлы — тры — мне перайшлі дарогу.

Адзін спытаўся: «Ты куды ідзеш?..»
Другі спытаўся: «Што з сабой нясеш?..»

А трэці не спытаўся анічога.
Ці быў нямы —
                    ці знаў, што я да Бога.

*2000*

## АПОСТАЛ

Ступіў апостал з неба на зямлю
І першае, што ёй сказаў: «Люблю».

Другое, што сказаў апостал ёй:
«Усё тут стане некалі зямлёй».

А трэцяе, што ён сказаць бы мог,
Ён не сказаў, бо тое скажа Бог.

*2000*

## ЛАСТАЎКА

1

Айчына. А чаму?..
Глядзіш услед пытанню —
Як ластаўчынаму
Палёту, шчабятанню…

2

Дарагое і ёсць дарагое.
Ува мне —
                    там, дзе сэрца тугое
Ад скразной, невыноснай тугі —
Б’ецца
          ластаўкай берагавою
Беларусь
               аб свае берагі.

*2000*

* * *

Вечаровыя цені плывуць ад акна,
Пагаворым пад вечар
Не аб вечным, аб нечым,
Хоць пра тое, што хутка вясна.

Як даўно я табе не казаў пра вясну!
Прабачаюся, чуеш:
Ты са мной вясною начуеш,
Не баішся, што я не засну.

Усміхаешся ў сне, як глядзішся ў ваду,
Не баішся, што ў ноч нечакана сыду, —
І не страшна да рання
І чакаць, і баяцца вяртання…

*2000*

## ДАЎГІ

Жыццю, што займета ў пазыку,
Нібыта сплаціў я даўгі,
І рэчкай з паводкі вялікай
Шукаю свае берагі.

Даволі.
У роднай краіне,
Калі я камусьці і вінны,
Дык тым, хто ўскапае і скіне
Зямлю
          на маю дамавіну.

*2001*

* * *

У сваім народзе
ты жывеш,
У чужым народзе
пражываеш,
Як ідзеш сабе самому ўсцеж
І хады сваёй не адчуваеш…

*2001*

## ДЗЕВЯТЫ ПЛАЧ

*Васілю Быкаву*

Калі з вайны вярнуліся салдаты:
«Дайшлі, — сказаў ім маршал. — Дажылі.
Па восьмым плачы будзе плач дзевяты.
Яшчэ вам доўга плакаць на зямлі.

Віна вайны і жах яе, і страты
На мне адным, бо вы за мной ішлі.
Па восьмым плачы будзе плач дзевяты.
Яшчэ вам доўга плакаць на зямлі.

Кідайце зброю і стаўляйце хаты,
Бярыце баб, каб роду не звялі.
Па восьмым плачы будзе плач дзевяты.
Яшчэ вам доўга плакаць на зямлі».

«Пра што ён кажа? — думалі салдаты. —
Пра што ён плача?!. Мы перамаглі!..»

Па восьмым плачы будзе плач дзевяты.
Яшчэ нам доўга плакаць на зямлі.

*2001*

* * *

Яшчэ нічога не было,
І ўсё ўжо сталася —
Дрыготка,
Як па вадзе азяблай лодка,
Завеслававала, паплыло…

Такое ў лодцы той са мной,
Што невыносна, немагчыма!..
Адна Айчына за плячыма —
І анікога за спіной.

*2001*

* * *

Ноч — і д’ябал грае на трубе,
Пацяшае ведзьмаў-бессаромніц…

Анікому — і найперш табе
Я ўжо не расказваю бяссонніц.

Не маню, што на тваім плячы
Сніў-лічыў радзімкі залатыя…

Ах, як граюць!.. Скачуць уначы!..
Д’ябал гэты… Ведзьмы маладыя…

*2001*

## ВОЛЯ

*Зянону Пазьняку*

Рака крыві за волю — праз вякі…
Калі і хто той волі меў даволі?
Зацятыя рабы зацятай волі
Не лепей, чым яе рабаўнікі.

Ніхто не змог, як воля, вольным стаць…
Хоць абдымайся з воляю аберуч —

Паэту вольнай птушкай не спяваць,
Не паляваць тырану вольным зверам.

А вольны, можа, толькі плач сірочы,
Няўцямны крык у прадсмяротны час, —
І кожны з нас здабудзе волю двойчы,
І двойчы згубіць волю кожны з нас.

Усім на волю Бог дае іспыт —
І не займець збавення ад іспыту:
Адзін раз воля — калі ты з нябыту,
Другі раз воля — калі ты ў нябыт.

***2002***

## УСПАМІН ПРА БЕЛАРУСЬ НАД МАГІЛАЙ МАНЕРГЕЙМА

Геній Купалы і Коласа геній
Дзякуй, што даў нам… Але заклінаю:
Госпадзі! Сіла твая незямная!
Дай ты нам хоць аднаго Манергейма!..
Хай у чатыры бакі пастраляе.

***2002***

* * *

Знаю: любая дарога вядзе ў бездарожжа,
Ды прамінаю агні і паўстанкаў, і станцый…

Толькі таму, хто нідзе заставацца не можа,
Лёс дазваляе
адноўчы
дзе-небудзь
застацца.

***2002***

* * *

Голкай зноўку сэрца мецяць!
— Хто забойца?.. Дзе жыве?.

Анікога…
Востры месяц
Шые воблакі,
Плыве.

— Дзе забойца?.. Што за ліха!..

Ні гу-гу. Маўчаць усе…
Вар'яцею ціха-ціха.
Так, як трэба. Пакрысе.

*2002*

* * *

На ўскрайку самым, на краёчку
Таго ўсяго, чым даражу,
Я даначую гэту ночку,
Тваю падушку даляжу.

Мы родныя крывёй і духам,
Мы — духу і крыві зліццё…

А страсць падушку рве з-пад вуха,
Пераварочвае жыццё.

*2002*

## ЛАНЦУГ

З пустот і разрываў нябесны каваль
Ланцуг адкаваў і наважыў мой лёс…
І ўсё ж
        між пустотаў з разрывамі
                                        сталь —
І па ланцугу прабягае мароз…

*2003*

## З ДРАНЬКО-МАЙСЮКА

Там, дзе ўжо ноч, там спяць, альбо крадуцца
Да куртызанак, што таксама спяць,
Укрытыя пялёсткамі настурцый, —
І матылькі ў альковы іх ляцяць,
Каб кветкі пацалункаў рассыпаць
На губы палюбоўнікаў, на вочы,
На грудзі — што, як свечкі дзве, гараць
І паляць крыльцы матыльковай ночы…

Пад страсны шэпт спалёных бліскавіц
Сусвет начны ў любоўным ложку тоне…
Так у часы і свечак, і газніц
Было — і засталося пры неоне,
І будзе, я не ведаю, пры чым? —
Таксама, як не ведаю прычын,
Каб не аддаць — хай з кім заўгодна ў змове! —
Усё, што ёсць, — за ноч адну ў алькове…

*2003*

## КОШКА

*Людміле*

Не пачую водгуку ў мальбе,
Пракрычу ў прасцяг глухі: «Ісусе!..»

Божа мой, я плачу без цябе,
Божа мой, я без цябе смяюся.

З чым я рушыў з лёсу ў лёс наўпрост?
Для чаго? Каб у чужым заглушку
Скруха кошкай выгінала хвост,
Кіпцюрамі драпала падушку?

Каб у бок, дзе ты, напружваць зрок
Так, што ў вокнах выгінае шыбы?..

Вораг не прыдумаў бы знарок
Кары той, што сам сабе я выбраў.

Любая!..
Але паклаўся шлях
Незваротны прад любой мальбою…

Кошка ліжа кроў на кіпцюрах.
Шчэрыць іклы. Дыбіць хвост трубою.

*2003*

## ЧАЙКА

*Вользе*

На Фінскім заліве адтайвае лёд.
Ускрыкваюць чайкі над Фінскім залівам.
На міг мне здалося шчаслівых сярод,
Што я паміж імі таксама шчаслівы.

Ды вецер, як чайку, ускрыліў тугу
З паводкавай Віслы, з дрыготкай Варшавы,
Дзе я ўсё — па лёдзе — на бераг бягу,
Налева — на левы, направа — на правы.

Плыве пад нагамі і трушчыцца лёд —
Плыву — і бягу — дзень за днём, год за годам —
І дыбіцца лёс, як сцяной — крыгаход,
Упёршыся ў мост — і ламаецца лёдам!

Як страшна ён падае ў цемень вады!..
Як дна там няма!..
Як паводка не пройдзе!..
І я ўжо — не знаю, па што і куды? —
Па лёдзе — па лёдзе — па лёдзе — па лёдзе…

Направа, налева — адна старана —
Налева! — направа! — па крыгах! — адчайна!..
А ледзь прыпынюся — палонка без дна,
А ледзь азірнуся — ускрыквае чайка.

*2003*

## ДОЛЯ

*Наталлі*

Вецер коціцца па полі —
У зямлі шукае долі.
Доля рвецца з цёмных нетраў
І сябе шукае ў ветры.

Вецер. Поле. Доля. Дым —
Скрозь пустое
у пустым.

Мы ў жыцці сваім зямным
Возьмем толькі ў дыме дым.
Тое возьмем мы ў агні,
Што сякера ў камяні.

*2003*

## МАГЧЫМА

Маім было, а не чужым
Усё ў жыцці маім.
А што было? А як? А з кім?..
Адзін туман і дым.

Магчыма, у канцы жыцця
Пракруціцца, бы ў сне,
Усё пра ўсё наноў, — хаця
Магчыма, што і не.

*2004*

* * *

Ці ў сне, ці ў небе — там,
Дзе быць мяне не можа,
Ёсць мой высозны храм
І мой у храме Божа.

А тут, дзе я, дзе шлях,
Дзе камяні ды сосны, —
Мой снег, мой дождж, мой жах,
Мой сон пра храм высозны.

*2005*

## КАЛІ ПІСАЦЬ

*Ларысе Геніюш*

На вуліцы Царкоўнай пасяліцца
Напроць царквы, каб блізка — памаліцца,
Хоць Бог паўсюль… А дзе яго няма —
Царква не дапаможа. Там турма.

Там — чорная на белым — Варкута,
Кругоў ГУЛАГу драцяная повязь,
Снягоў вечнанямая мерзлата,
Цвіком на ёй надрапаная Споведзь.

Там — над зямным — нябесны храм паўстаў
Гатычным, кіпарысавым абрысам,
І ў ім не служка Божы спавядаў,
А сам Гасподзь
Пакутніцу Ларысу.

«Ты даў мне, Божа, волю і турму,
Я прыняла… і ўсё прыму, што будзе», —
Яна казала аднаму Яму,
Каб праз Яго хоць нешта ўчулі людзі.

Хай свет людскі сам ад сябе аглух,
Няхай ніхто нікога ўжо не чуе, —
А Бог пачуў…
                    І пасцяліў ёй пух
На тых аблоках, дзе яна начуе.

Хай спіць, хай спіць… — і сніць сябе царквой,
І Зэльваю, што патанае ў бэзе,
І — чорнаю на белым — Варкутой
З чырвонымі пісьмёнамі на снезе.

Хай спіць, хай спіць… Як немагчыма жыць,
Яна жыла — і Бог па ёй заплакаў…
На тых нябёсах, дзе яна ляжыць,
Крыж, воблакі чапляючы, надрапаў:

«Калі пісаць, дык толькі так пісаць,
Як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай,
Як з вены ў вену кроў пераліваць…
Пісаць, як спавядацца і маліцца».

*6.08.2005, Зэльва*

* * *

Ува ўсім, што ёсць, было і будзе —
Ані ў чым цябе магло не быць.
Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:
У неверагодным цудзе
Жыць.

*2006*

## ШТО?

*Генадзю Бураўкіну*

Забярэзіла ад Варкуты
І на поўдзень далей… Гук пусты,
Гук паветраны ў небе хіснуўся,
Рэха хрумснула:
«Ты не вярнуўся».

З небыцця не бывае
назад.
Заімглёны ў акне далягляд,
Замутнёная поўніцца шклянка,
Зап’янелая паліць каханка.

Выпадковае ўсё выпадкова:
І каханка, і шклянка…
Ні слова

Ні пра лёс, ні пра жарсць, ні пра смерць
Не магу зразумець.

Адзінотны над тундраю птах…
Што вядзе мяне? Выбраны шлях,
Ці сцяжына вядзе
бакавая?
Ці пра тое, чаго не бывае,
Сны ў начных цягніках?..

*28.08.2006*

* * *

Азірацца на дыму клубы,
На царкву, над якой галубы
Дзіры ў небе працёрлі, —
І вяртацца ў былое, нібы
Набівацца ў сяброўства да мёртвых.

*2007*

* * *

Вяртацца на Радзіму — ды куды?!.
Нікуды ўжо. Палёту дзве гадзіны.
Агні па нізе. Вёскі, гарады —
Як тут, як там… Нідзе няма Радзімы.

*2007*

* * *

Спявае маці — я не чую слоў…
Вятрыскамі да нашых вокнаў зноў
Прыбіла ліст кляновы — пра любоў,
Прыбіла ліст дубовы — пра журбу,
Рабіны ліст прыбіла — пра вайну.

*2007*

* * *

На змярканні, на змярканні
Заставальнік заставальны,
На світанні, на світанні
Развітальнік развітальны,
З ямы ў яму, з вежы ў вежу
Перабежчык перабежны,
Перабегам прыналежу,
Сам сабе не прыналежны…

*2007*

* * *

Ані царквы ў крыжох,
Ані хаціны боскай…
Так і жывуць удвох:
Богам забытая вёска,
Вёскай забыты Бог.

*2007*

## ЧАРВЯК

Рассечаны чарвяк
Змагаецца з зямлёю,
Як не адзін, а двое…

Усё маё ніяк
Не звязана са мною.

*2007*

## МУРАШ

Задраўшы галаву,
Падскочыш: «Я жыву!..»

Нахілішся — і бачыш,
На кім жывеш і скачаш.

*2007*

* * *

Такі празрысты, ціхі вечар
З аблокаў сплыў на сенажаць,
Што ў небе велічным чуваць,
Як мерна рухаецца Вечнасць…

Куды той Вечнасці спяшаць?

*2007*

* * *

Люляюцца вербы на ветры,
Ці вецер люляецца ў вербах —
Паводле закону зямнога,
Не можа адно без аднога.

Чаму ж я цябе не люляю
І лёс мой з тваім не спрадаю
На бліскаўках дзён-верацён?..

Парушыўся, мусіць, закон.

*2007*

## БРНО

На Мінарыцкай вуліцы, што ў Брно,
Не быў даўно. А можа, і ніколі
Не быў я там, куды па ўласнай волі
Не рушыў бы. У Брно канцэрн Рэно
Гандлюе, як і скрозь. З Катрын з канцэрна
Хадзіў я ў замак Шпілберк на канцэрты
Мараўскай музыкі. Але аднойчы плаўна
Мы абышлі касцёл Пятра і Паўла
І развіталіся. Ну вось і ўсё, відаць,
Што ў Брно было, калі паўспамінаць.

*27.07.2007*

* * *

Я не знаю, хто яна такая,
Тая, што на ранку прылятае
На ружовым воблаку, пяе…
«З галасамі
лярвы ўсе твае!» —
Уздыхае жонка,
і ўстае,
і фіранкай неба прыкрывае…

*13.10.2007*

## ПАКАЦІГАРОШАК

З Гарошкава я і Пакацігарошак.

*З паштоўкі А. Сыса з Гарошкава*

«Як ты там, мой найгаротны,
Найхарошы мой,
На баку на адваротным
Ад Гарошкава?
Дзе ты там? І робіш што там?
Да каго запрошаны?..»

«Мы з басотай тут пад плотам
З Пакацігарошакам.
У мяне маліны кош,
Я малінай снедаю.
Ты мне даў быў медны грош —
Як аддаць, не ведаю».

«Так і ходзіш голы, босы,
З медным грошыкам?..»
«Што ж рабіць яшчэ ў нябёсах
Над Гарошкавам?»

«Дык ці ў небе, ці пад плотам
Ты туляешся?»
«Даў мядзяк мне, а не злоты,
Шчэ й пытаешся».

«Ты гібееш у галечы?
Пуста ў кошыку?..»
«Я ў галечы быў на печы
У Гарошкаве.
А сярод басотных душ
У раскошы я.
Нават маю капялюш,
Ветрам ношаны».

«Ты лятаеш там, як дух?
Ці ляжыш, як скошаны?..»

«Капялюш у нас на двух
З Пакацігарошакам».

*26.10.2007*

## ЗАПАВЕТ

Па-над Юравай гарой,
Па-над Магеравым полем,
Па-над крэўнай стараной
З неба мой развейце попел.

Па-над Крэвам, дзе святыя
Для мяне пагоркі ўсе…

Ціха лягу я на тыя,
Куды вецер занясе.

*16.11.2007, Крэва*

* * *

Усё адно: смяротны ты
Ці неўміручы —
Ты зорны вецер пустаты,
Ты дым лятучы.

Сабе самому ўслед — адзін —
Зірнеш са спіны,
І ветрам з дымам — успамін
Пра ўсе ўспаміны.

На гэтым свеце і на тым,
На ўсякім свеце,
Усё, што ёсць, — лятучы дым
Ды вечны вецер.

*2007*

## СНЫ НА ГОТЛАНДЗЕ

*Рыгору Барадуліну*

На Готландзе ў лялечным Вісбу,
Дзе крокусы ў красавіку,
Я быццам бы нанава высніў
Усё, што прысніў на вяку.

Ахутваўся Готланд туманам,
Гукаліся здані ў мурах…
І ўсё мне здалося падманам
Ва ўсіх, пераснёных мной, снах.

Апроч скразняку, што ўсе ночы
Хістаў на газніцы агонь…
Апроч матылька, што аднойчы
Маломў мне сеў на далонь.

*17.03.2008, Готланд*

## ЕВАНГЕЛЛЕ

Ірдзее дзень над Юр’евай гарой,
Вясновыя над ёй плывуць аблокі…
Анёл з нябёс злятае сінявокі
На яблыню, што набірае сокі
У жылкі, што пульсуюць пад карой.

Мне мроіцца, як моліцца, вітае
Анёла дзед і запрашае ў дом.
Гайдае ў доме свечку скразняком,
Евангелле ляжыць пад абразом
Разгорнутае — і псалом чытае
У вечнай кнізе пчолка залатая.

*6.03.2009*

## ЛЁН

*Анатолю Сысу*

Дом мой дом на чатыры акны
Лён мой лён на чатыры вятры
Рваў я рваў лён з чатырох старон
Выбіраў лёс з чатырох акон

Лён мой лён вырваны вырваны
Лёс мой лёс выбраны выбраны
Праў я лён з нітамі зрэбнымі
Браў я лёс біты цярэблены

Я аддам лён мой вятрам вятрам
А сябрам лёс мой аддам аддам
Нешта ў ім я не дарабіў
Калі рваў біў ды церабіў

На сяброў я не пажалюся
У вятроў толькі спытаюся
Што ж я што ж не дарабіў забыў
Ды каго ж не далюбіў згубіў

*31.03.2009*

## АПОШНІ ПАЭТ

Ён
нарадзіўся
на белы свет
Пад канец стагоддзя (і тысячагоддзя),
І ягоны хросны выкінуў партбілет
У навакольнае асяроддзе.
На хрэсьбіны пасцялілі
белы абрус,
А пасярэдзіне — чырвоная стужка.
І ён закрычаў: «Жыве Беларусь!» —
Калі маці яго, накарміўшы, загушкала.

Быў ягонай чытанкай Масей Сяднёў
(Плюс эсэмэскі і абрэвіятуры),
І не ў школу пайшоў ён у сем гадоў,
А на свой першы мітынг
супраць дыктатуры.

Ні школа, ні вуліца
яго не разбэсцілі,
Ён у сэрцы спяліў да Зянона павагу,
І ў семнаццаць гадоў
Ён сем сутак адбыў на Акрэсціна,
А ў васемнаццаць
быў выпраўлены
на грант у Прагу.

Не паспеў ён стаць
ні п’янтосам, ні валацугам,
Ні сексотам, як бацька,
ні бамжом, як старэйшы брат,
І калі прагрымеў
ягоны цягнік над Бугам,
Ён нават
не азірнуўся назад.

Яму плакалі ўслед берасцейскія вербы,
Белая вежа
нема
глядзела ўслед,
А ён смяяўся ў будучыню,
дзе ніхто не ведаў,
Што ён апошні
беларускі паэт.

*11.08.2009*

## ЗАЛАТАЯ СЦЕЖКА

І быў той ранні верасень у Берасці,
І мы не знalі, што рабіць з тым вераснем,
Які ўжо ледзьве пераводзіў дух
У кутнім нумарку гатэля «Буг»,
Дзе пахла танным тытунём і кавай,
Дзе пад адным акном: «Я быў тут з Клавай» —
Напісана было… А за другім акном
Быў парк з дэкарацыйным ветраком
Ды гіпсавымі лебедзем і дзевай
Над сцежкаю, засланай туманом,
Якую пазалочаным лісцём
Ужо паціху засыпалі дрэвы,
І ключніца сварылася: «Ну дзе вы
Бадзяецеся?..» — калі мы ўначы
Яе будзілі, каб узяць ключы,
Вярнуўшыся са станцыі, дзе зноў
Не села ты ў цягнік…
Праз сто гадоў
Вярнуўся я ў той верасень, у той

Парк, дзе пусцелі вязы, клёны, вербы,
Дзе азірнуўся я — і не паверыў:
Жыццё прайшло па сцежцы залатой.

*9.09.2009*

## БОСКІ ПАДАРУНАК

За спінай мех,
пад пахаю пакунак —
Прыйшоў Гасподзь, як Дзед Мароз:
«Давай
Чытай свой верш, як хочаш падарунак».
«А што чытаць?..»
«Не ведаю. Чытай,
Што напісаў…»

Дзяцей у Бога многа…
Чаго ж Ён да мяне тады? Чаму?
За што мне гэткі падарунак Бога?..

Я не знайшоў,
што прачытаць
Яму.

*25.12. 2009*

* * *

***Я спытаўся ўчора ў Бога,***
***Ці не сніць мяне Гасподзь?***
***Ды з нябёс — ніхто нічога.***
***Хоць бы слоўца.***
***Знак бы хоць.***
***Сёння ж з раніцы на ўсходзе***
***надпіс***
***з белых***
***бліскавіц:***
***«Ты не снішся мне, Валодзя.***
***Бог не спіць».***

*12.01.2008*

# ПАЭМЫ

## МАЛАНКА

*Аповесць пра каханне*

Прайшла віхура. Грому ляскат
Аціх…
І ў хату ад акна
Ружовы шар з блакітным бляскам
Паплыў…
«Яна!
Няўжо яна?..»

Нібыта сэрца пульсавала
У тым клубку, у шары тым,
Як быццам болем шар сціскала,
Як быццам радасць распірала…

«Няўжо яна?..»

Ён быў пустым,
Той шар,
Клубок той… Ён свяціўся
Наскрозь — і ўсё-ткі ў глыбіні
Спрадвечны змрок у ім клубіўся…

«Я помню ўсё! На ўсё забыўся —
І памяць спалена ў агні.
Маланка!
Асцярожна, людзі!..»

І явай сон той быў ці не —
Яна ўвайшла ў мяне праз грудзі
І разарвалася ўва мне.

…Быў сон, які Маланкай звалі.
Ці гэта яву звалі так?..
Была яна.
Быў Ай-Кайлак,
Дзе несуцешна білі хвалі
У сцены гулкія пячор…
Мы выбралі адну —
Касцёр
Там распалілі, скарб свой склалі —
І жыць там пачалі…
Мы знալі,
Што гэта ўсё — забава, жарт,
Гульня свавольная, блазнота,
Што не ўцячы ад адзіноты —
І не знайсці яе…
На жар
Мы клалі мяса, палівалі
Віном…
Там ліўся вадаспад
З пітвом вясёлым,
                        рос там сад,
Дзе вольныя звяры гулялі,
І птушкі вольныя спявалі,
І віўся дзікі вінаград…
Там шмат гадоў таму назад —
Жыццё назад і смерць назад! —
Адно адное мы кахалі.

Кахалі мы…
                О немач слоў!
О гукі гэтыя пустыя!
Каханне, шчасце, страсць, любоў… —
Навала слоў!
І ўсе — не тыя.
Усе — як сатанінскі грыб,
Што мае толькі назву грыба…
Нямыя мы. Нямей ад рыб.
А можа, мы і праўда рыбы,
Якія мацерцы Вадзе
Сэнс вечнасці ахвяравалі…

Маланка берагам ідзе,
Сляды яе
            цалуюць хвалі,

З плячэй яе,
                з грудзей,
                        з клубоў
Святло — тугое, залатое —
Сцякае…

Шчасце, страсць, любоў! —
Любое слова тут не тое,
Калі за ёй ляцяць стрыжы,
Плывуць, гукаючы, дэльфіны…

— Гамер! Што бачыш ты, скажы?..
«Па беразе ідзе жанчына».

Паэзія! Твой бог — сляпы!
Сляпыя служкі ўсе! Нямыя!..

Стаяць блакітныя слупы
Там, дзе Маланка косы мые.
Яна пакуль на той мяжы,
Дзе ўжо не суша, шчэ не мора…

— Гамер, што бачыш ты, скажы?
«Мяжу! — гукнулася прастора. —
Мяжу, якой не бачыш ты
Між выдыхам і рэхам слова…»

— Гамер!..
Дэльфіны на хвасты
Усталі ў варце ганаровай
Каля яе…
                Нібы ў мальбе,
Прыбой аб скалы б'ецца з гулам…
Што словы тут!.. Яна іх чула!..
«Іх рэха вернецца к табе».

Няхай вяртаецца…
Апроч
Таго, што маю, — мець не трэба:
Пячора.
Мора.
Скалы.
Неба.
З Маланкай — дзень,
                        маланкай — ноч.

…Яна любіла ноч — і ўночы
Любіла плаваць…
З тых часоў
Міраж я бачу:
Цень жаночы
Страсае зоры з валасоў,
І падаюць пад ногі зоры…

А цень — навослеп, па сцяне —
У кропельках абдымкаў мора
Ідзе ў абдымкі да мяне…
О, гэты самы першы дотык!..
Калі не помніш слова «досыць»,
Калі зусім не помніш слоў!..
Маланка! Срэбраная рыба!
Калі любоў — яна любоў!
Пагібель — дык яна пагібель!

…Хто мы такія? Скуль мы?
Дзе
Шукаць разгадку таямніцы?..
Куды нас грозны лёс вядзе?..

Бяжыць Маланка па вадзе —
У нетрах мора
Мрок клубіцца.

Я сплю. Звяры і птушкі спяць.
Дэльфіны спяць…
Без дай прычыны
Бяжыць — праз ноч,
Праз лёс — жанчына,
І зоры з валасоў ляцяць.

— …Чаму цябе завуць Маланкай?
— Чаму Маланкай?.. Я паганка.
— Паганка?
— Так.
— З якой пары?
— А з той, калі адны звяры
Жылі на свеце…
Я тады была маланкаю сапраўднай,
Дачкою Грому і Вады…

Ты мне не верыш? Гэта праўда.
— Я веру: праўда. Гавары.

— Ты ведаеш паганцаў веру?
— Ну так… Перасяленне душ…
— Не толькі гэта… Я з намерам
Размову пачала… Мой муж,
Ну, будучы…
— Магу азвацца…
— Чакай! Са мной павінен ён
У навальніцу абвянчацца…
— Чаму? Нашто?
— Каб зняць праклён.

— З каго?
— З усіх.
Я варажбітка,
Паганка… Сцежкі нас звялі,
Каб мы ўдваіх праклён знялі
З усіх,
            з усіх, хто на зямлі
Жыве і памірае
Брыдка.

— Хто ж іх пракляў?
— Пярун. Мой бацька.
— За што?
— Каб хто з іх ведаць мог!
— Дык Саваоф, біблейскі бог,
Пракляў таксама…
— Гэта цацкі!
Што Саваоф! Дзядок увішны:
Зрабіў — і ўжо пракляў тады…
А тут:
            дзе знакі? дзе сляды?
Няведама адкуль мы выйшлі,
Ідзём няведама куды.
Спакусы грэх — аброк ярэмны.
Не спакушайся да вянца…
А тут: праклятыя — і цемра.
І ні пачатку, ні канца.

— Дзе ж паратунак?..

Білі хвалі
Ў Зямлю —
Галгофу ўсіх галгоф…

— Адам і Ева
*не кахалі…*
Таму пракляў іх Саваоф.
Ты разумееш?.. Грэх — прычына…
І зноў мы
ўсюды і нідзе!..
І зноўку срэбная жанчына
Бяжыць па месячнай вадзе.

… — І ўсё ж:
Было спачатку слова,
Пасля —
святло, вада, зямля…
— І сад пасля,
І ў ім змяя,
Прыдумаў нехта адмыслова
Легенду гэту…
Можа, свет
Ствараў паэт?.. Сляпы паэт.

— Чаму сляпы? Чаму, Маланка?..
— Я так, не слухай…
Я паганка,
Дачка Вады і Перуна,
І я не веру ў казку гэту,
Але — ці богам, ці паэтам —
Нашто ствараліся мана,
нянавісць,
хіжасць,
зайздрасць,
здрада?..
І што нам байкі з райскім садам,
Калі мы цягнем з веку ў век
Вось гэту нечысць, пошасць свету?..
— Тады спытайся ты ў паэта:
Нашто ствараўся чалавек?

— Я ведаю. Нашто пытацца…
— Скажы.

— Каб нехта мог смяяцца
І плакаць мог,
Каб на ілбе
Ён нёс пазнання геній горды…
Для нас
          стварыла нас прырода,
Каб цераз нас
Спазнаць сябе.
— І ўсё ж…

Далоні!
Плечы!
Губы!
Пасля —
          зямля, вада, святло…

— Перш, чым нічога не было,
Што ж называлі словы, любы?..
І што ў іх абалонках ёсць
З таго, што *ёсць*, — скажы на ліха?..
Вось словы:
«*СОН*».
«Пячора».
«Госць».
А хто ён, госць?..

І нехта ціха
Гукнуўся:
— Я… —
          Касцёр патух,
Маланку я ў суцемках страціў.

— Я гаспадар пячоры.
Дух.
Нязваны госць на вашым свяце.

— Ты бачыш нас?!.

— Нашто мне зрок?
Я — дух пячор. Сусветны змрок.
Я цемрадзь — вечнасці статут…
І ўсё ж, як ты святло лучыны,
Святло маланак бачу:
Тут

Маланка ў вобразе жанчыны.
Я дапытаюся ў яе
Пра ўсё, што ты не дапытаўся…

І голас голасу азваўся:
— Чакай! Пакуль што нестае
Адной умовы: ён не кляўся.

Маланкі голас!.. Скуль?..
З нябёс?
З адвечнасці?..
У цемру ўрос
Я слыхам, зрокам і дыханнем:
— Каму я клятву не прынёс?!.
— Таму, што ты завеш каханнем.

— Апамятайся!
Хто ж кідаў
Да ног тваіх за клятвай клятву,
Калі не я?..
— Вось шоўк і дратва
У двух клубках. Іх лёс спрадаў.

Клубок шаўковы быў гарачы,
А драцвяны — што ледзяны.

— Але навошта мне яны?
— Што-небудзь бачыш ты?
— Не бачу.
— Тады адзін з клубкоў — на ўдачу —
Кідай у морак — і клубок,
Калі ўгадаеш, спаліць змрок.
— А не ўгадаю?..
— З цемрай вобдым
Ты ў прорву паляціш без дна,
Бо клятвы ўсе твае — мана!

І я шпурнуў клубкі абодва!
І засвяцілася яна.

— Маланка!..
— Тайна шаравая…
Праменіцца, усім відна,
А хто яна ці што яна —

Ніхто не ведае, не знае.
Так і каханне… апякае,
Катуе, хмеліць, як віно,
А хто яно ці што яно —
Ніхто не ведае, не знае.

І толькі я — адна на ўсёй,
На ўсёй зямлі, — хай пакарае
Мяне за гэта лёс, —
я знаю:
Яно — маланка шаравая.
Кляніся мне. Кляніся ёй.
— Клянуся!

…І адкрыўся зорны
Сусвет над намі:
вечны змрок
Круціў зярняты зор, бы ў жорнах…

— Чакайце… — дух шапнуў пячорны.
Тут ёсць яшчэ адзін клубок.

… — Ты спіш?..
Як хораша на ранку!
— Я бачыў страшны сон, Маланка.
Я кінуў разам два клубкі!
— Ой-ёй, жахлівы сон які!
— Не смейся…
Значыць, ты паганка
З душой агню, жывеш вякі,
І ты павінна ў навальніцу
Вянчацца?..
— Так, каб зняць праклён:
Я — варажбітка, чараўніца…
— Які ўсё ж дзіўны быў той сон!..

— І мне быў сон!.. Ды на Купалу,
Не сёння…
Быццам я скакала
Цераз агонь, а той агонь
Нібыта не агонь, а конь —
Падняў мяне, узвіў…
Прапала! —
Паспела я падумаць… Нёс

Мяне той конь сярод нябёс,
Між бліскавіц, грамоў, аблокаў,
Між зорак, сонцаў і планет,
І там, дзе скончыўся Сусвет,
Спыніўся на мяжы са змрокам,
Адкуль —
з Нічога, з Небыцця! —
Пачуўся голас, як з-пад века:

— Кім хоча быць маё дзіця —
Маланкаю ці чалавекам?

— Кім быць хачу?.. А хто я ёсць?
Нашто мне —
Роспач,
Радасць,
Злосць?..
Куды і скуль мой шлях?.. Каб ведаць!
— Вось шлях табе, — азваўся змрок. —
Вось след табе. Ідзі па следу,
Не саступай ні кроку ўбок…

І ўпаў
Пад ногі мне
Клубок.

— Клубок?!
— Клубок агню: сціскала
Яго, як болем, пульсавала
У ім жывая кроў жыцця,
І я — на голас Небыцця —
За ім ступіла — і прапала.

— Прапала? Як?..
— А так: не стала
Мяне нідзе.
Ні ў чым.
Ні ў кім.
Я стала небыццём самім,
Але і ў небыцці — і ў ім
Я не была. Не існавала.

— Не разумею.
— Зразумець

Такое нельга.
Гэта — смерць.

— Смерць бліскавіцы?
— Смерць людзей.
— Выходзіць, і душа сканае?..
На што ж надзею мець?
— З надзей
Адна надзея ёсць…
— Якая?
— Любоў, маланка шаравая,
Любоў:
ад нашага ярма —
Ад страху перад апраметнай
Збавенне… Сэнс жыцця і мэта,
І шлях, і след яго… Праз гэта
Яна — маланка;
І сама
Маланкай стала я праз гэта,
Там, за мяжой быцця Сусвету,
Дзе нават небыцця няма.
І нас праз гэта павянчаць
Павінен лёс у навальніцу,
Каб нам прад небам клятву даць:
А паклянёмся мы
кахаць
Так, як кахаюць бліскавіцы!

Кахаць адну і аднаго…
І бацьку мы гукнём майго:
Хай неба
Грозна скаланецца,
І зрушыцца зямля — і з трун
Падыме ўсіх, каго Пярун
Пракляў,
Каму спаліў ён сэрцы
Маланкамі,
а тайну тых
Схаваў у таямніцы смерці,
У спратах, вечных для жывых.

Так! — за мільёнамі мільён —
Устануць дзеці ўсіх плямён,

Усе, хто гэты час здавён
Чакаў, як час вырататавання!..
І сцішыць грознае дыханне
Пярун…
Ён здыме свой праклён!
І для людзей адкрые ён
Маланак тайну — дар кахання.

…Ты мне адкрыла гэты дар,
Маланка! —
кара Перунова,
Што ў вочы мне глядзіць сурова,
Маўчыць-пытае: ці гатовы?..

Ты мне адкрыла гэты дар —
Святы,
святочны,
каляровы:
Табе я кіну
шар
ружовы —
Мне вернецца
Блакітны шар.

…Прырода — гульні бліскавіц.
Прыроду ўмеем — да драбніц —
Мы падрабіць…
З пустой бляшанкі,
Нібы сапраўдны
гром грыміць.
І можна падрабіць маланкі.
Каханне можна падрабіць.
З сапраўдным —
страшна: найчасцей
Сапраўднае
маланкай слепіць!..

Калі насмерць заб'ецца лебедзь,
Яно — сапраўднае — з касцей!..
З крыві!..

З падробным жыць прасцей.
І паміраць куды як лепей.

Ні вір
не ўцягне з ім,
Ні топка…

Не падрабляйцеся!
Таропка,
За ноччу ноч і дзень за днём
Вы падрабляеце падробку,
Падробленую Перуном
І кінутую на Зямлю
У міг праклёну, гневу, кары…

Зноў бліскавіца! З грому! З хмары!
Агнём! Віхураю! Пажарам!..
Яе лаўлю. Яе люблю.

…Як мы кахалі! Гэты дар!
Маланак жар нясцерпны гэты!..

Міналі дні…
Наш каляндар
Танчэў, няўмольна рухаў лета
На схіл, на сход…
Забранзавела,
Звінела скура нашых цел —
І не было спатолі целу…

А непазбежнае ў прыцэл —
Ды не! —
ва ўпор ужо глядзела.

…Яна любіла ноч — і ўночы
Любіла плаваць. З тых часоў
Я прывід бачу:
цень жаночы
Страсае зоры з валасоў,
Вымае з касаў срэбны месяц…

Быў дзень дзявяты.
Жнівень месяц.

У гэты дзень — жыццё назад —
Я нарадзіўся…
З той нагоды
Абкалацілі мы наш сад

І вычарпалі вадаспад, —
Сказаць дакладней:
вінаспад,
Бо ў ім бруіліся не воды,
А ў свеце лепшае віно!..
Ці зараз там бруіць яно —
Не ведаю.
Не быў даўно.

Мы на вячэру запрасілі
Свабодных птушак, рыб, звяроў,
Усіх, каму было па сіле
З сябрамі выпіць за сяброў…
І выпілі яны,
І дроў
Нам наламалі — будзь здароў!

Мы весяліліся… Ды штосьці
У самых нетрах весялосці —
Віна ў тым не было віны —
Пад ноч зламалася,
І госці —
Такім гасцям няма цаны —
Таропка сталі разбягацца
Ды разлятацца, расплывацца…
І засталіся мы адны.

…У той пячоры на сцяне
Малюнак быў:
Адам і Ева,
Спакусы змей, пазнання дрэва…

— Кахалі ўсё ж яны
Ці не? —
У змея
Запытала дзева. —
Чым спакусіліся яны?..
Што ён спазнаў?..
Яна спазнала?..

І раптам яблык —
Са сцяны! —
Як з яблыні жывой,
сарвала.

І надкусіла. Пырснуў сок.
І змей у змрок слізнуў з малюнка.

— Маланка!
— Што, мой галубок?..
Застаўся ты без падарунка —
Лаві!..

І кінула
Клубок.

Той самы — сніцца ці не сніцца?
Шаўковы! — сон ці ўжо не сон?..
— Мой падарунак —
                                        бліскавіца!
— Чаму ж не свеціцца?
— Свяціцца
Не можа выкляты…
Мільён
Гадоў яшчэ да навальніцы,
Калі Пярун дачцэ скарыцца
І здыме страшны свой праклён.

— Чаму мільён?
— Лавіць не трэба
Мяне на слове…
                                    Хай у час,
Калі мы ўстанем перад небам
І неба павянчае нас, —
Яна засвеціцца…

— Няўжо ты
У тое верыш сапраўды?!.

— Знайшла я ліст у садзе жоўты,
Апалы першы ліст…
Гады,
Вякі мільгаюць, як імгненні,
А вечнасць — гэты ліст асенні,
Дрыготкі халадок вады,
А вечнасць — гэты ліст апалы…
На ім табе я напісала
Пра нас,
Пра ўсё, што не сказала…

Ды не чытай!
Пасля,
Пасля…

І нам паветра не хапала,
І ў бездань падала зямля.

…О, шал кахання, пал крамяны,
О, шэпт яго, замураваны
У схоўных словах
ТЫ і Я.

«Абраны мой… Зачараваны…»
«Адзіная…»
«Ты мой, каханы?..»
«Я твой, каханая мая».

«Калі самкнуцца ў круг падману
Твае сябры,
Радня,
Сям’я, —
Каму паверыш, мой каханы?..»
«Табе, каханая мая».

«Калі ад кулі нечаканай
Хіснешся ты на схіле дня,
Каго ты ўспомніш, мой каханы?..»
«Цябе, каханая мая,
Няхай зямля ў магіле ўлежыць —
З труны,
З магілы ўстану я
На покліч твой…»
«Табе належыць
Жыццё маё. І смерць мая».

— І смерць?
— На слове ловіш зноў…
Ты глянь: пакуты, крыўда, кроў,
І на скрыжалях новай эры
Старая пазалота слоў —
Надзеі, любасці і веры.
І цягне чалавек свой крыж,
І сам на ім раскрыжаваны
Спрадвечным выбарам

Паміж
Маной і праўдай…

— Пакараны?..
— Так, пакараны чалавек.
— У чым усё ж ён вінаваты,
За што пакуты, крыўды, здзек?..
— Пракляты род людскі…
— Пракляты…
Чаму ж тады жыццё зямное
Мне даражэй — з яго маною —
За праўду вечнасці самой?..
— Таму што ты абраны мною.
Адзіны мой. Каханы мой…

І ў сховы таямніц,
                                у сховы
Зямлі, што свой клубок шаўковы
Спрадае за вітком віток,
Ляцеў я скрозь агонь на змрок,
На цёмныя, глухія словы:

«Тут ёсць яшчэ адзін клубок».

І госць паганы,
Дух пячорны
Клубок падкінуў з дратвы чорнай:

— Ён з вечнай скручаны віны —
Мой падарунак драцвяны,
Які збярог я вам на свята…
— Пакінь сабе яго!
— Знарок
Табе вяртаю твой клубок
Падману. Ганьбы. Помсты. Здрады.
Прыйшоў ты з цемрай — пойдзеш з ёю.

І ўстаў на хвост
                            клубок
                                    змяёю!
Ёсць
Танец
Змей…
        Пацёк той танец

Між пальцаў левае рукі…
«Ты кінуў разам два клубкі, —
Змяя шаптала. — Ашуканец…
За гэта плацяць галавою,
Ты станеш змрокам.
Змрок — табою.
Забудзь Маланку… Зараз я —
Твая мана —
                    твая каханка,
Мой пацалунак — іскра,
                                        ранка —
І ўсё…»

Спружыніла змяя —
І ўдарыла ў яе маланка!
І ўпалі вобдым!
І ў клубок
Адзін, счапіўшыся, скруцілі
Жыццё і смерць,
Агонь і змрок,
Скруцілі ўсё — і атруцілі,
Змяшалі з цемрай,
Замуцілі
Дабра выток
І зла выток…

…Я падхапіўся.
                         Заліло
Святло пустое ўсю пячору,
Біў гром,
На сушы і на моры
Стагнала ўсё, гуло, раўло!..

Нідзе Маланкі не было.

— Маланка! — крыкнуў я…
Маланкі
Цапамі
           білі па таку, —
І раптам торгнула руку,
Агнём скруціла пальцы…
«Ранка!»

Я высмактаў атруту сну,
Акрайкам ночы губы выцер…
«Вярніце мне яе! Вярніце!
Яе адну! Яе адну!»

Я з гэтым крыкам
са скалы
У мора рынуўся…
Валы
За мной сышліся з цёмным гулам,
І голас мой — слабы, малы —
Навек прадонне праглынула.

«Адна яна ў мяне, адна!..»

Ні следу не было, ні знаку!..
Я дакараскаўся да дна,
Да апраметнай Ай-Кайлаку —
І выплыў ледзь…
Ужо не плакаў
І не крычаў…
На злы пясок
Паклаў зубамі, як сабака,
Яе сукенкі паясок.

…Праз дзень пра ліст успомніў.
Не,
Нічога там… Пакуль насіла
Мяне віхура — мора змыла
Ўсё
Да слоў:
*«…вялікай сіла —*
*У самай дробязнай мане.*
*Ніхто з нас кары не міне…*
*Але каб гром у час вянчання*
*Нас не спаліў —*
*Будзь роўны мне*
*Сваім жыццём, сваім каханнем*
*Будзь роўны мне…»*
І абарвала
Яна радок.
І ліст апалы
Сказаў не многа і не мала,

Але нічога, акрамя
Таго, што цалавалі хвалі
Сляды яе…
Пасля забралі…
І ў спратах вечнасці схавалі
Яе паганскае імя.

…Выпадак быў яшчэ, казалі.
Ён і яна
            жылі, кахалі,
Кляліся ў вернасці… Калі ж —
Ад клятвы ледзь астылі губы —
З другою ён пайшоў да шлюбу, —
Ударыла
Маланка ў крыж.
А ў небе чыстым хоць бы хмарка…
Мана, дальбог…

На тым спыню
Аповесць, што пісаў маланкай
На скрутках змроку і агню.

*1981*

## ІНДЫЯ

1

У сны ўвайшлі твае сланы.
Ступалі за сланамі сны
І не належалі мне болей.

Іх сніў
не ў сутарэннях болю,
А ў храме радасці
манах.

Я з босых ног ягоных прах,
Схіліўшыся, сабраў рукамі,
І прахам асвянціў чало…

І, паўшы ніц, спытаўся:
— *Свамі*[1],
Скажы мне:
што са мной было?

2

— У сны твае
ўвайшлі сланы, —
Сказаў манах. — Але яны
Сваім ісці павінны шляхам.

Чало, што асвянціў ты прахам,
Вадой асвенчана святой.

Шлях з веры ў веру — шлях не твой.

3

«Чаму?» — спытаўся я не ўслых.

Не ўголас ён сказаў: «Ты з тых,
Чый шлях — зваротны.
Да чужых
Святых
ты рушыў са сваімі».

«Святыя могуць быць чужымі?» —
Здзівіўся я.

Нібыта ў шкло
Задымленае, глянуў Свамі,
І дым шкляны праплыў між намі,
Пусты, як тое, што прайшло.

4

— Устань, — сказаў манах. — Ты ніц
Дарэмна падаеш, прыкуты
Да саркафагаў і грабніц
Англійскіх могілак Калькуты[2].

Ты ў Індыі, — казаў мне Свамі, —
Але дарма марнуеш дні,
Упёршы вочы ў камяні.
Пустыя сны пад камянямі.

Усе, хто зараз сніць іх тут,
Дарма прайшлі свой шлях пакут,
Канаючы ад малярыі.

— Не, — я сказаў. —
Бо тут
Марыя.

— Ты знаў яе? — спытаў манах.

5

Гаруда[3], белы Божы птах
Ляцеў — далёка ад Калькуты,
І двух аблокаў парашуты
Нёс тым, хто страціўся ў гарах.

— Марыя, нам уніз пара, —
Прасіў я, змучаны гарамі.

«Ты знаў яе?» — пытаўся Свамі.

6

Мандара[4], Божая гара,
Вяршыняй падпірала неба.

«Знямогшы без вады і хлеба,
Аслепшы без павадыра,
Зблукаўшы шлях — з якой пары я
І для чаго я тут, Марыя?»

— На тое, каб адолець шлях.

7

«Ты знаў яе!» — сказаў манах,
Падаў задымленае шкло,
І, як пры сонечным зацьменні,
Я ў шкло зірнуў…

Мільгалі цені,
Глядзеў я, што са мной было.

8

Увесь у жоўта-залатым[5]
Стаяў манах на небасхіле,
Упэўнены ў спрадвечнай сіле
Таго, што свет заве пустым.

— Тут выйсце ў неба, — мовіў ён. —
Пераступаю я закон,
Наблізіўшы да зор жанчыну.
Ды шлях адолены. Прычыны
Для апраўдання мне стае,
Каб паказаць дарогу тую,
Дзе Веду зведаеш святую,
Марыя! Зоры ўсе — твае…

І ён накінуў на яе
Апратку жоўта-залатую.

9

— А хто за мной?
— Няма каму.
— А спадарожнік мой?
— Ён следу
Твайго не ўбачыць, бо яму
Час не настаў спасцігнуць Веду.

Ён вернецца. А ты — ідзі.

10

— Ты судзіш, Свамі?
Не судзі,
Я знаў яе, таго даволі.

Глядзі, як шкло іскрыць на сколе,
Ды што ў тых іскрах для сляпца?

Зваротны шлях — сляпы. Ніколі
Яго не пройдзеш да канца.

Па ім
        вяртаешся ні з кім.

11

Плыў над зваротным шляхам дым
Ад Індыі да Беларусі…

— Я не хачу ісці па ім,
А незваротнага — баюся.

Шлях там,
                дзе ўперадзе — сляды.

12

— Той шлях, — сказаў манах, — нікуды,
Па тых слядах мільёны люду
Сышліся ў гурт, у гарады.
У храмы іх, у іх суды

Ты б з Індыі вярнуўся, ды
Сюды прыходзяць адусюды —
Адсюльісці няма куды.

13

Я ўніз ішоў.
Гара з гарою
Перагукаліся, сырою
Прасцінай поўз па схілах снег…
Лавіна!
Я дарма пабег
Па камянях,
                    па скалах слізкіх…

Дні прабягаючы, гады,
Не змог я збегчы гэтак нізка,
Каб падаць не было куды.

14

Лавіна падала —
                    на схіле
Раз’юшана, у самай сіле
Дагнала, душна абняла.

— Марыя! — крыкнуў я. — Марыя!.. —
І ўкрылі крык снягі сырыя.

15

Манах сказаў: «Яна дайшла
Дарогай Вед амаль да межаў,
З якіх звароту ўжо няма,
А ты вярнуў яе. Дарма».

16

Я не вяртаў. Лавінай снежнай
Яна вярнулася сама
Па камянях, па скалах слізкіх.

17

— Ты дзе была, Марыя?
— Блізка.
— Чаму на могілках англійскіх
На камені тваё імя?

— Бо шлях адолела дарма, —
Сказаў манах. — Бо не жанчыне
Пакінуць свет дарогай Вед,
Бо светам стаўся ёй паэт
Англійскі ў афіцэрскім чыне.

18

За нораў дзёрзкі і бунтоўны
Ён з метраполіі раптоўна
Адпраўлены ў Калькуту быў.
Тут ён гібеў, страляўся, піў,
Блукаў, зваротны шлях згубіў —
І ў дом патрапіў малітоўны.
Бог ведае, што за хімеры
Жылі ў англійскім афіцэры,
Ды выдумаў сабе паэт,
Што вернецца місіянерам
Дамоў, што прагне новай веры
Стары ягоны добры свет.

Ён кінуў піць. Пісаў увішна
Евангелле ад Рамакрышны[6],
Ствараў хімеру: Веру Вер.

Як сноб, на англіцкі манер
Хрыста аспрэчваў афіцэр.

Паслаў ерэтыка Ўсявышні
У горы.

Перад ім гара
Мандара ўстала — брама ў неба.
Аслаблы без вады і хлеба,
Аслеплы без павадыра,
Караскаўся ён за хімерай
Дарогаю, якой не верыў,
Бо верыць не прыйшла пара.

І скінула яго гара
Лавінаю…

Яго ў снягах
Знайшла Марыя ледзь жывога,
Адняньчыла, нібы малога,
І, не адпрэчыўшы зямнога,
Згубіла свой нябесны шлях.

19

— Вам не ўзляцець, — сказаў манах, —
Пакуль зямля цяжарыць крылы…

20

…Яна знайшла мяне, накрыла
Апраткай жоўта-залатой,
Сказала:
— За мяжой пустой
Сырая снежная магіла —
І ў ёй усё, што я любіла.

21

— Шлях з веры ў веру — шлях не той? —
Спытаўся я,
і з вуснаў строгіх
Пачуў адказ:
— Адзін са многіх.

22

— То ў чым віна мая, Марыя,
Калі парывы ветравыя
Нясуць, нібыта дым шкляны,
Душу
        зблуканымі шляхамі?

23

— Перад усімі, — мовіў Свамі, —
Нябесныя шляхі віны.
Зямным — зямное.
Дзеці самі —
З малога цешацца яны. —

І шкло іскрылася між намі,
Клубіўся ў ветры дым шкляны.

— І Веда Вед,
І Вера Вер —
Хімерныя, калі на згубу,
Адняньчаны, ідзе да шлюбу
Паэт, англійскі афіцэр.

Калі спасцігнуць Веду свету
Жанчыну абірае лёс,
А тая таямніцу гэту
Лавінай кідае з нябёс
Пад ногі выхрысту-паэту,
То ўсё дарма: і рух, і мэта,
Куды б дарога ні вяла…

24

— Марыя, ты ўсё ж там была.
Скажы мне, што там?
— Дзе?
— У Бога.
— Нічога там няма. Дарога.

25

Сінеча холаду начнога
Над Гімалаямі плыла.
Сыходзіліся ў храм начны
Індусы —
там спявалі хорам,
Там пакланяліся яны
Таму, пра што і думаць сорам
У Англіі…

Крывёй жывой
Жыццё бруілася, як брага,
Густой хісталася травой
У хвалях Інда, водах Ганга,

Гатовае па волі Брамы[7]
Само сабой ахвяраваць,
Яно глядзела ў вочы Ямы[8],
Не баючыся паміраць,

Спазнаючы сябе, вякамі
Зямную трушчыла кару
І ўзносілася ўвысь хрыбтамі
Высокай Хары і Меру[9],

Каб там, дзе ўжо няма нічога,
Дзе абрываецца дарога
І зноў вяртае на зямлю,
Змяя пацалавала Бога,
І Бог пацалаваў змяю.

26

— Злуеш, Марыя?
— Не злую.

## 27

— Адзін адному вы не суддзі, —
Сказаў манах. — Яна праз *суццi*[10]
Прайшла, застаўшыся ўдавой.

Той афіцэр англійскі, той
Паэт, сасланы за разбой,
Сектантам стаў,
                              ахвяраваў
Марыю, што жыла ў Марыі,
Прызначыўшы яе кастру,
Як сам сканаў ад малярыі…

## 28

За ёй падняўшыся ўгару —
Адзін спускаўся ўніз з гары я:

— Марыя, калі я памру,
Дзе мы сустрэнемся, Марыя?

— Тут, дзе маланкі шаравыя
Высокай Хары і Меру,
У храме, лотасам сагрэтым,
Дзе Вішну абвіла змяя[11];

Тут, толькі тут, бо ў свеце гэтым
Ёсць Індыя, адна планета,
І ўся астатняя зямля.

Чакай свой час, сваю пару.

## 29

— Марыя, калі я памру,
Ты скажаш, што там?
— Дзе?
— У Бога.

30

«Нічога там — адна дарога
Ды зор ахвярнае святло…»

31

— А ты б хацеў, каб там было
Што-небудзь? — запытаўся Свамі.

— Каб Індыя была…

32

Над намі
Нябёс задымленае шкло
Мігцела зорамі і снамі.

Са сноў сыходзілі сланы.

33

Ступалі след у след яны
На свой зваротны шлях.
                                                  Манах
Мне ў прыгаршчы насыпаў прах,
Сказаў:
                — Ідзі, нясі дадому,
Развей на родных берагах.
Не суддзі мы адзін аднаму.

— Марыя!.. —
                              голас у гарах
Прапаў, не чутны мне самому.

Гаруда, белы Божы птах,
Сарваў з Мандары
                                        кветку *сому*
І кінуў на зваротны шлях.

*1987–1995*

## ПРОШЧА

### 1

Зноў вецер на ўзлеску агнём залатым
Асіну палошча.
За ветрам за тым і за ўзлескам за тым
Ёсць возера Прошча.

На возеры тым, на блакітнай вадзе
Бялеюць лілеі.
Душа мая там, як на Боскім судзе,
Баліць і святлее.

Яе тое возера ў воды свае
Празрыста ўлюбіла.
Да дна таго возера не дастае
Нячыстая сіла.

Святлее ў тым возеры храм на гары
Званіцай высокай,
І спіць на званіцы званар да пары
Глыбока,
Глыбока.

У белых лілеях яму так даўно,
Так соладка спіцца,
Што снамі ягонымі ўсыпана дно
Да самай званіцы.

Усмешка блукае ў яго на губах,
Як ветрык на ўзлеску…
Стаіць нерухома вада ў берагах —
Ні хвалі,
Ні ўсплёску.

Дрымотна сваім і чужым берагам —
Ні ўсплёску, ні хвалі,
Нібы не схавалі ў тым возеры храм,
Нібы пахавалі.

Вякамі сплываюць над возерам тым
Лілеі аблокаў —

Над храмам, над крыжам яго залатым,
Званіцай высокай.

2

Ён жыў на званіцы, бязногі званар
На храмавай вежы.
Сачыў з-пад нябёс, дзе патоп, дзе пажар,
Дзе вораг на межах.

Прыкуты да звону, да лёсу свайго,
Глядзеў на абшары,
І цёмныя хмары плылі да яго,
І светлыя хмары.

Пад храмам люстэркам ляжала вада,
Лілеі люляла,
І ў тое люстэрка цягнула нуда —
Аж вочы смактала.

На раме люстэрка шумелі лясы,
Палі красавалі,
І рыкі звяроў, і людзей галасы
На вежу ўзляталі.

Адтуль, дзе спрадвек майстравалі яны
Калыскі і труны,
З ядой і вадой падымала збаны
Вар'ятка Матруна.

Яна на калені ставала ў куце
На звон памаліцца —
І ўсё мармытала: «На згубу расце
Краса-Мілавіца».

Кавалак у горла не лез званару,
Як, слінячы губы,
Шаптала вар'ятка: «Атруты збяру
На згубу, на згубу…»

Так дні праміналі, вятрамі гады
Хісталі званіцу…
Нявестаю князь, уладар малады,
Абраў Мілавіцу.

«Красу-Мілавіцу, дачку каваля?!
Ой, княжа! Ой, смелы!..»
І ўздрыгнула пад капытамі зямля
Суседніх удзелаў.

За новым ганцом скача новы ганец
З пагрозай адною:
«Як пойдзеш з дачкой каваля пад вянец —
Мы пойдзем вайною.

Твой шлюб — гэта ганьба для нашых дачок,
Абраза цяжкая…»
І князь закруціўся між іх, як ваўчок,
Як воўк за сцяжкамі.

На плошчы шторання натоўп віраваў,
Народ, князю любы,
І голас Матруны яго свідраваў:
«На згубу! На згубу!»

Прамоўцамі, быццам балотная гразь,
Мясіліся словы.
— На згубу яе!
— І яго!
— Ён не князь!
— Ён зяць кавалёвы!

Разгублена варта стаяла наўзбоч,
Гатова прадацца.
І з тварам чарнейшым за чорную ноч
Князь клікнуў дарадцу.

«Скажы, што рабіць?» — ён дарадцу спытаў.
Быў рады старацца
Заўсёды дарадца. З паклонам устаў
І мовіў дарадца:

«Казырная карта
адна на стале,
На ўсё твая воля.
Як хочаш жаніцца — жанíся, але
Не князь ты ім болей.

З натоўпу сабраць пераможную раць —
Пустая спадзеўка,

Не стане ніхто ваяваць, паміраць
За простую дзеўку.

Калі ж адрачэшся цяпер ад яе —
Набычацца шыі,
Успомняць: каваль з Мілавіцай — свае,
А тыя — чужыя.

Як толькі адчуюць тваю слабіну —
Пра сілу забудуць.
Ты ў пастцы:
суседзі рыхтуюць вайну,
Народ прагне бунту.

І ўсё праз адно. І парада адна:
Мы ўлада. Мы суддзі.
Не стане нявесты — не прыйдзе вайна
І бунту не будзе.

Нявеста твая заняможа ўначы.
Ёсць зёлкі ў Матруны».
І, гледзячы ўбок, князь прамовіў:
— Лячы.
Мне сёння прыснілася кроў на мячы.
Рабі, што прыдумаў.

3

Ён жыў на званіцы. Цар-рыба плыла,
Мінаючы сеці.
Адна ў званара Мілавіца была,
Адна ў цэлым свеце.

Начамі ён бачыў: два цені здаля
Ішлі, каб спаткацца,
Адзін — ад хаціны старой каваля,
Другі — ад палаца.

Як бралі адзін аднаго за руку,
Спаткаўшыся, цені,
У звоне матляўся ён на языку
І біўся аб сцены!

Яму нават ногі, якіх не было,
Нясцерпна смылелі,
Як рыбамі цені плылі на святло,
Збіралі лілеі.

Прыкуты да звону, да лёсу свайго,
Маліўся ён, плакаў,
Каб выраслі кіпці і крылы ў яго
Драпежнага птаха.

Ён сэрца б князёва штодня вырываў
З крывёй, каб напіцца!..
О, як ён кахаў яе, як раўнаваў
Красу-Мілавіцу!

Цар-рыбу, што ў Прошчы спрадвеку жыла,
Прасіў, каб ніколі
Красу-Мілавіцу бяда не знайшла
Ні ў лесе, ні ў полі.

Цар-птушку, якая вяршыла палёт
Над Прошчай спрадвеку,
Схаваць Мілавіцу прасіў ад нягод,
Ад крыўды і здзеку.

Цар-рыбу прасіў і Цар-птушку прасіў,
Што зналі ўсё самі,
А сам ён праспаў Мілавіцу, прасніў
Вяшчуннымі снамі.

У снах тых пісаў з Мілавіцы абраз
Князёвы дарадца.
Князь мовіў: «Старайся», дарадца ў адказ:
«Я рады старацца».

І жах у тых снах працінаў кожны раз,
Як сталь нажавая,
Калі любаваўся народ на абраз:
«Дальбог, як жывая!»

4

Стагналі званы, галасілі званы
На белай званіцы,

Як неслі ў князёвы скляпы-курганы
Красу-Мілавіцу.

Гудзелі званы, знемагалі яны,
І чулася ў гудзе:
«Не будзе нявесты — не будзе вайны
І бунту не будзе».

Нібы звар’яцеў на званіцы званар,
Вяшчаючы люду,
Што скрозь і паўсюды патоп і пажар
І ворагі ўсюды.

Цар-птушка ляцела, Цар-рыба плыла,
Мінаючы сеці.
Адна ў званара Мілавіца была,
Адна ў цэлым свеце.

У белых лілеях ляжала яна,
Нібыта жывая, —
Ды ўжо муравалася ў склепе сцяна,
Сцяна межавая.

Магільшчык зрабіў сваю справу, і поп
Зрабіў сваю справу.
А з плошчы ніяк не сыходзіў натоўп
І прагнуў расправы.

Глядзелі дарадца і князь, як сычы.
Расправа блукала:
«З чаго яна раптам заснула ўначы,
А ранкам не ўстала?»

«Вяшчунна мне снілася кроў на мячы», —
Князь думаў у спудзе.
Дарадца на вуха: «Не бойся. Маўчы.
Нічога не будзе».

А слова крывёй набракала, як клоп:
«Атрута… Атрута…»
«Матруна», — дарадца шапнуў, і натоўп
Ускрыкнуў: «Матруна!»

5

На межах князёвых стаяла вайна.
Расправа блукала.
Пра гэта не знала Матруна — яна
Нічога не знала.

Але за пагібель нявесты-красы,
На радасць народу,
Яе за сівыя цяглі валасы
Пад меч, на калоду.

Цар-птушка ляцела. Цар-рыба плыла.
«Я не вінавата,
Я зелле зварыла, я зёлкі дала», —
Крычала вар'ятка.

Дарадца на плошчу прывёў каваля:
«Вось меч табе катаў.
Ты б княжыча няньчыў, садзіў на каня.
Суцешся адплатай».

Пазногцем спрабуючы вострую сталь,
Гаротны, суровы,
Каваль адказаў: «Не на тое каваль,
Каб секчы галовы.

Бог даў Мілавіцу і ўзяў яе Бог,
Куды — не дазнацца…»
«Як скончыцца ўсё, дык адразу ў астрог», —
Падумаў дарадца.

І крыкнуў: «Даказана ведзьмы віна!
Гэй, варта! Гэй, каты!»
І ўпаў з неба голас: «Мана! Не яна,
А князь вінаваты!

Не ўзяў Мілавіцу, каб Бог яе ўзяў,
Каб плакаў убогі!..»
Каваль перад князем і шапку не зняў,
І плюнуў пад ногі.

«Бунт?» — крыкнуў дарадца, і выбухнуў бунт!
З вачамі сляпымі,

Як смерч, ён круціўся, вяршыў самасуд
Усіх над усімі.

Вар’ятка Матруна, сівая сава,
Крычала: «Свабода!..»
Кацілася за галавой галава
З крывавай калоды.

Ад бунту сп’янелыя, як ад віна,
Гулялі халопы, —
І рушыла ў межы князёвы вайна
Пажарам, патопам.

Спяшаліся князя
                    князі ратаваць,
Палілі, тапілі,
На бунт насылалі за рацямі раць,
Мячы ўсе
            ступілі.

6

Званар галадаў. Яго смага гняла.
І ў сне ці ў прыпадку,
З крывёй на званіцу збаны падала
Матруна, вар’ятка.

«Ты што гэта, — сцяўся званар, — ты чаго?»
«За мой паратунак
Ты голас падаў — гэта рэха яго», —
Сказала Матруна.

На белай званіцы сядзелі яны
Над чорнай зямлёю,
І зняў ён званы, і падвесіў збаны
З людскою крывёю.

Унізе люцела, свістала, гула
Нячыстая сіла,
І кроў закіпела, бы ў пекле смала,
І ўсё затапіла.

Яна разлілася ў лясы і палі
Праз межы, граніцы,

І, як да каўчэга, ляцелі, плылі
Звяры да званіцы.

А стуль, дзе нячыстая сіла жыла,
Люцела ў народзе,
З крывавым усхліпам калода ўсплыла —
І меч
на калодзе.

7

Раіліся зоры, як іскры ў кастры,
І храм засыпалі.
Званар і вар'ятка, як брат пры сястры,
Абняўшыся, спалі.

Хай спяць,
забываюць, хто свой, хто чужы
Быў некалі з імі,
І ластаўка ім, і каршун на крыжы
Хай стануць сваімі.

Хай сняцца ім спевы знямелых званоў
І ластаўка сніцца,
Што ў спевах званоў абярнулася зноў
Красой-Мілавіцай.

Каршун, страпянуўшыся неба абняць,
Пазнаў яе раптам…
Ім гэтак не спаць, як, абняўшыся, спяць
Званар і вар'ятка.

Краса ім лілеямі пальцы спляла
І побач заснула,
І белай лілеяй званіца плыла,
І ў Прошчы танула.

Князёва душа, што жыла ў каршуне,
Над Прошчай кружыла,
Крычала, нібыта згубіла на дне
Усё, што любіла.

8

Пазбыўшы нябыт, ты з’явіўся на свет,
Каб свету здзівіцца.
Калі ты званар ці калі ты паэт,
Жыві на званіцы.

Няхай на зямлі хоць патоп, хоць пажар,
Хоць ліха ды войны,
Калі ты паэт ці калі ты званар,
Ты лішні, ты вольны.

Няма ў цябе тут ні сяброў, ні радні,
Няма і не трэба.
Усё тваё там, дзе сляпыя агні
Халоднага неба.

Усё тваё там, тут нічога твайго,
Ты сведкаю толькі
Нябытнасці свету, вар’яцтва яго
Ад бойкі да бойкі.

Хай сыдуцца ў сечы з братамі браты,
Не кайся, не енчы,
Пакінь ім мячы і занятак пусты,
Як цацкі малечы.

Хай паляць сялібы і гвалцяць сясцёр,
Не енчы, не кайся,
Трымайся за іскры, за дым, за касцёр,
З нябёс не спускайся.

Сынам не бацькі і бацькам не сыны,
Да Боскае кары
Няхай у нянавісці любяць яны
Таго, хто ўладарыць.

Няхай выбіраюць
сабе ўладароў,
І птушкам, і рыбам.
Калі ты з паэтаў ці са званароў,
То зроблены выбар.

Пакінь, як кратоў, невідушчых братоў
У норах іх цесных.

Званіца твая — карабель без бартоў
На хвалях нябесных.

Хай рынецца свет на цябе аднаго —
Не бойся расправы.
Усё тваё там, тут нічога твайго,
Ні ганьбы, ні славы.

Не дайся падману,
як раб або цар,
Жывыя зямлёю,
У зоры ўзіраюцца, вымыўшы твар
Слязьмі і крывёю.

І кроў іх, і слёзы — раса на траве.
Няслаўяць ці хваляць —
У хвалі нябеснай Цар-рыба плыве,
Цар-птушка
над хваляй.

9

Мітынговыя вуліцы, поўныя лютасцю плошчы
Я пакіну аднойчы і рушу да возера Прошчы,
Што сінее на роднай зямлі васільком на радне
І царкву са званіцай ашчадна хавае на дне.

Па збалелай дарозе
з камянём непазбыўнай віны
Я ўвайду ў тое возера і разгайдаю званы,
І, аблашчаны Прошчай, за ўсіх,
каго проста люблю,
Памалюся, паплачу і свечку ў царкве запалю.

Залацістаю рыбай да берага свечка сплыве,
Залацістай змяёю слізне па шчаслівай траве,
І пчалой залатою паляціць над палямі яна,
Над вадой, над зямлёю; якая ва ўсіх нас адна.

Аднакрылую свечку
з царквы, што ўсплывае са дна,
Мне над возерам п р о ш ч ы
трымаць ад цямна да відна,

Вакол возера бераг
                                адзін,
                                        і нікуды з яго,
Як бы мы ні штурхаліся — не спіхнуць нам
                                                                        адзін аднаго.

Як бы мы ні шалелі ў натоўпах
                                                    ад лютых страсцей,
Паміж намі нямашака прышлых,
                                                      нязваных гасцей,
Толькі мы
                паміж намі —
І нам не над прорваю жыць,
А над Прошчаю жыць.
Так нядоўга,
                    як свечка гарыць.

*1993–1995*

## ПАЛАНЭЗ

### 1

Бывай, Яблонская, бывай!
Прабегла восень па фальварку —
І графіка такая ў парку,
Хоць парк у раму забірай…

Бывай, Яблонская, бывай!
Я застаюся па-за рамай
Карціны, што праз дождж відна:
Раяль, камін — і ты адна,
Стамлёная любоўнай драмай,
З бакалам белага віна…

Апошні раз прыгубіць дай —
Заторгні на карціне шторы!
Я кінуў твой пякельны рай,
Грукоча ў ночы поезд скоры:
Бывай, Яблонская, бывай!

Не стаў бакал на самы край!
Святло і цень дрыжаць падманна —
І ўсё разрывіста, туманна…
Цалую рукі, ясна панна,
Бывай, Яблонская, бывай!

Ад клавіш рук не адрывай!
У свеце, дзе вішчыць жалеза,
Пранізліва гучыць няхай
Акорд апошні паланэза —
Бывай!

### 2

«Ja kocham cię…»[1]
Ва ўсіх краях,
Спрасоння блытаючы мовы,
Я гэтыя пустыя словы
Знаходзіў лёгка на губах:

«I love you»[2],
«Я люблю вас»,

«Ах!» —
І галаву кружыла п’яна,
І новаю парфумай пах
Сюжэт банальнага рамана.

Я выдумляў яго, як мог…
А тут прыйшлі, каб выдумляцца,
Усе…
І плыў паркет з-пад ног,
І глухла зала ад авацый!..

Яблонская! Не дай нам Бог
Хоць раз яшчэ ў жыцці спаткацца!

3

«Я рада вас спаткаць…»
«Вы рады?..»

Прэм’ера.
Вайдаў фільм без Вайды[3].
Міцкевіч з Францыі лісты
Чытае Польшчы ўсёй…[4] Масты
У часе зводзяцца…

На сцэне
Акторы… Кветкі Тэлімэне,
Якую не сыграла ты —
Саперніцы яе прайграла…[5]

Як на цябе зірнула зала!
Яблонская! Як ты стаяла
Супроць усіх!..
Саперніц мала
Табе на сцэне і ў жыцці…

Руку маю, што спагадала,
З пляча ты скінула:
«Пусці!»

4

— Як «Пан Тадэвуш» вам?
— Ніяк.

Пустых размоў пусты скразняк.

— Вы не паляк?
— Літвін.
— Вы з Вільна?

Бамонд. Ківае фраку фрак —
І звоніць тэлефон мабільны:
«Не, сёння не…
Чаму так спешна?..»
Мы ўжо ўдваіх сярод усіх,
Мы ўжо адчулі млосны міг
Спаткання двух жаданняў грэшных…

«Аліцыя чытае вершы[6]
Грудзьмі. Нібыта корміць іх».

Ах, мы акторы! Брава, брава!
Як ні хітруй, а праўда ў тым,
Што ўсе мы хворыя адным:
Нам едкі дым — чужая слава,
Ну, а свая — салодкі дым.

5

— Пайшлі.
Тут скрозь на тварах грым…
— Я тут свая…
— Але з чужым.
— Я не збягаю ад паразы!
«У, ганарыстая, зараза…»

А трэба йсці было адразу,
Пакуль, як рыбіну ў траву,
Не кінула мяне ад фразы:
«Пра Польшчу фільм, а не Літву,
І мог Літву не згадваць Вайда», —
І ў бок мой — зырк!..

І вадаспадам
Шаленства ў скроні:
«Ну, ка-злы!»

Ска-а-ндал…

— Сказаць, на што ты злы,
З чаго твой форс, адкуль бравада?..
Нідзе Літвы тваёй няма!
А Польшча ёсць! І гэта праўда,
Бо Польшча ёсць — як я сама!

— Няма Літвы?!.
Мяне няма?..

— Я рада быць з табой!
— Ты рада?..

На сцежку восеньскага саду
Ступіла першая зіма.

6

— Я думаю, што вы вар’яты…
— Хто — мы?
— Літвіны. Род пракляты,
Дух страчаны праз вас жыве…
Калі няма сапраўднай страты,
Дык вы ствараеце яе.

Ты молішся, як прад абразам,
Прад тым, што спалена датла…
Калі ёсць я,
                    калі мы разам,
Скажы: нашто табе Літва?

Ну гэта ж прывід…
Здань…
Трызненне…
Ну што — Літва твая? Скляпенні?
Руіны? Замчышчы? Крыжы?

— А Польшча — што табе, скажы?

7

«О, Польшча!..»
Акрыліла рукі —
І да раяля…
«Польшча — гукі:
Накцюрн… мазурка… паланэз…
О, Польшча!.. Па фальварках бэз…
Варшава… Кракаў… Ясна Гура…»

Ляцелі над клавіятурай
Вякі, нібыта матылькі…

«О, Польшча!.. Скрозь усе вякі
Звон зброі — і харал касцельны,
І рух,
і рух,
і рух няўмольны
З нічога —
Да сябе самой…»

А восень пахла ўжо зімой,
Лядком пацягвалася рэчка,
Сняжынкі пырхалі ў акне,

І цень Яблонскай, нібы ў сне,
Хістаўся, як пад ветрам свечка,
То да мяне, то ад мяне.

8

Як свет хістаецца!..
Ад краю
Да краю…
То ляціць да нас —
То зноў ад нас…

— Я паміраю,
Яблонская…
— Не ў час… не ў час…

— Якраз у час! Ад асалоды
Кахання, музыкі, свабоды,
Ад страсці, а не ад хвароб!..

— Ты што:
маёй чакаеш згоды?
Дык страсць у Польшчы
выйшла з моды,
Смерць холадна цалуе ў лоб.

— Якая смерць! Гасподзь абраных
Музык,
Паэтаў,
Закаханых
На неба забірае ўсіх
У страсны міг, каб засталіся
Навечна ў ім!..
— І мы ў тым спісе?
І гэта мой апошні міг?

— Не выдумляйся… будзь маёю…
— Я рада быць тваёй Літвою…
Ты праўда ў ёй усёй крывёю —
Так, што шаленства ў скроні б'е?..
— Жыву я, каб любіць яе.

Ды час Літвы яшчэ не выспеў —
І я Літву прыдумаў, высніў,
І ў гэтым сне, нібы на выспе,
Згубіўшы ўсё і ўсіх, стаю…

Віна, Яблонская! Ці вып'ю
Я кроў блакітную тваю!

9

Літва! Ад слёз у горле горка,
Як назву вымаўлю тваю:
Літва! Па ўсёй зямлі стаю
Я на святых тваіх пагорках.

Дзеля чаго ўва мне ты будзіш
Надзею голасам крыві?
Літва! Ты ўжо была? Ты будзеш?
Калі жывая, дык жыві!

І калі ты не ў праху вояў,
Не ў мройным часе залатым,

А ў духу тым, што прагне волі, —
Тады ты ёсць, калі ты ў тым!

10

Літва мне снілася… Па Нальшы
Скакалі вершнікі…[7] Дзве чашы
Віселі ў небе —
Ні адна
На вагах не пераважала
Над краем, дзе адна вайна
З другой вайною межавала.

Трох вершнікаў на ўзгорках Нальшы
Не распазнаць:
Чужыя?..
Нашы?..
Я ў чашы зазірнуў:
Мячы,
Штандары ў чашах,
Прах ды косці…
Я ўзяў мячы — і па плячы
Ударыў нехта:
«Што за госці?» —
І павярнуў — да твару твар…

Тварэц Літвы, яе ўладар
Міндоўг паўстаў перада мною…
— А, гэта ты, — сказаў. — З Літвою
Даўно не бачыўся?.. Глядзі…
Вось гэты край з яго людзьмі,
Якім свой дух далі валоты,
І ёсць Літва. Далей балоты
І Жмудзь. Яе пад крыжакоў
Аддаў я, каб не ліць там кроў[8] —
І кінуць костку лацінянам…

Так проста ўсё! — а ў часе цьмяным
Зрабілася праз вас, бо вы
Забыліся, што Бог Літвы —
Агонь, а дух літоўскі — воля,
А праўда — воўк!..

— Я маю доўг
Перад табой? — спытаў я воя.

— Перад Літвой, — сказаў Міндоўг.

11

— Прачніся,
зноў праспіш дзяржаву…
Літоўскую былую славу
Найлепей каваю запіць…
— Яблонская, да д'ябла каву!
— Цішэй… цішэй… Варшава спіць…
Мой Бог, як я люблю Варшаву!
Жыву я, каб яе любіць.

А ты ўлюбёны ў міф… Найгорай
Жыць у былым… Там пуста… гола…
— Я не баюся пустаты.
— Таму і край свой кінуў ты,
І зараз тут і там чужы
Сабе і ўсім… Скажы, скажы,
Дзеля чаго зрабіў ты гэта?..
— Найперш, каб зратаваць паэта.

— Якога?
— Можа, не благога.
Я забывацца стаў, якога.

Ён у апошнія гады
Адчуў, што ўжо не малады,
Што ўсё спазнаў: каханне… славу…
Надзеў хамут, упрогся ў справу —
І паміраць пачаў…
— Тады
Прыдумаў сам сабе забаву?

— Лічы, што так… Яшчэ з ваўкамі
Не захацеў па-воўчы выць,
Хоць быў абкладзены сцяжкамі…
— І што цяпер? Літва за намі?..
— Маёй Літвою хочаш быць?

— Я рада быць тваёй…
— Ты рада?..

12

На ўзгоркі Нальшы коса падаў
Срабрысты дождж, і ў срэбры тым
Стаяў Міндоўг, а поруч з ім —
Ягайла, пяты сын Альгерда…[9]
— Калі не ведаеш, дык ведай, —
Прамовіў ён, —
Я крыжакам
Пацвердзіў Жмудзь пасля Міндоўга,
Бо не яна Айчына нам —
І ў нас няма прад ёю доўгу.

А доўг ва ўсіх у нас адзін:
Перад Літвою доўг вялікі
Яшчэ з пары, як Гедзімін
Заваяваў сталіцу вількаў[10].

Праз гэты доўг —
супроць Масквы —
Я з Польшчай ажаніцца мусіў[11],
Каб адстаяць Літвы правы,
Каб *лёс* Вялікае Літвы
Не стаўся *лёсам* Беларусі.

Ды ўсё дарма… Вы лес апелі.
Згубілі ўсё, што продкі мелі,
Ператварылі край ваўкоў
У край зайцоў…
Я маю права
Спытацца з глыбіні вякоў:
Вы хто — народ?
Вы што — дзяржава?
Адкуль, калі няма слядоў?

Пазнаўшы зайца па губе,
Вам Жмудзь пад нос паднесла дулю,
Як Беларусь вы на сябе,
На край літвінаў нацягнулі.

Вы разлучылі дух з крывёю
І, абрусеўшы пад Масквою,
Пад назвай, дадзенай Масквой,
Не сталі нават маскалямі,
А толькі назваю адной —
І тая назва стала вамі.

Вы — беларусы? Хто такія?
Ёсць Польшча,
Жмудзь,
Літва,
Расія —
Як вы ўшчаміліся сярод?
Адкуль з’явіліся? З балот?
З чаго зляпіліся? З туманаў?..
Такіх падмен,
Такіх падманаў
Не ведаў ні адзін народ.

І што цяпер? Хай так і будзе,
Абы не горш? Вы што за людзі:
Вам звацца хочацца людзьмі,
Ці імі быць,
Ці біцца ў грудзі —
Ці ўстаць за крэўны край грудзьмі?

13

— Згарае свечка ўжо.
— Задзьмі.

— Яблонская, гары ўсё гарам,
Каб не было па чым тужыць!..
Радзіма сталася таварам!
Як на такой Радзіме жыць?

— Не піць, калі Варшава спіць.
Ёй да Літвы якая справа?
— Літву і прадала Варшава!
— Хай так. Не мне яе судзіць.
Жыву я, каб яе любіць.
Сагрэй мяне. Акаляваю.
— Сканаю я праз польскіх краль…

— А што за прозвішча: *Ня-кля-еў?*
— Расейскае.
— Дык ты маскаль?
Ты не літвін?
— Я ўжо амаль
Спалячыўся з табой…
— Адказвай:
Ты хто — маскаль?!
— Я гэткай назвы
Не ведаю.
— Маскаль! Маскаль!
І я — з табой?
— На жаль…
— На жаль?!
Ты жалішся?!. Ды продкі ў трунах
Перавярнуліся!..
Са мной,
З Яблонскай быць табе?.. З Матрунай!
— На сене ў хлеве быў з адной.
— Ты хам!!!
— Я знаю тое, хто я!
А што ў цябе за патайное
Двайное дно?.. Які палёт!
Якая страсць! Скуль што ўзялося?
— З таго, што ў кроў маю ўжылося,
Што дзікуны — ад нас на ўсход!
— А вы для немцаў не народ!
А немцы — хамы для ангельцаў!..
Ну колькі праз пагарды шкельца
Глядзець адзін на аднаго?!
— І ты яшчэ вучыць! Каго?
Яблонскую?! Ды род мой…
— Знаю!
Праз род свой ты, як сучка, злая.
Шалееш з пыхі і дурнот.
— Ты што сказаў?.. Яблонскіх род…
— Што за размова ў нас дурная!
— Перапрашай за дурасць! Кленч!
Не дакранайся! Не пярэч!
Хто-небудзь,
                    дайце хаму рады!..

14

Пайшла зіма другая прэч
Па сцежцы восеньскага сада.

— Я рада быць з табой…
— Ты рада?..

— Даруй… Не знаю, што найшло.
Ты праўду мне сказаў пра шкло:
Мы — вас, а нас — яны… Пагарда
Спрадвек жыве… Яна ў крыві…
Ты болей сучкай не заві
Яблонскую!
— Даруй.
— Дарую.
— Дык, можа, вып’ем міравую?
— О, Божухна!… Маскаль… п’янтос…
Яблонскую за грудзі трос…
— Дый ты —
                    як чорт цябе панёс…

— Я маю права! З каралямі
Мой род на роўных…
— Зноў пра род?
— Мне што: вады набраць у рот?
Мой род пабіты маскалямі
Амаль на скон! Дык я адплаты
Магу жадаць?
— Калі ўсе страты,
Былыя крыўды ўсе лічыць,
Як жыць? Што будзе нас лучыць?
Пара на гэта ўсё забыцца…
— Ні з кім я не хачу лучыцца!
Там Азія! Там вечна зло
Жыло!
— А ў Польшчы што жыло?
Адно дабро? Хадзілі ляхі
На маскалёў?
— Якія страхі!
— Цяпер, канечне, страх які!
А з двух бакоў ва ўсе вякі
Таптапі Беларусь, палілі,
Не род —
Народ на скон пабілі,

Дык я ж маўчу!
— Ну і маўчы!
Скачы жанглёрам на мячы!

І што вы там, дальбог, за людзі?
Вайна з вас выбіла мужчын?
Яблонскіх род скакаць не будзе
Ні перад кім, ні перад чым!
За Богам у палякаў — гонар.
І не бывае долі горай,
Як жыць без гонару! А вы?..
Вам ад Масквы б — за лес, за горы,
А вы лясамі — да Масквы.

— А лепш было б, каб да Варшавы?
— Ні да каго! З літоўскай славы
Чаму вы гонар не ўзялі?
Бог даў вам месца на зямлі —
Дык стойце там належным чынам!..
За гонарам ідзе Айчына.

— Даволі. Мы не ў польскай школе.
— Народы б'юцца ўсе за волю —
А вас у волю не ўпіхнуць…
У лес збягуць — і ў ім жывуць,
Жывуць, жывуць…
— Мы партызаны…
— Жартуй сабе… Занадта рана
Сабраўся ты ўсіх нас лучыць…
І як! Міцкевіча лічыць
За беларускага паэта!..
Якая бздура ў галаве!

— Яблонская! Сцячэ, сплыве
Усё нязлучанае ў Лету,
Як пыл пасля дажджу з дарог…
— Касцёл з царквой не злучыць Бог!
— Адкуль ты можаш ведаць гэта?

— Пайшлі ў касцёл! Прамовіш Крэда?..
Калі злучацца, дык злучыся
Малітваю…
І возьмем шлюб! —
…І зноў пагардліва сышліся
Маршчынкі па краёчках губ.

«Ах, ты…»
— Пайшлі!
— У Ясну Гуру
Паедзем?[12]
— Хоць у Ватыкан,
Калі ўжо бздура прэ на бздуру!..

## 15

Дарогу засцілаў туман.
— Дай я паеду.

Ты нервова
Тапіла ўсё глыбей педаль…

— Дык ты спалячыўся амаль?
Праз тры гадзіны адмыслова
Спалячышся… На ўсё жыццё…

Прымерзла мокрае лісцё
Да шкла.
— Дай скіну.
— Здзьме ў дарозе.

Нібы на «хуткай дапамозе»
Кагосьці везла ратаваць,
Ты гнала.

— Кінь ты гэтак гнаць,
А то й каталікам не стану…

Насустрач рваліся з туману,
Сляпілі колкія агні…
— Яблонская, ну не гані!

— Няўжо баішся, праваслаўны?
Чапляешся за гэты свет?..
Сюжэт мы закруцілі слаўны:
Раман!.. Акторка і паэт!..
Класічны ў нас з табой сюжэт —
І ўжо фатальны, непапраўны.

— Дай руль!
— Не дам.
Дакладна ролі

Распісаны.
Табе — твая.

— Яблонская, пад хвост шляя
Табе папала?..

Прапаролі!
Прабілі кола!..
Слізгата…
— Газ скідвай!

Завішчэлі шыны!..
— Не тармазі!

Удар!
Машына
Сустрэчная —
уніз з маста.

Звон у вушах і пустата.

16

І Вітаўт з пустаты і звону
Сказаў:
— Няма ў Хрысце Хрыста,
Калі ягонага закону
Няма ў табе. Прымі закон.

Сівы, як кургановы сон,
Стаяў з Міндоўгам поруч ён,
Абодва — даўніна сівая…

— Па белым снезе кроў сцякае, —
Казаў далей ён. —
Гэта — шлях.
Яго пачаў я пад Дуброўнай[13].
Самой сабе там стала роўнай
Літва — і прырасла на Жмудзь.
Шлях не даваў мне Жмудзь вярнуць
Зноў крыжакам. Так перамога
Паразай стала. Жартам Бога.
Так Жмудзь Літвою прырасла. —
Туга ў вачах яго плыла…

— Ты плыў, як човен без вясла, —
Працягваў Вітаўт, — і заблытаў
Сябе і ўсіх… Цяпер *забіты*
Паўстане на шляху тваім…
Ты ведаеш, што будзеш з *ім*
Рабіць?..
                    Не ўсе пра тое знаюць…
Шлях можа стаць зусім пустым.
Забітымі не прырастаюць.

Забітых дух —
                    атрута ў целе.

Абедзве чашы апусцелі,
Як ты ў іх зазірнуў… Згарні
Штандары, а мячы
                    вярні.

— Каму вярнуць?.. Вы здані, міты…
На вас кальчугі ўсе прабіты,
Вы ў ранах з галавы да ног!..

— Вярні мне меч! — закончыў Вітаўт.

— Вярні мне меч! — пачаў Міндоўг. —
До слоў!
За зброю зноў бяруся.
Скажу адно —
                    што ў той раз мусіў
Сказаць, але забыўся ў скрусе,
Бо ўжо сівая галава…
Няма ніякай Белай Русі,
А ёсць Вялікая Літва!

І хітрая Літва малая,
Былая Жмудзь, пра тое знае,
Вялікая — не хоча знаць…

З чаго ты польку ў жонкі ўзяць
Надумаў?..
                    Вітаўт праваслаўным
Пражыў жыццё — і беспадстаўна
Надзеі меў на польскі трон…
Ты чуеш пустату і звон?..

«*Цудоўны цяг імкне вышэй,* —
Шапталі мне два сны сівыя, —
*Літоўскі Зьніч гарыць ярчэй,*
*Чым крыж на полацкай Сафіі,*
*Чым на любым касцёле крыж…*»

— Князі Вялікія! Спарыш —
Адзін арэх ці два? — спытаў я. —
Каталіцызм і праваслаўе —
Не той жа шлях?

«*Наш шлях —*
*паміж, —*
Шапталі сны, —
*не берагамі,*
*А рэчышчам, ракой самой.*
*Пакінь усё і кроч за намі…*»

17

…І нахіляўся паміж снамі,
І плыў са снамі нада мной
Яблонскай твар… Бялей, чым белы…

— Ты цэлая?
— Ты цэлы?
— Цэлы,
пайшлі…

Абрыў.
Рака ў тумане.
Разбіты «Паланэз».

«Канец!..»

Мужчына малады ў сутане.
— О, Божухна!.. Святы айцец…
— Ты ведаеш яго?..

Сталёва
Шарэў твой твар…
— Ён з Чанстахова…
На Яснай Гуры меў служыць…

Мы да яго…
— Не можа быць…

— Паслаў яму Гасподзь збавенне
Ад нас…
Што ж мы ўчынілі?..
Жах!..

Ён жыў яшчэ… Не страх — здзіўленне,
Як шкло, плыло ў яго вачах.

«Так быць не можа, бо не можа
Так быць ніяк, ніяк, ніяк!..
Ну што ж гэта такое, Божа?!.
Ну што за знак?.. Ну што за знак?..»

Паліцыя.
— Вы разам?
— Так.
— Хто за рулём быў?
— Я.
— Няпраўда!
Я за рулём была.
— Ну, што ж…

— Мы ўсё зрабілі як найгорш —
І ўсё ж, і ўсё ж, і ўсё ж, і ўсё ж
Я рада быць з табой…
— Ты рада?..

З нябёс
        на лёс,
                на аўтастраду —
Са снегам дождж,
Са снегам дождж.

18

Ксёндз Караль Корсак, я без скуры…
Крані. Глядзі: на пальцах кроў.
Звіняць званы на Яснай Гуры:
Радзіны… Хрэсьбіны… Хаўтуры…

Сюды ідуць з усіх краёў,
Каб памаліцца, пілігрымы,
А я тут — хто? А я — чаго?
Мне б міма Яснай Гуры, міма
Канстанцінопаля і Рыма,
Што маюць Бога аднаго,
А служаць так яму, нібыта
Іх два — і нейкі большы з двух!
І колькі вернікаў пабіта,
Каб правіў каталіцкі дух
Альбо каб правіў праваслаўны!

А ў тым, які з іх болей слаўны,
Не разабрацца без вайны!
І б'юцца веры абаронцы, —
І гора, гібель той старонцы,
Дзе ў бітве сходзяцца яны!

Хто злічыць бітваў гэтых страты?..

— Вы хто такія? Уніяты?
Палі давай! Тут рускі край!
— Тут польскі край! Палі давай!

І кроў на кроў, і брат на брата…
Як Бог дарue, дык няхай.

Тады, апроч зіхоткіх зорак,
Нічога ў небе.
Вечнасць. Смерць,
З якой злучыўся Караль Корсак
Праз тое, што не зразумець.

19

Зіма ў Варшаве. Трэці снег
Ляжыць на ружах, як газета…
Не думаў я, што мой пабег
Перабяжыць за межы лета.

Раман акторкі і паэта
Яшчэ не скончаны. Але
Працяг ягонага сюжэта —
Чарнавікамі на стале.

Усё, што ў ім было прарочым,
Ужо звяршылася. Далей
Так можа быць, як мы захочам
Ці як прыдумаем, але…

20

Слізнуўся лёс па трасе коўзкай —
І развяліся ўсе масты…
Прад Боскай Маці Чанстахоўскай,
Каменная, стаяла ты.

Пра што малілася?.. Каб кара
Цябе мінула?.. Стала сном
Усё, што стала?..
Корсак Караль
Хістаў сусвет над абразом.

21

Як свет хістаецца!.. Ад краю
Да краю — і ад нас, ад нас…
— Не дакарай…
— Не дакараю…
— А помніш?..
— Помню…

Кожны раз
Праз сілу і скрозь слёзы — ласкі…
— Яблонская, ну, калі ласка,
Вярніся жыць!..
— Як жыць?.. Канец
Жыцця… Канец любоўнай казкі…
Святы айцец… Святы айцец…

— Не мучайся… Жыцця пракосы
Зноў зарастуць… Жыві травой…

І ты ківала галавой,
Як завадная лялька…

Корсак!..

22

Ён цікаваў цябе. Паўсюдна
Ён быў з табой, як з целам цень,
Як з духам здань… Яму падсуднай
Ва ўсім была ты… Кожны дзень
Насіла на магілу кветкі…

23

Банальныя ў сюжэце меткі:
— Ты не кахаў мяне!
— У сведкі
Я клічу Бога, што кахаў!..
— Ты бавіў час! Ты забаўляў
Сябе!.. —

І мяўся край сурвэткі,
І кубак каву праліваў.

24

Ты плакала… Саперніц мала
Табе ва ўсім — і не ставала
Для плачаў слёз… вачэй саміх…
Да донца выплакаўшы іх,
Ты прашаптала так не ўслых,
Ты моўчкі так *даруй* сказала,
Што больш сказала, чым
*бывай*...

25

— Бывай! Я пакідаю край,
Дзе стаў табой смяротна хворы!..
— Бывай! Чакай! Мы ўсе акторы!..
Бывай… Даруй! Не пакідай!..

І так да немачы, да зморы:
Як ноч: *даруй*...
Як дзень: *бывай*...

З двух галасоў — які прарочы?..
Ці той, які мне чуўся ўночы,
Ці той, што ўдзень?..
Ды ўсё на злом,
Як з ночы ў дзень, як дзень за днём…
Касцёл… малітвы…

Дом сірочы
Нам гэты свет, дзе мы жывём.

26

Фальварка гулкія пакоі
Палохалі — такім пустым
Здаваўся дом, нібыта ў ім
Жывуць два цені,
зданяў двое…

Глухому чуецца глухое.
Сляпое бачыцца сляпым.

27

Я пакідаў… Вяртаўся зноў…
Зіма марнела ад дажджоў,
Плылі, цяклі сляпыя хмары…

Ты ўсё чакала помсты. Кары
Ты ўсё шукала — я знайшоў
Яе… Ты мне сказала:
— *Караль…*

28

Так паміраюць… Я ўжо блытаў
Сябе і Караля, нібыта
З ім чаргаваўся…
«Ты з *забітым*
Як будзеш жыць?..» — штоноч,
штодзень
З'яўляўся і пытаўся Вітаўт…

І я сачыў то здань, то цень —
То цікаваў сябе самога!..

«Вазьмі мой слых, — маліў я Бога, —
Мой зрок вазьмі — і ёй вярні!..»

29

— Як змрочна! Запалі агні…
— Гарaць…
— Гарaць?.. Чаму так цёмна?!.
Ён там! За імі!!.
— Не крычы…
— Як глуха!.. Музыку ўключы…
«Каханая, мы непрытомна
Жывём…»

30

«Каханы, мне ўжо сілы,
Каб жыць на яве, не стае…»

— Давай адыдзем ад магілы,
Яблонская! На край яе
Каханне ставіць рызыкоўна —
Цікуюць мёртвыя жывых!..

— Жывы ён!!.
— Мёртвы!!!

Зрок і слых
Замгліліся ўва мне раптоўна.

31

Сляпы, глухі ў чужой краіне…
«*Ты ж сам маліў*…»
Яна пакіне
Мяне!..
«*Кінь першы*…»
Як?.. Не стыне
У жылах кроў — пульсуе, б’е!

Рука Яблонскай на ілбе
Дрыжыць, і на губах салёна —
Сляза!..
Няўжо яна па мне?..
За што мне — так кахаць шалёна?
Так слепа! Глуха!

32

Сон у сне! —
І сон за сном вяроўкай звітай…
— Яблонская, мы здані?.. Міты?..

Зноў скачуць па дарозе збітай
На снежна-белых конях Вітаўт,
Міндоўг, Ягайла… Не спыніць
Пагоні — і яна ляціць,
І дыбіць, гоніць, сцеле коней,
І не суняць яе па сконе
Маім, тваім!.. Яна з грамамі,
                    з маланкамі
                              у чарадзе!..
Яна
  блішчыць,
        грыміць,
              гудзе!..
«Яблонская! Літва за намі!»

33

— Ты дзе, Яблонская, ты дзе?..
Я бачыў! Чуў я лёт Пагоні!..
Я не сляпы! Я не глухі!..

«Я тут», — паклаліся далоні
На лоб гарачы і сухі.

«Агонь!..»

34

«Я тут, з табой…»

У доме
Палаў агонь, быў дом агнём
І домам, яваю і сном
Адначасова — і *суомі*[14]
Пачуў я слова…
Снежны слуп
Паўстаў у самай сарцавіне
Агню…
«Яна мяне пакіне?..» —
Спытаў я ціха, і да губ
Той слуп — манах у белым — палец
Прыклаў. *«Табу… Табу… Табу…*
*Вам трэба Польшчу і Літву*
*Пакінуць, вас тут спаліць памяць…*
*Тут кроў і слёзы… Прах і тлен…»*
— А ў доме што?..
*«Імёны паляць.*
*За іх тры веданні ўзамен*
*Даюцца з таямніцы Т а о…»*

Яблонская ўвайшла і стала
Каля сцяны агню. Яна
Была ўся ў белым.
— Ты спаліла
Імя? — спытаў я. Як сцяна,
Яна маўчала.
*«Тайнай сіла*
*Павінна быць, каб сілай стаць, —*
Пачуў з агню я. — *Напісаць*
*І ўсё спаліць — вось сілы тайна…»*
— Цябе прымусілі?.. — спытаў я. —
Таму
        імя ў цябе
                    няма?!.

З агню сказалі: *«Не, сама…»*

Я напісаў —
Маё імя
Спаліў манах…

Спазнаў я *Тао*[15].

35

*«Ты тыя веданні спасціг,*
*Якіх спасцігнуць нельга з кніг —*
*Для веданняў няма пісьмёнаў…*

*Шэсць дзён міне, і ты на сёмы*
*Народзішся з трызненняў, сноў,*
*Каб помніць пяць магічных слоў,*
*Чытаць іх вогненныя знакі…»*

— А сёння дзень які?..
*«Ніякі.*
*Апошні ў аніякіх днях,*
*Табой пражытых. Пыл і прах.*
*Страсі іх. Кінь усё. Ідзі…»*

36

І дом гукнуўся мне людзьмі,
Якімі поўны быў…
— Глядзі, —
Яблонская сказала. — Слухай…

Я чуў і бачыў. Мне на вуха
Шапнуў манах у белым:
— Сёмы
Сягоння дзень…

Ён быў знаёмы
Аднекуль мне. Ягоны твар
Усмешка залівала.
— Сёмы
Сягоння дзень…

Нібыта вар,
Сінечаю кіпелі вочы
На смуглым твары.

— Той, хто хоча
Спазнаць — спазнае…

Ён прарочыў,
І мне, няведама чаму,
Быў зразумелы сэнс замглёны
Прароцтва… Я *чытаў імёны*
Усіх, хто быў тут, — *у агні*…

Пераствараў на сёмым дні
Недасканалую прыроду
Агонь…

І — як апёк! — свабоду
адчуў я…

Вольны стаў ад той
Жанчыны, што была Літвой,
І ад Літвы самой,
ад праху,
Крывёй залітага, слязьмі!..

Манах падаў агонь:
— Вазьмі!.. —
І ўзяў агонь я з рук манаха.

37

*«Свабода ў таямніцы — тое*
*Адзінае, што не пустое,*
*Што стрыжань, а не абалонь,*
*Не бляск агню, а сам агонь,*
*З якім ты ўжо не прападзеш*
*У безданях міжгалактычных,*
*Дзе ў вочы Бога зазірнеш*
*І вымавіш пяць слоў магічных…»*

38

Гары, палай, святы агонь!..
Сцяжына тайны — бакавая…
Яблонскай лёгкая далонь
У валасах маіх блукае,
І мы, зблуканыя, удвох,
Удвох, бо нас кахае Бог,

І нам, пакуль агонь не згас,
Сцяжынай тайны не спыніцца…
— Бывай, Яблонская… Мне час…

Мы з ёй пасвечаныя, нас
Агонь яднае. Таямніца.

Там слупам снег. Там тайны знак
Расстання. Гэтак выпадае…

Каханне не яднала так,
Як таямніца нас яднае,

І тайна таямніцы той
У глыбіні не разгадана:
Каханне ўсё ж схавана ў ёй,
Ці таямніца ў ім схавана?

39

Я пакідаў Варшаву. Снег
Ляжаў на ружах, як газета…

О, пыл газетны!.. Прах уцех
Юрлівых, хуткіх… Цьфу на гэта!
Мышам усё ды пацукам!..

Што там было — мінула там,
Прапала. Толькі пыл віруе…
Дарую і былым сябрам,
І ворагам былым дарую.

І забываю, забываю…

Ідзе жыццё… Гарыць агонь…
І ў валасах маіх блукае
Яблонскай лёгкая далонь.

40

Бывай, Варшава! Як шчыміць!..
І слёзы выціскае вецер…
Калі Варшаву не любіць,
Дык што тады любіць на свеце?

Ёсць нешта ў ёй ад каралеў
З крывёй блакітнай, ганарлівай…

І міласць зведаў я, і гнеў
Твой каралеўскі… Будзь шчаслівай.

Бывай! Бывай!.. Усё міне,
Але і на краі магілы
Згадаю я, што ты мяне
Прылашчыла і прытуліла
У скрутны час…
Той час прайшоў —
І пуста там, нібы на пожні…

Кружу па плошчы Трох Крыжоў,
Шукаю сіл на круг апошні,

А стуль, дзе каралеўскі парк,
Дрыготка музыка ўсплывае,
Такая музыка, такая,
Што як жа так?!. Што як жа так —
Расстацца з ёй?!.

Ды што ж, ды што ж —
Пара!.. Над Віслай слепне дождж,
Смуга над Скарышэўскім садам —
І мроіцца: «І ўсё ж, і ўсё ж
Я рада быць з табой…»

Ты рада,
Варшава?..

Спеў апошніх нот
Згасае рэхам…
Пераправа,
Налева мост — і мост направа,
І невідушча Жыгімонт
Глядзіць услед…

Бывай, Варшава!

*Снежань 1999 – сакавік 2000, Варшава*

# ПЕСНІ

## СВІТАНАК

Птушкі ў вырай ляцяць,
Не пакінуўшы ў гнёздах нікога,
У знямелых лясах ападае лісцё да вясны.
Гэта наша пара —
Нас паклікала з дому дарога,
А матулям пра нас будуць сніцца бясконцыя сны.

Узняўся над лесам світанак крылаты,
І зорка
Упала,
Як кропля з вясла…
Там кружыцца бусел над роднаю хатай,
Чакае матуля мая…

Ад крынічнай вады
На губах застаецца гарчынка,
На суровай мяжы падае нам удача руку.
З краю ў край над зямлёй
Праплывае-плыве аблачынка,
Як хусцінка плыве, што ўпусціла матуля ў раку…

## ГУЛЯЦЬ ДЫК ГУЛЯЦЬ

Сёння ў нашай хаце свята —
Калі ласка, ў нашу хату.
Гэй, рады спаткаць,
Гуляць дык гуляць!

Сёння гудзе ад ранку ў нас гулянка,
А ўчора з вячора,
З намі гуляй, хто хоча,
Хоць да ночы,
Хто адгуляў — спачывай.

Ліха з горам ды бядою
Скосім разам з лебядою.
Гэй, кінь гараваць,
Гуляць дык гуляць!

Покуль жывы ў свеце людзі,
Так ці гэтак — неяк будзе.
Гэй, жыць — не ўміраць,
Гуляць дык гуляць!

## РАЗ ДЫ РАЗОК

Ой ты, віно-гаркота,
Піў бы, каб не лянота,
Толькі я не зляную
Чарыцу зеляную.
Раз ды разок з разочкам
Чарка пайшла кружочкам…
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам.

Ой ты, любоў-ламота,
Млеў бы, каб не лянота,
Толькі я не зляную
Дзеўчыну маладую.
Раз ды разок з разочкам
Ды пад бачок на ночку…
Раз ды разок ды пад бачок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

Ой ты, жыццё-маркота,
Жыў бы, каб не лянота,
Толькі я не зляную
Маці-зямлю сырую.
Раз ды разок з разочкам
Вырасту васілёчкам…

Раз ды разок сінь-васілёк
Ціха празвоніць званочкам.

Ой ды я не зляную
Чарыцу зеляную,
Дзеўчыну маладую,
Маці-зямлю сыруюю.
У распісным вазочку
Дням пралятаць ды ночкам…
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам,
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

## ГОРА ЗА ГАРОЙ

Не бывае, каб бяскрылы,
А лятаці можа,
Не бывае, каб нямілы,
А такі прыгожы.
Ды бывае, што крылаты,
А не трэба крылы,
І бывае, што багаты,
А такі нямілы…

Гой, гой — гора за гарой,
Гары яно гарам
Гора з бядой!

Гой вы, гуслі-самаграі!
Музы́кі сівыя!
Вы спявайце ў родным краі
Песні векавыя!
З небыцця гукайце, гуслі,
Гусляроў у зрэб'і,
Непадкупных, неспакусных
Золатам і срэбрам.

Не кранайце толькі, гуслі,
Успамінаў хмары:
Як плылі над Белай Руссю
Войны ды пажары.

Як зямля мая стагнала,
Плакалі каменні…
Як было і так нас мала —
І як стала меней.

## ЯНКА КУПАЛА

Зорка ўпадзе на зямлю веснавую,
І прарасце з яе зорны прамень.
Сейбіт ідзе,
Месяц у вырай вяслуе —
І пачынаецца заўтрашні дзень.

Янка Купала —
Песню зямля ўскалыхала.
Янка Купала —
Выспела песня і ўстала.
Янка Купала —
Песню на крылах панеслі
Белыя гусі,
Белыя гусі над Руссю над Белай…

Сейбіт ідзе,
Ён хады не спыняе,
Покуль гудуць веснавыя званы,
Заўтрашні дзень песнямі ён засявае,
Каб на зямлі красавалі яны.

Светлай вадой з глыбіні б'юць крыніцы,
Звоняць з вышынь веснавыя званы.
А над зямлёй песня, як злом бліскавіцы,
Над курганамі сівой даўніны.

## ЗАМОВА

На клёнах зноў лісцё згарае,
Злятаюць дні з календароў.
Якая далеч ветравая,
Якая светлая любоў!

Лёс, як віно на палыне,
Але прыйшло выратаванне:
Тваё каханне да мяне —
І да цябе маё каханне.

Блакіт вачэй тваіх вясновых
Мой лёс прасвечвае да дна.
Мая малітва і замова —
Тваё імя, тваё імя.

Калі ж праб'е пара разлукі,
Скажу замест расстайных слоў:
«Цябе ад болю і ад мукі
Хай зберажэ мая любоў!»

## БЕЛАЕ ВІНО І ЧЫРВОНАЕ

У крышталь зара вечаровая
Налівала нам
Белае віно і чырвонае
Роўнае напалам.
Росстанню было замучонае
Шкло крыштальнае,
Белае віно і чырвонае —
Развітальнае...

Белае віно і чырвонае —
Кожнаму сваё.
Натачонае залачонае
Лёсу вастрыё.
А жыццё такое кароткае,
Знічкай прамільгне,
А віно такое салодкае,
Горкае на дне.

Дзве зары-зары, дзве крыштальныя
Толькі ўспамінаць,
Вечаровая і світальная
Разам не гараць.
Рассякае нас натачонае
Лёсу вастрыё,

Белае віно і чырвонае —
Кожнаму сваё…

## ВІНШАВАЛЬНАЯ

Уславім любоў — і ў гонар любві спяём,
Вясёлым віном бакалы паўней нальём,
І вып’ем з любоўю, дай Бог не ў апошні раз,
Яшчэ раз
За тых, каго помнім, яшчэ раз за ўсіх за нас.

Мы першы бакал уздымем па праву
За Белую Русь, за нашу дзяржаву,
За славу яе, за гордую славу —
Нам ёй даражыць.
За спеў салаўёў у вечных дубровах,
За сінь васількоў на ўзмежках жытнёвых,
За шчасце любіць, за шчасце на свеце жыць.

Уславім сяброў — і ў гонар сяброў спяём,
Вясёлым віном бакалы паўней нальём,
І вып’ем з сябрамі, дай Бог не ў апошні раз,
Яшчэ раз
За тых, хто не з намі, яшчэ раз за ўсіх за нас.

Уславім жыццё — і ў гонар жыцця спяём,
Вясёлым віном бакалы паўней нальём,
І вып’ем да донца, дай Бог не апошні раз,
Яшчэ раз
За яснае сонца, яшчэ раз за ўсіх за нас.

## ЛЮБЛЮ

Табой жыву, табою дыхаю
І шумным днём, і ноччу ціхаю,
Ты ў снах маіх закалыханая,
Адзіная, каханая.
Далёкай зоркаю над месяцам
Тваё імя ў нябёсах свеціцца,

Каханая, ды не спатканая,
Нязбытная, нязнаная.

Я імя тваё малітваю светлаю вымаўлю,
Я люблю цябе, нязбытную, нязнаную люблю.
Я цябе ў небёсаў вымалю
З высяў зорных на зямлю
І малітвай светлай вымаўлю:
Люблю, люблю, люблю.

Хоць не спаткаліся ў сусвеце мы —
Пяшчотай пальцы нашы сплецены,
Я ў снах гукаю зорку дальнюю,
Халодную, крыштальную.
Праз шал жыцця з другога берага
Дарогаю да храма белага
Я да цябе іду з малітваю,
Каханая, нязбытная.

## ЗЕМЛЯКІ

Бераг роднай зямлі,
Бераг роднай ракі,
Дзе высока звіняць жаўруковы званкі.
Не бываю нідзе я шчаслівы такі,
Добры дзень, добры дзень,
Землякі, землякі!

Добры дзень, землякі,
Добры дзень, землякі,
Добры дзень!
Добры дзень вам, жанчынкі,
І вам, мужыкі,
Добры дзень!
Пры накрытым стале
Пасядзім, папяём,
Дарагія мае,
Мы яшчэ пажывём!

Добры дзень, землякі,
Добры дзень, землякі,
Добры дзень!

Не бываю нідзе
Я шчаслівы такі, —
Добры дзень!
Хай вас гора міне,
Шчасцем поўніцца дом,
Пасядзім, папяём
За святочным сталом!

Да шчымлівай тугі
Гэты край дарагі,
На Дзвіне, на Дняпры
На Каляды снягі.
На Купалле вянкі
На Дняпры, на Дзвіне, —
Землякі, землякі,
Добры дзень, добры дзень!

## ЗЯМЛЯ МАЯ БЕЛАКРЫЛАЯ

Птушкам з выраю, птушкам з выраю
Кожнай вясной вяртацца да тваіх дуброў.
Ты, зямля мая белакрылая,
Бераг высокі белых буслоў.

Сіні дым над пералескамі,
А над ім неба палескае,
Над усім сіла нябесная,
Над усім краем маім.

З даўняй даўніны аблачынамі
Ціха плывуць у небе думы курганоў.
Ты, зямля мая, белакрылая,
Бераг высокі белых буслоў.

Стану птушкаю і над пушчаю
Я паплыву у вырай, каб вярнуцца зноў
На зямлю маю беларускую,
На белы бераг белых буслоў.

## КАЛЯ БРОДУ КАЛІНА

Каля броду каліна,
Пад калінай дзяўчына
Мые косы, мые плечы белыя.
Косы вымывае,
Скоса паглядае:
Дзе вы, хлопцы, дзе вы, хлопцы смелыя?

Каліна-ягада яшчэ няспелая,
Не баіцца хлопцаў дзеўка смелая.
Дзеўка смелая, спелыя гады,
Ой, пара з ёй ісці па ягады.

Хлопцы ма́лы-драбненькі,
Ды адзін удаленькі,
Ён да дзеўкі пад прыпеўкі коціцца.
Ну яго прыпеўкі,
Пачакай ты, дзеўка,
Каля броду ваяводу ці купца.

Каля броду каліна,
Пад калінай дзяўчына,
Берагамі быстрая бяжыць вада.
Едуць ваявода
Ды купец да броду,
А з каліны ўжо сарвана ягада.

## СІНЬ-ВАСІЛЬКІ

Воляй нябёс
Вытканы лёс,
Як васількамі святочны абрус.
Доля адна,
Воля адна,
І ты адна на ўсіх нас, Беларусь.

Сінь-васількі,
Сінь-васількі
Ды верасовыя сінь-туманы,
Дзе мне ні быць,

Сніць мне і сніць
Пра Беларусь васільковыя сны.

Доля мая,
Ведаю я,
Што на зямлі не пражыць без спакус,
Ды колькі жыць,
Столькі любіць,
Столькі маліцца мне за Беларусь.

З неба, дзе сінь
Боскіх вышынь,
Сыплюцца зоркі на белы абрус,
І ўсё ляцяць,
Крыллем шумяць
Белыя лебедзі праз Беларусь.

## БЕЛАРУСКІ АНЁЛ

Са сцюдзёных крыніц зоркі п’юць наранку,
І агнямі гараць серабрыстыя росы,
І высока ляціць мой жураў-жураўку —
Белакрылы анёл беларускіх нябёсаў.

Ціха ясніцца дзень ад чырвоных калін,
Над лугамі плыве спеў салодкагалосы,
Аніколі, нідзе ты мяне не пакінь,
Белакрылы анёл беларускіх нябёсаў.

На пагоркі зіма сцеле белы абрус,
І кладуцца снягі, нібы травы ў пракосы.
Ад бяды і ад зла захіні Беларусь,
Белакрылы анёл беларускіх нябёсаў.

## МАЯ ДАРОГА

Шлях мой зямны, мая дарога —
Больш я не маю анічога.
Ёсць яшчэ ў высях шлях нябесны,
Ды я не знаю, ці ўваскрэсну.

Ды я не ведаю, ці сняцца сны
Там пра чароўны край лясны,
Дзе ўсё вядзе мяне дарога
Полем, дзе пасланы туманы
Далёка…

Ёсць у мяне мая дарога —
Што ж мне яшчэ прасіць у Бога?
Ён мяне з неба пагукае
І на аблоках залюляе.
Ды я не ведаю, ці сняцца сны
Там пра чароўны край лясны,
Дзе ўсё вядзе мяне дарога
Полем, дзе пасланы туманы
Далёка…

## ВАСІЛЬКОВАЕ ПОЛЕ

Ці дуда, ці жалейка —
А то грае, то не.
Дзень ад раніцы жнейка
Жыта жне, жыта жне.
А па полі далёка
Васількі, васількі,
А над полем высока
Жаўрукі, жаўрукі.

Ці дуда, ці жалейка — мая доля і воля?..
Пасцялі ты мне, жнейка, васільковае поле.
Каб над полем пяялі жаўрукі, жаўрукі,
Каб мяне калыхалі васількі, васількі.

Жнейцы не гараваці,
Жнейцы не бедаваць.
Адно поле дажаці
І другое пачаць.
А па полі далёка
Васількі, васількі,
А над полем высока
Жаўрукі, жаўрукі.

А ці шчасце, ці гора
Доля крые на дне?..
Сядзе сонца за гору,
Жнейка жыта дажне.
А па полі далёка
Васількі, васількі,
А над полем высока
Жаўрукі, жаўрукі.

## ЖЫЦЬ — НЕ ТУЖЫЦЬ

А я жыў, ды раптам затужыў,
Зажурыў, нібы жыццё пражыў.
І я стаў гадаць ды варажыць,
Як на белым свеце жыць — не тужыць.
Я спытаў у белых жураўлёў:
А ці знаў, ці зведаў я любоў?
І мне з неба пракрычалі жураўлі:
«Без любові ты б не жыў, ой лю-лі…»

Ой лю-лі, лю-лі, журба-журбіначка
Пракацілася, як журавіначка.
Ой лю-лі, лю-лі, ніколі на зямлі
Без любові не жылі, ой лю-лі.

А я жыў, ды раптам зажурыў,
Затужыў па ўсіх, каго любіў.
А калі жыццё маё міне,
Ці затужыць нехта з іх без мяне?
І я стаў гадаць ды варажыць:
Як жа ім адным на свеце жыць?
І мне з неба пракрычалі жураўлі:
«Будуць жыць, як і жылі, ой лю-лі…»

# АПАВЯДАННІ

## БОМБА

Ён знайшоў яе ў той год, як пайшоў у школу. Плёхаўся ў копанцы, балюча наступіў на нешта, падумаў, што камень, а паднырнуў — бомба. Такая, як яйка з абодвума тупымі канцамі, але рубчастая, цяжкая, чорная-чорная. З аднаго канца нібыта пёрка прылепленае, сарві яго — і кідай бомбу, куды хочаш, усё ўшчэнт разнясе.

— Што ты будзеш рабіць з ёй? — спалохана спытала Рыма, якой Марык паказаў бомбу ў іхняй схованцы, абваленым бліндажы за вёскай. Адсюль пачыналіся арэшнікавыя пагоркі, за імі зубчастым, зламаным небасхілам сінеў лес, а што было за лесам — ні Марык, ні Рыма не ведалі. Казалі, што горад.

— Узарву, — сказаў Марык зацята, як пра штосьці канчаткова вырашанае. — Пачнецца зіма, стануць паліць у школе, кіну ў грубку — і ўсё ўшчэнт.

Яму не глянулася школа з першага дня, а з дня другога ён ужо ненавідзеў яе, заганяў сябе ў клас сілком, б’ючы кірзавым, пашытым з вынашаных ботаў, ранцам самому сабе пад калені. Яго трэсла ад настаўніцы Зінаіды Раманаўны, рыжай, з жоўтымі зубамі, якая тыкала пальцам у буквар і працяжна, як плачуць, даводзіла: «Гэта літара *А*, з яе пачынаецца слова *аловак*, а дзе яшчэ ў гэтым слове літара *А*?.. Вось яшчэ літара *а*, толькі не вялікая, а маленькая, літары бываюць вялікія і маленькія, як і людзі, ты зразумеў, Марык?.. Вось тваё імя напішам на дошцы, дзе ў ім літара *а*?.. Хіба няма ў ім літары *а*?.. Няма, дык закрэслім, тады ты Мрык нейкі, а не Марык… І ў цябе *ловак* нейкі, а не аловак, калі адкінуць *а*, першую літару, бачыш, як многа кожная літара значыць?..»

«Карова ты рыжая, — глядзеў на Зінаіду Раманаўну Марык, — пачакай, няхай толькі грубку запаляць».

Зінаіда Раманаўна нібыта ўгадвала ягоныя думкі і казала: «Ідзі ў кут. І не рухайся ў куце, стой так, як цябе ў кут паставілі».

Можа, Зінаіда Раманаўна была і не з найгоршых цётак, проста цётка-настаўніца, толькі яна мела ўладу над Марыкам такую, якая рабіла яго роўным і аднолькавым з Рымай і ўсімі дваццаццю чатырма першакласнікамі, у гурце якіх Марык дзяліўся як адзін на дваццаць чатыры, і гэтаксама дзялілася ягонае імя, і нават маленькая літара *а* ў ягоным імені таксама дзялілася на дваццаць чатыры. З гэтага гурту, што называўся класам, нельга было вылучыцца інакш, як падымаючы руку ў адказ на пытанні Зінаіды Раманаўны, а яна яшчэ глядзела па радах, узважвала, вылучыць цябе ці не, і амаль ніколі не вылучала, не давала такой мажлівасці, калі бачыла, што якраз зараз ты ведаеш нешта, каб вылучыцца. Затое ніводнага разу не прапускаўся выпадак, калі можна было прынізіць цябе, бездапаможнага ў няведанні таго, пра што яна пыталася, нямога, як рыбіна. «Наступным разам бацьку прывядзеш, пара ўжо з ім пагаварыць пра цябе, пара». Хоць з бацькам штодня на вуліцы бачылася — і нічога яму не казала.

На зіму запалілі ў школе, але бомбу ў грубку Марык не падкінуў.

Пасля інстытута ён ажаніўся з Рымай, хоць яна раздражняла яго, балбатлівая, заўсёды здзіўленая і з таго, што дождж ідзе, і з таго, што снег. У жыццёвай мітусні не было на яе ніякага спыну, тут яна прыхоплівала ўсё, што магла прыхапіць, каб мець асалоду пра ўсё сказаць *маё*: мая хата, мой дыван, мой Марык. Гэтае *мой Марык* да яго нават нечым накшталт мянушкі прыляпілася, як тое пёрка да бомбы. Сяброўкі Рыміны, калі па тэлефоне званілі, пыталіся: «Алё, гэта хто, *Моймарык*?»

Аднойчы ён адчуў, што жыць так болей не можа, паехаў у вёску і прывёз адтуль сваю бомбу. Рубчастую, чорную-чорную… Доўга насіў яе з кута ў кут па кватэры — схаваць не было куды. Тут пазваніла ў дзверы, вярнуўшыся са школы, дачка Зіна, і Марык таропка заштурхаў бомбу пад шафу, запіхнуў яе венікам да самай сцяны.

Рыма пасля інстытута выкладала ў пачатковых класах, дачка пачала вучыцца ў яе. «Зайшоў бы, паглядзеў, як вучыцца, усё ж бацька», — адразу ж пачала тузаць Рыма, і Марык зайшоў, паглядзеў. Рыма вісела над дачкой, тыкала ў буквар пальцам і працяжна, як плачуць, даводзіла: «Гэта літара *А*, з яе пачынаецца слова *аловак*, а дзе яшчэ, пакажы, дзе яшчэ ў гэтым слове літара *А*… вось яшчэ літара *а*, толькі не вялікая, а маленькая, літары

бываюць вялікія і маленькія, як і людзі, ты зразумела, Зіна?.. Вось тваё імя напішам на дошцы, дзе ў ім літара *а*?..»

Быў пачатак восені, было сонечна, празрыста-прасторна — і ў той дзень Марык не пайшоў дахаты, піў, з кім папала, у прывакзальным буфеце, бо школа была побач з вакзалам, і застаўся на вакзале начаваць. Уночы яго забралі ў выцвярэзнік. Нараніцы пазванілі Рыме, каб прыйшла, заплаціла штраф, а то ў мужыка, калі ён мужык, не засталося ні капейчыны, усё прапіў. Рыма ў выцвярэзнік не пабегла: «Рабіце з ім, што хочаце, з кім піў, хай тыя за яго і плацяць». Ёй нібыта ў асалоду было, што ён напіўся і патрапіў у выцвярэзнік, зраўняўся з усімі мужыкамі — і ў яе цяпер такое ж гора, як і ва ўсіх астатніх баб.

Дачка, ледзь паспеўшы скончыць школу, выскачыла замуж за вайскоўца, якому заўсёды было дзе служыць, але ніколі не было дзе жыць. Праз тое ўнук Уладзік гадаваўся ў дзеда з бабай, Марык да яго прывык і, калі зяця паслалі ў Афганістан, быў нават узрадаваўся. Ну, можа, не тое каб узрадаваўся, але пра нешта такое падумаў.

Калі зяця забілі, дачка павесілася.

Неяк унук гуляў з тэнісным мячыкам, той закаціўся пад шафу. Уладзік стаў даставаць яго ракеткай, раптам нешта загрукатала — і з-пад шафы выкацілася бомба, уся ў сівым павуцінні.

— Дзеда, што гэта? — пацягнуўся да бомбы Уладзік, але Марык перахапіў ягоную руку.

— Не чапай, бомба, выбухне!.. Ідзі на вуліцы пабегай, Уладзік.

Марык асцярожна абіраў з бомбы павуцінне — і яму ўспаміналася ўсё ягонае жыццё: школа, жаўтазубая настаўніца Зінаіда Раманаўна, інстытут, вяселле з Рымай, п’янка на вакзале, вяселле Зіны, народзіны Уладзіка… «Някепскае ўрэшце жыццё, не з найгоршых, — думаў Марык, ківаючы сам сабе галавой, — дачку толькі шкада, магла б жыць, дурніца…»

Раптам Марык злавіў сябе на тым, што не можа ўспомніць твар дачкі, стаў падымацца, каб перагартаць фотакарткі ў альбоме і, не ведаючы, куды падзець бомбу, зноў закаціў яе пад шафу, якую прывезлі некалі ў пасаг бацькі Рымы. Шафа была дубовая, вялізная, непад’ёмная — і яе не рухалі: яна стаяла і стаяла ў куце так, як яе ў кут паставілі.

*1999, Варшава*

## ЮЗІК

Калі меркаваць па прозвішчы, дык ён павінен быў выглядаць так, як выглядае каратканогі, чарнява-лысаваты чалавек з жывоцікам, якому каля сарака. Ён так і выглядаў.

Прозвішча ягонае было Марыш. Венгерскае нейкае. Скуль яно, ён не высвятляў, яго мала цікавіла мінулае. Дый будучае цікавіла не надта, хоць цыганка на вакзале, якой ён не даў сябе абабраць, злосна ў спіну яму сказала, што ён заб’е чалавека і будзе сядзець. Забіць-то ён, калі фармальна на гэта глядзець, забіў, але не сеў. Так што няма чаго верыць гэтым цыганкам, яны нагавораць.

Ён мала каго слухаў, быў засяроджаны ў сабе. З дзяцінства. Настаўніца літаратуры, якая яшчэ і настаўніцай малявання была, усё пыталася: «Марыш, пра што марыш?..»

Імя ён меў Язэп, але па імені ніхто яго не называў. А калі называлі, дык Юзікам, а не Язэпам. Ён і падобны на Юзіка быў. З усіх бакоў Юзік. Дачка той настаўніцы літаратуры і малявання дражнілася: «З Юзікам пабіўся Юзік і згубіўся Юзяў гузік, — і пыталася: — Чый?..». А саму яе Альжбэтай звалі. Бацька гэтак назваў, бо палякам быў.

Скончыўшы архітэктурны інстытут, куды яму параіла паступіць, бо ў яго былі здольнасці да малявання, маці Альжбэты, ён, Юзік Марыш, хацеў ажаніцца з Альжбэтай, бо ў іх каханне было, але паляк бацька зажадаў займець зяця паляка і амаль сілком дачку за паляка выдаў. Думаў, што яна будзе за ім жыць багата, а яна жыве бедна. Паляк-то ён паляк, ды не багацее ніяк.

Пад сорак гадоў ён, Юзік Марыш, купіў машыну. Файную, японскую. «Хонду», калі нехта хоча ведаць. Ехаў па першай паласе — і тут з-за ліпы прыдарожнай жанчына кінулася. Сама, галавой пад колы. Што ён мог зрабіць? Нічога зрабіць не мог. Вылез з машыны, а жанчына, колішняя ягоная настаўніца, маці Альжбэты, мёртвая.

Дзякуй Богу, сведкі былі, што яна сама пад колы кінулася. А то ўдавец, мужык яе, паляк той прыдумаў: «Мы дачку за яго не аддалі, дык ён…» Гэта амаль праз дваццаць гадоў! Чаму ж тады не яго збіў, калі ён дачку не аддаў, а жонку ягоную, маці Альжбэты, якая не супраць была, каб яны пабраліся?..

Ад удару фара пабілася, а гэта якія-ніякія, а грошы. Амаль трыста баксаў. І Юзік пайшоў да паляка, да ўдаўца, значыць, каб

той разлічыўся. Бо жонка ягоная, нябожчыца, сама галавой пад колы кінулася і фару пабіла, дык хто ж плаціць павінен?

Марыш з’явіўся якраз на памінкі, дык усе падумалі, што ён вінаваціцца будзе. Прасіць, каб даравалі. Удавец сказаў: «Што ж, сядай, калі прыйшоў». І дачка ягоная, Альжбэта, нявеста колішняя Юзіка, пасунулася па лаве, месца каля сябе вызваляючы: «Сядай». Мужык ёйны, паляк, які ўсё не багацеў ніяк, не сказаў нічога. Толькі крэкнуў, узад-уперад хітнуўшыся, неяк так: крэк.

Юзік сеў, бок Альжбэты быў мяккі і цёплы. Пры гэтым баку ўжо колькі гадоў ён, Марыш, мог бы засынаць і прачынацца. А то жонка ягоная і ў маладосці не надта круглая была, а з гадамі дык наогул — тырчыць касцямі ва ўсе бакі.

Але ён не грэцца сюды прыйшоў. І не абы-што казаць, як нагаварыў дырэктар школы. Што нябожчыца была найлепшай настаўніцай з усіх, якіх ён толькі ведаў. А сам, як толькі дырэктарам стаў, так і выправіў найлепшую з усіх настаўніц на пенсію. Можа, яна і пад колы праз тое кінулася, што ён яе са школы выправіў. Ды што там выправіў — выгнаў, каб нявестку сваю ўладкаваць. І ўсе ж гэта ведаюць, а выгляд робяць, нібы не.

Юзік трохі памаўчаў для прыліку, а пасля ўстаў і сказаў усё, як ёсць. Што нябожчыцу, настаўніцу сваю былую, якая некалі ў архітэктурны інстытут паступіць яму параіла, праз што ён архітэктарам стаў і някепскія грошы цяпер зарабляе, машыну вунь купіў файную, японскую «Хонду», ён, канешне, пухам ёй зямля, паважае, але гэта не значыць, што ён сам павінен за фару плаціць, калі нехта пад колы кідаецца. Яна, нябожчыца, фару, можа, і не пабіла б, калі б без сумачкі была, але яна была з сумачкай, і ёй, сумачкай той, неяк так махнула, пад колы кідаючыся, што ў фару патрапіла і пабіла. А фару меней як за трыста баксаў мяняць не хочуць. Кажуць: меней як за трыста баксаў і не падыходзь. Так што вось так…

Дырэктар школы закашляўся, бо зразумеў, што да чаго… Ніякавата яму стала. Альжбэта ж ускочыла: «Вон! Прэч пайшоў, смярдзюк!..»

Шалёная нейкая. Добра, што некалі ён з ёй не пабраўся. А то так, як пашчупацца, дык мяккая, а як жыць…

Па дарозе дахаты ён завярнуў, каб часу не губляць, на пошту, якая побач з міліцыяй была, напісаў заяву ў міліцыю і ў міліцыю занёс. Не напісаў у заяве, як яго абразілі ў адказ на праўду, гэта такой бяды. Напісаў толькі, што замена фары каштуе прыблізна трыста баксаў, і прасіў спагнаць адпаведную суму са сваякоў

вінаватай нябожчыцы. Ці з мужыка яе, удаўца, ці з дачкі, ці з мужа дачкі, гэнага паляка.

Дзяжурны ў міліцыі прыняў заяву, пацепнуў плячыма. Юзік яшчэ спытаўся ў яго: «Усё так?..» — а той нібыта не пачуў. У кнігу канцылярскую заяву пад нумарам 182 запісаў, штампік паставіў. А пасля аказалася, што заяву тую трэба было не ў міліцыю, а ў суд несці, бо такімі справамі адразу суд, а не міліцыя займаецца, і дзяжурны той няправільна тую заяву ўзяў, з юрыдычнага боку няграматна. Вось жа пасадзяць у міліцыі дзяжурыць абы-каго — і яны там дзяжураць.

Юзік не стаў старую заяву з міліцыі ў суд пераносіць, а напісаў новую. У ёй, падумаўшы, мужа Альжбэты, паляка гэнага, ён выкрасліў, бо не ведаў ягонага прозвішча.

*Студзень 2008, Менск*

## МУЗЕЙ БРОЎКІ,
## альбо ЗА ШЧАСЦЕ ВЫПІЦЬ З ШУЛЬМАНАМ!

У Сяргея Рыгоравіча Засевіча доўга-доўга стаяла ў бары пляшка каньяку. Армянскага з трыма зоркамі. Хто разбіраецца ў каньяках, ведае: армянскі з трыма зоркамі — найлепшы. З пяццю зоркамі і болей найлепшыя каньякі грузінскія, а з трыма — армянскія. Ды яшчэ ў бары прастаяў той каньяк гады тры, не меней. Вось і лічы…

Бар — гэта замоцна сказана, проста шафка ў секцыі, у якой і сірацела адна пляшка, і для нечага Ружане, жонцы, тая шафка была патрэбная, Ружана вымала пляшку і вымала, ставіла ў секцыі на святло, а Сяргей Рыгоравіч хаваў і хаваў яе зноў у шафку: яму сказалі знаўцы, што каньяк павінен выстойвацца ў цемры.

Сам Засевіч не разбіраўся ў каньяках, ён быў канструктарам дзіцячых цацак, а пра каньякі распавёў яму Броўка. Не той Броўка, які вершы пісаў лоўка і пасля якога музей застаўся, непадалёку ад якога Засевіч жыў, а Броўка Алег Мікалаевіч, калега па рабоце, таксама канструктар дзіцячых цацак, які неяк, гады тры таму, спытаў, ці не мае Засевіч знаёмага лекара зубнога, каб танна і добра зуб зрабіў? Засевіч меў знаёмага лекара, які не проста знаёмым, а шваграм яму быў, і швагер Засевіча так добра і танна зуб Броўку зрабіў, што Броўка прынёс Засевічу ў падзяку пляшку каньяку, прызнаўшыся, што купіў каньяк для

швагра, але той не ўзяў, бо не піў. Не таму нават не ўзяў, што не піў, а не ўзяў прынцыпова, паколькі на дзвярах ягонага кабінета шыльдачка вісела: «З каньяком і цукеркамі не ўваходзіць!» — а Броўка ўсё адно прыпёрся з каньяком.

— Ты б яго ўжо ці аддаў некаму, ці выпіў з якім армянінам, — кожны раз казала Ружана, выціраючы пляшку ад пылу, і Засевічу так і запала ў галаву, што армянскі каньяк трэба было б выпіць з армянінам. Больш, зрэшты, не было з кім, бо гэтакіх сяброў ці знаёмых, з якімі выпіваюць, Засевіч не меў. Знайсці, зразумела, можна было б, на армянскі каньяк шмат каго набегла б, але навошта шукаць непатрэбнае? Шукаць жа армяніна — дзе і як? Не ў Арменію ж падавацца. Па сённяшнім часе за тыя грошы, якія каштуе білет да Ерэвана, каньяком зальешся… А калі ў Менску армяніна шукаць, дык не падыдзеш да чалавека на вуліцы і не спытаеш: «Ты армянін?..»

Мінаў час, пылілася і выціралася пляшка. Армянін, з якім можна было б выпіць, ніяк не знаходзіўся. Засевічу ўжо сніцца пачало, як яны ўдвух, без баб, па-мужчынску сядуць, падымуць чаркі і пра нешта такое, можа, нават пра тых жа баб, але, зразумела, не пра жонак, пагавораць.

— З Шульманам выпі, — параіла аднойчы Ружана. — А то месца твая пляшка ў маёй шафцы займае без толку. — І зноў, зараза, паставіла каньяк на святло.

З некім трэба было ўрэшце каньячную праблему вырашаць, і Сяргей Рыгоравіч падумаў: «А чаму б не з Шульманам?..»

Шульман прыехаў у Менск аднекуль з поўдня яшчэ ў савецкі час, калі вайна ў Карабаху пачалася, але наўрад ці Шульман быў армянінам. Хаця, з другога боку, мог і быць.

Шульманы суседзілі з Засевічамі, кватэру мелі на той жа лесвічнай пляцоўцы, а ўсё адно Шульман здзівіўся, калі Засевіч пазваніў яму ў дзверы і прапанаваў выпіць добрага армянскага каньяку.

— З якой нагоды? — спытаў Шульман, якога звалі Аскарам і які працаваў некім у філармоніі.

— З той нагоды, што суседзі… — няўпэўнена адказаў Засевіч, усё яшчэ разважаючы, прызнаць ці не прызнаць Шульмана за армяніна, на што Шульман, адчуўшы няўпэўненасць Засевіча, заўважыў, што суседзі яны ўжо даўно, а да каньякоў справа не даходзіла, дык жа нагода, мусібыць, не ў гэтым, а тады ў чым, бо ён без нагоды не п’е, не п’янтос ён які-небудзь, каб абы піць.

Прамаўляючы ўсё гэта, дзверы перад Засевічам Шульман тым не менш не зачыняў, з чаго Засевіч зрабіў выснову, што выпіць

сусед не супраць, толькі, як чалавек, які працуе ў філармоніі, гоніць культуру. Не ў тым сэнсе гоніць, што адганяе яе, культуру, а ў тым сэнсе гоніць, што нясе абы-што, каб культурна выглядала. Таму Засевіч вырашыў сказаць Шульману ўсю праўду.

— У мяне ёсць калега па рабоце, ягонае прозвішча Броўка… — пачаў Засевіч, і Шульман раптам яго перапыніў:

— Во, гэта нагода. А то суседзі… Я ў халаце і шлёпках, нічога?..

Тое, як Шульман быў апрануты, трохі псавала карціну, якая снілася Засевічу, але ж не змушаць суседа святочны гарнітур апранаць, каб лесвічную пляцоўку перайсці, і Засевіч адчыніў дзверы да сябе ў хату:

— Нічога. Па-суседску.

Ружаны дома не было, Засевіч наўмысна падчакаў час, каб яе не было дома. Каб ніхто не замінаў па-мужчынску выпіць і пагаварыць.

— Як там у вас у філармоніі з бабамі? — адразу ж, каб не цягнуць, спытаў, ставячы пляшку на стол, Засевіч. Аднолькавых кілішкаў ён не знайшоў, некуды іх Ружана засунула, таму паставіў тыя, якія былі на кухні, нейкія разнабойныя: адзін, зеленаваты, большы, другі, сіняваты, меншы.

— Вы што!.. — абурыўся Шульман, і Засевіч падумаў, што гэта ён, як прадстаўнік культуры, абураецца праз разнабойныя кілішкі. — Я жанаты чалавек, верны жонцы!

У філармоніі ён верны жонцы…

— Дык і я жанаты і верны. Але ж пагаварыць…

— Вам больш няма пра што?.. — глянуў госць на гаспадара неяк так, як на бамжа ўчастковы. — Вы кім і дзе працуеце?

Засевіч ведаў, што Шульман працуе ў філармоніі, бо той іншым разам білеты Ружане на нейкія канцэрты даставаў, а на фабрыку цацак, дзе працаваў Засевіч, ніякіх білетаў даставаць не трэба было, дык не дзіўна, што Шульман і не ведаў, дзе Засевіч працуе.

— Я канструктар цацак на цацачнай фабрыцы.

Шульман чамусьці так здзівіўся і гэтак падаўся да Засевіча, што ледзь з халата не вылузнуў.

— Хто вы? Хто?

— Я канструктар цацак на цацачнай фабрыцы. Чаму вас гэта здзіўляе? Звычайны канструктар на звычайнай фабрыцы. Не ў сакрэтцы якой працую ці абаронцы.

Шульман ускочыў з крэсла.

— Як гэта звычайны?.. На якой такой звычайнай?.. Ды вы працуеце чараўніком на фабрыцы мрояў! Цудаў і дзіваў, разумееце? І вам няма пра што пагаварыць, апроч як пра баб?..

— Дык мы і баб робім… — разгубіўся з накату ягонага Засевіч. — У сэнсе лялькі вырабляем. Дзяўчынак там, жанчынак…

— Дзяўчынак, жанчынак… — перадражніў Шульман, сядаючы і расстаўляючы чаркі: зеленаватую, большую, бліжэй да сябе, сіняватую, меншую — да гаспадара. — Страхоцце вы там вырабляеце! І калі вы з гэтым згодны, можам выпіць. Бо я п'ю толькі за праўду!

Лялькі, якія выраблялiся на фабрыцы, дзе працаваў Засевіч, не выглядалі, канешне, на зорак з фабрыкі мрояў, але і не былі страхотнымі, ці ва ўсякім разе не такімі страхотнымі, каб згадзіцца з тым, што яны — страхоцце, але, калі б Засевіч з гэтым не згадзіўся, дык выпіць не было б за што, і каньяк мог бы так і застацца не выпітым, займаць у секцыі Ружаніну шафку, таму Засевіч вырашыў выпіць першую чарку за што заўгодна, а далей будзе відаць. Ён моўчкі адкаркаваў пляшку, моўчкі разліў па чарках каньяк. Моўчкі яны чокнуліся і выпілі.

Не так бачыў Засевіч пачатак свята за пляшкай армянскага каньяку шасцігадовай вытрымкі.

— Хораша пайшоў, — сказаў Шульман. — Бо за праўду.

За якую праўду?..

Засевіч пачакаў, пакуль, як раіў яму Броўка, каньяк сагрэецца ў горле і аддасць увесь свой непаўторны смак, але ніякай асаблівай смакаты не дачакаўся і спытаў нечакана для сябе самога:

— Скажыце, Аскар…

— Барысавіч…

— Аскар Барысавіч, а чаму вас Аскарам завуць?

— О! — узняў палец Шульман. — Усе пытаюцца, усім цікава… Мая маці любіла музыку савецкага кампазітара Аскара Фельцмана, таму так і назвала. — І цёзка Фельцмана навёў, як пісталет, палец на Засевіча. — А ваша маці якога кампазітара любіла? Я маю на ўвазе музыку.

— Семяняку.

Пад наведзеным на яго пальцам Засевічу стала няўтульна, ён пасунуўся з крэслам па паркеце ўбок — і Шульман палец апусціў.

— Семяняку? Не чуў пра такога… А як яго зваць?

У філармоніі працуе, а пра Семяняку не чуў… Мог бы чуць, хоць і прыезджы. Вунь колькі ўжо гадоў як прыехаў… Пра што ж яны гавораць у філармоніі?

— Юры.

— Але ж вы не Юры…

— Сяргей.

— Ведаю, што Сяргей. А чаму не Юры?.. І чаму ваша маці любіла Семяняку, а не Фельцмана?

— Фельцман у Маскве. А Семяняка тут.

— Дык і Ханок тут. Чаму яна Ханка не любіла?

Ханка ведае…

— Ханок тут. Але яна любіла Семяняку, а не Ханка. Чаму яна павінна была Ханка любіць?

— Ханка Эдуардам завуць, — зноў узняў палец Шульман. — Вы б маглі быць Эдуардам. Эдуард Засевіч — гэта нармальна. — І ў другі раз навёў на Засевіча палец, як пісталет. — А па бацьку як?

Засевіч не стаў адсоўвацца, лак на паркеце драпаць. Няхай страляе…

— Рыгоравіч.

— Во, тым больш.

— Што тым больш?

— Тое, што Засевіч Эдуард Рыгоравіч. Нармальна.

— А Сяргей Рыгоравіч Засевіч — не нармальна?

— Не, чаму… І Сяргей нармальна. Але вы маглі быць Эдуардам. Ды яшчэ Рыгоравічам. — Шульман апусціў «пісталет» і ўзяўся за пляшку. — Ці руку не мяняем?

— Што значыць руку не мяняем?

— Хто пачаў, той і далей налівае.

— Мне ўсё адно.

— Да гэтага нельга ставіцца абыякава, галава пасля будзе балець, — перадаў Шульман пляшку Засевічу. — Налівайце. Гэта закон: руку не мяняць.

— Закон дык закон, — разліў Засевіч. — За што?

Шульман узяў кілішак, падняўся.

— Ваша маці магла б любіць музыку Пракоф’ева. Тады ўсё б супадала. Пракоф’еў Сяргей, і вы Сяргей. Але ў жыцці супадае не ўсё і не заўсёды. Вып’ем за тое, каб супадала!

З гэтым Засевіч не стаў спрачацца. Няхай супадае.

Пасля першага кілішка Шульман не закусваў, пасля другога ўзяў скрылік лімона. Спытаў зморшчана:

— А чаму мы за Броўку п’ём? У яго юбілей?

— Не.

— Ён вам нейкі сваяк?

— Не.

— Тады хто?

— Ён мой калега па рабоце. Таксама канструктар дзіцячых цацак.

— А… Тады чаму мы п’ём за яго?

— Мы за яго не п’ём.

Шульман паклаў на сподак скурку дасмактанага лімона. Сподак быў рубінавы, колеру крамлёўскіх зорак, і жоўтая скурка глядзелася на ім прыгожа. Засевіч падумаў, што трэба будзе гэтыя колеры спалучыць у нейкай з цацак.

— А што мы робім? — кіўнуўшы на пляшку, спытаў Шульман.

— П’ём, але не за яго.

— Правільна. Нам яшчэ за яго піць! Хто ён нам такі? — Шульман зноў кіўнуў на пляшку. — Руку не мяняць, гэта закон. — І калі Сяргей Рыгоравіч разліў, Шульман падняўся з чаркай. — Прапаную выпіць за жанчын, бо трэці тост!

Не чакаючы Сяргея Рыгоравіча, нават не чокнуўшыся, Шульман выпіў, паганяў, заплюшчыўшы вочы, каньяк у роце, праглынуў і адразу ж, вачэй не расплюшчваючы, заспяваў:

Ландышы, ландышы,
Светлага мая пры-ы-вет,
Ландышы, ландышы…

Ах, хто з вас не ведае гэтай лірычнай, лёгкай, нібы святлом і кветкамі напоўненай, мелодыі? Але мала каму вядома, што аўтар яе, знакаміты савецкі кампазітар Аскар Барысавіч Фельцман, першую сваю Сталінскую прэмію атрымаў не за яе і нават не за самае сіняе ў свеце… — Шульман пачакаў, пакуль Засевіч выпіў, узяў з рук ягоных і пакруціў перад носам ягоным сіняваты кілішак… — Чорнае мора маё, а за санату для віяланчэлі, створаную ім яшчэ на другім курсе Маскоўскай кансерваторыі, куды ён паступіў па заканчэнні з залатым, прашу заўважыць, медалём знакамітай музычнай школы імя Сталярскага П.С., што сведчыць як пры глыбіню, так і пра шматфарбнасць… — Шульман паставіў на стол сіняваты кілішак і пакруціў перад носам Засевіча кілішкам зеленаватым… — так і пра шматфарбнасць таленту Аскара Фельцмана, які нарадзіўся ў 1921 годзе ў Адэсе, а ў 1941, ва ўзросце дваццаці гадоў, як толькі пачалася

Вялікая Айчынная вайна, ажаніўся з Яўгеніяй Пятроўнай Кайданоўскай, таксама студэнткай Маскоўскай кансерваторыі, але дырыжорска-харавога факультэта, якая падрабляла ў Габрэйскім тэатры Беларусі, які гэтаксама, як і Маскоўская кансерваторыя, знаходзіўся ў эвакуацыі ў Новасібірску, і Аскар Фельцман, пра што ўжо ніхто не ведае, апроч мяне, пісаў для гэтага тэатра музыку і быў яму верны, але не ўсё жыццё, бо пасля вайны Габрэйскага тэатра Беларусі не стала, і ўсё жыццё кампазітар Аскар Фельцман быў верны толькі сваёй жонцы Яўгеніі Кайданоўскай, а можа быць, і не толькі ёй… За параход! — зусім не да месца скончыў Шульман гэтую сваю, мусібыць, філарманічную лекцыю.

Каньяку не было адпіта яшчэ і паловы, а ўжо Засевіч пачаў паціху шкадаваць, што прызнаў у Шульмане армяніна.

— За які параход?

— За песню «Параход», якую ў 1952 годзе Аскар Фельцман напісаў для Леаніда Уцёсава, з чаго і пачалося іх сумеснае вялікае плаванне, іначай бы прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін не ўзнагародзіў бы Аскара Фельцмана ордэнам «За заслугі перад Айчынай» трэцяй ступені, і мы сёння за гэта… мы б за гэта сёння… а давайце мы Броўку затэлефануем!.. Скажам, што прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін узнагародзіў яго ордэнам трэцяй… другой… ды хай сабе першай ступені! І за гэта вып’ем!..

Засевіч падумаў, што Шульман калі не армянін, дык алкаголік. Хоць той не выглядаў п’яным. Дый не мог мужык напіцца з паўпляшкі на двух.

— За што ўзнагародзіў?..

— За дружбу народаў! Беларусь з Расіяй дружыць?

— Дружыць…

— Во і ўзнагародзіў! За дружбу.

— А чаму яго?..

— А чаму не яго? Ён хіба дружыць меней за астатніх?..

Засевіч не ведаў, як і з кім сябруе Броўка, бо іх адносіны нельга было назваць сяброўскімі. Калі б можна было, дык каньяк гэты, які Броўка купіў, яны з тым жа Броўкам даўно б і выпілі. Тым больш, што Броўка знаўца ў каньяках, а Шульману, падобна, усё адно, што піць.

— Дружыць ён, па-мойму, як усе… За астатніх не меней…

— Во! — тыцнуў пальцам Шульман, ён без гэтага пальца свайго не абыходзіўся. — Сярод усіх астатніх, з гушчару людскога, можна сказаць, вылавіў і ўзнагародзіў! Ну, можа, не сам

вылавіў, у яго там ёсць каму лавіць… А ўзнагародзіў сам! Прапаную за высокую ўзнагароду… руку не мяняць!

«А чаму гэта я, — спытаўся ў сябе, выпіўшы, Засевіч, — не сябрую з Броўкам? Ён не дурны, інтэлігентны. І не скупы: каньяк мне шваграў аддаў, хоць мог сабе пакінуць. А я абы з кім сябрую, з Шульманам п'ю, а з Броўкам — не. Чаму? Бо ён не армянін?.. Ці не рускі, каб з ім сябраваць і піць?..»

— А вы чаму… выбачайце… — ледзь не спытаў ён Шульмана, чаму той не са сваімі сябрамі, а з ім п'е, нібы не сам яго па-суседску запрасіў… — а чым вы, выбачайце, займаецеся ў філармоніі? Які ў вас, у сэнсе, жанр, ці амплуа?..

Не паспеў ён спытаць, а Шульман ужо стаяў, як на сцэне стаяць, і, абцягнуўшы халат, як фрак за фалды абцягваюць, выкаціў грудзі і заспяваў:

Свабода народу, дыктатару куля,
Няўтульна жывецца на свеце яму,
Ён нават не ходзіць туды без патруля,
Куды яму трэба хадзіць аднаму,
Эх, рула-тэрула-тэрула-тэрула!.. —

рушыў госць, на каўказскі манер прытанцоўваючы, ад стала да дзвярэй, на якія гаспадар, пачуўшы такія спевы, зірнуў з трывогай, бо могуць вылавіць не толькі ў людскім гушчары, але і ва ўласнай хаце, а ў госця зляцелі шлёпкі з ног, ды ён на тое не зважаў, прытанцоўваў на каўказскі манер ад дзвярэй назад да стала… — руку не мяняць!.. эх, які жанр быў, якое амплуа!.. палітычная сатыра!.. мы ўсіх іх, усіх!.. дыктатараў тых… стрэламі і коп'ямі знішчальнага смеху!.. Салазара, Самосу!.. ха!.. нават у прыбіральню!.. з голым азадкам пад аховай!.. народ упокат!.. квіткоў не дастаць!.. людзі ламаліся ў філармонію, каб Шульмана пачуць!.. я і зараз магу, але каму трэба?.. каго цяпер слухаюць?.. голыя задніцы, якія разяўляюцца!.. а вы паслухайце… хаця не, спачатку наліць, каб руку не мяняць… за амплуа, за жанр!.. за высокае мастацтва палітычнай сатыры!.. эх, хораша пайшло!.. бо за высокае!.. зараз, слухайце… гэта, канешне, не тое, што было… не сатыра, гумар… якая сёння сатыра!.. каўбаса не Самоса, сыр не Салазар… — і Шульман зноў заспяваў, прытанцоўваючы, але ўжо не на каўказскі манер, а на манер беларускі, нібыта полечку…

Каб даўжэй прадуктам свежым
у лядоўні праляжаць,

прапаную іх не рэзаць
і гасцям не падаваць!..

Ха!.. яшчэ многія палічаць за шчасце выпіць з Шульманам!.. — і, выпіўшы і праспяваўшы, госць закусіў скрылікам лімона, а Засевіч, зразумеўшы спевы госця як намёк на тое, што гаспадар скупаваты, нармальнай закускі на стол не падаў, яшчэ раз пашкадаваў, што не з Броўкам сябруе, а з кім папала каньяк армянскі п'е… — вось вам жа пашчасціла, — паклаў Шульман жоўтую скурку лімона на рубінавы сподак, і яна ляжала на ім, круглая, як сонейка… — хоць вы не Сяргей, бо ваша маці не любіла Пракоф'ева, музыка якога не выпадкова, о, зусім не выпадкова такая сонечная, бо нарадзіўся ён, прашу заўважыць, у самы разгар вясны ў маёнтку Сонцаўка Кацярынаслаўскай губерні, якая стала Данецкай, і памёр таксама вясной, але ў Маскве, якая Масквой і засталася, у адзін і той жа дзень з таварышам Сталіным, да юбілею якога ў 1939 годзе напісаў кантату «Здравіца», пасля чаго тройчы ставаў лаўрэатам Сталінскай прэміі, хоць мог стаць і раней, бо ўжо ў 1914 годзе, ва ўзросце 13 гадоў напісаў чатыры оперы, але Сталінскіх прэмій на той час не было, і яму давялося яшчэ шмат чаго напісаць, у тым ліку оперу «Вайна і мір», створаную ў трагічна-высокім духоўным напружанні, калі кампазітар знаходзіўся ў эвакуацыі на Каўказе, у Нальчыку і Тбілісі, не кажучы ўжо пра кантату «Да 20-годдзя Кастрычніка» на словы Маркса, Энгельса і Леніна… а, вы здзівіліся, а такая кантата была… як яно там… — і, хвілінку паўспамінаўшы, Шульман прагалёкаў, як у лесе… — «філосафы толькі па-рознаму тлумачаць свет, а справа ў тым, каб яго змяніць!..», вы адчуваеце, якая моц і сіла!.. і гэта сімвалічна, о, як сімвалічна, што ў адзін дзень памерлі вялікая руская музыка і вялікая руская ідэя, хоць Сталін, канешне, грузін, а я, калі хочаце ведаць, габрэй, як Маркс і Ленін, і я прапаную тост за Маркса, Леніна і Сталіна… руку не мяняць… і за Сталіна, якога можна вынесці з Маўзалея, але нельга вынесці з гісторыі… хоп!.. хораша пайшло, бо за вялікую ідэю і за вялікіх людзей… эх, пра Броўку забыўся, вы чаму не напомнілі?.. руку не мяняць… усё ў свеце мяняецца, але ў сутнасці сваёй застаецца нязменным: Пуцін верны сталінец, Сталін верны ленінец, Ленін верны марксіст, а Броўка… — Шульман паглядзеў дапытліва, нібы чакаючы, што Засевіч скажа пра Броўку, хто ён такі, сталінец ці ленінец… — а, зрэшты, хто б ні быў… хоп!.. — і госць адзін, бо гаспадару не было ўжо чаго наліць, кульнуў апошні

кілішак… — хораша пайшло… але на тым фініш, брэйк, дзвесце пяцьдзесят мая норма… — хістка ўсунуўся Шульман у свае шлёпкі… — дык я пайшоў?.. — і, пакідаючы застолле, ён яшчэ праспяваў на парозе: «Пахне чабор, пахне чабор… вось вам Броўка ў песнях савецкіх кампазітараў, каб не думалі, што не ведаю, хто такі беларускі паэт Броўка, які праставіў некалі пляшку каньяку рускаму літаратару Эрэнбургу…» — і дзверы «шчоўк», зачыніліся, быццам і не было таго шчасця выпіць з Шульманам, толькі пляшка, паўгадзіны таму поўная, цяпер стаяла пустая. Засевіч сядзеў і тупа глядзеў на яе, намагаючыся ўцяміць, што ж адбылося…

Яшчэ праз паўгадзіны, дазнаўшыся праз даведку нумар тэлефона, ён пазваніў у музей Броўкі, непадалёку ад якога жыў, але ў якім ніколі не быў, і спытаў, ці можа музей абвергнуць або пацвердзіць той факт, што беларускі паэт Броўка праставіў некалі каньяк рускаму літаратару Эрэнбургу?.. Мужчына, які падняў трубку, неяк вельмі ахвотна, нават радасна адказаў, што такія факты аднолькава цяжка як пацвердзіць, гэтак і абвергнуць, але такое магло быць, бо ў 1947 годзе Броўка і Эрэнбург разам ездзілі ў Польшчу, а калі вярталіся назад, дык у Эрэнбурга скончыліся грошы, і Броўка, пакуль цягнік стаяў на станцыі, збегаў дахаты і грошы для Эрэнбурга прынёс… «Вас, можа быць, яшчэ нешта цікавіць?..» — спытаў мужчына з надзеяй у голасе, але Засевіча нічога больш не цікавіла, і ён паклаў трубку.

*Люты 2008, Крэва, Менск*

## ЗАЛАТАЯ АРДА

Мар'ян прачнуўся ад стуку ў акно. Зірнуў на гадзіннік з вялікімі, каб бачыць, бо ўжо вочы не тыя, чырвонымі лічбамі на падстрэлку: 6.00.

Гадзіннік гэты Ганна нядаўна падаравала. На юбілей, на пяцьдзесят гадоў. Замест старога. Стары, нават старадаўні, з ківачом, у арэхавым футарале гадзіннік, які яшчэ з іхняга вяселля спраўна час адбіваў, перад самым юбілеем раптам абрынуўся са сцяны — і ўшчэнт! Чаму сарваўся?.. Цвік, на якім вісеў, не пагнуты, дужка, за якую чапляўся, цэлая, а ён гэх — і ў друз! Дык жонка і купіла новы, электронны. Сама купіла, а выгляд зрабіла, нібы гэта Антон, брат ейны, швагер Мар'янаў, купіў. Яна ўсё хацела, каб Мар'ян з Антонам сябравалі. А як з ім сябраваць?..

Мар’ян жа бачыў, як гадзіннік яму ў гасцёўні Ганна ўсунула. Прыпёрся без гадзінніка, лыкнуў гарэлкі дармавой ды яшчэ… Ат, і ўспамінаць не хочацца… «Кердык табе, — кажа, — пасля юбілею, Мар’ян, раз гадзіннік напярэдадні гэкнуўся. Прыкмета, — кажа, — ёсць такая, жалезная».

На левым плячы Мар’яна якраз да юбілею халера нейкая выскачыла, гэтакі гузак амаль з кулак, дык усялякае ў галаву палезла. Чарнобыль, цэзій… А тут яшчэ швагер… І Ганна хоча, каб яны сябравалі.

«Падалося», — падумаў Мар’ян пра стук у акно. Не таму так падумаў, што было шэсць раніцы. Такой парой нехта мог і пастукаць, чаму не? Вунь сусед Магамед, татарын, ён у гэткі час ужо курыць на гаўбцы. У шэсць раніцы шмат хто прачынаецца. Але пастукаць у шэсць раніцы ў акно на адзінаццатым паверсе дванаццаціпавярховага дома…

У акно зноў пастукалі. Гэтым разам не ў шкло, а ў бляху на падаконніку, і стук такім быў, як шарыкі жалезныя рассыпаліся, ці буйныя градзіны ледзяныя. «Трук-так-тук-тук-трак…» — вось так… Тут ужо нельга было падумаць, што здалося, нібы нехта пастукаў. Мар’ян, пацягнуўшыся, паляжаў трохі, падняўся і адшморгнуў занавеску…

Яго асляпіла ранішняе ліпеньскае сонца, якое, толькі-толькі прыўзняўшыся над зямлёй, біла наўпрост у вочы, і ён не адразу разабраўся, што там ці хто там вісіць за акном… А за акном вісеў дэсантнік на парашуце. Мусібыць, вучэнні вайсковыя недзе праводзіліся, і хлопца знесла ветрам, зачапіла за дах дванаццаціпавярховіка. Цяпер зноў, як за савецкім часам, пайшла мода на ўсялякія вучэнні. Нават Мар’яна ў ягоныя паўвека забраць і падвучыць нечаму хацелі. Ды ён не даўся. Паперку ў псіхлякарні, дзе швагер працаваў санітарам, вырабіў, нібы хворы. На галаву, канешне, там ні на што іншае не хварэюць. Так што і ад Антона ёсць нейкая карысць, не скажаш, што няма ніякай.

Дэсантнік быў у белым камуфляжы, што Мар’яна здзівіла, бо не зіма ж, не снег, а лета, трава з лістотай, і воін павінен быць у апратцы пляміста-зялёнай, а на ім нават чаравікі белыя. Дый не чаравікі гэта, балеткі нейкія… Дальбог, балеткі на дэсантніку, а на галаве вяночак, во форма, ё-пэрэсэтэ…

— Што, підар, завіс?.. — спытаў Мар’ян у шкло, думаючы, што дэсантнік не пачуе, а той пачуў і адказаў, не крыўдуючы: «Я не підар, я фельд’егер, вам пакет са штаба». І дастаў з-за пазухі гэткі самы белы, як увесь ён сам, пакет, на якім чырвонымі, як

лічбы на электронным гадзінніку, літарамі былі напісаны імя і прозвішча Мар'яна, а паперадзе яшчэ літары Р. Б., што азначала, мусібыць, Рэспубліка Беларусь. Але далейшага адраса на пакеце напісана не было, так што як гэты баларун з парашутам знайшоў менавіта тое акно, за якім Мар'ян спаў, чорт яго ведае…

— Не згадвайце нячыстага! — перахрысціўся дэсантнік і падаў Мар'яну пакет. Праз зачыненае акно, скрозь шкло, сабака, падаў!.. Во іх вучаць цяпер!.. У савецкія часы, калі Мар'ян служыў, гэтак не вучылі. Ну, там, дрот зубамі перакусіць, цэглу лобам раструшчыць, калі ласка… Але ж не пакет падаць скрозь шкло — і яно цэлае!..

Па́ра… як яно?.. Не параноіка, пара… нешта такое…

На пакеце было сем пячатак. Найвышэйшы ўзровень сакрэтнасці, як Мар'ян помніў, пяць, а тут ажно сем, і ў Мар'яна рукі пакалочваліся, пакуль ён разломваў адну за адной сургучныя, якіх даўно ўжо не бачыў, пячаткі.

У пакеце было пуста. Нічога ў ім не было, апроч накрышанага Мар'янам сургучу.

— Цьфу ты, укласці забыўся, — завінаваціўся дэсантнік і зноў залез за пазуху. — Во!..

На белым, таксама сакрэтным, з вадзянымі знакамі аркушы паперы, пададзеным дэсантнікам, як і пакет, скрозь шкло, чырвонымі літарамі было напісана:

«ІДЗІ ЗА ІМ І ПРЫЙДЗЕШ ДА ТАГО І ТУДЫ,
ДЗЕ І З КІМ ЗАЎСЁДЫ ХАЦЕЎ БЫЦЬ».

І ні подпісу, ні даты… Які штаб, хто начальнік?.. Гэты баларун мог і сам такое напісаць, без ніякага штаба. Паперу з вадзянымі знакамі дастаць сёння не праблема. Вунь швагер, калі гадзіннік запіваць прыходзіў, расказваў, як у краме разлічыўся навенькай стотысячнай, а яна аказалася падробленай. Яго ў міліцыю зацягнулі: скуль у вас фальшывая асігнацыя?.. А сапраўды: скуль у яго сто тысяч, у п'янтоса?..

— Ён амаль паўмільёна зарабляе, даглядаючы боскіх людзей, — разважыў дэсантнік. — Дык чаму ў яго не можа быць ста тысяч?

Мар'яна гэта чамусьці раззлавала.

— Таму што жонка ягоная ў дзень зарплаты да касы прыпіраецца і ўсё забірае! А ты не ведаеш, дык і не лезь!..

Дэсантнік міралюбіва ўзняў рукі.

— Я не лезу… Але яна стаўку забірае, а ён працуе на паўтары. І дамовіўся з бухгалтэрыяй, каб грошы за паўстаўкі плацілі яму

асобна, у аванс. Санітарам у лякарні, ды яшчэ ў вар'ятні, працаваць сёння не кожны захоча, дык яны і згадзіліся.

«Плюс, значыць, тысяч дзвесце пяцьдзесят! — мільганула ў галаве Мар'яна. — А на гадзіннік нейкіх дваццаць тысяч пашкадаваў, ды яшчэ гарэлку жлукціў дармавую! І Ганна хоча, каб мы сябравалі?..»

— Правільна хоча, — сказаў дэсантнік. — Жыццё не для таго, каб дробязныя рахункі зводзіць.

— Там дробязь… тут дробязь… — прабурчаў Мар'ян, адчуўшы ў апошніх словах дэсантніка нейкую праўду. — Так і набяжыць…

Дэсантнік нічога на гэта не сказаў, толькі плячыма пацепнуў, і Мар'ян перачытаў чырвоныя пісьмёны на белай паперы: «Ідзі за ім і прыйдзеш да таго і туды, дзе і з кім заўсёды хацеў быць». А дзе і з кім ён хацеў быць?.. Ды яшчэ заўсёды?..

— За кім ісці?.. — спытаў Мар'ян дэсантніка. — За табой?

— За мной, — адказаў той і наўкол разглядзеўся. — Больш няма за кім.

Ісці і праўда не было болей за кім. Хіба што за самім сабой. Ці за Ганнай, якая сонна спытала са спальні: «Мар'ян, што там?..» — і зноў заснула. Куды за ёй прыйдзеш?.. Калі яны ўжо гадоў дзесяць нават не спяць разам.

Наогул: хто, калі і куды яго клікаў?.. За ўсё жыццё… Ну, калі мець на ўвазе нешта добрае. На дэманстрацыі клікалі… На суботнікі… Куды яшчэ? У камунізм…

— Спускайся давай, — рашуча кіўнуў Мар'ян дэсантніку. — Я таксама спускаюся, апрануся толькі.

Дэсантнік падаў яму руку.

— Нам падымацца, а не спускацца… І апранацца не трэба.

Мар'ян зірнуў за акно ўніз… У двары ў такую пару нікога не было, але ж хутка павылазяць людзі, а ён у трусах і ў тапках. І хоць бы трусы былі новыя, модныя якія-небудзь, а то чарнільна-сінія па калена, як з той вайны…

— З якой той вайны?.. — спытаў дэсантнік, вымаючы Мар'яна скрозь шкло, і ніяк не параніўшы яго тым шклом, не зачапіўшы. Толькі ў вачах трошкі зарэзала, як у вадзе з пяском. Ну дык натуральна, бо шкло ж з пяску робяць. — Ты хіба на вайну хадзіў?

Трымаючыся за руку дэсантніка, Мар'ян стаяў на падаконніку і асцярожна намацваў пустату пад левым тапкам… Ён ляўша быў і ўсё рабіў злева. Злева клаўся, злева ўставаў… Злева намацваў… Во, зараз злева па пустаце пойдзе, калі не праваліцца.

— Не, на вайну не хадзіў… Гэта ў нас кажуць так пра нешта старое: як з той вайны. Хто яго ведае, чаму, але так кажуць.

Дэсантнік, правяраючы парашут, на якім ім падымацца, а не спускацца, паторгаў стропы.

— Бо ў вас, апроч вайны, і не было нічога. Што ў вас яшчэ было?

Пад левай нагой нешта дзіўнае адбывалася: нага і не на цвёрдым стаяла, — бо якое ж цвёрдае, калі паветра? — і не правальвалася. Калі з дзяцінства ўспомніць, дык нібы па ўтравянелай багне ідзеш. Балота ўсмактаць гатовае, а трава, як дыван на тое балота пасланы, трымае.

Мар'ян асцярожна паставіў на пустату правую, менш надзейную, бо некалі яна ў калене зламалася, нагу. Але забаяўся нечага і зноў стаў зламанай нагой на падаконнік.

— Мір у нас быў… Развіты сацыялізм. Яшчэ гэтая… як яе… перабудова. Незалежнасць пасля, я са сцягам хадзіў… Во, з Магамедам разам, — узняў Мар'ян руку, вітаючы суседа, які, як заўсёды ўраніцы, выйшаў на гаўбец пакурыць. У яго гаўбец з гэтага боку дома быў, з гасцёўні выходзіў, а ў Мар'яна — з таго боку, са спальні. З гасцёўні, вядома, лепш, бо, калі госці збіраюцца, асабліва летам, дык пастаяць на гаўбцы, паразмаўляюць. Пакураць во, як Магамед. А ў спальні для чаго гаўбец? Толькі праветрыцца. Дык фортку адчыніў — і праветрывайся.

— Ты куды так рана?.. — спытаў Магамед, прыпаліўшы і з асалодай зацягнуўшыся нейкім прэлым, як ад згарэлага бульбоўніку, калі яго ўвосені паляць, дымам. — На поле дзівосаў?..

От, морда татарская! Мала таго, што ні ўранні, ні ўвечары не вітаецца, дык яшчэ робіць выгляд, нібы кожны дзень каля ягонага гаўбца людзі па паветры ходзяць.

Мар'ян з адным татарынам у войску служыў. З чуркам, як у войску савецкім называлі ўсіх, хто з поўдня. Ці з Каўказа, ці з Сярэдняй Азіі, ці з Татарстана — усё адно… Чурка. І Мар'ян не разумеў: чаму чурка? Таму спытаўся неяк у таго татарына: «Як ты думаеш: чаму ты чурка?..» Не хацеў пакрыўдзіць, хацеў разабрацца. А той пайшоў і сяржанту даклаўся: «Радавы Мар'ян Рутнянскі мяне зневажае». Сяржант яго па пяць разоў на дзень чуркай абзываў — і яму хоць бы што. А Мар'ян спытаў: чаму? — пакрыўдзіўся. Вось і паспрабуй зразумець натуру татарскую.

— Не на поле дзівосаў, — крыўдліва сказаў Мар'ян Магамеду, глянуўшы на дэсантніка, які нецярпліва ткнуў пальцам у неба. — На неба.

Полем дзівосаў называлі яны між сабою рынак, на якім можна было знайсці ўсё, пачынаючы ад іржавага цвіка і канчаючы новым, толькі што са склада, пісталетам.

— Шкада. А то б я з табой пайшоў. Тапкі трэба купіць, босы во на гаўбцы… — Магамед падняў і апусціў адну, потым другую нагу, паказваючы, што босы. — І каўпак на машыну. З пярэдняга кола зляцеў. З левага. Можна, канешне, і без каўпака ездзіць, але жонка… Ёй жа трэба, каб блішчэла. — Ён махнуў рукой. — Ды ты сам ведаеш. — І раптам плюнуў раззлавана, затушыў акурак. — Абрыдла ўсё!.. То каўпак, то гадзіннік! Вісеў-вісеў, а ўчора гэх са сцяны — і ўшчэнт! А тут швагер якраз у гасцях. Кердык табе, кажа, Магамед. Калі перад юбілеем, а ў мяне юбілей праз тыдзень, ты ж ведаеш, гадзіннік гэкнуўся, дык пасля юбілею кердык. Прыкмета, кажа, ёсць такая, жалезная. А пасля пытае: «Што табе падараваць на юбілей? Такое, каб паспеў нацешыцца?..» Я з хаты яго выгнаў, дык з жонкай скандал. Накінулася: «Ты майго брата!.. Ён пажартаваў!..» А я ўсю ноч думаў, запала ў галаву: чым жа нацешыцца можна паспець? Ну, калі раптам і праўда кердык… І ні да чаго не дадумаўся. Ні да чаго, разумееш?.. — Магамед кінуў акурак з гаўбца ў двор. — У доктара днямі быў, гузак нейкі на плячо ўскочыў, дык ён мне: «Кідайце курыць, даўжэй пражывяце…» Для чаго даўжэй, ты ведаеш?.. Чым бы ты цешыўся, калі б праз тыдзень кердык?.. Ну вось чым, га?..

У Магамеда бліснулі і высахлі слёзы на сонцы. Коратка-коратка бліснулі і высахлі.

Мар'яну стала шкада Магамеда. Так шкада, што ён сам ледзь не заплакаў. Яму ж самому, калі швагру верыць, хутка кердык. Ці, можа, не хутка, а ўжо?..

Яго раптам торгнула, страсянула, як токам. Ён ажно ўспацеў, падумаўшы, што ўжо мёртвы. Але ўспомніў, што мёртвыя не пацеюць, і трохі супакоіўся. Не ведаў толькі, што адказаць Магамеду. Таму спытаў:

— На якім плячы ў цябе гузак?

Магамед шморгнуў носам.

— На правым.

— А ў мяне на левым…

— І што?..

— Нічога. У мяне на левым, у цябе на правым…

— І што?

— Я ж кажу: нічога…

Мар'ян ступіў з падаконніка на пругкую пустату — з пустаты зноў на падаконнік. Магамед глядзеў на яго, нечага чакаючы, і Мар'ян павярнуўся да дэсантніка.

— Слухай, як цябе…

— Ніяк. Засакрэчаны.

— Ніяк дык ніяк… А суседа майго зваць Магамедам.

Магамед падаў руку дэсантніку:

— Магамед.

Дэсантнік павітаўся з Магамедам неяк сарамліва… Ніякавата, мусібыць, знаёмячыся, пацiскаць руку і ніяк сябе не называць.

— Яму можна з намі? — спытаў Мар'ян. — Ну, калі ў яго таксама гузак?

— Яму не з намі, калі на правым, — уздыхнуў дэсантнік, нібы спачуваючы Магамеду, у якога гузак не там, дзе трэба. — Вось калі б на левым…

— Якая розніца, калі гузак?

— Ёсць розніца.

— Якая? Гузак у мяне — гузак у яго.

— Розніца не ў гузаку.

— А ў чым?

— У месцы, якое ён займае. Так уладкавана.

— Што ўладкавана?

— Сам лад. Жыццё.

«Дык пераладкуй», — хацеў прапанаваць дэсантніку Мар'ян, але не прапанаваў, падумаўшы, што наўрад ці дэсантнік, няхай ён нават і ў балетках, мае паўнамоцтвы на пераўладкаванне жыцця.

— Не пашэнціла мне, — сказаў Магамед, зноў запальваючы. — Ды я нікуды і не збіраўся. Ні направа, ні налева… — Прыкурыўшы, ён трымаў запалку, пакуль яна не дагарэла. — Жыццё, як запалка. Вось было — і дзе падзелася?.. Ні агню, ні дыму. — Магамед кінуў дапалак і пацёр, паслініўшы, пальцы. — Толькі пячэ пры кончыку.

— Пайшлі! — нецярпліва торгнуў парашутныя стропы дэсантнік. — Нам а дзевятай трэба ў штабе быць. А шлях не блізкі.

Мар'ян стаў абедзвюма нагамі на пустату. Дзіўнае ўсё ж адчуванне, але аднекуль знаёмае… І не з дзяцінства, не з хады па багне, не… Тады адкуль?

Ён зрабіў крок, з левай нагі ледзь не зляцеў тапак…

— Ты б, можа, без тапкаў, — параіў Магамед. — А то згубіш.

Мар’ян асцярожна, па адным, зняў тапкі, падаў суседу:

— На, пакуль вярнуся.

— Не вернешся ты, — сказаў Магамед, усоўваючы ногі ў Мар’янавы тапкі.

— Чаму?

— Адтуль не вяртаюцца.

— Адкуль адтуль?..

— Сам ведаеш, адкуль…

— Скуль я ведаю?.. — І тут Мар’ян здагадаўся, што мае на ўвазе Магамед. — Ты думаеш, я памёр?

— А ты як думаеш?..

Мар’ян пасля таго, як яго нібы токам торгнула і ён успацеў, так не думаў. Не, ён жывы, ён некуды пакліканы, да некага дэсантнік яго вядзе, але невядома, па-першае, куды і да каго, а па-другое, нікуды і ні да каго ісці не хацелася. Даўно ўжо не хацелася, вунь нават да швагра ў госці забыўся, калі выбіраўся… А швагер прыпёрся: «Кердык табе», — кажа… Нібы сказаць болей няма чаго.

— Скажы, Магамед…

— Што сказаць?.. — Магамед, узяўшыся за парэнчу гаўбца, падскочыў. — Файныя тапкі, мяккія. Калі б яшчэ каўпак…

Каўпак Магамеду не мог дастацца, бо машыны ў Мар’яна не было. А каб і была…

— Калі б цябе паклікалі туды і да таго, дзе і з кім ты заўсёды хацеў быць, ты б куды і да каго пайшоў?

Магамед глядзеў на Мар’яна, намагаючыся зразумець сэнс пачутага.

— Хто паклікаў?..

— Якая розніца, хто! Ну, во ён, — паказаў Мар’ян на дэсантніка. — Ці нехта яшчэ. Я кажу: калі б паклікалі…

— Да каго?..

От, пень! Чурка!..

— Да таго, з кім ты заўсёды хацеў быць! Дык ты куды і да каго пайшоў бы?..

Магамед задумаўся. Ці, хутчэй, выгляд зрабіў, нібы задумаўся, бо відаць было, што ні да каго і нікуды ісці ён не збіраецца, яму і на гаўбцы ягоным някепска… Яшчэ раз падскочыў — гэтак яму тапкі спадабаліся. І раптам сказаў, падскочыўшы:

— Ва Ўлус Джучы. Да Бату-хана.

— Куды?..

— Ды хана Батыя ў Залатую Арду.

Бач ты, куды і да каго пайсці можна захацець! Мар’яну такое ў галаву ніколі б не стрэліла: у Арду да Батыя.

— Дык гэта ж назад… — няўпэўнена працягнуў Мар’ян, а Магамед спытаў:

— А туды, куды йдзеш ты, хіба ўперад?..

Ён усё ж думаў, што Мар’ян памёр. І хоць бы што яму. Скача ў тапках Мар’янавых… Гэтак і на хаўтурах скакаць будзе. Ды пабачым яшчэ, хто на чыіх…

— Вазьмі Магамеда замест мяне, — прапанаваў Мар’ян дэсантніку. — Ён ведае, куды і да каго хоча.

Дэсантнік зірнуў на Мар’яна, як на папа, які лезе не ў сваю парафію, і пракінуў незадаволена:

— Мой начальнік штаба не Магамед.

— Во! — узняў Магамед палец. — Рэлігійная нецярпімасць… А ты ведаеш, што Батый быў паганцам, ягоны сын Сартак — хрысціянінам, а брат Батыя Бэркэ — мусульманінам? І нікому гэта не замінала.

Дэсантніку не спадабаліся словы Магамеда… Гэтак не спадабаліся, што ў яго куточак рота торгнуўся нервова, але ён зрабіў выгляд, нібы ўсміхнуўся.

— І мне не замінае. Калі надта хочаш, пайшлі.

— Дык я ж не мёртвы, — сказаў Магамед, і дэсантнік рэзка хіснуўся да яго на сваім парашуце:

— Скуль ты ведаеш?..

Магамед разгубіўся…

— Як гэта, скуль?.. Не мёртвы — і ўсё. Які я мёртвы, калі жывы?..

Нешта не складвалася ў іх, у Магамеда з дэсантнікам, які хістаўся над пустатой… І ніяк не ўспомніць: адкуль яно — гэтае нібы знаёмае адчуванне пустаты?

— Не мёртвы ты, — супакоіў Магамеда Мар’ян. — Як бы ты мёртвы ў тапкі мае ўлез?..

— Аддаць? — нахіліўся, каб тапкі зняць, Магамед, а дэсантнік спытаў Мар’яна раздражнёна:

— Ты йдзеш?

— Насі, — сказаў Мар’ян Магамеду. — Пайду я…

— Куды?

— Туды…

— Куды туды?

— Дзе быць хацеў…

— У Залатую Арду? Да хана Батыя?

Мар’ян раззлаваўся.

— На які чорт мне твой Батый з тваёй Ардой! Я хіба татарын? Ну вось скажы: я татарын?

— Я татарын, — супакоіў яго Магамед. — Ты не татарын. Але куды ты пойдзеш?..

Ён проста не разумеў, не ўяўляў, куды яшчэ можна пайсці, калі не ў Залатую Арду?

— Куды ў паперы напісана!

— У якой паперы?

— У гэтай! — схапіў Мар’ян з падаконніка і сунуў пад нос Магамеду паперу з вадзянымі знакамі і чырвонымі пісьмёнамі. — Во тут, во!.. Туды і да таго, дзе і з кім заўсёды хацеў быць!

— Дык у Залатую Арду… — сказаў Магамед, беручы паперу, і Мар’ян закрычаў на ўвесь двор, не стрываўшы:

— Ды прачытай ты! Якая Арда? Дзе тут пра Арду?.. Спачатку прачытай, а пасля кажы!

На сёмым і пятым паверхах адчыніліся вокны, жанчына ў бігудзі і мужык у піжаме высунулі галовы, убачылі дэсантніка ў белых балетках на парашуце і хуценька схаваліся туды, адкуль высунуліся.

Магамед уважліва прачытаў паперу, уважліва разгледзеў на сонцы вадзяныя знакі.

— Не падробная?..

— Адказваю, — сказаў дэсантнік.

— У нас ёсць каму адказваць… — незразумела пра каго сказаў Магамед. — Мой швагер разлічыўся ў краме стотысячны, дык яго пад пахі і ў пастарунак. «Адкуль у вас фальшывая асігнацыя?..» Але не пасадзілі. Даказаць не змаглі, што сам падрабіў.

Мар’яну няёмка стала, што раскрычаўся, і ён кіўнуў, заміраючыся з Магамедам.

— Майго швагра таксама не пасадзілі. Не змаглі даказаць.

Магамед уздыхнуў, пацёр паперу пальцамі…

— На такой Сараі пісаў.

— Хто?

— Сайф-і Сараі. Паэт. Залаты паэт Залатой Арды. «Спазнала душа прыцяжэнне кахання, Зямлёй вакол Сонца кружляючы зрання у ззянні бязмежных, бясконцых нябёс…» — пачаў чытаць Магамед, гледзячы на сонца, вершы гэтага самага, мусібыць, залатога паэта, але перапыніўся, схапіўся за парашутныя стропы і падцягнуў да сябе дэсантніка… — І гэта тысяча трыста дзевяносты год! Чатырнаццатае стагоддзе! Вы за што Каперніка спалілі?

— Нікога я не паліў! — упёрся нагамі ў гаўбец, спрабуючы вырваць стропы з рук Магамеда, дэсантнік. — І гэта не тысяча трыста дзевяносты, а тысяча трыста дзевяноста першы, калі Тамерлан Сарай аль-Махрус зруйнаваў!.. Адпусці стропы!

— А, ведаеш, — вызваліў Магамед дэсантніка і дачытаў, ускінуўшы рукі ў неба: «Дзе вечнасць з імгненнем спрадаюцца ў лёс».

Тое, што дэсантнік ведае, хто і калі зруйнаваў нейкі там Сарай аль-Махрус, Мар'яна не здзівіла: каму ж яшчэ ведаць, як не яму? Але тое, што Магамед вершы чытае — ды яшчэ залатаардынскія… І ён спытаў Магамеда, стараючыся не выказаць здзіўлення:

— А Капернік пры чым?..

Магамед, здалося, здзівіўся не менш за Мар'яна.

— Ну ты тупы!.. Каперніка калі спалілі?

Мар'ян не помніў, калі спалілі таго Каперніка… І ўвогуле яму здавалася, што спалілі не Каперніка, а некага іншага.

— Калі?

— Праз паўтараста гадоў пасля таго, як Сараі напісаў, што Зямля вакол Сонца круціцца! Дык за што на касцёр?

— Інквізіцыя вершаў не чытала, — сказаў дэсантнік і, трохі прыўзняўшыся, узяў Мар'яна пад локаць — І спалілі не Каперніка, а Джардана Бруна. Пайшлі!

Мар'яну гэта не спадабалася. Не тое не спадабалася, што інквізіцыя не таго спаліла, а тое, як яго дэсантнік пад локаць узяў.

— Ты што мяне, як мент у пастарунак? — тузануў ён локаць, але дэсантнік трымаў моцна і пацягнуў, паплыўшы на парашуце, Мар'яна за сабой. Мар'ян бездапаможна заперабіраў нагамі, спрабуючы ўперціся, але як і ўва што ўпрэшся, калі ногі слізгаюць па пустаце, і калі б Магамед не ўхапіў суседа за другі локаць, дык дэсантнік так бы і пацягнуў яго туды і да таго, дзе і з кім ён заўсёды хацеў быць, а з кім гэта і дзе, калі не з Батыем у Залатой Ардзе?..

Мар'ян завіс паміж зямлёй і небам — і тут успомніў, скуль яно, гэтае хоць і дзіўнае, але нібы знаёмае адчуванне пустаты пад нагамі.

Калісьці, яшчэ ў мінулым стагоддзі, паспрабавалі яны з Магамедам разбагацець. У жонкі Мар'янавай сваяк у Гародні на фабрыцы тытунёвай працаваў. Мар'ян браў у яго цыгарэты, а Магамед іх у Менску нейкім татарам збываў. У крамах у тыя часы — пустыя паліцы. Так што бізнэс быў выгадны, ды нядоўгі. Калі трэцім разам прыехалі яны ў Гародню, да іх падышлі стры-

жаныя хлопцы ў скураных куртках. «Сваяк ваш, — сказалі, — не надта вялікі начальнік, ліміт свой праз яго вы ўжо выбралі. У чацвёрты раз не з'яўляйцеся». А як не з'явішся, калі такі выгадны бізнэс?.. І на чацвёрты раз падвесілі Мар'яна стрыжаныя хлопцы над кручай нёманскай на суку сасновым. Уночы падвесілі і пайшлі. «Пад раніцу, — паабяцалі, — вернемся. Не ўпадзеш — тваё шчасце, звалішся — лёс».

Вісіць Мар'ян над кручай, рот заткнуты анучай, з рукамі звязанымі і нагамі скручанымі, пад якімі — пустата. Вось адкуль яно, дзіўнае, але знаёмае адчуванне… Калені сагнеш, бо ногі зацякаюць — пустата пругка падымаецца, разагнеш — апускаецца… Сук патрэсквае… А ўнізе — метраў праз дваццаць пустаты — вясновы, паводкавы, крыгаломны Нёман.

Канае Мар'ян, сквапнасць сваю праклінаючы. А заадно і Магамеда, якога ў машыне пакінуў каля фабрыкі. На ўсялякі выпадак. Каб той, калі што… Дык той убачыў, як стрыжаныя Мар'яна скруцілі, — і на газ. Уцёк, сабака. Кінуў кампаньёна, якому да раніцы наўрад ці дажыць.

Аказалася, нездарма сквапнасць сваю праклінаючы, суседа Мар'ян праклінаў дарма. Як толькі стрыжаныя сышлі, Магамед аднекуль з'явіўся. Нібы з ночы вырас. Палез здымаць Мар'яна з сасны, на нагах вяроўку разрэзаў, да сябе пацягнуў, за дзягу ўхапіўшыся, — сук і абламаўся…

З Нёмана Магамеда, які з кручы скочыў, каб на руках Мар'янавых вяроўку разрэзаць, Мар'ян ужо сам на бераг выцягваў. Татарын, аказалася, плаваць не ўмеў. А ратаваць Мар'яна кінуўся. У паводку, у крыгалом.

Калі ў Менск прыехалі, Мар'ян прапанаваў да яго зайсці. Выпіць за сяброўства. Магамед адмовіўся. «Пайшоў ты!.. — сказаў. — Я праз цябе ледзь не ўтапіўся, піць яшчэ з табой!..»

Вось і зразумей татарскую натуру… У Залатую Арду ён хоча…

— Адпусці! — крыкнуў дэсантніку Магамед, які, утрымліваючы суседа, ледзь не перакуліўся праз парэнчу гаўбца. — Підар!

— Я не підар, я фельд'егер, — зноў, як і нядаўна, калі Мар'ян яго гэтак абазваў, не пакрыўдзіўся дэсантнік, бо, мусібыць, усе ў іх там, у іхнім штабе, калі не підары, дык фельд'егеры. І спытаў Мар'яна:

— Адпусціць?..

Мар'ян не ведаў, што рабіць. Найлепш было б так і вісець паміж небам і зямлёй, але ж не ў сваім двары і не ў трусах

чарнільных яшчэ з той вайны… На поле дзівосаў трэба схадзіць, трусы купіць новыя, а тады ўжо паміж зямлёй і небам вісець.

— А праўда, што хуткасць святла ў часе змяншаецца?.. — вырашыў Мар'ян перш, чым адказаць, пацягнуць час, паспрабаваў зазірнуць дэсантніку ў вочы, ды сонца з-за спіны дэсантніка так асляпіла, што ўзвіравала перад позіркам Мар'янавым чарнільна-сіняя, бяздонная пустата, і ў той пустаце, як іскры, ляцелі і круціліся, куляліся з ног на галаву і з галавы на ногі сотні, тысячы, мільёны, мільярды дэсантнікаў, якія нечакана ўсе разам, хорам прапяялі: «Хуткасць святла роўная дзвесце дзевяноста дзевяць мільёнаў семсот дзевяноста дзве тысячы чатырыста пяцьдзесят восем метраў у секунду…» — і раптам Мар'яну адкрылася ў тым бяздонным віры ўсё да донца, ён да рэшты ўсё зразумеў пра жыццё і пра смерць, але зразумеў толькі на імгненне, на секунду, бо, калі прашаптаў дэсантніку: «Пусці…» — і той, ужо ўкруціўшы Мар'яна іскрынкаю ў пустату, вярнуў яго, паставіў на гаўбец побач з суседам, Мар'ян спытаў Магамеда: «А ты чаго за мяне ўчапіўся?..»

— Каб з табой на поле… — не дагаварыў, адпускаючы Мар'янаў локаць, Магамед, бо дэсантнік ускрыліў на парашуце, які, аказалася, ні за дах, ні за нешта іншае не зачэплены, проста вісеў у паветры, і пругкая, нібы гумовы трос, хоць ніякага троса не было, тугая сіла торгнула, адарвала ад сцяны гаўбец, і яны паплылі на ім за дэсантнікам, паляцелі ўсё хутчэй і хутчэй, праз нейкую хвіліну апынуўшыся на полі дзівосаў, дзе дэсантнік, тройчы крыкнуўшы на развітанне: «Ал-ла!.. Ал-ла-а!.. Ал-ла-а-а…» — кінуў іх і ўзвіўся за аблокі, а да Мар'яна з Магамедам з усяго поля дзівосаў навыперадкі пабеглі людзі, каб купіць лятучы гаўбец, які Мар'ян з Магамедам не прадалі, бо дзе тады ўраніцы курыць Магамеду?..

Купіўшы Мар'яну новыя, але ўсё адно сінія, толькі не па калена, трусы, а Магамеду тапкі і каўпак, вярнуліся назад. Гаўбец прыляпіўся на сваё месца, яны стаялі на ім, Магамед курыў і распавядаў Мар'яну пра хана Батыя, пра Залатую Арду, якая знікла праз тое, што не ведала межаў сваіх, а Мар'ян слухаў і думаў, што, канешне, Залатая Арда — гэта здорава, калі на падаткі браліся ўсяго дзесяць адсоткаў, а не ўсе сорак, як цяпер, і хан Батый малайчына, амаль увесь свет зваяваў ды яшчэ чатырнаццаць сыноў настругаў, і ўсё ж ні Батый, ні Залатая Арда не той і не тое, з кім і дзе Мар'яну заўсёды хацелася быць, а дзе і з кім яму быць хацелася — хто яго ведае, і ён пытаўся пра гэта ў Магамеда, але той таксама не ведаў, прызнаўшыся, што пра

Залатую Арду і хана Батыя наплёў проста так, каб ад дэсантніка адчапіцца, каб той не падумаў, што і з Мар'янам Магамеду нармальна, от, морда татарская…

*Жнівень–верасень 2008, Кактэбель, Менск*

## ЦМОК

Труну з целам Цімоха Нілавіча Макея паставілі каля магілы на козлікі, якія раптам падламаліся, бо за доўгія гады струхнелі пад дажджом і снегам, а Цімох Нілавіч быў мужчына мажны. Труна кульнулася, цела Цімоха Нілавіча скацілася з глінiстага грудка ў густыя кусты пры агароджы могілкаў, а тут пачаўся дождж са снегам, усе заспяшаліся, замітусіліся і, не заўважыўшы, што труна пустая, накрылі яе вечкам і закапалі без нябожчыка.

Была позняя восень, амаль зіма, і кусты былі хоць і густыя, але голыя. Цімох Нілавіч пачаў прамакаць, таму падняўся і ўбачыў, што яго пахавалі пад крыжам з надпісам: Макей Цімох Нілавіч, 11.11.1959–11.11.2009, — з чаго вынікала, што ён на гэтым свеце, дзе такія людзі, якія, каб не прастудзіцца пад дажджом са снегам, могуць закапаць труну без нябожчыка, пражыў роўна паўвека. Яшчэ 10 гадоў заставалася яму да пенсіі.

Ён пахадзіў вакол крыжа, палюбаваўся на свой прыгожы, з чорнай стужкай, партрэт і рушыў дахаты, бо не ведаў, што яму, непахаванаму, на могілках рабіць.

Дома ніхто не адчыняў, ён звыкла памацаў па кішэнях, шукаючы ключы, не знайшоў і падумаў, што дарма завядзёнкі такой нямашака, каб хаваць з ключамі, бо ці мала што… Суседкі таксама дома не аказалася, а дачка яе з «лапухамі» на вушах сказала, торгаючыся пад музыку, якую ў тых «лапухах» слухала, што маці з цёткай Рэняй зараз у кавярні «Сонейка», дзе спраўляюцца памінкі, бо ў цёткі Рэні муж ад сэрца памёр, і дзіўна, што ён сам, памерлы, пра гэта не ведае. Яшчэ Ганя, дачка суседкі, папярэдзіла яго, каб ён асцерагаўся, бо амаль ва ўсіх трылерах, якія яна глядзела апошнім часам, людзі ў адносінах да прывідаў усё болей бязлітасныя, калечаць іх і нават забіваюць. Яна, Ганя, думае, што такая тэндэнцыя ў кінематографе наўпрост звязаная з падвышэннем жорсткасці ў свеце. Людзі сатанеюць.

Цімох Нілавіч зразумеў, што Ганя лічыць яго прывідам, і спытаў, як яна думае: ён насамрэч прывід ці здаецца ёй прывідам? — на што Ганя адказала, што ніяк яна не збіраецца

пра гэта думаць, бо яно яе не калыша. «Вы і ў жыцці былі хоць і мажны, — сказала, торгаючыся, дачка суседкі, — але нейкі незаўважны. Як прывід».

Па дарозе ў кавярню «Сонейка» Цімох Нілавіч спаткаў Дзіяну Святкоўскую, з якой не бачыўся са студэнцкіх гадоў, таму Дзіяна не ведала, што ён памёр. Некалі Цімох Нілавіч быў закаханы ў прыгажуню Дзіяну, і яна была закаханая ў мажнага Цімоха, але ён ніводнага разу не прызначыў ёй спаткання, ніколі раней не запрашаў на каву, дык запрасіў цяпер.

У кавярні не знайшлося вольнага стала, каб сесці асобна — яны селі за памінальны. Рэня пасунулася, заплакаўшы: «Сядай, Дзіяна, вось бачыш, не стала Цімы, праз якога мы некалі пасварыліся, цяпер сварыцца нам няма праз каго…» — а Дзіяна сказала, сядаючы: «У мяне, Рэня, таксама муж памёр…» — і разам з Рэняй заплакала. Цімох Нілавіч падумаў і сеў паміж імі, а то будуць на плячы адна ў адной раўсці ўвесь вечар — не пагаворыш. З Рэняй дык ён нагаварыўся, а з Дзіянай яму хацелася пагаварыць. Тым больш, што ейны муж памёр.

«…і неяк так для ўсіх незаўважна ён выконваў свае абавязкі, што ўсе дзівіліся, калі яны выконваліся, і праекты рабіліся праектамі», — завяршыў сваё памінальнае слова намеснік дырэктара праектнага інстытута, у якім працаваў Цімох Нілавіч, а калега Цімоха Нілавіча інжынер Сташанскі дадаў, што, прасядзеўшы з нябожчыкам стол у стол амаль дваццаць гадоў, ён не можа ўспомніць, каб той хоць у нечым яму замінаў — гэтак нябожчык сапраўды працаваў непрыкметна.

Усе, апроч дырэктара інстытута, які ні на пахаванне, ні на памінкі не прыйшоў, адзін за адным падымаліся за памінальным сталом і, жадаючы, каб Цімоху Нілавічу зямля была пухам, прамаўлялі хораша. Цімох Нілавіч не надта тымі словамі падманваўся, бо, калі б сядзеў зараз не на сваіх памінках, а на памінках Сташанскага, дык падняўся б і сказаў тое самае. Не ў тым сэнсе тое самае, што Сташанскі дваццаць гадоў ніяк яму не замінаў, Сташанскі яшчэ як яму замінаў, але Цімох Нілавіч сказаў бы, што гэта яму не замінала. Хоць, хутчэй за ўсё, менавіта Сташанскі, які быў нібыта дарадцам дырэктара інстытута, а насамрэч проста азадак яму лізаў, падгаварыў дырэктара не прыходзіць на развітанне з Цімохам Нілавічам Макеем, бо шараговы інжынер — не тая фігура, каб дырэктару з ім развітвацца.

На тым месцы за памінальным сталом, дзе мог бы сядзець дырэктар, сядзела суседка, якая ўстала і сказала, што Цімох Нілавіч быў вельмі добры сусед.

— Я кахала яго, — паднялася побач з ім Дзіяна. — І калі б ён прызнаўся, што таксама… Але… Нават сёння запрасіў і не сказаў. Я не ведала, што памёр… Прайшоў праз жыццё маё незаўважна, пухам яму зямля.

— І ўсё ж нешта ў ім было, калі сэрца спынілася… — уздыхнула сакратарка намесніка дырэктара, якая, як ягоная сакратарка, хадзіла з ім паўсюль і нават на памінкі.

Цімоху Нілавічу таксама здалося, што Дзіяна сказала не зусім тое, што павінна была сказаць. Ці, ва ўсякім разе, не ўсё. Чамусьці гэта яго пакрыўдзіла. Ён нават паспрабаваў адсунуцца ад Дзіяны бліжэй на Рэні, але тая ўперлася ў бок ягоны локцем: маўляў, памёр, дык не лезь.

Прычыну, па якой Рэня не захацела туліцца да яго, ён зразумеў пасля памінак, калі зазбіраўся па звычцы дахаты ўслед за Рэняй, а яе ўзяўся праводзіць Сташанскі — і яны амаль на кожным скрыжаванні, як студэнты, цалаваліся. Не зважаючы на суседку, якая плялася за імі. Сташанскі хацеў нават у дом зайсці, але ўдава ўсё ж засаромелася, не пусціла: «Ён яшчэ тут, няхай хоць ноч праміне…»

— Ну што, Цмок?.. — спытаў Сташанскі, калі яны засталіся на вуліцы ўдвух. — Ты цяпер куды?..

Яшчэ з дзяцінства прыстала да Цімоха Нілавіча мянушка Цмок. Ён і не падобны быў на цмока, які з яго цмок? — а вось мянушка так прыляпілася, што і па смерці не адляпіць.

Цімох Нілавіч пацепнуў плячыма: ён насамрэч не ведаў, куды яму цяпер?..

— Можа, да Дзіяны?.. — нібы падказаў яму Сташанскі, якому не цярпелася, каб Цімох Нілавіч сышоў. — Ці да суседкі…

Да суседкі заходзіць Цімоху Нілавічу не было чаго. Ён чуў, што амаль ва ўсіх нешта такое бывала з суседкамі, а ў яго — не. Тая, здаралася, прасіла па-суседску то палічку прыбіць, то кран падкруціць, пасля налівала чарку і неяк так глядзела, нечага чакаючы, але Цімох Нілавіч не піў — ён нават на памінках сваіх ні кроплі не выпіў.

— Да Дзіяны, — сказаў Цімох Нілавіч, — і Сташанскі пляснуў яму па плячы:

— Правільна! А то столькі гадоў… — І пацікавіўся, таропка сунуўшы руку на развітанне. — Ты на рабоце заўтра будзеш?

— Мушу быць, — паціснуў руку Сташанскаму, хоць не хацеў паціскаць, Цімох Нілавіч. — Калі гэта я не быў?..

— Хто цябе ведае!.. — пляснуў яму другой рукой па другім плячы Сташанскі. — Неяк і не відаць, калі не разгледзецца, ці ты ёсць, ці цябе няма… І чаму гэта Цмокам цябе празвалі?

— Бо трохгаловы, — адказаў Цімох Нілавіч, якому хацелася адной галавой плюнуць на Сташанскага, другой — агнём на яго дыхнуць, а трэцяй… А трэцяй…

Навошта Цмоку трэцяя галава?..

Па дарозе да Дзіяны Цімох Нілавіч заблукаў, бо, па-першае, была ўжо ноч, а, па-другое, дарогі да Дзіяны ён не ведаў. Блукаючы, незаўважна для сябе выйшаў на могілкі — якраз да свайго грудка. Пахадзіў вакол крыжа з надпісам: Макей Цімох Нілавіч, 11.11.1959–11.11.2009, — з чаго вынікала, што на гэтым свеце, дзе такія людзі, якія, каб не прастудзіцца пад дажджом са снегам, могуць закапаць труну без нябожчыка, ён пражыў роўна паўвека.

Дождж са снегам скончыліся. Палюбаваўшыся на свой прыгожы, з чорнай стужкай, партрэт, Цімох Нілавіч лёг у кусты, пераначаваў, а раніцай падняўся і пайшоў на работу. Яму яшчэ 10 гадоў заставалася да пенсіі.

***19–20.02.2009, Масква, Менск***

## АДЛЮДАК

— Людзі любяць тых, хто любіць іх, — ідучы да дзвярэй, сказала Антаніна. Яна кожнага разу нейкай адной фразай рабіла выснову з іх нядзельных гаворак. У астатнія дні, апроч нядзелі, гаварыць Нічыпару не было з кім, таму ён спытаўся ў спіну Антаніне:

— А Бог?

— Бог таксама, чым ён лепшы за людзей?.. — штурхнула Антаніна набрынялыя за зіму дзверы і, ужо зачыняючы іх, нібы сама сабе дагаварыла: — Ці горшы…

З гэтага вынікала, што любіць Нічыпара няма каму, бо сам ён не любіў ні людзей, ні Бога.

А за што іх любіць, людзей?.. Тая ж Антаніна, калі ён на вядро ўраніцы сходзіў і перакуліў яго, злазячы, раззлавана пракінула: «Хутчэй бы ты памёр!..» Пасля, падлогу падмываючы, хітравацца пачала: «Не таму, што мне твая хата патрэбная, а каб не мучыўся: усё адно ты з сябе анічога добрага ўжо не вымучыш. Толькі тое, што ў вядро».

Яна і ў царкву ці не для таго пайшла, каб папу сказаць, што Нічыпару хутка капцы. Скуль яна ведае: хутка ці не? Вяшчуння знайшлася…

Нешта рана яна сёння ў свой горад з’ехала… Толькі з царквы вярнулася — зазбіралася: сэрца ёй прыцiснула, да доктара трэба. Якія ў нядзелю, хоць і ў горадзе, дактары? Пабыла ў царкве, памалілася — кладзіся ды памірай, вяшчуння…

Сэрца ёй прыціснула… Нічыпару вунь трэці дзень цісне — і што?.. Нічога. Яно цісне, ён трывае…

Калі б не напляла папу, што Нічыпар канае, той бы не прыпёрся: «Вялікдзень бліжэе, лепш да Вялікадня паспавядацца…» Думае, што Нічыпар скажа яму на споведзі, дзе золата схаваў. А як адчуў, што ўсяго яго бачыць Нічыпар, як голага, дык няёмка стала, дыму пачаў напускаць: «Вам Антаніна сёння нічога не казала?..»

Што магла сёння сказаць Антаніна?.. Тое ж, што і тыдзень таму. Глупства якое-небудзь бабскае. «Ой, не дай Божа ў жабрацтве хворую старасць…»

— Сказала, што людзі любяць тых, хто любіць іх.

— І ўсё?

— Яшчэ сказала, што Бог любіць таго, хто любіць яго.

— Бог усіх любіць, — вялавата запярэчыў поп, і выглядала на тое, што ён незадаволены Антанінай не таму, што не так, як мае быць, Боскую любоў яна разумее, а па нейкай іншай прычыне.

Цікавы поп, таксама нікога не любіць. Робіць выгляд, што Бога. Маладым, нешта скраўшы, адсядзеў два гады, да гэтай пары наколкі пад хламідай хавае. Пасля турмы прыдумаў, як жыць, каб не цягаць і не сесці, а самі прыносілі. Бацькоў меў з каталікоў, дык спачатку ў ксяндзы падаўся, а ў ксяндзоў, аказалася, цэлібат. Ён тады гоп — і поп. У праваслаўе перакінуўся, у адзіную святую веру. Матухну завёў… Не тутэйшую, з Гародні прывёз. Дзевак топча… Але таксама не тутэйшых, асцерагаецца: то ў Менск, то ў тую ж Гародню адскоквае. Кот марцовы.

Перад папом, гадзіны праз дзве пасля таго, як Антаніна ў горад падалася, Казімір прыцягнуўся. Спытаў, ці не прыходзіў Зэнусь. Дазнаўшыся, што не, павярнуўся на парозе: «Справы ў мяне…»

Якія ў яго справы? На печы тараканаў таўчы? Ён на чатыры гады старэйшы за Нічыпара. Але ж во цягаецца… Нічыпар ляжыць, а ён цягаецца, морда сельсавецкая!

Чаго Казіміру пра Зэнуся пытацца? І па што Зэнусю сюды на мыліцах кульгаць? Ні ён Нічыпару, ні яму Нічыпар не ў радасць. З часу, як Нічыпар злёг, ні разу не бачыліся — дык чаго раптам? Ці таксама закарцела пра золата дазнацца?..

Чмур.

Дурнота — яна, як туман: калі ўсклубіцца, дык над усімі.

Непрыязь адчуваў Нічыпар да Зэнуся. Хоць абодва лагернікі, абодва сядзелі, абодва ні за што… І нічога ж не зрабіў яму Зэнусь кепскага. Пеўня драўлянага на вільчык, з лагера вярнуўшыся, вырабіў. А вось непрыязь… Нават варажнеча, як і да Казіміра.

Чаму, га?.. Нібыта не павінна быць, а вось ёсць…

А Казімір як у хату зайшоў!.. Ні будзь здароў — ні каб поп над табой зароў. Нібы ўчора сустракаліся… За ўсю зіму ніхто і на падворак не зазірнуў, а тут — у хату адзін за адным.

Эх, шкада хаты, найлепшая ў вёсцы! З падворку — азерца з прысадамі, за адрынай — лес. Некалі на гэтым месцы панскі маёнтак стаяў, пан спаліў яго, уцякаючы, каб бальшавікам не дастаўся. І месца пракляў… Не дурны быў, разумеў, што не вернецца.

Раптам падумалася: «Дык і я ж не вярнуся…»

Пасля вайны, калі калгас пачаўся, на падмурку маёнтка ўздумалі праўленне калгаснае збудаваць — не дабудавалі. Пад дах падвялі, пеўня драўлянага, Зэнусем вырабленага і ў сіні колер пафарбаванага, на вільчыку прыладзілі, каб прыгожа было і каб вецер паказваў, а на драўлянага пеўня вогненны з ветрам наляцеў — і пайшло ўсё полымем. Прычым у нядзелю, якраз на Вялікдзень, з царквы тушыць кінуліся… З раёна дазнавацца прыехалі, хто падпаліў, а ўсе як адзін жагнаюцца: ніхто, само загарэлася. Месца праклятае…

Зэнуся арыштавалі. Нехта бачыў, як зверху, ад сіняга пеўня запалала. Не ад ветру ж…

Тры вянцы знізу, дзе-нідзе падсмаліўшыся, ацалелі, ды ніхто ўжо не тое, што будавацца там, а нават бёрны тыя браць не хацеў. Тады Нічыпар і папрасіў у сельсавеце: дазвольце мне на пажарышчы хату паставіць. Сельсавецкія пачалі яго, як няўцяму нейкага, адгаворваць, а Казімір, старшыня сельсавета, Зэнуся брат стрыечны, у адгаворкі не стаў гуляць: «Калі хочаш, стаўляй».

Усяго адзін свежы вянец паспеў Нічыпар пакласці на тры падсмаленыя, як па яго прыехалі з раёна. Павезлі з сабой. «Калі ты будуешся, дык табе выгадна было падпаліць — ты і падпаліў».

Ну, не ад ветру ж загарэлася… І не ад пеўня…

У вёску Нічыпар вярнуўся толькі праз год па смерці Сталіна. Восем гадоў, як лёду… Маладых, дужых, самых-самых… Хоць асаблівай розніцы ў жыцці за гэты час не адчуў: як тут, у калгасе, гарбаціўся, бёрны цягаў, так і там, у лагеры.

Чатыры вянцы зруба каля азерца хоць і ўчарнелі, але стаялі: ніхто на бёрны з праклятага месца не пакваліўся. Нічыпар скінуў верхні вянец, ад дажджоў і снегу падрухнелы, і на тры падсмаленыя, як і восем гадоў таму, стаў класці новыя. Калі вывеў зруб пад дах, прыладзіў на вільчыку пеўня драўлянага, сіняга. Зэнуся папрасіў — той вырабіў.

Зэнусь вярнуўся ў вёску амаль на год пазней за Нічыпара. Якраз у час, каб пеўня вырабіць. На мыліцах даклыпаў: у лагеры, пад самы званок, яму спіну перабілі. Ці не год ляжаў у шпіталі, не ўстаючы, гэтаксама, як цяпер Нічыпар. Пасля стаў на мыліцы…

Можа, і Нічыпару яшчэ ўдасца на зямлі пастаяць… Няхай на мыліцах. Ён-то рухаўся, падцягваючыся на руках, па хаце, яды якой на прыпечку ўзяць ці на вядро схадзіць, а ногі цягнуліся ззаду — мёртвыя, не свае…

Калі Нічыпара забралі, дык усе падумалі, дый Нічыпар гэтаксама падумаў, што Зэнуся адпусцяць, але суд над ім, як сам Зэнусь сказаў, не сталі перасуджваць. Шкода, маўляў, вялікая, праўленне калгаснае згарэла — за такое і двое пасядзець могуць.

Чаму Нічыпар яшчэ тады, адразу пасля вайны, калі калгас пачаўся, будавацца ўздумаў? Бо ажаніўся, дзяцей збіраўся займець. Многа, не менш як пяцёх. Для такой сям'і калі ўжо хата, дык хата, а не слепавушка на два акны, з якой ён Дануту ўзяў. Маладая жонка, баба гожая і ва ўсім спраўная, адразу зацяжарала, так што можна было і пяцёх чакаць, а ён нават першынца не пабачыў. Дый не толькі ён, ніхто ў вёсцы. Праз месяц, як яго пасадзілі, прыехаў нехта ўночы на палутарцы, не міліцыянт, цывільны, пакідаў у кузаў Дануціны клункі, яе ў кабіну — і звёз. Ніхто не ведаў: куды? Але ўсе здагадваліся: у высылку, як жонку ворага. У невараць.

Калі Нічыпар вярнуўся, Антаніна, яна тады ў Гародні на бухгалтарку вучылася, сказала яму, што той мужык у цывільным, які Дануту звёз, нібыта швагер Зэнусяў, якога ў вёсцы ні да таго, ні пазней і не бачыў ніхто, бо ён сакрэтны нейкі, а яна ў Гародні яго пад руку з сястрой Зэнуся спаткала, ужо не ў цывільным, і нібы пазнала яго, бо ў тую ноч, калі ён прыязджаў, не спала, у яблыкі хадзіла, ноч месячная была, і быццам бы сястра Зэнусева ў Гародні прайшла пад руку з тым мужыком сакрэтным міма Антаніны, зрабіўшы выгляд, нібыта не заўважыла яе, — але ўсё гэта нібы, быццам бы, нібыта…

Зося, сястра Зэнуся, была сястрой яму толькі па маці, якая ў Гародню на кірмаш ездзіла, дзе Зосю нагуляла, а калі памерла, Зосі гадоў сем было, дык той, з кім нагуляла, прызнаў Зосю за дачку, забраў яе, і ў вёсцы пасля таго Зося амаль і не бывала, так што як яна Антаніну, так і Антаніна яе, спаткаўшы, наўрад ці магла б пазнаць… А тым больш пазнаць мужыка, якога некалі, калі яшчэ малой была, здалёк бачыла пры месячным святле, седзячы на яблыні.

Нічыпар ліст напісаў у Гародню, у пракуратуру, папрасіў паведаміць пра лёс жонкі і, калі яно нарадзілася, дзіцяці. З пракуратуры адказалі, што грамадзянка Янчэўская Данута Бранiславна, жыхарка вёскі Крыўе, ніколі не судзілася і нікуды не высылалася. Але якая вера той пракуратуры, калі людзей без ніякага суда высылалі?..

Хата па ўсім падмурку былога панскага маёнтка для аднаго была завялікая, Нічыпар адгарадзіў палову з боку лесу пад гаспадарства: складзікі, клець, майстроўня… Стаў склеп на той палове капаць, пад самы падмурак гэкнуў ломам — жалеза ў жалеза! Трохі зямлю разгроб і сцяўся: снарад! Яму б, абэлтуху, яшчэ пагрэбацца, разгледзецца, што там за снарад такі, можа, з'іржавеў і дух з яго выйшаў, а ён з перапуду ў сельсавет кінуўся, каб у раён званілі, сапёраў клікалі. Ды яшчэ шчасліваўся, што жывы застаўся…

Казімір, старшыня сельсавецкі, — ён, мусіць, і па смерці ў старшынях хадзіць будзе, — сапёраў не стаў клікаць, сам у войску сапёрам быў. Крыльца гусінае ўзяў, зверху жалеза пачысціў, а там і не снарад ніякі, проста гільза, гнілым суком закаркаваная. Сук сам, як толькі Казімір гільзу падняў, вываліўся — і за ім сыпанулася золата: манеты, бранзалеткі, ланцужкі, пярсцёнкі…

Каб жа прыйшло ў галаву Нічыпару, што гэта ці ад лёсу, ці ад Бога — узнагарода яму за ўсе згубы ягоныя, за ўсе мукі. Пабег бы ён тады ў сельсавет, клікаў бы Казіміра, ага! Ён бы валасы з галавы павыдзіраў і зямлю з той гільзы імі пазмятаў… Але нічога такога, калі гэкнула жалеза ў жалеза, і блізка не падумалася. Не прыйшло.

З некім іншым, ды хоць з кім з вясковых можна было б дамовіцца і падзяліць золата, каб не здаваць, але не з Казімірам, які тыкаў ломам ва ўсе куты, дапытваючы: «І ты хочаш сказаць, што знайшоў толькі адну гільзу, больш нічога?..» Ад яго і пайшло па вёсцы: маўляў, не ўсё, што знайшоў, здаў Нічыпар дзяржаве. Адну гільзу паказаў наўмысна, каб сплацілі яму законную чвэрць

і пасля не чапляліся, скуль у яго грошы, — а яшчэ адну, ці нават дзве, схаваў. Праз гэта і прыпёрся поп да споведзі Нічыпара змушаць… І не дурны ж чалавек, не кантужаны сельсаветам, як Казімір, а во як жадоба слепіць.

— Я прасіў Антаніну, каб сказала вам…

Што яму тая Антаніна далася?

— Дык яна і сказала…

— Што?

— Бадай бы ты, сказала, здох хутчэй, мне б хата дасталася…

Поп рукі ўзняў:

— Госпадзі…

Нічыпару нават па законе належную чвэрць ад кошту скарбу не сплацілі. Пастанавілі, што паколькі само золата старшыня сельсавета знайшоў, а Нічыпар толькі гільзу, дык ад гільзы, калі хоча, можа чвэрць адпілаваць. Сход калгасны сабралі, на якім Казімір урачыста адмовіўся ад свайго на карысць дзяржавы, якой золата патрэбнае, каб Амерыку дагнаць і перагнаць. І ўсе вясковыя сядзелі, у далоні пляскалі. Радыя, што нічога нікому не дасталося, апроч граматы Казіміру «За перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве». Пры чым тут перамога ў сацыялістычным спаборніцтве?..

І такіх людзей любіць?.. За што? Няхай сабе ўсе называюць яго адлюдкам, але і ўсе — не людзі.

Нічыпар не нарадзіўся ў нелюбові, яна нарадзілася ў ім — і ён ведаў, калі. Не тады нават, калі ён сям'ю завёў і жытло ладзіць пачаў, а ў яго і сям'ю, і жытло адабралі, ні за што ў лагер саслалі, — раней. Раней, ад маленства ён хацеў жыць калі не лепш, дык не горш за ўсіх, і ў такім натуральным для чалавека жаданні адчуў, як астатнія ўсе гэтага лепшага, чым у іншых, жыцця ягонага не хочуць, хоць нічога ж ён ад іншых жыццяў не адшчыкваў, нікому лепей за яго жыць не замінаў: браў усё на пуп, цягнуў на ўласным гарбе, на чужым не едучы. Вунь дом які адзін падняў — хай бы хто паспрабаваў!.. Ды аказалася, што, калі ты ўсё сам, нічога і нікому не вінен, дык ты вінен усім — і якраз за тое, што ўсё сам. Бо не калгасам і не кагалам жывеш з усімі, як усе, бо хата твая не сярод хлявоў, а на ўскрайку, каля возера з прысадамі, — адлюдак.

А хто з кім жыве?.. Ніхто ні з кім.

— Чалавек з Богам жыве, а калі з Богам, то з усімі, бо Бог, які ў кожным, усіх яднае, — запярэчыў Нічыпару поп, на што Нічыпар спытаў:

— Калі ў вас ёсць Бог, дык нашто вам, бацюшка, золата? На неба ж не возьмеш.

Поп заёрзаў на крэсле, выгляд зрабіў, што здзівіўся:

— Якое золата?

От і выдаўся!.. Калі б не пра золата дазнацца прыйшоў, дык не пытаўся б: якое?.. Няма нічога такога, няхай самага неверагоднага, у што б чалавек не паверыў, калі з’яўляецца хоць прывідны шанц тое неверагоднае хапнуць. Калі нават яно гэткае ж неверагоднае, як Нічыпарава золата.

Вунь Нічыпар паабяцаў Антаніне, што, калі яна хоць збольшага яго, нерухомца, дагледзіць, ён хату ёй пакіне. Неверагодна, а яна паверыла. Ён, можа, і пакіне, бо няма болей каму пакідаць, а з сабой не возьмеш, ды хіба можна ў такое верыць? Нельга. Але абяцанкі-цацанкі — не адно дурню радасць. Гэта такія цацкі, якія і разумнікі не выкідваюць. І дзецьмі з імі гуляюцца, і старымі — да скону.

Антаніна ўжо з паўгода як паабяцала кітайца нейкага з іголкамі прывезці — і не вязе. А Нічыпар, зусім не дурань стары, чакае. Час ад часу пытаецца: дзе той кітаец? Той жа кітаец то ў Кітаі, то ў Манголіі, то яшчэ недзе, а да Крыўя ніяк не даедзе. Ды не таму, што так ужо ўсім ён здаўся, цэлы свет без яго абысціся не можа, а таму, што без патрэбы Антаніне на ногі Нічыпара ставіць. Бо, падняўшыся, ён можа пайсці з усім сваім, і тады Антаніна ні з чым застанецца. А так яна з двума абяцанкамі: і што дагледзіць, і што кітайца прывязе. Хочаш — вер, не хочаш — не. Калі ўдумацца, верыць няма ў што, але як не верыць?

— Пэўна ж, той доктар заняты, Антаніна праўду кажа, хоць дзіўна, што не ўсю… — нахіліўшыся, паправіў падушку пад галавой Нічыпара поп, і Нічыпар падумаў: «А што гэта — уся праўда? Хіба толькі смерць… Во сказала табе Антаніна, што канаю, дык ты і паверыў… Ужо нюхаеш, ці не патыхаю, раптам паспавядацца не паспею…» — На веры свет трымаецца, — выпрастаўся, крыж на грудзях папраўляючы, поп. — Бязвер’е — гэта безнадзейнасць, а безнадзейна ні жыць нельга, ні паміраць. Без веры душу не ўратуеш, вы ж верыце ў Бога?

Нічыпар на падушцы, папом папраўленай, кіўнуў: чаму не?.. Хоць не верыў. Верыць можна толькі тым, хто цябе любіць. А ні Антаніна, ні поп, ні Бог Нічыпара не любілі.

Калі б Антаніна любіла, дык даўно ўжо доктара б прывезла.

Калі б поп любіў, не паверыў бы Антаніне, што Нічыпару хутка капцы, і не пра золата ў яго выпытваў бы, а маліўся б за яго Богу.

Калі б Бог любіў, дык без папа, без Антаніны і кітайскага доктара на ногі б Нічыпара паставіў. Сказаў бы: «Ідзі, Нічыпар!» — і Нічыпар пайшоў бы.

Толькі куды? Хто і дзе яго чакае?.. Цэлае жыццё прамінула — і ніхто, і нідзе яго не чакаў. Хіба што некалі — калгас, пасля — турма, і во цяпер — магіла.

Жах.

Ён адчуў жах, і поп адчуў жах ягоны, руку яму сціснуў, нібы шкадуючы: «Нельга, нельга без споведзі, вам чысцей і лягчэй стане…»

Нічыпару рот жахам высушыла, ён ледзьве здолеў вусны сшорхлыя разняць: «Вады падайце…» — і калі адпіў з кубка, падбародак і падушку абліваючы, спытаў знясілена:

— Дзе?..

— Што: дзе?

— Дзе мне чысцей і лягчэй стане? Тут? Там?..

Поп паглядзеў на яго, як здалося Нічыпару, сумна.

— І тут, і там… Там жыццё вечнае, у жыццё вечнае нячыстым не ўвойдзеш.

— Веч-на-е… — заплюшчыў Нічыпар вочы. — Гэта ўсё абяцанкі-цацанкі, цёмна там, толькі сполахі нейкія. А тут… — ён разняў вейкі і ўтаропіўся ў папа. — А тут і праўда ёсць жыццё якое-ніякое. І вы зараз таксама пра яго думаеце, а не пра вечнае.

Поп падняўся, прайшоў да акна і, адшморгнуўшы фіранку, з хвіліну глядзеў на падворак.

— Я думаю… не ведаю, як вам сказаць… бо гэта якраз не пра вечнае, а пра нашае якое-ніякое… — і поп скончыў нечакана, ад акна павярнуўшыся. — Зэнусь сёння нараніцы спавядацца прыходзіў.

Ён так гэта сказаў, нібыта Нічыпар павінен быў здзівіцца са слоў ягоных і штосьці такое, здзівіўшыся, спытаць.

Нічыпар і не здзівіўся, і не спытаў нічога.

Поп, таксама перамаўчаўшы, зноў прысеў.

— Забаяўся, што душа ў пекла… — Поп паківаўся ўзад-уперад, сціскаючы і расціскаючы рукі на каленях. — Паспавядаўся, а ўсё адно, кажа, страшна… Нічыпар, кажа, сніцца і сніцца… Дык зайдзі, кажу, да Нічыпара, раскажы тое самае, тады, можа, паспакайнее…

— Што тое самае?

— Тое, у чым ён на споведзі прызнаўся…

— Дык вы самі скажыце. Калі ён прызнаўся…

— Сам я не магу… Тайна споведзі.

Як для папа, дык паводзіўся поп усё ж дзіўнавата… Нічыпар павярнуў да яго галаву:

— Якога чорта я снюся яму?

Поп пераржагнаўся.

— Віна за ім…

— А… — вяла адмахнуўся, выпрастаўшы руку з-пад коўдры, Нічыпар. — Я не бацюшка, каб мне спавядацца. Дый калі яно ўсё было…

Цяпер ужо поп перапытаў, наструніўшыся.

— Што было?..

— Забіць ён хацеў мяне некалі… Дык хто каго не хоча?.. Каб не страх перад тым, што за гэта будзе, усе б адзін аднаго пазабівалі. І не праз баб, а проста так. А тут праз бабу…

— Праз Дануту?

— Праз яе… — заблукала на твары Нічыпара і прапала ў куточках рота нешта накшталт усмешкі, нібы пра тое, як ледзь не забіў яго Зэнусь, успомніць яму было прыемна. — Паляваць разам пайшлі, ён стрэліў, але толькі параніў. Во сюды, ззаду… — паказаў Нічыпар правае плячо. — Данута яшчэ выбірала паміж намі, а як дазналася, што ён цэліў мне ў спіну, так і пайшла за мяне. Тады ён сам давай вешацца, з пятлі дасталі… Во страсці!.. — раптам прыўзняўся на локці і выдыхнуў Нічыпар, зірнуўшы на папа няўцямна, так, быццам сам не верыў, што некалі ў ягоным жыцці магло быць такое. — І апусціўся на падушку. — Вы хіба не ведалі?..

Струна ў папу аслабла, ён ці то разгубіўся, ці ўсхваляваўся.

— Не ведаў… Не казаў ён на споведзі… А гэта ж грэх не меншы, самагубства… смяротны грэх…

— Усе мы ў грахах, — паспрабаваў супакоіць яго Нічыпар. — У адных грахах і болей ні ў чым. Бог даруе.

Поп не супакоіўся.

— Бог даруе нам, калі даруем мы… Даруе, калі пакаемся… І ён пакаяцца перад вамі хоча, але…

— Хто? — не стрымаўся Нічыпар. — Бог? Перада мной? То няхай пакаецца, яму ёсць у чым!

Папа сцяла. Ён нават у акно зірнуў: ці не бліснe з нябёсаў?..

Аблiччам сваім поп Вазянкова нагадваў, вучонага з Масквы, які, пакуль яго не пасадзілі, якраз бліскавіцы вывучаў, — і Нічыпару ўспомнілася, як бліскавіцай забіла Вазянкова. Дзіўна:

чым чалавек займаўся, праз тое яго і не стала. Хіба можа Нічыпара не стаць праз тое, што ён луг касіў ці поле араў?..

Хаця, калі падумаць, можа…

Вярталіся ў лагер з тайгі… Пехам амаль дзесяць кіламетраў, бензін яшчэ на зэкаў паліць!.. Пасля работы ногі падкошваліся. Хто абсядаў, таму прыкладам у спіну! Не ўставаў, дык загадвалі цягнуць, як мёртвага, — галава па камянях…

Ён ішоў у пары з Вазянковым, трымаючыся за пілу. Нічыпар за адну ручку, Вазянкоў за другую. Так, здавалася, лягчэй, адзін аднаму не давалі ўпасці. Цямнела ўжо, і неяк хутка, імгненна навальніца сабралася. Першая ж маланка шась! — і ў пілу. Як змяя агністая па ёй слізганула! А ўджаліла толькі Вазянкова, во дзівота… Нібы з ягонага боку джала ў яе было, а з боку Нічыпара — хвост.

Вазянкоў за ручку пілы гэтак учапіўся, што пальцы не расціснуць… Нехта ўспомніў, што ў зямлю закапаць трэба, зямля адцягне. Закапалі, як у магілу, адно што галава зверху… Не міргае, не дыхае. Той, хто закапаць параіў, сказаў, што зямля не адразу адцягвае, пачакаць трэба. Канвойны сяржант плюнуў на галаву Вазянкова: «Ага, б…, я… тут да ночы. І х… чакаць, калі ўжо закапаны…»

Страляць не сталі: калі нават дахадзяга ажыве — з магілы не вылезе. А вылезе, то куды падзенецца?.. Наўкол тайга — і адна ўсяго дарога: лагерная. Нічыпар падышоў да сяржанта: «Мядзведзі ж тут…» — той яму ў зубы: «Гэта ты, падла, напарніка кончыў! Так і дакладу!..»

І даклаў бы, бо ўз’еты быў на Нічыпара. «Такія ж падлюкі, як ты, і ў нас сельсавет спалілі, старшыню ў ім зачыніўшы! А ведаеш, хто быў старшынёй? Мой бацька! Дык я вас…»

Прыйшлі ў лагер, а там жонка Вазянкова… Недзе праўды дабілася, амністыя яму… У Новасібірску, у інстытуце нейкім чакаюць… Тут ужо сяржант пабаяўся гарадзіць абы-што, даклаўся, як было. Пабеглі назад — у Вазянкова галава адгрызеная. Звер першы паспеў… Так і не дазналіся, адцягнула зямля, ці не…

Калі спаць паклаліся, Нічыпару сон прысніўся, які сніцца ўжо колькі гадоў… Як толькі навальніца з маланкай — так той самы сон: сіні бляск ва ўсе нябёсы, безгаловы Вазянкоў крычыць аднекуль з-пад зямлі: «Гэта ты мне галаву адгрыз!..» — і тут жа сяржант Нічыпару ў зубы: «Так, падла, і дакладу…»

Чаму сняцца на пару вернік і бязбожнік?.. Сяржант толькі адну малітву ведаў: тваю-бога-маць! — а Вазянкоў у Бога верыў, маліўся ўпотай. Адыдзе пад дрэва нібы па маленькаму, а сам

моліцца. Чаму ж тады Бог кінуў маланку джалам да яго?.. Ды яшчэ звера наслаў галаву адгрызці яму… І ўсё ў той дзень, калі ён, можна сказаць, мог нанава жыць пачаць.

А Нічыпара, выходзіла, Бог у той дзень зратаваў. Прычым двойчы: ад маланкі і ад сяржанта. Але хто ж паслаў яго ў той лагер, у тую тайгу, дзе маланка і сяржант? І дзеля чаго?.. Каб ад маланкі і сяржанта зратаваць?.. Так што няхай пакаецца, не лішне будзе…

— Госпадзі, даруй, бо не ведаем, што творым, і не разумеем, што кажам… — паражагнаўся і паражагнаў Нічыпара поп, працягнуўшы без аніякага пераходу. — Яны на падворку стаяць. — І зірнуў на Нічыпара, чакаючы…

Нічыпар не спытаў, хто там на падворку стаіць, і поп падняўся:

— Дык я паклічу?..

Паўпіраўшыся локцямі, Нічыпар прысеў.

— Чакайце… Чаго яны прыперліся?

— Я ж казаў…

— Што казалі?

— Што Зэнусь пакаяцца хоча… Дый Казімір… Ён хоць і кажа, што людзі — звяры, а ў звяроў няма грахоў, ды баіцца, што людзі абгавораць…

— Яго ўсё жыццё абгаворваюць.

— Але ж не за такое… Ён і Зэнуся да вас не пускаў, пакуль не спалохаўся, што той па вёсцы ўсё разнясе. А так яно між вамі і Богам застанецца.

Ухапіўшыся за ўвагнаную над спінкай ложка скабу, Нічыпар падцягнуўся вышэй.

— Не трэба мне нічога ні ад іх, ні ад Бога… — І спытаў: — А што Антаніна?

Поп наморшчыў лоб, Антанінай ён быў яўна незадаволены.

— Што Антаніна?..

— Таксама спавядалася?

— Не.

— Напляткарыла, што канаю?..

— Ды не…

— А што тады?..

— Я папрасіў яе сказаць, што Зэнусь зойдзе, што размова ў яго… Каб вы ведалі, каб не знячэўку… Яна паабяцала, а сама забегла і да Зэнуся, і да Казіміра, перадала ад вас, каб не прыходзілі.

А Зэнусь зусім слабы, можа не сёння, дык заўтра… — Поп ступіў да дзвярэй. — Клікаць?

Нічыпару не хацелася бачыць нікога, а Зэнуся — менш за ўсіх. Як і Казіміра… Калі той сёння ўзнік на парозе, Нічыпар толькі здзівіўся, што ён яшчэ жывы. І ўсё.

Нікому ж не наказваў Нічыпар на парог не ступаць. Прыцягнуўся ж Казімір, хоць яго не клікалі. Дык што раптам за цырымоніі — папа папярэдзе пасылаць?

— Бацюшка, а вы за што сядзелі?

Поп прыстыў каля парога.

— Што значыць: за што?

— Ну, за нешта ж вас пасадзілі былі…

— Ніхто мяне ні за што не садзіў. Скуль вы ўзялі?

— Людзі кажуць…

— Ці мала што кажуць… Вунь пра вас таксама…

— І вы не з каталікоў?

У папа барада кіўнулася — гэтак твар выцягнуўся. Ён адышоў ад дзвярэй, стаў пасярэдзіне хаты.

— Так-так… І што яшчэ?

— Наколкі на вас ёсць?

— Якія наколкі?

— Розныя. Якія зэкі робяць.

— Дык я ж не сядзеў.

— Тады пакажыце.

— Што паказаць?

— Што няма наколак.

— Распрануцца, ці што?

— Да пояса.

Поп, трохі падумаўшы і ўважліва паглядзеўшы на Нічыпара, зняў і паклаў на крэсла крыж, расу, сцягнуў чорны світар, потым белую майку…

— Крутніцеся, — папрасіў Нічыпар.

Поп крутнуўся… І на плячах, і на грудзях, і са спіны быў ён для мужыка ягоных гадоў вялаваты, падабвіслы, але ўвесь, як і майка ягоная, белы, чысты.

Нічыпар паспрабаваў успомніць, хто ж казаў яму пра наколкі?.. Пра тое, што поп сядзеў, што быў ксяндзом… Ці не Казімір? Альбо Зэнусь?.. Але не ўспаміналася нехта адзін, неяк так выходзіла, быццам казалі ўсе…

Усе пра аднаго казалі адно і тое ж… Чаго няма. Вось і вер людзям.

— І вам не сорамна? — азябла пацепнуўся поп, бо ў хаце, як заўсёды, не было горача. Антаніна амаль не паліла, гугнела: «Сярод тыдня пампэш, дык не згніеш, пакуль прыеду». — Хіба можна гэтак з людзьмі абыходзіцца?

Нічыпар зусім не засаромеўся праз тое, што гэтак абышоўся з папом, і ўсё ж сказаў для прыліку:

— Выбачайце… Я не думаў, што…

Ён хацеў сказаць: не думаў, што вы распраняцеся, — бо насамрэч не чакаў такога, але поп, апранаючыся, перапыніў яго:

— Вы думалі, што я бруднейшы за вас. Многія пра іншых гэтак думаюць. Нібы праз тое самі чысцейшыя.

Колькі гонару набраў адразу! Ну, памыліўся Нічыпар… А мог жа і не памыліцца, маглі плёткі быць не плёткамі… Вось калі б поп у наколках быў, дык цікава: распрануўся б?..

Наўрад ці…

— Не трэба іх клікаць, — паспрабаваў спыніць Нічыпар папа, які, ні на што ўжо не пытаючыся ў гаспадара дазволу, пастукаў у акно і махнуў рукою ў падворак, каб заходзілі.

— Чаму не клікаць?..

Мокра прарыпелі, расчыняючыся, дзверы ў сенях.

— Гэта яны казалі, што вы сядзелі, што ксяндзом былі. Дык нашто вам…

— Заходзьце! — крыкнуў у сені, ці не пачуўшы, ці не захацеўшы пачуць Нічыпара, поп.

— Дык нашто вам дзеля іх старацца, грахі адпускаць?.. — дагаварыў Нічыпар, але на гэта поп нічога яму не адказаў, бо адчыніліся дзверы з сяней у хату, і на парозе ўзнік, як і ўраніцы, Казімір, дапамагаючы перацягнуцца цераз парог Зэнусю на мыліцах. Абодва, не распранаючыся, пракульгалі да печы і селі на лаву.

Зэнусь быў сівы, як лунь.

Казімір закашляўся — і кашляў, страсаючыся ўсім целам, доўга… Яго апошнімі гадамі моцна мучыла дыхавіца, і Нічыпара зноў здзівіла, што ён яшчэ жывы.

Поп сеў на сваё крэсла — пасярэднік паміж людзьмі і Богам…

— Халера на яе… — адкашляўшыся, сказаў Казімір. — Здароў, Нічыпар…

Нічыпар кіўнуў, лежачы:

— Бачыліся…

— Як ты?

— Не кашляю…

— А я во керхаю, халера на яе… Дактары кажуць: трэба ў шахты саляныя ехаць… Ды куды ўжо паедзеш…

Зэнусь паставіў мыліцы да печы і сядзеў, упершыся рукамі ў лаву, позіркам — у падлогу, не гледзячы на Нічыпара.

— Вы б, можа, распрануліся… — прапанаваў поп. — Яно не горача, але ўсё ж… — І спытаў, убачыўшы, што яны не збіраюцца распранацца. — Дык што?..

— От жа, халера… — зноў зазбіраўся закашляцца Казімір, але не закашляўся, бо Зэнусь сказаў, не мяняючы паставы і не адрываючы вачэй ад падлогі:

— Вінаваты я перад табой, Нічыпар…

Сказаў і змоўк, нібы чакаючы, што Нічыпар спытае: у чым?.. Нічыпар не спытаў, і Зэнусь стаў расшпільваць плямістую, падобную на вайсковую, куртку:

— Зацёпла ўсё ж…

— А мне дык не… — абхапіў сябе за плечы Казімір, апрануты ў доўгае, скрозь выцертае паліто з шэрага сукна, якое насіў ці не ад вайны. Да дзірак яно не знасілася толькі таму, што апранаў яго Казімір разы чатыры ў год, на вялікія святы, альбо тады, калі падзея здаралася нейкая выключная. Паколькі свята вялікага не было, значыць, выключнай падзеяй ён палічыў сённяшні візіт да Нічыпара, хоць калі ўраніцы прыходзіў, то быў апрануты, як звычайна, у фуфайку. — Пры маіх лёгкіх яшчэ застудзіцца, дык адразу… — і ён дакашляў тое, што засталося ад папярэдняга разу. — От халера…

Праз вузкае акно насупраць печы раптам успыхнулі жаўтаватыя праменні вечаровага сонца, і ў іх шчыльным, нібы пражэктарным, святле замітусіліся з пылам чырвоныя кропелькі, выкашляныя Казімірам. Поп рэзка пасунуўся ад Казіміра і яго- нага кашлю — ледзьве не перакуліўся разам з крэслам. Праз гэта яму стала няёмка, ён сказаў Казіміру: «Вы б курыць кінулі, дык лягчэй было б…» — і Казімір сказаў, кіўнуўшы: «Хутка кіну…»

Зэнусь расшпільваў куртку адной рукой, гузік за гузікам, і відаць было, як яму робіцца ўсё болей душна і душна, а пад гузікамі яшчэ замок аказаўся, з якім ён ніяк справіцца не мог, але нарэшце адцягнуў язычок замка ад горла:

— Ху…

— Можаш не казаць нічога, — сказаў Нічыпар. — Мне не трэба.

Казімір адразу ўстаў з лавы, за плячо курткі пацягнуў Зэнуся:

— А я што казаў?.. Пайшлі!..

Зэнусь, вызваляючыся, трохі пасунуўся па лаве і аказаўся якраз у слупе святла, што коса, як кроква на даху, клалася з акна. Срэбрам заблішчэла сівізна, святло ўдарыла Зэнусю ў вочы, якія адразу заслязіліся, і ён загаварыў, прыціснуўшыся спінай да печы і невідушча гледзячы ў святло:

— Яно і мне не трэба было, пакуль Данута не прыснілася… На першы дзень вялікага паста… пасля яшчэ тры ночы запар. І ўсё з адным: пакайся ды пакайся, павініся ды павініся. Скажы Нічыпару, што сталася з сынам ягоным. Каб гатовы быў з ім спаткацца…

Нічыпар павярнуўся з боку на спіну, каб не глядзець на Зэнуся, слёз ягоных не бачыць, ды ўсё адно бачыў і яго, і слёзы, а тут яшчэ Казімір з папом утаропіліся ў Нічыпара: як табе, маўляў, такое? — таму ён спытаў:

— Якім маім сынам?..

Спытаў ён абы спытацца, бо калі яно ўсё было і ці было наогул, але пытанне ягонае дадало, здалося, сілы Зэнусю, які ўжо далей казаў, не спыняючыся — да самага канца…

— Яно праз выпадак усё выйшла, я наўмысна не думаў… Калі мяне забралі, дык у раён на матацыкле павезлі, і паехалі там якраз паўз дома, дзе Зося, сястра мая жыла — а яна ў акне. Убачыла мяне і да свайго каханка кінулася, якога аж з Масквы прыслалі, і ён нібыта і начальнікам ніякім не быў, але над усімі камандаваў. Ён і сказаў следчаму, таксама маскоўскаму, каб замяніў мяне на некага… Таму ўсё адно, каго пасадзіць, але як замяніць? Паказанні нейкія трэба, што не я вінаваты, а нехта. Следчы пытае: хто можа даць паказанні?.. Я і сказаў, што, можа, Казімір, усё ж брат, хоць і стрыечны… Тады паехалі па Казіміра, ён і напісаў, як старшыня сельсавета, што я не вінаваты. А следчы кажа: гэтага мала. Трэба яшчэ напісаць, хто…

— А што я… — набраўшы духу, хацеў нешта сказаць, перапыняючы Зэнуся, Казімір, але не змог дагаварыць, забіўся ў кашлі.

Зэнусь не стаў чакаць, пакуль ён сціхне.

— Я праз Дануту не любіў цябе, Нічыпар, да нянавісці не любіў, дык і сказаў, што ты падпаліў. А Казімір напісаў… Следчы прыстрашыў: калі не напіша, дык і яго вінаватым можна зрабіць, мала што старшыня…

Казімір сціх нарэшце кашляць, кіўнуў галавой: так і было…

— Мяне выпусцілі, а цябе пасадзілі, — не спыняючыся, доўжыў Зэнусь. — А калі мы выпівалі з Вазянковым, такое

прозвішча ў таго маскоўскага было, дык я выпіў і нагаварыў, што кахаю Дануту і яна кахае мяне, і мы хочам быць разам. Ён сказаў, што ў такім разе мне нельга вяртацца ў вёску, бо ўсе ўсё зразумеюць, паехаў і забраў Дануту. Тая нават не ведала, куды ён яе забірае, думала, што ў высылку ці турму… Мяне ўбачыла: крык, плач… Але яна мяне таксама кахала, чуеш?..

— Чую… — абыякава гукнуўся Нічыпар. — Як ты сказаў прозвішча таго маскоўскага?..

— Вазянкоў… Ён усё гэта дзеля таго рабіў, каб Зося з ім была. Ажаніцца з ёй не хацеў, асцерагаўся, мусіць, што заходняя, але вось, каб была… У яго пад Масквой маці жыла, адна ўжо, старая, ён туды нас і выправіў, каб нікому тут на вочы не трапляліся… Там Данута нарадзіла і, як я ні злаваў, назвала сына Нічыпарам, бо твой… Той падрастаў і такім падобным на цябе рабіўся… Я ў спратах Дануціных, у пачку такім невялічкім, як з-пад папярос, фотакартку тваю знайшоў, вазіла ж з сабой, дык не адрозніць, толькі малы… І гэткая рэўнасць паліць мяне стала, такая рэўнасць, ну вось усё нутро… тут… во тут… — узяўся Зэнусь рукамі за грудзі і, слізгаючы ўслед за сонечным святлом, якое сплывала з ягонага твару, радзела і гасла, стаў хіліцца — спінай і галавой па печы — на правы бок, на мыліцы, да краю лавы, з якой кульнуўся на падлогу ў апошнія праменні вечаровага сонца — Казімір не паспеў яго падхапіць…

Падхапіўся поп, падняў Зэнуся пад пахі, усцягнуў на канапу каля сцяны ад лесу, за якой Нічыпар з Казімірам знайшлі некалі золата… З хвіліну ён мацаў пульс, слухаў, прыпаўшы да грудзей, Зэнусева сэрца, пасля склаў на грудзях ягоныя рукі:

— Усё. Прымі, Госпадзі, душу раба твайго…

— Во халера… — выдыхнуў Казімір. — Нездарма, выходзіць, спяшаўся… Толькі для чаго, га?..

— Каб паспець, — сказаў, хрысцячыся, поп. — Трэба людзей паклікаць, дахаты перанесці…

Казімір цяжка падняўся з лавы, ступіў да канапы:

— Паклікаць-то можна… Але што ў хаце? Адзін ляжаць будзе?.. Ну што ты маўчыш, Нічыпар?

— А што казаць?

— Скажы што-небудзь…

— Лёгка памёр… Няхай сабе тут ляжыць, мне не замінае…

Поп паглядзеў на Нічыпара здзіўлена.

— Можа, сапраўды… Труна будзе, тады ўжо… Толькі абмыць і пераапрануць бы яго, пакуль не скачанеў.

Казімір схіліўся да Зэнуся, без патрэбы паправіў яму рукі на грудзях.

— У што пераапрануць? Усё ягонае на ім…

— Не ў куртцы ж хаваць… Хоць бы кашулю белую…

— Няма ў яго белай кашулі…

— У мяне ёсць, Антаніна купіла… І сарочка, і гарнітур… У шафе вазьміце, — сказаў Нічыпар, і Казімір спытаў, да шафы пратупаўшы і касцюм з яе дастаючы:

— А ты сам хіба паміраць не збіраешся?..

Дзіўна ўсё ж, што Зэнусь памёр, а Казімір жывы. Ды яшчэ, чаго добрага, Нічыпара пераажыве, хоць і старэйшы… Нічыпар паспрабаваў зазірнуць Казіміру ў вочы, але ў іх не напісана было: пераажыве ці не…

Казімір з папом распранулі Зэнуся, збольшага абмылі, пачалі апранаць. Поп куляў нябожчыка з боку на бок, а Казімір нацягваў на яго апратку, купленую Антанінай на смерць Нічыпара…

Апрануты, Зэнусь выглядаў прыгожа. Па-гарадскому…

— Яму б і гальштук пасаваў, — сказаў Казімір.

Гальштука ў шафе не было, затое была труна на гарышчы, і Нічыпар падняў руку, паказаўшы ў столь:

— У мяне труна на гарышчы…

Зняць труну аднаму папу было не пад сілу, вырашылі зрабіць гэта заўтра…

— Пайду ў сельсавет даведку напішу, што памёр, — зазбіраўся Казімір. — Во лёс: дзіця з жонкай забіць, самому ледзьве не забіцца, а памерці ў хаце бацькі таго дзіцяці, ды яшчэ…

Казімір асекся.

— Дагаворвайце, — сказаў поп. — Вам таксама не лішне павініцца.

— А я тут пры чым? — заўпіраўся Казімір. — Тут я зусім не пры чым. — І адразу ж згадзіўся з папом. — Хоць, мусібыць, праўда ваша: не было б таго — не было б гэтага…

Нібы ўспомніўшы, што ён хворы, Казімір кашлянуў раз-другі, сеў на лаву. Расшпіліў паліто, якое не здымаў нават тады, калі прыбіралі Зэнуся.

— Гэтага ж ніхто не бачыў, як яно было… можа, проста зляцеў з дарогі на тым матацыкле, які купіў… Замачыў, можа, купіўшы, і нападпітку быў… Але, калі са мной выпіваў, дык плакаў, што наўмысна. Крычаў, што не вытрываў, гледзячы на твайго сына, які ён падобны на цябе і як яна яго любіць, звар’яцеў ад гэтай самай рэўнасці, сам звярнуў з дарогі, калі яны ўтраіх на тым матацыкле пад той Масквой ехалі. Сабе спіну зламаў, а

яны… — І Казімір падняўся. — Вось так… Каяўся ён. Даруй, Нічыпар.

Ніякавата пастаяўшы і не дачакаўшыся адказу, Казімір рушыў да дзвярэй.

— Ну, як сабе хочаш…

— Пачакай, — спыніў яго Нічыпар. — Ты помніш, як мы з табой золата знайшлі?

Казімір прыпыніўся нерашуча:

— Помню…

— І дзе яно?

— Дык здалі…

— Во-во… Усё здалі…

Нічыпар не казаў болей нічога, Казімір узяўся за клямку, тая бразнула жалезам аб жалеза, і Нічыпар спытаў:

— А скажы, Казімір, калі б я…

— Што?

— Калі б я тады прапанаваў падзяліць золата, ты ўзяў бы палову? Толькі шчыра скажы, як на споведзі…

— Дык ты ж не прапанаваў, — не марудзячы, адказаў Казімір і, пазмагаўшыся з набрынялымі дзвярыма, адчыніў іх і зачыніў за сабой, нават з папом не развітаўшыся.

Поп стаяў, уважліва ўзіраючыся ў твар Зэнуся.

— Як прасвятлеў… Вось што значыць паспавядаўся… пакаяўся… А нашто вы сказалі, што яны на мяне нагаворвалі?

— Хто яны?..

— Зэнусь з Казімірам.

— Дык не толькі яны… Усе… І яны…

Падсунуўшы крэсла бліжэй да Нічыпара, поп сеў.

— Ведаеце, мой бацька і дзед святарамі былі, дзеда саслалі… Пятнаццаць гадоў па лагерах, цудам выжыў. Калі вярнуўся, амаль нічога не распавядаў, толькі адну гісторыю. Іх па Енісеі на баржы да лагера цягнулі, а ўжо чутка прайшла, што ў вусці Енісею, за Ігаркай, баржы топяць. Разам з тымі, хто на іх… Нехта не верыў: як гэта?.. А хтосьці да смерці рыхтаваўся: маліўся, спавядаўся… І адзін адкрыўся святару ў забойстве. І прызнаўся, што не раскайваецца, не шкадуе, што забіў. Усіх бы, сказаў, пазабіваў, бо лютую меў да ўсіх людзей нянавісць. Таксама і да Бога, які іх стварыў… Амаль жа ўсе астатнія казалі, што любяць Бога як і блізкіх сваіх… І вось калі баржа тануць пачала, выпадкова, бо яе ад буксіра адарвала і аб скалу прыбярэжную ўдарыла, дык людзі на тую скалу адзін па адным караскаліся. Па блізкіх сваіх. Па спінах, па галовах, адзін аднаго топчучы і скідваючы ў ваду.

І святара, дзеда майго скінулі… Ніхто і не падумаў дапамагчы яму зратавацца, апроч аднаго чалавека. Таго, які прызнаўся ў забойстве і нянавісці да людзей. Паспавядаўся…

Поп гэтак жа ўважліва, як толькі што ў твар Зэнуся, угледзеўся ў твар Нічыпара. Нічыпар не адвёў вачэй:

— Вы да чаго гэта?..

Поп падняўся.

— Так, успомніў… Свечкі ў вас ёсць? Трэба было б свечку паставіць.

— За абразом на чыстай палавіне. Калі Антаніна дзверы туды не замкнула, яна замыкае…

Дзверы аказаліся незамкнёнымі, Антаніна сёння надта ў горад спяшалася…

— У вас гэтакі дом на пяць пакояў, а вы ўсё на кухні пры печы, — прайшоў на чыстую палавіну поп, падаўшы голас адтуль праз хвіліну: — Дык я і абраз здыму…

— Здымайце…

Пяць пакояў на пяцёх сыноў… Але не лёс…

— За ім яшчэ і паперына нейкая, — вярнуўся поп з абразом і свечкамі, аддаў паперыну Нічыпару, абраз паставіў на столік каля канапы ў галаве Зэнуся. — А свечку ў што?..

— Хіба не ў рукі?..

— У руках загасіць трэба будзе. Вы ўстанеце?..

— Устану. Мне ўсё адно на вядро ўставаць…

— Тады падаслаць бы нешта, каб не капала… — Поп пашнарыў вачыма ў куце, дзе рукамыйнік вісеў і вядро стаяла, шукаючы чысцейшы ручнік.

— У шафе на паліцы чысты… Антаніна купіла…

— Панакупляла… — дастаў поп ручнік, паслаў на грудзі Зэнуся, прыпадняўшы і спрытна абгарнуўшы ягоныя рукі. — А крыж Антаніна не купіла? Чамусьці няма на ім крыжа…

Нічыпар зняў з шыі алюмініевы крыжык на зашмальцаваным да чарнаты матузку.

— Мажа, мой можна?..

— Можна, чаму не… Толькі матузок я адрэжу? Няхораша неяк…

— Адразайце…

Знайшоўшы на прыпечку нож, поп адрэзаў матузок, паклаў крыжык на ручнік, паставіў свечку.

— Вы толькі глядзіце, як дагараць будзе. Ці ўсё ж патушыць, заўтра запалім?..

— Няхай гарыць. Я ўстану…

— Ну то глядзіце, як будзе дагараць… — паўтарыў поп і, выходзячы, усё ж не стаў развітвацца. — Бадай, я пазней яшчэ зайду…

Пазней ён не зайшоў.

На паперыне, знойдзенай папом за абразом разам са свечкамі, было напісана, што грамадзянін Янчэўскі Нічыпар Рыгоравіч, знаходзячыся ў здаровым розуме і пры цвёрдай памяці, па смерці сваёй пакідае дом і ўсё, што ў ім, грамадзянцы Любцэвіч Антаніне Аляксееўне… Папера была падпісаная Нічыпарам, а ніжэй красавалася пячатка Крыўскага сельсавета з подпісам старшыні: маўляў, як яно тут напісана, так яно і ёсць. Вось чаму Антаніна, для якой не аднойчы падпісваў Нічыпар чыстыя паперы: то ёй трэба заяву за яго напісаць, каб пенсію яму пералічылі, то заяву тую перапісаць, каб грошы ягоныя ёй на пошце аддалі, — не хацела, каб прыходзілі Зэнусь з Казімірам, бо раптам Казіміра следам за Зэнусем вінаваціцца пацягне і ён прагаворыцца…

Антаніна таксама была з Крыўя, але бясхатняя: бацька яе, калі аўдавеў, хату прапіў і пад плотам згінуў. А такі ж некалі хвэцкі мужык быў, на гармоніку граў… Дачка ягоная на бухгалтарку ў Гародні вывучылася і выйшла замуж за гарадскога… Той гарадскі абдзеціў яе, траіх настругаўшы, і кінуў разам з дзецьмі. Паўпіралася, пагарбела баба — дзвюх дзевак і хлопца падняць… Цяпер гады пад пенсію, дык чаго ў горадзе ўпірацца? Вось яна і прыйшла да Нічыпара, калі ён злёг. Давай, сказала, так: табе зараз — мой дагляд, мне пасля — твая хата. І хоць дагляду таго раз на тыдзень, але нібыта дамовіліся. А яна не паверыла на слова, дакумент падрабіла…

Шэльма.

І Казімір шэльма… Раскашляўся тут… Даруй, Нічыпар.. Хто адзін раз напісаў, той і другі раз напіша.

Га, Зэнусь?..

Ды што хата!.. Лёс ты мой забраў, Зэнусь, а мне свой аддаў. Падмяніў… А Казімір распісаўся, што так і было!

І што за гэта Казіміру?.. Нічога. Як нарадзіўся старшынёй сельсавета, так старшынёй сельсавета і памрэ.

А Зэнусю што?.. Што табе за гэта, Зэнусь? Жонку з сынам страціў?.. Дык сам жа забіў! І не сваіх — маіх!.. І за гэта — нічога? І поп яшчэ казаць будзе, што ў цябе твар прасвятлеў?..

Як жа так?..

Га, Данута?..

Нічыпар паспрабаваў успомніць Дануту: якой яна была, як выглядала — не ўспаміналася. Помнілася толькі, што была, а

болей не помнілася нічога. Так хваля ў возеры помніцца, вецер у жыце, аблачынка ў небе…

А вось сын, маленькі Нічыпар, успомніўся… Быццам бяжыць ён, бялявы, па полі ў далягляд, дзе вясёлка вісіць, і ўсё на тым далеглядзе аж да небасхілу такое каляровае, светлае, святочнае, так хочацца туды дабегчы, а маці з бацькам — незразумела толькі: гэта маці з бацькам дарослага Нічыпара, які стаў маленькім, ці гэтыя бацькі ўжо ён сам з Данутай — крычаць ад хаты, яшчэ ад той, ад старой, не на праклятым месцы збудаванай: «Нічыпар, Нічыпар!.. Сынок, сынок!.. Не вясёлка там, маланка!..» — і гэтак доўга яны па чарзе крычыць і крычыць, а Нічыпар бяжыць і бяжыць, хутчэй і хутчэй, бо першым быць хоча пад вясёлкай на далеглядзе, да якой з розных бакоў ужо бягуць і той маленькі Вазянкоў, якому, дарослачу, звер галаву адгрыз, і той сакрэтны Вазянкоў, у якога старая маці пад Масквой і які, дарослы, каб з Зосяй быць, надумаў Нічыпара замест Зэнуся пасадзіць, і маленькі сяржант з лагернага канвою бяжыць, і Данута, і поп, і Антаніна з дзвюма дочкамі і сынам, і бацька яе з гармонікам, і Казімір з торбачкай золата, якое ў яго засталося, хоць ён яго здаў, і Зэнусь, які яшчэ жывы, хоць ужо памёр, яго маланкай забіла, якая з вясёлкі бліснула, як жа гэта… га, Зэнусь?..

Нічыпару здалося, што Зэнусь уздыхнуў, рукі на грудзях пад ручніком зварухнуліся — і аплывак свечкі слізгануў на канапу…

Калі б па смерці Нічыпар застаўся жывы і яго спыталі б, чаму ён не падняўся, хоць мог, пагасіць, дык не адказаў бы… Можа быць, падумаў, што аплывак сам загасне, ці, можа быць, так стаміўся жыць, што няхай яно гарыць, а можа, ужо і паміраў, калі свечка дагарала…

Па Зэнусю з Нічыпарам не надта бедавалі, дый не было каму: анікога яны бедаваць па сабе ў свеце не пакінулі. Толькі Антаніна трохі па сваім паплакала, ды поп пашкадаваў, нават павінаваціўся на абедні, што пайшоў ад Нічыпара, свечку не патушыўшы. Але хай бы і патушыў — Нічыпар мог зноў яе запаліць…

Папа, апроч яго самога, ніхто не вінаваціў. Падумаеш, два карчы старыя згарэлі, адзін, да таго ж, мёртвы. Калі б такой бядой жыццё абыходзілася, дык бяды б не было.

Хіба што хаты шкада… Добрая была хата, лепшая ў вёсцы, хоць і на праклятым месцы стаяла.

*Красавік–травень 2007, Крэва, Менск*

# ХАЙБАХ

Сёння дзень серада.

Заўтра, ці ўчора, быў чацвер — і ў чацвер мяне забілі. Таму мне ўсё адно, ці будзе чацвер заўтра, ці быў ён учора. Тут адзін нейкі дзень, назва якога мне пакуль не адкрылася, але я адчуваю, што ён блізкі да раўнавагі, да таго, што гэтым словам пазначаецца, таму па зямной памяці я называю гэты дзень серадою.

У мяне пакуль толькі зямная памяць. Можа, ніякай іншай нідзе і няма, што дзіўна, як дзіўна тое, што няма смерці. Ёсць *нешта* і *недзе*, дзе мне спакойна, і я сплю.

Яны забівалі мяне ўтраіх, няхай іх завуць Панядзелкам, Аўторкам і Серадою, хоць у серады ёсць імя, яна жанчына — і якраз яна сказала:

— Давайце яго заб’ём.

Яна сказала так пасля таго, як тыя двое, Панядзелак з Аўторкам, падышлі, адвялі мяне ўбок і спыталі: «Мужык, нам што з табой рабіць?.. Як цябе ўбатожыць, каб памоўчваў, дажываў сваё і не ў сваё не лез?..» Яны не прынялі яшчэ рашэння забіць мяне, пакуль толькі страшылі, а яна пачула іх і не прыдумала нічога іншага, як сказаць:

— Ды які ён мужык, давайце яго заб’ём.

Яна сказала так альбо з таго, што сапраўды надумала мяне забіць, альбо хацела паглядзець, як я стану бараніцца і заб’ю тых двух. Яна нацкавала іх на мяне, забыўшыся, што я стаміўся забіваць.

Адзін ударыў мне пад дых:

— Кастрат!

Мяне сагнула ў тры пагібелі…

Гэта было ўночы ў парку каля мастка цераз Свіслач, дзе запруда. Падаючы, шумела вада. Роўным-роўным шумам, які я звык любіць.

Яно, магчыма, тым бы на гэты раз і абышлося, каб я не папрасіўся:

— Хлопцы, не забівайце…

Ім здалося, што я іх баюся. Я распаліў у іх гераізм.

— На, сука!

Другі гваздануў у скронь кісцянём. Такімі кісцянямі даўно не б’юцца, яны пагубляліся ў мінулым стагоддзі, у пасляўсталінскіх часах. Як і шмат што іншае, але не ўсё. Сталінскае ў краіне Сталіна дарэшты не можа пагубляцца. Я глядзеў, як той другі тыркаў у кісцень пальцы, рукі ягоныя біла калатэча, мне нават стала ніякавата: «І гэты чмут мяне заб’е?»

Мяне хістанула, але я ўстаяў, не зрабіў ніякага руху, каб абараніцца, і тады яна не вытрывала: «Ну, што ты стаіш?! Што ты стаіш?!.» — і, з трох крокаў разбегшыся, штурхнула мяне ў плечы, перакуліла праз парапет у пену пад запрудай, у роўны шум вады.

Так усё проста.

Я пазнаёміўся з ёй, вярнуўшыся з першай сваёй вайны, з Афганістана, дзе забіваў толькі для таго, каб абараніцца, каб выжыць, каб не забілі мяне. Там за два гады я хоць і навучыўся і прывык забіваць, але так і не палюбіў смаку крыві, дурманнага яе паху, самага мёртвага і самага жывога, якога, аднойчы ўдыхнуўшы, не маглі ўжо выдыхнуць многія і многія.

Я б мог забіць тых двух. Яны і ўцяміць, і запомніць не паспелі б, што іх забілі. Пад канец першай сваёй вайны я займеў за гэта два медалі.

А сераду звалі Марай. Імя ў яе было Маргарыта, ды сама яна называлася Марай, і ўсе яе так называлі, і я так называў.

— Мара, — назвалася яна, холадна на мяне зірнуўшы з нейкай ледавіковай вышыні, недаступнай, як мне адразу здалося, не толькі для мяне, для ўсіх астатніх, але і для яе самой. — Ты на гітары граеш? Сыграй песню, якую хачу пачуць.

Няўпэўнена, баючыся, што не ўгадаю, якую яна хоча пачуць песню, я ўзяў гітару і стаў спяваць. Вачыма спытаўся ў яе: «Гэта тое?» — і яна згодна кіўнула, а калі я даспяваў, сказала:

— Ты не мог ведаць гэтай песні. Такой песні для цябе няма.

Я не стаў спрачацца.

— Значыць, няма… Я і не думаў, што яна ёсць, Алег для цябе яе напісаў, але яна з майго жыцця.

— Алег з майго жыцця, Алег з майго, і ты не лезь, не лезь!.. — істэрычна ўчапілася яна мне ў твар, ледзь вочы не выдрала, бо ўжо тады, на самым пачатку нашага знаёмства ёй хацелася мяне знішчыць. Я пра гэта здагадваўся, таму і заставаўся з ёю кожны раз, калі трэба было пайсці. Адышоўся я ад яе толькі двойчы: адзін раз на другую сваю вайну, у Чачню, і другі раз на трэцюю сваю вайну ў Чачню.

Алег іграў на гітары, ён з’явіўся ў Афганістане з артыстамі. Пасля канцэрта, падняўшы баявы дух, артысты перапіліся, штабнікоў п’яных упрасілі даць ім з аўтаматаў пастраляць. Адзін артыст узяў ды ў вайну пагуляў: трох паклаў, у тым ліку Алега.

На канцэрце Алег спяваў песню, якую хацела пачуць Мара: «Я паўсюль над табой белым воблакам…»

Каб неяк выкруціцца з артыстычнымі трупамі, штабнікі прыдумалі, быццам на іх душманы напалі; нас паслалі, мы набілі тузін афганцаў, да штаба прывезлі, пакідалі, поле бою наладзілі. Артыстаў за гэта ўзнагародзілі, трох, у тым ліку Алега, пасмяротна.

Так усё проста.

Тыя двое, што мяне забівалі, выглядалі братамі тых двух, што загінулі з Алегам. Я нават хацеў спытацца: «Хлопцы, гэта не вы?» — але такога, вядома, быць не магло, мне гэта падалося, я ўжо не суадносіў рэальнасць з трызненнем, не адчуваў мяжы.

— Дзе ён табе пра мяне казаў, як ён мог табе пра мяне казаць, калі быў ужо мёртвы? Ты брэшаш, сабака, ты брэшаш, гэта ты і забіў яго! — крычала Мара, і я думаў: «А можа, і праўда?..» Іншым разам усё вырашалася імгненнем, за якое куля далятае, у якое і ведаць не можаш, ты забіў ці цябе забілі.

Артыстаў запаялі ў цынкавыя труны, мяне выклікалі — я адваяваў сваё — і сказалі: «Гітарыст гэты — твой зямляк, ты там глядзі, гераізм і ўсё такое…» Калі б не сказалі, дык я і забыўся б пра Алега, а так вярнуўся і ў ваенкамаце дазнаўся адрас, каб знайсці ягоных бацькоў, а знайшоў Маргарыту. Не скажу, што пра тое шкадую, хоць выйшла, як выйшла.

Каб не забілі Алега, не забілі б і мяне. Толькі як такое вылічыць?

У Алега фотакартка Маргарыты была, штабнікі мне яе далі: «Можа, знойдзеш, глядзі, якая… Суцешыш і сам суцешышся…» На звароце фотакарткі было напісана: «*Я паўсюль над табой белым воблакам…»*

Калі знайшлася Мара, фотакартку ёй я не вярнуў, не паказаў нават, каб не забрала. Пайшоў з той фотакарткай на сваю другую вайну — у Чачню.

Адным з камандзіраў маёй другой вайны быў генерал, якога пасля забіла жонка. Ён і на маёй першай вайне, у Афганістане, камандаваў, я ваяваў у абодвух ягоных *амспах,* асобных мотастралковых палках, 860-ым і 191-ым. Было гэта ў 1983 і 1984 гадах, на той час генерал быў яшчэ падпалкоўнікам. А ў 1998 годзе ён стаў трупам генерала.

Забойства ягонае, як і маё, — цьмяная гісторыя. Генерал палез у палітыку, зліквідавалі яго нібыта па загаду з Крамля, бо задумаў ваенны пераварот, а жонка генерала ні пры чым, яе пад забойства падставілі… Я і не сцвярджаю, што яна забіла, думаю толькі, што магла забіць. Калі мая Мара мяне забіла, дык

чаму жонка генерала забіць яго не магла? Усіх нас, хто прайшоў праз Афганістан, а пасля праз Чачню, можна знішчаць, не разбіраючы, хто генерал, хто радавы… Магчыма, мы не людзі, наўрад ці мы людзі. На першай маёй вайне мне было дваццаць гадоў, на другой — трыццаць, на трэцяй — трыццаць пяць, і ўсе гэтыя гады я альбо забіваў, альбо сніў, што забіваю. Таму з Марай у мяне нічога і не выйшла, не магло выйсці. Таму яна мяне знішчыла.

Роўна праз дзесяць гадоў пасля маёй першай вайны, 31 снежня, калі Мара ставіла дома ёлку, калі ўсе сустракалі Новы год, я штурмаваў горад Грозны. Штурмаваць загадалі 31 снежня, бо гэта быў дзень нараджэння міністра абароны. Ён самому сабе зрабіў такі падарунак.

Дарагім аказаўся падарунак, царскім, нават больш, чым царскім… Толькі ў 131-ай брыгадзе, што наступала з поўначы, чачэнцы спалілі дваццаць танкаў з дваццаці шасці і сто дзве баявыя машыны пяхоты са ста дваццаці. Ва ўсім гэтым жалезе дагаралі і разрываліся жывыя людзі.

Было каля дзевяці раніцы, міністр абароны быў не зусім яшчэ п’яны і наступленне 129-га палка, які прабіваўся з усходу, спыніў, загадаў адыходзіць, але адступіць полк не паспеў: неба абрынулася на яго рэактыўнымі снарадамі з самалётаў-штурмавікоў «Су-25». Думаючы, што пазіцыі палка ўжо занятыя чачэнцамі, свае палілі і разрывалі сваіх, рускія рускіх.

Наш генерал, камандзір 8-га корпуса, дзе я быў афіцэрам-кантрактнікам 33-га палка, надумаў наступаць на Грозны не па Петрапаўлаўскай шашы, як загадаў міністр, а ў абход — паўз аэрапорт «Паўночны» і далей дарогай цераз рускія могілкі. Па абодва бакі дарогі нас чакалі засады чачэнцаў, і, калі мы падышлі да іх, наша артылерыя стала біць уздоўж дарогі, справа і злева па могілках. Мы ішлі калідорам паміж выбухамі, нас секла нашымі асколкамі — і на танкі нашы, на баявыя машыны пяхоты, на галовы нашыя ў свісце, агні і громе абрушвалася з каранямі чачэнская зямля, уздымалася і падала з чачэнскіх засадаў дымнае, крывавае, толькі што разарванае чалавечае мяса, сыпаліся і сыпаліся з уздыбленых рускіх магіл чарапы і косці, чарапы і косці…

Полк наш замыкаў калону корпуса, і калі мы амаль прайшлі могілкі, з неба, узняты апошнім снарадам, упаў на дарогу, паўстаў перад намі грудок, надмагілле — і крыж на ім.

Полк стаў. Сціхла, зрабіўшы сваё, артылерыя. У цішыні ўчулі мы пахі: едка пахла порахам, соладка — крывёй, мясам, цяжка —

сырой зямлёй. І ва ўсім гэтым — знак, крыж на нашай дарозе, і не адзін я, мусібыць, падумаў: «Нездарма мы ў 33-м, зратуй нас, Божа…» Кожнаму і ўсім разам нібы штосьці адкрылася, усе і кожны ўбачылі шлях і канец шляху, аслупянела зразумелі, куды і да чаго мы ідзём.

— Далей я полк не павяду, — перадаў камандзір палка, наш палкоўнік нашаму генералу, камкору.

Калі б камандзір кінуў полк і збег, генерала б гэта не надта здзівіла. Як на афганскай, так і на чачэнскай вайне камандзіры кідалі сваіх байцоў і збягалі, ратуючы шкуру, — генералу гэта не было ў навіну. З акружэння пад Кабулам на верталёце ўцёк камандзір 191-га асобнага мотастралковага палка, якога замянілі нашым генералам, з-пад Грознага далі лататы камандзір і намеснік камандзіра 104-ай паветрана-дэсантнай дывізіі… Але ж тут не тое, зусім не тое, і нешта такое было ў гэтым зусім не тым, у самім голасе палкоўніка, у ягонай катэгарычнасці, што генерал рашэнне палкоўніка, з якім колькі ваяваў, столькі сябраваў, перавёў у загад.

— Загадваю часова заставацца ў рэзерве!

Так я часова застаўся жыць… Як аказалася, не да лепшага.

Пад канец лета вайна ўжо была нібыта прайграна, і мужчыны захацелі жанчын. Захацеўшы, яны іх займелі, хадзіць па іх было недалёка: вайна ішла там, дзе жылі жанчыны і дзеці.

Салдаты злавілі дзвюх чачэнак, прапусцілі іх праз усіх, хто хацеў, а пасля не ведалі, што з імі рабіць. «Стрэльнуць, — прапанаваў Бігін, салдат ціхі і хуткі. — Інакш раскажуць».

— Ты і стрэльні, — сказаў я яму. Усе і ўсіх на гэтай вайне рабавалі, гвалцілі, забівалі; чачэнцы рускіх, рускія чачэнцаў, для ўсіх гэта было нормай, для мяне таксама. Салдат Бігін павёў жанчын у руіны Злоснага акопа, рэдута, збудаванага на беразе Сунжы яшчэ царскім генералам Ярмолавым, але не застрэліў. Яны паабяцалі яму грошы — ён іх адпусціў, сказаўшы нам, што застрэліў. «Ціхаму не вер, хуткага не бойся», — кажуць чачэнцы.

Я помніў чачэнскія прымаўкі і шмат чаго ведаў пра Чачню — сябра меў чачэнца. Ён быў з тайпу Барчхой, з акінцаў, пра якіх згадваў яшчэ Герадот, пісалі Пталамей і Пліній. Разам з ім ваяваў я ў Афганістане, потым разам вучыліся мы ў горным інстытуце, жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. Ад яго я дазнаўся пра сталінскую дэпартацыю чачэнцаў і пра аул Хайбах, чачэнскую Хатынь.

Калі я дабраўся да другой сваёй вайны, дык у Маздоку штабны маёр, праглядаючы мае дакументы, сказаў: «Ты ж з Беларусі, з іншай дзяржавы. Кантрактнік — гэта не наёмнік, наёмнікаў мы не бяром». Ён глядзеў на мяне хітра — і я ведаў, што яму адказаць. «Маёй і вашай дзяржавай, нашай з вамі, таварыш маёр, дзяржавай быў, ёсць і застаецца Савецкі Саюз». Ён згодна кіўнуў:

— Ваюй.

Мы адваяваліся. Лілі дажджы, мы сядзелі ў палатках, у гразі, забытыя ўсімі і нікому не патрэбныя, з бляшанкай тушонкі на суткі на траіх. Наша войска з Чачні выводзілася. Нас прыйшло сюды сорак тысяч, мы атакоўвалі і бралі Грозны, Аргун, Шалі, Самашкі, тысячы з нас загінулі — салдаты пыталіся: «За што?.. Для чаго?..» Гледзячы на фотаздымак Мары, я пра гэта не пытаўся. Я быў тут, каб быць на вайне, быць дзе-небудзь там, дзе б мяне забілі.

Досвіткам на нас напаў чачэнскі атрад, прыведзены жанчынамі, якіх адпусціў салдат Бігін. Сонных і мокрых у абы-як нацягнутых палатках нас закідалі гранатамі. Тыя з нас, што ўцалелі, біліся з чачэнцамі, з «чэхамі», як мы іх называлі, ва ўпор, вочы ў вочы. І ў руінах Злоснага акопа я ўбачыў вочы Ясу Джамаева. Разам былі мы ў Афганістане, потым вучыліся ў адным інстытуце, жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі.

З усяго, што расказваў Ясу пра Чачню, я ад пачатку не верыў толькі гісторыі пра аул Хайбах, дзе людзей, старых і дзяцей, энкавэдысты жывымі спалілі ў час дэпартацыі. Гэтаксама, як фашысты спалілі жывых людзей у Хатыні, як спалілі ў Лідзіцэ. Я пытаўся: «За што?.. Для чаго?..» Тады Ясу паказаў мне машынапісную, самвыдатаўскую кнігу з копіямі дакументаў, якія кожнай літараю ўрэзаліся ў маю памяць.

*Совершенно секретно*

*Наркому внутренних дел СССР*
*тов. Л.П. Берия*

Только для ваших глаз. Ввиду нетранспортабельности и в целях неукоснительного выполнения в срок операции «Горы» вынужден был ликвидировать более 700 жителей в местечке Хайбах.

*Полковник Гвишиани.*

*Грозный. УВД. Гвишиани*

За решительные действия в ходе выселения чеченцев в районе Хайбах вы представлены к правительственной награде с повышением в звании. Поздравляю.

*Нарком внутренних дел СССР Берия.*

От имени ВКП(б) и Комитета обороны СССР объявляю благодарность всем частям и подразделениям РККА и войк НКВД за успешное выполнение важного правительственного задания на Северном Кавказе.

*И. Сталин.*

Я працягваў выконваць важнае ўрадавае заданне ў руінах рэдута, збудаванага амаль дзвесце год таму генералам Ярмолавым, а Ясу глядзеў мне ў вочы — і першы апусціў аўтамат.

— Ідзі, — сказаў ён. — І болей не прыходзь.

Не забіўшы мяне, Ясу ўсё ўскладніў: выявілася, што мне ўсё адно няма куды ісці, апроч як на вайну. Ніхто і нідзе мяне не чакаў, не выбіраў, адна вайна чакала і выбірала.

— Чаму цябе не забілі? — пыталася Мара, упіраючы кулачкі мне ў грудзі, ненавідзячы, не пускаючы да сябе, а я баяўся зламаць яе маленькую сілу. — Алег толькі глянуў на вайну і не вярнуўся, а ты… Ты носіш яе на сабе, скінь, ад цябе крывёй, смерцю пахне!..

Развучыўшыся жыць без вайны, я не мог навучыцца быць з Марай. І ўсё ж, калі б вайна зноў не пачалася, я б не пайшоў на яе. Але яна пачалася — і праз чатыры гады я вярнуўся ў Чачню.

Я апынуўся на той жа — і не той вайне. Гэта была не проста другая чачэнская вайна, яна была інакшая, яшчэ болей жорсткая і бязлітасная. Увайшоўшы ў Кізляр з Кадарскай зоны, войска, малоцячы чачэнцаў штурмавікамі і артылерыяй, praарала агнём і жалезам раўніну і ўперлася ў горы. Я павінен быў загінуць на самым пачатку горнай вайны разам з 6-ай ротай 104-га дэсантнага палка ў Аргунскай цясніне, праз якую прарываліся на Ведзяно атрады Хатаба і Басаева. Але я не загінуў. Гэтая вайна нібыта ведала, хто мяне павінен забіць, і выбрала мяне для таго, каб перад тым, як знішчыць, усё ўва мне яшчэ і растаптаць, раструшчыць, знявечыць. Каб Мары ўжо не было каго, а таму не шкада было забіваць.

Дэсантнікамі на трэцяй маёй вайне камандаваў мой зямляк. Я ведаў ягонага сына, якога забілі на першай чачэнскай. Сына звалі Алегам. Чамусьці ўвесь час я гэта помніў — і мяне гэта торгала. Не ведаю, чаму. На вачах маіх і ў Афганістане, і ў Чачні забівалі не адных Алегаў.

Пасля гібелі 6-ай дэсантнай роты мяне перавялі — я ў земляка сам папрасіўся — у разведбатальён. Там я зноў сустрэў салдата Бігіна, падумаўшы, што мог бы і не сустракаць — вайна вялікая. Але мы сустрэліся, так лёсу трэба было, і зімой, пад канец лютага, мы падымаліся з разведгрупай, дваццаць шэсць чалавек, у горы, туды, дзе аул Хайбах.

Нечакана, як яно часта здараецца ў гарах, пайшоў-пасыпаўся снег, ды такі, што спіну першага перад табой яшчэ можна было ўбачыць, а другога — ужо не. Выпадкова мы наткнуліся на пячору ў падножжы стромай скалы, спыніліся і заначавалі. Пад раніцу трохі распагодзілася, «чэхі» заўважылі нашых вартавых, ударылі з мінамёта — і снег са скалы абрушыўся, заваліўшы выхад з пячоры. Мы апынуліся ў пастцы — цёмнай, сырой, душнай.

Спрабуючы выбрацца, разграбаючы снег, які напаўзаў і напаўзаў, гадзіны праз чатыры мы пачулі, што нас адкопваюць знадворку. З'явілася надзея, што гэта вартавыя, ці нават падмога — навошта «чэхам» нас з жывой магілы даставаць?.. Але як толькі на выхадзе з пячоры прабілася ў самым версе святло і абазначыўся лаз, адтуль крыкнулі:

— Кідай зброю і выпаўзай па адным!

Выйсця не было… Тут нас маглі зноў закапаць, задушыць дымавымі шашкамі — тут нічога не магло адбыцца, апроч смерці… А там, можа, удасца ўцячы, ці свае вызваляць — там нейкія варыянты…

Вочы нясцерпна разанула на белым свеце ад белага-белага снегу — і ўсё ж Ясу Джамаева сярод «чэхаў», якіх было ўтрая болей за нас, я і ўбачыў, і пазнаў адразу. І ён мяне пазнаў, сказаўшы нешта аднарукаму чачэнцу, што стаяў побач, — Жандару, камандзіру… Я здагадаўся, што ён яму сказаў.

Нас загналі ў кінутую, пустую стайню, да якой не дайшлі мы ўчора ў снегападзе з паўвярсты. Калі б дайшлі, усё было б інакш. Мы б ваявалі — і нас бы проста пазабівалі, як забілі, на іх шчасце, трох нашых вартавых.

За рукі і ногі нас прывязалі да стаякоў у стойлах — дванаццаць з аднаго боку і адзінаццаць з другога. У дзвярах стайні стаялі каністры, ад якіх пахла бензінам. Адна дзверына была

знята з завесаў і ляжала пасярод стайні на жардзяных, толькі што збітых козлах.

— За такі вялікі стол мы звычайна запрашаем гасцей, — пачаў гаварыць Жандар. — Але не вас, бо вы не госці, а ворагі. Вы прыходзіце сюды ворагамі амаль дзвесце гадоў. У адзін з вашых прыходаў вы спалілі тут жывымі семсот дваццаць шэсць чалавек, мужчын і жанчын, старых і дзяцей… Вы спалілі іх у стайні — і мы таксама хацелі спаліць вас у стайні, бо ў свеце павінна быць справядлівасць. Ва ўсім і для ўсіх… — Жандар паглядзеў на Ясу, пасля на мяне. — Але мы перадумалі. Ніхто не хоча паміраць — і мы пакінем вас жыць. Мы адпомсцім вам так, што помста пойдзе ў будучыню — і ні вы сюды не вернецеся, ні дзеці вашы, ні ўнукі і праўнукі на зямлю нашу не ступяць. Мы выпакладаем вас, як парсюкоў, бо вы і ёсць свінні.

— Яны самі сябе выпакладаюць, — сказаў Ясу. — Кожны кожнага.

— Кожны выпакладае кожнага. Мы толькі пакажам, як…

Па знаку Жандара «чэхі» развязалі сяржанта Целяшэева, усцягнулі на рог стала, садралі порткі. Двое загнулі яму, разводзячы, пад краі стала ногі, двое прыціснулі галаву і рукі, а яшчэ адзін разануў паміж ног і кінуў тое, што выразаў, у стойла, дзе толькі што стаяў сяржант. Той, не разумеючы яшчэ, што адбылося, ускочыў, адразу ўпаў і, пырскаючы крывёй, падбіраючы порткі, папоўз па сваё…

— Цяпер ты, — падышоў Жандар да камандзіра нашай разведгрупы капітана Сільнова. І паказаў на мяне. — Яго.

Сільноў плюнуў яму ў твар.

— Як сабе хочаш, — спакойна выцерся Жандар і падаў знак «чэхам».

Капітана ўскінулі на стол, адрэзалі вушы, нос, губы, выразалі язык, выкалалі вочы, адсеклі ў кісцях рукі і ў шчыкалатках ногі, разанулі ўрэшце паміж ног і адкацілі, як абрубак, да сцяны.

— Так будзе з кожным, хто адмовіцца, — сказаў Жандар і спытаўся ў мяне. — Ты адмаўляешся?

— Забі мяне, Ясу, — папрасіў я. — Па былой дружбе.

— Ты надта многа хочаш, — адказаў Ясу. — Я ж сказаў табе тым разам: не прыходзь.

— Да капітана яго! — загадаў Жандар, але Ясу спыніў Жандара.

— Не. Гэты хай жыве, каб помніў… Ён не хоча, дык яго захочуць. — І Ясу ткнуў пальцам у салдата Бігіна, які цягаўся за мной, як хвост, і па першай, і па другой чачэнскай вайне. — Ты!

Салдат Бігін не адмовіўся… Сказаў толькі: «Гэта і стоячы можна зрабіць, нашто на стол валачы?..»

Праз дзень, калі нас, дваццаць кастратаў, бо яшчэ двое адмовіліся і засталіся абрубкамі ў стайні, перакідвалі на самалёце з Маздока ў Маскву, салдат Бігін павесіўся на дзязе ў прыбіральні. Калі б за намі не глядзелі, не ён бы адзін павесіўся. Па дарозе з вайны дахаты ўсім адкрылася, якімі і да чаго мы вяртаемся.

Я не спрабаваў павесіцца, бо ведаў, хто мяне заб’е…

Падаючы ў роўны шум вады пад запрудай, які я звык любіць, я паспеў яшчэ пачуць галасы.

— Рыбам на корм, — сказаў той, што ўдарыў мяне першы, а другі запярэчыў:

— Тут няма рыбы. Атручаная рака.

— Усё атручанае, — сказала трэцяя.

— Нейкая рыба павінна быць…

Яны заспрачаліся, але я ўжо іх не слухаў. Калі ты нарэшце мёртвы, табе ўсё адно, ці ёсць рыба ў рэках.

*Верасень 1998, Менск; лістапад 2001, Хельсінкі*

## ЧМЕЛЬ І ВАНДРОЎНІК

*На саракавіны В. Б.*

Чмель паміраў. Так сталася, што пад дзень нараджэння.

Ён быў мудрым чмялём — і ведаў, што рыбы, птушкі, звяры і ўсё, што нараджаецца, — памірае: і людзі, і кветкі, і таму, мусібыць, і чмялі, але не ведаў, як, і што пасля, і трохі баяўся…

Таму яму падумалася, што ёсць чмяліны Бог.

Ён быў мужным і моцным чмялём, жыў невыносна доўга і не стаміўся невыносна доўга жыць, аблётаўшы ці не ўвесь чмяліны свет і яшчэ схадзіўшы на вайну. Вайна была вялікай, але не большай за свет, і ён здзівіўся.

І яшчэ здзівіўся, што яна, вайна, яму не замінала.

«Тады што ж, — ён падумаў, — можа замінаць?..» І выходзіла, што нічога.

Адна смерць.

«Але ж не можа яна, смерць, — ён думаў, — быць большай за жыццё?.. Як вайна не можа быць большай за свет».

Мудрасці, каб падумаць інакш, не хапіла. Ён зразумеў, што ў тым, пра што падумаў, няма мудрасці. «Тады дзе яна і ў чым?..»

Выходзіла, што, калі не ў ім, у чмялі, тады ў чмяліным Богу.

Тут узнікала праблема: пра тое, што ёсць Бог, падумалася, але веры ні ў чмялінага, ні ў якога іншага Бога ў чмялі не было.

Бог, які быў у чмялі, думаў: што рабіць з чмялём? Да Бога чмель, хоць Бог быў у ім, так і не дабраўся, пастанавіўшы, што Бога няма, а ёсць толькі жыццё, вайна і смерць. Але зямны свой наканаваны шлях чмель прайшоў прыстойна. Больш прыстойна, чым многія і многія з тых, хто верыў, што Бог ёсць. У Бога ўзнікала праблема…

Праз тры сцяны ад чмяля паміраў у тым жа шпіталі ад той жа хваробы авадзень. Ён быў такім аваднём, пра якога і сказаць, і падумаць можна хіба толькі тое, што ён авадзень. І ўсё ж у ім хапала аваднёвага розуму, каб дапяць, што хоць ён і авадзень, але калі паміраюць птушкі, рыбы, чмялі, дык, мусіць, памрэ і ён. Яму было гэтак страшна, што ён толькі прасіў і прасіў, маліў і маліў Бога, каб не даў памерці.

Бог, які быў у чмялі, паклікаў да чмяля вандроўніка, якога чмель некалі ўджаліў. Вандроўнік крыўдаваў на чмяля і не надта хацеў ісці. Але за гады вандроўніцтва ён зрабіў крок да Бога, таму пайшоў, куды Бог паклікаў.

Па дарозе ў вандроўніка ўзнікла праблема: з чым прыйсці да таго, хто памірае? І ў каго заўтра дзень нараджэння. Што прынесці ў падарунак? Залаты гадзіннік?..

На рынку да вандроўніка падышла бабуля ў белым і падала суніцы на сунічніку. Маленькі букецік з чырвонымі ягадамі. «Табе гэта?..» — спытала бабуля, і вандроўнік успомніў, што аднойчы хадзіў з чмялём у суніцы. Пакуль ён шукаў па кішэнях, каб разлічыцца, грошы, бабуля павярнулася і хуценька пайшла. Вандроўнік кінуўся яе даганяць, бабуля давяла яго да крамы з кветкамі і ў кветках прапала.

Квятнярка спытала: «Вам колькі?»

Вандроўнік не ведаў, колькі… Пяць? Сем? Сто?

Квятнярка стаяла на парожку сваёй крамы, зрабіла крок уніз, аступілася і, каб не ўпасці, ухапілася за безліч руж, выхапіўшы з іх адну. Знайшла раўнавагу і не ўпала.

Вандроўнік купіў адну тую белую ружу і паехаў у шпіталь. Дарогай, каб заняць час, думаў пра тое, як хораша ўсё ён прыдумаў. З суніцамі, з ружай…

Авадзень, баючыся, што Бог пра яго не ўсё помніць, нагадваў Богу, як аднойчы поп з той вёскі, дзе нарадзіўся авадзень, папрасіў яго, авадня, дапамагчы збудаваць царкву, і як ён, авадзень, пастараўся. Тэхніку загадаў прыгнаць, цэглу і цэмент завезці, і нават золата на пазалоту… І як поп яму дзякаваў і бажыўся, што ўсе грахі яму, авадню, за тое будуць адпушчаныя.

Яшчэ авадзень нагадаў Богу, што падаваў міласціну. Часта, амаль заўсёды, калі здаралася напаткаць жабрака альбо жабрачку. Хіба Бог таго не заўважаў?..

У палату ўвайшоў доктар. Авадзень не ведаў яго, першы раз бачыў. Доктар падышоў да акна, якое само расчынілася, і сказаў у акно: «Храмы, што будуюцца не са свайго, не стаяць. Міласціна, якая падаецца дзеля сябе, не ратуе».

Авадзень хацеў нешта спытаць, але не ведаў што і не знайшоў у каго. У расчыненае акно ўляцела парушынка, і зазірнула пустата.

На калідоры каля палаты, у якой паміраў чмель, сядзеў святар. Ён прыходзіў і сядзеў тут штодня ўжо тыдзень, чакаючы, калі чмель яго пакліча, каб далучыцца да Бога праз таямніцу споведзі. Чмель не клікаў…

— Як сёння?.. — спытаў святар доктара, і доктар пацiснуў плячыма.

Чмель адчуваў у сабе — там, дзе тое, што звычайна называюць душой, — нязвыклы рух, нейкі такі, нібы ў ім, у чмялі, яшчэ адзін чмель і ўніз, і ўверх, і адразу ва ўсе бакі лятае, і стаў ціха да руху, да сябе ў сабе самім прыслухоўвацца: ці не пачуецца выразны гук?.. Але не: рух быў як адразу ўверх і ўніз і ва ўсе бакі — так адразу ва ўсім, няўцямны ў сабе самім, і ў ім яшчэ нешта было і яшчэ нешта…

«А можа быць», — падумаў чмель — і далей не стаў пра гэта думаць, падлавіўшы сябе на слабасці.

Вандроўнік згадаў, як везлі яго аднойчы гэтай дарогай — туды, дзе паміраў зараз чмель. Як правозілі на машыне хуткай дапамогі міма гарадскіх бальніцаў — і як ён кожнага разу спадзяваўся, што вось да гэтай бальніцы, не далей, і як у ім сціналася ўсё, калі далей і далей, і ўрэшце да самай дальняй, у якую кладуць з той хваробай, ад якой амаль непазбежна канаюць, і як ён не мог выйсці, калі давезлі, з машыны, так абліўшыся ўспацелым страхам, нібы да ніткі вымак пад дажджом.

Аўтобус, у якім ехаў вандроўнік, раптам ссунуўся на абочыну, і яго пачалі абганяць машыны: з сірэнамі, з міргалкамі —

на шалёнай хуткасці адна, другая, дзесятая, адна за адной… Чмель займеў славу ў чмяліным свеце, але ў Айчыне сваёй быў біты камянямі, і вандроўнік падумаў у здзіўленні: «Няўжо да чмяля?..» Гледзячы ў пыл, узняты машынамі, ён успомніў, як прагнуў гэтага пылу, за што чмель яго і ўджаліў.

Чмель успомніў пра вандроўніка, калі ў падворак шпіталя пачалі ўкочвацца машыны: з сірэнамі, з міргалкамі — адна, другая, дзесятая, адна за адной… Чмель не чакаў, што яны да яго, ён наогул нікога не чакаў — і вандроўніка, пра якога ўспомніў. Толькі падумаў: «Чаму?..»

Увайшоў доктар і зачыніў акно: «Я сказаў ім, што сюды на машынах нельга, але яны ўсё адно панаехалі».

«Хто яны?..» — спытаў чмель, і доктар адказаў, выходзячы: «Я ж кажу: машыны. Да авадня».

Перш чым зайсці да чмяля, вандроўнік зазірнуў да доктара. Спытаў, калі чмель памрэ…

Доктар сказаў, што, можа, сёння. А можа, дні праз тры.

— Ён баіцца? — спытаў вандроўнік.

— Усе баяцца, — адказаў доктар. — Але хто як.

Вандроўнік папрасіўся ў доктара пераседзець крыху ў яго. Падумаць, як да чмяля ўвайсці, павітацца, што сказаць… Доктар сказаў: «Ён можа памерці зараз».

На калідоры вандроўніка пераняў святар.

«Скажы яму, каб паклікаў мяне, — з мальбою папрасіў святар вандроўніка. — Скажы, бо ён не разумее…»

Вандроўнік падумаў, што чмель не можа не разумець, і сказаў святару: «Ён не можа не разумець».

— Вы даўно ў суніцы не хадзілі… — падышоў вандроўнік да ложка, на якім паміраў чмель. Той узяў сунічнік, сарваў ягаду, раскусіў — і з куточка рота пакацілася, пакідаючы след на белай бальнічнай шчацэ, на падбародку, сунічная крывінка.

— Праўда… даўно… — даўка пракаўтнуў чмель, а вандроўнік не ведаў, што рабіць з крывінкай: выціраць ці не?.. Паглядзеў на жонку чмяля, руплівую пчалу — тая займалася ружай, ставіла яе ў вазу.

— Вытрыся, — сказала пчала чмялю. Той выцерся, паклаў каля сябе сунічнік і паглядзеў на ружу.

— Колькі і чаго кожнаму трэба?.. — спытаў чмель не ў пчалы і не ў вандроўніка. І адказаў не ім. — Адно жыццё, адна смерць, адна кветка…

Вандроўніку стала ніякавата. Да сораму. Усё, што ён так і столькі прыдумляў, за што сябе хваліў, чмель раскусіў за імгненне, як ягаду. Таму вандроўнік сказаў тое, што не сказаў бы, калі б яму не стала ніякавата. Да сораму.

— Даруйце, што змусіў вас некалі мяне ўджаліць.

Чмель павярнуў сівую галаву на высокай падушцы і ўтаропіўся ў сцяну. Доўга глядзеў у сцяну і маўчаў. Пакуль не выдыхнуў праз сілу, як выціснуў з сябе:

— Дзякуй.

Усё было сказана, больш між імі не было нічога… Вандроўнік прыпадняўся, каб пацалаваць чмяля і пайсці, але чмель спыніў яго, узяўшы за руку.

— Пачакай… я не ведаю…

Вандроўнік разгубіўся, бо таксама не ведаў. Толькі здагадваўся. І яму здавалася, што чмель ведае… Павінен ведаць.

— Пра што вы там? — занепакоілася пчала, і ў дзверы зазірнуў доктар, паклікаў яе, нечым заняў.

Вандроўнік глядзеў чмялю ў вочы, бачыў там смерць і не цяміў, што рабіць… Бог, які прывёў вандроўніка, падказаў: «Скажы яму, што смерці няма».

«Я іншым разам чую галасы, — стаў казаць вандроўнік тое, што падказваў Бог, — і ўчуў аднойчы голас дзеда: «Прыязджай…» Я далёка быў і ехаў доўга, да таго ж многа гадоў мы не бачыліся, а дзед спаткаў мяне ў падворку так, нібы я на хвіліну да суседзяў збегаў. Кіўнуў на дрывотню:

— Набяры бярэмя і паднясі ў лазню.

— Гэта калі было? — нечакана спытаў чмель, і вандроўнік адказаў, што зімой, і ён наскрозь прамёрз, пакуль дабраўся.

Чмель сказаў: «Зараз лета…» Болей нічога ён не пытаўся, і вандроўнік, пачакаўшы, стаў казаць далей.

— У лазні я трохі папарыў дзеда, памыў, ён апрануўся ў белае споднае — і мы селі ў сенцах. Дзед паклаў на лаву скібку сала, акраец хлеба, паставіў гарнец самагонкі, кілішкі… Калі я наліў, ён падняў кілішак і сказаў ціха, звычайна:

— Дзякуй, што прыехаў. Сёння ўночы я памру.

Вандроўнік замаўчаў, спалохаўшыся прамоўленага, але ні чмель, ні Бог яго не спынілі. Чмель глядзеў і чакаў…

— Дзед, ты што! Мы сто разоў з табой яшчэ вып'ем! — пачаў я абдымаць і цалаваць дзеда, і ён сядзеў і ківаў: «Добра… добра…»

Ідучы ў хату, дзед прыпыніўся каля драбіны на гарышча. Сказаў: «Злазь. Там у куце пад самай страхой стаіць куфэрачак, вазьмі яго».

Я злазіў і ўзяў. Зялёны куфэрачак з пацёртым медным замочкам.

У хаце дзед адамкнуў куфэрачак і дастаў тое, што ў ім было. «Евангелле» і «Урок Закона Божага». Сказаў: «Па адной кнізе я вучыўся жыць, па другой жыў. Больш мне няма чаго табе пакінуць».

Куточак рота, з якога выкочвалася сунічная крывінка, торгнуўся ў чмяля, і вандроўнік зрабіў паўзу…

— Дзед хадзіў на вайну? — спытаў чмель.

— Так. Са Святым Пісаннем.

Чмель зірнуў недаверліва.

— Не на вашу вайну, — сказаў вандроўнік. — На тую, якая была перад вашай.

Чмель кіўнуў.

— У хаце, апроч мяне і дзеда, дыхала шмат людзей: дзед склікаў усіх сваіх сыноў і дачок з іх дзецьмі, але не сказаў ім, нашто. Яны думалі, што на дзень нараджэння, які павінен быў настаць заўтра, — і ўсе спалі на чыстай палавіне, позна ўжо было. Ложак дзеда стаяў на чорнай палавіне — каля печы, саганоў, карыта з паранкай…

Чмель слаба ўсміхнуўся:

— Выпіхвалі старога. Звычайная рэч…

— І ў галаве вісеў абраз, пад якім ён папрасіў мяне, лёгшы і склаўшы рукі, запаліць свечку. Я запаліў і падаўся спаць у бакоўку, дзе не мог заснуць, падняўся, каб пайсці ў двор пакурыць, выйшаў на чорную палавіну — і дзед на маіх вачах заплюшчыў вочы, усміхнуўся і памёр. І адразу ж пагасла свечка.

Паўза ўзнікла сама па сабе, і чмель спытаў вандроўніка:

— Табе стала страшна?

— Не, — адказаў вандроўнік. — Мне стала светла. Я не бачыў столькі смерцяў, як вы, але ўсё ж некалькі бачыў, і там было страшна, а тут — светла. Толькі я не ведаў, што мне з гэтым рабіць, і зноў схаваўся ў бакоўку. Там скурчыўся, скруціўся, як у дзяцінстве, падціснуўшы калені, і пачаў маліцца. Стаў маліць дзеда, каб пра тое, што я толькі што ўбачыў, ён мне

яшчэ і расказаў. Ці нeяк паказаў, давёў, што так яно і ёсць, хоць я разумеў, што нельга… але дзед, дзед, я маліў, я так цябе любіў, ты так мяне любіў, дык скажы, што так ёсць, хоць адтуль казаць нельга… але ты святы, табе даруецца, а мне так трэба ведаць…

Чмель сціснуў руку вандроўніка трохі мацней.

— З той малітвай, з тою просьбай, павярнуўшыся на спіну і склаўшы, як дзед, рукі, я раптам адчуў сябе не адным. Узняўся над сабой самім і ўбачыў сябе самога ў бакоўцы, дзе ляжаў на тапчане, склаўшы рукі — выразна сябе ўбачыў, усяго да драбніцаў, хоць там, дзе я ляжаў, было цёмна, і той я, якога я сябе ўбачыў, мне не глянуўся, не спадабаўся, і я з радасцю, з пранізлівым шчасцем адчуў сябе другім, зусім іншым, лёгкім, бязважкім, — і там, дзе я быў такім, было светла, так светла, як скрозь і ўва мне адно святло. Шчаслівым святлом у тым святле я выплыў з бакоўкі, праплыў па чыстай палавіне над сваёй маці, якая спала і ўсміхалася ў сне, над сваім бацькам, над усімі роднымі, блізкімі, крэўнымі мне людзьмі, пра якіх думаў, як страшна будзе іх пакідаць, як яшчэ страшней будзе, калі нехта з іх мяне пакіне, а тут адчуў, што не, зусім не страшна, і яшчэ адчуў, што хачу пакінуць іх як найхутчэй, зараз — і мяне неадольна пацягнула ў адчыненую фортку, бо ў хаце было душна і трэба было дыхаць, а за форткай было так высока і прасторна і дыхаць не трэба было, бо ты сам, як дыханне, так, як дзіцячае дыханне, і калі я рвануўся ў фортку, пераўтвараючыся ў дыханне і набіраючы святла, убачыў за форткай дзеда, які таксама — адно дыханне і святло, і дзед прадыхнуў: «Тут не цёмна, ты не бойся…» — «Дзед!» — кінуўся я да яго, каб маліць, каб заклінаць, каб ён узяў мяне з сабой — і знайшоўся ў самім сабе ў бакоўцы, дзе ляжаў, склаўшы рукі, на тапчане. Усё скончылася, але ў цела сваё, якое яшчэ трэба было даношваць, я вярнуўся іншым. Не нашмат, не гэткім, як святло і дыханне, але і не такім, якім сябе пакідаў… Я дзеда так любіў, ён так мяне любіў, што прыадкрыў таямніцу: смерці няма. Няма смерці.

Чмель адпусціў руку вандроўніка, усміхнуўся і сказаў:

— Дзякуй. А то там святар сядзіць і сядзіць…

— Але гэтага мне мала было, — доўжыў вандроўнік. — Толькі аднаму гэта ведаць было мала, хацелася, каб і маці ведала, і бацька, і ўсе, каго я любіў… І я ўсіх пабудзіў, сказаў, што дзед памёр, і стаў глядзець, што яны стануць рабіць, і калі яны кінуліся ў слёзы і крык, загаласілі: а на каго ж ты нас пакінуў? — я ўзмаліў: дзед, падай ім знак, што яны не пра тое плачуць, кры-

чаць і галосяць! — і дзед сарваў са сцяны зашклёны абраз, пад якім памёр, узняў яго і гвазднуў аб падлогу, шкло ў галашэнне і слёзы пырскамі разляцелася: «Сціхніце! Смерці няма!..»

— Абраз гваздануў?.. — напружана ўгледзеўся ў вочы вандроўніка чмель.

— Абраз.

— Пад якім памёр?..

— Пад якім памёр.

— Нахіліся да мяне… — паспрабаваў прыпадняцца чмель і, калі вандроўнік нахіліўся, вышаптаў яму на вуха. — Зрабі так, каб як найцішэй было, калі стану дыханнем. Пастараешся?..

— Пастараюся, але так не будзе, — адказаў вандроўнік. — Вы самі ведаеце…

Чмель сказаў:

— На жаль…

Вандроўнік папрасіўся:

— Я пайду?..

— Ідзі… І вяртайся дахаты, — пацалаваў яго чмель. — Доўгім ці кароткім шляхам, але вяртайся.

— Я вярнуся, — сказаў вандроўнік. — Доўгім ці кароткім… — І не дагаварыў, пра нешта падумаўшы.

Бог сказаў: «Кароткага шляху не бывае».

Чмель пачуў. Памаўчаў і кіўнуў, лежачы: «Гэта так».

Вандроўнік рушыў да дзвярэй, у якіх чмель спыніў яго.

— Чакай. Апошняе… Скажы ім, што хачу памерці ў сваім ложку.

— А самі вы…

— Казаў. Не чуюць… Баяцца, што памру.

Вандроўнік кіўнуў і выйшаў.

— Ну што?.. — кінуўся на калідоры да вандроўніка святар, і вандроўнік зманіў:

— Не разумее.

— Ён хоча памерці ў сваім ложку, — сказаў вандроўнік доктару, і той адказаў:

— Ведаю.

— Тады чаму не?..

— Бо ён штучна жыве. І калі я адключу яго ад штучнага жыцця, памрэ ці імгненна, ці па дарозе ў машыне. Што мне рабіць?..

Вандроўнік павагаўся і сказаў:

— Адключы. Ён не памрэ па дарозе.

Доктар бяссільна развёў рукамі:

— Я доктар. І чужы, як і ты. Няхай ягоныя скажуць…
— А што яны?..
— Не чуюць. Баяцца, што памрэ.

Вяртаючыся дахаты, вандроўнік у каторы раз намагаўся ўцяміць: хто такі чмель і што такое Бог?.. Калі Бог, — думаў вандроўнік, — у якога чмель не верыць, усё адно ў чмялі, значыць, Бог ва ўсіх. Як душа, якая і ёсць чмель, і ёсць Бог. Які адначасова і паўсюдна ва ўсім гэткім бясконцым, што немагчыма ўявіць, Сусвеце… Дзе штоімгненна запальваюцца і пагасаюць у нечым лятучым, што ляціць і ўніз, і ўверх, і адразу ва ўсе бакі, мільярды мільярдаў зорак, і маленькая лятучая душа роўная ўсяму бясконцаму лятучаму Сусвету, у якім ад бясконцасці да бясконцасці — усё адно ў адным, і ўсё гэта разам і ёсць Бог…
Мудрасці, каб падумаць інакш, не хапіла. Вандроўнік зразумеў, што ў тым, пра што падумаў, няма мудрасці. «Тады дзе яна і ў чым?…»
Выходзіла, што калі не ў ім, у вандроўніку, тады ў вандроўным Богу.
Тут узнікала праблема…

Богу было не да авадня — і авадзень не памёр. У ім замянілі ўсё аваднёвае на новае, і ён далей застаўся жыць і баяцца памерці…

Чмель памёр у шпіталі ў той дзень, у які некалі пачалася вайна, на якой пражыў ён жыццё. Святара ён так і не паклікаў, але Бог, які быў у чмялі, пахаванне ягонае наладзіў, як свята… Было бясконца ціха — святло і дыханне, і ў святле і дыханні лунаталі белыя сцягі з чырвонымі слядамі крывінак.
І нікога на машынах, каб пыл не ўздымалі…
Вандроўнік ішоў за труной і ўспамінаў, як маліў чмяля, калі той памёр, каб падаў які-небудзь знак, што ўсё тое, пра што яны апошнім разам гаварылі, так і ёсць, і як чмель падаў знак: калі ўсчаўся гвалт і крык, падняў свой зашклёны партрэт, бо абраза не было, і гвазднуў яго аб падлогу, шкло пырскамі ў крык і гвалт разляцелася: «Сціхніце!..» І яшчэ згадаў вандроўнік, як пад клавіятурай друкарскай машынкі, якая дасталася яму ад чмяля, знайшоў прыклееную паперынку, на якой чмялём было напісана:
*«Ёсць першая старонка… З Богам!»*

*Ліпень 2003, Менск*

# АПОВЕСЦІ

## МІРОН ДЫ МІРОН

> Было б зусім магчыма, каб дзіця само вучылася пісаць. Нехта ж ды прыдумаў гэта, і адкрыццё не такое ўжо вялікае.
>
> *Імануіл Кант*

Не ведае чалавек часу скону свайго, але ж і пачатку свайго не ведае.

З чаго пачынаешся?..

З таго, што помніш, як з ганка зваліўся і гузакоў набіў, ці як руку ў сячкарню ўсунуў, ці як пуня суседава зашугала, а ты сядзеў за ёй у маліннiку, шукалі цябе — знайсці не маглі, маці галасіла на попеле, думала — згарэў…

І не помніш зусім, як спасцігаў гэты свет, нечаканы, незнаёмы, таямнічы, як дзеяліся ў табе дзівы дзівосныя, здараліся адкрыцці неверагодныя, як за год, за месяц, за тыдзень зведваў столькі, колькі пасля за ўсё жыццё зведаць не мог — і як лёгка, гуляючы, спраўляўся ты з тым нашэсцем цудаў і дзівосаў, з тою навалаю жыцця, весела, бы вавёрка арэхі, шчоўкаючы ўсе ягоныя загадкі і загадачкі, сакрэты і сакрэцікі. Чаму ж прырода зрабіла так, што мы памятаем, як былі дурнямі, і не помнім, як былі геніямі? Чаму пачынаемся мы не з ночы зачацця і нават не з дня нараджэння, а з такіх позніх і гэткіх выпадковых першых успамінаў, пачынаемся ў тры-чатыры гады з нічога, бо дагэтуль — цемрадзь, глухата, немата. Дзе ж наша тая, дапершаўспамінная памяць, на якім пераломе мы яе страчваем, куды яна адлятае, ці пад якімі замкамі, за якой сцяной яна ў нас жыве?

Можа, з той памяці — сны?..

Мірону снілася, што ён нарадзіўся — і яго купаюць у балейцы. Балейка стаіць у садзе, на стале пад яблынямі, а яблыкі —

чырвона-жаўтабокія пепінкі, ужо даспелыя — вісяць над балейкай, над Міронам, як планеты, і жывуць на тых планетах восы, пчолы, чмялі, мухі, вусені… Мірон ведае, што пепінкі называюцца пепінкамі, пчолы пчоламі, вусені вусенямі, а бацька зрывае яблык і кажа: «Во, Мірон, гэта яблык, яго можна есці», — і паплёўвае на пепін, шморгае яго разы тры аб гімнасцёрку і грызе, смачна хрумкаючы. Галіна, з якой бацька сарваў пепін, гойдаецца, і з яе падае яшчэ адзін яблык — у ваду, у балейку. Маці, сабраўшыся ўжо выціраць Мірона, уздрыгвае, з ёй уздрыгвае вада, уздрыгваюць балейка, стол, зямля пад сталом, маці выдыхае: «Мірон, стаўбун ты чортаў… — і Мірон разумее, пра што яна, толькі не ўцяміць, хто стаўбун, ён ці бацька, бо ягонага бацьку таксама завуць Міронам, — … а каб на галаву дзіцяці!»

Стаўбун — бацька, а Мірону, немаўляці Мірону мог на галаву ўпасці яблык, цэлая планета з усімі яе жыхарамі — і толькі б гэта здарылася, толькі б гэта, але маці, уздрыгваючы, думае пра іншае, баіцца іншага, а пра што трэба думаць — не думае, і чаго час баяцца — не баіцца.

Пасля Мірону сняцца хрэсьбіны, госці за сталамі пад тымі ж яблынямі. Яблыні парадзелыя, амаль пустыя, цень ад іх падае не густы, як раней, а рассыпаны, пярэсты. Пепінкі, горкамі і ўрассыпную, ляжаць на абрусах, чырванеюць і жаўцеюць бакамі паміж лустамі чорнага хлеба, паміж міскамі з белым тварагом, зялёнымі гуркамі, рудаватымі памідорамі. Пярэсты цень пакалыхваецца, прабягае па сталах хвалямі: здаецца, што сталы вось-вось паплывуць.

— Мірон, ты чаму сына, як сябе, назваў? — пытаецца ў бацькі фельчар Яромха, у якога дзіўнаватае імя для мужыка: Альбін.

— Вечны буду! Памру, а ўсё адно Мірон Стаўбун на зямлі застанецца…

Дзіўнаватым здаецца імя Яромхі, мусібыць, з таго, што сястра ў яго Альбіна, таму ён найчасцей без імені абыходзіцца: Яромха ды Яромха… Сястра ў яго прыгожая, амаль такая ж, як Міронава маці. Яны не зайздросцяць адна адной — і таму сябруюць.

Калі маці злуецца, яна лаецца на бацьку ягоным прозвішчам, а яе ў Карунах, у вёсцы, якая некалі мястэчкам была, адзін толькі фельчар Яромха называе Стаўбуніхай, усе астатнія клічуць, як і ў дзеўках клікалі, Настай Чароткай.

У Яромхі на левай руцэ — ад запясця да локця — сінее татуіроўка: корцік, абвіты змяёй. Корцік выглядае заштрыхаваным, але гэта не штрыхі, а вуглаватыя літары, і на корціку напісана: *нет в жизни щастя.* На змяі літары, як луска — круглаватыя, плаўныя: *пращай, Настя.*

Гэта напісана пра Міронаву маці. На моры размаляваў сябе Яромха, на флоце, дзе служыў.

— Наста, малога пад сонейка вынесі, халадае на вечар.

Мірона выносяць з-пад яблынь, і ён бачыць у небе два сонцы. Адно, на захадзе, — прамяністае, цёплае, бліскучае, ад якога самі па сабе заплюшчваюцца вочы. Другое, на ўсходзе, — спакойнае, халаднавата-мяккае, яно не выпраменьвае, а п'е святло. Адно сонца — гэта сонца, а другое — поўня, што выкацілася на вечар. «Глядзі, як зыркае, — перакрывае неба, схіляючыся над Міронам, Яромха. — Здзіўляецца, што сонцы два, шчаня такое…» — а Мірон зусім не здзіўляецца, а калі здзіўляецца, дык не Яромхавым здзіўленнем, у яго пакуль няма звычкі думаць, што на небе павінна быць толькі адно сонца, а інакш быць не можа…

Мірон ведае пра тое, што недзе ў сусвеце ляцяць, кружацца планеты, над якімі свецяцца і два, і тры, і болей сонцаў, не паспявае адно зайсці — як другое ўзыходзіць, таму ніколі не наступае ноч, і людзі ніколі не бачаць зорак. Людзі, альбо хто там яшчэ, хто жыве на тых планетах, якіх у сусвеце безліч.

А Мірон адзін. І бацька ў яго адзін. Кожны з іх адзін, сам па сабе, хоць абодва яны Міроны, хоць вялікаму здаецца, што малы — гэта таксама ён, нібы вялікі раздвоіўся на вялікага і малога, перахітрыў лёс, пераадолеў закон чалавечай адзіноты.

Хрэсьбіны скончыліся… Доўга Мірон глядзіць у столь, узіраецца туды, дзе няма чаго бачыць. Маці раз-пораз падымаецца, падыходзіць да люлькі і ціха над ёй стаіць. Уздыхае, кладзецца, шэпча бацьку: «Баюся я нечага… Можа, хвароба ў яго якая — зноў з адкрытымі вачамі спіць… Як напаследак наглядзецца хоча».

— Што? — падхопліваецца бацька. — Чаго ты, га?..

Бацьку сушыць пад раніцу. Ён устае, ідзе да вады, п'е, кроплі падаюць з кубка ў вядро: туп, туп, туп… Бацька зачэрпвае яшчэ кубак, чапляе дужку вядра — дзыдзынь!

«Цішэй ты! Пабудзіш!..» — кідаецца да люлькі маці, але не паспявае, Мірон ужо заныкаў, заенчыў, заплакаў несуцешна, і безвыходна-трывожна бацькам ад начнога ягонага плачу, а з чаго тыя безвыходнасць і трывога — ведае толькі дзіця, адзін сам плач дзіцячы.

— Як Яромху твайго пабачыць, так сну няма ў хаце.

— Дурань ты, да чаго тут Яромха…

— А якога ражна туляецца? І на хрэсьбіны прыпёрся.

— Я не запрашала.

— Сам запрасіўся…
— Дзіця хворае, а ты абы-што.
— Як пра Яромху — адразу абы-што.
— Цябе я кахаю. Цябе.
— Дык няхай з вачэй згіне.
— Маёй няма над ім волі.
— Ну, то мая будзе.
— Пра што ты, Мірон?.. Божа мой, пра што ты…

Не было каму не ведаць, што кахаліся некалі Яромха з Настай, моцна кахаліся, а ў той дзень, калі надумаў Яромха сватоў засылаць, прыехалі з раёна двое вайсковых на машыне — і забралі Яромху на флот служыць. Адбіваўся Яромха. Лаяўся, прасіўся даць вяселле справіць, ды толькі раззлаваў вайсковых: ведаем мы гэтыя хітрыкі! Як служыць ісці — так усім жаніцца прыпірае.

Наста бегла за машынай ажно да прошчы, да Трох Бяроз, дзе канчалася вёска, маладзейшы вайсковы нават сказаў: «Адпусцім пакуль хлопца, дзе ён дзенецца», — а старэйшы засмяяўся: «Будзеш пасля за ім бегаць, як гэтая дзеўка бегае».

Насустрач машыне праехала падвода. На падводзе, кінуўшы лейцы, сядзеў паштар Ютка Казубоўскі, а ў абдымку з ім, бліскаючы медалямі «За перамогу над фашысцкай Германіяй», рагаталі, спявалі, крычалі нешта старшына і яфрэйтар. Гэта вяртаўся дахаты Юткаў швагер Мацей Цяжкароб, вяртаўся і вёз у вёску франтавога сябра свайго Мірона Стаўбуна, якому, як ён сам казаў, было ўсё адно, куды вяртацца: анідзе на ўсёй зямлі анікога ў яго не засталося.

Мацей скочыў з падводы, згроб Насту ў ахапак і кінуў яе Стаўбуну на калені: «Во прыгажуні ў нас якія! Усе твае — і хай толькі чмыхнуць хто паспрабуе! Паганяй, Ютка! Дзезерціры! Пацукі тылавыя! Мы ім пакажам, як танкі чмыхаюць!..»

Наста білася рыбінай, малаціла Стаўбуну ў грудзі, заходзілася, галасіла на ўсю аселіцу. Праз год яна пайшла за Мірона і напісала Яромху апошні ліст. У той жа год навальніцай паклала, ветрам з карэннем вывернула адну з Трох Бяроз.

На апошні ліст Насты адказваць Яромха не стаў. Ён накалоў татуіроўку, залез на карабельную мачту і рынуўся ўніз. Не забіўся, толькі пакалечыўся — і цяпер галава ў яго амаль не паварочваецца на шыі. Калі б Яромха не скалечыўся, яго б судзілі трыбуналам, а так адправілі з флоту дахаты, камісавалі.

На досвітку Яромха стукае ў акно.
— Мірон…

— Ну, — буркае бацька, не ўстаючы з ложка.

— Я ўчора не хацеў табе казаць…

— Ну… Што?..

— Хрэсьбіны і ўсё такое…

— Ну…

— Сыраварню ў Наратах спалілі. Трэба ехаць разбірацца.

Лаючыся — ну, пацукі!.. морды бандыцкія!.. сваё паляць, народнае!.. — бацька ўстае, апранаецца, падыходзіць да люлькі, нахіляецца, цалуе Мірона ў шчаку…

Мроіва, мліва, бацькава душа працячэ скрозь Мірона, аднак Мірон нават не прачнецца.

— Ты б пераснедаў… — сонна ўслед бацьку, прыўзняўшыся на ложку, кажа маці. — Там ад хрэсьбінаў пазаставалася…

— Маслам у Наратах пераснедаю…

У бацькі язва з вайны і нерваў, і ён лечыць яе, як параіў яму Яромха, які яшчэ за палякамі паспеў павучыцца паўгода на ветэрынарных курсах: штораніцы нашча лыжка масла — і на масла паўшклянкі спірту. Толькі дзе ён цяпер тое масла возьме, калі сыраварню спалілі?.. Сваёй каровы ў іх няма: у старшыні сельсавета, у Міронавага бацькі, скрозь усё калгаснае. Ягоныя толькі дзіця і жонка, ды і жонка трохі нібыта Яромхава, сваім застаецца адно дзіця.

Мірон сніць, як бацька і Яромха, які не толькі фельчар, але і сельсаветаўскі партыйны сакратар, на падводзе Юткі Казубоўскага прыехалі ў Нараты, дзе на месцы сыраварні — сівы попел ды чорнае, з жарынкамі, вуголле. Бацька хапае загрудкі старшыню калгаса, франтавога свайго сябра Мацея Цяжкароба, швагра Юткі Казубоўскага, упірае ў гарляк яму, вышэй ад кадыка, пад сківіцу пісталет — і крычыць: «Як, тваю маць?!. Хто?!.» Мацей і сказаць нічога не можа, а жонка ягоная Станіслава, з якой ён жыве на дзве хаты, у Карунах і ў Наратах, бялее і таксама крычыць: «Ты не тут пісталетам махай, ваяр!.. Ты ў лес ідзі і тых пастраляй, што спалілі!..» І ўдава Сілічыха, мужыка якой, Васіля Сіліча, апошняй ваеннай вясной у войска ўзялі і адразу пад Берлінам забілі, яшчэ кажа: «Яны ўсе ваяры, калі на гары…»

Заўчора ў яе начаваў адзін з лясных братоў, а ўчора — двое гарадскіх, міліцыянт і цывільны, энкавэдыст ці асабіст, хто яго ведае. Гэбіст, карацей. Яны прыехалі разбірацца з пажарам, на ноч засталіся, спытаўшыся ў Мацея: «Дзе ў цябе тут жыве ўдава якая, не страшная і не старая?..» Напіўшыся ўдовінай гарэлкай і наеўшыся яе блінамі, яны Сілічыху ўсю ноч удвух гвалцілі.

Цяпер міліцыянт стаіць каля пажарышча і спіць, стоячы, а гэбіст — ці асабіст — таксама размахаўся пісталетам, грозна ў старшыні сельсавета пытаецца:

— Вы што так позна? Чаму толькі сёння? Тут агнём па ўладзе савецкай, а вам толькі піць?!.

Пісталет на пісталет — гэта ўсё, што яны могуць, што ўмеюць. Маленькаму Мірону з гэтага дзіўна, бо ён ведае, што людзі ў свеце не для таго.

Мірону вялікаму даўно ўжо нічога не ў дзіва, ён і пісталета не баіцца, яго іншае страшыць: як дакладзецца гэбіст у горадзе, што скажа, напіша?.. І Мірон, гледзячы на недалёкі лес, рашуча пытаецца ў Мацея, адпусціўшы таго:

— Колькі іх?

Мацей пацірае горла, зглытвае кадыком:

— Скуль мне ведаць…

— Ведаеце! — крычыць гэбіст на ўсіх, на два дзесяткі мужыкоў і баб, што стаяць каля пажарышча. — Вы іх корміце, дык ведаеце, колькі! Ну, колькі?!. Ці ўсіх пад разнарадку!..

Што такое *разнарадка*, усім вядома: прыедуць, скарб не дадуць сабраць, на машыну разам з дзецьмі — і павезлі за цёмны лес, за сінія горы…

— Нікога мы не кормім, — кідае гэбісту ўдава Сілічыха. — Самім бы пракарміцца.

— Пяцёра… — глуха і ўбок кажа мужык на мыліцах. — Трое братоў Сівакоўскіх і яшчэ двое, адзін… — ён глядзіць на соннага, які стаіць і хістаецца, міліцыянта… — з паліцаяў, у камендатуры нямецкай служыў.

— Што?.. — хіснуўшыся, пытаецца міліцыянт.

— Падмога патрэбная… — пераводзіць позірк на міліцыянта, на Яромху, на Мірона гэбіст. Мірон кажа зноў рашуча, але ўсё ж не так рашуча, каб выглядаць смялейшым за гэбіста:

— Іх пяцёра, нас чацвёра. Справімся.

— А я… — пачынае Мацей Цяжкароб і замаўкае. Мусібыць, хацеў сябе пятым прапанаваць, ды перадумаў. Ён не гэбіст і не міліцыянт, не партыйны сакратар, дык чаго лезці пад кулі, калі не гоняць?.. Сваё ён з фашыстоўцамі на фронце адваяваў, а гэтых братоў лясных, каму трэба, той няхай і дабівае.

Калі Мірон маленькі прачнуўся, ягоны бацька Мірон вялікі і яшчэ васьмёра мужыкоў бегалі ўжо, куляліся, поўзалі, затойваліся, цікавалі адзін аднаго ў лесе, каб забіць. Маці пакарміла маленькага Мірона, прыціснула да грудзей: «Расці хутчэй, вырастай вялікім». Мірон падумаў: «А нашто?.. Вунь што робіцца з людзьмі, калі яны вырастаюць, дык нашто?..»

Нікому тым разам забіць нікога не ўдалося, браты лясныя як скрозь зямлю ў Наратоўскім лесе праваліліся, нічым бегатня за імі скончылася, толькі паранілі вялікага Мірона. «Чакай, а хто цябе параніў? — спытаўся раптам гэбіст, калі ўсе думалі, што Мірон паранены ляснымі братамі. І загадаў Яромху: — Ану дай мне твой пісталет!..»

Яромха і адпірацца не стаў. «Я страляў… выпадкова… галава не паварочваецца, дык пераблытаў… здалося, што нехта з тых». Гэбіст яму не паверыў, пісталет не вярнуў і арыштаваць хацеў, а вялікі Мірон паверыў. Ці выгляд зрабіў, што паверыў: «Гэта мой партыйны сакратар». — «Ну, глядзі, — папярэдзіў гэбіст. — Я б яго, такога непаваротлівага, і без пісталета каля сябе не пакінуў, але табе з ім жыць».

— Нічога, — сказаў вялікі Мірон, — рана лёгкая.

Гэбіст ці абдурыўся, ці, як і Мірон, выгляд зрабіў, што абдурыўся, ды народ хіба надурыш?.. Праз дзень не было ў акрузе нікога, хто б не ведаў, што страляў Яромха ў Мірона і хацеў забіць яго праз Насту Чаротку. І толькі маленькі Мірон ведаў, што гэта не так. Але як не так — тады расказаць не мог, а пасля забыўся.

— Шукаюць мяне… — даверліва кажа вялікі Мірон маленькаму, думаючы, што маленькі Мірон нічога не кеміць і не ўспомніць ніколі. — Мне з вайны было куды вяртацца, у мяне другая сям'я ёсць, першая, я перад вайной яшчэ ажаніўся, і ў мяне там двое дзяцей, дзяўчынка і хлопчык, сястра твая і твой брат…

«Добра, што ў мяне ёсць сястра і брат, — думае маленькі Мірон, — з чаго бацька самоціцца? Хай бы самоціўся, калі б не было…»

— Першая жонка на аліменты падала, а я з ёй не разведзены… Цяпер адкрылася, што я двуяжэнец, а гэта куды горш, чым аліменты. Толькі ты не судзі мяне спехам, паслухай…

Што такое аліменты, хто такі двуяжэнец, маленькаму Мірону не даўмецца, судзіць ён нікога не збіраецца, ды і як судзіць вялікага Мірона, бацьку?..

— Я прыкідваю, што мне рабіць, каб жа ты мог параіць… За два месяцы да канца вайны, пад Кёнігсбергам, мяне параніла і кантузіла, моцна кантузіла, так, што санітары мёртвым палічылі, да трупаў адцягнулі, а пахавальная каманда ледзь зямлёй нас прысыпала, немцы нечакана ў атаку пайшлі, з акружэння вырываліся. Пакуль нашы назад іх заганялі, я ачуняў, з магілы

выкапаўся, толькі не помніў нічога. Як ты быў, нібы дзіця без памяці… Не верыш?

«Я веру, як мне бацьку не верыць?.. Толькі я ведаю, што ўсё ты помніў».

— Ну, добра, нешта я помніў, прыкідваўся з месяц, што не помню, бо на мяне ўжо чарнавую ў штабе выправілі, дахаты паслалі: загінуў смерцю героя… Не хацеў я туды, у тую сям'ю, да той жанчыны зноў, разумееш?.. Пісарчуком у штабе зямляк мой быў, я ўгаварыў яго не высылаць болей маёй радні ніякіх дакументаў, сам, маўляў, напішу, што жывы. Але ім пенсію за мяне далі, дык нашто пісаць?..

Калі вайна скончылася, мяне пакінулі ў Прусіі рэпарацыямі займацца, нагледзеўся я, як палкоўнікі нашы з генераламі барахло вагонамі вывозілі… А я тым часам жалеза цягаў, млыны вадзяныя ў прусакоў разбіраў і ў Расію адпраўляў. Раптам аб'яву чытаю ў газеце армейскай: хто памятае, дзе ў сорак першым годзе, пры адступленні, тэхніка наша кідалася, хай паведаміць, а знойдзецца тэхніка — узнагарода. Я і паведаміў, мяне ў самалёт — і сюды. Мы тут якраз адступалі і ў лесе Наратоўскім дзесятак гармат схавалі, не было іх чым і як цягнуць. Тапчуся, блукаю з асабістамі па лесе гэтым дзень, другі — не магу знайсці. І тут нібыта — і не тут. Асабісты нацягаліся — і да мяне з пагрозамі: ты што, жарцікі строіць? Захацеў узнагароды, дык мы цябе!.. Давайце, кажу, у тутэйшых спытаемся. Можа, бачыў нехта, не іголкі ж у сене. Ды пытацца, аказваецца, нельга, бо не магла Чырвоная Армія ў лясах зброю кідаць. Такая нявыкрутка, я ўжо не рады, што на ўзнагароду тую паквапіўся, а на трэці дзень твая маці да нас на ўзлеску падыходзіць: вы не гарматы шукаеце?.. Я, як яе ўбачыў, самлеў: вось яна — узнагарода!

«Гэта праўда, — усміхаецца маленькі Мірон, — а тое, што бацька ўпершыню ўбачыў маці, калі з дзядзькам Мацеем у вёску ўехаў, для некага прыдумана, можа, для Яромхі. Маці за бацьку таму і пайшла, што ён да яе *вярнуўся*».

— Знайшліся тыя гарматы… За чатыры гады ў балота ўгразлі — адны рулі тырчаць. Мяне на машыну — і ў вобласць. Па ўзнагароду, думаю, а там мне кажуць: вайна скончаная, ты дэмабілізаваны, але застаешся салдатам партыі, якая пасылае цябе на фронт калектывізацыі, на арганізацыю калгасаў у вызваленай ад ворагаў Заходняй Беларусі. Я арганізоўваў калгасы ў Расіі, ведаў, што гэта такое, і падумаў адразу: вайну праскочыў, а тут заб'юць! Ніяк не магу, адказваю, у мяне сям'я дома, жонка і дзяцей двое. «Гэта ўся праблема? — пытаюцца. — Дык мы яе

вырашым». І напісалі, каб не чакалі мяне дома, бо загінуў я пры выкананні сакрэтнага задання. Яшчэ адну чарнавую ў сям'ю маю паслалі, разумееш? Дзве чарнавыя за адну вайну на мяне прыйшлі, а я ўсё жывы і жывы…

З калгасамі ад мяне не адчапіліся — і я сюды папрасіўся. Калі ўжо калгасы арганізоўваць, дык тут, каб з маці тваёй быць. А там не разводзіўся, бо двойчы забіты — як развядзешся?..

Калі прыйшла другая чарнавая, жонка тая давай ва ўсе канцы пытацца: дык дзе і як мой муж загінуў?.. Ну, і высветлілася ўрэшце, што нідзе і ніяк. Мусібыць, пара мне недзе і неяк загінуць, як ты думаеш?..

Маленькі Мірон думае пра тое, чаму вялікі Мірон, які нідзе і ніяк не збіраецца гінуць, кажа, што загінуць яму пара, гаворыць пра гэта — абы гаварыць. Мірону непрыемна, што бацька, які не пабаяўся ні лясных братоў, ні пісталетаў, баіцца нейкага дваяжэнства, аліментаў, жонкі… Хіба вайна, з якой ён вярнуўся, не страшней? Блытаніна сярод гэтых дарослых… Блукаюць адны ў адных, як у лесе.

— Заблукаў я, Мірон, заблытаўся… І вас люблю — і тых шкада, і не жыву ні тут, ні там. Да таго ж — як бы і не жыў яшчэ зусім. На вайне хіба… Ты зноў не паверыш, але вайна — найлепшае, што ў маім жыцці было. Што я да вайны меў?.. Работу з раніцы да ночы. Варочаў ды варочаў зямлю, гной, дровы, каменне… Праўда, ордэн мне далі, сам Калінін начапіў. Я з Масквы ехаў, ордэнам бліскаў, думаў: о-го-го! Цяпер, з ордэнам, зажыву!.. А з тым ордэнам зноў за плуг. Ды яшчэ паганяюць: гэй, ты, з ордэнам, хутчэй давай рухайся, на цябе раўняюцца! І пасля вайны тое ж… Вось і застаецца вайна ва ўсім гэтым, як палонка ў лёдзе. Падплываю і дыхаю… Нехта смерць, кроў успамінае, а я не. Смешнае, вясёлае ў памяці… Ведаеш, якую дзядзьку Мацею, які таксама пакінутую зброю знайшоў, узнагароду далі?.. Веласіпед! А веласіпедаў тых у Кёнігсбергу, як гразі ў Казані. Паўсюль наваленыя, па вуліцах ад іх ні праехаць ні прайсці. Ён і кінуў сваю ўзнагароду да кучы. Ранкам прачынаецца, а каля ложка ягонага — два веласіпеды. Ён вон іх адзін за адным, назаўтра ўстае — чатыры! І так дзень за днём, хлопцы не ленаваліся веласіпеды яму цягаць, вар'яцелі ад рогату… На вайне яно так: сёння жывы — сёння шчаслівы. Калі б заўтра вайна, з песнямі пайшоў бы, абрыдла ўсё…

— Не пойдзеш ты нікуды! — з маленькім Міронам на руках паўстае маці перад Міронам вялікім, перакрываючы дзверы з

хаты ў сені. — Калі царкву парушыш, нам тут не жыць! Ці ты прычыны шукаеш, каб не жыць тут, каб *туды* падацца?..

Бацька моўчкі адсоўвае маці ўбок і выходзіць. Маці кідаецца за ім, чапляецца ў сенях за парог і ляціць ніцма, прыціскаючы да грудзей, не выпускаючы з рук маленькага Мірона, які балюча б'ецца аб ганак, аб пляскаты валун галавой — і з болю, з крыку і плачу ад болю гэтага пачынаецца, запамінае сябе ў свеце: «А-а-а-а!..»

— Мірон! — надрыўна ўслед бацьку крычыць маці. — Мірон, стой, сын твой забіўся!..

Бацька, ідучы падворкам да вуліцы, дзе чакае яго Яромха, з якім пасля стрэлу ў Наратоўскім лесе неспадзявана пасябраваў ён больш, чым з франтавым сябрам сваім Мацеем, нават не паварочвае галавы.

— Божа ўсёмагутны, Божа літасцівы, што ж гэта такое?.. — сама плача маці, супакойваючы плач Мірона. — Што ж будзе, што будзе?..

Мірон, у якім не замглілася пакуль дапершаўспамінная памяць, плача, ведаючы, і што гэта такое, і што будзе…

Чатыры дні таму бацьку выклікалі ў вобласць — туды, адкуль прыслалі. «З чаго ты ўзяў, што можаш не выконваць установкі?.. Чаму ты думаеш, што ў сельсавеце тваім могуць быць і царква, і касцёл, і мячэць, і сінагога?.. Тыдзень табе даём, каб разабраўся!..»

Дзвярэй у кабінеце, дзе бацьку ўпікалі, што не вядзе барацьбу з Богам, было двое: праз адны ўваходзіш і выходзіш, калі ўсё абыдзецца і выпусцяць, а праз другія выпраўляешся туды, скуль цябе ўжо ніколі і ніхто, апроч Бога, не дагукаецца. Тыя другія дзверы былі абцягнутыя арэхавага колеру скурай пад колер сцяны, іх цяжка было ўбачыць, заўважыць, але ўсе пра іх чулі, ведалі і адразу заўважалі, упіраліся ў іх паглядамі і маліліся: «Госпадзі, хоць бы не туды!..»

Знадворку за тымі дзвярыма, калі ў кабінеце засядалі, дзяжурыў, чакаючы свайго, чорны варанок.

Татарскіх двароў было ў Карунах з тры тузіны, усе на адной, канцавой Татарскай вуліцы, двароў габрэйскіх — утрая менш, усе ў сярэдзіне вёскі, у мястэчку, якое гэтак, Мястэчкам, у вёсцы і называлася. Мячэць і сінагога былі невялічкімі, з дошак ды плашак, татары і габрэі пасля гаворкі з вялікім Міронам самі іх разабралі і перанеслі ў лес, тэрыторыя якога адносілася ўжо да лясніцтва, а не да сельсавета, і з ляснічым і леснікамі татары з габрэямі неяк дамовіліся. З касцёлам старшыня сельсавета так-

сама разабраўся, бо ксяндза ў касцёле з вайны не мелася, збег ад страху перад бальшавікамі і не вярнуўся, і палякі, як называлі сябе тутэйшыя каталікі, насуплена, спадылба глядзелі, як вялікі Мірон са сваёй хеўрай скідвае з касцёла крыжы і крычыць з верхатуры: «Бальніца тут будзе! Баль-ні-ца!.. Лячыцца тут будзеце, а не опій піць, маць вашу перамаць!..»

Заставалася царква. Не так нават сама царква, як поп, талакняны лоб, які пра Міронавы праблемы з начальствам, пра арэхавыя дзверы ў абласным кабінеце і слухаць не захацеў. «Крані толькі святыню! Паўтысячы гадоў яна тут стаіць, да цябе стаяла і пасля цябе стаяць будзе!..»

Да белай, высокай, узнесенай ледзь не ў неба камяніцы на крутым пагорку над рачулкаю Мірон, Яромха, Мацей і Ютка ішлі даўжэзнай вясковай вуліцай пад сцішаную лаянку і праклёны. Праваслаўныя карунцы былі не большымі хрысціянамі, чым карунцы-каталікі, хутчэй яны, як і ўсе беларусы, былі паганцамі, але ў іх быў поп, бацюшка.

— Не падыходзьце! Не змушайце грэх на душу браць! — крыкнуў бацюшка з пагорка, па якім узбягала да царквы старадаўняя, як і царква, як і Карунскі замак цераз рачулку ад яе, з камянёў выкладзеная лесвіца. Стагоддзе за стагоддзем па лесвіцы гэтай падымаліся карунцы да царквы, хрысціліся ў ёй, вянчаліся, адпяваліся… Замак за царквой, ад якога адна кутняя вежа засталася, парушыла ў першую сусветную вайну руская артылерыя, а царкву ніхто не крануў — ні крыжакі, ні татары, ні шведы, ні палякі, ні немцы…

«Тра-та-та-так!.. Тра-та-та-так!..» — пратататакала з царкоўнай званіцы, калі вялікі Мірон з хеўрай, не звяртаючы ўвагі на крыкі бацюшкі, ступілі на першыя прыступкі лесвіцы — і над галовамі іх прасвісталі кулі.

— З кулямёта?.. — здзівіўся Мірон. — Дзе ён кулямёт узяў?..

— А то няма дзе… — адступіў з лесвіцы, падымацца па якой яму і не хацелася, паштар Ютка. — Тут кулямётаў гэтых… І ад першай вайны, і ад другой. Поп ваяваў на першай. Ды і дзяк таксама, ён і палівае…

Мірон сплюнуў і дастаў пісталет.

— Поп, дзяк, так-растак!.. Мацей і Яромха на лесвіцы застаюцца, а мы з Юткам з тылу зойдзем.

— Не пайду, — сказаў Ютка, уцягнуты ў барацьбу з Богам толькі праз сваё швагерства з Мацеем.

— Як не пойдзеш?

— А так… Глядзі вунь, што на вуліцы…

На вуліцы, каля павароткі да царквы, зразумеўшы, што бацюшка з дзякам збіраюцца трымаць асаду, пачалі збірацца людзі. Пакуль іх было няшмат, але нясмела, асцярожна, па адным яны падыходзілі і падыходзілі, мужыкі і бабы, пераважна бабы…

— Назад! Па хатах! — замахаў на іх пісталетам Мірон. — Разысціся, я вам сказаў!

— Супакойся, сам надта ўжо разышоўся!.. — адчуўшы, што ёсць сіла на сілу, гукнулі з вуліцы. — Зваліўся на нашу галаву, маскаль паганы, крыжа на табе няма!..

— Што?!. — перасмыкнула Мірона і, стрэліўшы ўгору, ён кінуўся на людзей, якія расступіліся — і Мірон аказаўся тварам да твару са сваёй жонкай з сынам на руках. На імгненне ён аслупянеў, але толькі на імгненне, бо ў ім ужо ўскіпела шаленства, плёхнула цераз край. — Дахаты! Заб'ю! — збялела замахнуўся ён на жонку з дзіцем, ды тут Яромха наскочыў ззаду і збіў Мірона з ног, распластаў на зямлі, закруціў яму руку з пісталетам за спіну, а Наста абмінула іх абодвух і пайшла да царквы. У белай сукенцы і белай хусцінцы, прыціскаючы да сябе дзіця, яна падымалася па лесвіцы ўсё вышэй і вышэй, а Мірон, асядланы Яромхам, выварочваў шыю, глядзеў ёй услед і сплёўваў зямлю на зямлю…

— Мірон! — крыкнуў бацюшка. — Я дзяка ў Менск да начальства пашлю, ты яго не чапай! Як вернецца, будзем далей разбірацца!..

Папу нічога Мірон не адказаў, да Яромхі сказаў ціха, але так, што ўсе пачулі:

— Разбяруся я з табой, Альбін.

Больш за трое сутак, пакуль ехала з Менска начальства, прабыў маленькі Мірон з маці і бацюшкам у царкве. «Ішла б ты, Наста, не змучвала дзіця», — казаў бацюшка, а маці адказвала: «Не пайду, ведаю я яго, вы не ведаеце». Каля царквы, па чатырох баках пагорка, змяняючы адны адных, удзень і ўночы стаялі людзі.

— Твой бацька кажа, што Бога няма, а Бог ёсць, — люляў Мірона на руках, калі маці стамлялася і засынала, бацюшка. — Бог-Бацька, Бог-Сын і Бог — Дух Святы, усе ў адным. Не разумееш, як яно так?.. Тут не разумець трэба, а верыць, адчуваць, і ў што паверыш, што адчуеш — тое і будзе. Давай я на званіцу цябе падыму, каб адчуў, адтуль Бога ва ўсе бакі відаць.

Начная званіца была высокай, а неба начное яшчэ вышэйшым, і ў ім блукалі зорныя туманы, скрозь якія, як скрозь марлю,

цадзілася густое, нібы малодзіва, сінім-сіняе святло. З небасхілу яно лілося на ўзвышшы, на пагоркі і сцякала па іх, залiваючы лагчыну, у якой хаваліся Каруны. Плылі, патаналі ў гэтым святле і парушаны замак з адною кутняю вежай, і касцёл без крыжоў, і мястэчка без сінагогі, і сады, і палеткі, і хаты, уся вёска ўздоўж рачулкі ад Татарскай вуліцы да прошчы, да Трох — з адной паваленай — Бяроз. Зорны вецер гнаў зорныя туманы, неба пакалыхвалася і працякала над царквой, і царква пакалыхвалася і праплывала ў небе, і ў ёй і разам з ёй пакалыхваліся, працякалі, праплывалі бацюшка, маці, Мірон — усё і ўсе адно ў адным, і бязмежная, несупынная плынь гэтая адчувалася, як жыццё, і была, мусібыць, Богам, якога відаць было ва ўсе бакі.

На званіцы вісеў звон і стаяў кулямёт.

«Калі тут звон, нашто кулямёт? — стараўся хоць крышку ўсвядоміць сябе самога ў Боскім свеце і сам свет гэты зразумець маленькі Мірон. — Няўжо Бог сваё жытло без кулямёта абараніць не можа? Ці не Боскае гэта, а бацюшкава жытло, таму бацюшка яго і бароніць?.. Але чаму тады бацька, вялікі Мірон, не бароніць жытло сваё, а разбурае чужое?..»

— Як розніца ёсць паміж чалавекам і дрэвам, так розніца ёсць паміж чалавекам і чалавекам, — прамовіў бацюшка, гладзячы анёльскія кудзеркі маленькага Мірона і гледзячы ў сінім-сінюю далеч на прошчу, на Тры, з адной паваленай, Бярозы. І тут на вачах бацюшкі і Мірона, на вачах маці, якая паднялася на званіцу, яшчэ адна Бяроза, далейшая ад паваленай, без навальніцы і ветру, у нерухомай цішыні пахілілася, хіснулася ўзад-уперад, нібы выбіраючы, куды і як упасці, і павольна, як ліст злятае, пачала завальвацца, падаць, страсаючы з сябе сіняе святло — і лягла ўздоўж дарогі. «Ух…» — выдыхнула яна, як ад нечага вызвалілася, і выдых яе прашапацеў над лагчынай, над рачулкай, над садамі з палеткамі, над усімі Карунамі ад прошчы да канцавой Татарскай вуліцы…

— Што гэта?.. — спалохана спытала маці, на якой сукенка з хусцінкай зіхацелі халоднай сінню, і маці здавалася незямной, падобнай на жыхарку тых планет, над якімі ўзыходзяць па два і па тры сонцы. — Як гэта — без навальніцы, без ветру?..

— Так… — уздыхнуў бацюшка. — А чалавек як?.. Час настаў.

— Ой, не!.. — Маці ўзяла ў бацюшкі і стала люляць і лашчыць маленькага Мірона. — Спі, ты чаго не спіш, сынок?.. Ой, не, гэта знак, штосьці станецца, будзе нешта адразу, як дзяк вернецца…

Аднак вярнуўся дзяк — і нічога такога адразу не сталася. Вялікага начальніка з Менска, які сам ехаў і дзяка вёз на бліскучай чорнай легкавушцы, а за легкавушкай на запыленай палутарцы трэсліся салдаты, перанялі каля прошчы габрэі з татарамі, перагаварылі з ім — і начальнік загадаў здаць усю, якая ёсць, зброю і сабрацца на сход.

Зброю не здаў ніхто, на сход сабраліся ўсе. На сходзе начальнік аб’явіў, што хоць Бога і няма, але царква ў Карунах пакуль застаецца, бо пытанні рэлігіі не вырашаюцца наскокам, і свядомасць каруннаў будзе падцягвацца да свядомасці ўсіх савецкіх людзей паступова… Салдаты тым часам, шукаючы зброю, ператрасалі двор за дваром.

Крыжы на касцёл не вярнуліся, мячэць з сінагогай засталіся ў лесе. «Што зроблена, тое зроблена», — сказаў начальнік. Старшыню сельсавета за самаўпраўства ён паабяцаў пакараць.

— Папа з дзякам пазней арыштуем, хай трохі ўсё супакоіцца, а цябе перавядзём адсюль, жыць табе тут не дадуць, — развітаўся вялікі начальнік з вялікім Міронам, калі ўжо яны выпілі ў хаце. — Пачынай манаткі збіраць. — І падкінуў вялікі начальнік пад столь маленькага Мірона. — Стаўбунчыка якога змайстраваў! З гэткіх во ў нас новыя людзі вырастуць, а ўсялякіх былых — у распыл!..

Ад вялікага начальніка пахла свіной скурай і гуталінам.

Салдаты, забраўшы кулямёт са званіцы і не знайшоўшы болей ніякай зброі, апроч паляўнічай, раптоўна, на ноч гледзячы, перакінуліся з Карунаў у Нараты і там братоў лясных, што спалілі сыраварню, палавілі не ў лесе, а ў хатах, дзе яны начавалі. Аднаму толькі з братоў Сівакоўскіх, наймалодшаму, удалося ўцячы. Астатніх, каго параненага, каго збітага ў кроў, пакідалі ў кузаў палутаркі і звезлі разам з гаспадарамі, якія давалі ім прытулак, з дарослымі ўсімі і дзецьмі.

Вялікі начальнік з Менска на абяцанкі свае, мусібыць, забыўся, іншых клопатаў хапала. Мінаў месяц за месяцам, зіма надышла, а вялікага Мірона ўсё не пераводзілі нікуды і не пераводзілі. У вёсцы на яго касавурыліся — і не так праз барацьбу з Богам, які, як вядома, высока і далёка, як праз арышты ў Наратах: думалі чамусьці, што гэта ён, калі выпіваў з вялікім начальнікам, падбіў таго паслаць сярод ночы ў Нараты салдат. Па вялікім Міроне нават стралялі каля Багушоў, на лясной дарозе паміж Карунамі і Наратамі. Невядома, хто страляў, але сам Мірон вырашыў, што на яго палюе наймаладзейшы з братоў Сівакоўскіх, той, што ўцёк.

У вялікага Мірона, апроч пісталета, меўся яшчэ — выдадзены яму ў вобласці — сямізарадны карабін, з пакарочаным ствалом вінтоўка, і аднойчы ўраніцы маленькі Мірон убачыў, як бацька разабраў карабін і стаў яго чысціць.

— Пайду зайца ўпалюю, — сказаў ён маленькаму Мірону. — Табе ўжо мяса пара есці, каб лепей расці, а ў нас дзе мяса?..

Мяса сапраўды не было, хіба што зрэдку на святы.

Дагэтуль бацька, калі выбіраўся ці ў дальні калгас, ці ў раён, прывозіў, вяртаючыся, толькі заечы хлеб. Прымарожаны, смачны-смачны, смачнейшага за яго ніколі ў жыцці маленькі Мірон не еў. Нават тады, калі вырас.

— Не пойдзеш ты нікуды! — як і перад паходам на царкву, паспрабавала не пусціць вялікага Мірона маці. — Тут і так з Боскай ласкі жывём, а ты надумаўся!

Вялікі Мірон даставаў са сваёй вайсковай кайстры патроны і заганяў іх у карабін.

— Пайду… Калі ўжо мяне не пераводзяць, дык трэба паказаць ім, за кім сіла. З чыёй бы ласкі я не жыў, а зайцам не бегаў і бегаць не збіраюся!

— Каму ім?.. Што паказаць?.. Яны ўсе на цябе збяруцца, ты чужынец!

— Няхай збіраюцца. Хоць відаць будзе, хто збярэцца, а то ўсе ды ўсе… Усе — гэта ніхто.

Маці ўбачыла праз акно Яромху на вуліцы, выбегла з хаты і закрычала, ратуючыся:

— Альбін! Зайдзі ты, спыні яго, ён у лес па смерць сабраўся!..

Не ведала яна, што рабіла.

Бацьку было не ўтрымаць, а Яромха, які пасля сутычкі каля царквы пачуваў сябе перад ім вінаватым, не мог адпусціць яго аднаго. Ён збегаў дахаты, узяў сваю паляўнічую стрэльбу, сказаўшы Альбіне, што ідзе на зайца, — і вялікі Мірон з Яромхам, паклаўшы ў бацькаву кайстру вайсковую, каб не змерзнуць, паўлітэрак і закуску, рушылі ў Багушы на пару. Пайшлі ўраніцы, а ўвечары вялікі Мірон прынёс не зайца, а мёртвага, забітага Яромху.

— Людзі, не забіваў я, не забіваў!.. — дзвюма слязінамі ўсяго праплакаў вялікі Мірон, і Мірон маленькі ўпершыню ўбачыў, як бацька плача. Гэта ўразіла яго, бо дагэтуль ён думаў, што плакаць могуць толькі дзеці і жанчыны. І яшчэ ён ведаў, што бацька плача з таго, што сапраўды не забіваў, а ўсе думаюць і будуць думаць, што забіў.

Людзі глядзелі на вялікага Мірона і маўчалі.

— А хто забіў? — пытаў следчы з раёна, які прыехаў назаўтра, агледзеўся ў Багушах і распарадзіўся адправіць цела Яромхі ў раён на медэкспертызу. — Вы ўдвух былі, нічыіх болей слядоў ва ўсім лесе. І ні каля ручая, і ні каля кастрышча… Дык хто забіў?

— Сівакоўскі, — сказаў бацька. Дарма ён гэта сказаў, толькі з пераканання ў тым, што забіў Яромху наймалодшы з братоў Сівакоўскіх, больш нібыта не было каму.

— Тады чаму ён цябе не забіў? — пыталася Альбіна, сястра Яромхі. — Чаму ён забіў майго брата, а не цябе?

На гэта вялікі Мірон не меў што сказаць.

— Па паветры ні лясныя браты, ні лясныя сёстры не лятаюць… — круціў так і гэтак бацькаў карабін следчы. — У карабіне толькі шэсць патронаў.

— Я страляў, але па зайцы, — не адпіраўся ў тым, што страляў, вялікі Мірон. — Сыну зайца абяцаў…

— І дзе заяц?

— Бегае, не пацэліў…

— Заяц бегае, па зайцы не пацэліў, а чалавека ў вока, як вавёрку, — насмешліва не верыў следчы і пераходзіў на крык. — Расказвай, як было! Яшчэ раз, ну!.. І праўду мне, праўду кажы, прызнавайся!

Следчы насміхаўся, крычаў, а вялікі Мірон раз за разам расказваў усё тое самае… Як Яромха праваліўся ў прыснежаны лясны ручай, як пакінуў ён Яромху каля кастра сушыцца, сам пайшоў паглядзець сляды, выгнаў зайца, стрэліў па ім і амаль адразу пачуў яшчэ адзін глухі стрэл, нават за свой раней той стрэл пачуў, таму і ў зайца не пацэліў, а калі вярнуўся — на разасланай пустой кайстры на снезе стаяў адпіты паўлітэрак, раскладзеная была закуска, а Яромха ляжаў каля кастра з выбітым вокам… І ні следу каля кастра чужога, і нідзе нікога, як сам сябе забіў.

Следчы махаў рукой.

— Ты сыну казкі расказвай!.. То Сівакоўскі, то сам сябе… З дубальтоўкі ў вока? Ды ягоныя б мазгі на дрэвах віселі!.. І дзе ты бачыў, каб сябе ў вока стралялі, ты ж вайну прайшоў?.. Маўчыш?.. Ну, маўчы. Кулю дастануць — ты ў мяне запяеш.

Куля ў галаве Яромхі аказалася з карабіна.

Судзілі вялікага Мірона не звычайным судом у раёне, а ў вобласці — у кабінеце з арэхавымі дзвярыма. Тройкай судзілі — першы партыец, першы саветчык і першы гэбіст — бо не нейкі

там Мірон Стаўбун забіў нейкага там Альбіна Яромху, а старшыня сельсавета забіў партыйнага сакратара. Выключаны з партыі, выправіўся вялікі Мірон з таго кабінета праз арэхавыя дзверы.

Маленькі Мірон ведаў, што бацька не вінаваты, таму плакаў і плакаў днямі і начамі… Маці ездзіла то ў раён, то ў вобласць, дабівалася спаткання з мужам, а ёй адказвалі: «Ніякі ён табе не муж, ён дваяжэнец». Пасля суда ў арэхавым кабінеце бацька стаўся вінаватым не толькі ў забойстве, але і ў двайжэнстве, і ў выпраўленні фальшывай чарнавой з фронту, нібы ён сам яе выпраўляў і нібы яшчэ адной чарнавой, сапраўды фальшывай, не было. Вінаватым аказаўся вялікі Мірон нават у *анархісцкай* барацьбе з Богам, да якой тыя ж людзі ў тым жа кабінеце яго змусілі.

Для вёскі ж, для карунцаў і без двайжэнства, і без фальшывай чарнавой, і без Бога ўсё было зразумела: забіў Мірон Яромху праз тое ж, праз што Яромха страляў па ім, параніў яго ў Наратоўскім лесе… Праз тое ж, з-за чаго біліся яны каля царквы… Праз рэўнасць забіў Мірон Яромху, праз Насту Чаротку. Маці ў вёсцы нават пачалі старанісца, нібы і яна ў нечым была вінаватая, адна Альбіна сказала: «Нам няма чаго дзяліць, мы абедзве страцілі…»

— Нашто наш татка яго забіў, нашто наш татка яго забіў, ну чаго ты плачаш, чаго ты плачаш?.. — сама ледзь не кожны дзень плакала над маленькім Міронам маці — у адзіноце, у цёмным выцці зімовых сцюж, у халоднай і галоднай хаце. А калі маці ездзіла ці ў раён, ці ў вобласць, дык Альбіна, сястра Яромхі і сяброўка маці, даглядаючы маленькага Мірона, бо не было ёй болей каго даглядаць, таксама плакала і пыталася:

— Ну нашто твой татка забіў майго брата?..

Праз дзень-другі маці вярталася, і Альбіна дапытвалася ў яе безнадзейна, як у хворай:

— Куды ты ўсё ездзіш ды ездзіш?.. Па што?.. Для чаго?..

— Хоць бы сляды знайсці якія… Хоць бы даведацца, дзе ён і што з ім…

Калі скончылася зіма і настала вясна, маленькі Мірон перастаў несуцешна плакаць, ляжаў моўчкі і глядзеў у столь, дзе не было чаго бачыць, ці спаў з адкрытымі вачыма.

— Страшна, Наста… — казала Альбіна. — Яшчэ страшней, чым плач бясконцы… І што ён бачыць?

— Нешта ж бачыць, я ўжо звыкла, — падыходзіла да калыскі, у якую пераклалі Мірона з люлькі, маці. — Нешта ж ведае… — І неяк у сонечны, ясны і звонкі, з капяжамі, дзень, вярнуўшыся

ці з раёна, ці з вобласці з нейкай добрай весткай, з маленечкай нейкай надзеяй, маці спыталася ні з чаго, проста з павесялелага настрою спыталася:

— Мірон, наш татка не забіваў нікога?

— Ага, ён табе скажа, — з другога боку калыскі падышла Альбіна. — Ды і як гэта не забіваў, калі на вайне быў? — І тут жа спытала сама: — Мірон, наш татка не забіваў нашага Яромху?..

Маленькі Мірон паглядзеў працягла на Альбіну, на маці, нібы вызнаваў, ці ўсур’ёз яны пытаюцца, і з боку ў бок пакруціў галавой — раз, другі і трэці:

«Не. Не. Не».

— Госпадзі! — схапілася за сэрца маці і абсела каля калыскі.

— Дзіця галавой пакруціла, а ты за сэрца хапацца… — падала ёй вады Альбіна. — Хоць схопішся тут, я табе скажу… Але ж і Сівакоўскі не забіваў…

— Скуль ты ведаеш?

— У мяне ён быў, калі з Наратоў уцёк, стуль і ведаю! І ў той дзень быў у мяне.

Маці глядзела на Альбіну амаль няўцямна.

— А Яромха?..

— І брат ведаў, у адной жа хаце жылі. На тое і разлік быў… Бандыт хаваецца ў партыйнага сакратара — хто падумае?

— Чаму ж тады Яромха ў Багушы пайшоў?

— Таму і пайшоў, што лавіць у Багушах не было каго… Замірыцца хацеў з Міронам. Замірыўся… Ён і з Міронам мірна жыць хацеў, і з Сівакоўскім… Той яму: пратурым бальшавікоў, зажывём на сваёй зямлі гаспадарамі — дзе падзенешся? Так што думай, глядзі… А сам штодня гарэлку жлукціць, я ўжо не ведала, дзе яе браць. Сама не п’ю, брат у партыйных сакратарах, а я з хаты ў хату па гарэлку… Ну і выгнала! Усё адно ж брата праз яго не стала.

— Калі выгнала?..

— Праз тыдзень недзе пасля смерці Яромхі. Ды не выгнала, калі праўду казаць. Сам пайшоў. Як гарэлку насіць кінула, бо глядзець пачалі, каму ж нашу, сабе, ці што? — так і падаўся. А да гэтага: кахаю, ажэнімся, з саветамі толькі справімся… П’яны з дня ў ноч, з саветамі ён справіцца! Цяпер ведаеш, дзе спраўляецца? Зноў у Наратах, у той самай Сілічыхі, з хаты якой салдаты яго выкурылі! Жаніх…

— Гэта ён каля Багушоў у Мірона страляў?

— Выбіраўся ад нас колькі разоў, так што можа быць… Пра такое ён і п’яны маўчаў.

Маці ўжо зусім не цяміла, што ёй думаць.

— Калі не ён… калі не Мірон… хто ж тады Яромху забіў?

— Дазнаемся, Насця… Маленькі Мірон падрасце і скажа… Толькі забыцца можа, ды і чакаць доўга…

Вясна ўзялася такая дружная, што снег сагнала за тыдзень, і ў канцы тыдня злавілі ў Наратах наймалодшага Сівакоўскага — нехта на яго і ўдаву Сілічыху данёс. Злавілі міліцыянты з тым самым гэбістам, які прыязджаў у Нараты, калі спалілі сыраварню.

Напачатку першага вясновага тыдня не маці, а Альбіна некуды з’ехала, аб’явіўшыся пасля не ў Карунах, а ў Наратах, у Станіславы з Мацеем. Даўно, сказала, не бачыліся… Яна стаяла на вуліцы і глядзела, як нядаўняга яе жаніха, звязанага, запіхваюць у машыну. Той таксама глядзеў на яе, але ні ён ёй, ні яна яму — ні паўслова…

Сілічыху з ім чамусьці не пасадзілі, асобна павезлі на падводзе з двума міліцыянтамі. Хату замкнулі, ключы гэбіст аддаў Мацею Цяжкаробу. «На, карыстайся».

— У мяне і так дзве хаты, — нязграбна ўпусціў ключы Мацей, нахіліўся іх падымаць, а гэбіст наступіў яму на руку бліскучым хромавым ботам.

— Гэта не тваё, калгаснае… Уцяміў?

Мацей, асеўшы на кукішкі, кіўнуў яму ў жывот пачырванелай патыліцай.

— Цяпер валодай, — саступіў з рукі гэбіст. — Гаспадароў не чакай. — І нечакана кінуў Альбіне. — Ты са мной паедзеш.

Гэта ўсе запомнілі: як гэбіст нечакана кінуў Альбіне *ты са мной паедзеш*, і як Альбіна, нібы чакала таго, села ў машыну і паехала.

Па дарозе на Багушы яны спыніліся там, дзе стралялі ў вялікага Мірона і дзе потым быў забіты Яромха.

— Паказвай! — выцягнуў гэбіст з машыны на дарогу звязанага Сівакоўскага.

— Што?.. — не зразумеў той.

Гэбіст коратка ўдарыў яго ў твар.

— Адкуль страляў, паказвай! Адкуль у Мірона, адкуль у Яромху? Ну! — і ўдарыў яшчэ раз.

Сівакоўскі сплюнуў крывёй і праплыў позіркам па Альбіне — з галавы да ног.

— Я не страляў…

— Глядзіце за ім! — загадаў гэбіст вадзіцелю і яшчэ аднаму міліцыянту, які асцярожана азіраўся на лес, хоць было відна. — Дзе гэта, вядзі, — падштурхнуў гэбіст Альбіну, і яна правяла яго да кастрышча.

— Метраў дзвесце да дарогі, — прыкінуў каля кастрышча гэбіст. — Сляды павінны былі быць, інакш ніяк. Не мог жа ён на дрэве сядзець…

— Усё адно злезці трэба было, ён жа не вавёрка, каб пераскокваць, — сказала Альбіна.

— Не вавёрка… — згадзіўся гэбіст. Ён прысеў, падняў галавешку і пачаў калупацца ёю ў кастрышчы, варушыць зляжалы, мокры попел. — А вось і след… — дастаў ён праз хвіліну нешта з попелу і аж засмяяўся, сабой задаволены. — Хвіліны хапіла!.. Галаву трэба на шыі мець, а не галавешку! Я тады яшчэ пра гэта падумаў, калі справу крымінальную глядзеў…

— Што там? — спытала Альбіна.

Гэбіст не пашкадаваў насаткі, каб выцерці тое, што знайшоў у попеле.

— Гільза! Стрэляная, з карабіна, але стрэляная не з карабіна, разумееш?..

Альбіна не разумела.

Па-ранейшаму задаволены сабой, гэбіст дзьмухнуў у гільзу.

— Для цябе гэта, што свіст… Як і для следчага таго, ёлупня. У Маскве ён вучыўся, дыплом у яго… Не забіваў Мірон Стаўбун твайго брата!

— Я ведаю, што ён не забіваў, — чакаючы, кіўнула Альбіна. — А маленькі Мірон без бацькі расце. Хто забіў?..

— Ты слухай, што кажу, а то многа ведаеш!.. — не даў збіць з сябе форс гэбіст і закружыў вакол кастрышча. — Хутчэй за ўсё было так… Твой брат праваліўся ў ручай, вунь той ручай, правільна?.. — гэбіст ступіў некалькі крокаў да ручая і вярнуўся. — Яны раскладваюць вогнішча, твой брат застаецца пры агні сушыцца, Мірон ідзе ў лес цераз дарогу, ці заечыя сляды паглядзець, ці чалавечыя, а што робіць Яромха?..

— Сушыцца ён…

— Правільна, сушыцца, а яшчэ дастае з кайстры, холадна ж, гарэлку і яду, кайстра здаецца яму пустой, толькі крошкі ў ёй нейкія, шалупінне, а ён акуратны чалавек… Твой брат акуратным быў чалавекам?..

— Акуратным… — пачала ўжо нешта разумець Альбіна.

— Акуратным твой брат быў чалавекам… — закруціў гэбіст гільзу ў насатку. — Бачыш, нават у насатцы не надта відаць… І брат твой вытрасае пустую кайстру над кастром, вось так, а кайстра аказалася не зусім пустой, не з аднымі крошкамі і шалупіннем…

Гільза ўпала з насаткі ў кастрышча.

— Божа мой!.. — перахрысцілася Альбіна. — Але ж так не бывае…

— Бывае. А ён не заўважыў… Калі б паляўнічы патрон быў, дык проста б шыхнула, ну, можа, сапраўды вока шротам пакалечыла б, а тут баявы… — Гэбіст падняў гільзу, зноў закруціў яе ў насатку і паклаў у кішэнь. — Выпадак забіў твайго брата, Альбіна.

— І што… гэтак адразу выпадак стрэліў?..

— Не адразу. Брат твой рассцяліў кайстру, расклаўся на ёй, выпіў, закусіў, зноў падышоў да кастра… Нахіліўся, мусіць… Дроў падкінуць, ці так, каб цяплей… Някепская смерць, — заключыў нечакана гэбіст.

— Не забіваў наш татка Яромху, не забіваў, праўду ты сказаў! — падкідвала маці, смеючыся, маленькага Мірона, а гэбіст, якога ўгаварыла Альбіна заскочыць па дарозе да Насты, бо адной ёй тая не паверыць, спытаў:

— Ну і што?

— Як ну і што, калі не забіваў? — перастала смяяцца і разгубілася маці. — Калі не забіваў, дык вернецца, за што ж сядзець?.. Я ж па гэта ледзь не з дня ў дзень… то ў раён… то ў вобласць…

— За выпадак жа не садзяць… — таксама разгублена глянула на гэбіста Альбіна. Пасля памаўчала, падумаўшы, і дадала: — Але сядзяць…

— Паслухайце, бабы… — Гэбіст выпіў гарэлкі, на радасцях прастаўленай Настай, другую ўжо шклянку выпіў, закусіў, пражаваў, закурыў, а яны ўсё чакалі… — Выпадак — гэта тое, што я гільзу знайшоў, а не тое, што Мірон сядзіць. І гільза — не доказ. Вы бабы ўвішныя, хітрыя, падкінулі гільзу ў кастрышча — і да мяне.

— Пра што ён кажа, Альбіна?.. — не зразумела маці. — Як падкінулі?.. Хто да яго?..

— А ты чаму не пазнаеш мяне? — па-п’янаму насунуўся на яе па стале гэбіст. — Не прызнаеш чаму, га?

Маці сцялася.

— Бо не ведаю… Не бачыла я вас раней…

Гэбіст адкінуўся да сцяны. Піць ён, відаць, не надта ўмеў, і з яго папёрла нахабства.

— Не бачыла, не ведаю, таму даю, з кім снедаю… Калі Мірон твой па лясах нас кружыў, гарматы шукаючы, да каго ты падыходзіла?

— А-а… — нібыта нешта стала ўспамінаць маці. — Вас шмат там было…

— Трое! — выкінуў тры пальцы гэбіст. — Толькі трое — і ты мяне не запомніла?

— Выбачайце… — ціха і вінавата сказала маці.

— А я цябе запомніў! І падумаў: дзеўка гэтая мне дасць! І ты мне дасі, калі хочаш, каб я для дваяжэнца твайго нешта зрабіў! А то гільза ў мяне раз!.. — гэбіст загнуў два пальцы, тыкаючы ў маці адным… — і згубілася па дарозе. І ўсё стала гэтаксама, як было. З дня ў дзень… то ў раён, то ў вобласць… і нічога.

— Ну ты і поскудзь! — узяла Альбіна з рук маці, каб не выпаў, маленькага Мірона. — Мала табе таго, што я зрабіла?.. Дык я і дам табе, ці я горшая?

— Не горшая, — сказаў гэбіст. — Але і не лепшая.

Маці паднялася, узялася за плечы і, хістаючыся, сама, як п’яная, пайшла да дзвярэй, а ў дзверы, збіўшы маці на парозе, ускочыў вадзіцель.

— Бандзюга збег! Я па ваду адышоўся, у радыятар даліць, а ён галавай Хроліку ў галаву, аглушыў і збег!

— Нікуды не дзенецца, — гледзячы на ўпаўшую да печы маці, на яе голыя, белым-белыя ногі, на якіх задралася спадніца, зглынуўшы, сказаў гэбіст. — У яе шукайце! — кіўнуў ён вадзіцелю на Альбіну і крыкнуў: — Ідзі паказвай, дзе жывеш!

— Малога вазьмі… — не ўстаючы, не сваім, драўляным голасам папрасіла маці Альбіну, а тая паклала, амаль кінула маленькага Мірона ў калыску.

— Куды ўзяць? Там страляць будуць!

— Пайшла! — штурхнуў яе ў плечы вадзіцель, і як толькі за імі зачыніліся дзверы, гэбіст кінуўся на падлогу, на маці…

— Мірон, не глядзі!.. — біла нагамі па падлозе і ўзвывала не сваім, драўляным голасам маці. — Не гля-я-дзі, Мі-ро-о-н!..

Калыска была не глухая, бакавіны яе былі жардзяныя — і стаяла калыска каля ложка насупраць печы.

Сівакоўскі сапраўды падаўся на падворак Альбіны, болей падацца яму не было куды — пры міліцыянтах і гэбісце ў вёсцы

хто б яго пусціў?.. Ён забег у пуню, на нажы сячкарні разрэзаў путы на руках, выбіў акно ў хаце, узяў Яромхаву стрэльбу, зноў забраўся ў пуню, на гарышча — і адтуль адстрэльваўся ад міліцыянта і вадзіцеля, таксама міліцыянта. Тыя пастрэльвалі па пуні вяла, ад дрывотні, здалёк… Зрабіўшы сваё, да іх далучыўся наеты, напіты і нагулены гэбіст, якому таксама не хацелася надта геройстваваць, грудзьмі кідацца на стрэлы, і ён прыдумаў пуню падпаліць. Міліцыянт-вадзіцель прынёс бензіну, гэбіст накруціў анучу на лёгкую сякерку, што тырчэла ў пні на дрывотні, абліў, загадаў напарнікам страляць з аднаго боку пуні няспынна, сам падпоўз з другога, запаліў факел і ўскінуў яго на саламяную страху… Сівакоўскі з пуні не выйшаў — да каго і да чаго было выходзіць?.. Жыўцом згарэў, бо страляў яшчэ, калі ўжо гарэла.

На пажар набеглі людзі, але толькі хату палівалі вадой, каб ад пуні не загарэлася, якая так шугала полымем, што не падысці.

— Бадай бы ты духу не ўказаў… Бадай бы ты спруцянеў… Бадай бы ты апрогся… — упёршы локці ў калені і сціснуўшы кулакамі галаву, ківаючыся з боку ў бок на пні на дрывотні, пасылала праклёны Альбіна невядома каму…

— Значыць, так, бабы, — сказаў гэбіст, ад’язджаючы. — Зрабіць я для вас магу толькі тое, што магу. Цябе, Альбіна, магу пасадзіць, але садзіць не стану. Лічы, што згарэла твая віна ў пуні, так што пуні не шкадуй. А праклінаць мяне можаш, колькі хочаш. Не ты адна — і мне не шкодзіць.

— Бадай бы ты згарэў… Бадай бы ты… Бадай…

— А з табой, Насця, складаней, — не стаў слухаць гэбіст заведзеную, як патэфонная кружэлка, Альбіну. — Калі б твайго мужыка ў раёне судзілі, звычайным судом, а яго ў вобласці і тройкай… У рашэнне тройкі я не палезу. Ты ў свой бабскі розум не возьмеш, што такое рашэнне тройкі. Знізу змяніць яго ніхто не можа, а зверху ніхто не захоча. Хто такі твой мужык, каб пра яго зверху падумалі?.. Ніхто, Стаўбун. Тут не пра такіх не думаюць… Так што давядзецца чакаць.

— Чаго чакаць?.. Вы ж казалі…

Маці паглядзела на Альбіну і заплакала.

— Мала што я казаў… — хмыкнуў гэбіст. — Ты болей слухай, асабліва перад тым… Як сёння на свет нарадзілася…

— Ма-ма… — сказаў маленькі Мірон на руках у маці, якая ўжо яго не адпускала, як ім баранілася. І праз паўзу яшчэ сказаў, гледзячы на гэбіста: — Та-та…

Гэбіст начыстую здзівіўся.

— Глядзі ты! Колькі яму?..

У маці адразу высахлі слёзы.

— Загаварыў… Чуеш, Альбіна, загаварыў!..

— Бадай бы ты… — стоячы, ківалася з боку ў бок Альбіна.

— Ну, Стаўбунчык, расці вялікі… — пацягнуўся гэбіст пака-зытаць маленькага Мірона, але маці адвярнулася, засланіла… — У мяне таксама расце, больш за два гады яму, а не гаворыць… Чаму не гаворыць, га?

— Няма з кім, — сказала, ківаючыся, Альбіна.

— Ты чаго ківаешся? — уз'ятрыла гэбіста. — Расківалася!.. Я магу тое, што магу! Рапарт напішу, гільзу дашлю!.. А мог бы не пісаць і не дасылаць, яно мне трэба?.. Ды няхай глядзяць, а то панаехалі з дыпломамі!.. А вы чакайце.

— Чаго чакаць?.. — зноў спытала маці.

— Чаго-небудзь! — адрэзаў гэбіст, ідучы да машыны. — Усе чаго-небудзь чакаюць.

Чакаць давялося доўга — маленькі Мірон і гаварыць навучыўся, і лічыць, і чытаць, і пісаць… Навучыўшыся ўсяму гэтаму, ён смутна адчуваў, што страціў нешта больш істотнае, болей важкае, чым здабытае ўменне лічыць і чытаць, але не мог усвядоміць, што. Проста адчуваў, што страціў… Асабліва пранізліва адчувалася гэта тады, калі маці пыталася: «Міронька, дзе наш бацька, калі ўжо вернецца?..» — а ён зусім не ведаў, што адказаць.

Ён неяк падумаў: «А што страціў Яромха, якога не стала?.. Уменне гаварыць, лічыць і чытаць?.. Ці нешта большае, ці нічога не страціў?.. Яромхі нібыта няма — і ўсё ж ён ёсць, а бацька нібыта ёсць — і ўсё ж яго няма… Абодва яны далёкія, як другое і трэцяе сонца над нейкай планетай, а ўсе астатнія жывуць, як жылі — і толькі тое і адбываецца…»

За час, пакуль чакалі бацьку, шмат чаго адбылося — маленькі Мірон сястру займеў. Да таго ж не малодшую, як яно звычайна бывае, а старэйшую, з якой прыехала аліменты шукаць першая бацькава жонка. Дазнаўшыся, чаму няма аліментаў, яна адразу яшчэ некуды заспяшалася, а Ефрасінню, Хрузьку, пакінула. «Няхай у вас пабудзе, куды мне з ёй?.. Ні начаваць няма дзе, ні карміцца чым…»

Хрузька, на шэсць гадоў старэйшая за Мірона, расказала яму, як яны з братам — тым, другім братам — галадалі, адну траву елі, як у Сухім Доле — там, дзе яны жылі — дзёгцем ім вароты

мазалі, бо маці Хрузькіна, чарнавую атрымаўшы, калмыка ў хату пусціла, аднарукага, але спраўнага ў гаспадарцы, а бацька аказаўся жывы… Ці ж маці вінаватая?.. Яна ж, калмыка ў хату пускаючы, думала, што бацьку забілі смерцю героя, а без мужыка — хоць якога — паспрабуй пражыві, мужык наогул бабе патрэбны. Дык бабы сухадольскія ўз’еліся на яе: «Ты курва! Мы сваіх франтавікоў і з чарнавымі чакаем, ці мала што здараецца!..» — а спраўнага мужыка ў Сухім Доле ніводнага за вайну не засталося, яны б таго калмыка і без рукі, і без нагі сабе забралі… І Хрузька пыталася: «А які мой бацька, ну, які ён?..» Маці дала ёй фотаздымак: «На, глядзі». На фотаздымку бацька выглядаў суровым: у вайсковай форме, зацягнуты ў партупею — цэліўся ў некага з пісталета. «На таварыша Варашылава падобны», — сказала Хрузька. Мірон не ведаў, хто такі таварыш Варашылаў, і распавядаў Хрузьцы, які бацька герой, колькі ён немцаў на вайне пабіў і колькі тут пабіў бандытаў, і як па іх, па бацьку і зусім тады маленькім Міроне, бандыты стралялі ў лесе пад Багушамі, а дзядзька Яромха, які быў матросам, засланіў іх ад кулі і сам загінуў, а злыя, як і ў Сухім Доле, людзі выкруцілі ўсё так, нібы гэта бацька забіў дзядзьку Яромху…

— Скрозь несправядлівасць, — уздыхнула Хрузька. — І ў нас, і ў вас… — І Мірону няўтульна стала: яму здалося, што справядлівасці няма ва ўсім свеце.

— А які таварыш Варашылаў? — спытаў Мірон.

— Вялікі… — Хрузька ўстала з-за стала, за якім яны снедалі, паднялася на цырлачкі і ўскінула рукі ўгору. — Трохі меншы за таварыша Сталіна… — яна апусцілася на пяты… — але вялікі.

— А таварыш Сталін які?.. Хто ён, гэты Сталін?

Яны елі бульбу, мачаючы яе ў алей з падсмажанай цыбуляй, і Хрузька не данесла бульбіну да рота, вылупіла на Мірона вочы — і так з разяўленым ротам і вылупленымі вачыма і засталася…

— Сталін — наш правадыр, — хуценька і чамусьці апасліва сказала маці, і больш нічога не сказала.

Пра тое, хто такі правадыр Сталін, Мірон вырашыў вызнаць у паштара Юткі Казубоўскага, які чытаў газеты, таму ўсё ведаў. Ютка даў Мірону часопіс з фотаздымкамі і малюнкамі: «На, тут ледзь не на кожнай старонцы…»

Часопіс называўся «Огонёк», у ім на адвароце вокладкі быў вялікі партрэт таварыша Сталіна, і меншы партрэт таварыша Варашылава на другой старонцы быў, бацьку яны абодва саступалі,

але на самой вокладцы часопіса было нешта агромністае, большае і за Сталіна, і за Варашылава, і нават за бацьку з Яромхам, не кажучы ўжо пра Мірона з Хрузькай, большае за царкву і замак, за ўсе Каруны — і называлася гэтае агромністае, большае за ўсё і ўсіх: «Кремль. Красная площадь».

Неабсяжная плошча была ўся чырвоная — і ўся ў лютым марозе. Бліскучы іней аточваў чырвоную вежу з гадзіннікам і распаленай зоркай над ёй, зубчастую сцяну, якая сыходзіла за край вокладкі і цягнулася, здавалася, па край зямлі, прыземістую глыбіню з надпісам Л Е Н И Н, з дзвярыма і вартавымі па абодва бакі дзвярэй, у якія, уяўлялася, увойдзеш — і выйдзеш па той бок свету, адкуль прыйшлі і сталі пад чырвоную сцяну блакітна-ледзяныя, засыпаныя сінім-сінім снегам, елкі. З плошчы, нават з папяровай, цягнула такім велічным холадам, што Мірона скаланула, але і вачэй адарваць ад вежы, ад сцяны, ад глыбіні, ад елак, аб ледзяны блакіт якіх апякаўся позірк, Мірон не мог. Плошча была большай за тое, што ён мог ці не мог, што маглі ці не маглі яны ўсе разам — яна магла ўсё…

— Дзе гэта?.. — спытаўся Мірон, і Альбіна, якая жыла ў іх амаль увесь час, бо маці ўсё некуды ездзіла і ездзіла, адказала:

— У Маскве. Нам туды, як да Абрама на піва… Памром, пакуль даедзем.

З калыскі Мірон вырас, ложак у хаце быў толькі адзін, на ім спала маці і, калі начавала, Альбіна, а Мірон з Хрузькай клаліся на печы. Там Мірон і прыклеіў да коміна карціну «Кремль. Красная площадь», на скразны холад якой яны з Хрузькай, дурэючыся, хукалі, але іскрысты іней на чырвоных цаглінах і сіні снег на блакітных елках не таялі ад іх дыхання. З адвароткі карціны — вусамі да коміна — быў прыклеены Сталін.

Хрузька прабыла ў іх болей за год і, калі палюбілася ўсім, прыйшоў ліст з Сухога Долу, ад яе маці, каб Хрузьку пасадзілі на цягнік да Масквы, даўшы тэлеграму, на які, а там яе сустрэнуць… Мірон спачатку перапудзіўся, што ехаць да той Масквы, як да Абрама на піва, Хрузька памрэ, пакуль даедзе, а потым яго зайздрасцю асляпіла: Хрузька, калі не памрэ, на яве ўбачыць «Кремль. Красную площадь»!..

У раён, што аказаўся горадам, праз які ішоў цягнік да Масквы, праводзіць Хрузьку паехалі на падводзе Юткі Казубоўскага. Мірона таксама ўзялі — і ў каменным горадзе каля найвялікшай будыніны ён убачыў каменнага Сталіна, але ж гэта не тое, што «Кремль. Красная площадь». Пакуль на пероне ўсе плакалі, Мірон паспрабаваў прабрацца ў вагон, каб паехаць

разам з Хрузькай, і паехаў бы, калі б праведніца не злавіла яго і не выкінула з тамбура, з вагона, які ўжо крануўся, на рукі маці, Альбіны, Юткі…

З Ефрасінняй, з сястрой сваёй Хрузькай, ніколі ён болей не ўбачыўся. Яна не памерла па дарозе да Масквы, але калмык, паехаўшы ў Маскву яе сустракаць, напіўся і спаў, чакаючы Хрузьку, на тым жа вакзале, на які прыехаў. Ён спаў на Казанскім, а Хрузька, прачакаўшыся яго на Беларускім, пайшла глядзець «Кремль. Красную площадь» — і прапала.

Калі маленькі Мірон стаў вялікім Міронам, дык кожнага разу, як толькі аказваўся ў Маскве, ішоў да Крамля на Красную плошчу і выглядаў, шукаў і шукаў сястру сваю Хрузьку — больш яго там анічога не цікавіла. Ён ведаў, што за час, пакуль ён з маленькага Мірона ставаў вялікім, у каменную глыбіню з дзвярамі ўнеслі Сталіна, дапісалі на глыбіні ягонае імя, пасля вынеслі Сталіна, імя сцерлі — і засталося ўсё так, як было… Нярушна, як вартавыя каля дзвярэй, стаялі на плошчы блакітныя елкі, узвышалася вежа з гадзіннікам і распаленай зоркай над ёй, цягнулася і цягнулася зубчастая сцяна…

Паездкі маці ў раён і вобласць нічым не канчаліся — і яна стала ўгаворваць дзяка, якога паабяцаў некалі арыштаваць вялікі начальнік з Менска, ды потым пра яго, як і пра вялікага Мірона, забыўся, паехаць у Менск таго начальніка пашукаць: раптам дапаможа…

— Ты што, Наста, з глузду з’ехала?.. — пытаўся на яе ўгаворы дзяк. — Па што мне ехаць?.. Каб успомніў і арыштаваў?..

Пра тое, што можа стацца з дзякам, маці не надта думала.

— Гэбіст жа тут быў, рапарт напісаў, не вінаваты Мірон… — упрошвала маці, ды дзяк не ўпрошваўся:

— Вінаваты! Ён на царкву пайшоў! На абразы, на крыж руку падняў!

— Не за гэта ж яго пасадзілі…

— Бог за гэта пасадзіў!

— Хіба Бог садзіць?.. Што вы такое кажаце?..

Ці на гэтым яна падлавіла дзяка і той сам завінаваціўся перад Богам, ці ад неадчэпнасці матчынай дзяк стаміўся, але згадзіўся ўрэшце, рукой махнуў: «Паехалі!..»

Дзяка не пусціў бацюшка. Каб царкву зратаваць, сам пасылаў дзяка ў Менск, а ратаваць Мірона — не пусціў. «Асцерагаецца! — пастанавіла Альбіна, якая на абразы то хрысцілася, то плявалася. — Начальнік жа вялікі і яго абяцаў арыштаваць, дык будзе ён табе высоўвацца!..»

— Не думай, Наста, што асцерагаюся нечага, — сказаў бацюшка. — Смешна думаць, нібы забыліся пра нешта ў Менску, а дзяк нагадае… Ніколі яны і ні пра што не забываюцца. Надзея не на гэта, а на тое, што антыхрысты гэтыя скончацца. Калі не ўсе разам, дык па адным, а да таго нічога добрага не будзе… І не цягайся ты нідзе, толькі сабе нашкодзіш. Не вернецца твой Мірон, і ніхто яго не верне, пакуль Сталін не памрэ.

Маці з ягоных слоў нават страху не ўзяла, падумала: бацюшка не проста асцерагаецца, а гэтак баіцца, аж не разбірае, не спасцігае ўжо, што гаворыць. «Хіба Сталін можа памерці?..»

Выбралася маці ў Менск, як заўсёды, адна — распытала толькі дзяка, дзе шукаць там таго вялікага начальніка. Яна трызніла тым начальнікам: ён і царкву сказаў не чапаць, і бацюшку з дзякам не пасадзіў, і Мірона абяцаў перавесці…

Паехаўшы пасля каталіцкіх Каляд, не дачакаўшы Новага году, маці ўсё не вярталася і не вярталася, званіла толькі зрэдку ў сельсавет, і Мацей Цяжкароб, які стаў замест бацькі старшынёй сельсавета, перадаваў, што жывая, убілася да некага ў пакаёўкі.

— І тое хлеб, — казала Альбіна, — ды і да хлеба капейчыну якую прыробіць. А то малому ні на ногі чаго, ні на плечы нечага.

Пакуль маці не вярталася, маленькі Мірон прысніў, як вярнуўся бацька… Пасля яму здавалася, нібы і на яве было гэтак жа, як ён прысніў.

У тую пераднавагоднюю ноч ён не захацеў класціся з Альбінай, як яны спалі звычайна без маці, лёг на печы і заснуў, гледзячы на карціну «Крэмль. Красная площадь», на блакітныя, заснежаныя елкі на ёй. Ютка Казубоўскі абяцаў прынесці елку, але Ютка лічыў сябе за паляка, загуляў з каляд і не прынёс.

Бацька ў вайсковай форме, зацягнуты ў партупею, выйшаў з сякерай у руках з таго боку свету, з каменнай глыбіні, з дзвярэй пад надпісам Л Е Н И Н, мінуў вартавых і ўзяўся секчы елку.

— Ты для каго сячэш? — выглянуў з-за елкі Сталін.

— Для сына. Паштар Ютка Казубоўскі абяцаў яму прынесці, але запіў і не прынёс.

— Ну, я здыму яго з паштароў! — пагразіў Сталін. — А цацкі на елку ёсць?

— Толькі папяровыя, сын з Альбінай зрабіў. А бліскучых няма.

— А ў мяне ёсць, — сказаў Сталін і пачаў чапляць на елку цацкі.

Дзіўныя гэта былі цацкі… Сталін павесіў на елку маленькага бліскучага паштара Ютку Казубоўскага, старшыню Мацея Цяжкароба, папа, дзяка, Альбіну, Хрузьку і яе маці, калмыка, раённага гэбіста і ляснога брата Сівакоўскага, маленькіх бліскучых татараў і маленькіх бліскучых габрэяў… Ён вешаў і вешаў, чапляў і чапляў, а цацкі ў яго не канчаліся і не канчаліся — на елцы ўжо месца не было.

— Дзякуй, досыць, елка не вытрымае, — падзякаваў бацька, а Сталін спытаўся, шукаючы па кішэнях:

— А Яромха дзе? Ты ў мяне Яромху забраў?.. — І загадаў вартавым: — Зрабіць з яго цацку замест Яромхі!

Вартавыя рынуліся на бацьку, ды бацька як махне сякерай! — яны ў спудзе назад, за дзверы пад надпісам Л Е Н И Н, а Сталін спрытна, як вавёрка, на сцяну ўскочыў, на вежу ўскараскаўся і ў гадзінніку, у часе сваім схаваўся. Крыкнуў адтуль, галаву высунуўшы: «Не вернешся, пакуль я жывы!» Бацька ўскінуў на плячо елку і пабег з Краснай плошчы дахаты. Ён бег, бег, бег, а з блакітнай елкі асыпаўся сіні снег, падалі, падалі, падалі і разбіваліся цацкі: поп, дзяк, Хрузька, калмык, гэбіст, габрэі, татары… — ніводнай цэлай сталінскай цацкі не засталося, усе пабіліся… Мірону так шкада было і цацак, што былі людзьмі, і людзей, якія былі цацкамі, а бацька паўстаў на парозе з пустой елкай, але такой блакітнай, што ад яе ўся хата зазіхацела, і сказаў: «Нічога, Мірон. Была б елка, а цацкі знойдуцца. Тваё папяровыя начэпім, давай іх сюды…» Мірон кінуўся даставаць цацкі, што зрабіў з Альбінай… убачыў, прачынаючыся, зіхатлівае сонца ў марозным акне, Альбіну ў кажусе, якая ставіла елку ў кут, зляцеў з печы:

— Дзе татка?!.

Выскачыў голы з хаты ў сені:

— Тата!!.

— Ты куды?.. — злавіла яго ў кажух Альбіна, прыціснула, стала супакойваць, гладзіць па галаве. — Пайшоў бацька, справы ў яго, праз год вернецца… А я таксама прачынаюся і дзіўлюся, скуль гэта елка?.. Думала, Дзед Мароз прынёс…

Мінуў і Новы год, і праваслаўныя Каляды, і Хрышчэнне — маці вярнулася напачатку вясны. Апранутая, як гарадская, узбуджаная, з падарункамі: Альбіне прывезла сукенку, маленькаму Мірону маленькую матроску і бесказырку з якарамі на стужцы і надпісам **в а р я г**.

— Хто такі вараг?.. — спытаў Мірон, падскокваючы да люстэрка, каб зірнуць, як выглядае ён у матросцы і бесказырцы, і Альбіна, якой ён замінаў, адказала:

— Вораг.

З Мірона зляцела бесказырка, і ён не стаў яе падымаць.

— Не блытай яго, ён і так заблытаны.. — падняла бесказырку і стала цалаваць Мірона няспынна маці. — Карабель такі геройскі… Ой, я пра цукеркі забылася!.. На, пасмакуй, ты ж ніколі ў мяне цукерак не еў! — паклала яна Мірону ў рот цукерку і пракінула скорагаворкай, павярнуўшыся да Альбіны:

— Сталін памёр.

— Усе паміраюць… — круцілася ў новай сукенцы Альбіна — і застыла ў люстэрку, стуль на маці гледзячы: — Як гэта — Сталін памёр?..

У тое імгненне, у якое маці сказала, што памёр Сталін, Мірон якраз раскусіў аблітую шакаладам падушачку з варэннем і адчуў такую слодыч, гэткую смакату, з якой ніякая раней ім знаная смаката, нават смаката мёду ці з цукрам расцёртага маку не раўнялася, і так яно ў ім на ўсё жыццё і засталося: немагчымая смерць Сталіна і неверагодная смаката — адно ў другім, як варэнне ў шакаладнай падушачцы, усё салодкім-салодкае. «Як добра, што Сталін памёр, а то маці не прыехала б і не прывезла цукеркі, — шчаслівa думаў Мірон і раптам яго працяла: — Дык бацька ж вернецца!..»

— Вернецца, — частавала яго цукеркамі, цалавала і цалавала маці. — Цяпер вернецца…

Восенню ў матросцы і бесказырцы, найлепшым ягоным адзенні, маці павяла Мірона ў школу, у першы клас, дзе пачалі вучыць яго чытаць, лічыць і пісаць — таму ўсяму вучыць, што ён умеў.

Бацька вярнуўся праз тры гады на Новы год і ўвайшоў у хату з елкай…

Апошняя з Трох Бяроз каля прошчы стаяла яшчэ доўга, з паўвека. Памерла маці, хутка за ёй памёр бацька, Мірон пахаваў іх — і толькі тады апошняя Бяроза ўпала, Мірон застаўся на зямлі адзін.

*1993, Менск; 2001, Хельсінкі*

## ПРАГА

Андрэй Брызін ляжаў на вузкім тапчане ў прыхожай, дзе ён заўсёды, калі начаваў дома, прачынаўся пасля шырокага разгулёну, і галавой чалавека, які некага забіў, на кавалкі пасек і пад плотам закапаў, падлічваў страты з учарашняй п'янкі. Грошы — само сабой, іх і лічыць няма чаго, хоць і шкада: мог купіць бензапілу. Ён напружыў кулакі, якія маглі б сціскаць зараз ручку бензапілы, але ад уяўлення пра тое, як бы яна выла і скрыгацела, у яго падцяліся вушы, і ён падумаў, што хрэн з ёю з той бензапілою. Тым болей, што ў прыхожай не вісела ягоная куртка, а грошы былі ў куртцы. Скураная куртка — раз, прапітыя грошы — два. Што яшчэ ў куртцы?

…Ключы ад дому, бо ён кідаў Машы, каб адчыніла, каменьчыкі ў акно. Звону не помніў, значыць, шыбу, як мінулым разам, не пабіў, і шкліць не трэба.

…Ключы ад работы, бо яны былі ў звязцы з ключамі ад дому.

…Ключы ад машыны, хоць яны і былі асобна. Калі ключы ад дому можна ўзяць дома, ключы ад работы — на рабоце, дык ключы ад машыны нідзе не ўзяць. Трэба здымаць замок. І гэта сёння — заныла ў патыліцы — бо з абеду ехаць.

Дакументы?.. Пашпарт — не, здадзены ў авір, каб паставілі гэтую б…кую пячатку, што ён можа падацца ва ўсе канцы свету. Патрэбная была пячатка новая, старая скончылася ў той дзень, калі ён выязджаў з Брэста, і праз гэта, як ні качаў правы, казлы-пагранцы яго не выпусцілі. Ён вярнуўся, асабліва рабіць, спланаваўшы выезд у Прагу, не было чаго, дзень-другі патрываў — і напіўся. Паліцэйскае царства! Нідзе ў свеце пагранічнікі не разам з мянтамі.

Што яшчэ? Нібы нічога. Запальнічка, цыгарэты, розная драбяза… Вадзіцельскія правы!.. Гэта страта, хоць ёсць і яшчэ адны. Дарэчы, дзе яны, дома ці на рабоце?.. Ну ды недзе ёсць. Здаецца, што ўсё. З матэрыяльным — усё.

Цяпер — што з духоўным?.. Забіў — раз. Пасек і закапаў — два. Пад плотам — тры… Няўжо больш нічога? Не можа быць… Мардабой у рэстаране — гэта духоўнае ці матэрыяльнае?.. І з чаго мардабой? Сініцын яму сказаў, што пераспаў з Нінай. Дык пры чым тут Сініцын? З Сініцыным у яго кантракт на пастаўкі алюмініевай пудры, а ён яму — ці не ў парашок зубы. Ай-я-яй… Трэба званіць, трэба падымацца і ехаць. Калі гэта сапраўды ўсё…

Нібыта ўсё, а нібы і не… Пацягнуўся ён яшчэ пасля рэстарана і мардабою да Ніны, каб сказаць, што яна курва. Ніна яго не ўпусціла, таму адкрычаў, хто яна ёсць, праз дзверы. Ды гэта няважна, праз дзверы, ці не, бо так яно ёсць — і гэта не духоўная страта. З ёй даўно пара завязваць, хоць і салодзенькая. Ды ці такая ўжо салодзенькая? — ён з ёй цвярозы і не быў ні разу. А п'янаму і кісляк не ў аскому…

— Маша… — слаба паклікаў Брызін, і ў галаве прашумела ша… ша… ша…

З гасцёўні выйшла ягоная дзевятнаццацігадовая дачка, якая глядзела на яго любоўна. Яна заўсёды глядзела на яго любоўна, бо ён не шкадаваў для яе грошай, і наогул яны сябравалі.

— Ну, што табе, п'янтос? Піва?

— Тэлефон.

Дачка прынесла тэлефон.

— Набяры Сініцына на мабільнік. Спытайся, ён не ў зубнога?

Маша набрала.

— Сам пытайся.

— Артур, — спытаў Брызін, і ў галаве пратуркала тур… тур… тур… — ты не ў зубнога?

— А пасоў ты… — свістануў Сініцын і адключыўся.

— Ты яму зноў зубы выбіў? — забраўшы тэлефон, спытала Маша.

— Не знаю. Ён не сказаў.

— Тады, можа, і не выбіў, — супакоіла яго дачка. — Звычайна ён гаворыць.

— Ну, — згадзіўся Брызін. — Звычайна гаворыць.

Любімая дачка спагадліва глянула на любімага бацьку.

— Калі ён цябе не расстроіў, дык, можа, і мне цябе не расстройваць?

— Расстройвай, — склаў рукі на грудзях Брызін. — Чым?

— Жонка твая зноў ад цябе сышла.

— А… — пацягнуўся Брызін. — Ты мяне сапраўды любіш.

— Але на гэты раз неяк рашуча сышла. Са срэбрам і золатам. Я нават пабудзіць цябе хацела.

— Малайчына, што не пабудзіла. Вернецца.

— Ну, глядзі, табе жыць. Яшчэ ў тваім жыцці я нечым магу памагчы?

— Вольная. Грошай няма, прапіў.

— Я ў цябе ўчора і на заўтра ўзяла, — прызналася Маша. — Прадбачыла.

— А чаму не сказала? — з папрокам спытаў Брызін.

Маша нахілілася да яго.

— Дык зараз кажу, не чуеш?..

— Я не пра грошы, — абняў яе Брызін. — Чаму не сказала, што нап'юся, калі прадбачыла?

— Тады б жонка твая засталася, — чмокнула яго ў балючы лоб дачка. — І пілавала б яна цябе зараз, як бензапіла.

— О-о-о… — прастагнаў Брызін, у галаве якога заскрыгатала і завыла. — Адкуль ты пра бензапілу ведаеш?

— Я ўсё пра цябе ведаю, — ускочыла Маша і пачала апранацца. — Ніколі яблыні на дачы ты не абрэжаш!

— Чаму?

— Таму што бензапілы ў цябе ніколі не будзе. Ты прафесійны прапойца бензапілаў. Ці лепей, мусібыць, сказаць *прапільшчык*. Бай-бай, папраўляйся, я ў інстытут.

І за дачкой зачыніліся дзверы.

— А вось і будзе, — сказаў у дзверы Брызін. — І сёння. І я распілую Нінку напалам разам з яе дзвярыма.

Сітуацыя трохі праяснілася, і Андрэй, трымаючы твар у руках, панёс яго рамантаваць, мыць ды галіць, каб на людзях паказацца. Заадно прыкідваў, што найперш рабіць… Жонкай займацца яму не хацелася, ды і чым займацца? Тое, што яна сышла рашуча, забраўшы свае бразгаўкі, яшчэ нічога не азначала. Хоць лепей было б, каб азначала. Яна, праўда, не слаба дапамагала Машуні ў ангельскай і французскай, што было не апошняй прычынай, па якой з ёй, былой сваёй сакратаркай, ён і ажаніўся, а дакладней — сышоўся і жыў, але Маша ўжо лапатала па-іншаземнаму не горш за яе, і вялікай патрэбы ў хатняй настаўніцы болей не мелася. Ва ўсім жа астатнім Таісія Арчыбальдаўна толькі шкодзіла. Надумаўшы сабе нейкае ўзорнае каханне, па якім, як казала, сумавала ў бацькоўскім доме і два разы замужам, яна знервавала ім і сябе, і Брызіна, умешвала ў сямейныя справы радню, знаёмых, і кожная падзея, дата, любая сходка ў гасцях ці дома ператваралася ў аператыўны разбор брызінскіх палётаў. На мінулым яе дні нараджэння, калі Брызін пачаў абавязковы ў такіх выпадках тост, ну, і сказаў, бо трэба было, як многа яна для яго значыць і як ён яе кахае, Таісія ўскочыла, закрычала: «Так кахаеш, што ніяк падсцілак сваіх у мой ложак не перацягаеш!» — і пры ўсіх надзела яму на галаву місу з салатам. Нават Арчыбальд, бацька Таісіі, сказаў тады: «Андрэй, яна, канечне, мая дачка, але як ты яе трываеш? Я б яе ці на салат пакрышыў, ці прадаў бы татарам». Чаму татарам?.. Забілі Арчыбальда Інакенцьевіча, шкада. Развясёлы быў злодзей

і гуляка. Так гуляў, што незразумела было, калі паспяваў красці. І ні чарта Таісіі не пакінуў!.. І Брызін быў перакананы, што не толькі праз тое, што не рыхтаваўся да смерці. Але джэнтльменскі набор — кватэру ў горадзе і катэдж на Мінскім моры, машыну, гараж — Арчыбальд з сабой не забраў. Пакуль нібыта ўсім валодае ўдава, але гэта фармальна, так што Таісіі, дзякуй Богу, ёсць куды пайсці ад любога мужа. Хоць бы не вярнулася…

Зазваніў тэлефон.

«Яна!» — падумаў Брызін і не памыліўся.

— Я ад цябе пайшла, — трагічна прадэкламавала дачка Арчыбальда, які да таго, як стаць постсавецкім злодзеем, быў савецкім драматычным акцёрам.

— Знаю. Мне Маша сказала.

— Назаўсёды! — крыкнула Таісія, ад чаго ў Брызіна ледзь не адляцела неадрамантаваная галава.

— Можа, не будзем спяшацца… вернешся? — зноў асцярожна прытуліўся вухам да трубкі Брызін, з жахам думаючы пра тое, што ён Таісіі Арчыбальдаўне прапаноўвае.

— І што?.. — праз паўзу спытала Таісія.

— Бензапілу купім… Яблыні абрэжам, — сказаў Брызін, каб нічога не сказаць, і не маючы на ўвазе нічога кепскага.

— Ты ска-ці-на! — крыкнула Таісія Арчыбальдаўна так, што ў яго сапраўды адляцела б галава, калі б ён прадбачліва не аднёс ад вуха слухаўку. І кінула трубку.

«Вернецца, — з тугой падумаў Брызін. — Калі так крычыць, дык вернецца… І чаму я ўсё сам не магу ёй сказаць?.. Ну ды выкруцімся. Праўду кажа Маша:ануча і тая выкручваецца».

Падышоўшы да дзвярэй, Брызін успомніў пра ключы і ўжо хацеў раззлавацца на самога сябе яшчэ і за тое, што не сказаў Машы, каб аддала свае, але тут убачыў на паліцы каля люстэрка ключы Таісіі. Пакінула!.. Раней не пакідала. Гэта яму здорава прыдало імпэту — і на вуліцу ён выйшаў хоць з нейкай надзеяй на нейкую будучыню.

Артура Сініцына злавіў ён на выездзе з офіса. Артур Сініцын казаў пра сябе: «Я ва ўсім супадаю з жыццём і часам, але ў мяне не надта супадаюць імя і прозвішча. Толькі ў тым мая праблема, але яе я перажыву». Сініцын лічыўся камерцыйным дырэктарам камбіната будаўнічых матэрыялаў у Бабруйску, аднак офіс меў у Менску, дзе стараўся не так на камбінат, як на сябе. Убачыўшы Брызіна, ён не стаў спыняць машыну — і Брызін зрабіў крок пад левае крыло сініцынскай «Мазды». Сініцын, скрывіўшыся, затармазіў, усім сваім выглядам паказваючы, што зрабіў зусім не

тое, што хацеў бы зрабіць: пераехаць Брызіна пярэднімі коламі, а пасля, калі ён пачне з-пад іх выпаўзаць, дадушыць заднімі. І ў якасці кантрольнага стрэлу яшчэ раз праехацца заднім ходам — туды-сюды па галаве.

— Артур, з мяне штука «зялёных», — сказаў Брызін. — Не крыўдуй.

— Сасунь сваю стуку ў сваю сялёную саку, — салаўём прасвістаў Сініцын, і Брызін зразумеў, што гэтая фраза далася яму не проста.

— Колькі? — спытаў ён са спагадай.

Сініцын паказаў тры пальцы.

— Пярэднія? — спытаўся Брызін з жалем і непадробным спачуваннем.

— Ты, сука, сдзекуеся яссэ! — упоперак перакрывіла Артура. — Садусу! — і Брызін ледзь паспеў адскочыць ад рвануўшай на яго «Мазды».

Кантракту кранты. Сініцын знойдзе іншага пасярэдніка, калі ўжо не знайшоў, ён сам пасярэднікаў і выбірае. А гэта табе не штука, гэта многа-многа штук па штуцы. Брыльянтавыя зубы з плацінавымі сківіцамі можна ўставіць. Во гэта страта, а ён правамі застраціўся! Ай-я-яй… І што рабіць? Да каго і ў які бок бегчы? Да курвы Нінкі?.. Да курвы Нінкі, больш няма да каго. Калі нехта Артура і ўламае, дык толькі яна. Праблема Сініцына не толькі ў тым, што ў яго імя з прозвішчам не супадаюць, а яшчэ і ў тым, што, калі ўжо ён западае на бабу, дык па вушы з шапкай.

Клопаты з машынай выглядалі цяпер дробязнымі, але ўсё ж Брызін пазваніў на фірму свайму намесніку, які быў не столькі ягоным намеснікам, колькі бегунком туды і па тое, куды і па што пашлюць. Брызін сказаў яму, каб усё ён к чорту кінуў і знайшоў чалавека, які б зняў з машыны замок і падрабіў ключы.

— Чалавека я знайду, але як яго ў гараж усунуць?.. Дзе ад гаража ключы? — спытаўся намеснік, які не строіў з сябе бізнесмена і без крыўды адклікаўся на мянушку Бегунок.

— Нідзе, — сказаў Брызін. — Каб былі ад гаража, то былі б і ад машыны. Купі бензапілу і зрэж замок.

— А чаму бензапілой? — не зразумеў Бегунок.

— Бо бензапіла, як і машына, на бензіне, — растлумачыў яму Брызін і выключыў тэлефон.

Ніна Цымішкіна, ці, як яна сама называла сябе, Нінэль, што, як і ў выпадку з Артурам Сініцыным, не надта стыкавалася з прозвішчам, была дома, але дзверы адчыняць, зразумела, не заспяшалася.

— Ідзі да курвы, — сказала яна Брызіну. — Тут табе не бардэль. До ўжо гэтага: Нінэль, у пасцель! А для ўсяго астатняга — Нінка.

— Нінэль, — пайшоў прыніжацца Брызін, — зараз у мяне няма з сабой грошай, але толькі за тое, што ўпусціш, з мяне дзвесце пяцьдзесят.

— А чаму дзвесце пяцьдзесят? — спытала зацікаўленая Нінэль.

— Ну трыста, — накінуў Брызін. — Клянуся.

— Спадзяюся, не рублямі аддасі? — адчынілася Нінэль. Была яна, як заўсёды, у незашпіленым шоўкавым халаціку на голае цела, і голай яна хадзіла, як даволі хутка пасля знаёмства з ёй зразумеў Брызін, не з таго нават, што сапраўды выглядала спакуслівай сексбомбачкай, а таму што голасць і была яе сутнасць. Па-за гэтай голай сваёй сутнасцю Нінэль Цымішкіна ўся і адразу канчалася.

— Артур у цябе быў сёння ўночы? — прайшоўшы ў пакой з шырачэзным ложкам пад ружовым балдахінам, дзе і выяўляла сваю сутнасць Нінэль, спытаў без прэамбулы Брызін.

— Быў, — не стала таіцца Нінэль. — І чуў, як ты да мяне ламаўся… Нашто ты яму зубы выбіў, прыдурак?

Брызін біўся з Сініцыным не раз і не два, яго раздражняла ў самаўлюбёным Артуры ўсё: як ён з іголачкі апранаўся, як паліў найтонкія, підарскія нейкія цыгарэты, як хадзіў балеруном, як размаўляў, еў і піў, адтапырваючы мезенец, а найбольш, бадай, раздражняла ўдачлівасць гэтага пісклявага бавіяна, які, калі і на гаўне паслізнецца, дык усё адно на грошы ўпадзе. Цвярозы ён яго трываў, бо што было рабіць, а п’яны, калі не мог сябе кантраляваць, зрываўся. І для ўчарашняга мардабою Нінэль была толькі зачэпкай, хай з ёй спіць хоць табун, ён жа сам яе Сініцыну і падсеяў, але Брызін састроіў адчайна-вінаваты твар і сказаў:

— Узраўнаваў я, Нінэль, так, што асляпіла… Таму і ламаўся да цябе. Калі б адчыніла — забіў бы.

Нінэль сціснула кулачкі на грудзях:

— А Божа!.. Ты кахаеш мяне, Брызін?

— Што ты ўсё Брызін, Брызін!.. Андрэй я, а не Брызін! — падвысіў Брызін голас — і адразу ніякавата суцішыўся. — Выбачай, я нават не думаў, што так… Усё ж неяк было па п’янцы, па гульбе… Аказалася, што я і піў з таго, што не з табой.

— А што табе замінала быць са мной?.. Я цябе ніколі не выганяла.

— А сям’я? Жонка?.. — І, коратка ўздыхнуўшы, нервова паляпаўшы па кішэнях, нібы ў хваляванні шукаў цыгаркі, Брызін выдаў галоўнае:

— Сёння я разышоўся з ёй.

— Што?.. Як разышоўся?

— А як разыходзяцца?.. Я не ведаю, дагэтуль не даводзілася. Мая першая жонка памерла пры родах, цудам дачка засталася жывая. А Таісіі я проста сказаў, што мы болей не муж і не жонка, бо я кахаю іншую. Ды мы і не былі мужам і жонкай. Так, жылі.

— Я не веру табе, — ужо ва ўсё паверыўшы, спалохана сказала Нінэль. — Не, я не веру…

— Пазвані, — падняў трубку тэлефона Брызін. — Можаш да Таісіі, можаш да Машы… Я адразу і ёй усё сказаў, чаго тут цягнуць?..

— І што цяпер будзе? — спытала Нінэль. — І як мне з Артурам?..

— З Артурам праблема, — паклаў трубку і пацёр далонямі скроні Брызін. — І не толькі ў цябе. У мяне таксама. Ён мне ўсё-такі сябар, але надта крыўдлівы, ты ж яго ведаеш, і цяпер з нічога можа выкруціць такое…

— Ніякі ён табе не сябар, — перапыніўшы Брызіна, адразу данесла на Сініцына Нінэль. — Сёння нараніцы ён некаму званіў і сказаў, што з табой у яго ўсё.

— Як гэта ўсё? — зрабіў выгляд, што не зразумеў яе, Брызін. — Па п’янцы па зубах стукнуліся — і ўсё? Не можа быць, нешта ты не тое пачула. Ён жа мужык.

— Ой, які ён мужык! — ускінула полы халаціка Нінэль. — Пеўнік на шастку.

— Выбачай, але для мяне гэта не мае значэння, — стрымана сказаў Брызін, стараючыся не спыняцца позіркам на Нінэль, з якой, як толькі шоўкава ўзляцеў халацік над яе сутнасцю, яму адразу занецярпелася пераляцець пад ружовы балдахін.

Нінэль, зразумеўшы яго па-свойму, пакрыўдзілася.

— Як не мае значэння?

— Ну, разумееш, Артур мне, як брат, якога ў мяне няма, як частка мяне самога. І, можа, нават большая, чым я сам.

— Што ж ты сам сабе ў зубы не даў? — даволі ўдала для яе сутнасці здзівілася Нінэль.

— Праз такіх жанчын іншым разам і браты б’юцца, — упаў тварам у яе калені Брызін, абняў — і Нінэль затрапяталася. — Я хачу быць з табой, Ніна… Ідзі да мяне, Нінэль…

І Нінэль пайшла, і была ў сваёй сутнасці сапраўды салодкай…

— Давай усё ж падумаем, як яго ўламаць, — запальваючы цыгарэту, сказаў Брызін.

— Не дам — і ўламаецца, — са шчырай адкрытасцю сказала Нінэль. — Чаго тут думаць?

Брызіна гэта нечакана торгнула.

— Што, ён так да цябе?..

— А ты да мяне як? Да мяне хіба іначай можна?.. — не прамінула скакетнічаць і кошкай пацерлася аб Андрэя Нінэль. — Хай сабе ён пеўнік, але ж з хвосцікам…

— Правільна, не давай, — сказаў Брызін. — Ну яго…

— Ну, дык ну, — згадзілася Нінэль.

— Ты пра што занукала?

— Калі зусім не дам, дык не ўламаецца… Пасля ўсё ж давядзецца даць, каб даламаць… А так за што?

— Ну, дай, — з трэшчынаю ў голасе сказаў Брызін. — Але раз! І апошні.

— Табе будзе балюча? — ласкава пагладзіла яго Нінэль.

— Невыносна, — адвярнуўся Брызін ад каханай, каб яна не бачыла пакут на ягоным твары і слёз у ягоных вачах. — Толькі ён мне ўсё ж амаль брат… І як толькі падумаю, што мы страцім адзін аднаго ў гэтым жыцці… Не, не магу. Зрабі гэта, Нінэль. Толькі адзін раз, заклінаю цябе!

— Адзін брат, дык і адзін раз, — разважліва сказала Нінэль. — А нашто два?

Брызін пачаў збірацца.

— Дык з цябе трыста? — праводзячы яго да дзвярэй, не забылася ўдакладніць Нінэль.

— Як абяцаў, — уважліва паглядзеў на яе Брызін. — Але я быў падумаў, што цяпер гэта ўжо так…

— Так я для цябе даражэй абыдуся, Андрэй… Значна даражэй.

— Добра, дарагая мая, — пяшчотна абняў яе на развітанне Брызін. — Трыста, а пасля ўсё астатняе. Толькі вярні мне брата.

І тут у дзверы пазванілі.

— Брат вярнуўся, — без асаблівага спалоху сказала Нінэль. — Бачыш, як хутка. Што рабіць будзем?

— Не адчыняй, — прашаптаў Брызін. — Няма цябе дома.

— Дык я ключ яму дала сёння… Скуль я ведала?

У дзверы пазванілі яшчэ раз і, пачакаўшы, ціха пастукалі.

— Ладна, — рашыўся адчыніць Брызін. — Адыдзіся — голая тут.

У дзвярах стаяў хлапчук са сподкам у руках.

— Выбачайце, болей няма ў пад’ездзе нікога, а мяне па суседзях паслалі. У нас масла скончылася, а мама бліны не дапякла. Нам якую лыжку…

— Пачакай, зараз! — крыкнула з кухні Нінэль. І ў разлятайным сваім халаціку вынесла пачак масла:

— На.

— Нам гэта залішне, — сарамліва сказаў хлапчук, засаромеўшыся зусім не з лішкі масла.

— А гэта табе яшчэ зарана, — адвярнуў яго за плечыкі Брызін. — Ідзі пакуль бліны есці, а то не ўсё ў цябе вырасце.

— Цёця, а вы курва? — павярнуўся, адыходзячы, хлапчук.

— Брысь адсюль! — тупануў на яго нагой Брызін. — А то масла забяру.

— Курва, курва, — сказала Нінэль і шырэй расхінула халацік. — Твая мама не такая.

— Ну і курва!.. — у захапленні выдыхнуў хлопчык, ссыпаючыся ўніз па лесвіцы. — Мая мама не такая…

Брызін рассмяяўся.

— Ты чаго рагочаш? — уз’елася Нінэль. — Кожны байструк тут абзывацца будзе!

— Мужчына ён, а не байструк, — не згадзіўся Брызін. — Хоць пакуль і ў перспектыве. Бачыш, як цяміць, што для чаго. Для чаго масла, для чаго мама, для чаго ты. Змена расце, Нінэль, юная змена… Жыццё не спыніш, ідзе, як па масле. — І, падумаўшы, дадаў: — З усялякімі, блін, блінамі.

— Ідзі, — штурхнула яго ў спіну Нінэль.— Хутка твой зменшчык на бліны прыйдзе.

— А ў цябе масла скончылася! — пацягнула ўжо да вясёлага Брызіна.

— Нічога, — супакоіла яго Нінэль. — Не першы блін, каб комам. — І яна зачынілася ў сваёй сутнасці з шырокім ложкам і ружовым балдахінам, пакінуўшы Брызіна з ягонай місай праблем на тым самым месцы, дзе толькі што са сваім сподачкам стаяў хлапчук. А Нінэль яшчэ сказала з-за дзвярэй:

— Раззлаваў ты мяне пад канец, Андрэй. Не ведаю, чаму, але раззлаваў і расстроіў.

У Брызіна ўжо не ставала часу на тое, каб разбірацца ў прычынах злосці і расстройства Ніны Цымішкінай, і ён толькі

падумаў, што, канечне ж, курва Нінэль — не дачка Маша, якая стараецца не расстройваць любімага бацьку. Праўда, неяк яно так выглядае, што і адно, і другое — трохі за грошы. Грошы, грошы, грошы… Яны могуць буль-буль — патануць, фыр-фыр — адляцець, і наогул дзір-мір-зір — пад бензапілу папасці… Галаву Брызіну ўсё яшчэ не адпусціла, хоць Нінэль і памагла. Гэта ці з Нінэль, ці не з Нінэль, а галаве памагае. Мы толькі праз гэта тым і займаемся, а вы думаеце, што з распусты. Стаміўшы галовы ў напружаным мысленні… А лекі ў нас якія? Якая ў нас, тваю маць, фармакалогія?!.

Па скверыку насупраць аптэкі ішла дачка Маша ў абдымку з віхлявым неграм, які падаваўся ў рытм хады ўзад-уперад галавою і выкручваў у бакі нагамі, думаючы, мусіць, пра сябе, што ён грацыёзная жырафа. Не, ну з неграм, дык з неграм, зараз не шасцідзесятыя гады, Брызін і сам лячыў галаву з негрыцянкамі, але чаму з гэтым? Не ў тым сэнсе, што Брызін яго ведаў ці не ведаў, горшы ён ці лепшы за іншых неграў, але чаму з ім? Ды Брызін яго ўпершыню бачыў!.. Ён нават уявіць не мог, што Маша замест інстытута цягаецца з неграмі!

Кінуўшы жырафіцца, нібы раптам музыка скончылася, негр абваліў Марыю Андрэеўну Брызіну на лаву, абвіўся вакол яе прасмоленым канатам — і яны пачалі цалавацца.

Брызін набраў нумар мабільнага тэлефона любімай дачкі. Не перапыняючы інтымнага працэсу, Маша залезла адной рукой у сумачку і дастала тэлефон. Брызін чакаў, чакаў, чакаў, а яна паволі, паволі, паволі падносіла тэлефон да вуха — і нарэшце рыбінай выкруцілася з прасмоленых канатных сецяў.

— Ты чаго так доўга не адказваеш?

— Занятая.

— Чым?

— З неграм цалуюся.

— Дзе?

— У скверы.

— Гэта не найлепшае месца.

— Чаму?.. Нармальнае. Сёння цёпла, негр не мерзне.

— А гэта не найлепшы жарт.

— Бо не жарт, таму і не найлепшы.

— Дык ты не жартуеш?

— Не.

— А інстытут?

— Прагуляла.

— З неграм?

— З неграм. Але ў яго такія белыя зубы — ты б не стрываў, каб не выбіць.

— І ты пры ім так жартуеш?

— Дык ён жа негр…

— Маша!

— Што?

— Кінь свае жарцікі! Дурныя нейкія!

— Усё, кінула.

— І каб я такога не чуў болей!

— Чаго?..

— Таго!

— Чаго таго?.. Ты чаго злуешся?.. Памагчы чым-небудзь?

— Не.

— А чаго звоніш?

— Так. Я проста так і пазваніць ужо не магу?

— Ды ўсё ты можаш… Што з табой такое?

— Нічога.

— Ты дзе?

— Нідзе.

— Ты дома?.. На рабоце?..

— Ты калі з інстытута вернешся? Я ключы згубіў…

Пакуль яны размаўлялі, негр не губляў дарма часу, цёрся шчакою аб шчаку Машы, цягнуўся да яе з пацалункамі, яна адпіхвала яго — і ўрэшце такая некамфортная сітуацыя негру абрыдла, ён падняўся і танцуючай жырафай падаўся па скверы. Брызіна чамусьці гэта ўскрыўдзіла.

— Алё, — усур'ёз устрывожаная, гукнулася праз паўзу Маша, абыякава зірнуўшы на экзатычны танец жырафы. — Ключы табе Таісія пакінула… Але дзе ты?

— У Сініцына.

— І што ён табе сказаў?

— Ён сказаў, каб я табе сказаў, а ты свайму негру сказала, што я белыя зубы ягоныя на белым сподачку пералічу.

— Ты не ў Сініцына.

— Я не ў Сініцына.

— Дык дзе ты і што з табой?

— Я ж табе сказаў: я нідзе. І нічога са мной…

Убачыўшы, што Маша пачала азірацца, Брызін адключыў тэлефон і з аркі каля Саюза кампазітараў, адкуль шпіёніў ён за ўласнай дачкой, нырнуў у старыя двары і падаўся імі далей да Нямігі, дзе быў ягоны офіс, а за офісам і гараж. Пара было колы займець ды ў Прагу ехаць, бо дзень пераваліваў на другую палову.

Маша ніколі не маніла. Ні яму, ні каму б там ні было. Не тое, каб яна не ўмела казаць няпраўду, іншым разам любімая дачка любімага бацькі такое выдумляла, што вушы вялі, але тое былі фантазіі, якіяляталі над побытам і не тычыліся штодзённых узаемаадносін са сваімі і чужымі людзьмі. «Без маны ў жыцці болей адбываецца ўсяго астатняга», — пераканана казала Маша, не ўдаючыся ў падрабязныя тлумачэнні таго, што мела на ўвазе, і што ўяўлялася ёй цалкам зразумелым без каментарыяў.

У Брызіне гэтая якасць натуры дачкі выклікала, з аднаго боку, бацькоўскі гонар, а з другога — чалавечы жаль, бо сам ён па натуры быў закончаны манюка, з усіх бакоў перакананы ў тым, што не надурыш — не пражывеш. Таму будучыня дачкі, якая не разумела і не хацела разумець гэтую жыццёвую мудрасць, шмат у чым уяўлялася яму небяспечнай, трывожыла яго і непакоіла. Казаць пра гэта наўпрост было нязручна, дзяцей усё-ткі трэба вучыць найлепшаму, перадаваць ім найшляхетнае з таго, што ў сабе маеш, але папярэдзіць дачку і перасцерагчы Брызіну карцела, і ён раз ад разу карыстаўся дзеля гэтага туманнымі намёкамі на відавочныя няўдачы праўдалюбцаў, якія заміналі сваёй праўдаю жыць і сабе, і іншым, і ўрэшце трэскамі знікалі ў каламутным віры жыцця. Але Маша нават гэтак закамуфляваных ягоных хітрыкаў аднойчы не вытрывала — і недзе з паўгода назад зусім не з той вольна-сяброўскай інтанацыяй, якая неяк сама сабой для размоў паміж імі выбралася, а адчужана і нават раздражнёна спытала:

— Ты што туману напускаеш, продак?.. Маніць я і без цябе навучуся, калі захачу. Але я не хачу, разумееш? Магу я жыць і не хацець маніць? Гэтаксама, як ты жывеш і не маніць не хочаш?

— Можаш, — разгубіўся і пакрыўдзіўся Брызін, — ды я і не збіраюся вучыць цябе маніць, з чаго ты гэта ўзяла? Проста ў мяне большы вопыт, і я хачу, каб ты яго хоць неяк скарыстала. Ну, хоць бы не збівала лоб да крыві там, дзе можна сіняком абысціся.

— Вопыт?.. Які ты маеш вопыт? Калі гэта ты сказаў праўду і за тое паплаціўся? Пры мне такога не было — і ў сямейным архіве такое не зафіксавана.

— Ты хочаш сказаць, што твой бацька лгун? — не стрывала ўжо ў Брызіне крыўда.

— Давай без крыўды, — сказала Маша. — Я ж не крыўдую на цябе за тое, што ты такі, які ёсць. Я цябе такім і люблю, хоць іншым разам…

— Што іншым разам?.. Ты дагаворвай, дагаворвай, — канчаткова ўжо заняў акоп несправядліва пакрыўджанага Брызін.

— Не разумею, як ты не разумееш… Маніць — гэта значыць потым пераманьваць і пераманьваць, а ўрэшце ўсё адно выйдзе не лепш і не горш за праўду. Дык нашто ісці да таго, што павінна быць, не напрасткі, а кружнымі шляхамі?

— Хоць бы для таго, каб выйграць час, — адчуваючы несумненную перавагу ў вопыце, рэзанёрскім тонам адказаў Брызін.

— І шмат ты яго, згубіўшы на кругі, выйграў? Што вы ўсе з гэтага выйгралі?

— Хто мы ўсе?

— Ты, Сініцын, тваё пакаленне, старэйшае?.. Вось вы ківаеце зараз на камсамол, на партыю, на савецкую ўладу — усе вас падманвалі! А хто быў у камсамоле, у партыі, у савецкай уладзе? Не вы?.. Вы ж манілі насустрач адзін аднаму — і ў тым ядналіся. Вы разам з’ілгалі ўсе на свеце, перавярнулі нармальнае чалавечае жыццё з ног на галаву. Каб не гэта, дык і савецкая ўлада была б не горшай ад іншых. Ва ўсякім разе не горшай за цяперашнюю, на вяршынях якой вашы чэмпіёны — манюкі з манюк. І вам крыўдна не з іх ілгунскай улады, а з таго, што яны раней за вас туды паспелі. І вы ўнізе бегаеце і пагаўкваеце, бо маніць манілі і маніце, а паспець не паспелі і не паспяваеце.

— Калі гэты ты палітыкай пачала займацца?

— Ды не палітыкай я займаюся, а жыццём. Высакародным відам спорту.

Апошняй яе фразы Брызін і тады не зразумеў, і потым яна да яго не дайшла… Новае пакаленне.

Праходзячы піўнуху на Нямізе, Брызін прыпыніўся і спытаў у самога сябе: «Андрэй, ты хочаш кульнуць куфель піва? Толькі адразу праўду кажы, ідзі да піва наўпрост, а не кружнымі шляхамі». І Андрэй адказаў Брызіну: «Хачу. А калі давядзецца за рулём ехаць і з якім-небудзь срулём з палкай разбірацца, дык ты, Брызін, мяне адмажаш. І пайшло яно ўсё на фіг».

Зрэшты, можна было абысціся і без такога складанага ўнутранага дыялога, бо з піўнухі выскачыў з недапітым куфлем Савелій Рудзянскі і вольнай рукой ляпнуў Брызіна па плячы:

— Брыза, прастаўляй піва, бураціна! Я твайму Бегунку кульгавага Юрыка на тваю тачку падсеяў, без мяне ён фіг бы яго ўгаварыў!

— Бегунок тут быў?

— Тут. З пілой.

— Якой пілой?

— Бензінавай. Прыпёрся ў піўную з пілой — цырк. Ударнік лесапавалу.

— Даўно?

— Ды мінут пяць, як пайшлі. Ну, можа, дзесяць, — удакладніў Савелій, глянуўшы на недапіты куфель. — Не болей.

Выходзіла, што спяшацца не было куды: работы з замком і ключамі хопіць гадзіны на дзве нават для кульгавага Юрыка. А калі ён пад мухай, дык і на дзве з мухамі.

— Яны пілі?

— Не, бочку пілавалі. Ты як спытаеш…

— Ладна, пайшлі. Прастаўляю.

У піўной было не густа і не пуста. Апроч яго ды Савелія, два адасобленыя інтэлігенты, адзін з якіх, у акулярах, старанна разбіраў на газеціне залацістага ляшча, а другі, са слядамі акуляраў на пераноссі, аблізваючыся, чакаў; задуменны з відавочна маштабнага, не меншага ад брызінскага, перапою, трохі чужаваты тут у сваёй форме міліцэйскі маёр, а яшчэ напаўзнаёмы мужык Віталік, спіты былы хакеіст са сваёю высокай і нейкай пустэльна сумнай чарговай сяброўкай.

— Брыза! — радасна раскінуў рукі насустрач Брызіну і паплыў ад высокай сяброўкі амаль роўны з піўной стойкай Віталік. — Глядзі, якую я ўчора кроквіну адарваў! І ведаеш, як яе завуць? Капіталінай!.. Клянуся, я ў пашпарце бачыў! Хочаш, напалам яе распілуем? Тут і Бегунок твой недзе з пілой… Табе якую палавіну? Верхнюю — дык за куфель, ніжнюю — дык за два.

— Ты з ім п’еш? — спытаў Брызін Савелія.

— Я п’ю толькі з тымі, хто прастаўляе, — адказаў Савелій, з чаго вынікала, што піць тут яму, апроч як з Брызіным, няма з кім. Хоць глядзі ў акулярах, хоць без.

— Лізавета, ты не паверыш, але я без грошай, — абышоўшы Віталіка і ніжнюю палавіну ягонай сяброўкі, павітаўся Брызін з буфетчыцай.

— Каму ж тады верыць, калі не табе, — без асаблівай ветлівасці, але са згодай кіўнула буфетчыца, якой і піва, і піўная, і півасосы, і ўсё чыста ў яе жыцці каля піўной бочкі даўно апаскудзела. — Усіх паіць будзеш ці толькі Саву?

— А хто яны мне, каб іх паіць? — спытаў Брызін, аглядаючы выпадковы піўны калектыў.

— Мінулым разам, значыць, тут былі адны браты твае ды сёстры, — сказала Лізавета, наліваючы піва.

— Ну,— сказаў Брызін. — Былі і ўсе памерлі.

— Шкада, — сказала Лізавета. — Столькі народу…

Яны ўзялі з Савеліем па піву і адышліся да самай дальняй стойкі, выбраўшы ў суседзі інтэлігентаў з ляшчом. Тыя неза-

даволена на іх зыркнулі, бо вольных стаякоў паўсюль хапала, але нічога, паколькі інтэлігентныя, не сказалі.

— Што, так і будзем піва піць? — недаўменна спытаў Савелій. — А разбавіцель?

— Ліза пабаіцца, — кіўнуў Брызін на маёра.

— Каго пабаіцца? Яроху?.. Ды яго самога не сёння — заўтра выпруць з міліцыі за п’янку. Жонка ўжо выперла.

— Ладна, ідзі далівай, — махнуў рукой Брызін. — Толькі мне піпетку, не болей.

Савелій узяў куфлі, адсёрбнуў з кожнага па глытку з пенай, вярнуўся да Лізаветы і тая, не хаваючыся, даліла ў піва гарэлкі.

— Лізавета, і мне, — ікнуў маёр, які, аказалася, і ў задуменні ўсё бачыў.

— Ішоў бы ты дамоў, Ярохін, — спагадліва сказала буфетчыца, якая прафесійна не любіла міліцыянтаў, але традыцыйна паважала форму і пагоны. — Прападзеш тут — і ніхто табе не паможа.

— Я памагу, — адазваўся Віталік. — Маёр, хочаш палавіну Капіталіны?

— Эх, Віталік, — уздыхнуў маёр. — А якую васкрэсенскаму «Хіміку» шайбіну закаціў… Ад варотаў да варотаў…

— Ты помніш? — устрапянуўся Віталік. — Ты помніш, Ярохін? — І гэтак жа раптам, як і ўстрапянуўся, абмяк. — Мала хто помніць…

Брызін выпіў куфель піва ледзь не адным глытком — так хацелася.

— А кузбаскаму «Металургу», — доўжыў успаміны Ярохін. — Эх, Віталік…

— Выбачайце, а як ваша прозвішча, — павярнуўся да Віталіка інтэлігент у акулярах.

— Акуляры здымі, — сказаў Віталік.

— «Профессор, снимите очки-велосипед…» — працытаваў маёр Ярохін.

— Маякоўскі, — сказала Капіталіна, і зусім нечакана ў яе аказаўся глыбокі і чысты, са срэбным адлівам голас.

— О, — сказаў Віталік. — О, голас!.. Не, мужыкі, верхняя частка — таксама два куфлі.

— І не абрыдла табе? — сумна спытала срэбраным голасам Капіталіна.

— З мяне чатыры куфлі за абедзве часткі, — раптам сказаў інтэлігент без акуляраў, але са слядамі ад іх. — І кіньце выcту-

паць у другой раённай лізе. Калі вы думаеце, што гэта смешна, дык не.

— А я вас ведаю, — пустэльна ўсміхнулася яму Капіталіна. — Вы таксама паэт.

— Але не Маякоўскі, — сказаў маёр Ярохін. — Куды яму да Маякоўскага… Ку-ды яму да Віталіка… Куды яму наогул…

— Да задніцы мне, смешна табе, ці не смешна, — грозненька прыстукнуў напаўпустым куфлем Віталік.

— Цыц! — цыкнуў маёр. — Не замінаць працэсу!

У Брызіне — ці з таго, што завёўся на старых дражджах, ці з таго, што набраў абароты на разбавіцелі — працэс пайшоў інтэнсіўна: зашумеў у галаве прасторны вецер, закалыхаліся, пакаціліся адна другой наўздагон цёплыя хвалі.

— Лізавета, — шчоўкнуў пальцамі над галавой Брызін, — піва! Усім! А хто хоча — з разбавіцелем.

— Мне асобна, — сказаў маёр Ярохін. — Непрафесійны ў вас да п’янкі падыход, з таго і ўсе вашы праблемы.

— Браты ўваскрэслі? — спыталася Лізавета.

— І сястра, — адказаў Брызін, зірнуўшы ў тую пустэльную далеч, у якую ўглядалася Капіталіна.

На парозе піўной з’явіліся два чужыя інтэлігенты, у нечым падобныя да сваіх, але маёр Ярохін, мусібыць, вырашыў, што іх тады будзе занадта, і шугануў новенькіх:

— Рэвізія!

Інтэлігентаў прасторным ветрам змяло.

— Зачыні дзверы, Савелій! — загадаў Ярохін. — Са сваімі пабудзем.

— Я вам зачыню! — крыкнула Лізавета. — У мяне план, а ў вас тут на ўсіх — адзін Брызін у доўг!

Усе, апроч інтэлігента-паэта, які нарваўся на канфлікт з Віталікам і праз тое пагардліва адвярнуўся ад ягонай кампаніі, паглядзелі на Брызіна.

— Сава, ты ў якім званні? — спытаў Брызін.

— Не магу знаць. Даўно ў ваенкамаце не піў.

— Але не маёр?

— Ты што!.. Мне столькі не выпіць. Ад сілы — старшы лейтэнант.

— Дык выконвайце загад маёра, старшы лейтэнант!

Савелій пацiснуў плячыма, падышоў да дзвярэй і накінуў на абедзве ручкі металічную скабу, якая вісела на глухой дзвярной палове, прывязаная шпагатам.

— А то распусціліся, — буркнуў Ярохін. — Прэзідэнт ім не прэзідэнт, маёр ім не маёр…

— Здымі, я табе сказала! — крыкнула Лізавета.

— Ты якую ўчора касу здала? — спытаў Брызін.

— Чатыры семсот!

— З мяне пяць. І можаш не здаваць…

Лізавета моўчкі стала наліваць піва.

У куток да інтэлігентаў, які не праглядваўся з вуліцы, Савелій з Брызіным падцягнулі стойкі маёра і Віталіка з Капіталінай, аб'яднаўшы кампанію гэтым простым дзеяннем і ў часе, і ў прасторы. Ніяк і ні з кім не яднаўся напачатку толькі прыціснуты да сцяны паэт. Ён грэбліва адсунуў ад сябе пададзены Лізаветай куфель, але сябрук ягоны спытаў з мяккім дакорам: «Ты што, Валодзя?..» — і паэт зразумеў, што можа папасці пад таварыскі суд за адрыў ад народа. «Нам што, Лёня, больш няма чаго рабіць, як з імі піць?» — паспрабаваў ён яшчэ ашчэрыцца, як воўк за сцяжкамі, але ў сітуацыі безвыходнай дружбы вымушаны быў падціснуць хвост і здацца, што і прадэманстраваў, пасунуўшы да сярэдзіны кампаніі ляшча на газеце.

— Гарэлку даваць? — спытала Лізавета.

— Даваць! — першым сказаў паэт, каб пра яго ўжо чорт ведае што не падумалі.

— О, — сказаў Віталік. — А то паэт, паэт!.. Я таксама шайбу ганяў.

— За дружбу! За сапраўдную мужчынскую дружбу! — падняў куфель Брызін.

— І жаночую, — сказала Капіталіна.

— І жаночую, — згадзіўся Брызін. — Лізавета, ідзі да нас!

— Я сама з сабой падружкуюся, — запаліла цыгарэту Лізавета. — А гарэлкі ў вас на дружбу толькі пляшка засталася, у мяне больш няма.

— Я збегаю? — адразу прапанаваў Савелій.

— Ды пачакай ты, — выпіўшы, паморшчыўся Брызін. — Ты лепей скажы што-небудзь.

— А што? — пацісныў плячыма Савелій. — Мне няма чаго сказаць, я не паэт.

— Хай паэт скажа, — дапамог Савелію маёр Ярохін. — Даўно я паэтаў не слухаў, ад вайны…

— Ад якой вайны? — не зразумеў Брызін, але Ярохін, відаць, забыўся, ад якой, і прамаўчаў.

— Я пачакаю, пакуль ён успомніць, — неяк усё ж не па-сяброўску сказаў паэт Валодзя.

— Тады я за Савелія скажу, — дацягнуў сваё да сябе Брызін. — Сказаць, Савелій?

— Кажы сабе, мне што, абы не я, — зноў пацiснуў плячыма Савелiй, якi пацiскаў плячыма ў адказ на ўсё, што б яму нi сказалi, нiбы нiчога падобнага раней не чуў i нават не ўяўляў, што такое можа быць у свеце.

— Во-во, абы не я i хата не мая, з гэтага i пачнём, — падхапiў ягоныя апошнiя словы Брызiн. — Якраз па гэтым прынцыпе жыў i жыве ўвесь час, колькi я з iм знаёмы, грамадзянiн Савелiй Рудзянскi па мянушцы Сава. Мянушку гэтую яму яшчэ ў школе далi — i зусiм не па сугуччы з iменем, як павярхоўна i паспешлiва можна падумаць. Справа ў тым, што Савелiй, хоць i не насiў нiколi акуляры, — прыжмурыўся Брызiн на сябра паэта Лёню, — але з маленства кепска бачыў. Выбарачна, так скажам, кепска… Чытаць чытаў, пiсаў лiнейка ў лiнейку, аднак iншым разам проста слеп. Засцiла яму… Ну, скажам, не мог разабраць, у форме перад iм маёр Ярохiн цi без формы… I аднойчы ён не ўбачыў, як два п’яныя мянты збiлi на матацыкле ягоную аднакласнiцу Машу, якую ён праводзiў са школьных танцулькаў дахаты. Побач быў, а не ўбачыў… Сказаў, што яны iшлi з Машай па розных баках вулiцы. Ну, можа, i так, але ж па розных баках адной i той жа вулiцы. Калi Маша памерла ў бальнiцы i абласны горад, дзе яны жылi, забурлiў, хоць не надта бурлiць i дазваляласся, нейкi на дзiва прынцыповы следчы прыцiснуў Саву — i Сава даў паказаннi… Сказаў, як яно было: што так, што сапраўды збiлi мiлiцыянты, якiя запалохалi не гэтак яго, як ягонага бацьку, таму ён i маўчаў. А на судзе Сава ад сваiх паказанняў адмовiўся, сказаўшы на гэты раз, што яго застрашыў следчы. Да таго ж нешта праяснiлася ў ягоных вачах — i ён дакладна ўспомнiў, што тыя матацыклiсты былi не ў мiлiцэйскай форме, а ў камбiнезонах, якiя з ягоным дэфектыўным, то прападаючым, то вяртаючымся зрокам можна было прыняць i за форму… У вынiку судзiлi i прыгаварылi да вышкi двух рабочых малаказавода, якiя, як на грэх, п’янымi папалiся перад тым мянтам са скрыняй скрадзенага масла ў люльцы матацыкла. На iх жа навесiлi яшчэ i нашумелае згвалтаванне з забойствам, якое доўга вiсела ў мянтоў нераскрытае… А самае ва ўсiм гэтым цiкавае тое, што Сава i на следстве, i на судзе iх апазнаў!

— Ты што, Брыза? — даўно ўжо гледзячы на Брызiна ў мiтуслiвым неразуменнi, падняў плечы i разведзеныя рукi Савелiй — i так i застаўся стаяць. — Ты што гародзiш? Гэта ж усё пра цябе, а не пра мяне…

— Калi б гэта ты расказаў, — ткнуў у яго пальцам Брызiн, — дык было б пра мяне. А я расказаў пра цябе. I першым, што ўсе

тут чулі, я табе сказаць прапаноўваў. Так што без прэтэнзій, Сава.

— Як без прэтэнзій, калі мяне там нідзе не было?

— А дзе ты быў?.. Дзе ты быў, калі дырэктар школы на лінейцы — на лінейцы! пры ўсёй школе! — Толю Самусенку мёртвымі галубамі па твары лупіў? Нібыта гэта Толя, які гэтых галубоў падкормліваў, іх жа і пазабіваў! А гэта п'яны фізрук з біялагічкай на гарышчы трахаўся і галубам галовы паадкручваў, каб не лёталі і не какалі! І ты адзін гэта бачыў, і адзін гэта ведаў, і аднаму мне пра гэта расказаў, а стаяў на лінейцы, глядзеў на бычыную морду фізрука, калаціўся і маўчаў! І Толю са школы выперлі, і ён сышоў з дому, і прапаў, і з той пары ніхто і не ведае, дзе ён і ці жывы! Нідзе цябе не было?.. Скуль жа ты ўзяўся, каб мне па плячы ляпаць: «Брыза, бурацiна, прастаўляй!..»

Брызін рвануў да сябе куфель, расплюхаў піва па стале, рукавом выцер. Піць не стаў, нервова пастукваў, гледзячы ў куфель, пазногцямі па шкле. Кампанія няўтульна маўчала.

— Бывае, — сказаў нарэшце маёр Ярохін.

— У нашым доме, — успомніў, пазяхаючы, Віталік, — адзін мужык таксама нараніцы прачнуўся, а ўвечары павесіўся.

— Для чаго вы гэта расказалі?.. Ды яшчэ пад тост за дружбу? — спытаў паэт Валодзя.

— Скуль я ведаю?.. — зацягнуўся Брызін амаль дапаленай цыгарэтай, якую ўзяў з губ усё яшчэ нерухомага Савелія. — А нашто наогул нешта расказваюць? Каб цікава было.

— Такое не расказваюць малазнаёмым людзям…

— А знаёмым тым больш! — падаўся, перакуліўшы куфель, Брызін да Валодзі. — Дык каму расказваць? Каму сказаць, што ты скаціна? Каму прызнацца?.. Дачцэ? А як пасля ў вочы ёй глядзець?.. Маёр, — зноў выцер Брызін рукавом стойку, — ты б расказаў сваёй дачцэ, што спаў сёння з курвай толькі для таго, каб яна твайго сябра надурыла? Грошы дапамагла з яго выдраць? Расказаў бы?..

— Я бяздзетны, — адказаў Ярохін. — Мая сям'я — мая міліцыя.

— А жонка? — з'едліва здзівілася Лізавета. — Чаму вамі, мужыкамі, жонкі ў сем'і не ўключаюцца?

— Жонкі — гэта ўнутраныя войскі, — прыкінуўшы нешта сам у сабе, сказаў маёр Ярохін.

— Вы ўсё самі пра сябе прыдумалі?— дапамагаючы Брызіну дачысціцца, пустэльна спытала Капіталіна. — Але для чаго?

— Прыдумваць — гэта па ягоным ведамстве, — кіўнуў Брызін на паэта Валодзю. — Прыдумай што-небудзь, эй, паэт?.. Вясёлае, а то сумна ўсё…

— Ды нічога ён, падла, не прыдумаў, толькі ўсё наадварот… — яшчэ вышэй падняў плечы Савелій, але маёр Ярохін паклаў на іх свае рукі, ціскануў уніз — і плечы ў Савелія зламана павіслі разам з рукамі, як у драўлянай лялькі.

— Цыц! — сказаў маёр Ярохін. — Праехалі. Я вам не такое расказаць магу.

— Дык раскажы, — прапанаваў Брызін. — Твой тост. Даўно не слухаў маёраў…

— Значыць, даўно не сядзеў, — сказаў Ярохін. — У мяне, дарэчы, брата пасадзілі, з чаго я і запіў… Ад бяссілля… Па ранейшых часах я б яго ім не аддаў, а цяпер…

— Каму ім? — спытаў Брызін.

— А ты думаеш, у міліцыі ўсе свае?.. Хрэна. Я да міністра дайшоў, а ён мне: на кантролі ў прэзідэнта, чысціня мундзіра, тралі-валі, панёс фіговіну.

— Дык твой брат таксама мент? — спытаў Віталік, які ўжо, здавалася, стоячы спаў пад пахай у Капіталіны.

— І брат мент, і бацька, і ўсе мы мянты, — абвёўшы кампанію задуменным позіркам, сказаў маёр Ярохін.

— А давайце вып’ем за жанчын, — падняў куфель Лёня, сябар паэта Валодзі. — Капіталіна, у вас такі цудоўны голас вольнай пустэльнай птушкі — вам трэба на сцэну. Там вам будуць дарыць астры — і вы будзеце спяваць у гэтай бясконцай прасторы, дзе чалавек ад чалавека так далёка-далёка, што ніхто адзін аднаго не чуе, як ні стараецца дагукацца. Бо гукаемся мы не з тым, што найлепшае ў нашай душы, а лезем адзін да аднаго з брудам, брыдотай — і праз тое адзін аднаго асцерагаемся і баімся. Ёсць у кожнай чалавечай душы і цёмныя завулкі, не без таго, але чаму мы не ходзім па светлых? А толькі таму, што часцей падаем, чым уздымаемся, бо падаць лягчэй… Часцей ненавідзім, чым кахаем, бо ненавідзець прасцей… І мы аддаёмся найлёгкаму і найпростаму, здабываем сабе дабрабыт, грошы, славу, святкуем свае перамогі, а побач з намі плачуць жанчыны… Я хачу выпіць за тое, каб яны не плакалі ў золаце, а спявалі ў кветках і ў каханні. За вас, Капіталіна! За вас, Елізавета Аркадзьеўна! За жанчын, за каханне і кветкі!

— Ох, Лёня!.. — уздыхнула, шмыгнуўшы носам, Лізавета. — Першы б раз я цябе чула…

— Прыгожа, — пацёр лоб даланёю Брызін, які, слухаючы тост Лёні, згадаў і Машу, якой трэба было б пазваніць, каб не

непакоілася, і Таісію, якой трэба было б сказаць, каб вярталася, і курву Нінэль, якая не такая ўжо курва… — А ты хто будзеш?

— Таксама паэт, — сказаў Валодзя неяк глуха і з хрыпатцой.

Лёня ўзяўся быў за ляшча, смакуючы яго гэтак жа інтэлігентна, як толькі што казаў тост. Але інтанацыя Валодзі, які відавочна пазайздросціў таму, што калега ягоны паспеў, мяркуючы па Капіталіне, якраз туды, куды збіраўся паспець ён сам, змусіла Лёню развіваць поспех.

— Я што вам, ды не вам, усім нам хацеў сказаць?.. Як адна толькі жанчына магла нас нарадзіць, вымаліць любоўю з небыцця, так адна толькі жанчына можа нас і ўратаваць, засланіць любоўю ад смерці. Для кахання смерці няма, сам Бог гукае нас галасамі закаханых. І мне да слёз і болю шкада, што вось мы ўсе тут нібыта разам, блізка — і ні Бога, ні адзін аднаго не чуем, а я так хацеў бы хоць некага з вас пачуць. Няхай сабе пакуль яшчэ ціха, здалёку, як зорка зорцы голас падае…

— Ку-ку, — падаў голас Віталік, выпадаючы пад стойку з-пад пахі Капіталіны, якая кінула кантраляваць і ахоўваць ягоны стаячы сон, усёй сваёй самотнай пустэчаю пацягнуўшыся да лятучага Лёнінага міражу.

— Гарэлкі! З ляшчом! — гукнуў з-пад стойкі Віталік.

— Лешч сваё адплаваў, а ты сваё адпіў, — сказаў Брызін, падымаючы Віталіка за каршэнь і засоўваючы яго пад паху Капіталіны. — Што ён у цябе падае?.. Эй, ты чаго спіш? Эй, Віталік?

— Для Капіталіны сплю, — сказаў Віталік.

— Не хвалюйцеся, не паб’ецца, — з аднолькавай абыякавасцю і да Віталіка, і да Брызіна, і да ўсіх астатніх, апроч Лёні, сказала Капіталіна. І ўсім была абыякавай яе абыякавасць, апроч паэта Валодзі, які глянуў на Капіталіну, як на птушку, што выблыталася з сіла, нервова наліў паўшклянкі гарэлкі і адзін выпіў. Лёня на гэты час ад яго адвярнуўся і пераможна паслаў Капіталіне паветраны пацалунак. «Глядзі ты, — падумаў Брызін, — і ў гадах мужыкі, а якія страсці… Цікавы народ гэтыя паэты. Нінэль ім падсеяць, ці што?..»

Ён зірнуў на гадзіннік: дзве гадзіны праляцелі, як імгненне, вось што значыць кампанія. Успомніў, што Маша, мусібыць, хвалюецца, дзе гэта ён адключыўся і прапаў, уключыў тэлефон — і той адразу зазваніў сустрэчна. Але гэта была не Маша.

— Андрэй, — заўхліпвала курва Нінэль, — Сініцын звар’яцеў… Ён адчуў, што я была з табой, узняў скандал, і я сказала,

што ты ўзяў мяне сілай… Ён як шалёны выскачыў забіваць цябе, нож са стала схапіў, я баюся… Яму штыфт у сківіцу забівалі, замарозка пачала адыходзіць…Ты не чапай яго, ён жа ні ў чым не вінаваты…

— Нічога я яму не зраблю, — сказаў Брызін, — няхай забівае. Канчай хліпаць.

— Ага, — хліпнула Нінэль, — табе добра…

— Мне добра. Даўно ён пабег мяне забіваць?

— З паўгадзіны… Можа, болей… Ці меней…

— Што ж ты раней не пазваніла?

— Я званіла, ты ж адключаны…

— Адключышся тут, як жа,— сказаў Брызін ужо не ў тэлефон. — Ну што, народ?.. Хто хоча паглядзець, як мяне забіваць будуць?.. Ніхто?.. А я б паглядзеў, бо сам даўно не бачыў… Шкада вас пакідаць, харошая вы кампанія — мянты, паэты, хакеісты… Не кожны раз такую збярэш. Карацей, мне пара ісці, а ў гаражы ў мяне мора каньяку. Адборнага, крадзенага. Армяне яго ў Арменіі крадуць, я тут яго прадаю — і з таго багаты. Так што тых, каму не смярдзіць каньяк клапамі, запрашаю. Гэта побач, ніякіх затрат на транспарт.

— Як гэта маёр міліцыі крадзены каньяк будзе піць? — спытаў маёр Ярохін. — Дзе логіка?

— Глыбіннае пытанне, — сказаў Брызін. — За каньяком у гаражы і абмяркуем. Туды да нас вялікія логікі павінны пад’ехаць, калі ўжо не пад’ехалі…

Пайшлі не ўсе. Не пайшоў Савелій, які пасля таго, як маёр Ярохін абламіў яму плечы з рукамі, аднёс сваё піва на ранейшую сваю стойку і дэманстратыўна піў яго спінай да кампаніі, і не пайшоў паэт Валодзя, якому, мусіць, без патрэбы быў каньяк без Капіталіны, няхай яго п’юць з ёй былыя сябры. Паміж паэтамі прабегла кошка, якая паспрабавала яшчэ вызваліцца і ад Віталіка, пакінуўшы спаць яго для Лізаветы, але тая катэгарычна запратэставала: «Забірай сваю клюшку, я зачыняцца буду!» — і Капіталіне давялося пакінуць Віталіка каля сябе на прыгрэтым месцы. «Куды яго?.. Можа, я адвяду?» — прапанаваў Капіталіне свае паслугі Лёня, але Віталік з-пад прыгрэтай пахі Капіталіны паказаў яму дулю, і на Лёніным твары самотна заблукала сумненне ў тым, ці правільна ён выбраў паміж сяброўствам і каханнем.

— А ў вас як, у паэтаў? — спытаўся ў Лёні па дарозе Брызін. — Заўсёды кажуць па-прыгожаму ці іншым разам і па праўдзе?.. Ты вось па праўдзе хоць раз сказаў што-небудзь?

— У паэтаў няма няпраўды, — адказаў Лёня. — Усё, што яны кажуць, — праўда.

Брызін нават спыніўся.

— І як гэта выходзіць?

— Прыкладна так, як выйшла ў вас сёння… Вы нам і манілі — і ў той жа час казалі праўду. Пацягнула?..

— Адцягнуўся я на вас, — рушыў далей Брызін. — Знайшлі ў піўной месца, дзе праўду слухаць.

— Дык у царкву не ходзім, — сказаў Лёня, бо яны якраз праходзілі міма царквы.

Брызін паспрабаваў успомніць, калі ён сам апошнім часам заходзіў у царкву, і не ўспомніў. Пакуль жывая была маці, яна званіла яму і на Вялікдзень, і на Каляды, змушала схадзіць паслухаць службу і памаліцца. Служба Брызіна стамляла, ніякай малітвы, апроч «Отча наш…» да паловы, ён не ведаў, таму ставіў свечкі, з гадамі ўсё таўсцейшыя і даражэйшыя, бо багацеў, і сыходзіў. Аднойчы, калі прастудзілася і цяжка захварэла на запаленне лёгкіх тады яшчэ зусім малая Маша, ён пайшоў да царквы на Хрышчэнне, каб набраць вады, — маці пазваніла і сказала, што вада паможа… Каля царквы ён убачыў дзядка, які, паслізнуўшыся, нерухома ляжаў на лёдзе, і ніхто не дапамагаў яму ўстаць, ніхто не схіляўся нават глянуць, ці жывы… Усе душыліся за той вадой, нібы яна вось-вось скончыцца, адпіхваючы адзін аднаго ад звычайнай, падключанай да водаправода, трубы. І Брызін тады ўпершыню падумаў, што не толькі ён, а ўсе гэтыя людзі — ніякія не хрысціяне. Яны паганцы, сутнасць веры якіх на Хрышчэнне — вада, таксама як на Купалле — агонь. І свечкі ў царкве людзі гэтыя ставяць, бо свечкі — агонь. «А людцы! А што ж вы робіце!» — загаласіла нарэшце нейкая цётка, якая патузала нерухомага дзядка і падумала, што той памёр. Дзядок, дзякуй Богу, ачомаўся, толькі, здорава страсянуўшыся, не мог стаяць на нагах і, пакуль Брызін вёз яго да бальніцы, усё шкадаваў, што не дасталося яму вады. Брызін прапанаваў сваю, але дзядок не ўзяў. «Не, — сказаў, — яна памагае, як сам набярэш. Я ўсё жыццё да царквы прахадзіў, ведаю…» Ну, хіба не паганец?..

Але Машы вада сапраўды памагла — вось табе і водаправод. Хоць, калі б згадзіўся ўзяць дзядок у Брызіна тую ваду, дык што б — Маша памерла?.. Усё гэта выпадак, гульні жыцця. Высакароднага віду спорту, як кажа Маша. Трэба пра гэта падумаць.

Ён назваў дачку Машай на ўспамін пра сваё першае каханне — тую дзяўчынку, пра якую для сябе самога нечакана расказаў

сёння ў піўной кампаніі. Расказаў амаль так, як яно было, хоць было яшчэ страшней. Калі тых двух рабочых з малаказавода асудзілі на смерць, у хату Брызіных прыйшла маці аднаго з іх, якая паўдня размаўляла з маці Андрэя, і ўрэшце яны паставілі яго перад абразом і сказалі: «Кляніся перад Богам, што не зманіў. А зманіш зараз, Бог цябе пракляне, і праклён Ягоны будзеш несці і па гэтым, і па тым свеце». І Брызін, у якім не было ўжо нічога, апроч страху і адчаю, прызнаўся, што зманіў. І адразу зразумеў, што прызнаўся дарма, бо маці ягоная сказала: «Тады я цябе перад Богам праклінаю. І не пазбыцца табе майго праклёну, пакуль не замоліш грэх, пакуль Бог не даруе. Ідзі з майго дому, ідзі ад мяне…»

Паўтара года Андрэй пражыў з бацькам, які, як пазней аказалася, быў апошнім гаўнюком, мянтоўскім агентам, пад прымусам якога Андрэй і «апазнаў» на судзе тых двух рабочых… Пасля Брызін з’ехаў вучыцца ў Менск, а з маці болей так і не бачыўся — яна толькі званіла і змушала хадзіць у царкву і маліцца. Іншым разам яшчэ пыталася, як там Маша расце, але да канца жыцця так і не даравала.

З жанчынаю з іменем Маша, з якой пазнаёміў яго Сініцын, ён і ажаніўся. Калі яна, маладая і здаровая, памерла пры родах, дык першае, пра што падумаў Брызін, — пра праклён. Ён запанікаваў, замітусіўся, тросся над дачкой, якую выразалі з мёртвага ўжо цела жонкі, як жабрак не трасецца над апошняй капейчынай і багацей над усім сваім багаццем. У тым, каб хадзіць да царквы і шчыра маліцца, патрэбы ён так і не знайшоў, але і без таго ўсё ў іх было добра; было добра да той пары, пакуль у апошні раз не пазваніла маці і не сказала, што хутка ёй паміраць, і перад смерцю яна б хацела пабачыць унучку. Брызін учапіўся за гэта, у яго ўзнікла нават надзея, што праз Машу пашле яму маці дараванне, не каменнае ж у яе сэрца, але выйшла інакш: трынаццацігадовай Машы, як на споведзі, маці перад смерцю ўсё і пра ўсіх расказала…

Адзіная сустрэча ўнучкі з бабуляй абышлася і для Машы, і для Брызіна дорага. Апроч таго, што гады чатыры між імі нічога не ладзілася (тады Брызін і завёў у доме, як пасярэдніцу, Таісію Арчыбальдаўну), у Машы пачаліся цікозныя сутаргі, перасмыкаліся то мышцы твару, то плячэй — і ўрачы казалі, што гэта вельмі сур’ёзна. Брызін, не шкадуючы грошай, вазіў дачку на блізкія і далёкія курорты, паказваў яе найлепшым дактарам, але гэта мала дапамагала. Можа, і не дапамагло б, калі б клін клінам не выбіла.

Тры гады таму, калі Машы пайшоў семнаццаты, яны на машыне, якой Маша сама ўжо някепска кіравала, паехалі ў Сочы — і ў нейкі дзень падаліся ад мора на горнае возера, вяртаючыся адкуль, прыдумалі павячэраць у прыдарожным рэстаране. Было цудоўнае падарожжа, быў мяккі паўднёвы надвячорак, быў смачны рэстаран з грузінскай кухняй, усё хораша клалася адно да аднаго, і ці не ўпершыню за доўгі час паміж імі пачалася размова большая ад той, калі ён пытаўся: «Як ты сябе пачуваеш?» — і яна адказвала: «Нармальна». З асцярожнай радасцю Брызін убачыў, як Маша ў здзіўленні акругліла вочы і нават хуценька ўсміхнулася, калі перад імі паклалі на стол шашлык на такім шампуры, які без натугі мог раўняцца з добрай казацкай пікай, а на тупы канец шампура была ўздзета да таго ж чырвоная бантавая сурвэтка з надпісам: «Смачна з'есці!»

— Хоць як-небудзь яго б з'есці, — хуценька ўсміхнулася Маша, і тут у дзверы таго прыдарожнага рэстарана, дзе, апроч Брызіна і Машы, вячэралі яшчэ чалавек трыццаць, уварваліся два мужыкі ў чорных масках з пісталетамі ў руках, і адзін з іх адразу бабахнуў у столь:

— На падлогу ўсім! Ляжаць! Грошы і золата перад сабой! Ну!.. — І яшчэ два разы: ба-бах! ба-бах!..

У акругленых вачах Машы здзіўленне змянілася застылым жахам, раней яна бачыла такое толькі ў кіно, ды і Брызіну не здаралася трапляць у такое, і ён не ведаў, што рабіць, але імгненна адчуў, зразумеў, што, калі зараз спаўзе на падлогу, то ўжо ніколі з яе ў акругленых вачах дачкі не падымецца. Таму ён, не зварухнуўшыся, застаўся сядзець, як сядзеў.

— На падлогу, я сказаў! — падскочыў да іх стала той бахальшчык, стаўшы якраз насупраць вострага канца шампура, і Брызін, левым бокам схіляючыся нібыта на падлогу пад стол і надаючы інерцыю целу, правай рукой усадзіў шампур бахальшчыку пад ніз жывата. Мужык скурчыўся, выпусціў пісталет, і Брызін ужо з-пад стала пальнуў з яго ў другога налётчыка, страляць якому, перакрываючы Брызіна, замінаў напарнік. Куля пацэліла другому амаль туды ж, куды першаму шампур, і Арчыбальд, бацька Таісіі, не прамінаў потым выпадку назваць Брызіна «стралком па яйцах».

— Цябе маглі забіць, — першы раз за апошнія гады зусім яшчэ па-дзіцячаму заплакаўшы, сказала Маша, калі пасля тыдня гераічнай гульбы ў гасцях у гаспадара рэстарана, які аб'явіў Брызіна сваім крэўным братам, яны вярталіся ў Мінск.

Брызін зняў з руля правую руку і абняў дачку.

— Не плач… Цябе таксама маглі забіць… Але тады я пра гэта не падумаў. Думаў пра іншае, даруй.

— Нас абодвух маглі забіць!.. — кінулася яму на грудзі Маша. — Ні за што, як тых двух рабочых…

Брызін ледзь утрымаў на дарозе машыну, спыніўся на абочыне і сам, не стрываўшы, заплакаў…

Тыя хвіліны, якія яны разам праплакалі тады ў машыне, дзіўным чынам сталіся ці не самымі шчаслівымі хвілінамі ў ягоным жыцці. Яму было горка і сорамна, балюча, крыўдна, душа вінавацілася перад Машай-каханнем, Машай-жонкай і Машай-дачкой, перад тымі двума рабочымі, перад маці і перад усім светам, але вінавацілася душа не ў безвыходнасці і не ў цемры, як яно раней здаралася, а ў прасвятленні, у пранізлівым адчуванні нескарыстанай высокай сілы, што была ў ім самім, — і ён падумаў, што гэта і ёсць царква, якая заўсёды там, дзе чалавек здольны павініцца ў грахах сваіх, пакаяцца і шчыра памаліцца. Над гарой, пад якой яны стаялі, за нейкае імгненне, як яно бывае на поўдні, сабралася навальніца, заляскалі грамы і засляпілі маланкі, з гары без першых кропляў, адразу зваліўся такі дождж, пад якім аж прысела машына, і пад гэтым дажджом, пад грамамі і маланкамі Андрэй плакаў нязнанымі ім раней слязьмі, якія давалі палёгку, вінаваціўся і маліўся да той пары, пакуль не заўважыў, што Маша на ягоных грудзях спіць, не чуючы грамоў і не бачачы маланак. Калі навальніца гэтак жа нечакана, як і пачалася, скончылася, Брызін перанёс Машу на задняе сядзенне, прыкрыў пледам і ціха паехаў. Ён ціха ехаў, а за ягонай спінай спакойна і роўна дыхала ў сне дачка — амаль суткі… І нічога ў свеце не было страшнага, нічога непапраўнага, усё можна было змяніць і перайначыць да лепшага.

Не адразу пасля гэтага знікла паміж імі адчужанасць, кожны дзень, кожны крок збліжэння даваўся з намаганнямі, але цікі і сутаргі прапалі, як іх і не было, Маша ўсё болей вальнела ў адносінах з Брызіным — і пачало ў іх паціху ладзіцца жыццё. Толькі кожны раз, калі Маша лавіла Брызіна на мане, хоць на самай дробязнай — многае адкідвалася назад. Не абрушвалася, але паўзло…

Каля ягонага гаража стаяў натоўп. Ну, не натоўп, але таўклося на звычайна пустым месцы паўдзесятка чалавек, а непадалёку — міліцэйскія «Жыгулі».

— Гэта не па твой крадзены каньяк прыехалі? — спытаў маёр Ярохін. — Калі па яго, дык наўрад ці вып’ем.

— Ды не, — сказаў Брызін. — З чаго па яго?..

Ён нічога не адчуў, зусім нічога — і пасля з гэтага здзіўляўся.

— Хачу каньяку… Хачу каньяку… Каньяку хачу… — з-пад пахі Капіталіны заныў Віталік, і Лёня раптам сказаў рашуча, ледзь не загадаў:

— Капіталіна, кіньце яго! Нешта ў гэтым жыцці заўсёды трэба кідаць! Нашто вы яго цягаеце?..

Капіталіна, нібыта толькі таго і чакала, адпусціла Віталіка, і той, пахістаўшыся ўзад-уперад, зноў знайшоў раўнавагу і нават паспрабаваў па-хакейнаму крутнуцца на адной назе, што ў яго не выйшла, але ён даволі ўдала і, мусібыць, утульна ўваліўся азадкам у круглую сметніцу, з якой не захацеў выбірацца.

— А я цвярозы… Вам столькі не накідаць, колькі я накідаў…

Міліцэйскія «Жыгулі» бокам перакрывалі машыну з пабітым перадам, і калі, пакінуўшы ў сметніцы Віталіка, яны падышлі бліжэй, Брызін пазнаў у пабітай машыне сініцынскую «Мазду».

«Забіваць ён мяне прыехаў, мудзіла!..» — падумаў Брызін, і тут з гаража выйшаў Бегунок у скрываўленай кашулі, а за ім два міліцыянты, лейтэнант і сяржант.

— Ён нават не прытармазіў… — убачыўшы Брызіна, вінавата развёў рукамі Бегунок. — Яна толькі выязджаць, а ён як ехаў, так і ўляцеў у гараж… І кульгавага Юрыка яшчэ скалечыў…

Брызін схаладзеў.

— Дзе Маша?

— Дык «хуткая» забрала…

— Куды?

— Вы гаспадар? — спытаў лейтэнант, але Брызін адпіхнуў яго і ўскочыў у гараж, з якога несла каньяком, як з бочкі. Ягоны «Масквіч» з задраным капотам і сарваным з крапяжу маторам ляжаў амаль на баку, левымі коламі ў рамонтнай яме, паўсюль пагромна былі раскіданы скрыні, інструменты, бутэлькі, бітае шкло — і Брызін усё зразумеў.

— Куды павезлі?.. — выскачыў ён з гаража.

— Вы гаспадар? — зноў спытаў лейтэнант, і Брызін амаль узмаліўся да маёра Ярохіна:

— Ярохін… Дачка…

— Адвязіце яго! — не зусім упэўненым, але ўсё ж загадным голасам кінуў міліцыянтам Ярохін. — Астатняе бяру на сябе.

Міліцыянты пераміналіся.

— Там левага каньяку паўгаража… — пачаў лейтэнант, але Ярохін ужо рэзка перапыніў яго:

— Ваша справа — дарожна-транспартнае здарэнне. З гэтым высветлілі?

Сяржант дастаў паперы.

— Усё зрабілі і сведкаў перапісалі, таварыш маёр…

— Ну дык і едзьце! А незаконна набыты каньяк грамадзянін Брызін добраахвотна перадае дзяржаве, для чаго і я тут з супрацоўнікамі, — кіўнуў Ярохін на Лёню з Капіталінай. — Гэта ўжо мая справа, зразумела?

— Паехалі, — сказаў сяржанту лейтэнант, і яны пайшлі да машыны, у якую ўслед за Брызіным паспрабаваў сесці Лёня.

— Я з вамі. Вас нельга пакідаць аднаго.

— Ды пайшоў ты! — адштурхнуў яго Брызін і ляснуў дзверцамі.

— Не лупі так, — сядаючы за руль, сказаў сяржант. — Не твае.

— Моцна яе, мужыкі? — спытаў Брызін.

— Мы не дактары, — павярнуўся да яго лейтэнант. — Скуль у цябе каньяку столькі?

— Ды што вы з гэтым каньяком!.. Я вам яго, колькі хочаце, прывязу… Як усё выйшла?

Лейтэнант адвярнуўся, запаліў цыгарэту і стаў глядзець на дарогу. Сяржанту стала ніякавата.

— Мы не бачылі. Са слоў толькі…

— Ну, са слоў…

— Пацярпелая пачала на «Масквічы» выезд з гаража, а пацярпелы на «Маздзе» адкінуў «Масквіч» назад у гараж лабавым ударам… Тры чалавекі ў бальніцы.

— А куды яна ехала?.. Куды яна ехала?..

Сяржант здзіўлена зірнуў на Брызіна ў люстэрка задняга агляду.

— Адкуль нам ведаць?.. Гэта вы ў яе спытайцеся.

Лейтэнант зацягнуўся цыгарэтай.

— Тут крымінал, так што ва ўсім будзем разбірацца. Твой служка кажа, што вырвала ў яго ключы, цябе шукаць хацела. Чакала, чакала, званіла паўсюль… Пры такіх запасах каньяку слабенькая ў цябе машына. Быў бы які «Мерседэс» — лягчэй бы ўсё абышлося. Грошы шкадуеш ці маскіруешся?

Брызін прамаўчаў.

— Маўчыш?.. Ну, памаўчы пакуль… А Ярохін табе хто?

— Ніхто. Хто мне Ярохін?

— Вось і я пытаюся: хто?

— Я ж сказаў, што ніхто. Маёр міліцыі. Вам лепш ведаць.

— Ведаю, хто яго не ведае… Ярохін — легенда. Але былая. Так што дарма ён сюды ўлез.

Брызін, ледзь разумеючы тое, пра што гаворыць з ім лейтэнант, асмеліўся нарэшце спытацца:

— Як яна?.. Жывая?..

У сяржанта да яго было болей спагады, чым у лейтэнанта, і сяржант нават уздыхнуў:

— Забіралі жывую…

Глянуўшы на лейтэнанта, ён уключыў мігалку з сірэнай, і да бальніцы ўжо было не да размоў.

— Заўтра мы цябе выклічам, — каля бальніцы хуткай дапамогі сказаў лейтэнант. — Пра каньяк не забудзься…

«Чаму толькі сюды возяць, на край горада?.. — наўздагад пабег у першыя адчыненыя дзверы Брызін. — Там жа зусім побач бальніца ёсць, Другая Савецкая…»

Пра Машу сказалі, што яна ў аперацыйным пакоі.

— Я нічога ні пра каго не ведаю, — адварочвалася ад яго залатазубая, паўнагрудая сястра. — Тут праз кожныя пяць мінут некага прывозяць, дактароў чакайце.

— Маша… Маша Брызіна… — зазіраў ёй у вочы Брызін. — Ну, дзяўчынка такая, светленькая…

Сястра падпіхнула яго да крэсла.

— Маша, Маша, светленькая… Сядайце і чакайце. Усе ў нас дзяўчынкі светленькія, не Эфіопія ў нас…

Брызін сеў чакаць.

«Што ж сталася?.. Маша-каханне, Маша-жонка і цяпер — Маша-дачка?.. Госпадзі, не!..»

Ён тройчы перахрысціўся.

За ягонай спінай скрыгатнуў ліфт, Брызін павярнуўся — і сутыкнуўся позіркам са спуджаным паглядам Сініцына. На Сініцыне быў гіпсавы ашыйнік. Убачыўшы Брызіна, Сініцын задам засунуўся ў ліфт і зачыніўся. Ліфт зноў скрыгатнуў, Брызін за ліфтам не пабег. Нікуды Сініцын не падзенецца. Сініцына ён пакладзе пад колы, і Маша па ім праедзе.

Значыць, Сініцын ашалела выскачыў ад Нінэль, дагнаў да гаража і думаў, што з гаража выязджае Брызін… Камікадзэ адмарожаны…

Гадзіны праз паўтары дзверы аперацыйнага пакоя адчыніліся, з іх выйшаў худы доктар ростам з Капіталіну. Глянуўшы на Брызіна, які ўскочыў з крэсла, доктар азірнуўся па баках.

— Вы адзін?

Брызін таксама азірнуўся.

— Адзін.

— Гэта добра, — чамусьці сказаў доктар. — Вы каго чакаеце?

— Дачку… Брызіну Машу…

Доктар, нібыта цягнучы час, яшчэ раз спытаў абы-што:

— Дачку?.. Вы бацька?

Брызін, чакаючы, кіўнуў.

— А маці дзе? — зноў азірнуўшыся, спытаў доктар.

— Па… Памерла… — не адразу здолеў прагаварыць Брызін.

Доктар не зразумеў і ўскінуў рукі:

— Не!.. Хоць стан цяжкі. Пераломы, траўмы органаў… Працуе толькі сэрца. Мы зрабілі ўсё, што маглі, але…

— Я магу яе бачыць?

Доктар адмоўна паківаў галавой.

— Яна ў рэанімацыі.

На гэты раз азірнуўся Брызін, паглядзеў на ліфт.

— Як у рэанімацыі?

— Праз другі выхад. Тут два ліфты.

— Доктар…

— Гэта катэгарычна забаронена.

— Доктар, за ўсё… за ўсё, што заўгодна… за любыя грошы…

Гэта доктара не тое, каб раззлавала, але ён стаў нібыта яшчэ худзейшы з твару.

— Паразбагацелі вы, а багатымі быць не ўмееце… Ледзь што — за любыя грошы… Каб за грошы можна было купіць здароўе і доўгае жыццё, вам бы капейчыны не дасталося.

Брызін не ўцяміў, што ён сказаў.

— Чаму?

— Знайшліся б тыя, хто грошы ў вас зубамі б вырваў… Я сам бы рваў.

Да Брызіна дайшло.

— Ну, гэта, хто ў каго… Я зубамі за іх не грызуся.

— Я не пра вас асабіста… — як быццам прабачыўся доктар. — Едзьце да раніцы дахаты, няма вам тут чаго рабіць, толькі змучаецеся… Я ў ноч дзяжурны, так што можаце пакінуць тэлефон.

Брызін таропка, нібы гэта нешта магло значыць, дастаў з апартамента візітоўку.

— Золатам па мармуры, — глянуў на візітоўку доктар. — Брызін Андрэй Аляксандравіч, генеральны дырэктар. Калі

што — пазваню, Андрэй Аляксандравіч. Гэта ўсё, што магу пакуль абяцаць…

— Самсон Самсонавіч!.. — як з пажару, выскачыла з дзвярэй аперацыйнага пакоя маладзенькая медсястра ў збітай на вуха шапачцы, і ў Брызіна ледзь не падкасіліся ногі. — Там гэты калека ўсіх калечыць, без вас нікому не даецца!..

— Я ж сказаў, што ў рэанімацыі ваша дачка… Едзьце дахаты, тут вы без патрэбы, — крануў Брызіна за плячо Самсон Самсонавіч і пайшоў за медсястрой. — І дзе ён цябе скалечыў?.. І чым, калі ў яго ні рук, ні ног?..

Брызін прысеў на край крэсла, падняўся, зноў прысеў… «Тут вы без патрэбы…» А дзе і каму ён без Машы ў патрэбу?..

Выходзіла, што нідзе і нікому.

Тым не менш размова з доктарам нібы давала нейкую надзею. Каб усё было безнадзейна, хіба стаў бы доктар абы-што казаць?.. Пра тыя ж грошы?..

Брызін устаў з крэсла, спусціўся ў прыёмны пакой. Спытаўся ўжо ў другой, але таксама паўнагрудай медсястры, дзе рэанімацыя. Тая, не падымаючы галавы ад нейкай паперчыны, коратка адказала:

— Нельга!..

Андрэй выйшаў з бальніцы, зусім не ведаючы, куды ісці і што рабіць. На выхадзе яго чакалі Лёня і Капіталіна.

— Нам сказалі, што не ўсё безнадзейна, — глянуўшы на Брызіна і заморгаўшы вачыма, сказаў Лёня, якому ніхто і нічога не мог сказаць.

Брызіну не хацелася іх бачыць. Чужыя людзі з выпадковай кампаніі — для чаго?.. Але ж прыехалі. Сініцын у ліфт схаваўся, а яны прыехалі.

— Яна ў рэанімацыі… — сказаў Брызін. — Толькі сэрца працуе… — У тым, што працуе сэрца, таксама была надзея.

Капіталіна расчыніла сумку.

— Я каньяку вашага ў гаражы тры пляшкі прыгрэла… Гэта нічога?

— Нічога… Але піць я не буду.

— А што рабіць? — спытала Капіталіна.

Каб ён ведаў.

— Тут дзядзька мой працуе. Ён лічыць, што я наркаманка, і ў нас канфлікт. А так бы я магла спытацца.

— Самсон Самсонавіч? — угадаў Брызін.

Капіталіна не здзівілася.

— Самсон Самсонавіч Самсонаў. У мяне яшчэ адзін дзядзька ёсць і ён таксама Самсон. Дзед такі дзіўны быў, Самсонаў…

Размаўляць не было пра што. А пра тое, што было, — не было з кім. Чужыя людзі. Самсонавы.

— Вы едзьце, — махнуў рукой у бок вуліцы Брызін.

— А вы? — спытаў Лёня. — Некуды ж вам трэба падзець сябе. Я разумею, што мы не вялікія памагатыя, чужыя людзі, але ж і не аднаму вам быць. Хоць хто яго ведае…

— Я ведаю! — рашуча сказала Капіталіна, беручы Брызіна пад руку. — Да мяне паедзем. Я пакажу вам свой дом-музей.

Брызін заўпарціўся.

— Куды я адсюль паеду?.. Вы што?.. Я тут буду.

Лёня зірнуў на Капіталіну.

— Можа, хай застаецца… Я таксама б не паехаў.

Капіталіна ўчэпіста Брызіна не адпускала.

— І што з таго?.. Які толк?.. А ў мяне і другі дзядзька хірург, нараніцы з Прагі вернецца. Мы ад мяне адразу да яго — і з ім сюды.

— Адкуль вернецца? — спытаў Брызін.

— З Прагі. Ён свяціла, ва ўсім свеце яго ведаюць.

Брызін мог зараз быць у Празе — і ўсё было б інакш. Але ён тут — і ўсё так, як ёсць. Выпадак. Гульні жыцця.

Якраз, бы на тое пайшло, падкаціла таксі.

— Сядайце ззаду, — падштурхнула Лёню з Брызіным Капіталіна. — Мне там ногі няма дзе падзець.

— Ды чакайце вы! — паспрабаваў яшчэ паўпірацца і нават раззлавацца Брызін. — У мяне і без вас ёсць людзі, да якіх я магу паехаць!..

— Няма, — упэўнена сказала Капіталіна. — Калі б яны былі, яны б тут былі.

Дарогай, пакуль ехалі ў таксі, гаварыў адзін Лёня.

— Бездапаможнасць — самае няшчаснае пачуццё. Ты гатовы зрабіць усё, а не можаш зрабіць нічога. І ты мізэрны, нікчэмны. Я аднойчы ў сне бачыў, як хлапчук праваліўся пад лёд і стаў тануць. А я кранаю нагой лёд — ён адразу трушчыцца, кроку ступіць не магу. Мне страшна, я сам баюся ўтапіцца. І я бегаю па беразе, крычу, а хлапчук тоне. Не ведаю, ці патануў. Калі прачнуўся, дык падумаў: хоць бы наяве такога не сталася. Роўна праз год сталася. Такім было ўсё падобным, быццам паўтарыўся сон, нібы я сплю. Каб нешта рабіць, каб толькі не пачувацца бездапаможным, я кінуўся на лёд, як быў, ні дошкі не ўхапіўшы, ні вяроўкі. І не дабраўся да хлапчука. Мяне выцягнулі, а яго не. І ўсё адно наяве было не так страшна, як у сне. Думаць пра страшнае страшней, чым у ім быць. Калі я толькі думаю, толькі

ўяўляю — я сплю. І ў сне бегаю і крычу. Бездапаможны, ні на што не здольны, бегаю і крычу, а хлапчук тоне…

«Разуменне дэманструе, — непрыязна падумаў Брызін. — Лепш бы казаў прыгожа…»

Кватэра Капіталіны ў старым доме за Акадэміяй навук сапраўды нагадвала даўно не парадкаваны і не прыбіраны музей. На ўсіх сценах у вялізнай прыхожай і яшчэ большай гасцёўні віселі карціны, гадзіннікі, дываны са скрыжаванымі на іх шаблямі і старадаўнімі стрэльбамі, на паліцах пыліўся крышталь і фарфор, бронзавыя і гліняныя статуэткі, а ў кабінеце, да столі застаўленым кнігамі і тэлескопамі, высіўся на падстаўцы каля пісьмовага стала мужчынскі бюст з чорнага мармуру і збоку ад яго — гармата. Не самая вялікая, без лафета, але баявая гармата часоў апошняй вайны, якую незразумела як сюды зацягнулі…

— У мяне і снарады ёсць, — па-дзіцячы пахвалілася Капіталіна. — Праўда, адзін і стрэляны, але ўсё адно ўсе баяцца… Калі хто палезе — як грымну!..

— Гэта Сувораў? — спытаўся Лёня пра мармуровы бюст. Несупадзенне Капіталіны з піўной пры Віталіку пад пахай і Капіталіны з дома-музея пры гармаце са снарадам да разгубленасці яго збянтэжыла, але ён стараўся зрабіць выгляд, быццам і не такое бачыў-перабачыў, нібы і ў ягонай кватэры поўна снарадаў і яшчэ нядаўна стаяў бюст Суворава, толькі ён яго выкінуў.

— Гэта дзед мой, Самсонаў… У вайну ён быў артылерыстам, цягаў такую во гармату, а пасля стаў вялікім вучоным, генералам. Засакрэчанай нейкай навукай займаўся, звязанай з оптыкай… Кватэру гэтую ён мне пакінуў, дык дзядзькі і злуюцца. Усё ў наркаманкі мяне запісаць хочуць, каб забраць.

Брызін раптам адчуў сябе, як на могілках.

— І пры ім тут ягоны бюст стаяў?

— Не, гэты помнік на магілу зрабілі, але чаго яму там стаяць? Там і так хараша, дрэвы растуць… А тут я з ім усё ж не адна. Прачынаюся, кажу: «Добрай раніцы, Самсон Самсонавіч!» І ён мне кажа: «Добрай раніцы, Капіталіна Самсонаўна! Не забудзься паснедаць і не палі да сняданку…» Так і жывём. Ну, што, павячэраем?.. У меню яйкі і пельмені.

У авальнай, з круглым сталом, асобнай ад кухні сталовай віселі насупраць адзін аднаго жаночы і мужчынскі фотапартрэты. Жанчына нагадвала Капіталіну, а мужчына — доктара Самсона Самсонавіча. Было відаць, што на фотаздымку мужчына і жанчына былі некалі разам, а для фотапартрэтаў іх разрэзалі: на плячы жанчыны ляжала мужчынская рука.

— Бацькі? — спытаў Брызін, калі Капіталіна, падаўшы праз акно з кухні яечню і пельмені, увайшла ў сталовую. — Зарэтушаваць руку можна было.

— Можна было, — паглядзела на адзін і другі партрэт Капіталіна. — Але так відаць, што яны абняўшыся… Прыгожыя і закаханыя, праўда?

— Прыгожыя…

— І закаханыя… — паклаў Капіталіне руку на плячо Лёня і спытаў пра тое, пра што ўжо можна было не пытацца: — І дзе яны ў вас, Капіталіна Самсонаўна?

— Прапалі ў змаганні за шчаслівую будучыню Анголы, — пагладзіўшы, зняла з пляча Лёніну руку Капіталіна і паправіла партрэт бацькі, хоць ён і так вісеў роўна. — Яны абодва ўрачамі былі, іх туды і не пускалі разам, дык яны дзеда ўпрасілі — і дзед пастараўся… Іх там з нашымі параненымі ў палон узялі, параненых пасля абмянялі, а іх — не… Ворагі братняй Анголы сказалі, што не было ніякіх дактароў. І нашы потым пацвердзілі, што не было не толькі дактароў, але і параненых… Джунглі.

— А дзед?.. — спытаў Брызін. — Ён жа генерал.

— Дзед рапарт напісаў аб адстаўцы, яго пад хатні арышт узялі. Тут у нас варта стаяла, жылі ў прыхожай. З тэлефонам нейкім спецыяльным, з пісталетамі… Мне падабалася.

— І даўно гэта было? — пацікавіўся Лёня.

— Паўжыцця назад… А можа, і ўсё жыццё… Каньяк п’ём?

Брызін адсунуў ад сябе кілішак.

— Без мяне… — І амаль што прызнаўся ў тым, з-за чаго ўсё ж да Капіталіны паехаў. — Пазваніла б ты дзядзьку ці яшчэ каму, як яна там?.. Сказала б, што знаёмая твая, сяброўка… Можа, лекі якія купіць… Нешта ж трэба рабіць, не магу я так сядзець…

Капіталіна ўзялася разліваць каньяк, Лёня пераняў бутэльку:

— Капіталіна, у мужчынскай кампаніі…

— Я сама сабе кампанія, — страсянула валасамі Капіталіна, і Брызін толькі цяпер заўважыў, якія ў яе прыгожыя, колеру спелага лёну, валасы. — Вып’ем — і пазваню. Тады мне і з ім, і з кім заўгодна прасцей размаўляць будзе… Я хачу выпіць за тое, каб ваша дачка была жывая-здаровая. А вы — не?..

Брызін перахапіў пустэльны, з сухім бляскам позірк Капіталіны і адчуў у ёй небяспеку.

— Мы што, апроч як піць, нічога больш не ўмеем?

— Дык вы — не? — перапытала Капіталіна.

Як і ўсе паганцы, Брызін меў свае забабоны, след чорнага ката не пераходзіў… Гэтак закручанае Капіталінай змушэнне

да выпіўкі яго раздражніла — і ён замест кілішка падсунуў да сябе фужэр.

Лёня наліў на донца.

— Поўны, — сказаў Брызін. — Каб была жывая і здаровая.

— Ой, які каньяк! — з асалодай выпіла Капіталіна. — Некалі ў нас заўсёды такі быў, дзед любіў… Казаў: Капа, накапай…

Брызін выпіў праз сілу.

— Цэлы дзень п’ём… Дзе ў цябе тут ванна ці басейн з вышкай?.. Мне б асвяжыцца трохі…

— Там… — махнула рукой на дзверы Капіталіна, і Брызін выйшаў са сталовай.

У ваннай, якая ў параўнанні з астатнімі апартаментамі аказалася нечакана маленькай, быў гэткі гармідар, што мыцца ў ім расхацелася… Па ўсіх кутах былі раскіданы трусікі, станікі, нямытыя ручнікі і бялізна, да ракавіны і да рагоў самой ванны прыкарэлі абмылкі, мачалкі, выціснутыя цюбікі зубной пасты, шкляныя і пластмасавыя бутэлечкі са слоічкамі, а на палічках шафкі з запырсканым люстэркам, у якое Брызін глянуў і не ўбачыў сябе, былі рассыпаны разам з бігудзі і заколкамі прэзерватывы і шпрыцы…

Брызін абмыў рукі і твар і выцерся насоўкай.

Выйшаўшы з ваннай, ён штурхнуў дзверы насупраць — і яны расчыніліся ў спальню. На двух ложках, раздзеленых тумбачкай з таршэрам, ляжалі мужчына і жанчына, падобныя на бацьку і маці Капіталіны. У звечарэлым святле, якое малаком цадзілася скрозь шторы, твары іх былі спакойнымі, яны спалі. Брызін, ледзьве не сказаўшы «выбачайце», ніякавата пасунуўся назад, але нешта ў апошні момант здалося яму ў гэтых тварах ненатуральным — і ён запаліў люстру.

У ложках, акуратна накрытыя вышыванымі коўдрамі, ляжалі лялькі. Гумавыя, у рост чалавека, Брызін бачыў такія ў сексшопах… Лялька-жанчына ляжала бліжэй да Брызіна, і каля яе ложка вісеў на гнутай вешалцы халат і стаялі тапкі… Ранкам яна прачнецца і ўзрадуецца, што дачка пра яе паклапацілася… Накіне халат, суне ножкі ў тапачкі, выйдзе ў прыхожую і гукне: «Капіталіна Самсонаўна!.. Ай-яй-яй, ты яшчэ не ў ваннай!.. Падымайся, соня мая, пара ў школу збірацца!..»

На тумбачцы пад таршэрам ляжалі два шпрыцы і прэзерватыў.

Брызін выключыў люстру і зачыніў дзверы спальні.

Тут не толькі нарката, тут болей…

Асцярожна прамінуўшы прыадчыненыя дзверы сталовай, Брызін рушыў да выхаду, узяўся за замкі, але рукі ў яго дрыжэлі, і ён ніяк не мог тры гэтыя замкі адолець, які з іх у які бок круціць, адзін замок ляснуў, як стрэліў — і ў прыхожую выйшла Капіталіна.

— Я пазваніла… А вы куды?

— Па цыгаркі… Скончыліся.

— У мяне ёсць што паліць… Вы збегчы хацелі?

— Не… Што сказаў Самсон Самсонавіч?

— Спытаў, адкуль у мяне такія знаёмыя…

— І ўсё?..

— Сказаў, што раніцай будзе мой дзядзька з Прагі, ён таксама Самсон Самсонавіч…

— Ты казала пра гэта! — адштурхнуўся ад дзвярэй Брызін.

— І таксама хірург — і тады будзе відаць…

— Што будзе відаць?..

— Вытрымае ваша дачка яшчэ адну аперацыю ці не…

Высунуўся захмялелы Лёня.

— Крык нейкі чуецца ў інтэлігентнай кампаніі…

— Няма ніякага крыку, — прайшоў у гасцёўню Брызін і сеў на скураную канапу каля балконнага акна. — Нічога няма… Дайце, што ў вас там запаліць ёсць.

Капіталіна вынесла са сталовай «касяк» — папяросіну з падоўжанай, сцягнутай з муштука і набітай гільзай.

— Гэта расслабіць вас, толькі не супраціўляйцеся самі сабе… Вам адпачыць трэба.

— Я адзін папалю.

— Добра, паліце адзін.

— Капіталіна Самсонаўна, вы цуд!.. — прыпадняўся на цырлы, каб пацалавацца з ёй, Лёня, і на цырлах падаўся за ёй у сталовую. — А ў нас яшчэ і каньяк, і кветкі, і чароўная ноч…

Брызін яму пазайздросціў.

«Дзе кветкі?.. Якія кветкі?.. Ніякія, абы на цырлах, абы прыгожа…»

«Траўку» ён спрабаваў і раней, таму запаліў спакойна, нічога не чакаючы… Можа, сапраўды дапаможа трохі расслабіцца.

Кватэра Капіталіны нагадвала яму яшчэ адну, таксама генеральскую, у якую ён патрапіў, калі заляцаўся да будучай жонкі. Тая прывяла яго ў сям’ю сяброўкі, нібыта на агледзіны. Гаспадар з гаспадыняй амаль не звярнулі на Брызіна ўвагі, бравы генерал, вітаючыся, прадэкламаваў толькі: «Андрэй, не дурэй, не дзяры

капоты…» — і дадаў на вуха: «Не жаніся, не будзь дурнем», — затое дачка іх адцягнулася на Брызіне, як хацела. Беласкурая з чорнымі валасамі, адкормленая, пародзістая, яна бокам ляжала на тахце ў кітайскім халаце, і на выгнутым, круглым яе клубе нервавалася рука з даўжэзнымі, на паўпальца, пазногцямі пад крывава-чырвоным лакам. Насмешліва гледзячы на Андрэя, яна папстрыквала сваімі кіпцюрамі і расказвала пра тое, у якое захапленне прыводзяць яе простыя людзі з правінцыі. Аднойчы бацька не змог паслаць за ёй машыну, ёй давялося паехаць у тралейбусе, і калі тралейбус паварочваў каля Вечнага агню на плошчы Перамогі, вясковы дзядок страшэнна здзівіўся і амаль крыкнуў сваёй спадарожніцы:

«Глянь, старая, агонь на вуліцы гарыць!»

«Ну!.. — таксама здзівілася старая. — Мусібыць, дзеці запалілі».

— Як натуральна! Як проста! — пстрыкаючы кіпцюрамі, захаплялася генеральская дачка Аліса. — Правінцыялы ўсё-ткі лепшыя за нас, несапсаваныя гарадской культурай і прагрэсам. А я змагла б жыць у вёсцы, як вы думаеце, малады чалавек?..

У куртатым каверкотавым касцюмчыку Бабруйскай фабрыкі і ў шкарпэтках з дзіркамі на пятах Андрэй сцята сядзеў на хісткім пуфіку, піў каву і, стараючыся не засвяціцца пятамі, думаў толькі пра тое, як бы не раструшчыць найтонкі, бязважкі, нібыта з нічога зроблены кубачак. Каву ён піў упершыню ў жыцці, яна зусім яму не падабалася, але Андрэй не асмельваўся адмовіцца, калі Аліса, бачачы, як ён душыцца гэтым горкім пойлам, адтапырвала крывава-чырвоны мезенчык і прапаноўвала:

— Вам яшчэ кавы, малады чалавек? Без цукру?..

Нават на тое, каб, не хочучы, не піць каву, незалежна ад таго, хто ёй частуе, Брызіну спатрэбілася нямала гадоў… І яшчэ болей часу мінула, пакуль ён аднойчы, гледзячы на парад ветэранаў і на новае, маладое, пыхлівае начальства, якое тэатральна ветэранаў вітала, зусім па-іншаму зразумеў тое, што сказала пра Вечны агонь тая старая ў тым тралейбусе.

Правінцыйнасць маладога чалавека не перашкодзіла Алісе на другі дзень пасля шлюбу ягонага з яе сяброўкай зацягнуць Брызіна ў ложак… З гэтага нават ад правінцыяла яна зацяжарала і, панічна баючыся бацькі-генерала, данасіла дзіця амаль да пяці месяцаў. Пад гэты час бравы генерал папаўся на буйным крадзяжы вайсковай маёмасці, яго арыштавалі і саслалі на Кушку, куды паехала за ім і генеральша. Рабіць аборт было позна — і ў спусцелай генеральскай кватэры тры найлепшыя

сяброўкі Алісы, адна з якіх вучылася ў медінстытуце, выклікалі Алісе штучныя роды. Маша-жонка, якая пры тым прысутнічала і сама была цяжарная, расказала Андрэю, як яны не ведалі, куды падзець дзіця. Са страху закруцілі яго ў газеты і кінулі ў смеццеправод… Зрабіла гэта — закруціла і кінула — Маша-жонка, моцная ў яе была натура. Брызін часта пра тое ўспамінаў, калі яна памерла пры родах.

Аліса пачала піць, прадавала рэчы — і даволі хутка тая генеральская кватэра прыйшла ў яшчэ большае запусценне, чым гэта… Разбураныя генеральскія гнёзды.

Але жыць — неяк адразу і адчуў, і падумаў Брызін — усё ж хораша… Яму згадаўся анекдот пра мужыка, які ў хаце сваёй сабраўся быў вешацца. Прывязаў вяроўку, намыліў яе, стаў на зэдаль, надзеў пятлю — і ў апошні момант убачыў на стале трохі недапітую пляшку. «Я павешуся, а нехта дап'е? — падумаў мужык. — Э, не, так не пойдзе…» Злез, дапіў, зноў надзеў пятлю — і ўбачыў амаль напалову недапаленую цыгарэту, здаравенны бычок. «Я павешуся, а нехта дапаліць?..» Злез, запаліў, выйшаў на балкон… Уверсе птушкі пяюць, унізе дзеўкі-танкеткі абцасікамі цокаюць… Мужык пстрыкнуў бычком з балкона, азірнуўся на вяроўку, пацягнуўся і сказаў: «Э, не… Я павешуся, а жыццё, бач ты, возьме ды наладзіцца!»

Брызін дапаліў папяросу — і яго пацягнула прылегчы. Ён лёг спінай на канапу і пачуў, як спачатку аднекуль зверху, а потым і знізу, і з усіх бакоў ціха загучала музыка. Са столі пацякло па сценах, па дыванах, зазіхацела на старадаўняй зброі жаўтаватае святло, нібы гасцёўня напаўнялася сонцам. Святло цякло хвалямі, набягала само на сябе, як вада на ваду пры беразе, і адна хваля падхапіла Брызіна, пад яе яшчэ мякчэй паслалася другая, яны прыпаднялі Андрэя, загушкалі, пасля ўплылі ў яго — і ён сам стаў лёгкай хваляй на хвалях, разам з якімі плаўна-плаўна, паволі-паволі і ў той жа час неверагодна хутка то ўздымаўся вышэй ад столі і неба — да самых зорак, то ападаў ніжэй ад падлогі і зямлі — да самых нетраў…

Ён быў нідзе і ўсюды, ні ў чым і ва ўсім — без канца і пачатку… І ён не адчуваў асалоду, а быў самой асалодай, якая гранічна сама сябе адчувала… Тое зусім маленькае, што яшчэ заставалася ў гэтай асалодзе Брызіным, баялася асалоды не вытрываць і ад яе памерці…

«Гэта немагчыма, не па сілах чалавечых вытрываць такое, але, калі такое ёсць, дык нехта ж гэта адчувае, павінен адчуваць, калі такое ёсць, але хто?..» — думала тое, што было ў

асалодзе Брызіным, і Маша-каханне, хваля-каханне, якая была і часткай асалоды, і ёю ўсёю, казала, гучала музыкай: «Я, я, я ўсё гэта адчуваю, я і ёсць твая асалода, і маці твая тое ж адчувае, скажыце яму, Марыя Андрэеўна, хай ён не мучыцца, што нас няма, гэта яго самога яшчэ нямашака…» — і Маша-маці, хваля-маці люляла яго і люлялася ў ім, і казала не асобна, а музыкай гучала разам з Машай-каханнем: «Гэта знак табе, каб ведаў, чаго можаш не зведаць і не адчуць, бо грэх на табе, а ты і не сплаціў яго, і не замаліў, табе і Маша пра тое скажа…» — і Маша-дачка, хваля-дачка ахінула яго, прылегла з ім побач і пачала да яго ласціцца, цалаваць і распранаць, казаць, гучаць музыкай: «Ён мяне любіць, любіць, за ўсіх вас любіць, ён праз мяне грахі свае сплаціў і замаліў, глядзіце, які ён чысты, я нават магу пацалаваць яго там, дзе нельга…» — і хваля-дачка стала цалаваць яго там, дзе нельга, і ён паспрабаваў адштурхнуць яе, бо сапраўды нельга, бо гэта грэх над усімі ягонымі грахамі, але рукі ягоныя ўплылі ў яе русалчыны валасы, і яна перакруцілася разам з ім, падплыла, паслалася пад яго — і ён, увайшоўшы ў хвалю-дачку і жахаючыся гэтага, выліваўся ў яе хваля за хваляй, канаючы ад асалоды…

Колькі гэта доўжылася па часе, ён не ведаў, бо не было ніякага часу… Наогул не было нічога — і было ўсё… Ён уздымаўся і замiраў ад страху, што не апусціцца з гэтай вышыні, апускаўся і замiраў ад жаху, што не ўздымецца з гэтых нетраў. Хваля за хваляй, хваля за хваляй…

Калі сціхла музыка, згасла святло і апалі хвалі, Брызін, вярнуўшыся з палётаў, знайшоў сябе голага на скураной канапе ў абдымках голай Капіталіны.

Выйшла ўсё, як заўсёды, толькі пад наркатой. Ды яшчэ дачка ягоная, з якой ён зараз грэшна кахаўся, трызніў сябе ў ёй на пару з Капіталінай, была ў бальніцы.

Госпадзі, чаму з дачкой, чаму Маша падмяніла ў гэтым трызненні Капіталіну?.. Брызін чуў і чытаў пра ўсялякія эдзіпавы комплексы, але яго гэта ніякім бокам не чапляла — ненармальнасць нейкая, хвароба, такім эдзіпам толькі яйцы адстрэльваць… Іншым разам ён раўнаваў Машу, загадзя перажываючы тое, што дастанецца яна цыбуку нейкаму ў жонкі — і давядзецца яе з цыбуком тым дзяліць. Ці яшчэ з якім неграм… Але ж гэта бацькоўскае, нармальнае, што можна ўсвядоміць і зразумець, а ў падсвядомасці — такое!..

— А Лёня дзе?.. — спытаў Брызін.

— Па кветкі пайшоў… — прамармытала Капіталіна. — Я салодкая табе?..

— Як кава з цукрам…
— Я не п’ю каву з цукрам…
— Я ведаю…
— Адкуль?..
— Генеральскія дочкі каву з цукрам не п’юць…
— Я не дачка, я ўнучка…
«Сапраўды, — успомніў Брызін. — Да ўнучак ужо дабраўся, педафіл…»
— Табе колькі гадоў?..
— Дваццаць чатыры…
«Выглядаеш маладзей», — хацеў сказаць Брызін, але не сказаў, бо Капіталіна выглядала і на дваццаць чатыры, і на чатырнаццаць, і на трыццаць пяць.
— І даўно ты…
— Даўно…
— Я не паспеў яшчэ спытацца…
— Я зразумела… Ты заходзіў і ў ванну, і ў спальню, я забылася замкнуць… Але я гэта кіну…
— Кідай…
— Хоць гэта не больш шкодна, чым піць…
— Гэта больш небяспечна, чым піць…
— Небяспечна жыць, ад гэтага паміраюць…
— Ніхто не памірае…
— Як гэта?..
— Калі памрэш, зразумееш…
— А ты памёр?..
— Памёр…
— Як мае бацькі?..
— Як твае лялькі…
— Шкада…
— Чаму?..
— З табой добра…
— А ты са мной была?..
— З табой… А з кім яшчэ?..
— Ну, ці мала з кім… З Лёнем… З бацькам…
— А…
— Што «а»?..
— Гэта «траўка» такая, яна падмяняе… Усё ў нас саміх, а яна вызваляе…
— Дык з табой было такое?..
— Не… Мяне п’яны бацька без ніякай «траўкі», наяве, на гэтай самай канапе… Яны праз тое і ў Анголу з’ехалі, я бачыць яго не магла… Павесіцца спрабавала… Каб не дзед…

Брызін сеў на канапе.

— Як гэта наяве? Бацька?..

— Ты чаго ўсхапіўся? — зашукала яго рукамі Капіталіна. — Хіба не чуў пра такое?.. Давай паляжым…

— Холадна, — падняўся Брызін і пачаў выварочваць на правы бок штаны, сцягнутыя з яго Капіталінай разам з трусамі і шкарпэткамі. І штаны, і трусы, і шкарпэткі, і пінжак з кашуляй у генеральнага дырэктара Андрэя Аляксандравіча Брызіна былі новыя, без дзірак.

У прыхожай раптам прыглушана зайгралі гімн Савецкага Саюза.

— Колькі ж часу?.. — пачаў шукаць гадзіннік Брызін, але ўспомніў, што Савецкага Саюза няма. — Што гэта?..

— Званок такі дзвярны, — прыпаднялася Капіталіна. — Лёня кветкі прынёс, адчыні…

— А ты?..

— Што я?..

— Ты ж голая, апранайся.

— Я і голая магу кветкі ўзяць, — пайшла да дзвярэй Капіталіна… Брызін пераняў яе, заштурхаў разам з трантамі ў ванну і тады ўжо адчыніў дзверы.

Лёня быў без кветак.

— Я ў бальніцу з’ездзіў… — ціха і вінавата прагаварыў Лёня, не пераступаючы парог. — Самсон Самсонавіч прабачаўся… што да вас не дазваніцца…

На Лёніным твары ўсё было напісана, хоць ён не ведаў, як пра гэта *ўсё* сказаць.

— Вы самі пазваніце…

— Зараз, зараз… — палез па кішэнях шукаць тэлефон Брызін, але яго хіснула да сцяны, ён прываліўся да яе спінай і асеў на падлогу.

Лёню ў дзвярах і Брызіна на падлозе і застала Капіталіна, мокрай і голай вышаўшы з ваннай з трантамі ў руках.

— А кветкі… — пачала Капіталіна, асеклася і на мокрае цела пры іх пачала апранацца…

— Каб я магла памяняцца з Машай, я б памянялася, — апрануўшыся, зусім цвяроза і зусім сур’ёзна сказала Капіталіна. — Так мне абрыд гэты мульцік, што болей не магу…

З Лёнем, з Капіталінай ды яшчэ з Бегунком Брызін Машу і пахаваў. Не стаў званіць ні яе сябрам і сяброўкам, ні Таісіі. Труну несці наняў чужых людзей з пахавальнай канторы. Самсонавых.

Два дні пасля хаўтур ён не выходзіў з дому. Не піў, не еў, нічога не рабіў, ні пра што не думаў — ляжаў бервяном.

«Ты страшны чалавек, Андрэй, ты страшны чалавек!.. Як ты жывеш?.. Табе нельга жыць!.. Ты страшны чалавек…» — круцілася ў мазгах адна фраза, як на кружэлцы.

На трэці дзень ён спусціўся ў падвал, дзе ў яго быў прыхаваны пісталет, вярнуўся ў дом, замкнуўся, паклаў пісталет на стол у кухні і доўга на яго глядзеў…

Як гэта зрабіць?..

Запіску пакінуць?.. Але каму?.. Машы ўсё ён хутка сам раскажа…

Ці не?.. Гэта ж страшны грэх — самазабойства… Можа, і не спаткаецца ён з Машай?..

Там будзе відаць…

Трэба некаму пазваніць, каб заўтра зайшлі… А то ён згніе тут, у Таісіі ключоў няма…

А каму пазваніць?.. Хоць ты сам сабе пазвані…

Пачакаць трэба, пакуль яму нехта пазвоніць… Хто першы — той няхай заўтра і прыходзіць…

Дажыўся — пахаваць няма каму…

А можа, загадаць?.. Калі пазвоняць хутка і пазвоніць жанчына, значыць, Маша яго чакае… Калі не хутка і мужчына, значыць…

Брызін уключыў тэлефон, падцягнуў яго да тапчана ў прыхожай, паставіў на падлогу, паклаў побач пісталет, лёг і стаў чакаць…

Мінула пяць марудных хвілін, доўгіх дзесяць, невыносныя паўгадзіны… Не званіў ніхто…

Брызін падняў трубку — гудок быў. Кладучы трубку, ён выпадкова націснуў кнопку аўтаадказчыка.

Тэлефон зашапацеў, матаючы мікракасету.

«Тата, я забылася табе раніцай расказаць, які мне дзіўны сон прысніўся… Быццам мама жывая, такая прыгожая, ні на адным фотаздымку яе такой няма, і я нейк перанарадзілася ў вас, ну, нарадзілася зноў, нанава. І мама кажа табе: давай выкінем яе, нашто нам яшчэ адна такая самая?.. І ты адказваеш: праўда што, адной Машы досыць. А я ведаю, што я не яшчэ адна, а адна ў вас адзіная, той Машы ў вас ужо няма. Мне самой цікава, дзе яна целам падзелася, бо я ў ёй не памірала — і яна ўва мне засталася. Але сказаць пра гэта — дык выдаць сябе, вы ўбачыце, што я ўсё разумею: і хто вы такія, і што адбываецца… А мне хочацца абхітрыць вас і ўсіх, расці, ад пачатку ўсё чыста ў

свеце разумеючы, толькі робячы выгляд, быццам я звычайнае немаўлятка. Ты кажаш маме: давай я дзе-небудзь на вуліцы яе пакіну, не ў акно ж выкідваць, і я разумею, што ты хітруеш, нідзе мяне не пакінеш і нікуды мяне не выкінеш, а завязеш у Сочы да свайго названага брата, каб я там шашлыкі на піках ела. Ты паклаў мяне на задняе сядзенне, у дарозе пачалася навальніца, страшная, з грамамі і маланкамі, мы схаваліся ад яе ў цёмны-цёмны і доўгі тунель, а калі з яго выскачылі — цябе за рулём не было, машына, як шалёная, сама імчалася…

Дзе ты падзеўся?.. Ты нікуды не едзь сёння, чуеш?.. Нармальны бацька за дачкой не сочыць, як шпіён, і праз тое, што яна з неграм цалуецца, нікуды не прападае. І нашто я ў такога яшчэ раз нарадзілася?..»

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

«Цябе так і няма нідзе… Нінэль звaніла, пыталася, ці буду я мамай яе называць… Што ў цябе за бабы ўсе нейкія адмарожаныя?..»

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

«Тата, што адбываецца?.. Зноў званіла Нінэль, істэрычна плакала, каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць… А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся».

Бі-бі,
бі-бі,
бі-бі.
А ты
я-го
за-бі.

«Андрэй Аляксандравіч, гэта доктар… Ваш мабільны не адказвае, але я абяцаў пазваніць… Я ад яе не адыходзіў, была надзея, што яна справіцца… Сэрца стала, мне вельмі шкада…»

Шка-да,
шка-да,
шка-да.

«Андрэй… Не ведаю, што сказаць… Якія ад мяне спачуванні… Мне пазванкі на шыі вывернула, грудзі пабіла… Зразумець не магу, як яно выйшла… Павер толькі, што не хацеў… Ні цябе, ні тым болей Машу… А следчы палохае, што пайду за наўмыснае… Калі толькі ты, як бацька, не заявіш адваротнае… Што не было ніякіх прычын, не магло быць такога… Тады можна будзе круціць што-небудзь тэхнічнае, з тармазамі… Штук за дзесяць яны гэта зробяць… Падумай, Андрэй, прашу цябе… Што табе з таго, што я сяду?.. Машу не вернеш… А нам неяк

далей жыць трэба… Кантракт падпісаны, сам ведаеш, які… Прашу цябе, Андрэй… Я для цябе ўсё, што хочаш, зраблю… Каньяк твой на сябе вазьму, скажу, што па яго і ехаў… Толькі не цягні, бо гэта трэба рабіць зараз, пазней назад нічога ўжо не адкруцім… Чакаю твайго званка… Андрэй, прашу цябе…»

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

«Андрэй, пазвані мне… Хоць скажы, што надумаў… Зрабі што-небудзь, Богам заклінаю…»

Ну, калі Богам…

Брызін пракруціў касету аўтаадказчыка назад.

«… каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць. А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся».

Ці аддаць сініцынскую споведзь мянтам?.. Ты не падумаў, мудзіла, што так магу зрабіць?.. Не падумаў, не да таго было…

Паляжаўшы яшчэ і падумаўшы, ён набраў нумар тэлефона Сініцына.

— Ты «Маздзе» сваёй перадок адкляпаў?

— Не… Не да таго было…

— Вазьмі на фірме машыну. На дачу да мяне з’ездзім, Маша прасіла сад абрэзаць… Там і перагаворым.

— Дык я ехаць не магу… Шыю не павярнуць, рукі ледзь падымаю…

— Я паеду, у мяне шыя нармальна круціцца. Хай машыну ў мой двор прыгоняць.

Сініцын засумняваўся.

— Нашто некуды ехаць?.. Давай у мяне, ці ў цябе спаткаемся…

— Ну, не хочаш — не едзь. Адзін паеду.

— Якая дача, Андрэй…

— Я ж табе сказаў: Маша прасіла.

— Добра, — згадзіўся праз паўзу Сініцын. — Да Нінэль заедзь, я ў яе…

«А дзе табе яшчэ быць?.. Таксама пахаваць не будзе каму, Нінэль не пахавае».

— Не паеду я да Нінэль. Каб час не губляць, ідзі да майго гаража. Пілу ўзяць трэба…

Сініцын таптаўся каля гаража з Нінэль.

Брызін, не вітаючыся, абышоў іх, адамкнуў гараж — Бегунок усё прыбраў. «Масквіч» без матора стаяў на яме, каньяку ў гаражы не было. Значыць, Капіталіне апошняй дасталося.

Знайшоўшы бензапілу, Андрэй даліў бензіну ў бачок, паспрабаваў завесці… Піла завялася адразу і весела.

— А ну на х . . пайшла, курва! — схапіўшы пілу, з перакошаным тварам выскачыў Брызін з гаража на Нінэль. — Напалам да п . . . . распілую!!!

Нінэль вырвала сваю руку з-пад рукі Сініцына, якога нібыта падтрымлівала, і кінулася бегчы. Зачапілася абцасам за бардзюр, навалілася ў тую ж круглую сметніцу, у якую сто год таму сеў на азадак Віталік, выкараскалася, закульгала подбегам, не азіраючыся, далей.

«Як удала нехта сметніцу паставіў…» — падумаў Брызін.

— Я адзін з табой не паеду, — заявіў Сініцын.

Андрэй паклаў бензапілу ў багажнік новенькага «Форда», прысланага Сініцыным, і зноў зайшоў у гараж.

— Хадзі сюды! — паклікаў Сініцына.

Сініцын адступіўся.

— Не пайду.

— Ды ідзі, пакажу нешта…

Сініцын нерашуча ступіў крок, другі…

— Ідзі, чаго ты баішся сярод белага дня ў цэнтры горада?.. — І як толькі Сініцын увайшоў, Брызін сунуў, амаль кінуў яму ў рукі пісталет: — На, патрымай.

З нечаканкі Артур схапіў пісталет абедзвюма рукамі.

— Патрымаў?.. — паклаўшы насоўку на руку, забраў у яго пісталет Брызін. — Цяпер ведаеш, што будзе?.. Цяпер будзе пісталет з тваімі пальцамі, — абгарнуў ён пісталет насоўкай. — Цяпер будзе, што ты дачку маю забіў і мяне забіць хацеў, а я бараніўся… Гэтай во манціроўкай бараніўся, — перакрыўшы Артуру выхад, узяў манціроўку Брызін. — І раструшчыў табе галаву!

Сініцын пабялеў і сеў на край ямы.

— Я раструшчу табе галаву, скіну ў гэту яму — і згніеш тут, — адкінуў манціроўку Брызін. — Тут ты забіў маю дачку, Артур, і забіць тут цябе было б самае тое. І я хацеў гэта зрабіць, але не зраблю. Для пачатку замест пабітага «Масквіча» ты аддаеш мне «Форд», а там пабачым… Паехалі, пісталет я ў гаражы пакіну, каб ты па дарозе ў штаны не наклаў.

Артур не ўставаў, пакуль Брызін не засунуў пісталет пад скрыню з інструментамі ў дальнім куце гаража.

— Дык нашто ехаць, калі пра ўсё дамовіліся? — насцярожана падняўся Артур на ногі.

Брызін падштурхаў яго да дзвярэй і замкнуў гараж.

— Пакуль мы з табой толькі пра машыну дамовіліся… А пра астатняе нам дамаўляцца і дамаўляцца… Прыгожы ў цябе ашыйнік, табе пасуе. Хадзі ў ім, калі нават паправішся.

Дарогай Артур крыху супакоіўся.

— Дарма ты так на Нінэль, яна перажывае, мучаецца… На могілкі мяне ўчора зацягнула, мы кветкі паклалі… Я баяўся, а яна змусіла… Помнік трэба паставіць, найлепшаму скульптару заказаць… Гэта я на сябе бяру…

— А з кантракта колькі сам бярэш, колькі мне даеш? — супакойваў яго далей Брызін.

— Трыццаць… Ну, трыццаць тры…

— Пяцьдзесят.

— Добра, пяцьдзесят.

— І з усіх наступных пяцьдзесят.

— Не, Андрэй, так не бывае… Мне з партнёрамі разлічвацца. З наступных — трыццаць… Ну, трыццаць тры.

— Нос падатры. Пяцьдзесят.

— Я магу сказаць, што пяцьдзесят, але ты ж ведаеш, што так не бывае… Трыццаць тры.

— І бярэш мяне сваім намеснікам.

— Бяру, гэта не праблема.

— Праблема… Мы кожны дзень будзем бачыць адзін аднаго…

— Мы і так амаль штодня бачыліся.

— Тыя дні іншыя былі, Артур. Такіх ужо не будзе.

Андрэй рэзкавата тармазнуў на скрыжаванні, прапускаючы трактар, які, паварочваючы, ледзь не зачапіў іх нагружаным дошкамі прычэпам, і Сініцын войкнуў.

— Цішэй ты… Галава адваліцца.

«Таксама варыянт…» — падумаў Брызін.

— Можам не сядзець разам, — асцярожна паправіў галаву над ашыйнікам Сініцын. — Заставайся ў сваім офісе. А ўсе расходы з мяне.

— Разбагацею я з табой… А грошы куды? Нашто яны мне, Артур?

— Ну, спытаў… Дом на моры купіш… На Кіпры, у Іспаніі, ці дзе яшчэ… Адпачываць будзеш па-чалавечы… А то што ў цябе за дача?.. Шпакоўня садова-таварыская.

— Глянь ты, выгаварыў, — здзівіўся Брызін. — Хутка табе зубы ўставілі.

Сініцын так супакоіўся, што нават пакрыўдзіўся.

— Не хутчэй, чым ты выбіў.

За паўвярсты ад дачы спыніліся на чырвонае святло чыгуначнага пераезда, які Брызін хоць і добра ведаў, але яшчэ раз уважліва да яго прыгледзеўся. Амаль адразу за пераездам міма

невялічкага возера, у якім Маша любіла купацца, дарога падымалася на гару, дзе і пачыналіся садова-таварыскія дачы. «Мне памыцца — толькі з гары скаціцца!» — кожную раніцу крычала маленькая Маша і бегла да возера ў любую пагоду.

Справа паказаўся таварны поезд, і калі да пераезда яму заставалася метраў сто пяцьдзесят, Брызін рвануў цераз пераезд.

Сініцын, уціснуты ў спінку сядзення, заплюшчыў вочы.

— Ты што?!.

Брызін узляцеў на гару, падвярнуў да дачы, ляпнуў па рулі «Форда».

— Звер-машына! На «Масквічы» б не праскочылі…

— Я апошні раз з табой еду, — расплюшчыў вочы і выбраўся з машыны Сініцын. — Апошні раз.

— Можа быць, — не стаў пярэчыць Брызін.

На дачы, дзе ніхто не быў ад вясны, грады Таісіі пасохлі, кветнік Машы зарос, затравянеў.

— Зарастае ўсё, — сказаў Сініцын. — І гэта зарасце…

— Што *гэта*? — дастаючы бензапілу, спытаў Брызін, хоць і зразумеў, што мае на ўвазе Артур. Той падышоў да прагнутай пад цяжарам яблыкаў антонаўкі і замест адказу спытаўся:

— Хто ж сад сярод лета абразае?

— Сярод вясны не выйшла, — завёў бензапілу Брызін. — Пілы і пагоды не было. А да восені ці дажывём мы з табой…

Артур сарваў яблык, надкусіў і кінуў у траву.

— Зялёны яшчэ… Што ты мяне ўсё палохаеш? Я паміраць пакуль не збіраюся.

— А Маша збіралася?.. — рушыў на яго Брызін.

Сініцын падаўся ад пілы, аступіўся на яблыку, упаў на спіну… Брызін навіс на ім, прыціснуў нагой да зямлі і крануў пілой гіпсавы ашыйнік. З-пад пілы пырснуў белы пыл — і твар Сініцына стаў падобны на пасмяротную маску.

Брызін сціскаў ручкі бензапілы, яна выла і скрыгацела — і ўсё можна было скончыць зараз. Але Машы прысніўся дзіўны сон…

Андрэй заглушыў бензапілу і паклаў яе пад яблыню.

— А кажаш: паміраць не збіраюся… Не заракайся. Мой дзед казаў: чалавек, як толькі народзіцца, так рыхтуецца да смерці.

Сініцын ляжаў нерухома.

— Падымайся, не прыдурвайся… Ашыйнік на табе сталёвы, піла не ўзяла.

— Нічога не бачу, — слаба прагаварыў Артур. — Нічога… І ўстаць не магу… Хрумснула нешта ў шыі і ў спіне… баліць…

— І зубы ў цябе, і шыя, і спіна… Нашто табе жыць інвалідам?

— Хачу так… — выдыхнуў Сініцын. — Каб жыць…

Брызін падцягнуў яго да машыны і паспрабаваў падняць на пярэдняе сядзенне. Маска на твары Артура зморшчылася.

— Не садзі… Пакладзі на задняе…

«Як па сцэнары… — падумаў Брызін, адчыняючы заднія дзверцы і бервяном запіхваючы ў іх Сініцына. — Толькі грамоў з маланкамі нестае».

Ён завёў матор і зрушыў з месца.

— А сад?.. — раптам спытаў Сініцын.

— Сад я пазней адзін абрэжу, цябе Маша не прасіла.

— Куды мы?..

— На кудыкіну гару. А з яе да Самсона Самсонавіча. Пабачым, ці дапаможа.

Брызін ад'ехаў ад дачы і стаў перад спускам з гары, якая кацілася ўніз амаль да самага чыгуначнага пераезда. Заставалася толькі дачакацца цягніка…

«Калі з'явіцца злева — я разам з ім… Калі справа — ён без мяне, я неяк сам пасля…»

— Ты страшны чалавек, Андрэй… — выразна сказаў за ягонай спінай Артур, нібыта агучыў запіс на кружэлцы.

Брызін сцяўся.

— Чаму?..

— Ты нікога не любіш, абыходзішся з людзьмі, як з лялькамі… Табе нельга даверыцца, ты падманеш і здрадзіш… Ты раўнадушны і баязлівы, а цябе ўсе баяцца… Цябе і Маша баялася…

— Калі гэта мяне Маша баялася?

— Увесь час, да апошняга… У той дзень яна сказала Нінэль, што хоча выйсці замуж за негра, але баіцца, што ты заб'еш і яго, і яе… Яна збіралася з'ехаць з ім ад цябе ў Анголу…

— Куды з'ехаць?

— У Анголу…

«Пабрацімская нейкая краіна…» — змрочна падумаў Брызін. Толькі Артур брэша. Брызін помніў, як Маша абыякава глядзела ўслед негру, калі той танцорнай жырафай адыходзіў ад яе па скверы. Гэта была для яе гульня, забаўка. Так не глядзяць, калі замуж збіраюцца. Ён павярнуўся да Сініцына.

— Дык ты яе не пусціў?..

На гэта Артуру не было што сказаць, а ў Брызіна знайшлося, хоць ён і не надта хацеў — само загаварылася.

— Мы абодва з табой гаўно сабачае, але ты — куча большая. І не спрабуй мяне рамантаваць, позна. Каб ты такую размову завёў раней, я б, можа, цябе і паслухаў. А ты пра што са мной гаварыў? Толькі пра тое, як і дзе вырваць грошы, як і каго надурыць. А мы дваццаць гадоў з табой знаёмыя. Дваццаць гадоў, яшчэ Машы не было! І ўспомні, што ты зрабіў у той дзень, калі яна нарадзілася, а жонка мая памерла? Забыўся? Дык я табе напомню! Ты прыпёрся да мяне з пузатым маскоўскім начальнікам, якога трэба было недзе напаіць і бабу пад яго падкласці! Хто гэта зробіць? Брызін, ён мастак у такіх справах! Я вам талкаваў, што сёння, ну, ніяк, не да таго, а той пузаты паслухаў і анекдот расказаў пра грузіна, які спачатку засумаваў, калі жонка памерла, а пасля заскакаў з радасці, што *адын*, *савсэм адын*! І калі я юшку яму пусціў, ты абмыў яго, забраў дахаты, напаіў, суцешыў і падклаў пад яго Кацю! Бо ён з дзяржплана, бо ад яго ўсё залежыць! І Кацю — жонку сваю! — ты не раз яшчэ змушаў падкідваць тых, ад каго *ўсё залежала*. Каця кар’еру тваю на сабе падкідвала, а калі нейкі п’яны начальнік грудзі ёй цыгаркамі прапаліў, ты ў блядзі яе запісаў — і развёўся! І гэта ты мне будзеш казаць, што я нікога не люблю, што людзі для мяне — лялькі? І хочаш, каб я паверыў, што гэта ты з-за рэўнасці, з-за Нінэль мяне забіць хацеў? Мудзіла!..

— А з-за чаго?.. — спакойна і, як здалося Брызіну, нават з цікаўнасцю спытаў Артур.

— А з-за таго ж, з-за чаго я зубы табе выбіваў! З-за нянавісці! Праз тое, што я адзіны, хто ў любы час можа сказаць: «Ты гніда! Ты слізняк!» — і ты гэта з’ясі, праглынеш, бо ты і гніда, і слізняк! Ты ўсяго набраў, нахапаў — і што?.. Усё адно дамываешся маімі абмылкамі! Ты сам сабе смярдзіш, як толькі пра мяне падумаеш! Я табе замінаю, жыць не даю! Але і ты мне ўпоперак! Калі б цябе не было, дык я нават не ведаў бы, што такое нянавісць! А з табой ведаю! І не толькі таму, што праз цябе ў мяне не стала дачкі! Так было заўсёды! Гэта ўсё, што было паміж намі і ёсць! Было, ёсць — і зараз скончыцца!

Артур, па-ранейшаму на дзіва спакойны, паглядзеў на Брызіна пранізліва, наскрозь неяк глянуў і ціха сказаў:

— Няшмат мы з табой займелі… Але нічога ў нас не скончыцца, не крычы…

Брызін сам не чакаў, што пад канец, калі ўсё вырашана, сарвецца на крык, і яму не спадабалася ні тое, як Артур спакойна гаварыў, ні тое, як пранізліва глядзеў. Нібыта ў нечым зараз Сініцын перайграваў яго.

— Філасофію разводзіш? — спытаў Брызін, суцішваючыся. — Я ж табе сказаў: позна.

— Ты сваё сказаў, я сваё скажу… Куды спяшаешся, цягнікоў хопіць…

«Здагадаўся… — вяла здзівіўся Брызін. — Ну і хрэн з табой».

Артур папрасіў нечакана:

— Запалі і дай зацягнуцца…

Брызін зірнуў на чыгунку — пакуль пуста. Ён дастаў цыгаркі.

— Ты ж не курыш…

— Мала што… Апошняе жаданне…

Запаліўшы цыгарку, Андрэй перагнуўся цераз спінку сядзення і навесіўся над Сініцыным, даючы яму зацягнуцца. Сініцын зацягнуўся і, выпускаючы дым, паспрабаваў плюнуць Брызіну ў твар. Рот у яго перасох, таму плявок не ўдаўся, і Сініцын закашляўся. Нейкія пырскачкі ўсё ж паляцелі, Брызін выцерся рукавом.

— Нават плюнуць, гаўнюк, не можаш…

— Лічы, што плюнуў, — сказаў Сініцын. — Цяпер слухай… — Ён зрабіў паўзу, даволі працяглую. — Гэта не ў цябе дачкі не стала. Маша мая дачка.

Артур зноў сціх, чакаючы, відаць, як Брызін на гэта зрэагуе. Брызін ніяк на гэта не зрэагаваў, дапальваў цыгарку і маўчаў.

— Калі я пазнаёміў цябе з яе маці, тая панікавала ўжо, што цяжарная… Я не надта разлічваў, што ты з ёй ажэнішся, тым больш так хутка, але падумаў: а раптам… Сам я не хацеў, ды і ніяк не мог, у мяне была Каця… Бацька ў яе шышка, яна што заўгодна магла прыдумаць — і толькі б заікнулася бацьку… Я малады камуніст, а тады ж не проста з партыі выключалі, выкідвалі з жыцця… Тут ты жэнішся, пасля яшчэ смерць пры родах… І я з усяго выскокваю… Чысты, за мной нічога… Так склалася, што лепей не прыдумаць… Толькі дзяцей у мяне ні з кім болей не выходзіла, а Маша падрастала, я глядзеў на яе і…

З таго, што Брызін чуў, ён не верыў і не збіраўся верыць ніводнаму слову, бо слухаў нават не ману, а вярзенне насмерць перапалоханага чалавека, і ўсё ж міжволі перапыніў Сініцына, рэзка спытаўшы:

— Ты казаў пра гэта Машы?..

І не пазнаў свой голас.

— Казаў…

— Калі?

— Калі да маці тваёй вазіў развітацца… Ты ж не паехаў, а Маша так плакала, што да істэрыкі даходзіла… Я сказаў, каб так не плакала, бо памерла чужая ёй старая жанчына…

— І ўсё?

— Не… Растлумачыў яшчэ, чаму чужая…

Дапаленая цыгарэта прыпякала Брызіну пальцы, ён збіраўся ўжо выкінуць яе, але раптам нібы спружына перакінула яго цераз спінку сядзення — і ён утыркнуў бычок у зубы, увагнаў яго ў рот Сініцыну. Той заматляў галавой і, апечанымі губамі адплёўваючы тытунь з попелам, узвыў.

— Мандзець не будзеш! — непазнавальным голасам прашыпеў Брызін, прытушваючы іскры на сядзенні, каб не ўзгарэлася.

— Вазьмі ў мяне ў кішэні ліст, падла!.. — западвываў Сініцын. — Вазьмі і прачытай, што Маша напісала!..

— Дзе?

— У пінжаку, у левай…

Цягнік паказаўся злева.

І справа паказаўся цягнік.

Альбо наадварот: справа і злева?

Андрэй, уцягнуўшыся ў разборкі з Сініцыным, не паспеў заўважыць, з якога боку з'явіўся першы. Ён убачыў абодва адразу, сустрэчныя — пасажырскі злева і таварны справа.

— «Форд» мой? — адварочваючыся ад Сініцына і гледзячы на цягнікі, спытаў Брызін.

— Твой… Як дамовіліся… Прачытай вазьмі і едзь, баліць…

«Што там можа быць?.. Для чаго чытаць?.. Маша хутка ўсё сама яму скажа…» Ад адной думкі пра тое, што яна магла паверыць сініцынскай лухце, ледзь у вачах не цямнела.

— Табе ліст — ты і чытай, — скрозь зубы сказаў Брызін.

«Дык злева, ці справа?.. Паглядзець, які бліжэй да пераезда будзе?.. Тады ні пад адзін не паспею…»

У рулетку згуляць не выпала, выбар быў за ім. Быў яшчэ выбар.

«…мы схаваліся ў цёмны-цёмны і доўгі тунель, а калі з яго выскачылі, цябе за рулём не было, машына, як шалёная, сама імчалася…»

Брызін адпусціў тармазы — і машына пакацілася з гары. Павольна, хутчэй, усё набіраючы і набіраючы хуткасць.

Рукі раптам сталі дранцвець, пальцы збялелі на рулі. Брызін адчуваў, як дранцвее і нібы спаўзае на шыю, на грудзі твар.

На паўдарозе ён, не паварочваючыся, залез адной рукой у кішэнь сініцынскага пінжака, выцягнуў паперчыну, адчыніў дзверцы і выкуліўся з «Форда». Выкуліўся ўдала, не паламаў нічога і нават не пабіўся. Лежачы на абочыне, глядзеў услед машыне і на цягнікі: пасажырскі злева быў бліжэй, відавочна бліжэй, значна бліжэй, ужо амаль на пераездзе…

Перад пераездам «Форд» збочыў з дарогі і ўехаў у возера. Возера было неглыбокае, з берага яшчэ ў дзяцінстве Машы па калені.

Пасажырскі, свістануўшы, праляцеў пераезд, пасля прагрукатаў таварны. Абодва машыністы азіраліся, машыніст пасажырскага махаў кулаком. Праз колькі хвілін стала ціха, ашаламляльна ціха. Было чуваць, як, супакойваючыся, плёскаецца пры беразе азёрная вада.

Усё яшчэ здранцвелымі, непаслухмянымі пальцамі Брызін, сабраўшыся з духам, разгарнуў паперчыну — ружовую рэстаранную сурвэтку. У Машы была такая звычка: пісаць, размаўляючы, на сурвэтках, калі тыя былі пад рукой. Пра нешта ў яе спытаешся, яна памаўчыць, падумае і ў адказ напіша… «Каб не казалі, што не казала», — казала Маша.

Ніякі гэта быў не ліст — запіска, адказ, тры фразы…

*Артур Альбертавіч, калі нават тое, што вы мне некалі сказалі і на чым дагэтуль настойваеце, праўда, дык для мяне гэта зусім не так трагічна, як вы зараз выглядаеце. Проста тады мне выбіраць самой — і я выбіраю лепшага. Вам ні за што не ўгадаць, каго. Марыя Андрэеўна.*

Андрэй падняўся, ступіў крокі тры ўніз, спыніўся… Сініцын унізе спрабаваў вылезці з машыны. Брызін пастаяў, павярнуўся і рушыў да дачы. Сеў пад яблыню каля бензапілы, паклаў рукі на калені, на рукі галаву…

Плачу ягонага ніхто не чуў. Збоку здавалася, што чалавек проста стаміўся, прысеў каля бензапілы пад яблыняй і перапачывае, перш чым зноўку ўзяцца за работу. Звычайная рэч — і можна было толькі здзівіцца, што ўлетку надумаў ён сад абразаць.

*Снежань 2000 — люты 2001, Хельсінкі*

## ВЯРТАННЕ ВЕРЫ

> Настаўнік кажа, каб я прыдумаў новае імя для Веры. Так звычайна робяць, калі пішуць кнігі, каб не закрануць пачуццяў тых, пра каго пішуць. Канешне, яе імя я мог бы і не называць… Але Вера не вярнулася.
>
> *Свэн Дэльбланк,*
> *«Гунар Эмануэль».*

### Фрэдэрык і Мэры

«14 траўня 2004 года ў Капенгагене спадкаемец дацкай кароны Яго Каралеўская Высокасць кронпрынц Фрэдэрык (Фрэдэрык Андрэ Хенрык Хрысціян), старэйшы сын каралевы Даніі Маргарэт II і прынца Хенрыка, ажаніўся з аўстралійкай Мэры Элізабэт Дональдсан. На ўрачыстасці былі запрошаныя 800 ганаровых гасцей з каралеўскіх дамоў і арыстакратычных сем'яў Еўропы. Вянчаліся Фрэдэрык і Мэры ў найстаражытным кафедральным саборы Капенгагена — храме Дзевы Марыі. У гонар шлюбу былі ўведзеныя ў зварот купюры наміналам у 20 і 200 крон і маркі з партрэтамі маладых.

Па падліках экспертаў, кошт вясельных мерапрыемстваў склаў $35 млн. Апроч таго, дацкі парламент вырашыў, што Данія не найлепшым чынам выглядала б перад каралеўскімі дварамі Еўропы, калі б сям'я будучага караля перабівалася на $700 тыс., якія атрымліваў ён з дзяржаўнай казны да вяселля, і сума была павялічаная да $2,4 штогод.

У дзень вянчання аўгусцейшыя маладыя праехалі па вуліцах дацкай сталіцы ў карэце да замка Амаліенборг, дзе віталі ўсіх прысутных з гаўбца палаца Хрысціяна VII, а ўвечары разам з гасцямі скіраваліся за горад у замак Фрэдэнсборг. Па дарозе ім махалі сцяжкамі дзеці, апранутыя ў строі прынцаў і прынцэс. Казка пра Папялушку здавалася явай…

…Вяселле выглядала шыкоўным нават па каралеўскіх мерках, незадаволеныя ім засталіся хіба што бяздомныя Капенгагена. Яны «адкапалі» даўні закон, па якім у Даніі падчас каралеўскіх

вяселляў для жабракоў таксама ладзіліся застоллі, але ўлады паспяшаліся назваць гэты закон анахранізмам».

## Філіп і Летыцыя

«22 траўня 2004 года ў іспанскай сталіцы ў саборы Альмадэна адбылася цырымонія шлюбу Яго Каралеўскай Высокасці Прынца Астуры́йскага Філіпа (Фэлі́пэ-Хуа́на-Па́бла-дэ-То́дасалас-Са́нтаса) і донны Летыцыі Орціс Раксалана, якую правёў архіепіскап Мадрыда кардынал Антоніа Рока.

Пасля заканчэння ўрачыстай цырымоніі аўгусцейшыя маладыя праехалі па вуліцах Мадрыда ў браніраваным лімузіне «Ролс-Ройс» (Фантом, 1948 года выпуску).

Амаль 1600 ганаровых гасцей былі запрошаныя на вяселле спадкаемца іспанскай кароны, якое абышлося іспанскай казне ў $25,16 млн. Свята завяршылася банкетам, напрыканцы якога гасцям быў пададзены торт вышынёй 2 м і вагой 170 кг.

Беспрэцэдэнтнымі былі меры бяспекі: 20 000 паліцэйскіх ахоўвалі маладых ды іх гасцей у саборы і на вуліцах горада, 200 снайпераў знаходзіліся на дахах дамоў, два знішчальнікі F-12 і самалёт-разведчык АВАКС патрулявалі ў небе…

…31-гадовая Эрыка Орціс Раксалана, малодшая сястра іспанскай кронпрынцэсы Летыцыі, была знойдзеная мёртвай у Мадрыдзе. Асноўная версія смерці: перадазіроўка моцнадзейных лекаў».

*(З іспанскіх і дацкіх СМІ).*

## Павал

Чалавек той, ён не падобны быў на забойцу, нават на бандыта звычайнага не выглядаў, так, бадзяжнік, падышоў і спытаў, ці можна прыпаліць… Не, ён не спытаў, у яго цыгарэта была ў левай руцэ, а правай ён паказаў, што прыпаліць хоча, пальцамі пстрыкнуў… Я палез у кішэнь, каб дастаць запальнічку, я нашу яе з сабой, такую цацку, запальнічку-пісталет, на сапраўдны пісталет, на маленькі маўзер «H-S», як мне ў збройнай краме сказалі, падобную, я ў Швейцарыі цацку тую, у горадзе Зермаце, гэта амаль што ўжо Італія, дзе мафія ўсялякая, купіў, а ён з пінжака, з грудной кішэні таксама запальнічку вымае, гэткую самую, толькі большую, не ведаю, якой сістэмы, я ў пісталетах не

вялікі знаўца, і ён нібыта сустрэчна хоча даць мне прыпаліць — я, значыць, яму, а ён чамусьці мне, таму я падумаў яшчэ: «Што за цырк? Прыпылены ён, ці што?..» — а ён мне роўненька пасярэдзіне лоба над пераноссем, якраз туды, дзе індусы цікі свае ставяць, стрэліў.

Во ё-маё…

Адразу тым, хто думае, нібы ёсць *тут* — ці ад вас яно будзе *там* — нейкія рай або пекла, дзе па смерці можна кайфаваць альбо мучыцца, магу сказаць, што ні раю, ні пекла няма, што наогул *тут*, ад вас — *там*, не існуе нічога, скразная, як у шкляным ліфце, пустата, і ты — дух, здань, пыл пустаты, часцінка такая маленькая, што нават не скажаш, якая: электрон?.. атам?.. кварк?.. — таму немагчыма ўявіць, *хто* ты і *які*, калі нават быццам бы існуеш, — а зрэшты, адчуванне тагасветнага *ўсяго пустога* не гэткае ўжо нязвыклае, у нечым падобнае да зямнога, калі быццам бы і жывеш, ды сам пра сябе нічога не ведаеш, а астатнім не да галавы, хто ты і які…

Астатнія пра сябе таксама мала, не болей, чым ты, ведаюць… Вунь паспрабуй разабрацца, чаму ён падышоў, зрабіў выгляд, нібы просіць прыпаліць, і стрэліў. Я не сустракаўся з ім раней, першы і апошні раз бачыў, — дык за што?.. Тым больш, што было гэта не дзесьці там, дзе страляніна звыклая, не ў Грозным або Багдадзе, а ў Мальма, на самым поўдні ціхай Швецыі.

Як я апынуўся на самым поўдні ціхай Швецыі?.. Проста. З Менска на самалёце — да Піцера, з Піцера — аўтобусам да Хельсінкі, пасля — на пароме да Стакгольма, а стуль — цягніком да Мальма.

У Еўропе ўсё недалёка.

На пароме сеў у рулетку ў казіно згуляць, меў лішніх трыццаць еўра, дваццаць з якіх прайграў адразу, палову паставіўшы на 17 і палову на 21, я заўсёды першым разам стаўлю на 17 і на 21, гэта было на шостай палубе, і я вырашыў, што шостая — не шанцовая, падняўся на сёмую, дзе зноў паставіў напалам на 17 і на 21, прайграў астатнюю дзесятку і мог спакойна ісці спаць, але не пайшоў, падняў кейс над сталом, у мяне кейс быў, які выглядаў багата, скураны такі з бліскучымі, пад золата, замкамі, ніяк не падумаеш, што ў ім брытва ды транты, і я, паставіўшы кейс на край стала, шчоўкнуў адным замком і сказаў круп’е: «Мне фішак на сто тысяч».

Гэта было не па правілах, на стол, калі фішкі купляюць, грошы кладуць, а не кейсы ставяць, але я разлічваў, што названая

сума павінна ўразіць — і яна ўразіла. Круп’е, рабаваты швед у малінавай камізэльцы, перапытаў: «На сто тысяч крон?..» — а я зноў шчоўкнуў замком: «Еўра…» — і ўвесь швед стаў малінавым, як ягоная камізэлька, нават рабацінне на твары не праглядвалася, ён прадыхнуў і сказаў: «У нас і стаўкі, і выйгрыш абмежаваныя».

Я спытаў: «А пройгрыш?..»

Такіх пытанняў ніколі, колькі плаваў швед і круціў рулетку на пароме, ніхто яму, вядома ж, не задаваў, да гэткіх незразумелых, неспасцігальных пытанняў шведы, як і фіны з нарвежцамі, і немцы, і ўсе яны, заходнія, ніяк не падрыхтаваныя, бо наскрозь інструкцыямі прапісаныя, ва ўсім законапаслухмяныя, але логіка ёсць логіка, яе яшчэ старажытныя грэкі прыдумалі, і логіка падказвала шведу, продкі якога вікінгамі былі і да Грэцыі даходзілі, што пройгрыш абмежаваным быць не можа, з чаго лагічна вынікала, што і выйгрыш нельга абмежаваць, і круп’е, заблытаўшыся, мусібыць, у нелагічнай логіцы, адказаў бездапаможна: «Не ведаю…»

Я спытаў: «А хто ведае?..» — і круп’е паклікаў яшчэ аднаго шведа, Арвіда, здаровага такога і зусім не рабога, упраўляючага казіно, які, паслухаўшы круп’е і галавой паківаўшы, паказаў мне інструкцыю, нешта накшталт правілаў гульні ў казіно «Танга», як тое казіно называлася, побач з якім быў бар «Танга» і музычны салон «Танга», і ў тых правілах па-фінску, па-шведску і па-ангельску было напісана, што найвысокая разавая стаўка ў казіно «Танга» — пяцьдзесят еўра. «А значыць, максімальны выйгрыш… — Арвід для таго, каб зразумела ўсё стала нават такому тупому, як я, узяў у круп’е калькулятар… — 50 памнажаем на 30…

— Чаму на 30, а не на 35?

— Бо ў нашых правілах напісана на 30, а не на 35, таму маем 1500, а не 1750… І Арвід, нібы прабачаючыся, развёў рукамі: маўляў, калі ўсё напісана, дык пра што казаць?..

«Я не збіраюся выйграваць», — сказаў я Арвіду, які хоць і паслухаў круп’е і галавой паківаў на пачутае, але так нічога і не ўцяміў, і яшчэ раз я паспрабаваў расталкаваць яму, што ў казіно на шостай палубе, не ведаю, чыё там яно і як называецца, прайграў ужо частку грошай, ды там мне не надта глянулася, таму я тут, у казіно «Танга» хачу прайграць астатнія сто тысяч… На гэта Арвід адказаў, што казіно на шостай палубе называецца «Халінг», як аднайменны нарвежскі народны танец. Я спытаў:

«Чаму нарвежскі народны танец, а не фінскі альбо шведскі, калі паром ходзіць паміж Хельсінкі і Стакгольмам?..» — на што Арвід, не маючы дакладнага адказу, змог прапанаваць толькі сумнеўную версію: нарвежцы зараз ва ўсёй Скандынавіі найбагатыя, дык, можа, таму… Але належыць казіно «Халінг», як і казіно «Танга», як і ўвесь паром, аднаму ўладальніку, кампаніі «Вікінг», і ён, Арвід, у казіно «Халінг» таксама за ўпраўляючага, і там побач бар «Халінг» і музычны салон «Халінг», і ўсё там гэткае самае, як і тут, толькі назвы розныя, таму ён не зусім разумее, чаму мне там не спадабалася…

«Добра, — згадзіўся я, шчоўкнуўшы замком кейса. — Пайшлі туды».

«Там выйгрыш таксама абмежаваны», — пасунуўшыся за мной да сходняў, сумеўся Арвід замест таго, каб запатрабаваць тое, што даўно ўжо запатрабавалі б у любым з нашых казіно: адчыні, фраер, кейс і пакажы грошы. У іх, у шведаў, як і ў фінаў з немцамі, і ва ўсіх іх, заходніх, інструкцыямі прапісаных, законапаслухмяных, завядзёнка такая: калі нехта кажа, што мае сто тысяч, дык ніякага сумневу не можа быць у тым, што яны ў яго ёсць, — вось у чым фокус. Ведаючы гэта, я і забаўляўся, каб скрозь усю ноч ад Хельсінкі да Стакгольма не сумна плыць было. Каюта мая была на другой палубе, самая танная, каля дызеляў і ўсёй паромнай механікі — там нармальнаму чалавеку ноч не вытрываць. Білеты ў такія каюты іншым разам нават задарма даюць, абы ты паплыў — і грошы ці ў барах прапіў, ці ў казіно прайграў, ці ў крамах на пароме пакінуў.

На шостай палубе ў казіно «Халінг» я зноўку, пашчоўкваючы жоўта-бліскучымі, пад золата, замкамі на кейсе, тлумачыў Арвіду і гэткаму ж, як і на сёмай палубе, малінаваму з рабіннем круп’е, толькі ўжо не шведу, а фіну, якому прайграў нядаўна дваццатку і які зараз разяўлена маўчаў, што я хацеў бы прайграць астатнія сто тысяч, і Арвід зноў паказваў мне інструкцыю, даводзячы, што на шостай палубе ў казіно «Халінг» правілы гэткія ж, як і на сёмай палубе ў казіно «Танга», з тымі ж абмежаваннямі найвысокай стаўкі і максімальнага выйгрышу, а я настойліва дапытваўся, як я магу сто тысяч не выйграць, а прайграць, калі не магу іх паставіць, — ці мне іх проста так аддаць на развіццё нарвежскай народнай творчасці?..

Арвіду, я гэта па выразе твару ягонага ўбачыў, не надта спадабалася, што я хачу аддаць грошы на развіццё нарвежскай, а не шведскай народнай творчасці — яны ў Скандынавіі

не абыякавыя адзін да аднаго. Нарвежцы болей сябруюць, як сяляне з сялянамі, з фінамі, хоць ніякія фіны не скандынавы, проста ў тым баку жывуць, і ўжо разам яны, фіны з нарвежцамі, недалюбліваюць шведаў, гарадскіх, якія з былой метраполіі паглядваюць на былыя калоніі, на сялян сваіх, паблажліва, асабліва на сялян разбагацелых — і Арвід з гэткай лёгкай іранічнай усмешкай мімаходзь анекдот пракінуў: «Прыйшоў швед да нарвежца ў кіроўцы наймацца…»

Калі нехта з вас падумаў, што гэта пачатак анекдота — дык не: гэта ўвесь анекдот. Я ўжо чуў яго, таму не чакаў, што там далей будзе…

Круп'е, разяўлена памаўчаўшы, раптам прапанаваў, каб я свае сто тысяч прайграў, калі ўжо так прайграць мне закарцела, па пяцьдзесят еўра ставячы, і я для таго, каб нават такому тупому, як ён, зразумела стала, узяў у яго калькулятар: «Глядзі… 100000 дзелім на 50, маем 2000 — столькі разоў я павінен паставіць. Гэта ў тым выпадку, калі буду толькі прайграваць і прайграваць, а магу ж і выйграць. І калі ты рулетку будзеш няспынна круціць і круціць, а я буду толькі прайграваць і прайграваць, дык усё адно на кожную гульню спатрэбяцца хвіліны тры, ці няхай сабе ўсяго хвіліна — гэта 2000 хвілін. Дзелім іх на 60, маем 33 гадзіны і 333 333 хвіліны ў перыядзе. Па 3 хвіліны — гэта 99 гадзін і 999 999 у перыядзе, а паром у Стакгольме ў 9 раніцы… Дык дзе мне часу набрацца, каб столькі гуляць з табой?..»

Рабога круп'е, як мне здалося, найбольш уразіла тое, што ў перыядзе, і болей у гаворку нашу з Арвідам ён не ўлазіў.

Арвід знямогся ў напружанні скеміць, чаго я ад яго хачу, калі ён не можа змяніць правілы, перапісаць інструкцыю, якую на радзе дырэктараў кампаніі зацвердзілі, і тут у галаве ягонай нешта шчоўкнула, як у мяне замок на кейсе, гэтак «шчоўк», я нават гук пачуў, Арвід выратавальна нешта ўспомніў і пазваніў нейкай Наташы, тая прыйшла і, скасіўшыся на мой кейс, спытала ў мяне па-руску:

— Панты ганяеш?..

Я да чаго пра гэта распавядаю?.. Бо падумаць паспеў, што мужык той, на бадзяжніка падобны, які прыпаліць папрасіў і ў лоб мне стрэліў, абрабаваць мяне, кейс мой забраць хацеў, бо таксама плыў на пароме і ўсё падгледзеў, падслухаў збоку, паверыўшы, што ў кейсе маім насамрэч сто тысяч… Як паверыў пра сто тысяч і той няголены чарнявец, які, калі ўжо я гарэлку ў бары выпіваў з Арвідам, падсеў да мяне і, выдаючы сябе за чачэнца, стаў плесці, што Масхадаў, прэзідэнт Чачні, якога ён,

як сябра, проста па імені называў, Аслан ды Аслан, паслаў яго ў Стакгольм, каб з Ахмедам Закаевым, прадстаўніком Масхадава на Захадзе, сустрэцца, які заўтра ў Стакгольм з Лондана прылятае, і яны будуць зброю для вайны за незалежнасць прыкупляць. Ён не можа, зразумела, адкрыць, дзе яны тую зброю прыкупляць будуць і ў каго, а можа сказаць толькі, што ім грошай трохі не хапае, тысяч сто, дык Аслан даручыў яму знайсці іх пад любыя адсоткі, вось… І чарнявец паказаў бліскучую, укладзеную ў скураную папку з залацістымі, як у мяне на кейсе, замочкамі, мелаваную паперу з грыфам «Прэзідэнт Рэспублікі Ічкерыя», на якой было напісана, што гэтая папера з'яўляецца дакументам, які гарантуе выплату… (тут быў пропуск для таго, каб пазначыць, каму і колькі…) адсоткаў ад сумы… (яшчэ адзін пропуск, каб праставіць суму), а выплата забяспечваецца ўсёй маёмасцю, нетрамі, нафтай і золатам (нібы нафта і золата — не нетры) Рэспублікі Ічкерыя, — пад чым прэзідэнт і падпісваецца. Чарнявец прапанаваў спачатку трыста, потым пяцьсот і адразу ж, рукой махнуўшы, тысячу адсоткаў, бо надта тэрмінова патрэбныя грошы, на кейс з якімі ён усё касіўся, і мне, каб гэты жулік-аматар па дурасці мяне не прырэзаў, давялося выйсці з бара і паказаць яму ў кейсе брытву фірмы «Gillette» і пакет з намаляваным на ім чырвоным трактарам і зялёным надпісам *Belarus,* а ў тым пакеце — трусы фабрыкі «Камсамолка», верным якой я застаўся, нягледзячы на віхуры перамен. Брытву я чарняўцу нават паспрабаваў прэзентаваць, каб пагаліўся, ды ён не ўзяў — пакрыўджаны, як школьнік за двойку… З ім было зразумела ўсё, але той, на бадзяжніка падобны, стрэліў мне ў лоб і пайшоў сабе далей па вуліцы ціхага шведскага горада Мальма, нават не скасіўшыся, як чарнявец ці Наташа, на мой багаты, з замкамі пад золата, кейс.

Наташа аказалася, калі па-нашаму сказаць, загадчыцай культмасавага сектара на пароме «Вікінг»: распявала з п'янымі фінамі і шведамі песні ў салонах «Танга» і «Халінг». Была яна, хоць і падобнай на шведку, рускай з Выбарга — горада, заснаванага некалі шведамі, перададзенага пасля фінам і ўрэшце забранага рускімі. З Выбарга яе ўзяў замуж швед, з якім яна хутка развялася, а той швед, багаты, як нарвежац, сябраваў з нейкім фінам, саўладальнікам кампаніі «Вікінг», і ў залік адступнога ўладкаваў яе на паром. У шведаў з фінамі, як і ў нарвежцаў, як і ў немцаў, як і ў нас, дый паўсюль у свеце, дзе мне пабываць давялося, — блат ды сувязі. Скрозь у свеце блат ды сувязі, без якіх табе застаецца толькі посуд мыць ды вуліцу падмятаць.

— Ты хто? — спытала Наташа? — Бандыт? Ігрок? Кідала?.. Чым на жыццё зарабляеш?

Я ўсміхнуўся ёй абаяльна, я ўмеў, калі жывы быў, абаяльна ўсміхацца:

— Сваток.

— А-а…

Яна зразумела. Ведала, відаць, што ёсць такі занятак сярод процьмы іншых: нашых нявест за багатых замежнікаў прыстройваць. Можа, і сама праз сватка прайшла.

— Ты б згуляла на руку мне… Не згуляеш — сумная ноч будзе, а нашто табе мая сумная ноч?.. Скажы яму, — кіўнуў я на Арвіда, — што ў нас пры вялікай гульні за кошт казіно наліваюць. А яны мне яшчэ і маральна вінныя: хачу прайграць — і не даюць.

Наташа здзівілася:

— Ты разлічваў, што табе нальюць?

Я сказаў:

— Не ўпершыню…

На пароме гарэлка хоць і без акцызу, ды ўсё адно ў бары кілішак столькі каштуе, што лепш на рулетку паставіць. А ў «Duty-free» пляшку купіць і ў каюце побач з дызелямі піць — задыхнешся.

— Абаяльны ты жулік, — пацвердзіла маю абаяльнасць Наташа. — Дзіўна, што бедны.

— Грошы ёсць, але не на прапой. На білет да Мальма.

— І па што ты туды?..

— Па сваё… Нявесту адну прыстроіў, а яна і не думае разлічвацца. Мусіць, думае, што за так…

Яна сапраўды ўсё зразумела і руку працягнула, назваўшыся: «Наташа», — і я назваўся: «Павал», — яна сказала: «Майго бацьку таксама Паўлам зваць», — на што я сказаў, што не таксама, бо я не Павел, а Павал, так мяне мой бацька назваў, гэтак маё імя ў пашпарце напісана, во, я паказаў ёй свой беларускі пашпарт, а яна спытала: «Ты чэх?..»

Чэх дык чэх, я не звык з гэтым разбірацца, я б і Павалам не называўся, няхай бы таксама Паўлам быў, але бацька настойваў, каб я заўсёды ўдакладняў, што я Павал, а не Павел, і я яму, нябожчыку, абяцаў, дык і ўдакладняю, таму што любіў яго. Ён памёр ад інсульту, ціск праз нервы зашкаліў, бо яго з работы пратурылі, ён з нацыянальнымі залётамі быў, што мне не перадалося, для мяне ўсе людзі — даяры і каровы, без нацыянальнасці: тыя, хто доіць, і тыя, каго дояць. Але я ўсё ж спытаўся ў Наташы,

бо дзіўна было, што чалавека, які беларускі пашпарт паказвае, за чэха прымаюць: «Чаму чэх, калі Павал?..» — і яна адказала: «Бо вунь Арвід — швед, таму і Арвід…»

Па адказе, дый па ўсім астатнім выглядала на тое, што мы падобныя, з чаго ўсё і пачалося… Калі б мы не былі падобныя, калі б яна не дапамагла мне раскруціць Арвіда, — які сам, бо на рабоце быў, не піў, а ўсё расказваў, як бацька ягоны вучыў яго вызначаць, наколькі ён, калі п'е, п'яны і ці можна яму яшчэ піць, — я б не сядзеў у музычным салоне «Халінг», не скакаў бы і не спяваў з п'янымі шведамі і фінамі народныя танцы і песні, не дапытваўся б ва ўсіх, чаму на пароме, які ходзіць з Фінляндыі ў Швецыю, музычны салон па-нарвежску называецца, чаго ніхто не ведаў, а мне трэба было дазнацца, бо, калі незразумелаўка нейкая мне ў мазгі западае, дык брынчыць там і замінае, пакуль не вытрасу, і я спяваў і распытваў, скакаў і распытваў — і апынуўся пад раніцу ў Наташынай каюце, выходзячы з якой, калі паром ужо прычальваў, па звычцы пашнарыў па кішэнях, дастаючы і назад засоўваючы пашпарт, партманет, запальнічку, убачыўшы якую Наташа спытала сонна:

— У цябе пісталет?..

Мне б сказаць ёй, што гэта цацка італьянская, у Швейцарыі ў горадзе Зермаце купленая, а я сказаў, крутога з сябе строячы, сіняга нейкага, што так, пісталет, і яшчэ спытаў, як яна ўяўляе ў сённяшнім жыцці мужыка без пісталета?..

Наташа пацягнулася — спакусліва гэтак, як ні шведка, ні немка не пацягнецца.

— Ты ў Мальма калі едзеш?.. Я ў Стакгольме на тыдзень застаюся, адпачынак. Сёння занятая, а заўтра вольная… — І мы дамовіліся заўтра, калі ўжо я разбагацею, спаткацца а шостай вечара ў Мальма каля гатэля «Хілтан».

Наташа прыгожая была. І падобная — нутром, сарцавінай да мяне падобная, чым і вабіла, я нават прапанаваў ёй разам быць. А яна адказала, што мы не можам быць разам, бо яна прастытутка. Знайшла прычыну…

З Арвідам мы развіталіся сябрамі.

— Выбіраеш, як толькі ўваходзіш у рэстаран, самую страхотную сярод усіх афіцыянтку, да якой цвярозы і не падышоў бы, — распавядаў мне бацькаву навуку Арвід, — і як толькі яна пачынае табе падабацца, значыць, усё, фініш. Ты п'яны, як цэп.

— А калі, — я пытаўся, — няма страхотных?..

Тут Арвіда закліньвала: пра такую неспадзяванку бацька яму не казаў.

— Глядзі, што маю… — паказаў мне Арвід скураную папку з залацістымі, як у мяне на кейсе, замочкамі, у якой была бліскучая, мелаваная паперына з грыфам «Прэзідэнт Рэспублікі Ічкерыя», і ў пропускі ў тэксце на паперыне было ўпісана, што ён, Арвід, ахвяраў на барацьбу за незалежнасць Чачні 100 000 (сто тысяч) еўра, пра што сведчыў подпіс прэзідэнта. Я не стаў пытацца, дзе ён узяў сто тысяч, калі я іх не прайграў, а спытаў, колькі гэтая паперына яму каштавала?.. Арвід адказаў, што паўсотні. І сумеўся: «Хіба не варта?.. Калі ў рамку ўзяць, на сцяну павесіць…» Я адказаў, што варта. Нашчадкі ганарыцца будуць.

Сыходзячы з парома, я выглядваў няголенага чарняўца, каб паціснуць яму руку і сказаць, што ён зусім не школьнік, але ў натоўпе не знайшоў.

Пад вечар я ўжо быў у Мальма. Там раён, дзе адны магазіны ды офісы, да якога ад вакзала хвілін дзесяць хады, трохкутнікам называецца — мая «нявеста» ў ім жыла. Пераканаўшыся, што па найвышэйшым класе яе прыстроіў, я, апроч налічаных адсоткаў за несвоечасовы разлік, яшчэ і за фешэнебельнасць накінуў. За дарогу, само сабой, палічыў, за білеты. І пра тую трыццатку, якую ў казіно прайграў, не забыўся. Бо не паехаў бы — не прайграў бы.

Я чакаў, што з разлікам праблемы будуць, бо ў некага грошы забраць — заўсёды праблема, а «нявеста» так перапудзілася, на парозе мяне ўбачыўшы, што і ўпірацца не стала: заплаціла столькі, колькі я сказаў. Нават трохі болей, з верхам разлічылася — на каву з пірожным. Абы ў яе дома я каву не піў, а хутчэй пайшоў, каб муж не застаў, які хоць і швед, але раўнівы, як грузін. Здараюцца і сярод шведаў такія. Рэдка, але здараюцца.

Можна было ехаць назад. Калі б не дамоўленасць пра спатканне з Наташай. Заўтра а шостай вечара каля гатэля «Хілтан».

Багаты ўжо, я не стаў шукаць таннага гатэля, а ў «Хілтане» і пасяліўся. Выбраў нумар на самым высокім паверсе, адкуль, як сказаў незвычайна гаваркі для шведа парцье, што мяне пасяляў, відаць уся Еўропа. Ці калі не ўся Еўропа, дык уся Данія. Ці калі не ўся Данія, дык увесь Капенгаген. Праўда, пры сонцы.

Ліфт, які ўзносіў мяне пад нябёсы, быў цалкам шкляны. Падлога толькі не шкляная. Ды ўсё адно здавалася, што няма апоры пад нагамі, і я недзе ў пустаце, недзе нідзе… Дух, здань… Стала раптам страшна, захацелася спусціцца — і на вакзал. Але цягнула і ўсмоктвала пустата. Я быў багаты, а Наташа была прыгожая. І падобная. Напляваць, што прастытутка.

Назаўтра, ад няма чаго рабіць да самага вечара, я зайшоў, каб час заняць, у магазін «Triangeln», што значыць «Трохкутнік», дзе мне ўсунулі рэкламны праспект, у якім было напісана, што магазін «Triangeln» — гэта не адзін магазін, а семдзесят два магазіны ў адным, і я хадзіў з аднаго ў другі, а пасля, нібы тых 72 мне не хапіла, туляўся яшчэ па нейкіх буціках, купіў туфлі, касцюм, плашч, кашулю, гальштук, бо калі ты багаты, дык і выглядаць трэба па-багатаму, залатым пылам іскрыцца, і я ўсё новае на сябе апрануў, нічога старога не выкінуўшы, склаўшы ўсё старое, якое яшчэ насіць ды насіць, у зялёны пакет з намаляваным на ім чырвоным трактарам і надпісам *Belarus,* які прадаўшчыца яшчэ і бліскучымі стужкамі перавязала, і так я ва ўсім новым з усім старым, бліскучымі стужкамі перавязаным, з кейсам сваім іду сабе ў ціхім шведскім горадзе Мальма па вуліцы Södra Förstagatan, што значыць вуліца 1-я Паўднёвая, да гатэля «Хілтан», каля якога праз паўгадзіны ў мяне спатканне з прыгожай жанчынай, потым вечар у рэстаране, ноч у нумары з панарамай усёй Еўропы, дый наогул жыццё наперадзе, а тут падыходзіць той бадзяжнік і пальцамі пстрыкае, просячы прыпаліць, сам дастае запальнічку, на пісталет падобную, гэткую ж, як у мяне, раптам страляючы мне роўненька пасярэдзіне лоба над пераноссем, якраз туды, дзе індусы круглыя знакі свае, кропкі свету ставяць, і я аказваюся нібы ў цалкам шкляным, ці нават у паветраным ліфце без апоры пад нагамі, дух, здань, недзе ў пустаце, недзе нідзе, — во ё-маё, Наташа…

## Наташа

У Мальма магазін ёсць «Triangeln», што значыць «Трохкутнік», па назве раёна, дзе месціцца, і ў гэтым магазіне яшчэ семдзесят два магазіны, што вельмі зручна, але я не праз тое ў Мальма бываць люблю, магазінаў паўсюль хапае, па сто ў адным, а вось такіх высозных гатэляў з фітнэс-цэнтрам на самым версе, куды цябе шкляны, нібы паветраны, ліфт падымае і скуль панарама ўсёй Еўропы адкрываецца, ці, прынамсі, панарама Капенгагена з усёй Даніяй, у Стакгольме, а тым больш у Хельсінкі, няма, і якраз таму я іншым разам у Мальма, як на поўдзень, пад'язджаю, бавячы час у фітнэс-цэнтры, гледзячы зверху на Еўропу, — прыгожа… Стуль і замак відаць, у якім Гамлет, прынц Дацкі, вар'яцеў. Глядзіш, думаеш…

Еўропа паціху вар'яцее.

Я ў Выбаргу нарадзілася, дзе няма чаго рабіць, таму ў Піцер паехала, каб там ці спявачкай, ці артысткай стаць. Стала пра-

стытуткай, ды на тое напляваць, прынамсі, шведам, якія рускіх сюжэтаў літаратурных: нейкі князь у нечым вінаватым сябе палічыўшы, з прастытуткай надумаў ажаніцца, дык тым самым ледзьве не маральны подзвіг здзейсніў, — не прасякаюць. Ну, была прастытуткай і была. Цяпер не прастытутка. Шведы, немцы, датчане, ды ўсе яны на захадзе адносіны з целам не ўскладняюць. Аніякіх яму ланцугоў з вярыгамі, толькі песціць яго, толькі лашчыць. Для таго і фітнэс-цэнтры з панарамай Еўропы…

З тым, што не цела ў чалавеку, — складаней. Але і ў гэта ніхто так балюча, як у нас, не лезе.

Прастытуткай я не абы-якой была, а прыпісанай да салона, які трымала жонка былога партыйца — таксама не абы-якога. Я ў школу хадзіла — яго ўсё па тэлевізары паказвалі. То ордэн яму чаплялі, то зорку…

Не ведаю, колькі ў тым салоне ўсіх нас было, але, мяркую, не менш за сотню. Прычым мы падзяляліся нібы на касты…

Вулічных там, зразумела, не трымалі. Прастытуткі ніжэйшай касты, «дамы», прадаваліся па інтэрнэце. На сайце салона, зробленым пад рэспектабельны часопіс, змяшчаліся фотаздымкі «дам». І расказваліся пра іх усялякія казкі…

Найбольш здольных, пашколіўшы ў ніжэйшай касце, пераводзілі ў вышэйшую — у «лэдзі». Навучаныя і сексу, і мовам, і шмат чаму яшчэ, «лэдзі» былі значна даражэйшым таварам. Яны пастаўляліся для ўпрыгожвання прыёмаў, раутаў, фуршэтаў. Іх бралі, каб яны прысутнічалі пры падпісанні кантрактаў, у дзелавых паездках. І яны, безыменныя зоркі, мільгалі на тэлеэкранах пад час дзяржаўных, партыйных, камерцыйных тусовак. Глядзіш: стаіць прэм’ер-міністр ці спікер парламента, а побач — твая сяброўка салонная…

Панарама.

З вышэйшай касты адбіралася яшчэ і элітная. Можна сказаць, спецназ, які абслугоўваў былога партыйца, мужа гаспадыні салона. І выконваў ягоныя даручэнні. Праз адно з іх, апошняе, я і апынулася за мяжой.

Партыец быў з ельцынскіх, і калі да ўлады пуцінскія прыйшлі, яго пачалі выпіхваць з бізнесу. Адзін з пуцінцаў стаў ягоным канкурэнтам у барацьбе за піцерскі порт. Нешта з канкурэнтам трэба было рабіць, але на пуцінскіх нават кілера знайсці не ўдавалася — так іх усе баяліся. Прыкідваючы варыянты расправы, былы партыец, якому б у Галівудзе сцэнарыстам быць, прыдумаў, сярод іншых, і варыянт з маім удзелам.

У канкурэнта ягонага сын быў. Хлапчук, толькі школу скончыў… У Марыінскім тэатры, куды, панты ганяючы, прыблізна пароўну хадзілі інстытуткі і прастытуткі, дэпутаты і бандыты, я з ім і пазнаёмілася. Сутыкнулася на лесвіцы: «Ах!..» — і сумачка выпала, і, калі я за ёй нахілілася, цыцка выглянула з дэкальтэ… Хлапчук вачэй не мог звесці з яе ружовай зрэнкі.

Я праз тэатр і музыку, праз жывапіс яго і павяла. Праз галерэі з музеямі… Ружавела, грубае слова пачуўшы, — я ўся ўмела ружавець… І ўсё бліжэй, не дазваляючы большага, да цыцкі падпускала.

Хлапчук шалеў. Цяля… І заявіў бацьку, што жэніцца. А той яму па мордзе, як і было наперад прапісана ў сцэнары.

Па тым жа сцэнары я пазнаёміла хлапчука з адным з ахоўнікаў партыйца, які выконваў даручэнні па ліквідацыі. Выдала яго за свайго брата… І той, здаровы, з мянушкай Ражон, слухаючы хлапчука, як мужык мужыка, стаў накручваць яго на подзвіг. Маўляў, калі б нехта яму, хоць бацька, хоць брат, замінаў кахаць тую, якая для яго найлепшая з усіх, ён не стрываў бы. Во гэтымі б рукамі задушыў ці забіў бы во з гэтага пісталета… І дастаў пісталет — пад цацку, пад запальнічку зроблены. Сказаўшы хлапчуку, што гатовы дапамагчы, калі ён сам не справіцца. Хай толькі ў дом правядзе, як сябра.

Хлапчук, зусім ужо ашалелы, адказаў, што справіцца сам, і пісталета не трэба… І паставіў бацьку ультыматум: ці той дазваляе яму ажаніцца, ці ён вешаецца. Бацька чуць яго не захацеў: «Вешайся!..»

Хлапчук павесіўся.

Гэтага ў сцэнары не было прапісана, такога не прадбачылася, як і ўсяго далейшага. Баючыся, што праз мяне раскруцяць увесь клубок, мной замянілі адну з «лэдзі», купленую ў салоне для дзелавой паездкі, і адправілі на падпісанне кантракта ў Фінляндыю. Сказаўшы, што пазней перашлюць грошы, і каб я пару гадоў не вярталася.

Не ведаю, чаму проста не забілі.

Прэзідэнт фірмы, якая мяне купіла, ніяк не мог працягнуць кантракт на пастаўку ў Фінляндыю лесавіны. Мне ўсё адно было, хто і чым займаецца, але тут я здзівілася: як жа раней яму ўдавалася нешта прадаваць, калі ў фінаў у саміх уся зямля ў лясах? Прэзідэнт растлумачыў: свой лес яны не сякуць, зберагаюць, рускі бяруць. І, бач, мецъ справу з ягонай фірмай раптам заўпарціліся, сталі шукаць іншых кампаньёнаў. А гэта мільёны і мільёны, так што мне трэба пастарацца…

Заўпарціліся фіны, як аказалася, нездарма: усё прадстаўніцтва фірмы, на якую я старалася, праз дзень пасля перамоў арыштавалі. Разам з прэзідэнтам. Бо фірма, якой мала было мільёнаў і мільёнаў за саму лесавіну, у полых ствалах дрэў, акуратна закаркаваных выразанай сарцавінай, гнала на захад кантрабанду. Пасля, убачыўшы, што канал працуе надзейна, узялася за наркотыкі.

Мяне затрымалі, бо ў паперах, па якіх мяне прывезлі, я значылася менеджэрам фірмы. І павярнулі справу да суда…

Каб за што іншае, дык у фінскую ці шведскую турму яшчэ паспрабуй сесці: у чарзе трэба пастаяць. А за наркотыкі садзяць без чаргі, хутка і надоўга.

Я даволі добра ведала фінскую мову, бо суседзі ў Выбаргу фінамі былі, трохі горш ангельскую і шведскую — і на ўсіх мовах пыталася: у чым мая віна? Мне адказвалі, што ў несвядомым саўдзельніцтве. Я дапытвалася, што яно такое: несвядомае саўдзельніцтва? Мне адказвалі, што вось такое яно, як у мяне, саўдзельніцтва несвядомае… І накручвалі за яго два гады. Якраз столькі, колькі мяне прасілі не вяртацца ў Піцер.

Выпадкова ў газеце я прачытала, што ў сувязі з пашырэннем Еўразвяза ад Фінляндыі патрабуюць большага кантролю на мяжы з Расіяй. І зразумела я, што такое несвядомае саўдзельніцтва.

Дапамог мне адзін з дырэктараў сумеснай фінска-шведскай кампаніі. Нядаўні наш партнёр. Той, з якім я старалася, каб быў працягнуты кантракт. Даніэль Саламонсан, швед. Ён наўпрост спытаў, чаго я болей хачу: ці ў турму, ці за яго замуж?.. Нібыта жартам папярэдзіўшы, што гэта амаль адно і тое ж…

Не пачуўшы жарту, я згадзілася замуж, бо мне, апрача ўсяго, і жыць не было дзе. Хіба толькі ў турме.

Даніэль наняў амерыканскага, каб не з Еўразвяза, адваката, спецыяліста па справах з наркотыкамі, і той даказаў, што я ні пры чым. Я заўважыла, як перад амерыканцам фіны не тое каб выцягнуліся ў струнку, але ўсё ж замітусіліся: о’кей… о’кей — і мне гэта, шчыра сказаць, не надта глянулася. У нечым яно да таго, што ў нас рабілася, было падобнае… І выходзіла, што ва ўсім свеце так: дзе грошы, дзе сіла, там і праўда.

Афармляць нашы адносіны Даніэль не стаў. Ніяк. Лічылася, што мы ў грамадзянскім шлюбе. Ён перавёз мяне ў Швецыю і пасяліў у асабняку ў прыгарадзе Стакгольма, амаль што ў лесе. І кожны дзень мы хадзілі на лыжах. Уявіце: на лыжах кожны дзень. Кругамі, кругамі…

Калі Даніэля дома не было, я выбіралася ў горад. З грашыма толькі на кішэнныя расходы. На каву з піражным.

Аднойчы ў кавярні, дзе я піла каву і ела піражнае, з'явіўся Ражон. Я ледзь не задохлася, піражным папярхнуўшыся… Не чакала. І не падумала, што праз Ражна мне грошы перадалі. «Канец мне», — падумала.

Грошай ніхто і не перадаваў. Ражон сказаў, што ўслед за мной ён паспеў збегчы, а партыйца нашага павесілі. На той жа вяроўцы, на якой павесіўся хлапчук. У тым порце, за які партыец змагаўся з канкурэнтам. Так што мне, выходзіла, не два гады дамоў вяртацца нельга, а да новай рускай рэвалюцыі.

Ражон спытаў, што я раблю… Чаго засела ў лесе?.. Ён тут фірму адкрывае, дык…

Ён нічога мне ў сваёй фірме не мог прапанаваць, апроч месца прастытуткі.

Вярнуўшыся ў лес, я сабрала ўсе лыжы, іх шмат было, пасекла і кінула ў камін. Сядзела і грэлася.

Сярод лыжаў былі «дамы» і «лэдзі». А сярод «лэдзі» — яшчэ і элітныя. На іх хадзіў бацька Даніэля, які нават быў некалі нейкім чэмпіёнам, і хадзіў дзед Даніэля, і прадзед… Даніэль казаў, што ўсе яны, як толькі на свет з'яўляліся, спачатку на лыжах хадзіць вучыліся, а пасля ўжо так, без лыж.

Даніэль прыехаў, калі ўсё дагарэла. Убачыўшы друз і попел, напіўся. Потым біўся. Доўга, усю ноч.

Раніцай, уся ў сіняках, я сабралася ў паліцыю. У феміністычнай Швецыі сінякі на жанчыне — гэта не ў нас на жанчыне сінякі, дзе хто каго любіць — той таго чубіць, і няма над гэтым ні суда, ні закона. Тут над усім ёсць і закон, і суд — і немалая сума кампенсацыі з таго, хто любіць і чубіць, калі ён не хоча ў турму. А да ўсяго — розгалас, які паўплывае і на асабісты ягоны імідж, і на імідж кампаніі… Таму Даніэль спытаў, чаго я хачу, каб абысціся без паліцыі. Я адказала, што волі.

Ён згадзіўся. І, каб на волі было мне за што жыць, дапамог з работай: праз нейкага фіна, універсітэцкага сябра свайго, шышку ў кампаніі «Вікінг», уладкаваў на паром. Хоць мог закапаць у лесе — ніхто б мяне не шукаў.

Tack se mycket, Daniel*.

Спачатку я працавала ў бары, пасля ў казіно… Старалася, уверх падымалася хутка. З'явілася на вокладцы часопіса з рэкламай парома — і праз тую рэкламу мяне зноў знайшоў Ражон. Ён

---

* Вялікі дзякуй, Даніэль! (*Шведск.*)

адкрыў фірму, гандляваў, вазіў кантрабанду, яму патрэбны быў свой чалавек на пароме. Я паспрабавала адмовіцца, ён паклаў мне руку на спіну і цісkануў пальцамі шыю. Калі я ачуняла, сказаў, што наступным разам ціскане мацней.

Два тыдні я хадзіла ў ашыйніку. Не сумняваючыся, што наступным разам Ражон мацней ціскане. Як ён з людзьмі распраўляецца, я ведала, бачыла, і ў мяне перад ім быў панічны страх. Нават перад самой смерцю — меншы.

Неяк на паром села адна з нашых, салонных… З білетам у люкс на восьмай палубе. Вылупілася на мяне, убачыўшы, як на здань.

У яе ў люксе мы трохі пагаварылі… Салон цяпер належаў канкурэнту нашага партыйца. А Ражон збег, прыхапіўшы грошы былога гаспадара. Не ўсе, але і нямала прыхапіў, калі яго шукаюць. Вось і яе выправілі, каб паглядзела: ён нібыта ў Стакгольме…

Наступным разам я ўбачыла яе не ў люксавай каюце, а ў паліцэйскай хроніцы. Паліцыя не магла апазнаць труп маладой жанчыны.

Перад рэйсам, на якім плыў Павал, Ражон сказаў, што з Піцера пасылаюць некага для разборак… Дык каб я ўважлівей прыглядвалася… Асабліва да тых, хто ў казіно круціцца, у барах…

Ражон стараўся на мяне страху нагнаць, каб службу пільней спаўняла, але па ўсім выглядзе ягоным, па голасе адчувалася, што і сам ён пабойваўся. Бо ведаў: калі ўжо за яго ўзяліся — не адступяць. Сур’ёзныя цяпер людзі ў Расіі.

А Павал мне глянуўся… Я люблю людзей, якія весела, гуляючы адносяцца да жыцця. Для якіх дзень — капейчына ў кішэні. І не трасуцца яны над кожнай, і не глядзяць, колькі засталося. Як пашчасціць, бо лёс — рулетка.

Ён шапнуў мне пад раніцу, што, калі захачу, можам быць разам. Мне гэта ўсе прапаноўваюць — хто зраніцы, хто ўвечары… Я адказала, што мы не можам быць разам, бо я прастытутка. Нават не сказала, што былая. Ён засмяяўся: «Дык і што?.. Ведала б ты, кім бываюць мужыкі…»

Гэтыя беларусы, асабліва жулікі, усё адно як шведы.

На Павала я і не падумала нічога, пакуль ён, збіраючыся ўраніцы, пісталет не дастаў, зноў яго схаваўшы хуценька… Невялікі такі, падобны на той, які Ражон хлапчуку даваў. Пад запальнічку зроблены.

Са Стакгольма Павал ехаў у Мальма, дзе ўжо болей за тыдзень па кантрабандных сваіх справах круціўся Ражон. Усё нібыта сходзілася — і я прызначыла Павалу ў Мальма спатканне. Але назаўтра, каб даць яму шанс. Калі ён паспее разабрацца з Ражном, дык што ж: рулетка, лёс. І ніхто мне шыю сціскаць не будзе.

Я на пароме яшчэ была, калі пазваніў, як адчуўшы нешта, Ражон. Спытаў: «Ну, што?..» Я адказала, што, здаецца, прыслалі чалавека. І ён едзе ў Мальма. Заўтра ў шэсць вечара каля гатэля «Хілтан» я сустракаюся з ім.

Ражон хмыкнуў. У яго хмык такі — нібы ўсхрап, як у звера, які нажэрся і задаволены. Хутчэй за ўсё, ён і ёсць звер, абліччам пад чалавека падроблены.

Мы мала пра іншых ведаем, дый пра сябе не болей…

Мне вось што пра саму сябе незразумела: нашто я Ражну пра Павала сказала?.. Хоць яшчэ да таго, як ён хмыкнуў, падумала: а што гэта я раблю?.. Каго, як фіны лес, зберагаю?.. І адразу ж, за імгненне нейкае, сама перадумала сябе: калі Павал першым разабрацца не паспее, тады чарга Ражна. Шанс у кожнага быць павінен.

Чаму я так зрабіла?.. так падумала?.. так перадумала?..

Не ведаю.

Па абедзе ў фітнэс-цэнтры ніхто і нічым у той дзень не займаўся, шлюбную цырымонію неадрыўна глядзелі: дацкі прынц жаніўся. На вяселле ў Капенгаген усе еўрапейскія каралі і прэзідэнты з’ехаліся, у нявесты ў крэмавай сукенцы шлейф быў метраў дваццаць, адна з наведвальніц фітнэс-цэнтра, англічанка, мела некалі з прынцам нейкія адносіны, была ягонай girl-friend, дык дапытвалася ва ўсіх і ні ў каго: «Ну што ён у ёй знайшоў?.. Што ў ёй знайшоў ён, звар’яцеў?..» — пакуль я не сказала да ўсіх і да яе, што для дацкіх прынцаў вар’яцець — гэта нармальна. Англічанка заткнулася, а я глядзела на бліскуча-пералівісты шлейф нявесты, што цягнуўся па чырвонай дывановай дарожцы і быў, мусібыць, нават з космасу відаць, і гэтак зашчымела ўва мне: не было ў мяне і ніколі не будзе вяселля не тое што каралеўскага — аніякага. Яшчэ я думала пра тое, колькі ж адначасова ў свеце самага рознага адбываецца: вунь каралі з каралевамі, дзіўныя ў наш час у каронах сваіх, сабраліся, нявеста з бясконцым шлейфам і жаніх у залатых эпалетах, святар у белым жабо, кветкі, бляск, этыкет, манеры, а непадалёку Ражон з Павалам кружляюць, думаючы, як ім адзін аднаго забіць, і рап-

там я адчула, мне здалося: з Павалам у мяне нешта можа быць. Няхай сабе не каралеўскае, але нешта можа быць, бо для яго вар'яцець — гэта нармальна. І ўжо з фітнэс-цэнтра спускаючыся, я са шклянога ліфта, да якога не прывыкнуць ніяк, бо здаецца, што вось-вось зваλішся, уніз абрынешся, убачыла, як да Павала, які нетаропка, бо да шасці паўгадзіны яшчэ заставалася, крочыў да гатэля, а я на паўгадзіны раней спускалася, каб папярэдзіць яго, што ў шэсць да мяне ні ў якім разе нельга падыходзіць, каб пасля ў нас з ім, няхай не каралеўскае, але нешта ўсё ж было… — дык вось тут я і ўбачыла са шклянога, нібы паветранага, ліфта, як да Павала, ва ўсё новае, нібы на вяселле, апранутага, бо ён, мусіць, разбагацеў, падышоў чалавек, апрануты неахайна, як бадзяжнік, і папрасіў, як мне здалося, у Павала прыпаліць, а Павал дастаў пісталет, на запальнічку падобны, бо, мусібыць, усё зразумеў, першым хацеў стрэліць, але не паспеў, бадзяжнік апярэдзіў яго, стрэліўшы з гэткага ж пісталета, і Павал доўга, нібы не знаходзячы, куды кейс паставіць, абсядаў, падмінаючы зялёны пакет з намаляваным на ім чырвоным трактарам, і ўсё глядзеў услед бадзяжніку, які паціху, не азіраючыся, адыходзіў ад яго па Södra Förstagatan, 1-ай Паўднёвай вуліцы, у пачатку якой прамільгнуў і згубіўся ў натоўпе Ражон, які без мяне, звярыным нюхам сваім вынюхаў Павала і скарыстаў свой шанс, а Павал свой не скарыстаў, і, можа быць, праз мяне: я заняла яго спатканнем, вунь як апрануўся — не на смерць жа…

Ліфт толькі спусціўся, а ўжо прыехалі і «хуткая дапамога», і дзве паліцэйскія машыны. Рабіць мне тут болей не было чаго, надзея, пакліканая каралеўскім вяселлем, казкай пра Папялушку, мільгнула і прапала, я заспяшалася да вакзала, крайком вока назіраючы, як бадзяжніка, які не ўцякаў, не хаваўся, ішоў сабе ціха, нібы гуляючы, па вуліцы, паліцэйскія з адной машыны дагналі, збілі з ног, скруцілі, а паліцэйскія з другой машыны кінуліся да Павала, якога клалі ў машыну «хуткай дапамогі», і адзін паліцэйскі, у пальчатках, асцярожна пісталет Павала з ходніка падняў, прыгледзеўся да яго, пстрыкнуў ім і паказаў другому паліцэйскаму, які сказаў: «Det är leksaken, tändaren…»* І ўва мне паднялося ўсё, вантробы і дыханне, — пад горла, нібы я ўніз паляцела, праваліўшыся ў шкляным ліфце, дзе не было падлогі.

---

* Цацка, запальнічка… (*Шведск.*)

## Ражон

Я ў прыгарадзе нарадзіўся, у сельгаспасёлку. Пры любым горадзе такія пасёлкі ёсць, і кожны, хто там жыве, з маленства ведае, што нарадзіўся ён і жыве для таго, каб біцца з гарадскімі. Штовечар сядалі мы ў электрычку і ехалі ці ў парк, ці на дыскатэку, дзе, доўга не чакаючы, каб да ночы дамоў вярнуцца, усчынялі бойку. Нам было ўсё адно, каго і за што біць, і часцей, чым мы іх, гарадскія, сабраўшыся, білі нас, але нам гэта толькі дадавала злосці. Назаўтра, абмыўшыся ад крыві, мы зноў сядалі ў вагон электрычкі і ехалі, каб біцца насмерць. Мы ні пра што не думалі, нас вабіла небяспека, рызыка, нам быў у асалоду сам пах бойкі, а ў газетах пра нас пісалі, што мы — сацыяльная праблема.

Неяк па тэлебачанні пра нас дыскусію завялі, і адзін прафесар сказаў, я запомніў, што мы б’ёмся, несвядома адваёўваючы сабе жыццёвую прастору, занятую тымі, каму яна за так дасталася. Я зразумеў, што меў на ўвазе прафесар: гэта як некаму выпадае каралём нарадзіцца, а некаму біцца і біцца, каб пры каралеўскай кухні ці пры канюшні служыць.

З дзяцінства, апроч таго, што біўся і мяне білі, і быў заўсёды галодны, я вось што яшчэ запомніў. З арміі Лёнік, суседаў сын, вярнуўся, і сусед пеўня, каб да стала засекчы, злавіў. Таптаўся з пеўнем на дрывотні, ніяк сякеру не мог знайсці, на жонку крычаў, што тая падзела некуды, а Лёнік сказаў, што не трэба сякеры. Узяў пеўня з бацькавых рук — і чык па шыі рабром далоні, нібы сякеркай. Галава пад калоду адляцела, а Лёнік абыякава, нават лянотна рукі абцёр адну аб адну, пеўня кінуўшы, які пабег па двары без галавы, крывёю з горла ва ўсе бакі пырскаючы…

Я пакляўся сабе, што навучуся гэтак, як Лёнік… Так, каб галава адлятала, па шыі біць, і так абыякава, лянотна рукі абціраць.

Пакляўся і навучыўся. У секцыю каратэ пайшоў, у арміі ў спецназ узялі, намахаўся і сякеркамі, і лапаткамі… Чалавеку галаву так проста, як пеўню, без лапаткі ці сякеркі не адбіць, тут неймаверная сіла і хуткасць удару патрэбныя. Жылісты чалавек. Асабліва мужык, баба не такая.

Зрэшты, што мужык, што баба — шыйныя пазванкі ва ўсіх з касцей. І ўжо іх я, руку набіваючы, натрушчыў. Балазе было каму і дзе, паўсюль ваявалі.

Калі б у спецназе плацілі нармальна, можна было б далей служыць. Але не плацілі.

Адслужыўшы, паспрабаваў у спорце патузацца, ды там пасля сапраўдных бойкаў пах не той. Потам пахне, не крывёй. Таму згадзіўся, калі прапанавалі іншую работу.

«Новы рускі», які наняў мяне ў ахову, быў ніякі не новы, стары партыец. З найвышэйшай касты. З тых, хто і распачаў дзяльбу, падзяліўшы краіну так, што ўсё, што было ў ёй на зямлі і пад зямлёй, ім дасталося. А потым яны кляліся, што зусім не гэтага хацелі — проста так выйшла. Але не інакш, бач, выйшла, а менавіта так. З чым не маглі змірыцца тыя, хто да дзялёжкі стаў падбірацца пазней.

Пад час, калі ў Крамлі піцерскія заверхаводзілі, маскоўскія даўно ўжо ўсё падзялілі. У газетах пісаць пачалі, што нельга дапусціць перадзелу, бо гэта дэстабілізацыя, інфляцыя і ўсё такое. Адразу ж кожнаму, хто быў хоць з нейкімі мазгамі, зразумела стала, што пачаўся перадзел. У Крамлі сабралі ўсіх, хто раней нахапаў, сказалі: «Мы не будзем вас чапаць. Пры ўмове, што той, хто нахапаў на метале, укладвае грошы ў металургію, хто на нафце — у нафтаздабычу, хто на зброі — у армію…» — і так па ўсім спісе. Так яны быццам бы хітра прыдумалі, як грошы нахапаныя забраць. Ну, не ўсе, хоць колькі-небудзь — нібыта з клопатам пра краіну.

Знайшлі дурных…

Старых піцерскіх заадно з маскоўскімі прасавалі, не зважаючы на зямляцтва. Мой партыец таксама на той сходцы быў. Ім сказалі, яны паслухалі, галовамі паківалі: маўляў, згодныя. Але ніхто, зразумела, ні капейчыны не аддаў. Наадварот, зноўку ўсе гэтак грэбсці завіхаліся, нібы сваё не дабралі. Тады і стала самай большай чаргой у Піцеры чарга на могілкі. Як і ў Маскве.

За піцерскі порт было некалькі войнаў, і калі пачалася новая, партыец сказаў мне, што трэба не толькі бараніцца, але і нападаць. Зубы паказваць, каб не думалі, што яны ў яго павыпадалі. Карацей, каб я набраў людзей. Групу ліквідацыі.

Я падабраў групу з сямёх. Разам са мной — васьмёра, на дзве машыны. Чатырох сваіх спецназаўскіх узяў, трох сельгаспасёлкаўскіх… На рабоце не прадыхнуць было, не паспяваў рукі абціраць.

Партыйца зноў запаважалі, адступацца ад яго, здалося, пачалі — і раптам ледзь не кончылі. Ды яшчэ праз сваіх.

Жонка ягоная бардэль трымала, салонам яго называючы. Некалькі прастытутак гаспадара абслугоўвалі, у яго на пасылках былі. Такія — не падступіся. Гонар паказвалі. Свой прастытуцкі,

але гонар. «Мы не ў бардэлі, мы ў салоне». Я паспрабаваў з адной, з Ляляй, танклявай такой… Яна мне: «Ты паглядзі на сябе, кабан!..»

Сучка.

Якраз у нанятай для яе кватэры на Васільеўскім у партыйца і пальнулі. З дому насупраць, Ляля ў спальні акно не зашторыла. Куля зрэзала ланцужок, на якім шторная ручка вісела, зрыкашэціла. Так што партыец выпадкова ўратаваўся — і даручыў мне разабрацца.

А ў чым разбірацца?.. Сучка. Перакупілі, працавала на некага. Трэба было астатнім паказаць, што за такое бывае.

Я сказаў гаспадыні, каб у той жа кватэры на Васільеўскім склікала прастытуцкі сход. Увесь іх блядскі спецназ сабрала, як яны самі сябе называлі. Паставіў Лялю перад усімі і, калі ўжо яны спецназ, — чык па шыі! Шыя ў яе, як у курыцы, была, і Ляля, мусіць, яшчэ ўбачыць паспела, як галава ў яе адляцела, і пабегла за ёй, за галавой без галавы, па ўсёй кватэры крывёй пырскаючы…

Эфектна выйшла. Не пападалі, прытомнасць страціўшы, толькі гаспадыня і Наташа, якую я тады і запрыкмеціў. Яна не стала, як Ляля, ламацца. Ды ўсе яны шоўкавымі сталі.

Нешта ў Наташы мяне вабіла. Яна была прастытуткай — і ў той жа час не. Я разумею, што такога не бывае, але ў ёй вось такое было.

Не ведаю, што гэта, і як растлумачыць… Мігценне… Я хацеў нават прапанаваць ёй жыць са мной. Якраз перад тым, як гаспадар падкінуў нам работу на пару. Пасля якой было ўжо не да мігцення.

Мы дазналіся, хто з канкурэнтаў заказаў партыйца, але таго, былога гэбіста, не ўдавалася паваліць. Ледзь не армію меў, моцна стаяў. Тады партыец і прыдумаў, як разабрацца з ім праз ягонага сына. Падрабязны план напісаў для мяне і Наташы, якая павінна была так хлапчука накруціць, каб ці сам ён бацьку кончыў, ці мяне ў дом правёў.

План мне не глянуўся, кіно нейкае. А хлапчук спадабаўся. Нават шкада было, калі павесіўся…

Забаўны ён быў. Я пісталет яму даю, каб ён, як мужык, за сябе пастаяў, і ён нібыта згодны бацьку прышыць, каб з Наташай быць, ды раптам кажа: «Вы пісталет мне падшукайце, каб несапраўдным выглядаў, на цацачны паходзіў. Каб я думаў, што гэта гульня…»

Я прынёс яму невялічкі, італьянскі, на запальнічку падобны, ён і яго не ўзяў… Так пісталецік той у мяне і застаўся. Нашу яго з сабой, ніхто не думае, што сапраўдны.

А хлапчук вяроўкай абышоўся…

У бацькі ягонага ў ахове мой аднакашнік армейскі, былы спецназавец, служыў, які мяне папярэдзіў, што гаспадар, як толькі сына пахаваў, адразу ў Маскву паехаў. Каб давесці там, што партыец даўно ўжо ўсім замінае. І давёў, з ім згадзіліся. Так што чакай, сказаў аднакашнік, гасцей. Ці саскоквай, каб мы адзін аднаго не пастралялі.

Я не стаў чакаць. Перад тым як саскочыць, пачысціў партыйца. Ламануў, можна сказаць, партыйную касу. Праз гэта мяне і пачалі даставаць за мяжой: вярні не сваё.

Хрэн вам. Чаму яно не маё, а ваша? Вы што, каралямі нарадзіліся?..

Дома мне не выпадала жыць. Хіба што зусім нядоўга.

У Стакгольм я падаўся, бо там у мяне свой чалавек быў. А ў яго — свой адвакат, які дапамог офіс купіць, фірму адкрыць. Параіў хоць аднаго шведа на нейкі час на работу ўзяць. Я ўзяў беспрацоўнага, адвакат журналіста знайшоў, які напісаў, што я ствараю ў Швецыі новыя рабочыя месцы. Не на іхнім жыву, на сваім, ды яшчэ ім ад мяне перападае. На такіх людзей іначай, чым на звычайных імігрантаў ды бежанцаў, якіх карміць трэба, глядзяць.

Да тых, хто з грашыма, паўсюль адносіны, як да людзей, якія з грашыма. Да іншых — іншыя. Яно было так, ёсць і будзе.

А швед мой, зарплату адрабляючы, наркату з Капенгагена вазіў. Яму дадуць — ён павёз. Не ведаючы, што вязе. Апошнім разам яго ў Мальма ледзь не павязалі, і я паехаў туды, каб пашчупаць, што там і як.

Наркатой у Скандынавіі здаўна афрыканцы з азіятамі займаюцца. Пераважна яны. Яшчэ цыганы. Але ўсё болей і болей тавару пачало ісці ў Еўропу з Сярэдняй Азіі праз Расію — і сур'ёзна падключыліся нашы. Мой чалавек у Стакгольме быў якраз адным з іх.

Ён сказаў мне, каб швед знік. Бо калі ўжо на яго выйшлі, дык усё адно павяжуць. А ў якой ён фірме працуе, хто дапамог фірму адкрыць?.. Як толькі гэта высветліцца — нам сядзець.

Я і сам сумневу не меў, што, калі яго возьмуць, швед усіх здасць. Наш бы дык яшчэ круціў, выдумляў нешта: не ведаю, не маё. Каля аптэкі знайшоў, думаў, што вітаміны. А швед раскажа

ўсё, як на споведзі. Ды не толькі швед — хоць фін, хоць немец, хоць нарвежац. Законапаслухмяныя.

Адвакат мой неяк завёў мяне ў суд. Для практычных, можна сказаць, заняткаў. Каб лепей я шурупіў, у якім свеце цяпер жыву. Ён на судзе дзеда бараніў, які атруціў ката. Мазгі ў ката паехалі: па начах мяўкаў, драпаўся, спаць не даваў. Дзед трываў-трываў — не вытрываў. Дык сведкі ўсе, суседзі, падчыстую яго здавалі. Расказвалі, як ката ён мучыў. «На матузку, — адна суседка паказвала, — гуляць вядзе, і матузок тузае, тузае…»

Усе глядзелі на таго дзеда, як на садыста кончанага.

Пасля гэта па газетах пайшло, па тэлебачанні… У нас людзей штодня канчаюць — і нічога. А тут ката атруцілі — на ўсю Швецыю скандал.

Хоць і ў іх, здараецца, страляюць… Прэм'ера нейкага некалі забілі. Пры мне бабу, якая міністрам была, павалілі. Падышоў мужык у краме — і паваліў. Без прычыны, дык нават не судзілі. Прызналі, што ненармальны, калі без прычыны.

А прычына была… Не хадзі, калі ты міністр, па крамах. У нас ніводнага міністра ў краме не кончылі.

У Мальма ў гатэлі «Хілтан» я на апошнім паверсе, на самай верхатуры пасяліўся. Адкуль, як парцье сказаў, ці не ўся Еўропа відаць. Ці ўся Данія. Альбо, ва ўсякім разе, Капенгаген. З якога швед наркату вазіў…

Гледзячы ўраніцы на Еўропу, якой за туманам не відаць было, я прыкідваў, як мне найлацвей са шведам абысціся. Каб знік, як туман.

Нічога талковага не прыдумвалася. Спусціўшыся ў рэстаран паснедаць, я пазваніў Наташы. Яна сказала пра пасланца з Піцера, які едзе ў Мальма. З якім дамовілася яна спаткацца заўтра а шостай вечара каля гатэля «Хілтан».

Ты думаеш, як зрабіць так, каб знік нехта. А нехта думае, як зрабіць так, каб знік ты. Жыццё ідзе, усё нармальна.

За суседні стол, дзве поўныя талеркі рыбы і мяса прыцягнуўшы, хлапчына худобны прысеў, да якога афіцыянт падышоў і пачаў дапытвацца, у якіх апартаментах той жыве. Не з-за таго, думаю, дапытвацца пачаў, што хлапчына гару яды набраў, а таму, што не выглядаў ён на тутэйшага пастаяльца. Не гэтак ён глядзеўся, як чалавек, які спусціўся са сваіх апартаментаў на сняданак у рэстаране гатэля «Хілтан». Нават куртку зашмальцаваную, відавочна з «Сэканд хэнда», не зняў. Бадзяжнік.

Ён назваў афіцыянту нумар пакоя — аднаго з самых дарагіх у гатэлі. З якога ці не ўся Еўропа відаць. Афіцыянт не паверыў

і пайшоў удакладняць… Заазіраўшыся па баках, хлапчына выбіраў момант, каб збегчы.

Не назваў бы ён нумар — няхай бы бег. Але ён назваў, і нумар гэты быў напісаны на маёй гасцявой візітоўцы. На той, якую ўчора выдаў мне парцье.

Мяне насцярожваюць любыя, а тым больш такія супадзенні. У кожнага свой вопыт — і ў мяне свой. Пры маёй рабоце я пераканаўся: калі хочаш жывым быць, не дапускай думкі, што выпадковае адбываецца выпадкова. Нечым яно абумоўлена. Шукай, чым. І як мага хутчэй шукай, бо можаш не паспець.

Хлапчына падняўся, я кінуў праз стол: «Сядзі!..» Ён перапудзіўся ад нечаканкі, хоць і не надта. Зноў сеў і, што мяне здзівіла, стаў есці.

Калі афіцыянт вярнуўся з малайцом са службы бяспекі, я падазваў іх і сказаў, што жыву ў названым нумары, а за суседнім сталом снедае мой госць, за якога я плачу. І працягнуў афіцыянту візітоўку…

Ніхто ў мяне не спытаў: чаму мой госць снедае за суседнім сталом? Калі плацяць, дык няхай снедае за суседнім. Мажа, прынята ў нас паасобку снедаць, каб з самай раніцы адзін адным не раздражняцца.

Як і на пастаяльца «Хілтана», так і на пасланца з Піцера хлапчына, апрануты бадзяжнікам, быў мала падобны. Проста ніяк не падобны. Дый не мог пасланец паспець сюды, праехаўшы чвэрць Швецыі — паром толькі што ў Стакгольме прычаліў. І не пасылаюць такіх, але… Ён назваў нумар нібыта наўмысна для мяне. Неверагодная, надта вялікая выпадковасць.

З’еўшы ўсё, што прынёс, госць мой яшчэ раз схадзіў да шведскага стала і набраў столькі ж. Ён быў меншы за мяне разы ў тры, куды яно ў яго лезла?.. Прыгледзеўшыся, я заўважыў, што ён даўно ўжо не хлапчына — гэткі падвысахлы мужычок, які на хлапчука выглядае. Нарэшце ён наеўся, я ўстаў і ўзяў яго пад локаць: «Пайшлі пакажу, дзе жывеш».

Ён пайшоў, ледзьве ногі цягнучы… Не таму, што аб’еўся, ён наогул быў вялы.

Аказалася, беларус. З Ваўкавыска, я і не ведаў, што такі горад ёсць. З назвай, нібы ваўкі ў ім выюць… Ён там барацьбітом нейкім быў, змагаўся за нешта. Як яны, такія вялыя, там змагаюцца?..

І я не зразумеў: за што? Каб Расія, ён сказаў, не заняла Беларусь. А нашто Расіі Беларусь займаць, калі Беларусь і так Расія?..

Звалі яго Святаславам. Такое беларускае імя — у Расіі не пачуеш. Святая слава, святы абавязак, святая айчына… Наслухаўся я гэтага ў войску — чуць не мог.

Ён падышоў да акна ў маім нумары і глядзеў доўга. «Там недзе, — за туман паказаў, — замак, дзе Гамлет жыў, павінен быць».

Я спытаў: «Ну і што?..» — і ён уздыхнуў, у туман углядаючыся: «А тое, што Шэкспір…»

«Што Шэкспір?..»

«А тое…»

«Што тое?..»

«Калі б у нас быў Шэкспір, дык была б і гісторыя… Усё было б інакш…»

«Што інакш?..»

«Усё…»

Што ў іх магло быць інакш, калі мы разам у Савецкім Саюзе былі? А калі мы разам у Савецкім Саюзе былі, дык пры чым Шэкспір?..

Гаварыў ён, трохі заікаючыся: «У нас бы-быў… дык бы-была б…» Мянушку б яму якую, дык Бабыб самае тое было б. Я так і сказаў: «Давай Бабыбам называць цябе буду, на Святаслава ты не выглядаеш», — і ён кіўнуў, галавы ад акна ў тумане не павярнуўшы: «Называй…»

У святле аконным, хоць і туманным, я разгледзеў, што ён старэйшы за мяне, — і тым не менш называй яго, як хочаш… І толькі цяпер ён спытаў: «А цябе як называць?»

«Ражном».

«Ражном дык Ражном…»

Не, на разборкі такіх не пасылаюць. Нечым ён на таго піцерскага хлапчука, які павесіўся, быў падобны. Толькі падстарэлы… Дык я і падумаў: можа, яго скарыстаць?.. Не адразу падумаў, а тады, калі ён сказаў, што рабіць збіраецца.

Ён нарадзіўся ў Ваўкавыску, потым у Менску жыў, дзе ганялі яго за барацьбу, у каталажку садзілі. З работы пратурылі… Шукаючы, дзе прытуліцца і на кавалак хлеба зарабіць, ён вярнуўся ў Ваўкавыск. Бацькі памерлі, хату адразу па іх смерці ён за капейкі прадаў, прытуліўся ў брата стрыечнага. Уладкаваўся на пошту, дзе брат паштарыў, — і абодвух іх выгналі, хоць на ўсю пошту толькі і паштароў было, што ён ды брат. Звольнілі іх праз тое, што яны ў пікет сталі: ён брата, які прытуліў яго і дапамог яму работу знайсці, у пікет зацягнуў, каб таго на пару

з ім выгналі! І дзеля чаго зацягнуў, каб выгналі?.. Каб вуліцы Суворава ў Ваўкавыску не было, не хацеў ён газеты на вуліцу Суворава насіць.

У мяне таксама ёсць брат стрыечны, на гісторыю запалы, дык ён неяк расказаў мне, які бяздарны быў паход Суворава праз Альпы, дзе без аніякага толку процьма людзей загінула, памарозілася… Але ж напляваць на тое, бо калі яно было? Так што я зноў не ўцяміў: «Пры чым Сувораў?..»

Адусюль выгнаны, Бабыб не ведаў, як далей быць, і нехта яму сказаў, што беларусаў, якія змагаюцца, за мяжой прымаюць. Адразу ўсё ім даюць.

Пазычыўшы грошы ў брата, які прадаў паўхаты і гатовы быў, мусібыць, прадаць апошняе, каб толькі ад яго пазбавіцца, ён купіў тур па Скандынавіі, прыехаў — ніхто і нічога не даў. Апроч месца ў лагеры для бежанцаў. Але цяпер і таго не стала: яму адмовілі ў палітычным прытулку, і ён падпаў пад дэпартацыю. Таму збег з лагера, надумаўшы ці падпаліць што-небудзь, ці ўзарваць, ці нават каго-небудзь забіць, каб ці сесці ў турму, ці ў клініку патрапіць для псіхічна хворых. Абы дахаты не вяртацца. А падпаліць што-небудзь ці забіць некага надумаў, бо калі проста ўкрасці ці яшчэ ўтварыць што-небудзь такое, не цяжкае, дык не пасадзяць, усё адно дэпартуюць.

Зусім выпадкова, рэчы падносячы, ён пабываў у нейкай клініцы для псіхаў, там хораша. Жывуць шведы, на галаву хворыя, так, як беларусам, на галаву здаровым, і не снілася.

Ён не быў хворым, не. Я ведаў такіх людзей, яны нібы не самі жывуць на свеце. Быццам нехта іх жыць змушае. Такіх пасылаюць на такое, на што іншага не пашлеш. Іншы, не такі, не пойдзе. З такіх вярбуюць смяротнікаў, каб зрабіць з іх жывыя міны.

Вось я і ўзважваў: на пасланца яго скарыстаць, калі сам ён не пасланец, ці на шведа?..

Я дапускаў яшчэ, што ён можа быць пасланцам, але ўжо толькі з-за звычкі нічога магчымага, хай нават самага неверагоднага, не выключаць. Выключыць можна было толькі тое, што ён швед.

Пасланца, калі ён пасланец, можна перакупіць… Я сказаў яму, што, калі ўжо наважыўся ён некага кончыць, дык магу прапанаваць, каго… Ён не здзівіўся, а мяне здзівіў, коратка кінуўшы, ад акна не павярнуўшыся:

— Толькі не жанчыну.

Я дык хоць бы павярнуўся… І спытаў бы найперш не пра тое, каго? — пра што ён па сутнасці спытаўся, — а пра тое, за

колькі?.. Дый хто заўгодна іншы павярнуўся б і пра тое самае спытаўся…

І чаму толькі не жанчыну? Якая розніца?.. Шведа ці рускага — розніца, за рускага ў Швецыі меней дадуць.

Я сказаў, што не жанчыну. Спытаў, што ён за гэта, апроч шведскай псіхушкі ці турмы, хоча. Ён адказаў, што вінен брату за палову хаты…

Надта спадабаўся яму, як некалі хлапчуку піцерскаму, пісталет. Праз тое, што маленькі, на цацачны падобны. «З яго страляць, як гуляць. Сам не паверыш, што…»

Бабыб не дагаварыў: што?..

Кілераў такіх не бывае. Які з яго пасланец?.. Кончаны бабыб. «Ражон, — здзівіўся я з самога сябе, — з кім ты звязаўся? Мазгі табе адбіла?..»

Я ўзяў яго ззаду за шыю — у яго вочы на лоб узлезлі, я ўмею так за шыю браць, каб на лоб вочы ўзлазілі:

— А двух заб'еш? За двух будзеш мець, як за цэлую хату.

Ён паспрабаваў крутнуць галавой, не змог, але паспрабаваў: «Не».

— Тады ўсё, — разняў я пальцы і падштурхнуў яго да дзвярэй. — Вымятайся.

Ён не выходзіў. Стаяў каля дзвярэй, паціраючы шыю і сціскаючы павекі, намагаючыся вочы вярнуць у вачніцы. Пасля сказаў неяк па-дзіцячаму, як папрасіў на цукеркі:

— Слухай, дай мне каго-небудзь забіць. Не дасі, дык заб'ю цябе. Не ведаю як, але заб'ю.

Апроч, як у дзяцей, гэткія жаласлівыя да саміх сябе інтанацыі яшчэ ў блатных пракідваюцца. «Падла буду, зямлю буду жэрці, брат…» — а ў самога шыла ў рукаве.

Забіць мяне ён не мог ні пры якім раскладзе, і ўсё ж, многае пабачыўшы і зведаўшы ў жыцці, я ведаў і тое, што такое зацятасць. Перада мной — з вылезлымі на лоб вачыма і дзіцячымі размовамі — стаяў зацяты мужычок. А значыць, калі не ў гэтую хвіліну, дык у наступную — здольны на ўсё. Не скарыстаць такога было б памылкай…

З пасланцам з Піцера яму не справіцца. Калі адтуль паслалі чалавека, дык такога, які тузін бабыбаў пакладзе.

Я ўжо ледзь не надумаўся ўзяць яго з сабой у Капенгаген, на шведа скарыстаць, калі яму ўсё адно, каго забіваць, абы не жанчыну. І ў Капенгагене, у адрозненне ад Мальма, я з ім не засвечваўся: у рэстаране з ім не снедаў, за госця свайго не

выдаваў… Але ён, нібыта ўгадаўшы, пра што я думаю, мяне апярэдзіў:

— У Данію не паеду. Тут я хоць на нейкіх правах, а там на ніякіх.

На якіх ён тут правах?..

Не праз тое, што ён упёрся, а з-за таго, што яшчэ не склалася ва ўсіх дэталях схема разборак са шведам і пасланцам, я паехаў у Капенгаген, да заўтра пакінуўшы свайго госця ў нумары гатэля «Хілтан», скуль адкрывалася панарама ўсёй Еўропы.

Назаўтра, вярнуўшыся ў Мальма і спяшаючы, бо ўжо была палова на шостую, да гатэля, я з натоўпу каля фантана ўбачыў Бабыба, які падыходзіў да нейкага ўсяго бліскучага фацэта з пакетам, і па тым, як ён не бачком, не азіраючыся, а рашуча і ўпэўнена крочыў, я адчуў, што зараз нешта адбудзецца, але не думаў, што яны, фацэт з Бабыбам, сышоўшыся, схопяцца за пісталеты — і Бабыб, як яно ні дзіўна, паспее стрэліць першым. Гэта насамрэч дзіва, што ён паспеў стрэліць першым, бо Наташа ў фацэце з пакетам, якога заваліў Бабыб, пазнала піцерскага пасланца…

Вось табе і Бабыб.

З вакзала, дзе, калоцячыся, бо ўсё бачыла на свае вочы, чакала мяне Наташа, я патэлефанаваў свайму адвакату ў Стакгольм і сказаў, што для яго ў Мальма ёсць работа.

## Святаслаў

Я не падобны быў на забойцу, нават на бандыта звычайнага наўрад ці выглядаў, так, бадзяжнік, які падышоў і спытаў, ці можна прыпаліць?.. Не, я не спытаў, у мяне цыгарэта была ў левай руцэ, а правай я паказаў, што прыпаліць хачу, пальцамі пстрыкнуў… Ён палез у кішэнь, каб дастаць запальнічку, такую цацку, запальнічку-пісталет, на невялікі маўзер падобную, а я з пінжака, з грудной кішэні сапраўдны пісталет вымаю, які ён, мусібыць, за цацку-запальнічку прыняў, толькі большую, чым у яго, і я нібыта сустрэчна хачу даць яму прыпаліць — ён, значыць, мне, а я чамусьці яму, таму ён падумаў, я ў вачах ягоных прачытаў: «Што за цырк? Прыпылены мужык, ці што?..» — а я роўненька пасярэдзіне лоба яму, над пераноссем, якраз туды, дзе індусы цікі свае ставяць, стрэліў. Ён не зразумеў нічога, здзівіўся толькі: «Во ё-маё…»

Яму не пашэнціла. Не толькі таму, што па шведскім горадзе Мальма ён з чырвона-зялёным пакетам, з намаляваным на ім

трактарам «Беларусь» ішоў, а не пашэнціла ўвогуле. А магло б пашэнціць. Мы ніколі б маглі не спаткацца, калі б не падаўся я ў Швецыю, дзе падлавілі мяне ў Мальма на сняданку ў рэстаране гатэля «Хілтан» — і я пазнаёміўся з Ражном.

Мяне ў Стакгольме адзін цыган навучыў гэтаму: заходзіш нараніцы ў гатэльны рэстаран, калі там сняданак, з выглядам, нібы ў тым гатэлі жывеш, і награбаеш са шведскага стала яды, колькі захочаш. Яшчэ і з сабой бутэрбродаў на цэлы дзень набраць у кішэні можна, ніхто не сочыць.

Адзежу толькі трэба мець больш-менш… Не смокінг, але і не лахманы, як на мне. Праз гэта афіцыянт у «Хілтане» да мяне і прычапіўся.

Калі зловяць, дык што ж: патрымаюць — і адпусцяць, бо ў турме ты даражэй ім абыдзешся, чым, пару бутэрбродаў скраўшы, на волі. Але мне нельга было пападацца, бо калі зловяць, дык дэпартуюць: я збег з лагера. А збег таму, што мне адмовілі ў палітычным прытулку, а значыць, усё адно б дэпартавалі.

Гучыць страшна: лагер. Цёпла, сыта. Жыў я ў асобным пакоі, ад кватэры ўсё адрозненне — кухня з прыбіральняй на калідоры. Жывеш на ўсім гатовым, а табе яшчэ і грошы штомесяц даюць, як бежанцу. Па шведскіх мерках — драбяза, але ў Ваўкавыску я за гэткую драбязу бацькоўскую хату прадаў.

Я ў Ваўкавыск з Менска вярнуўся, веру страціўшы. Ва ўсё. Бо страціў жанчыну, якую кахаў, і якая сказала аднойчы, што праз мяне і ўсіх гэткіх самых недалэнгаў, як я, яна згубіла найлепшыя свае гады, маладосць, жаночае шчасце — ні на што жыццё паклала. Пад сцягамі і штандарамі ў шэсцях і пікетах.

Выходзіла, што я таксама ні на што жыццё паклаў.

Жанчыну, як і ўсё астатняе, што я страціў, звалі Верай.

Мы пазнаёміліся, калі ёй і дваццаці не было. На Дзяды, у Менску, каля Усходніх могілкаў… Цяпер ёй амаль сорак.

Дваццаць гадоў прамінула… Нечыя дзеці нарадзіліся, падраслі, у першы клас пайшлі і школу скончылі. Але не нашы дзеці, мы ўсё ў шэсцях ды пікетах… Ні работы, дзе б плацілі, каб нармалёва жыць, ні сям'і, ні хаты…

На тыя Дзяды, з якіх усе нашы шэсці і пікеты пачаліся, мяне выкладчык гісторыі, я ў інстытуце тады вучыўся, паклікаў. Разам з Настай, якую, як мне здавалася, пакуль Вера не спаткалася, я кахаў. Наста таксама была з Ваўкавыска, на год пазней за мяне — і праз мяне, як яна казала — у інстытут паступіла. Вучыліся мы

на адным факультэце, жылі ў адным інтэрнаце. Калі канчалася стыпендыя, а канчалася яна на дзіва хутка, і жывот з голаду падводзіла, мы хадзілі на Камароўскі рынак, дзе каштавалі, нібы купіць збіраліся, патрохі ўсяго, што там было: кілбас, сыроў, рыбы… Па скібцы, па лустачцы — гэтак і наядаліся. Калі ж адломваўся кавалак, які ўжо не каштуюць, а купляюць, і гандляры гвалт усчынялі, Наста раптам скідвала ці швэдар, ці кофту, што там на ёй было: «Паглядзі на рэбры студэнцкія, морда спекулянцкая! І ты мяне кавалкам сыра папікаць будзеш? Ды падавіся ты ім! На, задушыся!..»

Наста з дзяцінства мела схільнасць да эфектаў…

Сыходзячы з рынка, мы яшчэ семак з арэхамі, таксама нібы каштуючы, з сабой набіралі… Так што, можа быць, і ні пры чым той цыган, які ў гатэльных рэстаранах снедаць мяне вучыў. Патрохі красці я ўжо сам умеў.

Ды хто ў нас не крадзе хоць патрохі? Я ў брата свайго стрыечнага, які пахваляўся, што за ўсё жыццё не скраў нічога, спытаўся неяк: а што ты скрасці мог? Люк каналізацыйны, калі ліцейшчыкам на прамкамбінаце быў? Газету ўчарашнюю, калі паштаром хадзіў?.. Брат і заткнуўся.

Ведаць пра сябе, што ён не злодзей, можа хіба той, хто меў магчымасць скрасці — і не скраў. Як і пра тое, што ён не забойца, можа ведаць толькі той, хто мог забіць — і не забіў.

Я б многіх забіў, калі б мог. І ўпершыню адчуў гэта на тыя Дзяды каля Усходніх могілкаў.

Вера на Усходніх могілках аказалася выпадкова. Хоць, хутчэй, гэта мы з Настай аказаліся там выпадкова, а ў Веры прадзед з дзедам, а цяпер ужо і бацька, на тых могілках пахаваныя. І яна прыйшла на Дзяды, як на Дзяды, а там такое… Натоўп, міліцыя, дубінкі… Міліцыянты рассякаць натоўп пачалі, мне брыдой атрутнай, якая «чаромхай» чамусьці называлася, у твар пырснулі і ў «варанок» пацягнулі, па рэбрах дубасячы. Мяне цягнуць, дубасяць, а Наста, я з-пад локця выкручанага, з-пад пахі бачу, убок адварочваецца. Не крычыць, як на рынку: «Паглядзіце на рэбры студэнцкія, морды міліцыянцкія!» — а нібыта і не бачыць, як мяне па тых рэбрах…

Назаўтра вінавацілася: баялася, што з інстытута папруць.

Праз дзень яна выступіла па тэлебачанні як сведка падзей… У кампаніі з сакратаром партыйнага ЦК, які бажыўся, што міліцыянты дзейнічалі ў межах закона. Наста засведчыла, што ніхто дубінкамі нікога не біў і «чаромхай» не труціў. Вось жа яна там была — і не пабітая, і не атручаная…

Гады праз тры, калі сакратароў ЦК не стала і бажыцца пачалі іншыя, Наста зноў выступіла па тэлебачанні. Гэтым разам у кампаніі з акцёрам, які расказаў, як камуністы з гэбістамі зрабілі яго сексотам. А Наста распавяла, як яе, студэнтку, тыя ж камуністы з гэбістамі змусілі зманіць пра тое, што было на Дзяды, пагражаючы выгнаць з інстытута. І неяк так выходзіла, што Наста з сексотам — героі. Не кожны, маўляў, знойдзе ў сабе мужнасць, каб прызнацца…

«Абое рабое, далёка пойдуць», — сказала пра іх Вера, але ўгадала не пра абодвух. Актор, здольны да алкаголю, спіўся, а Наста, здольная да журналістыкі, пабегала трохі, пакуль яны трымаліся, па рэдакцыях незалежных выданняў, пасля перабралася ў выданне дзяржаўнае, а з яго — ва ўладу. Высока там сядзіць, далёка глядзіць — тут Вера ўгадала…

Пасля аднаго з арыштаў чакала мяне за варотамі турмы шыкоўная жанчына ў шыкоўнай машыне. Гэтакі Галівуд — Наста па-ранейшаму мела схільнасць да эфектаў… Яна сказала, што наўмысна зрабіла так, каб усе ўсё бачылі, бо стамілася «адмазваць» мяне ўпотай, бо гэта ў шкоду ёй, бо ўсе пра ўсё даносяць, таму наступным разам мяне пасадзяць не на тыдзень-другі, а надоўга, яна ўжо нічым не зможа дапамагчы, а калі і зможа, дык не стане…

— І не трэба. Я ж не прасіў.

— Ён не прасіў! А маці твая, пакуль жывая была? А радня, а сябры нашы інстытуцкія? «Наста, ты ж яго ведаеш!..» Некалі ведала, цяпер — не!

Яна нервавалася, пальцы дрыжалі, калі прыпальвала…

— Цябе, аказалася, я і некалі не ведаў.

Яна не хацела слухаць пра тое, што было некалі.

— Я выбрала лепшае жыццё, ты — горшае. Свядома! Спытай у нашых, у ваўкавыскіх, хоць у каго: нармальны чалавек захоча жыць не лепш, а горш? Ты захацеў… Жыві! Але без мяне. Я не хачу, каб тваё горшае замінала майму лепшаму. Ці яшчэ і парушыла яго.

Нядаўна яе паклікалі з яе вялікага кабінета ў кабінет яшчэ большы і настойліва параілі ад мяне адхрысціцца… Дык яна ж адхрысцілася яшчэ на тых Дзядах… Калі мяне цягнулі ў варанок, а яна ўбок адварочвалася… А Вера на тых Дзядах, зусім жа незнаёмая, аднекуль з гушчару людскога як кінулася: «Вы што?!. Вы куды яго?!.» Адбіла ў міліцыянтаў, хоць ведаць мяне не ведала. Пасля казала: «Каб ведала, не адбівала б, хай бы зацягнулі… Хай бы ўсіх вас тады пабралі і расстралялі ў Курапатах. Дык хоць бы легенда пра вас засталася…»

Вера, мусібыць, таксама многіх бы забіла, калі б магла.

Але яна пазней такой стала. Тады, на тыя Дзяды, яна не была такой. Як лёгка ўсё яна любіла! Людзей шкадаваць… Музыку слухаць, вершы чытаць, у ёй прага была — чытаць вершы… І слёзы ў яе вачах стаялі высока, як у нябёсах.

Усё, што коціцца,
дакоціцца да нас…

І дакацілася.

Ля могілак якраз,
Дзе сны пра вечнасць сняць
Ці спяць без сноў
З усімі
Караткевіч,
Куляшоў… —
Маўклівы мітынг.

З кожным, хто прыйшоў,
З’явіліся і сталі побач продкі…

Маўклівыя
стаялі цені родных,
Маўклівыя
стаялі цені блізкіх:
Пад крыжам злеглых. Зоркай. Абеліскам.
Ва ўсіх Хатынях спаленых. Забітых
Пад Грунвальдам. На Калыме «прышытых».
Бясследна зніклых. Хапам пахапаных.
Нікім, нідзе, ніяк не пахаваных,
Ці ў Курапатах
скінутых у роў!..

Ад плоці плоць
І ад крывінкі кроў —
Мы ведалі, пра што маўчалі з імі.
Жывыя з мёртвымі.
І мёртвыя з жывымі.

І ўпершыню, маўкліва сцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ.

Дзе яно ўсё падзелася? Я, Вера, народ… Было ж?.. Прайшло, як дождж, і прадчуванні так і засталіся прадчуваннямі. Паэт, які пра іх напісаў, збег за мяжу. Пабеглі іншыя… І ўсе крычалі, што, калі яны не збягуць, іх ці пасадзяць, ці заб'юць. А чаго вы хацелі? Каб улада, з якой вы змагаецеся і стамляецеся ў барацьбе, у санаторый вас пасылала?..

Пад адну музыку: дыктатура! — збягалі ўсе: палітыкі, жулікі, злодзеі, турэмшчыкі… Збягала, як малако з агню, хваляй пералівалася за мяжу моладзь…. Збег спікер парламента… І нават той, пра каго ўсе думалі, што ён у Курапатах ляжа, а кроку з крэўнай зямлі не ступіць, — збег.

Непадалёк ад Усходніх могілкаў яшчэ і Курапаты — таксама могілкі. Ямы, у якія ў часы, калі Сталін баляваў, скідвалі расстраляных. Прывозілі, стралялі і скідвалі. Прывозілі, стралялі і скідвалі…

Мы пачыналі новае жыццё на касцях. Людзі кажуць: на касцях жыць нельга.

Хоць хто яго ведае… Стагоддзі за стагоддзямі, вайна за вайной… Як падумаеш — дык пад намі і зямлі няма, адны косці.

У Ваўкавыску гара ёсць, якая Шведавай называецца, бо нібыта шведы, якіх кароль Карл ваяваць вадзіў, тую гару нас*ы*палі, зямлю шапкамі нанасіўшы. Дзеля чаго насыпалі, чаму зямлю шапкамі насілі? — невядома. А гару з якога боку ні капні — уся ў касцях.

Наша настаўніца літаратуры пыталася: «Дзеці, як вы думаеце, дзеля чаго шведы гару насыпалі?..» Хто што казаў. Каб на той гары бараніцца… Каб гарматы на версе паставіць і да Масквы страляць… Я адказваў: «Каб на лыжах катацца».

Мой адказ падабаўся настаўніцы найменш. А найбольш падабаўся ёй адказ Насты: «Каб з гары глядзець на Швецыю, па якой яны сумавалі…»

«Вось так, дзеці, — казала настаўніца, — трэба любіць Радзіму». Тое, што гэта самае бесталковае, самае бессэнсоўнае з усяго, дзеля чаго магла быць насыпана шведамі гара, настаўніцу не бянтэжыла. Беларусаў мала бянтэжыць адсутнасць сэнсу ў чым бы там ні было…

На той гары я і надумаў збегчы. Бо, калі можна некаму, дык чаму нельга мне?.. І калі гара Шведава, дык куды, як не ў Швецыю?..

Вера сказала: «Мазгі ў цябе — толькі кубікі складваць. І ва ўсіх вас, беларусаў, такія…»

Не ва ўсіх. Мой аднакласнік Борусь, на Шведавай гары пасядзеўшы, у Аўстралію крутануў.

Круцелісты ён, Борусь. Калі я ў Народны фронт запісацца яго ўгаворваў, ён спытаў: «А нашто нам туды абодвум?.. Ты ідзі ў БНФ, а я ў КПСС пакуль пабуду. Яшчэ невядома, у які бок яно ўсё выверне».

У 1991, у жніўні, КПСС скончылася, а ў верасні Борусь прыйшоў партыйныя ўнёскі плаціць. Парторг, які ўжо не ў парткаме, а ў нейкім складзе сядзеў, кітайскім адзеннем і абуткам завалены, вылупіўся на яго: «Ты вальтануты?!.» Борусь адказаў: «Я прынцыповы. Партыйны статут патрабуе сплочваць унёскі, а мяне з партыі ніхто не выключаў».

Борусь быў намеснікам парторга, і той, ужо не як парторг, а як гандляр, прапанаваў яму ў тым складзе пайсці да яго ў напарнікі. «У цябе мазгі ёсць?.. Дык зразумей: усё, што было, назаўсёды скончылася. Шалёны час настаў. А шалёны час — шалёныя грошы. Хто іх сёння паспее ўхапіць, той і банкаваць заўтра будзе».

Стаўшы ўрэшце банкірам, былы парторг цяпер сапраўды банкуе… А ў верасні 1991-га Борусь вылавіў пяцёх з дзевяці парткамаўцаў — і яны выключылі парторга з партыі, якой ужо не было, абраўшы парторгам Боруся.

Такія прынцыповыя.

Пасля Борусь казаў: «Калі б Савецкі Саюз уваскрос — во ў мяне біяграфія была б!.. Як у партыйнага Хрыста…»

У Аўстраліі ён да фірмы прыбіўся, якая сельгастэхнікай гандлявала, і дазнаўся, што трактар «Беларусь», гордасць пакінутай ім сінявокай Айчыны, нікім як нацыянальны прамысловы брэнд не запатэнтаваны. Гэта ўжо напраўду ў некага мазгі — толькі кубікі складваць. Але не ў Боруся. Ён запатэнтаваў брэнд у Аўстраліі як свой, пазычыў грошы і распачаў вытворчасць. Сабраў з запчастак трактар, прадаў — і тут жа падаў у суд на былую Айчыну, адсудзіўшы ў сінявокай за выкарыстанне ягонага брэнду столькі, што хапіла і на тое, каб пазыку вярнуць, і фірму, да якой Борусь прыбіўся, выкупіць. Цяпер жыве — кум каралю. А быў бы ў Беларусі нехта такі, як Ражон, ніяк бы Борусь не жыў. Недзе ў Аўстраліі яго б і закапалі.

Я Боруся ўспомніў, калі мужыка з чырвона-зялёным пакетам убачыў. І, можа, страляў не ў яго, а ў Боруся. Ва ўсіх борусяў: і ў гандляроў, і ў правадыроў, і ў паэтаў… І ў тых, якія з’ехалі, і ў тых, якія засталіся. І ў тых, якія вялі натоўп, і ў тых, якія за

імі ў натоўпе крочылі. Бо ніхто анікога нікуды не прывёў — і ніхто не прыйшоў анікуды. Толькі, ідучы, жыццё праміналі — і яно прамінала нас… Таму я забіў бы таго мужыка на Södra Förstagatan, калі б ён і не з чырвона-зялёным, а з бел-чырвона-белым пакетам ішоў. Ці нават з бел-чырвона-белым сцягам. Якая розніца, калі беларус?..

Беларус. Во каго я хацеў забіць — і забіў.

Я і следчаму так сказаў, калі ён пачаў дапытваць, адкуль я ведаю Павала Рутко? Ну, таго, з пакетам… І за што яго забіў? Я сказаў:

— Бо беларус.

Следчы, швед адмарожаны, не ўцяміў. Але вырашыў, што гэта я не ўцяміў, пра што ён мяне пытае.

— Я пытаюся, як даўно вы ведаеце забітага, якія ў вас былі адносіны, за што вы яго забілі?

— Я не ведаю яго. Не было ў нас ніякіх адносін. А забіў за тое, што ён беларус.

— Але ж вы таксама беларус?

— Таксама.

— А я швед. Выходзіць, я магу забіць любога шведа за тое, што ён таксама швед?

— Можаце.

— А ён мяне?

— І ён вас.

— Чаму тады беларус, якога вы забілі, не забіў вас за тое, што вы таксама беларус? Нават не паспрабаваў забіць?

— Мог паспрабаваць. Я б яму не замінаў.

Я б насамрэч не замінаў. Якая розніца, якім беларусам меней? Але ён не паспрабаваў. Дастаў запальнічку, а не пісталет.

Ад'язджаючы, Ражон схаваў пісталет ў ніжнюю скрыню стала і замкнуў на ключ. Адчыніць шведскі замок шведскім сцізорыкам не было праблемай.

Пісталет быў, як цацка.

Я не стаў чакаць Ражна…

З нумара я выходзіў, не ведаючы, што буду рабіць… А з ліфта ўбачыў таго, з пакетам… Яго лёс да мяне прывёў, дык што ж…

Я б яго і без пакета, без трактара на ім распазнаў бы. Па тым, як ён ішоў, азіраўся — і ўсе рухі ягоныя, хоць нібыта ён і ўпэўнены ў сабе, нейкія незавершаныя, незакончаныя, не да канца даведзеныя: рухі напалову. А калі ён прыпыніўся, каб

закурыць, дык стаяў хоць і на дзвюх нагах, а ўсё адно быццам на адной, як бацян на балоце. Плечы стуліў, калена ў калена ўціснуў…

І ў замежжы мы такія, і дома. Здавалася б, і прасторы ж хапае, і сваёй, не нечай, а нам усё здаецца, нібы чужую займаем.

Ёсць такое ў беларусах, больш ані ў кім такога няма. Паляк вунь ідзе — увесь паляк, рускі — увесь рускі. А беларус — напалову беларус, і ва ўсе бакі галавой круціць: хто ж ён яшчэ?

А больш ён ніхто, якая б у ім, руская, польская ці нямецкая, кроў яшчэ ні цякла. Няхай нават у ім і не палова, а чвэрць ці меней беларускага — усё адно ён кончаны беларус. Хоць ён борусь, хоць бабыб.

Вера казала: «Вы на зямлі сваёй не гаспадары, бо за так, а не за кроў яна вам дасталася. Суседзі вам яе, як соткі калгаснікам, адмералі. І вы ўсё баіцеся, што калгас скончыцца і соткі ў вас адбяруць. Таму і прыдумляеце самі для сябе: то вы ад балтаў, то ад рымлянаў… Каб тыя ці балты, ці рымляне пра вас паклапаціліся.

Нашчадкі рымлянаў вы, ага!.. Дык зрабіце нешта, дастойнае продкаў! Рымлянам ніхто і нічога не даваў, яны ўсё самі мячамі бралі! А вы?.. Вы што заўгодна прыдумаеце, абы нічога не рабіць. Прыдумалі, што ў Беларусі цэнтр Еўропы, дык, Еўропа, дапамагай! Каму?.. Ты не палянуйся, з'ездзі ды паглядзі, хто там і што — у тым цэнтры».

Я не паленаваўся, з'ездзіў ды паглядзеў…

Цэнтраў Еўропы, як і ўсяго астатняга: моваў, гербаў, сцягоў… — у Беларусі аказалася два. Адзін на дне возера Шо, а другі ў сярэдзіне трохкутніка Чэрвень–Асіповічы–Клічаў, два кіламетры на паўднёвы захад ад вёскі Чыжахі на Бярэзіне. Паколькі на дне возера хоць у цэнтры Еўропы, хоць на ўскрайку адна вада, я паехаў у Чыжахі. Рака там, як у Еўропе, а ўсё астатняе…

Там дзед сядзеў на беразе ў тых Чыжахах, рыбу вудзіў, я пытаюся: «Дзед, ты ведаеш, дзе сядзіш?..» — і ён мне: «Дзе хачу, там і сяджу, а ты пайшоў на…»

Я пайшоў не адразу. Стаў распытваць чалавека з самага цэнтра Еўропы, што ён пра Еўропу думае? І зноў чую: «А пайшла яна на … !..» Я тады пра Расею, але і Расея пайшла на… .

— А Беларусь?

— Якая Беларусь?..

— Як якая?.. Твая… мая…

— Не ведаю, якая твая… Мая во… — ён кіўнуў у бок вёскі. — Астатняя на!..

— На?..

— А куды яшчэ?.. — Чалавек у цэнтры Еўропы плюнуў на чарвяка. — Туды ўсе — адтуль нікога.

Я падумаў: прападаюць не ў Бермудскім трохкутніку. Прападаюць тут, у трохкутніку беларускім. У самым цэнтры Еўропы…

Вера пыталася: «Вам чым ганарыцца перад светам не сорамна?.. Тым, што больш за ўсіх бульбы ясце? Тым, што ваш сімвал — балотная птушка бацян?..

Ведаеш, чаму ў нас зубры некалі зніклі і мы іх потым з чужых зямель завозілі? Не паляўнічыя іх знішчылі, не… Бацяны вашы іх задзяўблі!»

Бацька ў Веры рускі быў, маці — беларуска. Таму ў яе калі зубры — дык нашы, а як бацяны — дык вашы.

Хведар Міхайлавіч Дастаеўскі, не пісьменнік, а той выкладчык гісторыі, які зацягнуў мяне на Дзяды да Усходніх могілкаў, Веры пабойваўся. Асабліва пасля таго, як уварвалася яна ў інстытут на лекцыю: «Аж знемагаю, так цалавацца хачу!..» І пакуль Хведар Міхайлавіч бездапаможна абураўся: «Вы што сабе дазваляеце?..», — Вера прабегла між сталамі і зубамі ўпілася мне ў губы, да крыві пракусіла… На гістфаку пасля гэта так і называлася: пацалунак Веры.

Хутчэй, здавалася б, на такое Наста здольная, схільная да эфектаў, але ўварвалася на лекцыю, каб пацалавацца, Вера.

Наста пасля трэцяга курса перакінулася з гісторыі на журналістыку. Хведар Міхайлавіч ёй параіў гэта зрабіць, калі яна надрукавалася ў студэнцкай газеце. «Гэты занятак, — сказаў, — вам больш па фігуры». І дапамог перавесціся… А вось што прапанаваць Веры, каб па фігуры было, ён не ведаў.

— Нейкая не тутэйшая яна, — касіўся ў бок Веры Хведар Міхайлавіч. — І ты не слухай яе!.. Мы зямлю гэтую і ў рускіх, і ў палякаў, і ў шведаў адбівалі…» — а Вера пыталася: «Чаму ж тады толькі балота адбілі?.. Каб цяпер на балоце таптацца?..»

Гэта яна пра плошчу Бангалор у Менску, дзе раней балота было і дзе ў звычайныя дні сабакі выгульваліся, а ў дні змаганняў — мы.

«Мы за што тут змагаемся?!.» — рытарычна ўсклікнуў неяк, выступаючы на той менскай плошчы з індыйскай назвай, Хведар Міхайлавіч, і Вера крыкнула ў адказ, пакуль ён паўзу трымаў:

«За вызваленне Індыі ад Брытанскай імперыі!» Выкладчык гісторыі забыўся, што далей хацеў сказаць, разгубіўся: «Дык яна ж вольная…»

— А вы як распазналі, — дапытвае шведскі следчы, — што чалавек, у якога вы стрэлілі, не швед, не паляк ці рускі, а беларус?

Ён намагаецца не толькі дакараскацца да прычыны забойства, але разабрацца яшчэ і ў тым, што ж такое *беларус*, бо для яго ўсе мы, хто з былога СССР, а значыць, з Расіі, — рускія.

Тлумачыць яму нешта пра тое, як беларусы ходзяць, азіраюцца? Ці як стаяць, быццам бацяны на балоце?.. Ці як зуброў сваіх задзёўбваюць?..

— Па пакеце.

— Але ж гэткі пакет мог і ў рускага быць. Хіба не?

— Мог.

— І што тады? Забілі б рускага?

— Забіў бы рускага.

— А шведа?

— Што шведа?

— Шведа забілі б?

— Забіў бы. Чым вы, шведы, лепшыя за рускіх? Прыперліся да нас у Ваўкавыск…

— Куды?..

Што яму тлумачыць?.. Чалавеку, які толькі сёння дазнаўся, што ёсць такая нацыя — беларусы. І што як толькі адзін з гэтых беларусаў, пра якіх дасюль ён нічога не ведаў, сустракаецца з другім беларусам, так адразу кідаюцца яны адзін аднаго забіваць, — такая цікавая ў іх нацыянальная завядзёнка. Незразумела толькі, як пры завядзёнцы такой жывых беларусаў амаль столькі ж, колькі шведаў?.. Таму следчы пытае:

— Беларусаў, вы кажаце, дзесяць мільёнаў?

— Амаль.

— І амаль у кожнай вайне нацыя знішчалася ад трацiны да паловы?

— Прыблізна.

— І дзве вайны былі ў мінулым стагоддзі з пярэрваю ўсяго ў дваццаць гадоў, так?

— Так.

— І яшчэ, падобныя на войны, пасля войнаў рэпрэсіі былі?

— Былі…

Шведскі следчы шукае прычыну, па якой беларус мог забіць беларуса, і глядзіць на мяне няўцямна:

— Дык як жа тады вы, хто жывы, адзін аднаго любіць павінны!.. А вы — забіваць. Зуброў сваіх задзёўбваць.

Я ўжо распавёў яму пра зуброў з бацянамі… Наогул жа я хацеў распавесці яму толькі пра Веру, пра тое, што адна яна — прычына ўсяго, але наўрад ці ён гэта зразумее.

У іх як?.. Падыходзіш ці ў кавярні, ці дзе заўгодна да любой шведкі і кажаш, я наўмысна завучыў: «Jag vill ha sex med dig»*. Вера ў адказ на такое, калі б у яе пісталет быў, адразу б стрэліла табе ў лоб над пераноссем, а для шведкі яно нармальна. Разглядвае цябе, ацэньвае… Калі згаджаецца, дык цягні ў бліжэйшы ложак, нават як зваць яе, не пытаючыся. Калі ж не, дык адразу адскоквай і болей не падыходзь. А падыдзеш — гэта ўжо сексуальныя дамаганні, гвалт, паліцыя, суд…

Немаведама хто выдумаў, што шведскі секс — гэта калі ўтраіх. Ці ўчатырох, сям'я з сям'ёй. І ўсе адзін да аднаго без ніякіх прэтэнзій. Нават дзяцей не разбіраюць, дзе чые… Маўляў, нарадзіліся — і дзякуй Богу.

Наўрад ці гэта выдумалі шведы, для якіх сям'я — гэта ўсё, цяперашнія і былыя, жонкі, усе дзеці ад іх, і ніяк нельга на Каляды ці Вялікдзень пра некага забыцца, пакінуць кагосьці, дарослага ці малога, без падарунка.

Мы самі і выдумалі шведскі секс. Як шведскі стол, які ніякі не шведскі.

Неяк мы з Верай расклейвалі адозвы супраць рэферэндуму па змене Канстытуцыі, Вера, спяшаючыся, наклеіла адну тэкстам да сцяны і, каб адозва не прапала, у Веры кали́ва не прападала, фламастэрам пісаць на ёй тэкст пачала: «Беларусы! Нас мала! Галасуйце…» — але не паспела дапісаць «за Беларусь!», бо машына міліцэйская паказалася, гэта ўночы было, мы кінуліся наўцёкі, а назаўтра чытаем працяг на той адозве, нехта дапісаў: «Беларусы! Нас мала! Галасуйце за шведскі секс!» Усе астатнія адозвы паздзіраныя, а гэтая вісіць.

Потым Вера так і расклейвала адозвы — тэкстам да сцяны. Хай, казала, пішуць, што хочуць.

Расказваць шведскаму следчаму, як здзіраліся разам з адозвамі нашы мары пра Беларусь? Распавядаць яму, як раставала і раставала, саступаючы месца расчараванню і роспачы, наша надзея? Як глыбелі і цямнелі яміны адчаю? Як абяскрыльвалі, стамляючыся ў бясконцым чаканні хоць нейкіх, хай маленькіх

---

* Я хачу заняцца з табой сексам (*шведск.*)

перамог, нашы душы? Як Вера даводзіла ўсім, што нельга перамагчы, выбіраючы паміж эвалюцыяй і рэвалюцыяй, што перамога магчымая толькі ў выбары паміж свабодай і смерцю, — і як ніхто не хацеў паміраць?..

Я таксама паміраць не хацеў.

Мне абрыдла цягацца па бангалорскім балоце, змагаючыся за незалежнасць краіны, якая і без таго незалежная, слухаць на мітынгах і шэсцях адны і тыя ж прамовы адных і тых жа людзей ды яшчэ сядзець за гэта па дзесяць-пятнаццаць сутак у пастарунках — і я выйшаў з Народнага фронту. Разлічваючы на падтрымку, сказаў пра тое Веры, а яна перапытала: «Ты выйшаў з Народнага фронту?..» — і, не чакаючы адказу, адрэзала: «Гэта Народны фронт выйшаў з цябе!»

Я зразумеў, што зразумець Веру нельга, — і я не хацеў паміраць. Таму апынуўся ў Швецыі…

Я расказваю пра ўсё гэта ўжо не следчаму, распавядаю адвакату, якога наняў мне Ражон, і адвакат — гэтаксама, як і следчы, не разумеючы, пра што я кажу, — супакойвае мяне: «Не бойцеся, у Швецыі смерцю не караюць».

Пры чым тут Швецыя?..

— Я *там* паміраць не хацеў.

— Натуральна, што не хацелі. А хто хоча? Хоць там, хоць тут… Генетычная праграма самазахавання закладзена ў мазгі найпершай. Ва ўсе мазгі: чалавечыя, звярыныя… Вас, дарэчы, у іншую камеру перавядуць, каб вы адчувалі сябе па-чалавечы.

— У мяне і зараз не кепская…

— Новая будзе лепшая. Не «Хілтан», але і не турма.

Ражон наняў мне адваката і пастараўся, каб перавялі мяне ў лепшую камеру, бо, аказалася, я прыстрэліў якраз таго, каго ён хацеў, каб я прыстрэліў: кілера, прысланага рускай мафіяй расправіцца з Ражном. Я сказаў адвакату, што такога не можа быць, бо я хацеў забіць і забіў беларуса, на што адвакат спытаў:

— А беларус хіба не можа быць кілерам?.. Вы падумайце…

Падумаўшы, я зразумеў, пра што ён пытаецца, і адказаў, што можа.

— Як і кім заўгодна яшчэ, — задаволіў мой адказ адваката. — Скажам, целаахоўнікам, які выканаў свой абавязак… А калі не, дык чалавекам, у якім прыродная агрэсія вылілася ў нянавісць да сабе падобных. У хваробу, у шызафрэнію… Пад уздзеяннем

стрэсаў, перажытых вамі як там, так і тут. Мы яшчэ шведскія іміграцыйныя службы зробім вінаватымі — вы не супраць?

У адрозненне ад следчага, які ўсім сваім выглядам нібыта ўвасабляў справядлівасць і непарушнасць закона, адвакат на жуліка выглядаў, дый, мусіць, быў ім, калі знаўся з Ражном, але мне якая розніца? Калі ён прапаноўваў мне якраз тое, чаго я хацеў: шведскую псіхушку.

— Я не супраць. Але следчы не лічыць мяне ненармальным.

— Гэта не яму вызначаць. Дастаткова будзе, калі ён прызнае, што ў вашых дзеяннях цалкам адсутнічае матывацыя. І ён прызнае гэта, бо зыходзіць з чалавечай логікі, звычайнай маралі.

У голасе адваката пракідвалася калі не пагарда, дык паблажлівасць да следчага, да ягонай чалавечай логікі і звычайнай маралі, але зусім не праз тое яна пракідвалася, што адвакат быў старэйшы за следчага, праз нешта іншае, таму я спытаў, хоць не трэба было, бо мне якая розніца:

— А вы зыходзіце з якой логікі і маралі?

Зірнуўшы на гадзіннік, адвакат пачаў складваць паперы ў тэчку.

— З жывёльнай… Якая і ёсць чалавечая, калі лішняга не выдумляць.

Я не зразумеў:

— Як гэта?

— А так… Неяк у мяне кліент быў, які ката забіў. Кот жыць яму не даваў. І я давёў на судзе, што калі хтосьці, хто заўгодна, жыць табе не дае, з ім трэба распраўляцца. А як інакш?.. Між іншым, — адвакат, збіраючы паперы, затрымаўся на адной, — ведаеце, чаму вам у палітычным прытулку адмовілі?

Я не ведаў.

— Не ведаю. Пра прычыны ў такіх выпадках не кажуць.

— Не кажуць, але ж яны ёсць. І адна з іх — ананімка, у якой пішуць, што вы забілі ката.

Рука, якой пацягнуўся я да паперы, сама, нібы дакрануўшыся да аголенага проваду пад токам, торгнулася назад і здранцвела.

— Якога ката?

— Тут не напісана, якога. Можа, такога, якога варта было забіць. Але ў іміграцыйнай службе Швецыі поўна феміністак, якія да таго ж пагалоўна ў таварыстве аховы жывёлін, таму ад іх цяжка чакаць прыязных адносін да мужыка, які забівае катоў.

Пра тое, што некалі, калі быў падлеткам, я забіў ката, расказаў я аднойчы ў парыве адкрытасці адной жанчыне. У Ваўкавыску на Шведавай гары… Была ліпеньская ноч, мы любіліся, і жанчына, соладка адстагнаўшы ў нябёсы і сцішыўшыся, раптам сказала, што, пакуль мы любіліся, дзве зоркі сачылі за намі, як вочы ката. І я ўспомніў, як тыя вочы пырснулі, вылецелі з кацінай галавы пасля некалькіх удараў аб бетонны слуп, і пачаў расказваць, расказваць… як сам я не ведаў, не ўсведамляў, што са мной, што я такое раблю… як наплывала, накрывала, засціла розум нянавісць… расказваў, расказваў і, як і тады, не разумеў: што са мной?.. нашто расказваю, для чаго?.. — дык вось жа, аказалася, для таго, каб нехта напісаў у шведскую іміграцыйную службу, у якой поўна феміністак, якія пагалоўна ў таварыстве аховы жывёлін, што я катазабойца, кат і забойца… але ж хіба магла?.. ды як яна магла?.. не, не магла тая жанчына такое напісаць.

— Хіба ў Швецыі давяраюць ананімкам?

— А дзе не давяраюць? Паўсюль любяць плёткі, не любячы плеткароў. Хоць нідзе, дзе ёсць закон, ананімка, канешне, не дакумент. Была б дакументам, можна было б лічыць, што мы ўжо выйгралі суд. Бо мелі б доказ, што вы даўно псіхічна хворы. То катоў забіваеце, то людзей… І ўсё без дай прычыны, без матывацыі, што прызнае нават следчы. — Адвакат склаў паперы, двума пальцамі ўзяў тэчку за ражок, паківаў ёю, як маятнікам. — А вось я, паміж намі, не прызнаў бы, што без матывацыі… І, калі вам цікава, магу сказаць, чаму.

Голас ягоны ў апошніх словах змяніўся… Нібы адгаварыўшы ўсё, за што яму заплацілі, самае істотнае пад самы канец ён вырашыў сказаць за так.

— Чаму?

— Бо матывацыя ёсць. Там, дома, вы ненавідзіце тых, хто над вамі. Але зусім не таму, што яны, як спрабуеце вы давесці следчаму, душаць свабоду і дэмакратыю, а таму, што ў іх улада, грошы — усё тое, чаго б хацелі вы. І вы не здольны нічога змяніць, нічога зрабіць, бо тыя, хто над вамі, моцныя, а вы слабы. Таму вы збеглі ад іх і ўсю сваю злосць і нянавісць скінулі на таго, хто з іхняга ж статку, але ўсё ж слабейшы, не важак з ікламі, на якога ў вас і рука не паднялася б, здранцвела б, як зараз… Вось пад што падвярнуўся ваш зямляк з пакетам, як некалі кот. І называецца гэта, калі хочаце ведаць, пераразмеркаваннем агрэсіі.

Адвакат вырашыў, што разабраўся ўва мне, і я не збіраўся яму пярэчыць. Калі чалавек робіць тое, за што яму плацяць, дык без розніцы, што ён пры гэтым думае. Ён глядзеў на мяне так,

нібы нутро маё выкруціў навыварат, мне самому адкрыўшы там нешта патаемнае, а мяне здзіўляла адно: як ён здагадаўся, што ў мяне рука здранцвела?..

Астатняе ўсё я ведаў.

Прыблізна тое самае казала мне на Шведавай гары ў Ваўкавыску тая жанчына, якой прызнаўся я ў парыве адкрытасці, што забіў ката. Яна дапытвала і дапытвала: хто перад тым мяне зняважыў, пакрыўдзіў, каму я хацеў — і не мог адпомсціць? Я выдумляў нейкія крыўды на суседзяў, настаўнікаў, хоць ніхто мяне не крыўдзіў. Проста мне хацелася, каб жанчына, якую я кахаў і якая лічыла сябе разумніцай, не мела сумневу ў тым, што я кахаю яе і што яна разумніца.

Аднойчы, калі ў чарговы раз пасадзілі нас за ўдзел у чарговым мітынгу, яна спытала: «Ты ведаеш, дзеля чаго ўсё гэта? Не для свабоды і дэмакратыі, а для цябе — дзеля чаго? Што ты за ўсё гэта мець хочаш? Ну, калі адсядзім, адбегаем сваё пад дубінкамі? Грошы? Славу? Уладу?..» Я адказаў, што, мусіць, нічога, бо пра гэта нават не думаю. Яна сказала: «Я таксама, але ж не ўсе прыдуркі, нехта ж думае».

Так яна пасеяла ўва мне сумненні, так аслабіла мяне — і слабога пакінула. Калі я сказаў, што нарэшце прыдумаў, як нам жыць разам, у сваім доме, сям’ёй, з дзецьмі, што нам трэба з’язджаць адсюль, бо калі ўсім можна, дык чаму нам нельга? — яна адказала: «Едзь, я нікуды з табой не паеду. Ты мне тут абрыд. Усе вы мне абрыдлі».

— Хто — усе?..

Мы сядзелі ў Менску непадалёку ад Купалаўскага тэатра ў кавярні пад парасонамі, на ходніку вуліцы, па якой Наста якраз праязджала, спынілася каля нас, хоць там знак вісеў, што спыняцца нельга, але гэта некаму нельга, а не ёй, яна апусціла шкло і так блізка была, нібы мы ў адной кампаніі, толькі Наста ў машыне, а не за столікам, і яна ўсё чула, што казала Вера, якая сядзела бокам да яе і, утаропіўшыся ў кубак з кавай, Насту не заўважала…

— Усе, каму я некалі паверыла. Усе, праз каго згубіла найлепшыя свае гады, маладосць, жаночае шчасце — хто мне ўсё гэта верне? Недацалаваныя дні і недапешчаныя ночы, якія днямі адстаяла я ў пікетах, адхадзіла ў шэсцях, начамі адбегала ў цёмных вятрах… Хто і чым мне заплаціць за гэта?.. «Трэба, Верачка, трэба!» — «Ты малайчынка, дзяўчынка…» — «Заўтра наша свята!» — «Заўтра — перамога!» Заўтра, заўтра… Хто верне мне маё жыццё?.. Ты? Дык ты здольны толькі…

Каля кавярні пачаў ствярацца затор, вуліца засігналіла, цяпер Вера заўважыла Насту, на імгненне замерла, неяк сутаргава зглынула недагавораныя словы: «…катоў забіваць…» — і раптам змахнула кубак з кавай са століка ў акно машыны. Наста паспела адхінуцца, яе толькі апырскала кавай, кубак ударыўся ў плячо кіроўцы, здаравеннага бамбізы з гэбісцкай мордай, які сабраўся выйсці, каб разабрацца, але Наста, атрасаючыся, злосна крыкнула яму: «Едзь давай, разбярэшся!..»

Машына рванула з месца.

Вера паднялася і пайшла, кінуўшы разгубленаму афіцыянту: «Ён за ўсё разлічыцца!..»

Па ўсім выходзіла, што так…

Я глядзеў, як яна ішла, не ведаючы, куды, па ходніку ў бок Купалаўскага тэатра — і не вярнуў, не паклікаў. Няхай ідзе — дакуль дойдзе?..

Яна дайшла да канца.

— Магчыма, у вас былі праблемы праз жанчыну? — дапытвае шведскі следчы, і я адказваю яму, што не, ніякіх праблем праз жанчыну з забітым у мяне не было. Следчы кажа, што шкада, бо, з улікам шведскіх законаў, гэта быў бы для мяне найлепшы варыянт.

— А найгоршы?

— Той, які вынікае з вашых паказанняў. Забойства па прычынах палітычных. Па новым законе, прынятым шведскім парламентам, гэта тэрарызм. А значыць, пажыццёвае зняволенне.

— Я не забіваў яго па палітычных прычынах.

— А па якіх?..

— Я казаў вам, па якіх. Але тое, што ён беларус, — не палітычныя прычына.

— Тады якая?..

— Ну, можаце лічыць, эталагічная.

Шведскі следчы задумваецца і кажа: «Такой прычыны ў шведскіх законах няма».

Няма дык няма…

— У шведскіх законах і пажыццёвага зняволення няма.

Следчы не згаджаецца:

— Пажыццёвае зняволенне ёсць.

— Якое?

— 15 гадоў.

— І вы не бачыце супярэчнасці?

— У чым?

— У тым, што пажыццёвае — і 15 гадоў?..

Шведскі следчы не бачыць супярэчнасці ні ў адным шведскім законе. Бо для яго закон ёсць закон.

А для майго адваката — не. Ва ўсякім выпадку, не ва ўсім і не заўсёды. Таму ён спадзяецца, што мы выкруцімся, хоць праз нейкі новы закон раптам зноўку ўзнікла небяспека дэпартацыі. Але гэтым разам, тлумачыць мне адвакат, не руціннай дэпартацыі, калі вывозяць за мяжу — і кацiся ва ўсе чатыры бакі, а дэпартацыі з перадачай уладамі шведскімі ўладам беларускім з рук на рукі, як крымінальніка. Што азначае нават не дэпартацыю, а экстрадыцыю.

Выходзіла: адкуль я выехаў — туды прыехаў. А следчы страшыў, што найгоршае, што мяне чакае, — пажыццёвае зняволенне на 15 гадоў.

— Гэта не закон, а рашэнне ўрада, — нервова даводзіць мне адвакат, я ўпершыню бачу яго нервовым. Мусібыць, калі мяне вышлюць, Ражон яму не заплаціць, бо за што плаціць?.. — І яно не можа быць законам! Швецыя перанасычана імігрантамі, цяпер іх пры любой магчымасці будуць выпраўляць туды, скуль яны прыехалі. Найперш тых, каго на нечым за руку зловяць… Але ў рашэнні сказана пра дробныя злачынствы, пра дробныя!.. Дык няхай пакажуць мне закон, па якім забойства ў Швецыі — дробнае злачынства!

Не падобна, што адвакат сам верыць у тое, што рашэнне шведскага ўрада ў Швецыі не закон. Фармальна не, але… Улада — усюды ўлада.

Адвакат разумее, што не давёў нічога ні мне, ні сабе, таму кажа, што ў любым выпадку дэпартуюць мяне не заўтра, бо шведская бюракратычная машына — не «Формула-1», і мы паспеем прайсці псіхіятрычную экспертызу, а ўжо прызнанага хворым хай мяне хоць хто паспрабуе дэпартаваць хоць па якіх рашэннях ці законах. А ў тым, што мяне прызнаюць хворым, ён не мае сумневу. І не таму, што ў экспертах ягоны сябар, з якім пра ўсё дамоўлена, а таму, што любы чалавек, які жыў там, дзе жыў я, і лічыў сваё жыццё нармальным — хворы і ёсць. Пасля апошняга нашага спаткання, як след падумаўшы, адвакат прыйшоў да такой высновы.

Развітваючыся, ён спытаў ціха, шэптам: «А вы там, дома, нікога, апроч ката, не забілі?.. Ды што вы так наструніліся, я жартую…»

Ён не жартаваў.

Вярнуўшыся ў камеру, я ўключыў тэлевізар. У выпуску навінаў выступаў нейкі нацыяналіст. Худы, вастратвары. Шведскія нацыяналісты пераважна худыя і называюць сябе шведскімі дэмакратамі. І вось гэты шведскі дэмакрат, а насамрэч шведскі нацыяналіст, казаў якраз пра мяне, беларускага нацыяналіста. Не персанальна пра мяне, а ўвогуле пра такіх, як я… «Яны прыязджаюць да нас, крадуць, страляюць, а мы павінны судзіць іх па нашых законах, даглядаць і карміць у нашых турмах — за чые грошы? Я не згодны, каб за мае. І ніводны швед не згодны. Няхай іх судзяць і ў турмы садзяць дома…»

Вастратвары нацыянал-дэмакрат глядзеў некуды міма камеры і прамаўляў так, нібы апраўдваўся. Не выглядаў ён перакананым, што кожны швед з ім згодны. Нехта ж можа крык усчаць: «А гуманітарныя прынцыпы! А правы чалавека!..» Тут ёсць каму крычаць, тут кантораў па правах чалавека не меней, чым па ахове жывёлін.

Неяк прыснілася, быццам Вера прыехала і служыць у такой канторы. Стаіць у пікеце на Södra Förstagatan з плакатам: «Здавайце забітых у пункт прыёмкі забітых». І Ражон каля яе з бел-чырвона-белым сцяжком круціцца, у мяне пытаецца: «Ты чаму забітага ў пункт прыёмкі не здаў?..» Я Ражна адпіхваю, бо што мне Ражон, хоць і з бел-чырвона-белым сцяжком, мне Веры трэба растлумачыць, што Södra Förstagatan — не Бангалор, што ўвогуле ў Швецыі дэмакратыя, тут забітых здаюць, куды захочуць, а Вера адказвае, што так няправільна, бо, як хаваюць на адным месцы, гэтаксама ў адно месца трэба здаваць, вунь у нас жа здаюць у судмедэкспертызу…

Калі Веру з перарэзанымі венамі знайшлі ў яе аднапакаёўцы і адвезлі ў судмедэкспертызу, там напісалі, што спачатку ў Веры спынілася сэрца, а пасля ўжо яна набрала ванну і ўзрэзала вены. Таму так мала нацякло крыві…

Прычыну, па якой спынілася сэрца, судмедэкспертыза не ўстанавіла. Не было прычыны. Доза алкаголю, які знайшлі ў крыві, прычынай быць не магла.

Здарылася гэта ў той дзень і прыблізна ў той жа час, калі я сеў на цягнік да Масквы, каб у Маскве сесці ў самалёт да Стакгольма… Так што ў гэты час я мог не быць у Менску, а мог і быць — Вера жыла побач з вакзалам. Я мог з ёй выпіць, спыніць ёй сэрца, зацягнуць у ванну, перарэзаць вены і паспець на цягнік.

Калі не, чаму збег?..

Слядоў маіх у кватэры хапала.

Па горадзе пакацілася: забілі некага з апазіцыі! КДБ, спецслужбы забілі, бо ў каго яшчэ ёсць нешта такое, што сэрца спыняе нібыта без прычын? У інтэрнэце замільгала: «Дыктатура не расправіцца з нашай ВЕРАЙ!» Дык што рабіць спецслужбам дыктатуры? Калі забойца сам у апазіцыі — і да таго ж збег за мяжу… Таму і наструніла мяне пытанне адваката: «Вы дома нікога не забілі?..» Я падумаў, што прыйшлі дакументы на экстрадыцыю. А гэта не ананімка пра ката…

Няўжо ўсё ж Вера напісала?.. У апошні вечар жыцця села і напісала ў шведскую іміграцыйную службу, каб мне не давалі палітычнага прытулку, бо я ката забіў?..

Тады ў якім жа яна адчаі была… І пры чым тут спецслужбы? Можа, і пры чым, але не пры гэтым.

Дні за два да ад’езду мне пазваніла Наста… Ніхто, апроч Веры, не ведаў, а яна аднекуль ведала, што я з’язджаю. Толькі думала, што мы з’язджаем разам. Я і Вера. Сказала, што правільна робім, тут нічога не дачакаемся. Сказала, што дапамагала мне апошнім часам не столькі праз мяне, колькі праз Веру.Чаму?.. Бо я ў параўнанні з Верай — шчанюк, а яна, Наста, сука. Спытала, ці памірыліся мы? Яна б не хацела, каб праз яе нешта ў нас не склалася…

Скуль яна ўзяла, што праз яе?

Калі я дазнаўся, што Веры не стала, чамусьці адразу пра Насту падумаў, пра яе бамбізу-кіроўцу з гэбісцкай мордай. Успомніў яе крык: «Едзь давай, разбярэшся!..» Але ж не забіваюць за тое, што апырскалі кавай? Ці ў нас могуць забіць?..

Шведскі следчы ўсё хоча разабрацца, што там з намі і ў нас адбываецца.

— Вы першую палову жыцця хадзілі на савецкія шэсці: Першамай, Кастрычнік… Так?

— Так.

— А другую палову жыцця — на шэсці антысавецкія. Дзень Волі, Чарнобыльскі шлях… Так?

— Так.

— Тады скажыце мне, толькі падумайце: гэта нармальна?

— А што тут ненармальнага?..

Шведскі следчы глядзіць на мяне бездапаможна: «Ну, не ведаю… Я толькі хачу вас папярэдзіць, што вы зноў можаце апынуцца *там*. Вас *туды* могуць выдаць, калі адвакат не даб’ецца псіхіятрычнай экспертызы».

Нарэшце яны, адвакат і следчы, выйшаўшы з пункта *А* і з пункта *Б*, сышліся. Не важна, што адзін з іх спыніўся ў пункце

«*выслаць*», а другі — у пункце «*выдаць*». Пункт адзін і той жа… Але і ў тым, што мяне не вышлюць і не выдадуць, бо прызнаюць псіхічна хворым, следчы, як і адвакат, не сумняваецца. Хоць ніхто з экспертаў не сябар ягоны і ён ні з кім і ні пра што не дамаўляўся…

Яму шкада мяне.

Чаму яны ўсе мяне шкадуюць?.. Следчыя, міністры, адвакаты, хай нават яны жулікі?.. Феміністкі з іміграцыйнай службы і феміністкі з таварыства аховы жывёлін?.. Таму, што я жыў там, дзе я жыў, і лічыў сваё жыццё нармальным?

Дык яно і было нармальным. Яшчэ трэба разабрацца, дзе яно ненармальнае. Там, дзе турма — турма, з карцэрам і парашай, ці там, дзе турма — нумар у гатэлі. З тэлевізарам, халадзільнікам і падагрэтай падлогай. Ды яшчэ з прабачэннямі, што тэлефона няма і камп'ютар да інтэрнэта не падключаны, бо, пакуль вядзецца следства, сувязь забароненая. А пасля, калі асудзяць, калі ласка. Хочаш — сядзі ў інтэрнэце, хочаш — з інструктарам на лыжах катайся. Хай сабе нават ты двойчы забойца.

Дома ў камеру на дзесяць чалавек нас па трыццаць набівалі. Не прадыхнуць… Па тры разы на дзень прытомнасць страчваеш. І не ўсведамляеш, прытомны ты ці не, калі чуеш: «Там, дзе канчаюцца з*а*мкі, там канчаецца Еўропа. Пад Смаленскам… І калі мы ўзновім, адбудуем нашы замкі, мы дойдзем да Еўропы, вернемся ў яе».

Вера казала: «Мы тады некуды вернемся, калі дойдзем да такіх, як у Еўропе, турмаў. Але дай нам такія турмы — нікога на волі не застанецца. Для нас такія турмы — замкі.

Мы рабы, нас цягне ў рабства. Там камфортна, зацішна. А свабода — вецер. Ген свабоды нам не прывіць, у рабоў ён не прыжываецца. Таму мы і шчаслівыя ў рабстве».

Шведскі следчы кажа: «Дарма вы пра ўсіх сваіх горш, чым пра ўсіх астатніх, думаеце. Свае — найлепшыя, якімі б яны ні былі. Гэта найпершая ўмова для стварэння чаго заўгодна чалавечага, пачынаючы з сям'і».

Сям'і не выйшла…

Вера лічыла мяне сваім, але не найлепшым. І народ лічыла сваім, але не найлепшым. І апазіцыю… Недалэнгамі яна лічыла і мяне, і апазіцыю, і народ.

Так не можа быць. Ці можа? Каб усе — недалэнгі…

— У мяне жонка журналістка, даволі вядомая, — кажа следчы. — Яна ў вас не раз бывала. Дык у першым рэпартажы напісала, што вы лепшыя за нас.

Выходзіць, следчы прыкідваўся, быццам ні пра Беларусь, ні пра беларусаў нічога не ведае…

— А ў другім?

— Што ў другім?..

— А ў другім рэпартажы пра што яна напісала?

— Пра вашу мужнасць. Пра тое, як мужна вы перанеслі вайну, вытрымалі Чарнобыль… І як зараз гэтак жа мужна, сцяўшы рот, пераважываеце дыктатуру.

— Мы мужна пераважываем дыктатуру?

— Я ў вас не быў. Яна так напісала.

Што ж, мужна дык мужна…

Дыктатуру дык дыктатуру…

— А ў трэцім рэпартажы?..

— О!.. — Следчы, што дзіўнавата для шведа, у захапленні ад жонкі. Я таксама рады, што яна ў яго ёсць, бо гэта праз яе, мусібыць, ён такі гаваркі. А я ўсё гадаў, чаму ён неабавязковыя для следства размовы са мной водзіць?..

Ва ўсім ёсць прычына.

Сэрца без прычыны не спыняецца.

— Гэта не рэпартаж быў, фантастыка! Ёй прэмію за яго далі… Жонка мая… яе, дарэчы, Верай завуць…

— Як?..

Перад тым, як назваць імя жонкі, следчы, мне здалося, надта ўжо ўважліва зазірнуў мне ў вочы, нібы чакаючы, як я адрэагую…

— Так, Вера, — кіўнуў следчы і не стаў тлумачыць, чаму ягоную шведскую жонку, як і маю беларускую, завуць Верай. — Яна перакананая, што небяспека для чалавецтва — не СНІД і не тэрарызм, а грамадства спажывання, якім і ёсць сёння ўвесь Захад. Яна лічыць, што грамадству спажывання цалкам адпавядае філасофія хрысціянства, таму трэба мяняць і грамадства, і веру.

Я не ўцяміў:

— Якую веру?

— Хрысціянскую, на якой грамадства спажывання і ўзгадавалася. Свой духоўны пік чалавецтва прайшло напярэдадні хрысціянства, пасля пачаўся заняпад, што адчулі на Усходзе, дзе стварылі новую сусветную рэлігію, але і яна не вырашае праблему, бо не зразумета галоўнае: сёння, каб ісці наперад, трэба бегчы назад. А вам не трэба назад, вы і так там. У тым сэнсе, што, хоць у вас ёсць храмы, але вы ў сутнасці сваёй ніякія

не хрысціяне, а, як старажытныя грэкі з рымлянамі, паганцы, і грамадства спажывання ў вас не сфармавалася. Цывілізацыя перагнала вас, як на стадыёне, на круг, але з трыбун здаецца, што вы не апошнія, а наперадзе, і Вера даводзіць, што так не здаецца, а так яно і ёсць. Што, стаўшы аўтсайдэрамі, вы сталі лідэрамі. І не трэба лезці да вас з правамі чалавека, з усёй бліскучай лухтой, прыдуманай грамадствам спажывання дзеля апраўдання свайго існавання. Бо гэта — як вешаць на вашу паганскую елку не цукеркі, а фанцікі. Рэпартаж так і называўся: «Цукеркі і фанцікі». І з яго вынікала, што не вам трэба рухацца да Еўропы, а Еўропе да вас, да той чалавечай сутнасці, да тых *нязменнасцяў,* якія вы захавалі. Калі, канешне, Еўропа не хоча, каб яе крывяносныя сасуды пазабівала халестэрынам, а хоча, каб у ёй білася жывое сэрца і дух жывы лунаў.

Во як…

Жылі і не ведалі пра сваё шчасце.

За такое і ў нас бы ёй прэмію далі.

— А дзе жыве ваша жонка?..

«Выпадкова не ў Менску?..» — хацеў я спытаць, ды следчы неяк дзіўна рэагуе на маё пытанне: глядзіць так, нібы сам не ведае, дзе яна жыве.

— Тут… у Мальма… — цягне ён, і ўва мне ўзнікае падазрэнне, што з жонкай у яго, як і ў мяне, праблемы. — У яе свая кватэра, там кот у яе жыве. Асобна, бо я не люблю катоў.

Гэта правільна. Калі б у мяне была свая жонка, а ў жонкі яшчэ і свая кватэра, дык у ёй жыў бы кот. Асобна, бо я не люблю катоў.

— Вы жонку маю зацікавілі, яна хоча напісаць пра вас, — тлумачыць, нарэшце, следчы, да чаго ўся папярэдняя размова. — Прасіла спытаць, ці вы згодны.

Чаму не?.. Толькі адвакат папярэдзіў, каб я без яго — нікому не слова, таму мне трэба параіцца з адвакатам.

— Ануча пад абцасам, — кажа пра майго следчага мой адвакат. — Гэта праблема Швецыі. Жонка ягоная, з якой ён, між намі… — адвакат робіць паўзу і нешта не дагаворвае… — дык яна заўсёды дзіўнаватая была, а ў апошні час зусім стала лявачка, што таксама праблема. Да таго ж яна ненармальная, а яе на каралеўскія прыёмы запрашаюць. Нядаўна на вяселлі дацкага прынца красавалася. Напісала, што са шлейфа нявесты можна было б сотню сукенак для голых афрыканак пашыць. І ўсё, больш ні слова. Прынцэса прачытала, скандал… Так што няхай і пра вас напіша, скандал не зашкодзіць.

Можа, і не зашкодзіць…

Мне ўжо нічога зашкодзіць не можа…

Следчы сказаў, каб я ўключыў тэлевізар пасля вечаровых навінаў, калі хачу ўбачыць ягоную жонку, якую зноў запрасілі на каралеўскае вяселле, скуль яна будзе весці рэпартаж.

Я ўключыў…

Іспанскі кронпрынц Філіп жаніўся з Летыцыяй Орціс. Нявеста, іспанская тэлежурналістка, а цяпер прынцэса астурыйская, магла б і сама рэпартаж правесці. Тады б не пачула тое, што пачула. Што вяселле — на ўсю Еўропу, і што з вясельнага стала можна было б накарміць усіх бежанцаў, колькі іх у Еўропе ёсць… «Але есці з гэтага стала, які ломіцца ад яды і пітва ў крышталі і золаце, будуць не бежанцы, не галодныя дзеці, а згаладалыя і сасмяглыя Іх Вялікасці Кароль Іспаніі Іаан Карл І і Каралева Сафія, Іх Каралеўскія Вялікасці Аўгусцейшыя Жаніх і Нявеста, Інфанта Алена Іспанская і Герцаг дэ Луга, Яе Імператарская Вялікасць Галава Расейскага Імператарскага Дома Гасударыня Вялікая Княгіня Марыя Уладзіміраўна, Іх Вялікасць Каралева Галандыі Беатрыса І, Каралева Даніі Маргарыта ІІ, Кароль Грэцыі Канстанцін ІІ і Каралева Ганна-Марыя, Кароль Бельгіі Альберт ІІ і і Каралева Паола, Кароль Швецыі Карл XVI Густаў і Каралева Сільвія, Кароль Нарвегіі Харальд V і Каралева Соня, Іх Каралеўскія Вялікасці Вялікі Герцаг Люксембургскі Генрых і Вялікая Герцагіня Марыя-Тэрэза, Герцаг Браганцкі Дуартэ…»

У кадры ўсё ззяла, камера плыла па белазубых усмешках, па каронах, па бліскучых эпалетах, дыядэмах, кар*а*лях, па золатам вышытых паясах і стужках, было насамрэч каралеўскае, урачыстае і велічнае, вяселле, а голас за кадрам ператварыў яго ў немаведама што… У вадэвіль, у фарс, у анекдот…

Я ўявіў, як шведам, якія хоць і пытаюцца адзін у аднаго, ці варта ім карміць караля з каралевай, але ўсе ж любяць іх, такое чуць…

Голас за кадрам быў не проста знаёмы. Родны. Здавалася, ён гучыць дома. Даносіцца са Шведавай гары.

Жанчыну з гэтым голасам я не проста ведаў. Палову жыцця я ёю трызніў — палову жыцця яе кахаў…

На імгненне яна з’явілася ў кадры: «…і яшчэ 1600 дармаедаў з усёй Еўропы, якіх ахоўваюць 20 000 паліцэйскіх…»

Вера?

Вера!

Вера…

Не надта падобная на беларуску, не тутэйшая, праз што пабойваўся яе і касіўся ў яе бок выкладчык гісторыі Хведар Міхайлавіч Дастаеўскі, які прывёў мяне з Настай на Дзяды каля Усходніх могілкаў, дзе мяне, прытручанага «чаромхай», міліцыянты, дубасячы, пацягнулі ў варанок… і Наста ўбок адварочвалася, каб яе не пратурылі з інстытута, ды потым яшчэ бажылася, што ніхто не труціў нікога і не дубасіў, вось жа яна там была і ўся цэлая… а Вера, зусім жа незнаёмая, аднекуль з гушчару людскога як кінулася: «Вы што?!. Вы куды яго?!.» — і адбіла мяне ў міліцыянтаў, каб пасля згубіць са мной найлепшыя свае гады, маладосць, жаночае шчасце, недацалаваныя дні і недапешчаныя ночы, адстоеныя ў пікетах і адбеганыя ў цёмных вятрах, на якіх абяскрыльвала, стамляючыся ў бясконцым чаканні, яе душа, раставала і раставала, саступаючы месца расчараванню і роспачы, яе надзея, глыбела і чарнела яміна адчаю, куды ўрэшце, праз мяне і ўсіх гэткіх самых недалэнгаў, як я, скочыла яна, спыніўшы сэрца і ўзрэзаўшы вены… — і ўсё гэта дараваць?.. не адпомсціць, не пакараць, не забіць за гэта нікога?!.

«Хто мне верне маё жыццё?!.»

Яна была не так, як звычайна, апранутая, размаўляла пашведску, але гэта была яна — і гэтага не магло быць.

Я кінуўся да дзвярэй камеры: ахоўніка!.. адваката!.. следчага!.. доктара!.. Ражна!.. каго-небудзь…

Мусібыць, я так не хацеў забойцам вяртацца ў Беларусь, гэтак хацеў вар'ятам застацца ў Швецыі, што насамрэч звар'яцеў.

## Дзве Веры

Не ведаю, як яно так атрымлівалася, ніхто мяне гэтаму не вучыў і сама я не вучылася, але з дзяцінства я ўмела жыць і ў сабе, і ў іншых; пасяляцца ў некім, пачуваючыся і сабой, і тым, у кім пасялілася. Рыбаю ў рыбе і вадою ў вадзе. Жывой у жывым і мёртвай у мёртвым. Хоць нічога мёртвага няма, мы проста называем гэтак тое, што, як нам здаецца, нежывое.

Першым, у кім я пасялілася, было жарабя. Вогненна-рудое з белай зоркай на лобе…

Стаяў сухі, спякотны ліпень. Гарэла жытняе поле. Пажар слаўся на ветры. Вецер закручваў языкі агню то ў адзін бок, то ў другі, нёс да мяжы і кідаў сабе самому за спіну, пераварочваў, з шумам і трэскам уздымаў да неба, скуль агонь падаў і паўставаў сцяной, у якой жарабятка не знаходзіла выйсця, паратунку, хоць

ён быў: цераз поле да ракі, дзе можна было зратавацца, пралегла даволі глыбокая канавіна, у якую трактарамі, калі поле аралі, сцягвалі камяні. Вогненнае жарабятка кідалася ва ўсе бакі — і руды агонь з усіх бакоў кідаўся на жарабятка, якое ўжо задыхалася ад дыму і спёкі. Мне не было і шасці гадоў, я не ведала, як жарабятку дапамагчы, але я гэтак зратаваць яго хацела, што ўявіла, як сама пераскочыла б зараз праз тую пасму агню, што пераразае шлях да канавіны… і з апошніх сіл, задыхаючыся ад дыму і спёкі, тую пасму агню я пераскочыла, прабегла, збіваючы капыткі на камянях, па канавіне, кінулася ў ваду, стала прагна піць, піць, піць… і толькі тут адчула, што я не толькі я, але яшчэ і нешта іншае… тое жарабя, якое ледзь не згінула ў полымі.

Нешта са мной, дзяўчынкай Верай, на той час, пакуль я была ў жарабяці, мусібыць, сталася, бо знайшлася я ў сабе толькі тады, калі маці, з якой мы жылі на лецішчы, затрэсла мяне, як ляльку: «Вера! Ты дзе, Вера? Што з табой, Вера? Вярніся!..»

Такое было ўпершыню, таму маці спалохалася. Пасля прывыкла. А бацька кожны раз сур'ёзна распытваў, што я бачыла на тым свеце? Які ён наогул — той свет?.. У тым, што ён ёсць, бацька не сумняваўся. Сумняваўся ён у тым, што менавіта *той* свет — той, а *гэты* — гэты. «Дачушка, — ён пытаўся, — а не наадварот?.. Неяк падобна, што наадварот».

Іншым разам і мне так здавалася.

Праз год пасля пажару бегла я, як тое жарабя, што зратавалася ад полымя, па той самай канавіне да рэчкі. Жыта на пажарышчы вырасла густое, высокае, стаяла да неба — нібы і за сябе, і за тое, якое згарэла. Бліжэй да сярэдзіны поля канавіна паглыблялася, там вялізны валун ляжаў — і за тым валуном падпільноўваў мяне ляснік з мянушкай Цмок. Не ведаю, чаму ён такую мянушку меў, не выглядаў ён на цмока. Зусім не страшны быў, усміхаўся… Некалькі разоў я бачыла яго каля рэчкі, нават віталася з ім, зараз таксама сказала: «Дзень добры!» — а ён не даў мне міма прабегчы, скочыў за мной, схапіў, паваліў, падмяў… Мне было страшна і балюча, гэтак балюча і страшна, што ад болю і страху я пачала канаць і, каб не сканаць, перасялілася з сябе жывой у сябе мёртвую, бо толькі мёртвай можна было гэты страх, боль гэты вытрываць.

Так я ўпершыню памерла.

Цмок адчуў, што я не жывая, але доўжыў і доўжыў сваё, мармытаў: «Ты яшчэ цёплая… і добра, што ўжо нежывая… не трэба будзе цябе забіваць, грэх на душу браць…» — і калі ўсё

сваё скончыў, сцягнуў мяне ў яміну і кульнуў зверху падкапаны валун. Камень лёг шырокім бокам, падвіс на краях яміны, таму не раструшчыў… Цмок паспрабаваў яго зрушыць, але не змог, а падкопваць нанава пабаяўся, пабег — яму таксама было страшна. Тады я вярнулася з сябе мёртвай у сябе жывую і выбралася з-пад валуна. Праз невялічкую шчыліну паміж зямлёй і навіслым каменем выбрацца магла толькі зусім маленькая дзяўчынка.

Хіба такое магло быць на гэтым свеце?..

Але ж на нейкім свеце яно было.

На тым?..

Цмок жыў за рэчкай, цераз мост ад нашага лецішча, на сядзібе лясніцтва. Начаваў ён летам на сене ў пуні. Гэта ягонае, а не чыёсьці жарабя, зратавала я год таму ад пажару.

Прыйшоўшы ў лясніцтва ўночы, я падкралася да пуні, замкнула і падперла віламі, утыркнуўшы іх у зямлю, дзверы, на ламачча каля сцяны ад лесу нацягала сена — і толькі чыркнула запалкай, як пачулася з пуні ржанне. Я магла патушыць запалку, але я не патушыла яе.

Я надта ўзненавідзела чалавека, каб пашкадаваць каня.

Пуня гарэла, жарэбчык іржаў і біў капытамі ў дзверы, я, сціснуўшы зубы, бегла праз лес да рэчкі… Потым цераз мост, потым па канаве цераз поле — нібы насустрач сабе самой, той, якая год таму перасялілася ў жарабя, каб зратаваць яго ад полымя, і толькі што ў полымі яго спаліла.

А Цмок не згарэў. У тую ноч яго не было ў пуні. У лесе хаваўся, нечага баяўся.

У канавіне я заўважыла, што ён усё ж паглыбіў падкоп пад валуном, каб той лёг плазам. Каб усе костачкі мае раструшчыў, каб следу не засталося.

Я ўсё думала і думала пра жарабя. Пра тое, што зратавала яго ад агню, каб у агні спаліць. Супярэчанне было такім вострым, што разразала мяне напалам. Гэта цяпер я ведаю: чалавек толькі тым і займаецца, што стварае, каб парушыць, і ратуе, каб знішчыць. А тады, не ведаючы законаў гэтага свету, я ніяк не магла зразумець: як такое сталася?..

З усяго, што мясцілася і не магло ўмясціцца ў маёй свядомасці, вынікала адно: калі б я не выбралася з-пад валуна, жарабя засталося б жывым.

Цяпер мне цяжка ўспомніць, як я дадумалася да таго, што, калі я жывая, а жарабя праз мяне мёртвае, дык мне трэба пахаваць ягоныя абгарэлыя костачкі там, дзе маглі б ляжаць

раструшчаныя мае. Гэтая думка не ратавала, але ўсё ж нейкім чынам прытупляла вастрыню супярэчання, якое мучыла мяне невыносна.

Вечаровымі прыцемкамі я прыбегла ў лясніцтва і стала на пажарышчы, узіраючыся ў тое, што пакінуў па сабе агонь. Апаленая сячкарня, жалезныя колы, абады, крукі… I ў гэты час вярнуўся з лесу Цмок. Ён убачыў мяне пасярод чорнага вугалля ў парванай ім беленькай сукеначцы — і страшна-страшна закрычаў. Гэтак страшна, што я скамянела. Мне трэба было бегчы, а я не магла. Стаяла і стаяла, нерухомая, а ён крычаў і крычаў… Раптам захлынуўся крыкам, нібы крык той горла яму перарваў, рынуўся зноў у лес — і толькі тады я здолела зрушыцца з месца.

Назаўтра касірка з лясніцтва, якая жыла на хутары паблізу нашага лецішча і насіла нам малако, сказала што Цмока забралі ў лякарню. Ніхто не ведае, што з ім, але падобна на тое, што звар'яцеў.

Ні бацьку, ні маці я ні ў чым не прызналася. А яны нічога не заўважылі, апроч таго, што сукеначка на мне парваная. Хоць казалі, што любяць мяне.

Я не сказала ім ні пра Цмока, ні пра жарабя, бо думала: калі баліць табе, навошта, каб балела яшчэ некаму?.. Табе ад гэтага меней балець не стане.

Дый што б мае бацькі зрабілі, калі б пра ўсё дазналіся?.. Забілі б Цмока?..

Мой бацька, як амаль кожны рускі, не любіў сябе, а праз тое не любіў нікога. Памёр ён лёгка, ад сэрца, хоць баяўся смерці. Не так, можа, смерці, як таго свету, на якім нічога добрага чакаць яго, грэшніка, не магло. Маці ж старалася любіць усіх, ды ў яе нават са мной не надта яно ўдавалася. Ні смерці яна, ні таго свету не баялася, бо лічыла, што перад Богам і людзьмі не грашыла, а ўсё ж смерць паслаў ёй Бог пакутлівую: памірала яна ад раку. Калі ёй стала невыносна балюча і ўжо не дапамагалі ніякія лекі, я перасялілася ў яе і ўзяла яе боль. Я курчылася ад яе болю, а ёй стала лёгка, і яна глядзела на мяне і ўсміхалася. Так, усміхаючыся, і памерла.

Як курчылася я ад болю, канаючы пад Цмокам, як балела мне, калі перасялілася ў маці, гэтаксама мне балела, калі я перасялілася ў сцяг.

Гэта было ў дні рэферэндуму па змене Канстытуцыі, на якім беларусы сцяг свой адпрэчылі. А заадно — і свой герб, дый

сваю мову. Адмовіліся ад усяго свайго — і бессаромна сталі жыць далей.

Пад валуном у яміне.

Некаторыя саромеліся… Маўляў, мы не адмаўляліся, нас падманулі. Дык што ж вы маўчалі, калі вас падманулі? Прамаўчаўшы, вы адмовіліся двойчы. Значыць, адмовіцеся і тройчы, як тройчы пракрычаў певень.

Пасля рэферэндуму мяне разам са сцягам разадралі на шматкі і раздалі на сувеніры.

Тады я ў другі раз памерла. Але ўваскрэсла, бо надта любіла жыць. Калі любіш жыць, навошта быць мёртвым?

Лунае, нескароны,
На векавых вятрах
Наш, ад крыві чырвоны,
Ад болю белы, сцяг.

Я ўваскрэсла, а Святаслаў не змог. Ён не трываў таго, што крывянела і балела… Адварочваўся, каб не заўважаць.

Ён слабы, але зразумела я гэта не адразу.

Калі на Дзядах каля Усходніх могілкаў міліцыянты цягнулі яго, скручанага, у «варанок», а ён балюча зыркаў з-пад вывернутага локця, спалоханы, бездапаможны, я магла гэтага не заўважыць. Ці зрабіць выгляд, што не заўважыла, як гэта зрабіла Наста. Але мне здалося, што ён паклікаў мяне. Я кінулася адбіваць яго — і адбіла свой лёс.

Наш лёс залежыць ад таго, хто нас пакліча.

Святаслаў казаў: «Нас паклікала Айчына!» Балбатня… Пакліч: «Айчына!..» І яшчэ раз пакліч, і хоць сто разоў — хто адгукнецца?.. Ніхто.

Яго Айчына паклікала, а ён яе кінуў.

Калі каля Купалаўскага тэатра ў кавярні пад парасонамі ён сказаў, што нарэшце прыдумаў, як нам жыць разам, у сваім доме, сям’ёй, з дзецьмі, што нам трэба з’язджаць адсюль, бо, калі ўсім можна, дык чаму нам нельга? — я адказала, што нікуды з ім не паеду, бо ён гэткі ж пацук, як і ўсе астатнія, што пазбягалі, а я не хачу ні ў доме з пацуком жыць, ні дзяцей мець ад пацука. Паднялася і пайшла ад яго, не ведаючы, куды, а ён глянуў мне ўслед — і не паклікаў.

Ён жорсткі.

У яго ў Ваўкавыску сабака быў — напалову воўк. Ён і карміў яго, як воўка, раз ці два на тыдзень. Каб люцеў з голаду…

Наста неяк расказала, як з тым сабакам і братам стрыечным ён на рыбалку яе ўзяў. Даўно, да мяне. Налавіўшы з вечара плотак, раніцай ён, калі Наста яшчэ спала, зноў рушыў з братам на раку, загадаўшы свайму напаўвоўку сцерагчы налоўленую рыбу. Прачнуўшыся, Наста надумала сняданак згатаваць. Пацягнулася да рыбы, а воўк зубамі клац — і далонь наскрозь. Не гыркнуўшы перад тым, не гаўкнуўшы, не папярэдзіўшы, каб не чапала. Клац — і наскрозь. І трымае, не адпускае. Яна гадзіны паўтары сядзела над той рыбай з рукою ў звярынай пашчы, пакуль браты вярнуліся. Святаслаў не накінуўся на свайго звера, каб пакараць яго, не… Падышоў, пагладзіў па галаве. Не Насту пагладзіў, а воўка. Сказаў: «Малайчына… — і паказаў на рыбу, якую, выканаўшы загад ягоны, звартаваў звер: — Еш, заслужыў». Толькі тады воўк разняў іклы і вызваліў руку. Пашчасціла, што не зачапіў сухажыллі…

Брат не вытрываў, накінуўся на брата: «Ды як ты так можаш, ды ты!..» — і Святаслаў крыкнуў напаўвоўку: «Фас!» Той збіў стрыечніка з ног, ледзьве не загрыз…

Ён жорсткі, бо слабы. Жорсткі ад слабасці.

Я сказала яму пра гэта на Шведавай гары, калі ён прызнаўся, што ў маленстве забіў ката. Ні за што, без прычыны. Схапіў за лапы — і аб слуп галавой.

Звычайна ён не прызнаваўся нават у відавочным. Вызверыўся, калі я папракнула яго, што ён скарыстоўвае каханне Насты, мае праз яе нейкія адносіны з уладай… І раптам адкрыўся ў тым, пра што ніхто не ведаў, у чым прызнаюцца ці людзям зусім выпадковым, ці найблізкім. Не, найблізкім якраз не, ім дастаецца найболей маны, а прызнаюцца толькі ці выпадковым, як начны спадарожнік у вагоне, ці самім сабе.

Я была *пакліканай*, а пакліканыя не могуць быць выпадковымі. Так я ва ўсякім разе думала… Тады выходзіла, што ён адкрыўся мне, як самому сабе. Я стала яго суцяшаць, шукаць апраўданні. Казаць, што дзяцінства не ведае жалю. Мне, калі была малой, матылькі здаваліся лятучымі кветкамі — і я адрывала ім крыльцы, як пялёсткі.

І тут ён сказаў:

— Ты і мне крылы адарвала!

Рэзка сказаў. Як воўк ікламі клацнуў. І нешта ўва мне — наскрозь! Ускалыхнуліся ўсё крыўды… На бацькоў, якія падкінулі мяне ў гэты свет, не спытаўшы, ці хачу я ў ім быць — і не змаглі, не сталі мяне ў гэтым свеце бараніць… Ускалыхнулася, белая

ад болю, крыўда на Цмока, а з ёй, — крыўды на ўсіх цмокаў, цмочкаў, цмоцікаў… І я ўсё, як сабе самой, расказала таму чалавеку, які некалі мяне паклікаў — не насіць жа ў сабе да скону. Распавяла, як мяне падпільноўвалі, падміналі, рабілі на мне сваё, сцягвалі ў яміну і завальвалі камянямі, каб не выбралася. Каб усе костачкі мае раструшчыліся, каб і следу не засталося. А ён паслухаў і спытаў: «Дзеля чаго ты гэта расказала?.. Я тут пры чым?..»

І адсунуўся ад мяне.

Яму стала гідка.

Я адкрылася яму, як сабе самой, а яму стала гідка.

Хіба не ён некалі паклікаў мяне?..

Амаль дваццаць гадоў!.. Шэсці, мітынгі, пікеты… Ні сям'і, ні дзяцей, ні хаты… Я кватэру мела, ад бацькоў засталася, дык там то штаб, то друкарня, то сходка за сходкай — і мяне выселілі, на вуліцу выкінулі. Ва ўлады пытацца без толку, бо яна і выкінула, таму спыталася ў тых, хто на змаганне з ёй клікаў: «Дзе мне жыць?» — а ў адказ пачула: «Кожны нечым ахвяруе». Жыву ў нанятай слепавушцы за вакзалам…

Ды што там з кватэры — мяне з жыцця выкінулі! Жыццё выкінулі з мяне — хто мне яго верне?.. Ты? Які ўсё адклаў на потым?.. Сям'ю на потым, дзяцей на потым… На потым — само жыццё! А што цяпер? Калі цяпер у нас не жыццё, дык што тады ў нас цяпер?!.

Ён ускочыў, вочы збялелыя, як мае крыўды:

— А мне хто і што верне?!. Толькі ў цябе жыццё, у мяне няма?.. А магло быць! Калі б ты не замінала! Не лезла ў нашы адносіны з Настай! З тымі людзьмі, з якімі яна зводзіла! «Яны ж з улады, як ты можаш з імі знацца? Яны без Бога, яны забойцы!..» А хто — з Богам? Хто — не забойца?! Ведаеш, колькі ты сёння мурашоў натрушчыла? Думаеш, мурашынага бога няма?.. — Ён раптам супакоіўся, сеў. — Каб не быць раструшчаным, трэба трушчыць. — І хрумснуў костачкамі пальцаў, ён страшна хрумсцеў костачкамі пальцаў.

Я падумала: некалі ён і мяне заб'е. Схопіць за ногі — і галавой аб слуп. Ці раструшчыць, кульнуўшы на мяне валун.

Але я памылілася: ён мяне атруціў. Ён надыхаў вакол мяне атруты.

Я сама набрала ванну, узяла скальпель… і раптам мне стала так сябе шкада, такі жаль сціснуў сэрца, што яно ледзь не спынілася, але гэта ён пранік у мяне, ва ўсе мае костачкі і

жылкі — і атруціў. Таму і звар’яцеў, калі ўбачыў, што я вяду рэпартаж з каралеўскага вяселля.

Звар’яцеў і паклікаў:

«Вера?

Вера!

Вера…»

Я не гукнулася… Якая Вера?

Я не гукнулася… Скуль мне ведаць, хто ўва мне я, а хто не я?.. І хто я ў іншых?..

Я не гукнулася, бо скальпель, упаўшы, параніў калена, а жаль, што сціснуў сэрца, стаў болем.

Я выпіла валакардзіну. Здзівілася з самой сябе: навошта піць валакардзін, калі збіраешся ўзразаць вены?.. Дабрала ў ванну цёплай вады, зноў узяла скальпель…

Двойчы ў гэтым жыцці я памірала і ўваскрасала. Трэцім разам…

— Вера! У цябе званок не працуе, Вера?

Голас, які паклікаў мяне з-за маіх дзвярэй, быў маім. Я падышла да яго і зірнула ў дзвярное вочка.

За дзвярыма стаяла я. Перад імі — я, і за імі — я. Толькі апранутая не так, як звычайна.

Можна было б звар’яцець, калі б я не ведала, што там, за дзвярыма, Вера, але не я. Шведская журналістка.

Я не любіла журналістак. Ні шведскіх, ні нямецкіх — ніякіх. Яны ўсе палілі, усе пілі каву і ўсе задавалі аднолькавыя пытанні. Я адказвала, мне балела, а ім, я адчувала, не баліць. Адстаўляючы мезенец, яны падымалі кубачкі і пілі каву, пілі каву… Адна спачатку адстаўляла мезенец, пасля падымала кубачак, а другая падымала кубачак, пасля адстаўляла мезенец… Лак на пазногці мезенца найчасцей бываў абадраны.

З Верай я пазнаёмілася ў Менску, у Купалаўскім скверыку каля фантана. Яна насустрач ішла — і я аслупянела: ці не сама сабе іду насустрач?.. Толькі апранутая не так, як звычайна.

Вось і ўся паміж намі розніца… Паміж намі ўсімі…

Разгубленыя, мы прайшлі міма саміх сябе, але яна спынілася і паклікала мяне:

— Вера?..

На свеце ёсць толькі той, хто цябе пакліча.

Яна ўжо прайшла за фантан, і мы глядзелі адна на адну скрозь вясёлку, што ззяла ў сонечных пырсках. І відаць было, што вясёлка — падман.

Зіхоткая пустата.

Космас.

Падай мне голас праз Сусвет пусты!
Галоднаму
гукніся з нематы,
Няхай на мне жабрацкая кароста —
Не падавай мне міласціну, проста
Спытайся, хто я, і скажы, хто ты.

Яна сама паклікала мяне, дык што ж…

Лёс…

Калі можна на потым адкласці жыццё, дык чаму нельга адкласці на потым смерць?..

Я адчыніла.

— Ты чаму голая? — спытала Вера, пераступіўшы парог і раскінуўшы рукі для абдымкаў. У адной руцэ яна трымала сумку, у другой — пляшку. Феміністкі кветак не прыносяць.

— У ванну сабралася… Не ведала, што ты ў Менску.

— Толькі што прыехала. Можна, распрануся, як ты?..

Яна была феміністкай з лесбійскім ухілам.

— Распранайся.

Голая Вера зусім такая, як я. Я ў люстэрку. Толькі радзімак на левым плячы на адну болей.

За ноч адну і тысячы начэй,
Заплеценых абдымкамі ў абдымак,
Не наталіць да слодычы вачэй,
Не злашчыць губ, не сцалаваць з плячэй
Рассыпаных сузор’ем Рыб радзімак.
А неба, дзе плыве сузор’е Рыб,
Ушыркі рассыпаецца і ўглыб
Пустотамі міжгалактычных дымак,
Хоць нанава нябёсы перасып,
Сузор’і ўсе — абдымкамі ў абдымак.

— А Наста дзе?.. Я амаль нелегальна, праз Маскву, у мяне віза толькі расейская. Дык каб Наста, калі што, прыкрыла.

Па што гэта яна да нас без візы кінулася?..

— Нікуды не падзелася твая Наста. Прыкрые.

Наста вялікая прыкрывальшчыца.

Я пазнаёміла іх, бо Вера захацела ўзяць інтэрв’ю ў каго-небудзь з улады…

Людзей цікавяць не людзі, а нелюдзі.

Яны сышліся, зблізіліся.

Дзіўныя задумы твае, Госпадзі.

— А што тут такога? — здзівілася Вера, калі я спытала, як яна магла зблізіцца з чалавекам, які прыслужвае ўладзе. — Што яна робіць кепскага? Кар'еру?.. Дык усе і паўсюль яе рабілі. Пры манархіі, дыктатуры, дэмакратыі. У нас, у вас. Не трэба пра ўсіх сваіх горш, чым пра ўсіх астатніх, думаць. Свае — найлепшыя, якімі б яны ні былі. Гэта найпершая ўмова для стварэння чаго заўгодна чалавечага, пачынаючы з сям'і… Дарэчы, ты мяне з мужам дасюль не пазнаёміла.

— Няма ў мяне мужа.

— Няма дык няма. У мяне таксама няма, хоць і ёсць.

— Як гэта?..

— А то ты не ведаеш, як…

Праўда што.

Мы сядзелі ў Менску непадалёку ад Купалаўскага тэатра ў кавярні пад парасонамі, на ходніку вуліцы, па якой Наста якраз праязджала, спынілася каля нас, хоць там знак вісеў, што спыняцца нельга, але гэта некаму нельга, а не ёй, яна апусціла шкло і, не выходзячы з машыны, замовіла каву. Пасля ўсё ж выйшла, села да нас за столік, падняла, адстаўляючы мезенец, кубачак — і пазногці на ўсіх яе пальцах, у тым ліку на адстаўленым мезенцы, былі бездакорна адлакаваныя.

— Пра што шчабечам? Пра дыктатуру?

Шведская журналістка глядзела на служку беларускай дыктатуры, як зачараваная.

Каханне пераступае цераз усё. Таму я цераз яго пераступіла.

— Пра мужыкоў. Вера кажа, што ў яе мужыка няма.

— У яе ёсць, — не згадзілася Наста. — Гэта ў мяне няма, яна адбіла.

— Магу вярнуць.

— Ды што ўжо цяпер… Карыстайся.

Мы гатовыя былі плёхнуць адна ў адну кавай, у мяне ўжо рука пацягнулася… Вера гэта адчула, узяла маю руку ў сваю, прыціснула да стала.

— Я пераказвала ёй тое, што ўчора ад цябе пачула. Што трэба верыць у сваіх. Калі нават свае апошнія, трэба на ўвесь свет крычаць, што найпершыя.

Наста паставіла кубачак.

— Мы найпершыя і ёсць. Мы перанеслі вайну, вытрымалі Чарнобыль… І цяпер ратуем чалавецтва.

Я ўспомніла жарабя, якое зратавала ад пажару. Каб потым знішчыць.

— Ад чаго мы яго ратуем?.. Ад дыктатуры? СНІДу? Тэрарызму?

— Ад пагібелі, якая зусім не ў дыктатуры. І не ў СНІДзе, не ў тэрарызме, а ў грамадстве спажывання, якім і ёсць сёння ўвесь Захад. Грамадству спажывання цалкам адпавядае філасофія хрысціянства, таму трэба мяняць і грамадства, і веру.

Вера не ўцяміла:

— Якую веру?

— Хрысціянскую, на якой грамадства спажывання і ўзгадавалася. Свой духоўны пік чалавецтва прайшло напярэдадні хрысціянства, пасля пачаўся заняпад, што адчулі на Усходзе, дзе стварылі новую сусветную рэлігію, але і яна не вырашае праблему, бо не зразумета галоўнае: сёння, каб ісці наперад, трэба бегчы назад. А нам не трэба назад, мы і так там. У тым сэнсе, што, хоць у нас ёсць храмы, але мы ў сутнасці сваёй ніякія не хрысціяне, а, як старажытныя грэкі з рымлянамі, паганцы, і грамадства спажывання ў нас не сфармавалася. Цывілізацыя перагнала нас, як на стадыёне, на круг, але з трыбун здаецца, што мы не апошнія, а першыя, і самае цікавае, што так яно і ёсць. Стаўшы аўтсайдэрамі, мы сталі лідэрамі. І не трэба лезці да нас з правамі чалавека, з усёй бліскучай лухтой, прыдуманай грамадствам спажывання дзеля апраўдання свайго існавання. Бо гэта — як вешаць на нашу паганскую елку не цукеркі, а фанцікі. Не нам трэба рухацца да Еўропы, а Еўропе да нас, да той чалавечай сутнасці, да тых *нязменнасцяў,* якія мы захавалі. Калі, канешне, Еўропа не хоча, каб яе крывяносныя сасуды пазабівала халестэрынам, а хоча, каб у ёй білася жывое сэрца і дух жывы лунаў.

Вера так заслухалася, што адпусціла маю руку, у мяне з’явілася магчымасць плёхнуць кавай, але яна была дапітая, а пакуль афіцыянт падносіў новую, Наста паднялася, села ў машыну, угледзелася ў нас абедзвюх: «Цікава ўсё ж, для чаго вы гэтак падобныя? Для нечага ж падобныя?..» — і яе кіроўца з гэбісцкай мордай ірвануў з месца.

— Яна і ў нас зрабіла б кар’еру, — улюбёна сказала ўслед ёй Вера, якая стаяла зараз голая перада мной і спрабавала цалавацца.

Я падумала: чаму не?.. Калі цёплая вада ўжо набраная ў ванну.

Астыне — можна дабраць.

Смерць адкладзеная… Жыццё адкладзенае яшчэ раней… Я ўжо чакаць не чакала, што нешта ў гэтым адкладзеным жыцці можа стацца са мной упершыню…

— …дык ён ката за лапы і аб вушак галавой, — нацалаваўшыся, расказвала пра свайго мужа, які нібыта ёсць і якога нібыта няма, Вера.

— Калі?.. У дзяцінстве?..

— У якім дзяцінстве, ты не слухаеш зусім… Два дні таму. У нас у Мальма дзве кватэры, у адной я з катом, у другой ён, я ўжо з ім і не жыву, а тут ён прыпёрся з турмы, дабівацца свайго пачаў, адразу каля дзвярэй, каля ўваходу паваліў на падлогу, дык кот, як сабака, я сама не чакала, накінуўся на яго з нейкім рыкам нутраным, давай драпаць і грызці, а ён яго за лапы — і галавой аб вушак! Мяне адкінуў, а ката біў, біў і біў, пакуль ад галавы нічога не засталося, усе сцены ў крывянцы… А нібыта ж не мужык, ануча, з яго вяроўкі можна віць… Я ў той кватэры быць не магла, у Мальма не магла быць, у Швецыі, шведаў не магла бачыць… Збегла. На самалёце да Масквы — і цягніком сюды. Вы найлепшыя ў свеце, найлепшыя, — зноў пачала яна цалаваць мяне і плакаць. — Ты, Наста, вы ўсе, вы ўсе…

Так, мы ўсе найлепшыя. Асабліва адзін. Ён забіў ката — і ў Менску не можа быць, у Беларусі быць не можа, беларусаў не можа бачыць. Збягае. Цягніком да Масквы — і самалётам у Швецыю. Дзе таксама забіваюць катоў.

— А за што твой муж сядзеў?

— Ні за што не сядзеў… З чаго ты ўзяла?..

— Ты ж сказала: з турмы прыпёрся.

— Ён юрыст, следчы… Асатанеў, пэўна, з турэмшчыкамі… — Вера паднялася з ложка, схадзіла ў ванну, адмылася ад слёз. Вярнулася: — Там вада твая астыла.

— Дабяру.

Вада не жыццё. Можна дабраць.

Хоць і жыццё дабраць можна. Калі тое, што зараз у мяне з Верай, лічыць даборам.

Яна кінулася побач са мной на ложак, прытулілася, гуллівая…

— А я да цябе з прапановай прыехала! З вясёлай прапановай, бо ты сумна, мне апошнім разам здалося, жывеш.

— Без цябе і Насты?

— Пры чым тут Наста?

— Ты і з ёй, як са мной?

— Во… Ужо і рэўнасць… Цяжка з вамі, славянкі-лесбіянкі.

— Якая рэўнасць?.. Я не лесбіянка. У мяне мужык ёсць, хоць і няма. Проста цікава, як?

— Калі цікава, дык не так.

— А як?

— Іначай.

— Як іначай?

— Як лесбіянка дэмакратыі з лесбіянкай дыктатуры.

Яны абедзве жывуць не сумна…

— А чаму ты…

Я не ведала: ці пытацца?..

— Што чаму?..

— Чаму ты ўвогуле гэтым займаешся?

— Чым гэтым?

— Гэтым… з жанчынамі?

— Бо не люблю мужыкоў.

— У цябе ж муж ёсць…

— Дык і што?.. Усё адно не люблю. З дзяцінства.

— І бацьку не любіла?

Спытаўшы, я адчула, як яна напружылася.

— Не любіла. Ён мяне не абараніў.

— Ад чаго?..

Вера павярнулася на спіну, кінула рукі ўздоўж цела, утаропілася ў столь…

— Ад таго, што са мной зрабілі…

Пра тое, што з ёй зрабілі, я магла б і не пытацца, бо ўжо ведала, што зрабілі з ёй тое самае, што і са мной, але я спытала:

— А што з табой зрабілі?..

Яна памаўчала. Відаць, думала: ці расказваць? Такое расказваюць ці некаму зусім выпадковаму, ці найбліжкаму. Хоць якраз найбліжкім казаць такое не варта, ім робіцца гідка. Такое распавядаюць толькі ці некаму зусім выпадковаму, ці толькі самім сабе.

Я не была выпадковай, я была *пакліканай*. Яна сама паклікала мяне праз вясёлкавыя пырскі фантана.

Праз пустату.

Праз космас.

Аднойчы, прачнуўшыся ў ночы,
Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць,
І стане наіўныя вочы

Халодная бездань смактаць.
І зманлівай згадкай быцця
Цябе працяне аж да поту…
Прачнешся — і станеш дзіця
Вучыць не хадзе, а палёту.

Я не была блізкай, мы сустрэліся ў космасе імгненне назад. Зрэшты, усе сустракаюцца ў космасе імгненне назад, таму блізкіх не бывае ўвогуле.

Вера склала рукі на грудзях.

— Я ляжала во так, а мяне хацелі раструшчыць.

Яна ўсё ж надумала расказаць… Як самой сабе.

— Каменем?..

Яна здзівілася. Ці выгляд зрабіла здзіўлены:

— Скуль ты ведаеш?.. Хоць ты павінна ведаць… Так, каменем. Ледавіковым валуном. Мы ў рыбацкім пасёлку жылі. На самым беразе мора, там шмат камянёў было. Яны прыгожа ляжалі, як кіты. Аднаго з іх, якога з мора найдалей на бераг выкінула, ажно да лесу, я так і называла: Кіт. Ён быў найменшы з усіх, але найбольш на кіта падобны. Я сядала на яго і плыла. Далёка-далёка… Ён гайдаўся на хвалях, закалыхваў. Божа, у якіх я толькі казках ні пабывала, на ім плывучы!.. І калі да мяне той барадаты рыбак падышоў, які жыў не ў пасёлку, а на невялікай выспе метраў за трыста ад берага, я падумала, што ён з казкі. Тым больш, што ў яго мянушка была…

— Цмок?

— Цмок?.. Хто гэта — Цмок?

— Дракон, які ўсіх жэр. Ці д’ябал. Яго анёлы ў каменнай гары ў ланцугі закавалі, але хутка грахі людскія пераядуць тыя ланцугі…

— І ён усіх зжарэ?

— Зжарэ. І костачкі абсмокча.

— Бо Цмок?..

— Бо Цмок…

— Якога анёлы ў каменнай гары закавалі?..

— У каменнай…

Вера памаўчала, страсянула галавой:

— Не, не Цмок. Хоць ён мог быць і Цмокам. Але ў нас там свае казкі, і мянушку ён меў Кіт, уяўляеш? Ён лёг за валуном, за каменнай гарой з боку лесу і сказаў, каб я села на яго, і я на яго села, бо думала, што сядаю на Кіта і паплыву на ім далёка-далёка.. А ён перавярнуўся, перакуліў мяне, падмяў… Мне было

страшна і балюча, гэтак балюча і страшна, што я ад болю і страху сканала. Кіт адчуў, што я не жывая, але доўжыў і доўжыў сваё, мармытаў: «Ты яшчэ цёплая… і добра, што ўжо не жывая… не трэба будзе цябе забіваць, грэх на душу браць…» — і калі ўсё сваё скончыў, сцягнуў мяне ў яміну і кульнуў зверху падкапаны валун. Камень лёг шырокім бокам, падвіс на краях яміны, таму не раструшчыў… Кіт паспрабаваў яго зрушыць, але не змог, а падкопваць нанава пабаяўся, пабег — яму таксама было страшна.

Да гэтай пары не разумею: як гэта, сканаўшы, я вярнулася з сябе мёртвай у сябе жывую і выбралася з-пад валуна? Праз невялічкую шчыліну паміж зямлёй і навіслым каменем выбрацца магла толькі зусім маленькая дзяўчынка. Маленькая, мне тады і сямі не было, але ж не мёртвая…

Яна ўмее рабіць тое самае, што і я, толькі не ведае пра гэта. Таму і не разумее.

— А ў Кіта хто-небудзь быў?

— Хто-небудзь хто?

— Жонка, дзеці…

— Не, у яго быў толькі сабака. Злы, напалову воўк. Ён і карміў яго, як воўка, раз ці два на тыдзень. Каб люцеў з голаду… У нашым пасёлку адзінотная жанчына жыла з рукой знявечанай, Асвёр, дык казалі, што яна нявестай Кітовай была, і Кіт аднойчы ўзяў яе на рыбалку. Не на мора, а на возера. У нас, апроч мора, яшчэ і вялізнае возера адразу за лесам было. Налавіўшы з вечара шчупакоў, раніцай ён, калі Асвёр яшчэ спала, зноў рушыў на возера, загадаўшы свайму напаўвоўку сцерагчы налоўленую рыбу. Прачнуўшыся, Асвёр надумала сняданак згатаваць. Пацягнулася да рыбы, а воўк зубамі клац — і далонь наскрозь. Не зарычаўшы перад тым, не гаўкнуўшы, не папярэдзіўшы, каб не чапала. Клац — і наскрозь. І трымае, не адпускае. Яна гадзіны паўтары сядзела над той рыбай з рукою ў звярынай пашчы, пакуль Кіт вярнуўся. Ён не накінуўся на свайго звера, каб пакараць яго, не… Падышоў, пагладзіў па галаве. Не Асвёр, нявесту сваю, пагладзіў, а воўка. Сказаў: «Малайчына… — і паказаў на рыбу, якую, выканаўшы загад ягоны, звартаваў звер: — Еш, заслужыў». Толькі тады воўк разняў іклы… Уяўляеш звера? І звера гэтага недзе за год перад тым, як Кіт мяне валуном заваліў, я зратавала, уяўляеш?..

— Зратавала ад агню?

— Не, ад вады… Ён у сецях заблытаўся, якія Кіт з берага лодкай цягнуў, і ўжо захлёбваўся, але я паднырнула і паспела

выблытаць яго. Не дала ўтапіцца, каб пасля спаліць. Зратавала, каб знішчыць. Ведаеш, як?

— Ты паплыла на выспу і падпаліла дом Кіта?

— Не дом, клець. Летам ён начаваў у клеці. Кідаўся на сеці і спаў. Я прыплыла ўночы, падкралася, замкнула і падпёрла васцямі, утыркнуўшы іх у зямлю, дзверы, нацягала да сцяны ад мора сухога ламачча, падсунула шматок газеты — і толькі чыркнула запалкай, як пачулася з клеці скавытанне. Звер, мусібыць, пазнаў мяне, сваю ратавальніцу, таму не брахаў, калі я зачыняла клець, цягала ламачча… І калі я тое ламачча падпальвала, не забрахаў — заскавытаў толькі, як просячы літасці.

Я магла патушыць запалку, але я не патушыла яе. Я надта ўзненавідзела чалавека, каб пашкадаваць звера.

Клець гарэла, сабака ўжо не скавытаў, брахаў і рыкаў, біўся ў дзверы, а я, сціснуўшы зубы, плыла і плыла далёка-далёка… — Вера ўскінулася, абняла мяне. — Як ты думаеш, я куды-небудзь прыплыла? Ці засталася там: на беразе мора пад каменем, пад якім бачу сон пра тое, што са мною магло быць, калі б засталася жыць?.. Я жывая, Вера?.. Я з той пары пачуваю сябе так, нібы не жыву, а ўсё адкладваю жыццё на потым. А куды яго можна адкласці? Як?..

Паўсюль і скрозь адно і тое.

— Жывая, — пагладзіла я яе па валасах. — А Кіт?..

— Што Кіт?

— Кіт згарэў?

— Не. Тым разам ён начаваў не ў клеці, а ў доме. Як адчуў нешта. Толькі сабаку чамусьці ў клеці на ноч запёр. Яго судзілі пасля за тое, што спаліў сабаку. Ён прызнаўся, нагаварыў на сябе, што гэта ён спаліў. Хоць бачыў, што гэта я… Ужо адплываючы, я заўважыла яго ў акне. Усяго белага ў белым споднім… І я была ў белай, парванай ім, сукеначцы. Мусібыць, ён падумаў, што я здань, што мяне з таго свету па яго паслалі, — і ссівеў. На судзе яго прызналі хворым і адправілі ў лякарню. Жыве там недзе, казачнік…

Вера па-дзіцячаму шмыргнула носам… Нібы не душу ёй знявечылі, а цукерку з елкі не далі.

— Дык яго судзілі толькі за тое, што сабаку спаліў?

— А за што яшчэ?.. Я нічога нікому не сказала. Ні бацьку, ні маці ні ў чым не прызналася. А яны нічога не заўважылі, апроч таго, што сукеначка на мне парваная. Хоць казалі, што любяць мяне. Я прамаўчала і пра Кіта, і пра сабаку, бо думала: калі

баліць табе, навошта, каб балела яшчэ некаму? Табе ад гэтага меней балець не стане… А ты б сваім сказала?

— Сказала б… У мяне бацькі былі… Такія…

— Дык і ў мяне такія… Таму і не сказала.

— А мне кажаш, бо я не такая?

— Не… Бо ты, як я. — Вера прыціснулася грудзямі да грудзей. — Ты адчуваеш гэта?

— Што гэта?

— Што ты, як я. І не таму, што мы знешне падобныя. Проста ты, як я. А я, як ты. Адно і тое. Амаль.

Усе мы ў гэтым свеце амаль адно і тое. А на тым — тым больш.

Мне шкада стала не толькі сябе, Веру, але і яе, Веру, і Асвёр з рукой скалечанай, і Насту са скалечанай душой, і ўсіх…

— Бедная ты мая…

— І ты мая бедная…

Ёй таксама, мусібыць, стала шкада не толькі сябе, Веру, але і мяне, Веру, і ўсіх…

— Чаму я бедная?.. Я не бедная…

— А я чаму бедная?.. І я не бедная…

— Як гэта не бедная, калі жывеш там, дзе гвалцяць, нявечаць…

— Гэта ты жывеш тут, дзе гвалцяць, нявечаць…

— Але ж у нас не ўсе і не ўсіх…

— Дык і ў нас не ўсе і не ўсіх…

— Але ж нявечаць… Адзін аднаго нявечаць…

— Нявечаць…

— І жанчын гвалцяць…

— Гвалцяць…

— І катоў забіваюць…

— І катоў забіваюць…

— Нявечаць, гвалцяць, забіваюць…

— Нявечаць, гвалцяць, забіваюць…

— Тут і там…

— Там і тут…

Вера села, абняўшы калені.

— Дык якая розніца?.. Якая розніца, калі ніякай?..

Я таксама села, абняла калені.

— Выходзіць, што без розніцы…

Мы доўга сядзелі, абняўшы калені, і глядзелі адна на адну, шкадуючы і сябе, і ўсіх, глядзелі і маўчалі так, быццам пра тое, што і ў нас, і ва ўсіх было і будзе, мы ведалі, і праз гэта

мне раптам стала няўтульна, я расхацела ўсё, што было і будзе, ведаць і спытала:

— Ты з якой прапановай прыехала?

— З ніякай… Няма ніякай розніцы і няма ніякіх прапаноў… Якія тут могуць быць прапановы?..

— Нейкія ж могуць быць… Хоць адна…

— Ой!.. — страсянула Вера галавой, нібы выкідвала з яе ўсё, што помніла назад і ведала наперад. — Ёсць! Такая, што ўпісяешся!.. — Яна аж піскнула, так ёй тое, што прыдумала, самой, мусіць, было ў спадобу. — Гэтай вясной у Еўропе два каралеўскія вяселлі. Адно ў Капенгагене, другое ў Мадрыдзе. Я запрошаная на абодва, без мяне ў Еўропе даўно ўжо нічога не адбываецца. Дык на адно паеду я, а на другое — ты! Сама выбірай, на якое…

— Ой…

— Што «ой»? Упісялася?..

Яна мяне развесяліла, я пачала смяяцца, яна таксама, мы смяяліся і, абняўшыся, качаліся на ложку.

«І што я… і што я там буду рабіць?..»

«З каралямі есці і піць…»

«З каралямі есці і піць?..»

«Так, ты калі-небудзь піла з каралямі?..»

«Не, не піла… З усімі піла, а з кралямі… выбачай, з каралямі, не…»

«Дык вып’еш… І рэпартаж правядзеш…»

«Які рэпартаж?..»

«Вясёлы… выбачай, вясельны, які яшчэ…»

«Па-шведску?..»

«Па-шведску… Ці па-ангельску…»

«Па-ангельску?.. Хіба можна на шведскім тэлебачанні па-ангельску?..»

«У Швецыі можна ўсяляк…»

«Усяляк?.. І так, і так?..»

«Не, так нельга, ты што вырабляеш?..»

«Што я вырабляю?..»

«Шчыпаешся…»

«А ў Швецыі не шчыпаюцца, калі гэтым займаюцца?..»

«Не шчыпаюцца…»

«А дзе шчыпаюцца?..»

«У Англіі…»

«У Англіі шчыпаюцца, а ў Швецыі не?..»

«У Англіі шчыпаюцца, а ў Швецыі не…»

«Чаму?..»

«Таму!..»

«Не, ты скажы, чаму?..»

«Бо ў Швецыі кароль, а ў Англіі каралева…»

«І каралева шчыпаецца?..»

«Яшчэ як…»

«З каралём?…»

«А то з кім?..»

«Кароль з каралевай шчыпаюцца?..»

«Кароль з каралевай толькі тым і займаюцца, што шчыпаюцца, калі гэтым займаюцца… Ну, скажы па-шведску: «Kungen och drottningen gör inget annat än nyps när de ligger med varandra»*.

«Gör inget annat än nyps när de ligger med varandra…»** Не, я так па-шведску сказаць не змагу…

«Кажы па-ангельску, ангельская ў цябе нават лепшая, чым у мяне…»

«Лепшая, чым у цябе?..»

«Так, лепшая, бо вы найлепшыя… Я ва ўсіх газетах напісала, што вы найлепшыя…»

«Так і напісала?..»

«Так і напісала…»

«Ва ўсіх газетах?..»

«Ва ўсіх газетах…»

«Якімі ўсе падцерліся?..»

«Не, не падцерліся, у нас газетамі не падціраюцца…»

«А ў нас падціраюцца…»

«Усе?..»

«Усе…»

«Я вярнуся і напішу, каб у нас таксама падціраліся…»

«Так і напішаш?..»

«Так і напішу…»

«Навошта?..»

«Каб нашы былі такімі ж, як вашы…»

«Такімі ж найлепшымі засранцамі?..»

«Такімі ж найлепшымі засранцамі…»

«Такімі кончанымі засранцамі, якія нават не западозраць, што я — гэта не ты?..»

---

* Кароль з каралевай толькі тым і займаюцца, што шчыпаюцца, калі гэтым займаюцца… (*Шведск*).

** Толькі тым і займаюцца, што шчыпаюцца, калі гэтым займаюцца… (*Шведск.*)

«Яны не западозраць, але…»

«Яны не западозраць, але што?..»

«Але ты ў рэпартажы скажаш, што пакуль яны вяселлі гуляюць і мяккай паперай задніцы падціраюць, у вас людзей забіваць…»

«Як катоў?..»

«Як катоў…»

«Як мой муж забіў?..»

«Не твой, а мой…»

«Мой забіў таксама…»

«Твой таксама забіў?..»

«Як і твой… Як яны ўсе…»

«Бо паўсюль без розніцы?..»

«Бо паўсюль без розніцы…»

«Ты і пра гэта можаш сказаць…»

«Скажу…»

«А потым прызнаешся, што ты гэта не я, а ты гэта ты — во будзе бомба! Бабахне, як перад канцом свету, — і хай паспрабуюць не пачуць, што жыве Беларусь!..»

Мы скаціліся з ложка, грымнуліся, Вера пад мяне — патыліцай аб падлогу. На імгненне яна абмякла. Можа, нават страціла прытомнасць, але нібы не заўважыла, што нейкае імгненне яе тут не было. Расплюшчыла вочы:

— Як табе такое?..

Гэтаксама яна не заўважыла б, што яе зусім няма.

Няма чаго баяцца.

Няма чаго адкладваць на потым.

Падняўшыся, я падала ёй руку:

— Ніяк. Але павесяліліся, як перад канцом свету.

Бацька пытаўся: «Дачушка, табе там не казалі: канец свету — гэта канец свету гэтага і таго ці толькі гэтага? Калі толькі гэтага, тады які ж канец? Няўвязка нейкая…»

Усё адно: смяротны ты
ці неўміручы —
Ты зорны вецер пустаты,
ты дым лятучы.
Сабе самому ўслед — адзін —
зірнеш са спіны,
І ветрам з дымам — успамін
пра ўсе ўспаміны.

На гэтым свеце і на тым,
на ўсякім свеце,
Усё, што ёсць, — лятучы дым
ды вечны вецер.

— І яшчэ павесялімся, у мяне такое ёсць!.. — Вера пашнарыла ў сумцы, дастала пушачку з пудрай. — Во! Пудра для палётаў… Рускія пачалі да нас вазіць, у іх не ўсё кепскае. Сінтэзавалі нешта так, што кайф дае — куды там экстазі! Прычым немагчыма распазнаць, што гэта наркотык. Ні калі ён у пушачцы, ні калі ў табе. — Яна адчыніла пушачку, дастала з яе вату, з-пад ваты дзве аплаткі. — А моцны такі, мацнейшы за «белага кітайца», трэба з дозай акуратна. На паўаплаткі… Ці для пачатку чвэрць… Ведаеш, як аплатка называецца? Крамлёўская… Нехта з гумарам, праўда?.. Але Крэмль убачыш, гарантую. І гімн Савецкага Саюза пачуеш. Гэтак яны наркату сваю закадзіравалі, кэгэбісты…

Для шведаў, немцаў, канадцаў, ангельцаў, для іх усіх ва ўсім былым Савецкім Саюзе дасюль жывуць толькі тыя, хто сядзеў, і тыя, хто садзіў. Лагернікі ды кэгэбісты. Як толькі заходнік які-небудзь у Менск прыпрэцца — так да будыніны КГБ фатаграфавацца. І усё азіраецца: ці не забяруць? Калі не яго, дык фотаапарат.

Святаслаў аднойчы, у заклад са мной, падышоў да пары ангельцаў, мужа і жонкі, казырнуў: «Маёр Камітэта дзяржаўнай бяспекі Берыя! Фатаграфаваць забаронена. Калі ласка, ваш апарацік». Аддалі, не рыпнуўшы…

Я не чакала такога, крычаць стала: «Як ты мог апарат забраць?..» — а ён рассмяяўся: «Адрэналін даражэй каштуе. А я колькі ім адрэналіну ўвагнаў?..»

— Мне не трэба, Вера.

— Гімн Савецкага Саюза не любіш?.. — Вера разламала аплатку напалам, палавіну яшчэ напалам. — З чацвярцінкі — гімн у скарочаным варыянце і без слоў…

Сабе яна ўзяла цэлую аплатку, трохі падумала — і дадала яшчэ чвэрць. Запіла віном, шклянку выпіла…

— Не цягні, трэба разам. А то размінёмся ў палётах…

Калі дабіраць жыцця, дык не чацвярцінку.

А ўсё, што засталося.

І запіць віном.

І ў Крэмль…

І слухаць… імн авецка юза… …які стаў заікацца, нібы кружэлку заела, ды на шостым ці сёмым заіканні музыка раптам

змянілася, загучала іншая мелодыя, таксама гімнавая, але не савецкая, і не французская ці амерыканская, не еўрапейская і не афрыканская, а нейкая ўсясветная, якую спяваў нехта ў нябёсах — Бог, ці хто?… і Бог сказаў, не перапыняючы спеву: «Я, каму яшчэ ў нябёсах спяваць?..» — і голас Ягоны ўвайшоў у мяне соладка-соладка, бо я паверыла, што Ён ёсць, спявае, і яму акампануюць анёлы, на арфах іграюць і на скрыпках, на кларнетах і акарынах, але ўзнікае гэтая мелодыя спачатку ўва мне, а пасля ўжо яе спявае Бог і граюць анёлы, якія самі здзіўляюцца, што ёсць такая музыка, урачыстая і каляровая, як вясёлка, праз якую мы ўбачыліся з Верай каля фантана, і цяпер яна колерамі і гукамі напаўняе цёмны і пусты космас, лунае над вялізным — пад усім небам — стадыёнам, дзе я стаю на п’едэстале, адна, на чэмпіёнскім месцы, а па стадыённай дарожцы, якую і дарожкай не назваць, бо яна шырэйшая і даўжэйшая за любую дарогу, бягуць і бягуць людзі, процьма людзей не толькі белых, чорных і жоўтых, але і чырвоных, сініх, зялёных, нібы ўсе яны прабеглі праз вясёлку, кожны праз свой колер, і яны ўжо завяршаюць круг, я баюся, што іх не даганю, а Бог кажа, спяваючы: «Табе не трэба даганяць, ты і так першая», — толькі мне здаецца, што Ён хітруе, спачатку ўсё ж трэба перамагчы, а пасля ўжо ставаць на п’едэстал, з якога я не магу сысці, бо ён надта высокі, пад аблокі, а Бог зноў кажа, спяваючы: «Ты ўспомні, што ўмееш лятаць», — і я паляцела, о, як соладка і высока, вышэй і яшчэ саладзей, яшчэ вышэй і саладзей, яшчэ і яшчэ, о, аж сэрца спыняецца, не можа вытрываць гэтакай асалоды, але павінна вытрываць, яно мне патрэбнае, каб бегчы, бо яны там, унізе, ужо дабягаюць першы круг, я спускаюся і бягу, на круг адстаўшы, папярэдзе іх усіх, і па ўсім стадыёне, якому канца-краю не відаць, нараспеў коціцца: «Бе-ла-русь! Бе-ла-русь! Бе-ла-русь!» — і так хораша гэтае слова, хоць Вера казала, што не будзе слоў, кладзецца на ўсясветную мелодыю, якую граюць анёлы і спявае Бог, які раптам змаўкае і глядзіць на мяне сусветна-самотна, о, як самотна, аж сэрца спыняецца, не можа вытрываць такой сусветнай самоты, але яно мне патрэбнае, бо ўжо блізка фініш, вось ён, і я першая, о, якая радасць быць першай, і яе столькі, што яна грудзі распірае, сэрца разрывае, якое не можа вытрываць гэткай радасці, але павінна вытрываць, яно мне патрэбнае, каб вытрываць гора, невыноснае гора, бо ўсе крычаць: «Бе-ла-русь! Бе-ла-русь! Бе-ла-русь!» — а Бог кажа: «Не, яна не першая, ёй бегчы яшчэ круг», — і з Богам не паспрачаешся, бяжыш, бяжыш і бяжыш, задыхаешся, задыхаешся, задыхаешся і ад таго, што паветра нестае, і ад жаху, бо

спераду яміна чарнее, якую выкапаў Цмок і куды дарожка, як стужка, слізгае, абвальваецца і цягне за сабой у пашчу Кіта, у чарнату, у пустату, скуль бацька пытаецца: «Дачушка, скажы, гэта ўжо *той* свет ці яшчэ *гэты*?» — а што мне сказаць, калі сама не ведаю, і так сорамна, о, як сорамна, што нават цяпер, калі бацькі ўжо няма, нічога добрага сказаць яму не магу, нічым не магу дапамагчы, як і Святаславу нічога добрага не сказала і нічым дапамагчы не змагла, і праз гэта сорамна і балюча, так балюча і сорамна, што сэрца можа не вытрываць, і яно не вытрымлівае, спыняецца, «тах-тах» перадапошні раз і яшчэ раз «тах…», апошні, я ўжо не дыхаю, але бацька, які таксама памёр ад сэрца, ведае, як не даць яму спыніцца, сціскае і адпускае мне грудзі, сціскае і адпускае, і штурхае з пустой чарнаты ўверх, уверх, уверх, дзе мне трохі лягчэе, дзе ўсё болей і болей колераў і гукаў, да якіх я выбіраюся праз такую вузкую шчыліну, праз якую выбрацца можа толькі зусім маленькая дзяўчынка, маленькая, але ж не мёртвая, і зноў я чую музыку… імн… авецка… юза… і ах! — хапаю паветра, але ўдыхнуць на ўсе грудзі яшчэ не магу, нешта зверху мяне прыдушвае, Цмок глыбей падкапаў яміну і зваліў у яе валун, які лёг плазам… Госпадзі!.. — гэта Вера ляжыць на мне губы ў губы і не рухаецца…

Адразу я нават не спалохалася. Падумала: калі я ўмею жыць і ў сабе, і ў іншых, перасяляцца і вяртацца, дык чаму яна, такая ж, як я, не ўмее?.. Тым больш, што яна ўжо памірала некалі і вярталася з сябе мёртвай у сябе жывую, выбіралася з-пад каменя праз маленькую шчыліну…

Вера ляжала на мне, як раструшчаная.

Я выбралася з-пад яе, перавярнула на спіну, затрэсла, як ляльку: «Вера! Ты дзе, Вера? Што з табой, Вера? Вярніся!..»

Яна не вярталася. Перасялілася некуды назаўсёды.

Схапіўшы тэлефон, я машынальна набрала нумар, пачула ў слухаўцы: «Хуткая дапамога», — і паклала трубку.

Калі ў маёй кватэры знойдуць шведскую журналістку, якая нелегальна прыехала ў Беларусь і сканала ад перадазіроўкі наркаты, дык не знойдзецца такой дапамогі, якая б мне дапамагла.

Я залезла ў сумачку Веры, знайшла пашпарт. Віза ў пашпарце толькі расійская.

Наркаманка і нелегалка… Лесбіянка — не ў залік. Але, калі пачнуць раскручваць, дык і гэта залічаць.

Вакол мяне загарэлася жытняе поле…

Мне б згараць на ім, калі ўжо набраная ванна. Бо якая розніца: у агні?.. у вадзе?.. Але я забылася на тое, дзеля чаго ванна набіралася…

Пажар слаўся на ветры, вецер закручваў языкі агню то ў адзін бок, то ў другі, полымя паўставала сцяной, у якой не знаходзіла выйсця, паратунку, хоць ён быў…

З фотакарткі ў пашпарце Веры глядзела я.

Я ўспомніла, што збіралася зрабіць гадзіну таму… Ускаціла Веру на коўдру і асцярожна, каб нідзе не драпнуць, зацягнула да прыбіральні. Там узяла пад пахі і падняла ў ванну. Эмаліраваны край ванны быў гладкі, не драпаўся. Уладкаваўшы Веру роўненька, я дабрала цёплай вады, узяла скальпель і разанула па запясці левай рукі.

Паклала скальпель на край ванны. На ім не было ні крывінкі.

Выйшла, прыкрыла дзверы.

Апранулася ў адзежу Веры. Прыбралася ў кватэры. Хоць там і прыбіраць не было чаго: дзве шклянкі памыць ды пляшку на сметнік выкінуць.

За дзесяць хвілін дайшла да вакзала. Паазіралася: ці няма некага са знаёмых?..

Нікога.

Купіла квіток.

Цягніком — да Масквы, адтуль — самалётам да Стакгольма. Аўтобусам — да Мальма.

У Еўропе ўсё блізка.

Перасялілася.

Я з дзяцінства ўмела гэта рабіць…

Дабраўшыся да Мальма, прыбіралася ў кватэры даўжэй, чым у Менску. Вэрхал я, ад’язджаючы, пакінула неверагодны: закарэлы посуд, раскіданая бялізна, касметыка, а да ўсяго — уся вітальня ў засохлай крывянцы. Як гэта я паехала некуды, нават кроў са сценаў не змыўшы?..

Я ўзялася мыць сцены, амаль усё ўжо адмыла, калі спахапілася: што гэта я раблю?..

Тое, што засталося, адмываць не стала.

Прагаладаўшыся, спусцілася ў краму, каб купіць яды. «Hej!.. — усміхнуўшыся, сказала касірка, узяўшы маю крэдытку. — Har du kommit tillbaka?..»* Я ўсміхнулася ў адказ: «Hej!.. Jag har kommit tillbaka…»**

---

* Прывітанне! Вы вярнуліся?.. (*Шведск.*)

** Прывітанне. Я вярнулася… (*Шведск.*)

Я купіла віна і, вярнуўшыся, выпіла.

З вяртаннем!..

Ціўкнуў мабільны тэлефон Веры. Мой тэлефон, на які прыйшло паведамленне. «Я купіў табе кацяня. Прабач. Карл».

Майго мужа, аказваецца, завуць Карлам. Як шведскага караля…

Чаму адной — замуж за караля, а другой — набіраць ванну, браць скальпель і ўзразаць вены?.. Хаця і пабраўшыся з каралём, можна набраць ванну, узяць скальпель і ўзрэзаць вены…

Я напісала Карлу, што ён мае выбар… Ці забыцца, што я ёсць, і ў турме *працаваць*, ці помніць, што я ёсць, і ў турме *сядзець*. За гвалт і забойства. Ён адказаў, што прымае першы варыянт і пакідае кацяня сабе.

Хіба я магла ўявіць тады, што яго прызначаць следчым па справе Святаслава, і мне давядзецца яму яшчэ пісаць і пісаць…

Тады я ўсё ж асцерагалася, што ён будзе шукаць сустрэчы, а сустрэўшыся, не пазнае ўва мне Веру, бо ў мяне радзімак на левым плячы на адну меней… Супраць яго трэба было нешта мець, хоць бы закрываўленыя сцены ў вітальні, якія я не дамыла. Каб доказ быў, што забіў… Але аднойчы нейкі клерк з кейсам, падобны, як мне здалося, на майго мужа Карла, сутыкнуўся са мной на ўваходзе ў кавярню — і адскочыў, як апёкшыся. Перабег на другі бок вуліцы, па якой рушыў, не азіраючыся, — і я зразумела, што асцерагацца мне няма чаго. Прыйшла дахаты і дамыла ўсё чыста, адскрэбла тое, што заставалася, засохлае, з былога жыцця.

Назаўтра пайшла прагуляцца да мора і ўбачыла тлустага, рыжага ў белыя плямы ката, які лянотным подбегам уцякаў ад гэткага ж тлустага і рыжага, толькі не ў плямы, мужыка. Мужык аж задыхаўся — гэтак намагаўся ката дагнаць. Нарэшце, кот стаміўся ўцякаць, мужык дагнаў яго, нахіліўся і пагладзіў…

Вы каго-небудзь, задыхаючыся, даганялі, каб пагладзіць?..

Калі я вяла рэпартажы з каралеўскіх вяселляў, дык не прызналася, што я не Вера. У гэтым я вінаватая перад ёй, бо мы дамаўляліся, што прызнаюся. Але ж дамаўляліся мы жывая з жывой, а не жывая з мёртвай…

Канешне, калі б я прызналася, гэта была б бомба… Толькі што тады было б са мной?.. Са Святаславам, якога я знайшла толькі тады, калі ў газетах напісалі, што яго арыштавалі, і якому трэба было тут, як і там, дапамагаць. Наста тут нічым дапамагчы не магла.

А там дапамагла: смерць маю ўсё ж прызналі самазабойствам. На тэлефон Веры Наста эсэмэску скінула:

«З вяртаннем у Еўропу! Вось для чаго вы падобныя былі».

Лесбіянка дыктатуры.

Прычыны для экстрадыцыі Святаслава не стала: не з-за ката ж высылаць… Ды яшчэ я так пра яго напісала, што шведы вінаватымі перад ім пачуваліся. Такога героя звар'явалі…

З псіхушкі яго забраў нейкі рускі, якому Святаслаў, забіўшы беларуса, аказаў вялізную паслугу. За тую вялізную паслугу той рускі прыдбаў для яго вялізны дом, у падворку якога насыпаў, як Святаслаў папрасіў, вялізную гару. І купіў вялізнага сабаку. Святаслаў назваў гару Ваўкавыскай, вечарамі забіраўся на яе з сабакам і глядзеў некуды на паўднёвы ўсход. Сонца сядала за ягонай спінай, свяціла ў той бок, куды ён глядзеў, і калі яно закочвалася за небасхіл і нічога ўжо не было відаць, ён пачынаў выць, а сабака — падвываць. Страшна, як воўк. На ўсю Еўропу.

*Вясна 2004, Расціла, Хельсінкі, Фінляндыя;*
*вясна 2008, Вісбу, в. Готланд, Швецыя*

# ШЛЯХ
## *Папулярны біяграфічны нарыс*

Я — шлях, якому век няма спакою…

*Янка Купала*

Некалі, упершыню прачытаўшы «Безназоўнае», напісаную ў 1924 годзе і па сутнасці апошнюю *купалаўскую* паэму Купалы, я сярод іншага запісаў: «Беларусь і беларусы — запозненая мара гісторыі, не здольная здзейсніцца. Янка Купала — персаніфікаваная нясдзейсненасць гэтай мары. Сон пра мару».

Было гэта гадоў трыццаць таму… Шмат чаго за прамінулы час адбылося і ў свеце, і ўва мне. Цяпер я не думаю, што Беларусь — мара, *не здольная здзейсніцца.* І ўсё ж той Беларусі, пра якую бачыў сны Купала, як не было, так і няма, і ў гэтым сэнсе яна па-ранейшаму — «Безназоўнае». Як і тады, калі пісаў пра яе Купала сваю безназоўную паэму:

Было яно калісьці,
Калі, як жаўталісце,
Жылі мы — не жылі…

У гэтай паэме няма ніводнага названага героя, ёсць толькі абагуленае *мы.* Як і ў «Адвечнай песні», першай драматычнай паэме Купалы, герой не мае імені, ён проста *Мужык.* І ў паэме «Сон на кургане» героем выступае нехта *Сам,* і ў паэме «На папасе» хтосьці *Незнаёмы,* які хоць і мае прыкметы біяграфіі самога Купалы, але так і застаецца безназоўным…

Хаваць сваё «я» за *нечым,* за *некім,* каб не вытыркацца, не назаляць, — уласцівасць беларускага характару. Купала гэты характар не надта любіў, але ж і сам быў беларусам.

Слова *безназоўнае* немагчыма перакласці на рускую мову дакладна — ва ўсёй ягонай глыбіні. *Безымянное* альбо *неназванное* — зусім не тое, альбо толькі частка таго, што ўбірае ў сябе *безназоўнае.* І нават па-беларуску значэнне, змест *безназоўнага* даволі цяжка вытлумачыць іншымі словамі…

Тут, бадай, дарэчы будзе сказаць некалькі слоў пра мову.

Зямля Меншчыны, на якой звілі калісьці свае радавыя гнёзды продкі Якуба Коласа і Янкі Купалы, стала не толькі калыскай найвялікшых беларускіх паэтаў, але і радзімай сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Такой, якая яна ёсць, беларуская мова існуе не ад веку. Фармавалася яна, як і ўсе мовы свету, з мноства гаворак і дыялектаў, якія былі настолькі рознымі, што чалавек, які жыў на Прыпяці, на поўдні Беларусі, мог і не зразумець чалавека з Нёмана ці Дзвіны, з беларускага захаду ці поўначы. Але кожны, і найперш кожны з тых, хто пісаў па-беларуску, даводзіў, што менавіта ягоная гаворка, ягоны дыялект самы правільны і найлепшы. І калі ў дваццатыя гады дваццатага стагоддзя наспеў час звесці ўсё самае правільнае і найлепшае да адзінай нормы, дык у падмурак, у аснову літаратурнай мовы былі пакладзеныя не паўднёвыя і не паўночныя дыялекты, а гаворкі цэнтральнай часткі Беларусі. Сталася тое не без уплыву найлепшых беларускіх паэтаў, іх творчасці, аўтарытэту. Так што ўся Беларусь размаўляе сёння менавіта на мове Купалы і Коласа, на мове Меншчыны. Дакладней, магла б, павінна была б размаўляць…

Парадаксальна, але *справа* жыцця двух беларускіх геніяў (дый не толькі іх, сотняў іншых празаікаў і паэтаў, дзеячаў нацыянальнай культуры) стала *драмай* іх жыцця. Спроба здзейсніцца ў родным слове, зрушыць беларусаў да ўсведамлення саміх сябе як народа, як нацыі, дорага каштавала. Многім — самога жыцця. Астатнім — даносаў, арыштаў, катаванняў, турмаў, лагераў. Вымушаных публічных пакаянняў, саманагавораў, самагубстваў… За што, чаму? Не таму ж, што яны літаратары. І яны гэта разумелі. Усе гэтыя людзі маглі выбраць іншы шлях, але іх прадвызначэнне было вышэй за іх жаданні. Таму і спраўдзілася.

А ўсё пачыналася з мовы. Як у Бібліі: «Напачатку было слова…»

Абодва яны — і Колас, і Купала — спрабавалі пісаць на польскай мове. Спрабавалі на рускай… Не атрымлівалася, не выказвалася… Бо гэта былі мовы няхай адной і той жа крыві, але іншай групы. Іншага рытму, пульсу, дыхання — і яны не супадалі з тым рытмам, пульсам, дыханнем, з якімі Колас у Акінчыцах, а Купала ў Вязынцы нарадзіліся.

Ва ўяўленні большасці людзей мова — гэта толькі сродак камунікацыі. Ты сказаў — я пачуў. Ён напісаў — я прачытаў. Яно так, гэта сапраўды найважнейшая функцыя мовы, аднак

не адзіная. Усё значна складаней, глыбей. Мова — адзін з інструментаў фармавання ўнутраных прыкметаў чалавека, народа. Усяго таго, што сёння прынята называць менталітэтам. Таго, чым рознімся мы паміж сабою ў адзіным Боскім свеце, у якім, пры ўсёй ягонай адзінасці, кожнаму дадзена нешта, што робіць яго ні на каго не падобным. І наўрад ці Усявышні, раз'яднаўшы народы ў мовах, тым самым пакараў іх за гардэчу. Можа быць, таму і даў Гасподзь усялякаму народу ўласную мову ягоную, што ўбачыў каля падножжа вежы Вавілонскай: людзі, аднолькавыя ў мове, — аднолькавыя ва ўсім. Прычым занадта аднолькавыя, настолькі, што ўсе — пыхлівыя дурні.

Чалавек і мова развіваліся ва ўзаемаўплыве, *узаемастварэнні.* У такім істотным узаемастварэнні, што без асаблівага перабольшвання можна сцвярджаць: іншая мова — іншы чалавек. І калі ў свеце, дзе для ўсіх і кожнага найдаражэй крэўнае, сваё, раптам мы, беларусы, ці некаторыя з нас, на сваё забыўшыся, пытаемся: *а навошта нам, беларусам, беларуская мова?* — дык для чаго тады мы самі? З нашай памяццю, крывёй, гісторыяй?.. І нашто тады нам Якуб Колас і Янка Купала, якіх па-за мовай немагчыма ўявіць? Як не ўявіць па-за ёй і ўсю мудрасць народа, сканцэнтраваную і зафіксаваную ў мове. І калі б Купала і Колас не ўсведамлялі гэтага, не дыхалі і не жылі Беларуссю, бо нічым іншым ні дыхаць, ні жыць не маглі, мы б іх проста не мелі. Але яны ў нас, дзякуй Богу, ёсць, таму ёсць і мы разам з імі, і ёсць у нас, працярэбленая імі, дарога.

Дарога ад Менска да прывіленскіх Вязынкі і Акопаў — у адзін бок, да прынёманскіх Акінчыцаў і Альбуці — у другі. Па першай я часта ездзіў у юнацтве — яна ў мае родныя мясціны. У тыя, па якіх не аднойчы праязджаў Купала: праз Маладзечна да Смаргоні, далей на Ашмяны, адкуль ужо рукой падаць да любімай купалавай Вільні. Сённяшняга Вільнюса, горада, які ў самым пачатку XX стагоддзя, у найлепшыя для Купалы часы, быў культурнай, духоўнай сталіцай беларусаў. Там выдаваліся беларускія газеты «Наша ніва» і «Наша доля», «Беларуская крыніца», «Беларуская доля», «Беларускія ведамасці», «Беларуская ніва», «Беларуская справа», «Беларуская газета», часопісы «Саха», «Беларуская культура» і «Беларускі летапіс», дзейнічалі кнігавыдавецтвы Марціна Кухты і «Znicz». У Вільні друкаваліся таксама беларускія падручнікі, там у «Беларускім выдавецкім таварыстве» ў 1913–1914 гадах працаваў Янка Купала.

Не стану сцвярджаць, што, праязджаючы Вязынку, я кожны раз прыгадваў Купалу. А калі ўспамінаў, дык хіба толькі тое, што ведаў пра яго са школы. Што Янка Купала напісаў вершы пра хлопчыка, які марыў стаць лётчыкам, і яшчэ шмат чаго напісаў… Што нарадзіўся ён старэйшым сынам у беднай сялянскай сям'і, таму з самага дзяцінства давялося яму гнуць спіну, гарбець і гарбець, каб займець кавалак хлеба…

Цяпер я ведаю, што нават гэта, не кажучы ўжо пра многае іншае, не зусім так. Першынцам у бацькоў Купалы, у сям'і Дамініка Ануфрыевіча і Бянігны Іванаўны Луцэвічаў быў сын Мікалай, Міколка, які не выжыў... Зацяжараўшы ў другі раз і баючыся месца, дзе памёр яе першынец, маці Купалы прыспешыла бацьку з пераездам з фальварка Паморшчына пад Ракавам у Вязынку пад Радашковічамі. Тут 7 ліпеня (25 чэрвеня па старым стылі) 1882 года і нарадзіла яна сына Івана — старэйшага і не старэйшага…

Жыццёвы шлях Купалы збольшага можна прасачыць па ягоных аўтабіяграфіях і аўтабіяграфічных лістах.

«Отец мой родился в застенке (хуторе) Пески Игуменского уезда Могилянской волости Минской губернии, — піша Купала ў 1927 годзе ў Пецярбург Л. Клейнбарту, свайму першаму біёграфу. — Эти Пески <u>были подарены предкам отца за какие-то заслуги</u> (падкрэслена мной. — *У. Н.*), но потом оказались во владении князей Радивиллов. Эти последние выбросили… всю семью Луцевичей на улицу (што стала сюжэтам адной з ранніх купалаўскіх паэм «За што?» і драмы «Раскіданае гняздо». — *У. Н.*). После этого Луцевичи взяли в аренду фольварк Камень… Из Каменя переехали тоже на аренду в Раговичи. Там же отец мой в 1879 г. женился на Бенигне Ивановне Волосевич, родом из фольварка Нешота, около местечка Рубежевичи.

Из Рогович отец отделился от семьи и пошел служить в Поморщину около Ракова… Из Поморщины отец снова переходит на арендованную землю в фольварк Вязынка… В 1883 году отец снова на службе в имении Юзефово у помещика Богдановича… В 1887 году — имение Косино у того же Богдановича… В 1889 году переезжает на службу в имение Сенница… В 1890 году бросает службу и переезжает в Минск. Здесь купил лошадь и некоторое время ездил извозчиком. В 1891 г. бросает город и берет в аренду фольварк Прудище… В 1895 г. из Прудища переезжает на аренду в фольварк Селище…»

Дзесяць пераездаў за пятнаццаць гадоў!.. Вандроўнае, цыганскае жыццё, а не аседла-сялянскае.

«В Селище, кажется, в 1901 г. (насамрэч у 1902. — *У. Н.*) умер весною отец, а осенью того же года единственный брат (гэта ўжо брат малодшы. — *У. Н.)* и две младшие сестры («Аж бацьку гора з ног зваліла, / Пайшоў на той свет без пары; / У год капай зноў тры магілы: / Злёг брат і дзве зляглі сястры» — аўтабіяграфічныя радкі з паэмы «На папасе». — *У. Н.*). Пришлось мне самому заняться хозяйством, но оно вскоре начало мне надоедать. И вот в 1903 г. я пошел на службу, сначала домашним учителем… а через два месяца попал писцом к судебному следователю в Радошковичи. От следователя я поехал в имение Толочин… мне там отказали. Тогда я направился в имение Белица помещика Свяцкого. Там я прослужил сначала в конторе имения, а потом, под весну, уже в 1904 г. — в качестве младшего приказчика на поле по хозяйству.

Осенью 1905 года (заўважым, што вясной 1905 года, 25 траўня, у менскай газеце «Северо-Западный край» з’яўляецца верш «Мужык», першы надрукаваны верш Янкі Купалы. — *У. Н.*) я поступил в качестве практиканта на винокуренный завод в имении Семково помещика Хелховского. 1906–1907 гг. — помощником винокура в имении Яхимовщина помещика Любанского. 1907–1908 гг. — также в качестве помощника винокура в имении Дольный Снов помещика Гартинга…»

За пяць гадоў — пяць месцаў працы і сем пераездаў! Лёс і шлях бацькі… Да таго ж вясной 1904 года ўся сям’я Луцэвічаў перабіраецца з Селішча ў Бараўцы Менскага павета… А пра сваю працу вінакурам Купала напіша пасля ў аўтабіяграфічным лісце да акадэміка Я. Карскага: «Праслужыў тры гады ў броварах. Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не меў».

Спытаемся: што значыць працаваць на бровары?.. Гэта значыць, апрача ўсяго астатняга *(пекла)*, — выпіваць. Бо ўсё, чым можна шклянку напоўніць, пад рукой. І ўсё — не вада. Каб не піць, трэба было мець іншы характар, не купалаўскі. На броварах Купала і прызвычаіўся прытушваць тое, што душу пякло, алкаголем. З гэтым *шкляным богам,* як называў яго Вацлаў Ластоўскі, меў Купала не простыя стасункі.

«Осенью 1908 г. (ужо закончана ў Бараўцах паэма «Адвечная песня» і выдадзены першы купалаўскі паэтычны зборнік «Жалейка», у рэцэнзіі на які газета «Наша ніва» напісала: «Гэта — крык, што жыве Беларусь». — *У. Н.*) получил приглашение приехать в Вильно. Там поступил в частную библиотеку «Знание» Б.Л. Даниловича… Осенью 1909 г. Данилович послал меня в имение Беница Минской губернии Новогрудского уезда

в качестве управляющего. По возвращению из Беницы поздней осенью того же 1909 г. выехал из Вильны в Петербург, где поступил на общеобразовательные курсы А. Черняева. В 1913 году оставил Петербург и переехал снова в Вильну, где впоследствии занял место официального и фактического редактора «Нашай нівы». Осенью 1915 г. из Вильно с причины эвакуации города (да Вільні набліжалася Першая сусветная вайна. — *У. Н.*) переехал в Окопы, к матери. Из Окоп вскоре по приглашению Живописцева (С. Жывапісцаў — ветэрынарны ўрач, грамадскі дзеяч і мецэнат, у дачку якога Таццяну быў Купала мімалётна закаханы і прысвяціў ёй верш «Арліныя крыллі». — *У. Н.*) я выехал в Орел. В том же 1915 году переехал из Орла в Москву в Народный университет им. Шанявского.

В январе 1916 г. (в Москве 23 января 1916 г. я женился на Владиславе Францевне Станкевич) я переехал в Минск, где поступил старшим рабочим в «Дорожно-строительный отряд» Варшавского округа путей сообщения. Летом 1916 г. из Минска перевели отряд в Полоцк, куда я и переехал. Из Полоцка в 1917 г. в дни Октябрьской революции я переехал в Смоленск. В начале 1919 г. (нагадаю, што 2 студзеня 1919 года, у процівагу створанай 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспубліцы, БНР, была абвешчаная ў Смаленску Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, БССР. — *У. Н.*) из Смоленска переехал на постоянное жительство в Минск».

Тут спынімся ў цытаванні купалаўскіх лістоў да Л. Клейнбарта і вернемся да дня нараджэння Купалы, які ў аўтабіяграфіі 1940 года піша: «Отец мой происходил из мещан…»

Вось выпіска з метрычнай кнігі Радашковіцкага касцёла за 1882 год. У графе: *«Когда, где, кто и кем, одною ли водою или со всеми обрядами таинства крещен»,* — запісана: «Тысяча восемьсот восемьдесят второго года июля двенадцатого дня в Радошковичском р.-к. (*римско-католическом*) приходском костеле окрещен младенец по имени Иван кс. (*ксендзом*) Станиславом Сульжинским, вилейским деканом, с совершением всех обрядов таинства». А ў графе: *«Какого сословия и общества, каких родителей, когда и где, т.е. в каком приходе родился крещеный»,* — чытаем: «Дворян (падкрэслена мной. — *У. Н.*) Доминика и Богумилы (тут памылка, маці Купалы звалі Бянігнай, але заўважым, што лёс Купалы ўжо ад самага пачатку пазначаны знакам падвойнасці, блытанінай, якая будзе цягнуцца праз усё жыццё і вузлом зацягнецца ў смерці. — *У. Н.*) Волосевичей

Луцевичей, зак. супр. (*законных супругов*), сын, родившийся 25 июня сего года в имении Вязынке».

Мусібыць, ксёндз Станіслаў Сульжынскі не стаў патрабаваць ад Дамініка Луцэвіча (ды яшчэ ў дзень хрысцінаў ягонага сына) пісьмовую даведку пра саслоўнае паходжанне. А калі б запатрабаваў, дык даведкі пра тое, што ён са шляхты (з дваранаў), у бацькі Купалы не было. Значыць, запіс зроблены альбо на падставе нейкіх іншых дакументаў, альбо са словаў. Але для таго, каб у касцельнай кнізе запісацца дваранінам, мала ім назвацца. Трэба, каб цябе дваранінам прызнавалі. І, выходзіць, прызнавалі, калі запісалі. Пацвярджаецца тое (калі не наўпрост, дык ускосна) запісам у графе: *«Кто были по имени и прозванию восприемники при св. крещении и кто присутствовал»*, — дзе чытаем: «Восприемниками были Иосиф Банцаревич с Олимпиею Замбржицкою». Дык вось: Алімпія Замбржыцкая — шляхцянка. Што і ёсць дваранка. А ведаючы гонар шляхты, спытаемся: ці стала б Алімпія Замбржыцкая, шляхцянка, ды яшчэ ўладальніца фальварка Вязынка, аднаго з фальваркаў, якія належалі яе мужу Станіславу Замбржыцкаму, знацца з мужыкамі? З быдлам?.. Ды няхай бы яна хоць з крыльцамі анёльскімі была, але *хроснай* сына мужыка, які, калі і пан, дык толькі, як напіша потым яе хрэснік, *пан сахі і касы*, яна б наўрад ці стала.

У сваіх дваранскіх правах род Луцэвічаў, як сведчаць дакументы з архіўнага фонду Менскай дваранскай дэпутацкай зборні, быў зацверджаны гэтай самай Зборняй у 1802 годзе. І ўжо ў «Списке дворянском 1816-го года генваря 31-го дня Минской губернии Игуменского повета» першым запісаны Іван Юр’еў сын Луцэвіч з шасцю ягонымі сынамі. Прывяду толькі адно з некалькіх пасведчанняў, якімі пацвярджаліся правы на шляхецтва купалаўскага роду.

«Дано сие из Минского дворянского депутатского собрания, за надлежащим подписанием и приложением казенной печати, не утвержденным окончательно в дворянстве Луцевичам в доказательство пользования по настоящее время дворянскими правами, на предмет представления при поступлении ныне в податное звание (шляхта не абкладвалася падаткамі, а Луцэвічаў выпіхвалі ў ніжэйшае саслоўе, якое падаткі плаціла. — *У. Н.*), в том, что род Луцевичей… определениями сего собрания, 6 августа 1802, 21 февраля 1846 (у год нараджэння бацькі Купалы. — *У. Н.)* и 22 апреля 1857 годов состоявшимися, признан в дворянском достоинстве (падкрэслена мной. — *У. Н*). Копии с приведенных определений с документами, в состав оных во-

шедшими, представлены на рассмотрение Правительствующего сената по департаменту герольдии».

Дваранства Луцэвічаў сведчылася Менскай дваранскай дэпутацкай зборняй не аднойчы, але ў Пецярбурзе ў Дэпартаменце герольдыі, чыноўнікі якога нібыта наперад ведалі, што якраз з роду Луцэвічаў павінен з'явіцца сябар народа і вораг царызму, ніводнага з тых сведчанняў не прызналі. У 1862 годзе зацвердзілі ўсё ж у дваранстве адну галіну роду Луцэвічаў, але не купалаўскую… Абражаныя гэтым, дзед Купалы Ануфрый Дамінікавіч і ягоны стрыечны брат Людвіг Францавіч рынуліся на новы штурм пецярбургскай цытадэлі герольдыі — і патрапілі пад Указ ад 23 верасня 1864 года, скіраваны якраз супраць таго, чаго яны дамагаліся. Згодна з тым указам, яны лічыліся спярша менскімі «грамадзянамі», а праз чатыры гады іх запісалі мяшчанамі. І хоць дзед Купалы працягваў дабівацца справядлівасці яшчэ болей за дзесяць гадоў, але з 1869 году ўсе Луцэвічы купалаўскай галіны, дзе б яны ні жылі і чым бы ні займаліся, павінны былі па саслоўі сваім называць сябе не інакш як *менскія мяшчане*. Так што ў 1882 годзе бацька Купалы не меў ужо ніякіх фармальных падставаў для таго, каб пры нараджэнні сына запісацца дваранінам, — і тым не менш запісаўся. Мяркуючы, мусібыць, што ісціна вышэй за фармальнасці…

Ці мог не ведаць гісторыі сямейнай барацьбы за вяртанне ў дваранства Купала, да нараджэння якога ад году 1875, калі дзед ягоны змірыўся і кінуў змагацца за дваранскія прывілеі, заставалася ўсяго сем гадоў? А бацьку Купалы ў 1875 годзе было амаль трыццаць, і ўсе падзеі адбываліся калі не пры ягоным удзеле, дык у ягонай прысутнасці. Хіба маглі ў сям'і не размаўляць пра гэта?.. Не маглі не размаўляць, бо гэта найважнейшая сюжэтная лінія ў гісторыі роду — і ўсю яе ва ўсіх падрабязнасцях Купала, вядома ж, ведаў. Тады чаму не скарыстаў такі разгалінаваны сюжэт цалкам?.. Каб ён быў не толькі *мужыцкім*, як у драме «Раскіданае гняздо» ці ў паэме «За што?», але і *шляхецкім, дваранскім*? Зразумела, не пасля семнаццатага года, калі падобныя гісторыі сталі, так бы мовіць, не ў модзе, а раней?.. Гэта ж сага, эпапея, што бярэ пачатак ад 1692 года і якую, здаецца, нельга было не напісаць, а яна засталася ненапісанай...

Чаму?

Таму што Купала, няхай, можа, і занадта ўзнёсла яно гучыць, — паэт не роду, а народу. Таму што пад час, калі ён прафесійна пачаў займацца літаратурай, узнікла тэма значна болей важная, чым сюжэт, звязаны з дваранскім паходжаннем

ягоных продкаў. Спачатку сцішана, а пасля ўсё мацней загучалі першыя ноты Першай сімфоніі беларускага нацыянальнага Адраджэння — і Купала стаў тым, кім наканавана было яму стаць: першай скрыпкай у аркестры, які паспрабаваў тую сімфонію дапісаць, выканаць, дайграць да канца. Гэта яе гукі чуюцца і ў вершах Купалы, і ў ягоных паэмах, і ў публіцыстыцы, і — што таксама было наканавана — у апошнім трагічным акордзе: хрумсце дваранскіх касцей народнага паэта на мармуровых плітах падлогі ў гатэлі «Масква».

Цяпер вось і гатэля таго няма, знесены… Засталіся толькі перавезеныя з Масквы ў Купалаўскі музей дзверы нумара 414, дзе пражыў Купала дзесяць апошніх дзён... Не апошнія дзверы, якія ён за сабой зачыніў.

Пра тое, чым была для Купалы ідэя адраджэння Беларусі, якая стала сэнсам ягонага жыцця, найлепей сведчыць ён сам. Напрыклад, у сваёй «Прамове на 15-годдзе літаратурнай працы», надрукаванай у газеце «Беларусь» у чэрвені 1920 года.

«Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволення Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадства… Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа.

Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць… Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна — сягоння нашыя дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па людскаму і божаму праву гэту незалежнасць.

Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, — брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.

Хай Вас, браты беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час. Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народныя… Хай Вас не палохае, што рвуць вашу зямлю на часці, што хаты нашы спалосканы (як сказана! — *У. Н.*) пажарам… Хай толькі асвеціць Вас адна вялікая думка — аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча.

На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў… але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмоў

біблейскіх сказана: «стану Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць». Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць…

Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі (падкрэслена мной. — *У. Н.*), якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё. У гэтых чарах (падкрэслена мной. — *У. Н.*), у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духу… нашая слава і шчасце — цяпер і ў будучыні».

Занадта пафасна?.. Не без таго. Але відавочна, што не фальшыва. Шчыра. А што да пафасу, дык на двары 1920 год. Аркестр грае, большасць аркестрантаў яшчэ жывыя — і пакуль не страчаная ніводная з надзеяў. У тым ліку і надзея на народ, хоць трохі яна ўжо сумнеўная — нездарма ж Купала спытаўся ў самога сябе, прарока, вуснамі таго самага народа: ***«Па колькі нам дасі чырвонцаў, / Калі мы пойдзем за табой?..»*** І ўсё ж не пакідаюць Купалу ні ўзвышаная вера, ні гранічная шчырасць, ні ўзнёслы рамантызм. Таму і ў прамове ягонай не столькі палітыкі, колькі паэтыкі: ***чараўнічая песня, чудатворная містэрыя, гэтыя чары…***

Наўрад ці ў той час рамантык Я. Купала чытаў прагматыка І. Сталіна, які ўжо ў студзені 1918 года, з'яўляючыся камісарам па нацыянальных справах, удакладняў абвешчанае бальшавікамі права нацыяў на самавызначэнне: «Принцип наций на самоопределение должен быть средством борьбы за социализм». А вось Вільгельм Кнорын (Кнорыньш), які быў сакратаром Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП (б), І. Сталіна, канешне ж, чытаў. І вось што напісаў у газеце «Звезда» восенню (6 кастрычніка) таго ж 1918 года: «Мы считали, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашею задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением национальных рогаток…»

Для таго, каб не даць разгарнуцца «движению с воздвижением национальных рогаток», у студзені 1918 года (адразу ж пасля згаданага ўдакладнення І. Сталіна) быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (Белнацкам), у дзейнасці якога маглі браць удзел толькі тыя, хто «стоял на платформе признания Советской власти и власти Народных Комиссаров». І адразу ж, у тым жа месяцы, І. Сталіну быў накіраваны ліст з просьбай аб

выдзяленні Белнацкаму (для самавызначэння, ці што? — *У. Н.*) 15 тысяч рублёў. У кіраўніцтва Белнацкама быў прызначаны на пасаду галоўнага сакратара Зміцер Жылуновіч. У звязку з тым, што ён адыграў значную ролю ў лёсе Купалы, прывяду даволі экстравагантны тэкст:

«Пясняр вёскі, прыкаваны к зямлі змалку, жывучы ёю, думаючы аб ёй наяву і ў сне, большую вагу сваіх думак пасвячае ідэалу жадання зямлі… Работнік якраз (не пясняр вёскі. — *У. Н.*) мала ўспамінае аб гэтай рэчы: праца паднявольная ў фабрыцы ці майстэрні родзіць жаданне палепшыць яе варункі, скінуць гвалтоўнасць яе характару, аслабіць. У беларускай літаратуры прадстаўніком гэтага настрою з'яўляецца Цішка Гартны. Фундаментальны матыў яго песні — гэта пачуццё сваёй сілы, сілы ўсяго рабочага класа, які творыць скарбы свету. Вось чаму ўсе мукі яго жыцця — нічога перад яго сілаю і не падрываюць у ім веры і надзей. Зварот чыстых ідэй у дзела — упорнаю працаю — захапляе ў Цішкі Гартнага сваёю вераю і непарадатнасцю».

Хто гэта так, калі і пра каго?..

Гэта так пра Янку Купалу, адсталага песняра вёскі, і пра сябе, *непарадатнага* работніка, у тым жа 1918 годзе кажа ў лекцыі перад студэнтамі Беларускага народнага універсітэта ў Маскве Зміцер Хведаравіч Жылуновіч. Ён жа — галоўны сакратар Белнацкама, ён жа — першы старшыня Беларускага часовага ўрада, ён жа — той самы пісьменнік Цішка Гартны, які яго, Зміцера Хведаравіча Жылуновіча, захапляе той самай *непарадатнасцю*.

Яно нібыта смешнавата — публічна самому сабой захапляцца, ды насамрэч няма тут нічога смешнага. Заўсёдная трагедыя беларускай нацыянальнай справы — не змаганне з чужымі, а бойка сваіх са сваімі… Між іншым, не Янка Купала, а якраз Цішка Гартны павінен быў стаць першым народным паэтам Беларусі, наконт чаго (найперш ягонымі асабістымі стараннямі) яшчэ ў 1923 годзе на пленуме ЦК КП(б)Б была прынятая адпаведная пастанова, па розных прычынах не даведзеная да выканання. Гартны наогул, спаборнічаючы з Купалам, быў не надта пераборлівы ў сродках, а Купала… А Купала піша ў тым жа 1923 годзе верш «Цішку Гартнаму», усхваляючы ягоны «дух неўгамонны». Што ж, гэтакі ён ёсць — беларускі характар.

Таленавітага пісьменніка Цішку Гартнага з ягоным «духам неўгамонным» напаткаў, на жаль, не меней, калі не болей трагічны лёс, чым Купалу. У 1931 годзе яго (бо хоць, здаецца, і служыць, а ўсё адно нацдэм!) выключылі з партыі, у 1936 годзе

арыштавалі, прызналі псіхічна хворым — і праз год у шпіталі ён скончыў жыццё самагубствам.

Тым не менш факт ёсць факт: з прыходам савецкай улады Гартны першы пачаў паскубваць Купалу, хоць яны сябравалі. А калі свой пачаў, дык чаму чужым не прадоўжыць?.. І ў «Заметках» пра беларускую літаратуру, надрукаваных у газеце «Звезда» 1 кастрычніка 1922 года, Вільгельм Кнорын, цяпер ужо сакратар ЦК КП(б)Б, пра Купалу піша: «Это — банкрот. Полный и окончательный. И не найдется дурака — разве что в кооперативном товариществе «Адраджэнне», который за акции этого банкрота дал бы медный пятак, не то что советский лимон».

Адносіны з новай уладай ад пачатку ў Купалы не надта заладзіліся, і жыццё ягонае па прыездзе са Смаленска ў Менск не выглядала на лёгкае. Як яно з часам (у знешніх выявах) мянялася, можна прасачыць па архіўных дакументах. Вось (у скароце) некаторыя з іх.

8 ліпеня 1921 года.

Запіска ў Сацбес (Наркамат сацыяльнага забеспячэння) з Наркамата асветы, дзе Купала працаваў спачатку бібліятэкарам, а пасля намеснікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела:

*«Гэтым Наркамасветы просіць выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу). Пры гэтым Наркамасветы дадае, што Купала ў ботах вельмі нуждаецца».*

10 чэрвеня 1925 года.

Пастанова Савета Народных Камісараў.

*«...Мінула дваццаць год, як Ян Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала) распачаў сваю літаратурную дзейнасць сваім вершам «Мужык».*

*Савет Народных Камісараў... пастанаўляе:*

*1. Надаць Яну Дамінікавічу Луцэвічу (Янку Купалу) імя Беларускага народнага паэта.*

*2. Прызначыць яму на ўсё жыццё персанальную пенсію ў 150 руб. на месяц».*

26 снежня 1928 года.

Пастанова Савета Народных Камісараў БССР.

*«1. Зацвердзіць правадзейнымі членамі Беларускай акадэміі навук:*

*Луцэвіча Івана Дамінікавіча (Янку Купалу).*

*Міцкевіча Кастуся Міхайлавіча (Якуба Коласа)».*

30 студзеня 1929 года.

Пасяджэнне Савета Народных Камісараў Беларускай ССР.

*«Пастанавілі:*

*1. Павялічыць з 1 лютага 1929 г. пенсію народным паэтам Якубу Коласу і Янку Купалу да сярэдняй стаўкі акадэмікаў Беларускай акадэміі навук».*

25 мая 1935 года.

Пастанова Савета Народных Камісараў БССР:

*«Адзначаючы пладатворную дзейнасць народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы на фронце савецкай літаратуры... у азнаменаванне 30-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т. Янку Купалу легкавым аўтамабілем».*

11 ліпеня 1935 года.

Пастанова Юбілейнай сесіі ЦВК БССР.

*«Юбілейная сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта... пастанаўляе:*

*1. За актыўны ўдзел у барацьбе за вызваленне Беларусі ад белапольскай акупацыі (!)... узнагародзіць Ганаровай граматай БССР:*

*Янку Купалу, народнага паэта».*

31 января 1939 года.

Указ Президиума Верховного Совета СССР.

*«За выдающиеся успехи и достижения в развитии советской художественной литературы наградить*

*О р д е н о м  Л е н и н а*

*Коласа Якуба.*

*Купалу Янко».*

15 марта 1941 года.

Постановление Совета Народных Комиссаров Союза ССР.

*«Присудить Сталинские премии за выдающиеся работы в области*

*П о э з и и.*

*Премии первой степени в размере 100 000 рублей:*

*Купале Ивану Доминиковичу — за сборник стихов «От сердца», опубликованный в 1940 г.».*

У «новых ботах» Купала даволі хутка дайшоў да легкавога аўтамабіля, да ордэна Леніна і Сталінскай прэміі... Амаль кожныя пяць год — юбілеі творчай дзейнасці, паміж імі — юбілейныя дні нараджэння... І ўсё — з помпай, з літаўрамі. Ягонае імя надаецца бібліятэкам, вучэльням... Але ўсё гэта — знешняе. А ўнутры... Ды пра тое, што ўнутры, каму скажаш, каму пажалішся?.. Калі ўсё знешняе — на зайздрасць.

Дзяды і прадзеды Янкі Купалы, якія адносілі свой род да шляхты канца XVII стагоддзя, затрацілі працьму часу, сілаў і

грошай на тое, каб даказаць свае страчаныя правы на дваранства. А іх нашчадку ў новых варунках амаль праз усё жыццё наканавана было даводзіць адваротнае: *«Я мужык-беларус…»*

У аўтабіяграфіі 1919 года, дасланай Я. Карскаму, Купала піша: *«У душы маёй быў вечна нейкі пякельны разлад»*.

Рэфлексіі і ўзрушэнні Янкі Купалы, паэта рэфлексіяў і ўзрушэнняў, запісанага савецкай уладаю ў акыны, у песняры новага сацыялістычнага будаўніцтва, закладзеныя ў ім з нараджэння. Яны абумовілі падвойнасць ягонага жыцця, знешняга і ўнутранага. Прывіднага і сапраўднага. Ён заўсёды быў не тым, за каго яго прымалі. Дакладней, і яго самога, і іншых змушалі прымаць Купалу не за таго, кім ён быў. А быў ён не толькі Янкам Купалам, але яшчэ і Іванам Луцэвічам, жыццё якога было таямніцай — і мала хто хоць нешта з той таямніцы ведаў, дый мала хто цікавіўся. Хіба што органы, якія прынята называць кампетэнтнымі.

Сур'ёзная ўвага з боку гэтых органаў да Луцэвіча-Купалы выявілася напрыканцы 1925 года, калі Купала, які толькі што стаў народным паэтам, разам з Цішкам Гартным і Міхасём Чаротам быў пасланы за мяжу. Вось што паведамляла пра гэта газета «Савецкая Беларусь» 18 чэрвеня 1925 года:

«Дзеля азнаямлення Заходняй Еўропы з беларускай культурай Сав. Нар. Кам. *(Савет Народных Камісараў)* пастанавіў камандзіраваць за граніцу (у Нямеччыну і на Парыжскую мастацкую выстаўку) членаў Інбелкульта *(Інстытута беларускай культуры)* беларускіх паэтаў тт. Гартнага-Жылуновіча, Янку Купалу і Чарота-Кудзельку.

На паездку названых пісьменнікаў СНК адпусціў з запаснога фонду 900 руб.»

Выехалі яны за мяжу ў канцы верасня — і не разам. Першым *(дзеля азнаямлення з нямецкімі літаратурнымі коламі, як паведамлялася ў друку)* паехаў Цішка Гартны, а ўжо следам — Купала з Чаротам. Не разам яны і назад вярталіся. Дзівосамі Парыжскай мастацкай выстаўкі ніхто з іх не дзівіўся, бо арганізатары паездкі мелі на ўвазе зусім іншае. Цішка Гартны, да якога пад выглядам «дыпламата» далучыўся супрацоўнік «кампетэнтных органаў» Аляксандр Ульянаў, апынуўся ў Берліне, дзе праходзіла ў той час канферэнцыя беларускай эміграцыі, а Купала з Чаротам — у Празе. Пра тое, для чаго яны былі туды накіраваныя, мы даведваемся з паказанняў таго ж А. Ульянава, пазней тымі ж «кампетэнтнымі органамі», з якімі ён супрацоўнічаў, арыштаванага.

«Когда меня послали на работу в Польшу (афіцыйна А. Ульянаў лічыўся прадстаўніком БССР пры прадстаўніцтве

СССР у Варшаве. — *У. Н.*), основной момент был раскол… За границей имелся целый ряд белорусских эмигрантских групп… Эти группы противопоставляли себя Советскому правительству, везде выставляя себя как «представителей народа». Наша задача была обезглавить, обезвредить эти группы. Надо было связаться с этими группами, поставить перед ними вопрос, что, если они явятся, вернутся сюда и будут честно работать, здесь им будет дана амнистия. Это было проделано».

Так, «это было проделано». Угавораныя, падманутыя салодкімі абяцанкамі, вярнуліся з-за мяжы на радзіму і ў хуткім часе патрапілі за краты многія лідэры беларускага эміграцыйнага руху, у тым ліку прэм’ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі ў эміграцыі Аляксандр Цвікевіч. Па «справаздачы» Ульянава, тым самым быў зліквідаваны *(а на самай справе не, бо існуе і сёння)* эміграцыйны ўрад, Рада БНР, і Ульянаў сведкамі ліквідацыі называе Міхася Чарота і Цішку Гартнага, якія «приехали за границу как писатели, и у меня с ними был обед, когда было ликвидировано правительство».

Гэтае «ликвидированное правительство» калі не цалкам, дык напалову складалася з сяброў Купалы… Калі не сяброў, дык знаёмых… Людзей, з якімі ён рукаўся, абдымаўся, выпіваў…

Вось у што ўблыталі Купалу. На канферэнцыі ў Берліне ён не быў, сустракаўся з эмігрантамі ў Празе, дзе выступіў разам з Чаротам на літаратурнай вечарыне. На сустрэчу з ім, як паведамляў з Прагі ў Менск «Саюз студэнтаў — грамадзян БССР у ЧСР», савецкая маладзёвая арганізацыя, «прыйшла амаль уся эміграцыя ўсіх палітычных напрамкаў. Пасля гэтага вечара эміграНты пачувалі сябе, як будта іх выкупалі ў лядовай ванне. Савецкае студэнцтва, будучы маральна падтрыманае песнярамі, з захапленнем пайшло далей па яшчэ раней намечанаму ім шляху».

З той жа місіяй (па задуме арганізатараў замежнай камандзіроўкі беларускіх паэтаў) Купала павінен быў пабываць яшчэ і ў Вільні, аднак польскія ўлады не дазволілі яму там спыніцца, далі толькі транзітную візу.

Нейкі інструктаж перад выездам за мяжу Купала, безумоўна, меў, не турыстам жа ехаў, але наўрад ці «кампетэнтныя органы» ставілі перад ім тыя ж задачы, якія ставіліся перад Ульянавым ці Гартным. Дастаткова было паказаць на ягоным прыкладзе, як хараша быць паэтам у Савецкай Беларусі. І Купала не змог адмовіцца ад такога паказу: за званне народнага паэта, за ўсе прывілеі трэба было плаціць. Інакш яно і не бывае…

Аднак не ўсе спадзяванні, якія ўскладваліся на яго «кампетэнтнымі органамі», Купала апраўдаў. Скажам, няма ніводнага сведчання, каб ён персанальна ўгаворваў некага з лідэраў эміграцыі вярнуцца ў Беларусь. Як гэта рабіла, да прыкладу, ягоная каханая Паўлінка, завербаваная «органамі» Паўліна Мядзёлка, якой лідэр беларускіх эсэраў Тамаш Грыб, так і не ўгавораны ёй на вяртанне, адказваў у лісце з Прагі ў траўні 1926 года: *«Палуша!.. Ты пішаш, каб я зараз жа прыязджаў у Менск. Пішаш: «служба будзе...» Але якая служба, каму? Служыць свайму народу я магу і тут. Праўда, я гэтага не скрываю, тут цяжка жыць... Цярплю сухоўрыцу... Я знаходжу лепшым для сябе памерці тут галоднай смерцю, але ратаваць сваю чалавечую годнасць, чым быць у Менску самазадаволенай свіннёй... Мяне дзівіць, што ты мне прапануеш гэткую ганьбу».*

Сапраўды, не можа не дзівіць, бо хто Тамашу Грыбу такое прапануе?.. Ягоная нядаўняя жонка.

Пра Купалу, з якім зусім нядаўна сустракаўся Тамаш Грыб у Празе, у лісце ні слова. Алё ж намёкі, намёкі… І не цяжка ўявіць, што думалі пра Купалу, слухаючы яго на літаратурнай вечарыне, «выкупаныя ў лядовай ванне» эмігранты.

Вярнуўшыся з замежжа, Купала вясной 1926 года становіцца сябрам Беларускага таварыства культурных сувязей з заграніцай (гэта працяг знешняга жыцця), а летам піша ў Акопах (жыццё ўнутранае) нізку вершаў скразнога болю і скразной віны. Бязлітаснае пытанне «новых пакаленняў» задае ён у вершы «І прыйдзе…» усім сваім сучаснікам — і найперш сабе самому: *«Ці аб свой гонар дбайна дбалі, / І дабравольна, без прынук, / Самі сабой не гандлявалі, / Не неслі ў петлі дум і рук?»* — а ў вершы «За ўсё…» робіць адчайную спробу апраўдацца:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.
Змагаўшыся з напасцяй
За шчасце для людзей,
Не раз пісаў ў няшчасці
Крывёй з сваіх грудзей.
Уносіў гэтым долю
Сваю для ўсіх дабра.
А болей… што ж там болей
Жадаць ад песняра?..

Але жадалі, патрабавалі болей… Пад восень 1927 года Купала зноў выпраўляецца ў Чэхаславакію, дзе разам з Гартным і Чаротам (да якіх далучаны гэтым разам Міхась Зарэцкі) ён зноў «цёпла сустрэты навуковай і літаратурнай грамадскасцю ў Празе». А па дарозе назад палякі, як і восенню 1925 года, не даюць яму візы, каб ён наведаў Вільню…

У другі раз згадзіцца праехаць тым жа шляхам, наступіць, як кажуць, на тыя ж граблі мог толькі надламаны чалавек… Пра стан надлому, з якога ад 1926 года і па скон жыцця Купала так і не выкараскаўся, можна меркаваць па паказаннях Паўліны Мядзёлкі, якія дала яна «кампетэнтным органам» 21 ліпеня 1930 года: *«1925–26 гг. Купала еще переживал славу 20-летнего юбилея, звание народного поэта, был доволен собой и всеми, много пил. По своей натуре он человек замкнутый. Если чем недоволен, если душа болит, он настолько замыкается в себе, что целыми неделями ни слова одного не проронит, даже с женой. В прежние годы, помню, после такого гробового молчания всегда рождалось какое-нибудь сильное стихотворение. Так все и знали — смолк Купала — будет новое произведение. Но теперь такое молчание бывает длительнее, но бесплоднее. Теперь такое молчание кончается запоем, желанием покончить с собой — застрелиться. Я понимала, его мучает его бесплодность последних лет, что он не может ничего нового создать».*

Так, надламаны Купала замаўкае… У 1930 годзе ён выдае зборнік сваіх дарэвалюцыйных паэмаў са шматзначнай назвай «За што?» — і 15 лістапада 1930 года, пад вечар у суботу, яго выклікаюць на першы допыт у ДПУ.

Чаму ў суботу?.. Да панядзелка не маглі пачакаць?.. Не маглі, таму што якраз у той суботні дзень быў надрукаваны ў газеце «Праўда» артыкул Максіма Горкага «Если враг не сдается — его уничтожают», у якім буравеснік рэвалюцыі прамаўляў, здавалася, вуснамі самога таварыша Сталіна: «Внутри страны против нас хитрейшие враги… Против нас все, что отжило свои сроки, отведенные ему историей, и это дает нам право считать себя все еще в состоянии гражданской войны. Отсюда следует естественный вывод: если враг не сдается — его истребляют».

Усе разумелі, што не Горкі, разамлелы пад паўднёвым сонцам на востраве Капры, гэта напісаў — і рэагаваць трэба было не марудзячы, бо ў такіх справах не бывае *рана,* бывае толькі *позна.* Тым больш у той спешнай справе, пра якую менш чым праз два месяцы (7 студзеня 1931 г.) ужо дакладваецца ў сакрэтнай запісцы сакратара ЦК КП(б) Беларусі К. Гея ў Палітбюро ЦК ВКП(б):

«Следствие по делу «Саюза вызвалення Беларусі» подходит к концу. Согласно постановлению ПБ ЦК ВКП от 15.Х.30 г. должен быть разрешен вопрос о дальнейшем направлении дела. Мы высказываемся за то, чтобы не создавать процесса, направив это дело по линии ОГПУ».

У выкліканага на допыт Купалы адразу пытаюцца пра тое, чым займаліся, прыходзячы да яго ў госці, ужо выкрытыя ворагі народа, і Купала адказвае: «Гулялі ў карты… у шахматы, пілі, закусвалі, да таго ж, як многія ведаюць, я сам час ад часу люблю выпіць», — аднак у дурня згуляць яму не далі, гульня была сур'ёзная. Настолькі сур'ёзная, што Купала не вытрымлівае — і ўраніцы 20 лістапада ўзразае сабе жывот. Хтосьці сцвярджае, што паляўнічым нажом, хтосьці — што сцізоркам, нібы такое вымяраецца даўжынёй нажа.

Але ж вымяралі… І расцэньвалі спробу самазабойства як няўдалы фарс, прыдуманы Купалам толькі для таго, каб тэатральнай, так бы мовіць, крывёй падпісацца пад нібыта прадсмяротным лістом да Старшыні ЦВК СССР і БССР таварыша Чарвякова: *«Яшчэ раз, перад смерцю, заяўляю, што я ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць. Ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся. Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі. Я ўміраю за Савецкую Беларусь, а не за якую іншую… Шчыра дзякую за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі партыя і Сав. улада. Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў…»*

Хоць Купала і шчыра дзякуе таварышу Чарвякову *за ўсё добрае,* няма ў гэтым лісце ніякай шчырасці, што відавочна было для ўсіх «кампетэнтных органаў». Вось што пісаў наконт гэтага сакратар ЦК КП(б) Беларусі К. Гей сакратару ЦК ВКП(б) П. Постышаву:

«Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября утром покушался на самоубийство Янка КУПАЛА — народный поэт Белоруссии. Покушение было несерьезным (прабітая пячонка — гэта несур'ёзна? — *У. Н.*). Купала ударил себя перочинным ножом в правый бок, жизнь его вне опасности, и если не будет сепсиса, или других осложнений, то дней через пять он будет здоров.

Янка Купала входил в руководящий центр «Союз освобождения Беларуси», как о том свидетельствуют показания Лёсика, Некрашевича и других. Янка Купала являлся идейным центром

нац.-демовской контрреволюции, что нашло отражение в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими у него имеются стихотворения и кулацкого, и прямо контрреволюционного содержания.

Приглашенный для переговоров в ГПУ, Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти навстречу нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ (Саюза вызвалення Беларусі. — *У. Н.*).

Незадолго до 20 ноября он начал обнаруживать признаки некоторого колебания, что, впрочем, не нашло отражения в его «предсмертном» (если так можно выразиться) письме.

Письмо это адресовано на имя тов. Червякова. Оно содержит утверждение, что он не состоял в контрреволюционной организации; затем Купала пытается оправдать свое стихотворение, восхваляющее Пилсудского, и просит позаботиться о его семье.

Все это происшествие рассматривается нами как протест против нашей политики борьбы с национал-демократизмом. Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в Союзе вызволения Белоруссии и сосредоточить свои силы на требовании выступить с открытым осуждением контрреволюционной деятельности группы белорусских интеллигентов, арестованных по делу СВБ. Думаю, что нам это удастся».

І спробу самазабойства, і ліст да Чарвякова сакратар ЦК расцэньвае не інакш, як «протест против нашей политики борьбы с национал-демократизмом». Таму, «сосредоточив силы», ад Купалы дабіваюцца публічнага пакаяння: ліста, надрукаванага ў газеце «Звязда» 14 снежня 1930 года. У гэтым лісце Купала грэшны ўжо не ў тым, што ў карты гуляў, у шахматы, што выпіваў і закусваў. Ён «шчыра» прызнаецца ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, у сваёй ідэйна-натхняючай ролі ў беларускім нацыянальна-дэмакратычным руху. З удзячнасцю прызнае: «Камуністычная партыя і Савецкая ўлада даравалі мне гэтыя грубыя нацыянал-дэмакратычныя памылкі ў маёй творчасці, і за мае ранейшыя заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасць народнага паэта. І ў апошнія гады я ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасцю да вялікага сацыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне… Але ўсё ж такі ў гэтым напрамку я зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасці, якія мне давалі партыя і Савецкая ўлада.

Балюча і цяжка ўсведамляць мне сёння, што… утапаючы ў пратухлым балоце акружаючых мяне контррэвалюцыйных і нацыянал-дэмакратычных «дзеячаў»… я так слепа, так упарта на працягу раду год ідэалагічнымі памылкамі ў сваёй творчасці, папулярнасцю і аўтарытэтам, як народны паэта, не дапамагаў сваёй адданасцю і захапленнем ажыццяўленню заветных летуценняў чалавецтва, ажыццяўленню сацыялізму.

Але гэты чад, як сон кашмарны, мінуў. Сёння, пранікнуты яснай свядомасцю, я рашуча і раз назаўсёды… парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам… Няхай жыве культура, змест і форма якой выпісаны на ленінскім сцягу найвялікшым сучасным правадыром пралетарыяту т. Сталіным!.. Няхай жыве Камуністычны Інтэрнацыянал… Няхай жыве Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка… Няхай жыве СССР…»

Нават зрабіўшы ўсе папраўкі (на той час, на той страх, на тагачасную стылістыку), немагчыма ўявіць, што гэты ліст напісаў сам Купала. Але ён яго падпісаў — і тым самым зратаваўся. Адклаў сваю фізічную смерць на 12 гадоў, праз якія пранясе толькі спусташальную адзіноту, толькі адчай, выказаны аднойчы (1938) у размове з К. Чорным: «Я хутка памру, так і не пабачыўшы той Беларусі, пра якую марыў усё жыццё».

Праз чатыры гады сказанае спраўдзілася…

Ёсць ускосныя сведчанні, што пакаянны купалаўскі ліст (па ўзгадненні з ДПУ) напісаў вядомы літаратурны крытык Лукаш Бэндэ — і напісаў сапраўды для таго, каб дапамагчы Купалу ўратавацца. Зрэшты, не выключаю, што мог і сам Купала напісаць… Ад 1926 года ён рабіў амаль усё, што ад яго патрабавалі. Вышэйзгаданы А. Ульянаў на допыце ў ДПУ паказвае: «Я заставил написать Купало два стихотворения, и когда у меня сидели Славинский и Василевич, я принес стихотворения, они прочли и указали мне на неправильную формулировку. Я <u>вызвал</u> Купалу, и он <u>переделал</u>» (падкрэслена мной. — *У. Н.*).

Такое вось творчае супрацоўніцтва…

Лісту Янкі Купалы папярэднічаў надрукаваны 3 снежня ў той жа газеце «Звязда» ліст Якуба Коласа «Супраць «адраджэнцаў» буржуазнай Беларусі» — таксама пакаянны… Ім абодвум як давалі ўсяго пароўну — так пароўну змушалі за ўсё плаціць.

Новыя хмары над імі (як і над многімі іншымі, яшчэ не знішчанымі, беларускімі пісьменнікамі) згусціліся ў канцы 30-ых. Восенню 1938 года на стол П. Панамарэнкі, тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі, лёг дакумент, які называўся «Об имеющихся компрометирующих материалах

на членов Союза советских писателей БССР» і ўяўляў сабой менавіта тое, што вынікала з ягонай назвы: спіс беларускіх пісьменнікаў з палітычным кампраматам на іх. Першымі ў спісе стаялі імёны Янкі Купалы, названага *«одним из лидеров нацдемовского движения в Белоруссии»*, і Якуба Коласа, які таксама кампраметаваўся як *«один из лидеров нацдемовского движения в Белоруссии»*, а да таго ж *«закадычный друг Янки Купалы»*.

З'яўленню гэтага дакумента, падпісанага Народным камісарам унутраных спраў БССР маёрам Дзяржаўнай бяспекі Наседкіным, папярэднічаў XVII з'езд КП(б) Беларусі, на якім быў прыняты зварот да таварыша Сталіна — і ў тым звароце наўпрост казалася: *«Мы понимаем, что и после разгрома осиных гнезд врагов народа еще остались их презренные последыши. Мы заверяем Вас, товарищ Сталин, что и впредь будем беспощадно разоблачать и уничтожать врагов народа, предателей, какой бы личиной они ни прикрывались, в какие бы щели они ни забирались, ликвидируя в самый короткий срок...»*

Небяспека ўзнікала сур'ёзная… Можа, гэткая сур'ёзная, як ніколі раней.

Існуе (створаная, дарэчы, не без руплівага ўдзелу саміх жа беларускіх пісьменнікаў) легенда пра тое, нібы ад арышту і ліквідацыі *«в самый короткий срок»* зратаваў Купалу (як і Коласа) не хто іншы, як прывезены з Масквы на пасаду першага сакратара беларускага партыйнага ЦК Панцеляймон Панамарэнка, які якраз пасля XVII з'езда КП(б) Беларусі гэтым самым першым сакратаром і стаў. Паводле легенды, ужо падпісаны былі ордэры на арышт і Купалы, і Коласа, і яшчэ амаль двух дзесяткаў беларускіх пісьменнікаў, але Панамарэнка кінуўся ў Маскву да Сталіна, угаварыў яго памяняць ордэры на ордэны — і ў студзені 1939 года Купала з Коласам (а разам з імі З. Бядуля, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, П. Броўка і П. Глебка) са спісу ворагаў пераносяцца ў спіс герояў: становяцца ардэнаносцамі… У прадстаўленні на ўзнагароды, дасланым Сталіну 26 снежня 1938 года, П. Панамарэнка называе Купалу (імя якога як адкрывала спіс ворагаў, так адкрывае і спіс герояў) *«классиком белорусской литературы, создавшим за годы Советской власти ряд замечательных советских произведений»*. Класікам беларускай літаратуры называецца і Якуб Колас, *«в ярких художественных образах показавший борьбу белорусского народа против белопольских оккупантов»*.

Аповеды пра прыязныя, ці ва ўсякім разе пра нейкія асаблівыя, адносіны Панцеляймона Панамарэнкі да літаратараў (дый

наогул да дзеячаў культуры) мне даводзілася чуць не толькі ад тых людзей, якія былі да яго набліжаныя (скажам, ад народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай), але ад людзей аддаленых (прычым аддаленых ва ўсіх сэнсах, як, напрыклад, паэт Сяргей Іванавіч Грахоўскі, які дваццаць гадоў прабыў у лагерах). Аднак, апроч аповедаў, ёсць дакументы — і вось адзін з іх: ліст Панамарэнкі да Сталіна, напісаны 21 лістапада 1938 года, а значыць, усяго за два месяцы да таго, як ордэры былі замененыя на ордэны (тут трэба заўважыць, што Сталін да Панамарэнкі ставіўся больш чым прыязна, іх звязвалі даўнія адносіны, некалі разам яны былі на фронце пад Царыцынам, так што прапанова не пасадзіць Купалу, а ўзнагародзіць, магла быць насамрэч выказаная і Сталін — па палітычнай мэтазгоднасці — мог яе пачуць).

*«В отношении Янки Купалы, Якуба Колоса, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки», узурпировавшей представительство от белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.*

*По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы, они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Колоса уже давно, но санкция пока не дана.*

*Их нужно или арестовать, или, учитывая обстановку, принять, поговорить открыто, показать, что нам известны все их «ошибки», если это допустимо так называть, сказать, что они могут искупить свою вину перед Советской властью, призвать их к честной работе, посмотреть, как они будут реагировать, и если в какой-либо мере пойдут на это, то использовать это в целях разложения группы, отрыва наиболее честного и ликвидации остатков нацдемовщины».*

Зрабіць з гэтага ліста выснову пра прыязныя адносіны сакратара партыйнага ЦК да беларускіх літаратараў пры ўсім жаданні цяжкавата, а вось тое, што адносіны былі *асаблівымі* — відавочна. Хоць, канешне, з улікам тагачасных рэаліяў, фразу: «*Их нужно* ***или*** *арестовать,* ***или****, учитывая обстановку, принять, поговорить...*» — можна расцаніць і як спробу заступ-

ства. Толькі зратавала Купалу з Коласам зусім не «заступства» Панамарэнкі, а тое, што Сталіну пад той час неабходна было, па-першае, паказаць паслабленне рэпрэсіяў, хоць неяк затушаваць перад чарговым (XVIII) з'ездам партыі жудасны 1937 год, а па-другое, па ягонай змове з Гітлерам рыхтаваўся ўжо аншлюс Заходняй Беларусі, далучэнне яе да БССР, дык нельга ж было аб'ядноўваць заходнікаў адно з расстралянымі і закратаванымі ўсходнікамі — патрэбны быў на ўсходзе хоць нехта жывы… Таму і мяняецца ордэр на арышт на ордэн Леніна, а праз два гады, за тры месяцы да пачатку вайны, да ордэна дадаецца яшчэ і Сталінская прэмія. Драматычная развязка ў лёсе Купалы зноў адкладваецца — на гэты раз да лета 1942 года.

Другая сусветная (Вялікая Айчынная) вайна, як, дарэчы, і Першая сусветная, застала Купалу ў Літве, толькі гэтым разам не ў Вільні, а ў Каўнасе, дзе 22 чэрвеня 1941 года ён спыніўся па дарозе з Рыгі, вяртаючыся са з'езда пісьменнікаў савецкай Латвіі. Цягніком, які ўжо бамбілі, Купала паспеў даехаць да Менска, забраў жонку і на машыне, завітаўшы па дарозе на сваё лецішча ў Ляўкі, з цяжкасцямі дабраўся ў пачатку ліпеня да Масквы. У сярэдзіне кастрычніка яму прапануюць выехаць у Ташкент, але ён адмаўляецца, каб дапамагчы выбрацца ў эвакуацыю свайму даўняму сябру Барысу Емяльянаву. *«Прошу вместо меня и моей жены,* — піша службовую запіску Купала, — *эвакуировать с эшелоном писателя Емельянова Б. А. Его сестра, член ССП, едет с этим же эшелоном».* Гэта, трэба сказаць, быў жэст, які ў той час зрабіў бы далёка не кожны, — Масква была ўжо амаль прыфрантавым горадам… Пад канец кастрычніка Купала выпраўляецца ў эвакуацыю пад Казань, дзе жыве больш за паўгода, пакуль не атрымлівае ўрадавую тэлеграму.

Вось яна.

«Правительственная.

Казань, Верхний Услон, Печищи, мельзавод.

Народному поэту Белоруссии Янке Купале.

Прошу Вас выехать Москву Совнарком БССР, выезд телеграфьте.

Председатель Совнаркома Белоруссии Былинский.

4 июня 1942 г.»

Набліжаўся 60-гадовы юбілей Купалы, які ён не надта хацеў святкаваць. Маці, амаль уся радня ягоная ў акупаванай Беларусі — не да юбілеяў. Дый з боку ўрада не чуваць ніякіх юбілейных прапановаў, хутчэй наадварот… 14 красавіка 1942 года на пасяджэнні ЦК КП(б)Б прымаецца рашэнне «Аб

правядзенні 60-гадовага юбілею народнага паэта Беларусі Якуба Коласа». Святкаванне прызначаецца на лістапад, ствараецца юбілейная камісія на чале з сакратаром ЦК Ц. Гарбуновым, у якую разам са старшынёй Саюза пісьменнікаў М. Лыньковым уваходзіць і Янка Купала. Але ж купалаўскае 60-годдзе раней за коласаўскае, не ўвосень, а летам, — дык дзе ж пра юбілей Купалы якое-небудзь рашэнне? Ці пастанова? Няма… І не будзе ні рашэнняў ніякіх, ні пастановаў. Значыць, святкаваць не збіраліся. Таму не зусім зразумела, для чаго той жа Ц. Гарбуноў, які быў яшчэ і адным з кіраўнікоў Усеславянскага камітэта, і адказным сакратаром рэдакцыі часопіса «Славяне», раптам пытае ў лісце да Купалы, напісаным у самым канцы траўня, роўна за месяц да трагічнага дня 28 чэрвеня: *«Ці знойдзеце Вы магчымым па стану здароўя прыехаць у Маскву ў сярэдзіне чэрвеня дзён на 10–15?»*

У гэтым лісце, як праз тыдзень і ў тэлеграме, ні пра якія святкаванні ані слова, але якая яшчэ магла быць прычына такога тэрміновага выкліку?.. Апроч юбілею, здавалася, ніякай. Калі Гарбуноў, задаючы пытанне: *«Ці знойдзеце вы магчымым прыехаць у Маскву?..»* — мае намер запрасіць Купалу на кангрэс Усеславянскага камітэта (на які Купала нібыта і прыехаў), дык зноў жа, чаму пра гэта нічога не сказана ні ў тэлеграме, ні ў дакументах, з якімі Купала *«действительно командируется Верховным Советом БССР в г. Москву с обратным возвращением в Казань...»*?

Як бы там ні было, Купала збіраецца ехаць і, калі ўжо едзе на юбілей, пытае дазволу на тое, каб узяць з сабой жонку. Зусім нечакана для яго (як успамінае пляменніца Купалы) дазволу на тое не даюць. Катэгарычна адказваюць: «Не. Вас выклікаюць аднаго». І ў спадарожніцы яму замест жонкі выпраўляюць старшыню Вярхоўнага Савета БССР Н. Грэкаву, на імя якой у Казанскі гарком партыі прыходзіць тэлеграма за подпісам таго ж Былінскага: *«Выезжайте вместе народным поэтом Белоруссии Янка Купала Москву»*.

Для чаго?.. Для ўдзелу ў кангрэсе Усеславянскага камітэта?.. *«Вместе народным поэтом Белоруссии Янка Купала?..»* Як сабе хочаце, але па змесце, па гучанні тэлеграмы не выглядае на тое…

Купала разгублены, ён і ўявіць не мог, каб адмовілі ў просьбе паехаць разам з жонкай. На юбілей, на свята… Хоць у 1932 годзе святкаваць юбілей ягоны таксама не надта хацелі, але тут нешта не тое, нешта іншае… І гэтае *нешта* не магло не насцярожыць чалавека з такой інтуіцыяй, як у Купалы. Да таго ж для

насцярогі мелася яшчэ адна прычына, значна больш істотная, чым адмова ў тым, каб ён паехаў у Маскву разам з Уладзіславай Францаўнай…

У лютым 1942 года Бюро ЦК КП(б)Б прымае пастанову аб скліканні ў Казані чарговай сесіі Беларускай акадэміі навук. З дакладам на сесіі даручаецца выступіць Янку Купалу. Тэма даклада не абы-якая: «Беларуская інтэлігенцыя ў дні Айчыннай вайны». Матэрыялы для даклада высылае ў Казань Ц. Гарбуноў. І вось што павінен быў прамовіць Янка Купала на той сесіі 12 сакавіка:

«Але яны (немцы. — *У. Н.*)*,* гэтыя крывавыя дзяблы, яшчэ прабуюць прыкідвацца нявіннымі авечкамі і спекуляваць сумленнымі і чыстымі імёнамі! Кажуць нават, што яны вуліцу, па якой я жыў у Мінску, назвалі маім імем. Таксама, бачыце, «паважаюць» пісьменніка. Але будзьце вы пракляты, крывавыя вырадкі, — за такую павагу! Спачатку вы паслалі сотні самалётаў. Спалілі гэтую вуліцу дашчэнту, кінулі дзесяткі бомбаў на мой дом. Спалілі яго разам з маімі рукапісамі — а цяпер вы прыкідваецеся прыхільнікамі культуры. Такой надругі над культурай свет яшчэ не бачыў. І я, сумленны савецкі пісьменнік, плюю ў ваша агіднае крывавае фашысцкае рыла і ўсім сэрцам сваім жадаю пагібелі вам, катам беларускага народа, катам беларускай культуры».

Мяркую, што толькі дзеля выступлення Купалы, ці нават толькі дзеля прыведзенага абзаца з гэтага выступлення, і была прыдуманая ў Казані ўся сесія Беларускай акадэміі навук. Зразумела, каб на ягоным прыкладзе і ўсім астатнім паказаць, што такое інтэлігенцыя ў час вайны… Зноў Купала, як і ў сваіх «пакаяннях» 30-ых гадоў, мусіць апраўдвацца ў тым, у чым не вінаваты… Калі ж яно ўсё скончыцца? Падобна, што ніколі. А раз так...

Купала выкрэслівае з даклада ўвесь прыведзены абзац*.

Выкрасліць не тое што абзац, а хоць бы слова з таго, што напісана ў партыйным ЦК, нават у брэжнеўскія часы было б небяспечна, а ўжо ў часы сталінскія…

18 чэрвеня Купала прыязджае з Казані ў Маскву — і праз дзесяць дзён урадавую тэлеграму атрымлівае ў Ташкенце Якуб Колас:

---

* Пра тое, што і абзац выкраслены, і праўкі ў даклад унесены рукой Купалы, сведчыць заключэнне, зробленае ў Навукова-даследчым інстытуце праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовай экспертызы Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

«Правительственная.

Ташкент. Союз писателей. Коласу Якубу.

Извещаем смерти нашего любимого Янки Купалы…

Зампредсовнаркома Крупеня. 29 июня 1942».

Прыехаць на купалаўскі юбілей ні за дзесяць дзён да таго, ні раней Якубу Коласу не прапаноўвалі, і гэта таксама *нешта* азначае. Зразумела, не блізкая дарога да Масквы з Ташкента, аднак жа пазней прыехаць у Маскву на сход беларускай інтэлігенцыі яму прапанавалі. І я не думаю, што (як пішуць у даведніках) не паехаў ён на той сход, бо не меў цёплага адзення…

Колас падаўлены, разгублены, яму трывожна. Быў ён тры месяцы таму на сесіі Акадэміі навук у Казані, сам выступаў і чуў выступленне Купалы… І Колас піша з Ташкента ў лісце да І. Крупені: «Вы далі мне тэлеграму, цяжкую, балючую: паведамілі аб смерці Янкі Купалы… Паведаміце, калі ласка, што здарылася з Янкам, пры якіх абставінах ён памёр? У мяне астаецца такое перакананне, што з ім прыключылася раптоўная бяда» (падкрэслена мной. — *У. Н.*).

У афіцыйным паведамленні, надрукаваным 30 чэрвеня ў газеце «Известия» і 2 ліпеня ў газеце «Савецкая Беларусь», пра сапраўдныя абставіны смерці Янкі Купалы, зразумела, ні слова. А вось што дакладвалася пра гэтыя абставіны 29 чэрвеня ў аператыўным данясенні (*Спецсообщении,* як яно называецца) на імя наркама ўнутраных спраў СССР Л. Берыі (з копіямі Сталіну і Молатаву).

*«28 июня в 22 часа 30 минут в гостинице «Москва» упал в лестничную клетку и разбился насмерть поэт Белоруссии Луцкевич Иван Доминикович».*

Што *спецсообщается* пра Янку Купалу — зразумела. Толькі чаму ён *Луцкевіч*, а не Луцэвіч? Памыліліся? У данясенні на імя Берыі з копіяй Сталіну?.. Хіба ў Купалы, Івана Дамінікавіча Луцэвіча, не было пашпарта, пасведчання? Калі не ў кішэнях, дык у нумары, які адчынілі якраз для таго, каб пaглядзець рэчы і дакументы. Ёсць жа (праўда, трохі пазнейшы, не ў той дзень зроблены ) вопіс гэтых рэчаў і дакументаў. У ім пад № 20 апісаны нават *пачак запалак, 1 шт.,* а *пасведчанняў розных* (апрача пашпарта № І НУ 580393) ажно *4 шт.* — ды яшчэ дэпутацкі і пісьменніцкі білеты. Дык не глядзелі?.. І без таго неяк ведалі, што *Луцкевіч?..* Прычым настолькі ведалі, што менавіта так, *Луцкевіч,* напісалі прозвішча не аднойчы, што яшчэ можна было б лічыць памылкай, а праз усё данясенне: *Луцкевіч, Луцкевіч, Луцкевіч…*

Заўважым гэта — і вернемся да выкрасленага абзаца з даклада Купалы, дзе ён павінен быў апраўдвацца ў тым, што немцы ў Менску назвалі вуліцу ягоным іменем.

Вуліца імя Янкі Купалы павінна была з'явіцца ў Менску яшчэ да вайны: вясной 1941 года прапаноўвалася ў гонар паэта перайменаваць вуліцу Садовую. Аднак Панцеляймон Панамарэнка, «абаронца і заступнік» Янкі Купалы, асабіста выкрасліў тую «прапанову працоўных» з праекта партыйнай пастановы. Чырвоным алоўкам. А ўжо восенню, усяго праз паўгода, вуліцы і плошчы ў Менску пераймяноўваюцца немцамі. Пастановы (загады) падпісвае цяпер не сакратар ЦК Панамарэнка, а начальнік Менскай палявой камендатуры Шлегельхофер — і вуліцу Кастрычніцкую, на якой жыў Купала, называюць вуліцай імя Івана Луцкевіча. Не Івана Луцэвіча, паэта Янкі Купалы, а Івана *Луцкевіча*, аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэння, заснавальніка Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, археолага і этнографа, памерлага ў 1919 годзе.

Зноў падвойны знак?.. Фатальнасць?.. Блытаніна?.. Як з іменем Купалавай маці, замест Бянігны запісанай Багумілай у метрычнай кнізе Радашковіцкага касцёла? Як шмат з чым іншым?.. Што ж, можа быць, бо чаго-чаго, а і фатальнасці, і падвойнасці, і блытаніны ў жыцці Купалы хапала. Дык хіба дзіва, што ў данясенні пра ягоную смерць данеслі па сутнасці пра смерць іншага чалавека?.. Пра смерць таго, *чыім іменем названая немцамі вуліца ў Менску.*

Але чытаем аператыўнае данясенне *(спецсообщение)* далей.

*«Предварительным выяснением обстановки падения никаких данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве, не установлено* (гэткая фармулёўка: «не тое, не сёе, а немаведама што», — пры данясенні на самы верх выглядае даволі дзіўнай, бо, як мінімум, не выключае грознага пытання зверху: *«Что же вы выясняли вашим предварительным выяснением?»* — ды падобна на тое, што ніхто не чакаў і не асцерагаўся ніякіх грозных пытанняў, нібы там, куды пра гэта дакладвалася, загадзя ўсё вядома).

*Происшествию предшествовали следующие обстоятельства:*

*Примерно в 21 час Луцкевич был приглашен в комнату 1034 (десятый этаж той же гостиницы) к проживающему там председателю Союза советских писателей Белоруссии Лынькову, где присутствовал там же писатель Крапива, редактор*

*газеты «Красноармейская правда» Миронов, сотрудник этой же газеты Карханов и зав. отделом редакции «Известия» Войтинская. Луцкевич пришел в нетрезвом виде и с присутствующими еще выпил несколько стопок шампанского.*

*Примерно в 22 часа Войтинская и Крапива из номера ушли, и минут через 10 после них вышел Луцкевич.*

*Момент и обстоятельства падения Луцкевича никто не видел. Можно предполагать, что упал он с 9-го этажа, так как начиная с седьмого этажа в лестничной клетке обнаружены отдельные капли крови.*

*При осмотре комнаты, занимаемой Луцкевичем, обнаружены около стола две бутылки из-под шампанского и не убранная со стола посуда с запахом вина* (агледзеўшы пакой, не знайшлі анічога, апроч слядоў папойкі, якая роўненька кладзецца ў нібы загадзя падрыхтаваную версію: напіўся — і зваліўся). *Других данных, связанных с происшествием, не обнаружено.*

*Следствие ведет Военный Прокурор гор. Москвы.*

*Начальник 3 Управления НКВД СССР (Горлинский).*

*№ 3/3/6661.*

Апроч блытаніны (як наўмысна наблытанай) з прозвішчам Купалы, *насильственной смерти или самоубийства которого не установлено*, яшчэ шмат чаго, што напісана ў гэтым дакуменце, не супадае са сведчаннямі многіх і многіх людзей. Да прыкладу, ва ўспамінах П. Глебкі, знятых з магнітафоннай стужкі Б. Сачанкам, Глебка распавядае, як ён гадзін пад дзесяць вечара зайшоў у нумар да М. Лынькова, дзе праз колькі хвілін зазваніў тэлефон. Узяўшы трубку і перадаўшы яе Купалу, Лынькоў папрасіў усіх гасцей выйсці на балкон, бо званіў *нехта* такі, з кім размову Купалы нікому не трэба было чуць. Пагаварыўшы, Купала адразу пайшоў з нумара, быццам некуды тэрмінова пакліканы…

Па ўскосных сведчаннях (ёсць яны і ў кнізе Б. Сачанкі «Мне сняцца сны аб Беларусі…»), у нумар Лынькова званіў Купалу ў той вечар Ц. Гарбуноў. Да сакратара ЦК па ідэалогіі (а ў гатэлі «Масква» мясцілася кіраўніцтва Цэнтральнага штаба партызанскага руху, беларускі ўрад і партыйны апарат) Купала, канешне, мог заспяшацца — хоць цвярозы, хоць нападпітку… Але ж П. Глебка сярод гасцей 1034-га нумара ў аператыўным данясенні не называецца. Ён што: схаваўся на балконе і яго не знайшлі? Ці ў пачатку 60-ых гадоў, якімі датуюцца ўспаміны Глебкі, пацягнула Пятра Фёдаравіча на фантазіі, навыдумляў ён нешта — і ў нумары Лынькова яго не было? І не было ніякага тэлефоннага званка?.. Аднак і пра прысутнасць П. Глебкі, і пра

тэлефонны званок сведчыць Соф'я Захараўна Каспіц, жонка М. Лынькова. Толькі яна сцвярджае, што званок быў не ад Ц. Гарбунова, а званіла літоўская партызанка Ірэна. Не выключаю, што Купала мог заспяшацца як да партыйнага сакратара, так і да партызанкі Ірэны, але навошта тады Лынькоў выпраўляў усіх гасцей на балкон?.. Пра што такое мог гаварыць Купала з партызанкай Ірэнай, чаго не трэба было чуць усім астатнім? І наогул, чаму ніводны з іх, ні М. Лынькоў, ні П. Глебка, ні П. Броўка, ні К. Крапіва, ніхто з тых, хто мог падрабязна напісаць пра апошнія дні і гадзіны Купалы, *н і ч о г а* не напісаў? Ім забаранілі — і яны баяліся?.. Калі нават (ёсць і такія сведчанні) з іх узялі падпіску, што яны будуць маўчаць, як маглі яны *не напісаць*? У стол, на будучыню — яны ж літаратары… Ці ў такіх выпадках *штосьці* пераважае над схільнасцю да прыгожага пісьменства, асабліва дакументальнага?..

Спадзяюся, хоць нешта, напісанае кімсьці з іх пра смерць Янкі Купалы, яшчэ знойдзецца. Калі ж не імі напісанае, дык некім…

Што ж адбылося пасля таго, як зачыніў за сабой Купала дзверы нумара 1034?.. Сведчанняў пра тое не шмат, але яны ёсць. І сведчанні гэтыя, калі сабраць іх разам, хоць і супярэчлівыя, ды ўсё ж нельга сказаць, што ні ў чым паміж сабой не падобныя. Прынамсі, амаль ва ўсіх іх побач з Купалам прысутнічае ці на калідоры, ці на лесвічнай пляцоўцы маладая жанчына. Яна альбо адна (як пра тое распавядаў украінскі паэт Пятро Панч), альбо на пару з маладым чалавекам (як сведчыў архітэктар Г. Заборскі). Ну, гэта і не маглі быць людзі ў форме пры пісталетах, ці нават проста «берыеўцы ў кепках», якіх убачыў, калі яны выбягалі з гатэля «Масква», паэт Анатоль Астрэйка. Між іншым, распавядаў Астрэйка яшчэ і пра тое, як яго ледзьве не збіла з ног, выбягаючы з гатэля, маладая жанчына — і называў яе імя… Але не імя Паўліны Мядзёлкі, хоць існавала (наўмысна, мяркую, прыдуманая) і такая версія. Не абмінуў, зачапіў яе ў свой час (праўда, у іншай інтэрпрэтацыі) нават такі бліскучы даследчык жыцця і творчасці Янкі Купалы, як Георгій Колас. Калі ў рэдакцыі часопіса «Крыніца» рыхтавалася ягоная публікацыя «Як *берaглі* Купалу Чарвякоў і Галадзед?», ён даводзіў мне, што хоць Купала і быў для кампетэнтных, найперш партыйных органаў, як костка ў горле, але яго ўсё ж *наўрад ці маглі забіць, бо не было за што.* Маўляў, усё, што ад яго патрабавалі, ён спраўна выконваў, напісаў усе тэксты, усе звароты да народа *(дарэчы, пісаў тыя тэксты ў*

*Цэнтральным штабе партызанскага руху не Купала, а Кузьма Чорны),* верш «Партызаны, партызаны, беларускія сыны…» — дык чым жа ён мог замінаць? Георгій Колас прытрымліваўся тады самазабойчай версіі, выводзячы яе як са схільнасці Купалы да суіцыдных жэстаў, так і з даўніх адносінаў ягоных (якія з 1926 года сталі ўжо і адносінамі з «кампетэнтнымі органамі») з Паўлінай Мядзёлкай — ледзьве не ведзьмай, як лічыў Георгій Колас, што праляцела над купалаўскім лёсам. А калі я пытаўся ў яго: «А як жа быць з вершамі «Для Яе» са зборніка «Шляхам жыцця», з радкамі накшталт: *«Гэткі ў сэрцы сваім збудаваў ёй пасад / І такую ўзлажыў ёй з кахання карону, — / Як і неба з зямлёю, на Божы загад, / Не прыдбаюць такіх ні кароны, ні трону!»* — Георгій Данілавіч ускокваў: «Пры чым тут вершы? Жарсць падпірала, дык і пісаў! А дзе яна была ўвечары, калі яго не стала?..»

Не выключана, што ў гатэлі «Масква».

Яўген Мазалькоў (рэдактар кніг Купалы ў перакладзе на рускую мову) згадвае ў сваіх успамінах, як гасцяваў у Купалы (у 414-ым нумары гатэля «Масква») гадзіны за тры да Купалавай смерці. *«Перед нами на столике,* — піша ён, — *лежала большая коробка шоколадных конфет».*

Больш ні пра якія пачастункі ва ўспамінах ні слова. А пра выпіўку Купала кажа Мазалькову: «Праз тыдзень мне 60 — тады і пасядзім як след». Што азначае: тады і вып’ем, а зараз ты з’еў бы цукерку ды ішоў адсюль з усімі сваімі перакладамі…

Купала некага чакаў, Мазалькоў замінаў яму.

Мазалькоў пайшоў. Праз нейкі час (праз тры гадзіны) Купала, падняўшыся з чацвёртага на дзесяты паверх, злятае ў лесвічны пралёт.

Назаўтра ў спецпаведамленні начальніка 3-га Упраўлення НКВД дакладваецца пра *«две бутылки из-под шампанского»,* знойдзеныя пры аглядзе 414-га нумара.

З кім, калі не з Мазальковым, выпіў Купала шампанскае?..

Шампанскае з цукеркамі — не мужчынскае застолле. Як тады, так і цяпер — гэта так званы «джэнтльменскі набор» для інтымных сустрэч.

Сярод рэчаў Купалы, апісаных разам з пачкамі тытуню «Казбек» і цыгарак «Эліт», нечакана здзіўляе жаночая парфума. У вопісе рэчаў (№ 59): *Духи «Душистый горошек»*. Купала, які паліў «Казбек», карыстаўся жаночай парфумай?..

Таксама ў вопісе (№ 78): *разорванный носовой платок.* І яшчэ (№ 80): *пуговица.*

Магчыма, парваная насоўка з адарваным гузікам і не ёсць дэталі найбанальнага сюжэту. Тым не менш, ці не насамрэч, як кажуць французы: «Шукайце жанчыну». І знойдзеце ўсё.

Не ведаю, ці была познім вечарам 28 чэрвеня 1942 года ў гатэлі «Масква» Паўліна Мядзёлка, яе ўспаміны і пра той дзень, і пра наступныя дні па смерці Купалы даволі блытаныя, але мне дакладна вядомае імя жанчыны, якой у гатэлі тым вечарам не было: народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай. Раніцай таго дня яе выправілі з канцэртам да партызанаў, але ўжо назаўтра, 29 чэрвеня, вярнулі ў Маскву — і 1 ліпеня яна выступала з развітальным словам на пахаванні Янкі Купалы... У зборніку ўспамінаў пра Купалу «Такі ён быў», выдадзеным у 1975 годзе, Александроўская згадвае, як перад яе ад’ездам Купала ўсё парываўся ёй нешта сказаць, але так і не сказаў. Калі б гэты зборнік выдаваўся зараз, ва ўспамінах Александроўскай вось што было б напісана: «Развітваючыся, ён браўся за рукі, не адпускаў… Казаў: «Ларыса, перапёлачка, не ехала б ты нікуды, кепска мне будзе… Можа, і не жыць». Так ва ўсякім разе запісана мной са слоў Ларысы Пампееўны на аркушы паперы, які меўся стаць адной са старонак кнігі яе ўспамінаў… І далей словы Александроўскай: «Гэта ўстрывожыла мяне, мы тады ўсе былі нервовымі — і ў «Маскве», і ў «Якары» (маецца на ўвазе гатэль «Якар», у якім таксама жылі беларусы, у тым ліку літаратары і акторы, але, так бы мовіць, драбнейшыя. —*У. Н.*). Перад самым ад’ездам пра размову з Купалам я сказала Гарбунову. Гарбуноў адмахнуўся, раззлаваўся нават: «Слухай ты яго! Ён усім тое самае кажа».

Наўрад ці Купала казаў тое самае сакратару ЦК…

Нечага такога ў маім жыцці, пра што б я, азіраючыся назад, шкадаваў, — не многа. Шкадаванне — пусты занятак. Ды ўсё ж што-ніштo, пра што шкадую, ёсць. І не ў апошнюю чаргу шкада мне ненапісанай, а дакладней — незапісанай кнігі ўспамінаў Ларысы Пампееўны Александроўскай. Бліскучай жанчыны, спявачкі, актрысы, якая пачынала працаваць сакратаркай яшчэ ў штабе таварыша Фрунзе. Набліжаная да самых вярхоў улады, яна ведала столькі, колькі мала хто… Аднак, чалавек сталінскіх часоў, Александроўская ставіла такія канспіратыўныя ўмовы запісу яе ўспамінаў, што на тое, каб напісаць кнігу, спатрэбіліся б не год і не два. На такое я не мог згадзіцца. Мяне ніяк не спакушала перспектыва стаць гадоў праз дзесяць аўтарам літаратурнага запісу нечых (хай нават самых бліскучых) успамінаў, мне было дваццаць пяць — і я меў зусім іншыя планы. Вельмі шкада… Але што ж: усім нам вядома, якім розумам мы разумныя.

У гады, калі толькі пачыналася нашая ненапісаная кніга ўспамінаў, Л. П. Александроўская была старшынёй Беларускага тэатральнага аб’яднання — і ўладкавала мяне (беспрацоўнага пасля вяртання з Масквы, з Літаратурнага інстытута) на работу: рэдактарам бюлетэня «Тэатральны Мінск». Аднойчы з Уладзімірам Іскрыкам (у той час супрацоўнікам БТА, а пазней работнікам апарату Саўміна) мы ў прысутнасці Ларысы Пампееўны завялі спрэчку (якраз у дачыненні да Купалы) пра аднаго літаратара… ну, назавём яго *В. Б. Г.* Гэта першыя літары нават не прозвішча, а мянушкі чалавека, пра якога Александроўская, перапыняючы маю з Іскрыкам спрэчку, раптам сказала: «Ён Купалу і забіў…»

Ашаломлены, я вырашыў, што гэты самы *В.Б.Г.* браў у знішчэнні Купалы непасрэдны, фізічны ўдзел — і стаў угаворваць Ларысу Пампееўну, каб яна засведчыла ягонае імя на паперы. Ну, калі ўжо мы пішам кнігу ўспамінаў… Быў пачатак сямідзесятых — і жанчына сталінскіх часоў, паглядзела на мяне, як пазіраюць звычайна на тых, пра каго кажуць: дурны, як сабака да года. Праз паўзу, нібы шкадуючы пра тое, што слова — не верабей, дагаварыла: «Ён напісаў данос, праз які Купалы не стала…»

Хоць «заслугі» літаратара *В. Б. Г.* у развіцці даноснай літаратуры зусім не малыя, я ўсё ж не маю права назваць ягонае імя ў звязку са смерцю Купалы. Для гэтага патрэбныя неабвержныя факты, дакументы. Словаў хай сабе нават такой аўтарытэтнай сведкі, як Л. П. Александроўская, недастаткова. Ва ўсякім разе, недастаткова для абвінавачванняў. Але дастаткова для роздуму, для супастаўленняў…

У пачатку 70-ых я ніяк не мог зразумець: што ж за данос можна было выдумаць, напісаць на Купалу, які сядзеў сабе ціха на млыне ў Печышчах, у глушы пад Казанню? І нічога я тады не мог супаставіць, бо не было чаго з чым. Цяпер ёсць.

Як *дэзінфармацыя* пра тое, што ў акупаваным Менску з’явілася вуліца імя Янкі Купалы, прайшла на самы верх?.. Чаму яна *не правяралася?..* Было ж праз каго (пры жаданні) праверыць. Напрыклад, на радыё ў Менску, па якім абвяшчалася пра перайменаванне вуліц, працавала жонка Пятра Глебкі Ніна Ларывонаўна, якая, мусібыць, была неяк звязаная з савецкімі спецслужбамі, інакш бы як яна, паслужыўшы ў цэнтры нямецкай прапаганды, пасля вайны ўратавалася — хай сабе і з мужам-ардэнаносцам?.. Ніна Ларывонаўна, дарэчы (па сведчанні Аркадзя Куляшова), папярэджвала Глебку, каб не надта набліжаўся да Купалы, бо побач з тым — небяспека.

Аркадзь Куляшоў быў перакананы, што Купалу забілі. Месца ў гатэлі «Масква» паказваў: «Вось тут з ім расправіліся».

П. Глебка, хоць і асцярожна, але сцвярджаў тое ж.

Пімен Панчанка запісаў у дзённіку: «Забілі Купалу — заб’юць і мяне».

П. Броўка казаў, што Купала, прыехаўшы ў Маскву, нечага баяўся, асабліва ўначы — і разам з Твардоўскім яны ў яго начавалі, Купала не адпускаў.

Л. Александроўская кажа: «Мы тады ўсе былі нервовымі…»

Не для таго, каб неяк пацвердзіць словы Л. Александроўскай, сумнявацца ў якіх не маю падставаў, а для большага ўяўлення пра тое, які настрой панаваў у асяродку беларусаў, што жылі ў гатэлі «Масква», калі там пасяліўся Купала, працытую некалькі сказаў з ліста жонкі Кузьмы Чорнага да Аксаны Фёдараўны Вечар, жонкі Аркадзя Куляшова. Ліст датаваны 27 чэрвеня 1942 года, калі Равека Ізраілеўна, жонка Чорнага, прыехала з Уральска — за дзень да смерці Купалы.

«Дорогие! Приехала в Москву вчера около 5 часов дня. Черный меня не встретил… Наконец, он приехал на вокзал вместе с Глебкой, и мы отправились в гостиницу…

Сразу же я окунулась в атмосферу склочничества, существующую здесь между некоторыми, была свидетельницей отвратительной сцены, которую разыграл Б. (П. Броўка. — *У. Н.*), который называл К. (А. Кучара. — *У. Н.*) самыми оскорбительными словами, ругался безобразнейшими словами, его едва выпроводили. Оказывается, он постоянно устраивает такие сцены, особенно попадает от него Л. (М. Лынькову. — *У. Н.*). В общем, они, кажется, немногим лучше баб. Потом Лыньков… страдал очень и кончил слезами».

Магчыма, перажыванні М. Лынькова былі звязаныя не столькі з Масквой, колькі з Менскам, дзе засталася пад немцамі ягоная сям’я, але… З чаго гэта П. Броўка, чалавек, трэба сказаць, зусім не брутальны, які назаўтра ж, як піша далей у сваім лісце Равека Ізраілеўна, прасіў у яе прабачэння, апраўдваючыся тым, што ў яго нервы расходзіліся, раптам на ўсіх разлаяўся — найбольш на Лынькова, старшыню Саюза пісьменнікаў? І чаму ён зневажаў Кучара?.. Чаму яны ўсе такія нервовыя: *ругаются безобразнейшими словами, страдают очень и кончают слезами?..* Ці не таму, што ўсе яны здагадваюцца, ці нават *ведаюць* пра небяспеку, якая навісла над Купалам, а праз яго, магчыма, і над імі? І ці не таму, ці не праз гэта крычыць Броўка ўсім — і

найперш Лынькову: «Ды зрабіце вы што-небудзь!..» І ўсё гэта, урэшце, ці не таму, што зместам даносу, які напісаў *В. Б. Г.* на Купалу, якраз і была дэзінфармацыя пра вуліцу, названую *немцамі, фашыстамі, ворагамі* іменем *народнага паэта, ардэнаносца, лаўрэата Сталінскай прэміі?*

Хутчэй за ўсё, праз свайго *кампетэнтнага даносчыка* самі кампетэнтныя органы гэтую дэзу і запусцілі. Альбо ўгадаў ён іх патаемныя пажаданні — ёсць у лёкаяў такая ўласцівасць, здольнасць: наперад угадваць жаданні гаспадароў. Навошта ж гаспадарам, кампетэнтным органам *такое* перапраўляраць? Калі гэта для іх, як кажуць, *самае тое*... Калі з гэтага вынікае, што ў адносінах да Купалы, які быў і застаецца ідэолагам нац.-фашызму, *адны яны*, кампетэнтныя органы, былі празорлівымі, патрабуючы для яго неадкладнай кары. А сляпымі былі, памыляліся, гуляючы з ім у званні і ўзнагароды, — хто?.. Ды яшчэ падбілі да гульні, да памылкі — каго?.. Таго, хто не памыляецца! Пра гэта ўжо нават падумаць страшна... Але ж Л. Цанава дакладваў П. Панамарэнку (і якраз тады, калі з Купалам у самыя высокія ўзнагароды гулялі), што як раней друкаваліся вершы Купалы ў нацдэмаўскіх газетах побач з партрэтам Пілсудскага (меўся на ўвазе, мабыць, верш «Паўстань». — *У. Н.*), так цяпер у нац.-фашыстоўскіх газетах — побач з партрэтам Гітлера. Не адрэагавалі — вось і вынік. Так што давайце, нарэшце, рэагаваць... Няма чалавека — няма праблемы. І памылак няма...

Пра тое, як у канцы 30-ых і ў пачатку 40-ых хацелася кампетэнтным органам расправіцца з ужо абрыдлым ім Купалам, сведчыць запіска таго ж Л. Цанавы з прапановай вызваліць з-пад арышту Кузьму Чорнага для «использования его по вскрытию и разоблачению нац.-фашистского формирования в Белоруссии». І каго ж «разоблачать», хто там сярод фашыстаў?.. «Романовский Н. К., — піша далей Цанава, — был завербован в нац.-фашистскую организацию Я. Купалой, Я. Колосом и Бедулей, которые в настоящее время находятся на свободе (падкрэслена мной. — *У. Н.*), о чем в своих показаниях на суде Романовский будет делать упор и ссылаться на последних».

Я не падганяю ўсё чыста пад выбраную мной версію, зусім не. Не выключаю, што праз усё тое, за што яго *маглі* забіць, ні ў чым не вінаваты Купала, стаміўшыся быць вінаватым, *мог* скончыць жыццё самагубствам. Але ці самагубства гэта было, ці не — у любым выпадку *абавязкова*, што называецца, *па факце смерці* павінны былі завесці крымінальную справу. Дзе яна?.. Доступу да яе нікому з тых, каго так ці інакш цікавіць Купала, не ўдалося дабіцца. У тым ліку і мне — ні ў нядаўнія

часы перабудовы, ні ў найноўшы час дэмакратыі. На ўсе мае захады і як рэдактара часопіса «Крыніца», і як старшыні Саюза пісьменнікаў адказ быў адзін: крымінальнай справы па смерці Янкі Купалы ні ў якіх архівах няма. А калі яе няма, казалі мне далей, дык яна і не заводзілася. Чаму?.. Бо засведчаны быў *факт самагубства,* а да самагубцаў у час вайны, калі гінуць мільёны, каму якая справа?..

Ну, па-першае, *факт самагубства* нідзе і нікім не засведчаны. Па-другое, *самагубца* не абы-які, да яго якраз шмат у каго ў той час і была самая пільная справа… А што да справы крымінальнай, дык яна, па некаторых звестках, захоўваецца зараз не ў архівах пракуратуры ці ФСБ, а ў архіве Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі — былым архіве ЦК КПСС. Разам з усімі тымі дакументамі, да якіх пакуль, як ні дабівайся, не даб'ешся. Але час ідзе… вада камень точыць… і людзі праўды дабіваюцца.

22 ліпеня 1942 года за подпісам намесніка старшыні Савета Народных Камісараў Беларускай ССР І. Крупені, а таксама *писателя-драматурга Белорусской ССР, лауреата Сталинской премии Кондрата Крапивы и поэта Белорусской ССР Пятруся Бровки* (так у тэксце. — *У. Н.*) на імя сакратара ЦК КП(б) Беларусі таварыша Панамарэнка П.К., сакратара ЦК таварыша Гарбунова Ц.С. і старшыні Саўнаркама БССР таварыша Былінскага І.С. накіроўваецца ліст наступнага зместу:

«Решением Правительственной комиссии по похоронам народного поэта Белорусской ССР Янки Купалы нам поручено выбрать урну…

На лицевой стороне урны в левом верхнем углу будет написана дата рождения, а в правом — дата смерти. В верхней половине урны будет помещен портрет поэта на фарфоре. Под портретом золотыми буквами надпись на белорусском языке: «Народны паэт Беларусі Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч)».

На лицевой стороне постамента в виде автографа почерком поэта будет помещена строка из его стихов: *«Мне сняцца сны аб Беларусі… Янка Купала».*

На правой стороне урны будет помещено следующее четверостишие из произведений поэта в следующем изложении:

За праўду, за шчасце, за лепшую долю
Вазьміся, мой дружа, пастой.
У крыўду не дайся, свайго дабівайся,
Адвага хай будзе з табой.

На левой стороне:

Песня мая не шукае чырвонцаў —
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям, —
Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцы ўсім добрым людзям.

На тыльной стороне урны:

Зямлёй лягу ў зямлю,
Але перш прапяю,
Як я волю люблю,
Гэту волю сваю.

Урна будет установлена на специально изготовленном постаменте из бело-розового мрамора… Просим санкционировать оформление урны и постамента».

Крэмацыя цела Купалы адбылася 1 ліпеня а шостай вечара… Перад тым, 30 чэрвеня, у газеце «Известия» была надрукаваная пастанова Савета Народных Камісараў Саюза ССР.

«Совет Народных Комиссаров Союза ССР постановил:

1. Принять похороны народного поэта БССР Янки Купалы за счет государства.

2. Установить семье покойного персональную пенсию пожизненно: матери поэта Янки Купалы — Луцевич 500 рублей в месяц, жене поэта — Луцевич В.Ф. 500 рублей в месяц».

Як бачым, і прозвішча маці, і прозвішча жонкі ў пастанове правільна напісаныя.

Маці Купалы Бянігна Іванаўна, запісаная ў метрычнай кнізе Радашковіцкага касцёла *Багумілай,* грашыма гэтымі і дня не скарысталася: 30 чэрвеня памерла. Пра тое, што сталася з яе сынам, запісаным у спецпаведамленні пра ягоную смерць *Луцкевічам,* яна не магла ведаць: немцы ў Менску пра смерць Купалы не паведамлялі. Значыць, сэрца ўчула — і спынілася, не захацела біцца ў спусцелым свеце.

«Дзе сын твой, гаротная беларуская маці?..» — выгукнуў на пахаванні святар.

Пахавалі іх — сына ў Маскве, а маці ў Менску — у адзін дзень: 1 ліпеня, перад Купаллем.

*Чэрвень 2005*

# ПРАЗ ЛЕС, ПРАЗ ЛЁС
## *Папулярны біяграфічны нарыс*

«Жыццё і смерць — усё мінае…»
*Якуб Колас*

Калі паэт пражывае свой век і памірае, акружаны дзецьмі і ўнукамі, у сваім ложку, дык наўрад ці жыццё ягонае і смерць стануць легендай. Вунь Гётэ, скажуць, няхай і вялікі паэт, але ж колькі жыў!.. Столькі жыць, калі ты паэт, непрыстойна. Ды яшчэ ў дабрабыце, заможна. Не пашчасціла табе, зажыўся, не забілі цябе ці сам не забіўся, то цягні жыццё ў хваробах і галечы, тады, можа, і адшчыкнеш што-небудзь ад легенды… Інакш займееш біяграфію з бібліяграфіяй — і не больш за тое.

Колас памёр за пісьмовым сталом. На стале — па-сялянску — стаяла бульба. Ён пісаў і, не адрываючыся, еў. Раптам яму стала кепска, задушна, ён пачаў хапаць, як рыбіна на беразе, паветра. Сын Даніла, падумаўшы, што бацька папярхнуўся, стаў біць яму ў спіну — не даў рады, не зратаваў… Колас задыхнуўся.

Ложак стаяў у пакойчыку побач…

Калі прычыну смерці высвятлялі ў шпіталі, аказалася, што сэрца.

Сталася гэта ў дзень народзінаў унучкі Марыі, якой споўнілася пяць гадоў. Усе родныя былі дома, так што Колас насамрэч памёр, акружаны дзецьмі і ўнукамі. Не легендарна…

Выйшла так, што амаль усё, што магло стаць легендай Якуба Коласа, перакінулася ў легенду Янкі Купалы. Хоць і век Купалы быў не на шмат карацейшы за век Коласа, і ў дабрабыце яны не надта розніліся. У адзін год і ў аднолькавай нястачы нарадзіўшыся, яны побач прайшлі па жыцці. Наколькі блізка — гэта іншае, але побач. Па маім жыцці побач прайшлі, ва ўсякім разе. Помню, мне ў дзяцінстве здавалася нават, што абодва яны — адзін чалавек. Купала-Колас. Ці Колас-Купала. Таму і вершы напісаў я некалі пра іх абодвух, як пра аднаго.

Колас. Купала…
У гуках імён іх люлянку я чую,
Якую матуля калісь над калыскай маёю спявала —
Колас. Купала…
Мелодыю мовы славянскай я чую,
Той мовы, якую агнямі палілі,
Ды з попелу Страцімам-птахам яна паўставала —
Колас. Купала…
Я чую ў іх звонкія гуслі
І гулкасць
Той сілы,
Якая ў былінах сівых гусляроў ракатала —
Колас! Купала!..
Адвечную песню народа,
Што горда
Жыла ў ім
І кленчыць прад ворагам не дазваляла! —
Колас. Купала.

Шляхі іх, Купалы і Коласа, настолькі пераплеценыя, што сапраўды выглядаюць ці не адным шляхам. Але не адным лёсам… І розніца паміж імі не ў пражытых гадах, не ў спосабе жыцця і не ў выбары смерці, а ў тым, што *над спосабам* і *над выбарам,* у тым, што ёсць *наканаванасць.* У тым, што адзін напісаў «На куццю» і «Сон на кургане», а другі — «Сымона-музыку» і «Новую зямлю». Адзін — «Паўлінку» і «Тутэйшых», другі — «Дрыгву» і «На ростанях». І калі Коласа прасілі расказаць пра жыццё, пра лёс, пра сябе, ён найчасцей адказваў: усё расказана ў тым, што мной напісана. Чытайце «Новую зямлю» і «На ростанях», «Сымона-музыку», усё маё і ўвесь я сам — там.

Гэта так… Аднак ёсць яшчэ і аўтабіяграфіі Якуба Коласа. Некаторыя з іх, раскіданыя ў часе на дзесяткі гадоў, пачынаюцца тым не менш аднолькава. І не з таго пачынаюцца (што было б не дзіўна), з чаго бяруць пачатак звычайна ўсе аўтабіяграфіі, не з канцылярскага запісу пра час і месца нараджэння, а з жывога выдыху: *«Мае дзіцячыя гады прайшлі ў адзіноце».* Так пачынае ён аўтабіяграфію, пазначаную 1926 годам, калі надаецца яму званне народнага паэта, і тое самае выдыхае ў 1956-ым, перад смерцю: *«Мае дзіцячыя гады прайшлі на адзіноце».* Трыццаць гадоў прамінула, а ўсё засталося тым жа, чым было, толькі прыназоўнік *«ў»* змяніўся ў выдыху на прыназоўнік *«на».* Можна падумаць, што адзіноту сваю Колас лічыў за бяду, праз усё жыццё

ёю маркоціўся, — дык вось жа не. Яшчэ раней, у аўтабіяграфіі 1913 года, дзе ўпершыню Колас піша: *«Жылі мы адзінока, і дзяцінства маё прайшло ў адзіноце»,* — далей ён прызнаецца: *«Я любіў сваю адзіноту».*

«Самы моцны той, хто стаіць адзінока», — паўтарае ён словы Ібсена, запісваючы іх у альбом Аляксандры Зотавай, з якой пазнаёміўся ў 1907 годзе ў Вільні. Гэтыя словы не могуць быць выпадковымі, бо адрасаваныя жанчыне не староннняй: ёй падараваў Колас свой фотаздымак, надпісаўшы: *«Уладальніцы адзінай душы».* Надпіс можна зразумець па-рознаму, але ўсё ж…

Колькі словаў пра тое, што можна разумець па-рознаму.

Купала ў свядомасці большасці людзей — паэт хоць і народжаны ў вёсцы, але ў сутнасці сваёй «гарадскі», а значыць, багемны. Таму нібыта і не дзіва, што ён выпіваў, лавеласнічаў. Колас жа — паэт вясковы, патрыярхальны. Чалавек, для якога падмуркам жыцця ёсць дом і сям'я. І гэткі вобраз Коласа, сем'яніна, бацькі, гаспадара, стараліся захаваць амаль усе, хто пра яго пісаў, — найперш людзі блізкія…

Няхай так. Але ж неяк жыў ён па-за домам? Час ад часу выбіраўся з сям'і?..

Вось вытрымкі з лістоў да Коласа жанчыны, якую звалі А.

*«31/VII-46 г.*

…каждую свободную минуту я все танцую под дивную музыку. Только вот во мне засела такая беспокойная мысль, мне почему-то досадно, что я не знаю, что делаете Вы, куда выезжаете, с кем встречаетесь? И еще мне кажется, что Вы, наверно, много пьете, а ведь Вам совсем нельзя пить, я уже очень жалею, что не взяла с Вас слова, чтобы Вы не пили, ну, хоть пока нет меня… И если Вы меня хоть капельку уважаете, это же совсем не тяжело. Я так вот честно исполняю Ваши наставления… скромненько одеваюсь, никем не увлекаюсь и все время думаю о Вас.

Целую, А.»

*«13/X-47 г.*

Мой дорогой друг!

А я уже потеряла была надежду получить Ваше письмо. Я загадала на букет цветов, тот, помните, что мы вместе покупали, он уже весь завял, а я его все не выкидывала, решила дождаться письма. Но вчера муж так разворчался, что я держу этот «веник», ну так я уж выбросила, и все ж таки один цветочек оставила, и он такой хороший стал — совсем свеженький. И вот Вам результат — сегодня получила письмо.

У меня все, все, как и было. Сижу, работаю, злюсь, мерзну. Честно исполняю Ваше желание — никем не увлекаюсь, все время помню Вас.

Крепко целую, Ваша Былинка».

Так Колас называў яе: Былінка.

Пад канец жыцця, годзе ў 1954-ым, да Коласа завітала кабета, каб толькі глянуць на яго і пайсці. Гэта была Аляксандра Георгіеўна Зотава.

«Я действительно узнал: это была моя очень хорошая знакомая, тогда только что окончившая высшие женские курсы, — спавядаецца Колас у лісце да аднаго са сваіх рускіх сяброў. — Накануне Нового, 1908 года мы ездили с ней в тогдашний Петербург… Когда я сидел в крепости (у турме ў Мінску. — *У. Н.*), она навещала меня. В одно из своих посещений она сказала мне: «Знаете, Якуб! Я выхожу замуж!» Больно мне было тогда слышать эти слова… Сейчас она была очень взволнована и скоро ушла… Мне как-то стало даже грустно — так уходит время, так уносит и молодость, и свойственную ей красоту…»

Верш «Пясняр вясны», перададзены Аляксандры Зотавай у лютым 1909 года з турмы, Колас пачынае радком:

«Ён жыў адзін, адзін душою…»

Ён праз усё жыццё любіў яе, сваю адзіноту, а яго з паловы жыцця абкружалі мітусня і тлум. Чалавечым лесам.

«Лес, што абкружаў наш дом, — успамінае ён у аўтабіяграфіі, напісанай у 1913 годзе для «Критико-биографического словаря русских писателей и ученых», — з аднаго боку быў надта пануры. Асаблівую панурасць надавалі яму старыя бярозы, што раскінуліся ўшыркі на ўзлессі. Іх цёмна-зялёныя купы рэльефна акрэсліваліся на яшчэ больш цёмным фоне панурых ялін, крыжападобныя вершаліны якіх высока ўзнімаліся ў неба».

Змрачнавата… На такім пейзажы не развесялішся. Але вось як выглядае той жа пейзаж у паэме «Новая зямля»:

Каля пасады леснiковай
Цягнуўся гожаю падковай
Стары, высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзялялiсь,
Таемна з хвоямі шапталісь…

Істотная, я б сказаў, розніца. Магічнае пераўтварэнне.

Мне даводзілася назіраць, як у Коласаўскім музеі, калі экскурсавод раптам казаў, што гадоў да пятнаццаці, аж пакуль не паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, не бачыў Колас нічога, апроч лесу, дык экскурсанты, найперш школьнікі, дзеці, губляліся і ніякавелі, не ведаючы, як на такое рэагаваць. Не складваліся ў іх, не звязваліся ў адно кнігі, партрэты, помнікі, музей у Менску — і цёмны лес немаведама дзе… Як жа лесавік з таго лесу стаў Якубам Коласам?

А вось так і стаў. Пераствараючы пейзажы.

Краявіды родных Коласавых мясцінаў, пейзажы Мікалаеўшчыны і Акінчыцаў, Ластка і Альбуці, Цёмных Лядаў і Смольні сталі пейзажамі беларускай паэзіі. А яшчэ яны сталі *знакамі* на старонках коласаўскіх біяграфій і аўтабіяграфій…

«Нарадзіўся я ў 1882 годзе 3 лістапада (22 кастрычніка старога стылю) ва ўрочышчы Акінчыцы, недалёка ад сяла Мікалаеўшчына (Стаўбцоўскі раён Менскай вобласці). Бацька мой, Міхаіл Казіміравіч Міцкевіч, быў лесніком. Чалавек ён быў невялікай адукацыі: умеў распісвацца, чытаць па-польску і па-руску.

Маці мая, Ганна Юр’еўна, з Лёсікаў, зусім няграматная, але разумная ад прыроды і добрая жанчына. Ад яе чуў я шмат народных песень, якія кранaлі і захаплялі мяне сваёю паэзіяй і непадробнай прастатой».

Заўважым, што маці Коласа, Ганна Юр’еўна «з Лёсікаў» — сястра Язэпа Юр’евіча Лёсіка, пісьменніка, дзеяча беларускага Адраджэння. Ён уваходзіў у склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, з траўня 1919 года быў старшынёй Рады. Арыштаваны ў ліпені 1930 года па справе «Саюза вызвалення Беларусі», Язэп Лёсік сядзеў у розных астрогах да самай смерці: памёр 1 красавіка 1940 года ў Саратаўскай турме. Арышт ягоны моцна разануў душу Якуба Коласа, які і сам у той час быў на парозе турмы.

Усяго ў Міхаіла Казіміравіча і Ганны Юр’еўны Міцкевічаў нарадзілася трынаццаць дзяцей. Чацвёра з іх, як гэта часта здаралася ў бедных сялянскіх сем’ях, памерлі дзецьмі, а дзевяць выжылі — пяцёра сыноў і чатыры дачкі.

Кастусь, будучы паэт Якуб Колас, быў трэцім сынам. Старэйшы за яго брат Уладзімір Міхайлавіч (у паэме «Новая зямля» Уладзя: «Зірні, унь дуб які Уладзя!..») пасля смерці бацькі заняў ягоную пасаду палясоўшчыка і тым утрымліваў сям’ю: маці з малодшымі братамі і сёстрамі. Другі старэйшы брат Коласа Аляксандр Міхайлавіч (у «Новай зямлі» Алесь: «Алесю

хітранька ўсміхнуўся…») не знайшоў шчасця на радзіме і паехаў шукаць яго па свеце. Жыў паміж Курскам і Белгарадам, працаваў стрэлачнікам на чыгунцы і памёр напярэдадні вайны. Малодшы брат Іосіф Міхайлавіч (у паэме Юзік: «А гэты Юзік-шаляніца…») запомніўся ўсім, каму здаралася наведаць (да 1980 года) філіял музея Якуба Коласа ў Смольні, дзе Іосіф Міхайлавіч быў экскурсаводам. А вось наймалодшы, дванаццаты ў сям'і, брат Міхась Міхайлавіч стаў для Коласа ў пасляваенныя гады праблемай, пра якую пры сведках стараліся не ўспамінаць… Літаратар і перакладчык (літаратурнае імя — Антось Галіна), блізкі Коласу не толькі па крыві, але і па духу, ён працаваў пры немцах інспектарам школаў на Стаўбцоўшчыне. Баючыся, што гэтага (хоць ён і брат Якуба Коласа) яму не даруюць, Міхась Міхайлавіч падаўся ў 1944 годзе ў эміграцыю — і тым самым быў як бы выкраслены з сямейных хронік. У лісце да сястры Марыі Міхайлаўны, Мані, трынаццатай і апошняй з дзяцей Міхала і Ганны, ён пісаў з замежжа: «Гэтымі днямі атрымаў ад Валодзі (Уладзіміра Іванавіча Міцкевіча, пляменніка Коласа, сына ягонай сястры Міхаліны) атлас пра Коласа. Там ёсць здымкі Уладзі, Алеся, Лены, Юзіка, Міхаліны, Юзі і твая, Маня. А я хіба не існую?..»

Лёс брата, канешне ж, Коласа вярэдзіў. «Дурны Міхась! Што ён цягаецца па Парыжах? Каб ён быў тут, я б яго выбавіў».

Хто ведае… «Выбавіць» з-за мяжы «нямецкага паслугача» спрабаваў і Камітэт дзяржбяспекі, прапануючы сваякам паехаць і ўгаварыць яго вярнуцца. Ніхто не паехаў… Памёр брат Коласа Міхась Міхайлавіч Міцкевіч у 1991 годзе ў Нью-Йорку.

Сёстры Якуба Коласа, ужо спамянёная Марыя Міхайлаўна, Алена Міхайлаўна, Юзэфа Міхайлаўна і Міхаліна Міхайлаўна жылі падоўгу, мелі свае сем'і і, хоць і пакруціла іх па свеце, завяршылі свой шлях зямны там, дзе нарадзіліся, пахаваўшыся ў Мікалаеўшчыне на могілках Церабяжы.

«Бліжэйшымі маімі таварышамі-прыяцелямі, — чытаем далей аўтабіяграфію Коласа, — былі два старэйшыя браты. У сям'і былі яшчэ два дзядзькі, Пятрусь і Антось, людзі граматныя. Дзядзька Пятрусь быў на вайсковай службе пісарам. Дзядзька Антось, малодшы брат бацькі, здаў экзамен за курс пачатковай школы. Ён ведаў многа казак, многа песень, ён прышчапіў мне любоў да навукі.

Бацьку часта прыходзілася перабірацца з месца на месца. Самыя раннія гады мае прайшлі ў Сухошчыне, або Ластку. Гэта глухое месца — поле, навокал лес і адна толькі сядзіба лесніка».

Палясоўшчыкам бацька Якуба Коласа Міхал Казіміравіч Міцкевіч пачаў служыць з 1881 года. Адно гарбеючы, каб выжыць, ён пражыў не надта доўгае жыццё, памёршы ў 1902 годзе… Работнік быў спраўны. Вось як характарызуецца ён у «Службовым фармуляры лясной варты Акінчыцкага лясніцтва». У графе *праявіў сябе* чытаем:

«У выкананні абавязкаў: *старанным;*

у акуратнасці: *акуратным;*

характарам: *спакойны;*

паводзінамі: *паводзіць сябе добра;*

за што і якія атрымліваў узнагароды*: не атрымліваў;*

за што атрымліваў вымовы: *не атрымліваў».*

Як жыў стражнік лясной варты Міхал Міцкевіч, які ўжо на той час (1885 г.) меў пры сабе *шэсць асоб,* таксама відаць з гэтага фармуляра. У графе *капітал* напісана *няма,* і *забеспячэння грашыма* таксама няма, *замест грашовага акладу дадзены яму для забеспячэння хутар Ласток, за які абавязаны даплачваць штогод 10 руб. срэбрам».*

Каб мець уяўленне пра тое, што *дадзена* было бацьку Коласа для *забеспячэння,* за якое ён абавязаны быў яшчэ даплачваць штогод дзесяць срэбных рублёў, дастаткова з «Инвентарного описания фермы Ласток, составленного 1 ноября 1885 года» прачытаць хаця б адзін пункт:

«3) Фруктовый сад.

Заключается из пяти штук старых привитых грушевых дерев и 2 штук молодых дикорастущих, а также между строениями находится одно дерево яблоневое подгнившее и одно грушевое дикое».

З пасеваў збожжа арандатар Міхал Міцкевіч павінен быў аддаваць палову ўраджаю і ўсю салому і мякіну.

«Памятаць і адрозніваць сябе ад вакольнага свету, — успамінае Колас, — пачынаю прыблізна з 4 гадоў. Да ранніх дзіцячых успамінаў адносяцца такія здарэнні. Я насіў трэскі, паслізнуўся на гліне і ўпаў у яму з вадою. Плюхаўся, покі дзядзька Пятрусь не выцягнуў. Другі раз мяне падпаілі на дажынках, я пачаў танцаваць на лаве, скінуўся з лавы і аб табурэт разбіў сабе галаву.

Помню яшчэ адну навальніцу ўночы.

Любіў я вясною на ўсходзе сонца зашыцца куды-небудзь у куток і слухаць жаваранкаў. Мне здавалася, што я ведаю, аб чым яны спяваюць.

Пра жыццё нашай сям'і я напісаў пасля ў паэме «Новая зямля». Гэта нешта накшталт сямейнай хронікі.

Пярэбары з Сухошчыны ў Альбуць (у «Новай зямлі» апісана як Парэчча) кладуць выразную мяжу ў маім жыцці. Там нас сталі навучаць «навуцы». Дзве зімы вучыліся мы дома — я і два мае старэйшыя браты. Пасля нас аддалі ў сельскую школу. Там жа я пачаў прабаваць і свае літаратурныя сілы, калі мне было гадоў 12. Помню, прачытаў свой верш «Вясна» (яго ў мяне не захавалася) свайму бацьку; бацька паслухаў мяне ўважна, потым запытаў, ці праўда, што гэта напісаў я, і даў мне рубель…

Бацька ўсімі сіламі стараўся пусціць мяне ў навуку. У 15 гадоў паступіў я ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Падрыхтаваў мяне А. Лёсік. У 1902 годзе мяне выпусцілі адтуль настаўнікам».

Цікава зірнуць на адзнакі, якія меў семінарыст Кастусь Міцкевіч. Найвышэйшая (пяцёрка) — сачыненне, чатыры з плюсам — руская мова (беларуская не выкладалася). Сярэднія адзнакі (чацвёркі) — геаметрыя; гісторыя, а найніжэйшая (тройка) — спевы. Адзнакі, падобна, аб'ектыўныя, бо, як умеў Колас пісаць, так (па ўспамінах) не ўмеў спяваць.

«Першыя гады майго настаўніцтва прайшлі на Палессі — у Люсіне і Пінкавічах. Люсіна — страшэнная глуш. Тут я першы раз пазнаёміўся з нелегальнаю рэвалюцыйнаю літаратураю. Даваў яе мне адзін яўрэй, столяр па прафесіі, мой недалёкі зямляк (са Стаўбцоў). Гэтыя брашуркі далі ход маім разважанням у зусім новым накірунку і моцна зацікавілі мяне. У выніку… — удзел у настаўніцкім з'ездзе ў 1906 годзе».

Нелегальны з'езд настаўнікаў, за ўдзел у якім загадам дырэкцыі народных вучылішчаў настаўнік Канстанцін Міцкевіч быў звольнены з работы і пазней прыцягнуты да судовай адказнасці, праводзіўся ў Мікалаеўшчыне. Каля двух дзесяткаў маладых людзей сабраліся на паляне ў лесе каля Нёмана днём 9 ліпеня — і ўжо ўночы былі выкрытыя паліцыяй. Не абышлося, хутчэй за ўсё, без даносу. Паліцыянты канфіскавалі «Протокол заседания группы…», падпісаны пятнаццаццю «членами-учредителями», і адозву (за якую, як казаў Колас, «мяне і ўпяклі») з заклікамі да ўдзелу ў вызвольным руху, да бунту супраць самадзяржаўя. У тлумачэнні інспектару С. Кваснецкаму (7.08.1906) настаўнік Канстанцін Міцкевіч даводзіў, што і пратакол сходу, і адозва — вынік нецвярозага стану настаўнікаў, якія сабраліся ў лесе на гулянку.

Прыкладна тое самае на допыце ў ДПУ тлумачыў пазней (15.XI.1930) Купала. Калі следчы пытаўся, што рабілі, збі-

раючыся ў яго доме, сябры «Саюза вызвалення Беларусі», ворагі народу, Купала адказваў: «Пілі…»

Але спаслацца на п’янку ні Купалу, ні Коласу не ўдалося.

За Коласам яшчэ да настаўніцкага з’езда ў Мікалаеўшчыне ўжо меўся палітычны грэх. У лістападзе 1905 года, настаўнічаючы на Палессі, ён склаў петыцыю сялян вёскі Пінкавічы да памешчыка Сігізмунда Скірмута. У петыцыі патрабавалася «уступить в наше полное пользование озера и болота, в наше полное распоряжение пастбищное угодие в количестве 77 десятин… и как можно скорее почтить нас ответом по этому делу».

«Ответом почтил» не пінскі памешчык С. Скірмут, а менскі губернатар П. Курлоў, які на петыцыі, што паступіла ў ягоную канцылярыю, наклаў рэзалюцыю: «Пинскому исправнику арестовать учителя с. Пинковичи Мицкевича».

Роўна праз сто гадоў, у сённяшнія часы дзіўнай «беларускай дэмакратыі», настаўніка Міцкевіча пасля такой рэзалюцыі не ўратаваў бы ад турмы ніхто. А вось у той час простыя, так бы мовіць, царскія чыноўнікі, якія служылі ў Менскай дырэкцыі народных вучылішчаў, вырашылі, атрымаўшы копію петыцыі з канцылярыі губернатара, што турма за такі грэх — гэта занадта. Яны «ў парадку пакарання» перавялі настаўніка Міцкевіча, сялянскага заступніка, з Пінкавіцкага народнага вучылішча Пінскага павета ў Верхменскае народнае вучылішча Ігуменскага павета. Гэта толькі пасля ўдзелу ў настаўніцкім з’ездзе дапамога К. Міцкевіча ў складанні петыцыі да памешчыка Скірмута пачынае разглядацца як рэвалюцыйная прапаганда сярод сялян — і ўжо за ўсё разам, за петыцыю і з’езд, ён пазбаўляецца права настаўнічаць, па ягонай справе распачынаецца следства… Якраз у гэты час беспрацоўны настаўнік піша верш «Наш родны край», які 1 верасня 1906 года з’яўляецца ў газеце «Наша доля» і становіцца першым выступленнем у друку паэта Якуба Коласа:

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок…

Далей ва ўжо цытаваным прысвячэнні Коласу і Купалу я пісаў:

Падобны на словы замовы
Імёны,
Якімі паэтаў сваіх Беларусь называла:
Колас… Купала… —

але як насамрэч узніклі іх літаратурныя імёны? Янка Купала ўзяў сабе гэткі псеўданім, таму што нарадзіўся 25 чэрвеня (7 ліпеня), на Купалле, а Якуб Колас?.. З ягоных словаў, шмат кім перараказаных, у тым ліку і сынам ягоным Данілам Міцкевічам, псеўданім яму (як чалавеку, што падвяргаецца палітычнаму праследу) параіў займець рэдактар газеты «Наша доля» (а пазней газеты «Наша ніва») А. Уласаў. Рэвалюцыйна настроены малады настаўнік якраз захапляўся ў той час вершамі Якубовіча-Мельшына — і праз ягоны верш пра *колас* і выбраў сабе літаратурнае імя: Якуб(овіч) Колас. Мне асабіста больш да спадобы прыдуманая мной вершаваная версія *(...імёны, якімі паэтаў сваіх Беларусь называла),* а не даволі празаічны варыянт з удзелам Уласава і Якубовіча-Мельшына, але што ж: так дык так.

Да траўня 1907 года Колас жыве ў Цёмных Лядах (Смалярні), дзе старэйшы ягоны брат (Уладзя) служыць лесніком. У траўні едзе ў Вільню, потым у Менск і зноў у Вільню, пасля на Магілёўшчыну, адкуль перабіраецца ў Стоўбцы — над ім установлены асобы нагляд паліцыі, і яму няма дзе прытуліцца. Следства па ягонай справе зацягваецца, хоць яно і падпіхваецца, падштурхоўваецца: Міністэрства юстыцыі двойчы патрабуе ад пракурора Віленскай судовай палаты «принять меры (другім разам *«самые энергичные меры»)* к скорейшему окончанию дознания по делу о съезде учителей в с. Николаевщина». У ліпені 1908 года Коласу ўручаюць копію «Абвінаваўчага акта…», у якім ён абвінавачваецца «в участии в сообществе, заведомо поставившем целью своей деятельности ниспровержение существующего в России общественного строя». 15 верасня 1908 году Віленская судовая палата (на выязной сесіі ў Менску) прыгаворвае падсуднага К. М. Міцкевіча «заключить в крепость на три года». У кастрычніку пракурор Менскага акруговага суда паведамляе пракурору Віленскай судовай палаты, што «ввиду отсутствия свободных мест в крепости» К. М. Міцкевіч адбывае прызначаны яму тэрмін пакарання ў Менскай турме.

Тры гады турмы займеў падсудны К. М. Міцкевіч, можна сказаць, не за сваё. Адозву «сообщества, поставившего целью своей деятельности ниспровержение существующего строя», напісаў не ён, а настаўнік П. Жук. Колас успамінаў пазней, што адозву «бралі на экспертызу двойчы. Першы раз эксперты далі патрэбныя суду звесткі. Другі раз прызналі, што рука не мая. Пракурор як усхопіцца: «З прычыны разыходжанняў у поглядах экспертаў патрабую Міцкевіча асудзіць!» Так што ўсё ў іх

было вырашана загадзя. Не ўдавалася пасадзіць за падабенства почырку, дык пасадзілі за разыходжанні паміж экспертамі. Ці саву аб пень, ці пнём аб саву…» А на аўтара адозвы П. Жука крыўдаваў Колас толькі за адно: той за тры гады нават маленькай перадачы яму не прынёс — так турмы баяўся.

Што ж, было чаго баяцца… Колас піша, што архітэктар Пішчалін, які спраектаваў Менскую турму, апраўдаў сваё прозвішча: «Пішчалі людзі там». І вось як апісвае ён карцэр Менскай турмы («Пішчалінскага замка») у лісце да Аляксандры Зотавай.

«Карцер — предвестник могилы», — поется в одной арестантской песне. И в этом есть правда. Представьте себе узкую и тесную нору в каменной стене, в подземелье, плотно закрытую тяжелою, окованною железом дверью, куда не может проникнуть ни луч света, ни струя свежего воздуха… Сыро. Пол на полвершка покрыт грязью. Ни постели, ни подушки. Валяешься, как животное, в грязи. Питаться приходится только хлебом и водою. Сидишь с завязанными глазами… как крот в подземелье».

У гэтым жа лісце Колас паведамляе А. Зотавай, што даведаўся ад нейкага «таварыша з Сібіры» пра артыкул пра беларускую літаратуру ў часопісе «Познание России». Сапраўды, у сакавіцкай, трэцяй кніжцы часопіса «Познание России» за 1909 год друкуецца артыкул С. Русавай «Возрождение белорусской литературы», у якім, сярод іншых, разглядаюцца вершы Я. Коласа і адзначаецца, што «белорусские поэты напоминают Шевченко, певца страданий украинского народа». «Меня, между прочим, — піша Колас, — по словам товарища, называют вторым Шевченко, белорусским, конечно. Хотелось бы этому верить, да скептицизм заедает — как бы не вышло тут ошибки. Вероятно, он смешал меня с Я. Купалой (падкрэслена мной як першае сведчанне самых піэтэтных (куды ўжо больш?) адносінаў Коласа да Купалы. — *У. Н.*). Если же, сверх всякого чаяния, слова сии предназначены мне… это будет единственный источник моей радости и смысла моей жизни, жизни старого суматрского слона».

«Старому суматрскаму слану», пасаджанаму ў клетку «Пішчалінскага замка» — дваццаць шэсць гадоў. Выйдзе ён на волю ў дваццаць дзевяць — аўтарам кнігі вершаў «Песні жальбы», выдадзенай у 1910 годзе ў Вільні. Па назвах вершаў, што ўвайшлі ў першую кнігу Якуба Коласа («Песня няволі», «Турэмная камера», «У турме»), не цяжка здагадацца, дзе яны напісаныя.

Як яны там пісаліся?.. Вось як, напрыклад, распавядае Колас пра гісторыю напісання верша «Краска».

«У нядзелю некаму з маіх аднакамернікаў дазволілі спатканне са сваякамі, і ён прынёс разам з перададзенай бялізнай і хлебам дзве сцяблінкі лугавых званочкаў. Паставілі мы іх у ваду, а самі пасталі наўкруга і нібы ўкамянелі. Глядзім, вочы ва ўсіх вільготныя, і на волю наўсверб хочацца. Здаецца, каб выпусцілі зараз, лёг бы на зямлю і пакачаўся, як змакрэлы конь на ворыве. А ўсё ж, што ні кажы, святлейшы быў дзень той з кветкамі. Хацелася, каб яны даўжэй пакрасавалі. Але на раніцу нашыя званочкі пачалі апускаць галоўкі. Гаслі на вачах, а ў кожнага пачуццё такое, быццам чалавека жвірам засыпаюць.

А тут яшчэ Мардуховіч, быў у нас такі, спявак не спявак, але ахвотнік да спеваў, з голасам моцным і прарэзлівым, ходзіць па камеры і ные: «Колокольчики мои, цветики степные». Мы яго ўсяк суцішалі… не памагае. Падвечар утаймаваўся, а я прыпёрся на нарах — дай, думаю, перакладу гэтыя «Колокольчики». Пачаў, ды цалкам верша ўспамянуць не мог. Прыпляліся думкі пра астрог, і пайшло на свой лад. Праўда, голас Талстога чуецца… радок *дзень вясёлы мая* так і застаўся непераробленым».

Колас казаў, што гэты верш хоць і «не з громкіх», але мілы яму. Дадаючы, праўда: «Што дзеду міла — то ўнуку гніла». А я пра ягоны верш «не з громкіх» згадаў па той прычыне, што гэтымі званочкамі Колас як бы перазвоньваецца праз гады з Купалам: з 1910 года ў год 1941-ы.

Маскоўскі сябар Янкі Купалы пісьменнік Барыс Емяльянаў успамінае:

«Мы ехалі з Янкам Купалам з Жэўнева (Падмаскоўе) у Маскву. Дарогу, разварочаную бамбёжкаю, давялося аб’язджаць… Невялікі лясок злева, паляна, пакрытая някошанай канюшынай і сінімі званочкамі, справа…

— Колькі іх! — сказаў Янка Купала, гледзячы на кветкі. — Глядзі, глядзі!

Ён раптам павярнуўся да мяне і спытаў:

— Хто лепш за ўсіх напісаў пра званочкі?

— «Цветики степные! — засмяяўся я. — Что глядите на меня, темно-голубые?»

— Ведаеш, — сказаў Янка. — Гэта добра, што ты ведаеш…»

У захапленні Купалы званочкамі нібыта і нямашака ніякай сувязі ні з Коласам, ні з ягоным вершам «Краска», але для

мяне асабіста — праз лёс абодвух паэтаў — гэтая сувязь ёсць. Шчымлівая сувязь…

Вясной 1911 года Якуб Колас піша ў турме вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў», якое пазней (перапрацаванае) стала трыма раздзеламі («Па дарозе ў Вільню», «Дзядзька ў Вільні» і «На Замкавай гары») паэмы «Новая зямля». Праца над апавяданнем і ёсць пачатак працы над паэмай, шлях да завяршэння якой заняў дванаццаць гадоў. Няма ў беларускай паэзіі іншага, апроч Коласа, паэта, які гэткі шлях змог бы адолець. З наканаваным лёсам селяніна, які штовесну прыходзіць з плугам на ўзмежак свайго поля, Колас вяртаўся і вяртаўся на поле «Новай зямлі». Таму і даараў…

У тым жа 1911 годзе, калі пачаў Колас пісаць «Новую зямлю», у першай кнізе «Записок Северо-западного отдела Русского географического общества» быў надрукаваны артыкул В. Стукаліча пра Беларусь і беларусаў.

«Клімат няўстойлівы, сыры і нездаровы. Прырода аднастайная, панурая і бедная. Усюды бясконцыя багны, балоты. Народ грубы, цёмны і бедны, хілы і слабы фізічна. Мова няправільная (так і хочацца спытацца, хоць яно ўжо і позна, у «вучонага чалавека»: у адносінах да чаго, да якіх «правільных» моў беларуская мова няправільная? — *У. Н.*) і непрыгожая. Характар народа няўстойлівы. Крайняя грубасць пераходзіць у прыніжаную ўгодлівасць (з гэтым, губу прыкусіўшы, даводзіцца, на жаль, пагадзіцца. — *У. Н.*). Гультайства, бесклапотнасць, коснасць, схільнасць да п'янства, дробных крадзяжоў — вось характэрныя рысы беларускай народнай масы. Адным словам, *народ і краіна без мінулага і без будучыні»* (тут курсіў мой. — *У. Н.*).

Вось такі прысуд… І нібыта насуперак яму, падняўшы непад'ёмнае, Колас *няправільнай і непрыгожай мовай* піша ў *краіне без мінулага і без будучыні* геніяльную паэму. Так, геніяльную, што б ні казалі пра яе апісальнасць і зацягнутасць сённяшнія постмадэрністы, якія займелі схільнасць да такіх «беларускіх» жанраў паэзіі, як *хоку* ці *танка,* толькі праз тое, што для таго, каб пачаць іх і скончыць, дастаткова не больш за пяць радкоў.

Паэтычным вярхоўем беларускай прозы называў паэму «Новая зямля» бліскучы пісьменнік і літаратуразнаўца Алесь Адамовіч, жанрава вызначаючы яе як раман. Зразумела, вершаваны раман, які Адамовіч параўноўваў з вершаванымі раманамі «Дон Жуан» Байрана, «Яўгеній Анегін» Пушкіна і «Пан Тадэвуш» Міцкевіча. І ў гэтым параўнанні (калі цаніць

сваё і даражыць сваім) няма ніякага перабольшвання. «Паэзіяй у «Новай зямлі», — пісаў Адамовіч, — стала сама проза жыцця… Вялікі шлях павінна была прайсці наша літаратура, многія якасці павінна была яна набыць, перш чым мог з'явіцца такі твор… сюжэтна стройны, з вельмі канкрэтнай мастацкай ідэяй». Адамовіч сцвярджаў, што ўбачыць усё багацце зместу «Новай зямлі» аднаму чалавеку немагчыма. Ён пытаўся: калі б усю інфармацыю, якая ёсць пра беларусаў, трэба было б выслаць іншапланецянам, дык што гэта за інфармацыя павінна было б быць?.. І адказваў: «Новая зямля» Якуба Коласа.

Я згодны з Адамовічам. Уся паэма ад першага, на ўсе грудзі выдыхнутага, радка («Мой родны кут, як ты мне мілы!..») да апошняга ўздыху галоўнага яе героя Міхала («Зямля… зямля… туды, туды, брат…») нават больш, можа быць, беларуская, чым самі беларусы, якія яны былі і ёсць.

І што?..

Чытаем прадмову да выдання «Новай зямлі» 1934 года.

«Паэма «Новая зямля» з яе асноўным мэтаімкненнем, бясспрэчна, гучыць дысанансам нашай эпосе, эпосе пабудовы сацыялізму, эпосе калектыўнае працы. Тэндэнцыі ўласніцтва, паложаныя ў аснову паэмы, асабліва вынікаюць на фоне калгаснага будаўніцтва сённяшняга дня...

Асноўны матыў паэмы — імкненне да волі, да вызвалення… Але Міхал выбірае няправільны, фальшывы шлях свайго вызвалення — і ў гэтым яго вялікі і сапраўдны трагізм — уласны кавалак зямлі, свая гаспадарка, да якой з усёй палкасцю свайго сэрца імкнецца Міхал і ў якой бачыць ён сваё вызваленне, не могуць даць яму гэтай волі, гэтага вызвалення…»

І гэтак далей.

У працытаванай прадмове абыходзяцца з паэмай (як і з яе аўтарам) яшчэ, я б сказаў, па-боску… бо *сам* Колас гэтую прадмову і напісаў. Як пазней зазначае ён у лісце да П. Цярэшкі, больш «такіх паэм, як «Новая зямля», «Сымон-музыка», у мяне няма, і іх не перавыдаюць як паэмы дарэвалюцыйныя і з іншым светапоглядам». Колас быў вымушаны *сам асудзіць сваю паэму,* каб яе (пасля выданняў 1923 і 1927 гадоў) у 1934 годзе перавыдалі. Гэта унікальная (беларуская?) з'ява ва ўсёй сусветнай літаратуры. Паэму трэба было перавыдаць, каб нібыта нанава яе ў літаратуры ўсталяваць, бо праз разносную крытыку пад пагрозай аказалася выданне «Новай зямлі» на рускай мове ў перакладзе С. Гарадзецкага — і за тое, каб напісаць самому прысуд сваёй паэме, Колас яшчэ і змагаўся, бо прысуды іншых

былі, як зараз кажуць, куды круцейшыя. Не буду іх цытаваць — памножце самабічаванне Коласа яшчэ на дзесяць бізуноў…

Асабліва «прынцыповымі» ў адносінах да Коласа (як і да Купалы) былі крытыкі А. Кучар і Л. Бэндэ. Ад прадмовы апошняга да выдання «Новай зямлі» Колас і адбіваўся, напісаўшы сваю прадмову. Бэндэ настойліва слаў Коласу лісты, у адказах на якія Колас ледзь стрымліваўся, прыхоўваючы пачуцці… І ўсё ж яны прарываюцца — найперш у зваротах. У першым лісце да «уважаемого тов. Бенде», якога звалі Лука Апанасавіч, Колас называе яго, нібы не памятаючы сапраўднага імені, *Василий Львович*. Пасля, праўда, *Василия Львовича* Колас закрэслівае, пакідаючы проста «тов. Бенде». У наступным лісце «уважаемый тов. Бенде» становіцца «дорогим товарищем» без імені, праз ліст ён: «Дорогой Лука *или* Василий Афанасьевич!» — а ў чарговых лістах Колас звяртаецца да Бэндэ то «дорогой А. Л!», то, наадварот, «дарагі таварыш Л. А!» — і адказы ягоныя на лісты Бэндэ ўсё карацейшыя і карацейшыя… Колас хоць і ціха, але ўмеў іншым разам за сябе пастаяць.

Непараўнальныя звароты ягоныя ў лістах да Бэндэ са зваротамі да тых людзей, каго Колас любіў ці паважаў: «Мілая, слаўная Марусечка і сынкі!» (у лістах да жонкі і дзяцей); «Милый и дорогой Сережа!» (лісты да С. Гарадзецкага); «Мілы, дарагі, дарагі, мілы Пятрусь!» (ліст да П. Глебкі); «Глубокоуважаемый Ефим Федорович!» (пісьмо Я. Карскаму).

«Новую зямлю» ў 1934 годзе, змучанаму і крытыкай, і самакрытыкай, Коласу ўсё ж удаецца перавыдаць. Ад 1923 года (першае выданне) — у пяты раз. Наступную спробу перавыдання ён робіць у 1937-ым, у жніўні якога піша С. Гарадзецкаму: «Новую землю» и «Сымона-музыку» на днях выпускают из печати», — аднак гэтае «на днях» зацягнулася да 1941 года, калі «Новая зямля» выйшла нарэшце шостым выданнем. Яшчэ складаней было перавыдаць паэму «Сымон-музыка», што ўдалося зрабіць толькі ў 1953-ім.

У красавіку 1938 года Колас пісаў у лісце да П. Глебкі: «Я пагадзіўся з мысляю, што «Новую зямлю» ацэняць людзі потым, калі я буду ўжо нябожчыкам…»

Але вернемся ў 1911 год, у турму, дзе Якуб Колас, пачаўшы пісаць «Новую зямлю», якраз задумвае яшчэ і паэму «Сымон-музыка». Па ягоных словах, «ёй не шанцавала ў сэнсе завяршэння, а падаваць голас аб сабе пачала яна бадай што раней за «Новую зямлю». Я зрабіў асобныя запісы, як толькі наладзіў турэмны побыт. Перада мной стаяў уласны лёс…»

Сапраўды, самая аўтабіяграфічная паэма Якуба Коласа — «Сымон-музыка». Калі мець на ўвазе не біяграфію цела (дзе і калі яно было, што ела і піло), а біяграфію душы — у якія вышыні яна ўздымалася і ў якія прорвы падала. Як па мне, дык «Сымон-музыка» — паэма пра творцу, мастака, пра мройную душу, якая ўсяму таму, *што ёсць цела,* што ўмее толькі спаць, жэрці ды піць, нідзе і ніколі не была і не будзе патрэбная. Таму непатрэбнай была чвэрць стагоддзя — з 1928 (год апошніх уздыхаў беларускага Адраджэння) па 1953 (год скону Сталіна) — і сама паэма.

Патрэбным было іншае… Вось назвы вершаў Коласа, напісаных у 1937–1938 гадах: «Дзед-калгаснік», «Пераможны май», «Міжнародны пралетарскі дзень», «Да дня 20-ай гадавіны Кастрычніка», «Народам СССР», «Да выбараў», «Дэпутат беларускага народа», «Перадвыбарчае», «Менскаму гарсавету», «Я — баец чырвоны», «Камсамольцам», «Чырванасцяжнаму камсамолу», «Іскры Ільіча», «Чырвоная Армія», «Парад маршалу Варашылаву» і да таго падобнае… У артыкуле «Мой творчы год» ён піша: «У 1937 г. я стаўлю перад сабою, як пісьменнікам, дзве задачы: закончыць паэму «На шляхах волі» і напісаць аповесць для нашых піянераў. Гэта будзе аповесць пра тое, як наша баявая піянерская армія змагалася за абарону савецкіх граніц».

15 верасня 1911 года Якуб Колас выходзіць з турмы — і куды падацца?.. Ні кутка, каб жыць, ні занятку, каб на хлеб зарабіць. Толькі «тры сшыткі ў цыратовых вокладках. І ўсе з вершамі… Пайшоў на вакзал і — проста ў Вільню».

Проста з моста… Думаючы, што едзе ён не з пустымі рукамі. У Вільні вершы ўзялі, але не больш за тое…

З успамінаў рэдактара газеты «Наша ніва» Аляксандра Уласава: «Калі К. Міцкевіч адсядзеў турму, Іван Луцкевіч (этнограф і грамадскі дзеяч, імем якога ў канцы 1941 года была названая немцамі вуліца ў Менску, што стала праблемай для Купалы, бо праз савецкія спецслужбы прайшла дэзінфармацыя, нібы тая вуліца, былая Кастрычніцкая, на якой да вайны Купала жыў, названая немцамі ў ягоны гонар. — *У. Н.*), каторы ведаў увесь край, — у кожным закавулку ён меў знаёмых, — намовіў адну сімпатычную старую паню Т. Гардзялкоўскую зрабіць беларускую школу тайную, і Якуба зрабілі вучыцелем яе. *Ён быў першы беларускі вучыцель першай беларускай школы* (тут курсіў мой. — *У. Н.*).

Не рызыкнуўшы ўзяць Коласа (як учарашняга палітвязня) на работу ў рэдакцыю, А. Уласаў піша далей ва ўспамінах: «Як гэта ўсё было там, я не памятаю», — і ці не наўмысна блытаецца ў гадах: Колас настаўнічаў у школе Гардзялкоўскіх у маёнтку Габрылёва-Папоўка ў 1908 годзе, да турмы. А пасля турмы, як успамінае Колас, «пабыўшы ў Вільні, 19 верасня я падаўся ў Смольню з пачуццём выкінутага з жыцця чалавека. Дзверы на работу замкнутыя, падтрымкі няма, кожны агінаецца пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я і пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог.

Тады канчаткова ўжо я абдумаў «Сымона». Уявіў усе колы пакутаў, праз якія ён павінен прайсці, каб духоўна спачыць у апошнім…

Накідаўшы збольшага запеўку, зразумеў, што гэтая работа будзе для мяне стрыжнем. Утрымаюся за яго, — значыць, не звар'яцею, не сап'юся, наогул, не пайду на ніз, у падонкі, у паслугачы».

Хіба не характар?.. А яго ўсё малююць вясковым настаўнікам у шэрым касцюме і кашулі з зашпіленым пад горлам гузікам, які, калі нават задыхаешся, — не расшпіліць, каб крыкнуць…

Зрэшты, малююць не адно настаўнікам… Ва ўспамінах, напісаных пра Якуба Коласа, ён і знешне, і ўнутрана настолькі розны, наколькі розныя людзі, якія сустракаліся з ім і свае ўспаміны пакінулі. Інспектар С. Кваснецкі, які ў 1906 годзе разбіраўся з удзелам Коласа ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе, пісаў: «Мне невольно бросилось в глаза то, что он при объяснениях со мной был скрытным и большею частью молчаливым, причем в его словах и действиях проглядывала какая-то неуверенность и трусость». «Бацька быў сярэдняга росту, даволі моцнага складу, — распавядае старэйшы Коласаў сын Даніла Канстанцінавіч. — Вочы цёмныя. Меў шмат сілы. Мог дужацца з двума-трыма і перамагчы. Любіў цягацца за пальцы і рэдка каго не перамагаў… Па натуры быў маўклівы. Аднак праз гэтую маўклівасць прабівалася яго дабрата… Характарызаваўся вернасцю свайму слову. Ніколі не даваў пустых абяцанак. Калі нешта некаму паабяцаў, дык нават калі б выкананне гэтай абяцанкі патрабавала няведама колькі высілку, абавязкова абяцанку выконваў».

Скульптар Заір Азгур, успамінаючы пра Коласа, згадвае выказванне амерыканскага паэта Генры Лангфела, якое, на думку Азгура, «як нельга лепей характарызуе Я. Коласа». Аўтар «Спеву аб Гаявaце» сказаў пры ўручэнні яму Нобелеўскай прэміі:

«Нішто так не вызваляе нас ад бурлівага самалюбства і марнай мітусні, нішто так не напаўняе наш розум вялікімі ідэямі і ў той жа час нішто не саграе нашае сэрца такой любоўю і пяшчотай, як найцесная сувязь з прыродай».

Што ж, у каго ўжо ў каго, а ў Коласа сувязь гэтая сапраўды была найцеснай, інакш не напісаў бы ён «Новай зямлі». Азгур (не беспадстаўна, дарэчы) называў «Спеў аб Гаяваце» амерыканскай «Новай зямлёй», а «Новую зямлю» — беларускім «Спевам аб Гаяваце». Толькі вось (чаму і не займеў Нобелеўскай прэміі Якуб Колас) не па-ангельску «Новая зямля» напісаная…

Знешне Азгур бачыў Коласа, пэўна, такім, якім сядзіць сёння НАРОДНЫ ПАЭТ на ПЛОШЧЫ СВАЙГО ІМЯ. Мне гэты помнік ніколі не падабаўся: не паэт, а правадыр з народам і інтэлігенцыяй. І хто там ведае, што гэты народ з інтэлігенцыяй — героі ягоных твораў? Нездарма чужаземцы (чаму я сам не аднойчы быў сведкам) блытаюць яго з Леніным. «Гляньце вы, — кажуць, — які ў беларусаў Ленін!..»

Розніца ў гадах, памножаная на павагу да Азгура як да фігуры ў беларускім мастацтве легендарнай, не дазваляла мне наўпрост выказаць яму сваё меркаванне, але неяк я ўсё ж спытаў: «Заір Ісакавіч, ну чаму вы зляпілі Коласа не аднаго, столькі людзей да яго нагналі?» — і ён адказаў (як на той час дык і дзіўна, і хітра, а цяпер дык і не): «Каб яму *са сваімі* не страшна было…»

Найлепей, бадай, удаўся Азгуру партрэт Коласа ў руху, калі Заір Ісакавіч апісвае, як Колас, «седзячы ў крэсле каля акна, за якім шапацеў лістотай і квеценню бэз на фоне нябеснай сіні, раптам неяк пагружаўся ва ўласныя роздумы і пачынаў спакваля (амаль з шэпту) вымаўляць:

Назад не прыйдзе хваля тая,  
Што з быстрай рэчкай уплывае,  
Не раз яна, зрабіўшысь парам,  
На крыллях сонца дойдзе к хмарам.  
Ды йзноў дажджом на рэчку сыдзе —  
Ніхто з граніц сваіх не выйдзе,  
З законаў, жы́ццем напіса́ных…

Абарваўшы страфу, Канстанцін Міхайлавіч глядзеў на мяне сваімі страгаватымі вачамі, на губы ягоныя сыходзіла добрая ўсмешка, і ён чамусьці, нібы просячы прабачэння, паўтараў: «Ніхто не выйдзе… з законаў, жы́ццем напіса́ных… Ніхто…» І ў вачах ззяў прамень дапытлівай і далёкасяжнай думкі».

Мяркуйце самі, наколькі гэты хатні партрэт падобны на той, які на плошчы…

Зусім іншым паэт Якуб Колас, настаўнік з-пад Менска, выглядае ва ўспамінах празаіка Івана Шамякіна, настаўніка з-пад Гомеля. З Якуба Коласа, паводле ўспамінаў Шамякіна, «пісалі ікону», з яго «стваралі звышчалавека». Яго «як у шкарлупіну пасадзілі і гэтым ізалявалі ад бурнага пасляваеннага жыцця». Займаючы пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук, Колас «і ў Акадэміі з’яўляўся на гадзіну-дзве і пісаў там трэцюю частку сваёй трылогіі, паэму «На шляхах волі», якую даследчыкі ўспамінаюць, але рэдка дэталёва разбіраюць». З намёкам на скупасць Коласа Шамякін піша, што сам ездзіў да яго прымаць партыйныя ўзносы, бо Колас прыкідваўся хворым, хоць «пра чалавека ў такім узросце заўсёды можна сказаць, што ён хворы, ведаю пра сябе».

Колас з ягонай сялянскай натурай не мог быць і не быў, канешне, марнатраўцам, транжырам. Умеў берагчы капейчыну. Скупасць ягоная (разам з адарванасцю — праз багацце — ад жыцця) нібыта засведчаная нават у анекдоце пра тое, як на Камароўскім базары ўкралі ў Коласа кашалёк, а ён здзівіўся і спытаў: «Хіба яшчэ некаму патрэбныя грошы?» Толькі і гэты не надта смешны анекдот, і падобныя да яго гісторыі супярэчаць фактам: Колас дапамагаў матэрыяльна мноству людзей. І не толькі сваякам, братам і сёстрам, іх дзецям і пляменнікам, але і чужым. Той жа З. Азгур у сваіх успамінах піша пра «скупасць» Коласа: «На працягу трох гадоў (1925–1927) вучобы ў Ленінградзе, у Інстытуце пры Акадэміі мастацтваў, я штомесячна атрымліваў па 40 рублёў, якія высылаліся мне з Менску дзядзькам Сашам, ці Марыяй Дзмітрыеўнай, ці самім Коласам».

Што ж да «фантастычнага» багацця Коласа, дык ён сапраўды быў не бедны, але і не Ротшыльд. Сынам сваім ён пакінуў «у роўных долях» грашовыя ўклады ў двух ашчадных касах на суму 193 701 рубель 62 капейкі і 1111 рублёў 28 капеек. Па тых часах немалы, можна сказаць, займеў ён жыццёвы заробак, дык жа быў ён Коласам, аўтарам і «Новай зямлі», і «Сымона-музыкі», і трылогіі «На ростанях», і «Рыбаковай хаты», і «Дрыгвы» — і ўсё гэта выдавалася і перавыдавалася.

Партыйныя ўзносы, як піша далей Шамякін, з Коласа хоць і браліся, але «палітыкі стары баяўся. Пры жыцці Сталіна не гаварыў на палітычныя тэмы… У Маскву ён ехаў у спецыяльным вагоне, з буфетам, афіцыянткай. Не інакш… За вершы тыя (маецца на ўвазе «Пісьмо беларускага народа вялікаму

Сталіну», якое вершаваў не адзін Колас, а і Купала, Броўка, Глебка і іншыя. — *У. Н.*) — персанальны вагон… Пасля ён стаў больш дэмакратычны. Нярэдка прыязджаў у «Каралішчавічы» (Дом творчасці пісьменнікаў. — *У. Н.*), каб выпіць чарку з намі, маладымі… Пра літаратуру ён наогул не любіў гаварыць, ды і не ведаў ён яе, навейшай літаратуры. Не, можа, і ведаў, але яўна не прымаў».

Не спрачаючыся з І. Шамякіным, бо *любога* чалавека можна ўбачыць *любым*, бо, як піша сам Іван Пятровіч: «Слабы чалавек. Увогуле чалавек. Колас у тым ліку…», — усё ж выкажу сумненне наконт неабазнанасці Коласа ў літаратуры. Адных рукапісаў «навейшай літаратуры» кожны дзень яму прыцягвалі столькі, што… «Пайшлі яны!..» — іншым разам крычаў ён, калі прыпіраліся ўсё новыя і новыя «маладыя». Нечага, канешне, ён мог не ведаць, нечага не прымаць, але неаспрэчным доказам ягонага выключнага літаратурнага густу з'яўляецца для мяне верш, які ўключыў Якуб Колас у свае ўспаміны пра Янку Купалу. Напісаны ўспаміны часткаю ў 1952, часткаю ў 1955 годзе, але ці да, ці пасля смерці Сталіна — не мае значэння, бо «стары, які баяўся палітыкі», не працытаваў ва ўспамінах (хоць у тыя часы мог і нават *павінен быў* працытаваць) ніводнага палітычнага купалаўскага радка, а толькі адзін з лепшых купалаўскіх вершаў — бездакорны ва ўсім, у тым ліку і ў месцы, у якім ён згаданы: у тэксце, прысвечаным памяці геніяльнага паэта.

**Жніво**

Наспелая постаць шчаслівых пасеваў
За вёскай на сонным лясоў рубяжы,
Ссівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным шаптанні: «Дзе, жнеі мае, вы?»
І жнеі сышліся. — Направа, налева
Кладуцца ў снапы каласы-старажы,
Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўныя, вечна старыя напевы.
Спагадная, нудная песня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белага коласу нівы.
Плыве гэта песня ка мне і заве,
І ў сэрцы звініць, як каса у траве:
«Ты так жа, брат, сееш… а дзе тваё жніва?»

Ведаючы і прымаючы такую літаратуру, астатнюю можна і ведаць ці не ведаць, прымаць ці не прымаць.

Работу над паэмамі, па словах Коласа, «перабіла нетрываласць майго становішча: давялося доўга старацца сталага месца. А калі выстараўся, трымаўся за яго і рукамі і нагамі. Пісаў драбнейшае, а «Новая зямля» і «Музыка» стаялі горкімі напамінамі ўбаку, чакаючы лепшых часоў. Надышлі яны цераз многа год…»

У 1912 годзе, займеўшы на нядоўгі час месца ў 3-ім Пінскім прыходскім вучылішчы, Колас знаёміцца з настаўніцай Пінскай чыгуначнай школы Марыяй Дзмітрыеўнай Каменскай. У чэрвені 1913 года яны пажаніліся, а ў канцы ліпеня, як піша Колас, «мне забрылі лоб».

Пра сваю вайсковую службу і да Першай сусветнай вайны, і ў час яе нічога асабліва гераічнага Колас не згадвае. Хоць мог бы («герояў» на словах ва ўсе часы хапала) — і хто б і як пасля тое праверыў? Але Колас *не ўмее* выдумляць пра сябе, ён *любіць* праўду — гэта ўласцівасць ягонай натуры. З наіўнай прастатой распавядае ён і пра тое, як бегаў, хітраваў, каб яго не ўзялі на службу, і пра тое, як, калі ўжо «забрылі», служыў.

«Упершыню быў мабілізаваны ў 1914 годзе, калі праходзіла агульная мабілізацыя. Боўтаўся з месяц у казарме Серпухаўскага палка ў Менску. Памылковым талкаваннем цыркуляра міністра адукацыі быў звольнены з арміі, настаўнічаў у Пінску. У 15-ым годзе выехаў у Маскоўскую губерню, Дзмітрыеўскі павет, Старыкаўская школа. 6 верасня там жа мяне ў другі раз мабілізавалі і залічылі ў 55-ы пяхотны батальён, у самой Маскве. Батальён быў запасны. Хадзіў спачатку на палявыя заняткі. Потым узводны вызваліў. Пасадзіў складаць і бясконца перапісваць спісы асабовага складу. Так і гнуўся я над рознымі «формамі», пакуль не камандзіравалі ў Аляксандраўскае ваеннае вучылішча. Быў там са студзеня 1916 года. А праз чатыры месяцы выпусцілі, раба божага, прапаршчыкам. У новенькім шынялі, з рамянямі. І чамадан далі.

«Прапаршчыкі жывуць адзін дзень», — казалі тады. Але на фронт я не папаў. Паслалі ў Перм… Адпрасіўся…

Так пакрысе перайшоў я ў 1917-ы. 25 ліпеня прызначылі мяне начальнікам эшалона дэзерціраў. Загадалі везці іх на Румынскі фронт. Зноў дрыжы: паразбягаюцца, а ты адказвай па законах ваеннага часу… Прасіў іх: «Не ўцякайце толькі, хлопцы! Пачакайце, пакуль прыедзем на пазіцыю!» Паслухалі…»

Ну вось распавядаючы пра дэзерціраў, пра салдат, якія ўжо былі на фронце і маглі ўзбунтавацца, паспрабаваць прыстрэліць яго і разбегчыся, мог жа ён прыдумаць пра сябе нейкую гераічную гісторыю? Хоць з пісталета, калі ты ўжо прапаршчык, пастраляць?.. Дык не: «Не ўцякайце, хлопцы, пачакайце…» Не выдумляе ні лепшага, ні горшага. Як было — так было.

«Не пакінулі мяне на пазіцыі, залічылі ў 70-ую дывізію, не помню, у які полк. Быў у румынскім горадзе Бакеа, потым у сяле Карадул. Тут навaліліся ўсе хваробы, далі адпачынак… Паехаў у Абаянь да сям'і (жонка Коласа з двума малымі дзецьмі была ў гэты час у бежанцах — у горадзе Абаянь на Куршчыне, дзе пасля эвакуацыі з Вільні жыла яе маці. — *У. Н.*). Было там усім галадна і халадна. Калі ў 1921 годзе нам далі цяплушку і перавезлі ў Менск, што больш за ўсё ўразіла? Каля саменькага вакзала прадаваўся сітні хлеб… А жылі мы на адной бульбе. На цэлы тыдзень мелі мы на чатыры душы 21 бульбіну».

З перадваенных і ваенных вандраванняў амаль саракагадовы Колас вяртаецца не настаўнікам і не падпаручнікам, чын якога атрымаў у лютым 1917 года, а ўжо знакамітым літаратарам, паэтам. У «Curriculum vitae» («Кола жыцця», *лац.*), якую прадстаўляе ён у літаратурную прадметную камісію Белдзяржуніверсітэта, значацца дванаццаць кніг. У Вільні выйшла «Гісторыя беларускай літаратуры», у якой М. Гарэцкі называе Я. Коласа *класікам беларускай літаратуры.* Наркамасветы БССР прыспешвае прыезд Коласа ў Менск, накіраваўшы Абаянскаму павятоваму аддзелу народнай асветы ліст, у якім «Наркомпросбел обращает внимание на то, что Белорусская Республика вправе желать видеть лучших своих культурных деятелей у себя, работающими согласно их призванию, и что совершенно недопустимо при бедности Белоруссии такими выдающимися работниками — задерживать их вне пределов Белоруссии». Копія ліста накіроўваецца Курскаму губернскаму аддзелу народнай асветы — і адначасова ляціць тэлеграма ў Маскву Наркаму асветы А. Луначарскаму з просьбай «телеграфно предписать Обоянскому Курской губернии уотнаробразу немедленно откомандировать в распоряжение Наркомпроса Белоруссии школьного инструктора Константина Мицкевича, псевдоним Якуб Колас, одного из лучших белорусских писателей…»

Колас прыязджае ў Менск 15 траўня, жыць уладкоўваецца на кватэру па вуліцы Старажоўскай, а працаваць — у навуковатэрміналагічную камісію Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы. 17 траўня газета «Савецкая Беларусь» друкуе прывітанне на

ягоны прыезд: «У нядзелю вярнуўся ў Менск пасля доўгай адсутнасці беларускі паэт Якуб Колас. Вымушаны пакінуць сваю радзіму пад уціскам цяжкіх умоваў, звязаных з ваенным ліхалеццем, абрушаным на Беларусь, Якуб Колас вярнуўся ўжо ў Вольную Айчыну, аб якой ён пяяў у сваіх вершах і змагаўся доўгія часы. Вітаем дастойнага сына працоўнага беларускага люду!»

19 траўня на ўрачыстым спатканні ў Беларускім рабочым клубе зачытваецца прывітальны ліст «Якубу Коласу ў дзень яго звароту на Беларусь» ад старшыні беларускага ўрада А. Чарвякова: «Шчыра вітаю ўзварот на Бацькаўшчыну аднаго з першых правадыроў аслабанення рабочых і сялян Беларусі ад іх класавых ворагаў — беларускага песняра і палітычнага дзеяча…» і г. д.

Пачынаецца ў Коласа жыццё новае, незнаёмае… Напачатку з дробязей.

*«6/XI-21 г.*

В Коммунальный отдел.

Наркомпрос Белоруссии настоящим просит Коммунальный отдел разрешить члену Научно-литературной комиссии при Академическом центре Наркомасветы К. Мицкевичу, проживающему по Сторожевской улице в д. 1, кв. 3, провести электричество о 2 (две) лампочки.

Комиссар (У. Ігнатоўскі)».

Цікава, што за тры месяцы перад тым, 8 ліпеня 1921 г., з Наркамата асветы накіроўваецца просьба *«выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу)»*. Ім абодвум ад самага пачатку пачалі даваць прыблізна пароўну: Купалу — два боты, Коласу — дзве лямпачкі...

У 1922 годзе на базе навукова-тэрміналагічнай камісіі засноўваецца Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), і Колас (разам з Купалам) становіцца яго правадзейным сябрам.

У кастрычніку 1926-га адзначаецца 20-годдзе творчай дзейнасці Якуба Коласа. З гэтай нагоды Савет Народных Камісараў БССР прымае пастанову:

«Прызнаючы за вялікую важнасць для працоўных беларусаў і беларускае культуры літаратурна-мастацкую дзейнасць Я. Коласа, СНК БССР пастанаўляе:

1. Надаць Якубу Коласу годнасць народнага паэта (Купала ўжо народны годам раней, і ў запісцы сакратара СНК БССР загадчыку пратакольнага аддзела ўказваецца, што трэба «Коласу паслаць здымак з пастановы» і наогул усё «зрабіць так, як рабілі з пастановай аб Янку Купалу». — *У. Н.*).

2. Прызначыць Якубу Коласу пажыццёвую пенсію ў размеры стаўкі адказных палітычных працаўнікоў БССР.

3. Прыняць да ведама пастанову Народнага камісарыята асветы аб адзначэнні 20-гадовай літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа ўрачыстым святкаваннем яго юбілею ў культурна-асветніцкіх установах БССР».

У студзені 1927 года Якуб Колас абіраецца правадзейным членам «Таварыства аматараў расійскай славеснасці» пры Дзяржаўным Маскоўскім універсітэце. У красавіку 1927 года Якуб Колас (разам з Купалам) абіраецца кандыдатам у члены ЦВК. У гэтым жа годзе для Коласа выдзяляецца асобны двухпавярховы дом па Вайсковым ( у той час 2-ім Шпітальным) завулку *(на трэці дзень вайны дом згарэў, зараз гэта тэрыторыя парку імя Горкага)*.

У снежні 1928 года пастановай Савета Народных камісараў БССР Міцкевіч Кастусь Міхайлавіч (Якуб Колас) зацвярджаецца (разам з Купалам) правадзейным членам Беларускай акадэміі навук, абіраецца віцэ-прэзідэнтам Акадэміі.

У студзені 1929 года пастановай СНК БССР Якубу Коласу (разам з Купалам) павялічваецца пенсія да сярэдняй стаўкі акадэмікаў Беларускай акадэміі навук.

У снежні 1932 года — урачыстае святкаванне юбілею Я. Коласа, 50-годдзя з дня нараджэння.

У студзені 1935 года Якуб Колас з кандыдата ў члены ЦВК пераабіраецца ў члены ЦВК БССР і зацвярджаецца членам Прэзідыума Акадэміі навук.

У кастрычніку 1936 года — святкаванні 30-годдзя літаратурнай дзейнасці. СНК БССР і ЦК КП(б)Б прымаюць пастанову «Аб узнагароджанні народнага паэта БССР Якуба Коласа:

1. За выдатныя заслугі ў галіне беларускай мастацкай літаратуры ўзнагародзіць народнага паэта Беларускай Рэспублікі Якуба Коласа легкавой аўтамашынай.

Машыну ўзяць на абслугоўванне за кошт дзяржавы.

2. Пабудаваць за кошт дзяржавы дачу для Якуба Коласа з поўным абсталяваннем.

3. Прыняць за кошт дзяржавы ўтрыманне і рамонт жылога дома, у якім жыве народны паэт БССР Якуб Колас».

У студзені 1939 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай мастацкай літаратуры Якуб Колас узнагароджаны ордэнам Леніна. Пазней (у 1944, 1949 і 1952 гг.) Колас займее яшчэ тры ордэны Леніна, а да іх — абодва ордэны Чырвонага Сцяга, Баявога і Працоўнага).

У сакавіку 1940 года Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (Якуб Колас) абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР…

Сталінскую прэмію адразу ўслед за Купалам не дазволіла атрымаць Коласу вайна — і прэмія гэтая (першай ступені) была прысуджаная яму ў 1946-ым, на 40-годдзе літаратурнай дзейнасці…

Што мусіш рабіць, калі ўсё гэта прымаеш?.. Мусіш служыць.

Усё ў жыцці Коласа, як і ў жыцці Купалы, знешне выглядае так, што лепш не бывае. Усім на зайздрасць… Але, хоць афіцыйна Колас прызнаны і ўслаўлены, адначасова з пастановамі аб ягоных званнях і ўзнагародах пішуцца і іншыя паперы. Адна з іх — дакумент, падпісаны 23 кастрычніка 1938 года Народным камісарам унутраных спраў БССР, маёрам Дзяржаўнай бяспекі А. Наседкіным.

«Совершенно секретно. Секретарю ЦК КП(б)Б тов. Пономаренко. Лично. Об имеющихся компрометирующих материалах на членов Союза советских писателей БССР…

Мицкевич Константин Михайлович, литературный псевдоним Якуб Колос и Тарас Гуща, 1882 г. рождения, уроженец застенка Акинчицы Минского уезда (Польша), белорус, беспартийный, народный поэт БССР, вице-президент Академии наук БССР, член правления Союза советских писателей СССР и БССР.

Крупнейший белорусский писатель, поэт и прозаик. Один из лидеров нацдемовского движения в Белоруссии, закадычный друг Янки Купалы.

Вместе с Купала редактировал в 1908–1912 годах белорусскую буржуазно-националистическую газету «Наша нива» в г. Вильно (Польша)».

Спынімся тут, каб заўважыць, як пры ўсёй быццам бы пераканаўчасці, дакументальнай дакладнасці і гэтай, і падобных да яе папераў падганяліся ў іх *пад зададзены вынік* дакументы і факты. Ну як мог Колас рэдагаваць газету «Наша ніва» ў 1908–1912 гадах, калі ён сядзеў у турме? Ды яшчэ рэдагаваць газету ў Вільні на пару з Купалам, які з 1909 па 1913 год вучыўся ў Пецярбургу?..

Чытаем «дакумент» далей.

«В период белопольской оккупации Белоруссии был близко связан с белооккупантами и принимал деятельное участие в работе созданных поляками здесь антисоветских национали-

стических организаций «Белорусский национальный комитет», войсковая комиссия и др.».

Коласа «в период белопольской оккупации» проста не было ў Беларусі…

«После изгнания белополяков из Белоруссии вместе с Купала по заданию польской разведки принимает активное участие в создании так наз. нацдемовской организации в Белоруссии».

Вось тут, кажучы пра *так наз. нацдемовскую организацию в Белоруссии,* маёр дзяржбяспекі Наседкін, а з ім усе тыя, хто да гэтага «дакумента» меў дачыненне, самі ж прагаворваюцца, бо ніякіх *так наз. нацдэмаўскіх арганізацый* насамрэч не было, яны прыдуманыя (разам з назвай) у той самай «конторы», дзе рыхтаваўся гэты «дакумент».

«В период 1921–1930 гг. систематически участвует в нелегальных сборищах нацдемов, проводившихся на квартире Купала и у него.

Является одним из организаторов нацдемовской литературной организации «Полымя», автор целого ряда антисоветских «нацдемовских» литературных произведений. Его поэма «Новая земля» переведена в большинстве стран Европы».

Што ж, здавалася б, кепскага ў тым, што «Новая земля» переведена в большинстве стран Европы?». Але ж паэма «нацдэмаўская». Значыць, кепска, што перакладаецца… У тым ліку і на рускую мову.

Дарэчы, пра пераклады і перакладчыкаў, пра атмасферу тагачаснага літаратурнага жыцця, у якім амаль што ўсе «бдили». Бо, як тады казалі: «если не «убдишь» ты, так «убдят» тебя».

Летам 1937 года генеральны сакратар Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР У. Стаўскі пераадрасоўвае 1-му сакратару ЦК КП(б) Беларусі В. Шаранговічу (папярэдніку П. Панамарэнкі) ліст паэта і перакладчыка М. Ісакоўскага.

«Ставлю Вас в известность о следующем факте: я получил из Гослитиздата целый ряд стихов Якуба Коласа для перевода на русский язык. Стихи эти должны были войти в книгу названного автора, которую готовит к печати Гослитиздат.

Среди полученных мною стихов было одно под названием «Полымя». Это стихотворение имело подзаголовок — «Вместо приветствия к 5-ой годовщине».

Вначале я не обратил на это стихотворение особого внимания, полагая, что оно посвящено журналу «Полымя революции». Но через некоторое время увидел, что дата написания стихотворения — 1926 г., и понял, что пятилетия этого журнала в этом году

быть не могло, т. к., насколько мне известно, издание журнала «Полымя революции» началось значительно позже.

Не будучи хорошо осведомленным в белорусских делах, я начал по разным источникам наводить справки о «Полыме». Причем, выяснилось, что «Полымя» — это контрреволюционная нацдемовская организация, которая была в свое время разоблачена. И этой-то организации Якуб Колас посвящает стихи, включая их в книгу, которая должна выйти в 1937 г.

В названном стихотворении Колас сравнивает «Полымя» с приветливым огоньком среди темной и страшной ночи.

Имея в виду тот смысл, а также тот объект, которому посвящено стихотворение, нельзя сделать иного вывода, как тот, что стихотворение «Полымя» явно контрреволюционное: все, мол, кругом темно, страшно, мрачно и т. д. и светит только один приветливый огонек, и этот огонек — «Полымя» (т. е. нацдемовская литературная организация).

Я немедленно позвонил редактору книги Коласа — Городецкому, чтобы стихотворение было снято, и тот согласился со мной (нездарма, відаць, 13 жніўня 1956 года, у дзень смерці, Колас пачынае ліст да Гарадзецкага: «Дорогой, хоть и не очень преданный мой друг Сергей!» — *У. Н.*).

Но сейчас важно выяснить другой вопрос — почему Колас включил это произведение в свой сборник? Не знать о контрреволюционной сущности организации «Полымя» Колас не мог. Значит, напрашивается вывод, что сделано это с враждебными целями.

Во всяком случае, дело это, по-моему, требует расследования и я прошу… принять необходимые меры.

19/05.1937.

М. Исаковский».

Што мог ведаць Ісакоўскі, паэт маскоўскі, пра *так наз. контрреволюционную нацдемовскую организацию «Полымя»?* Мяркую (ды і з даносу яно відаць), што нічога. Значыць, яму падказалі тое, што *трэба было* ведаць, а далей ужо заставалася толькі *бдить*.

Ва ўсе свае прыезды ў Маскву Колас прывозіў Ісакоўскаму (як і Гарадзецкаму) беларускія пачастункі. Сала, вяндліну, гарэлку… Ісакоўскі пачастункі прымаў. На святкаванні 70-годдзя Якуба Коласа ў Цэнтральным Доме літаратара выступіў, усслаўляючы юбіляра як свайго «задушевного белорусского друга».

Так яны жылі…

А мы не так жывём? Ну, можа, і інакш…

Народны камісар унутраных спраў БССР, маёр Дзяржаўнай бяспекі А. Наседкін завяршыў кампрамат на Якуба Коласа наступным абзацам:

«Показаниями разоблаченных нами 31 участника антисоветского подполья в Белоруссии, на протяжении 1937–1938 гг. изобличается как один из руководителей нац.-фашистского подполья и польский шпион».

Ні больш ні менш. Ад смяртэльнай небяспекі трэба было неяк ратавацца, а паратунак быў у адным: у пакаянні…

Першы раз пакаяцца змусілі Коласа яшчэ ў 1925 годзе — у сувязі з «лістападаўскай справай»: судовым працэсам над «контррэвалюцыйнай, антысавецкай групай» на чале з Юрыем Лістападам. Пры вобыску ў Лістапада знайшлі фотаздымак Якуба Коласа, у членаў групы — ягоныя вершы. Намеснік паўнамоцнага прадстаўніка ДПУ па Беларусі І. Апанскі адразу ж падпісаў ордэр на вобыск у грамадзяніна Міцкевіча — Якуба Коласа, у паперах якога знайшоўся ліст ад члена лістападаўскай групы Нічыпара Мяцельскага з вершам «Дзе?»:

Дзе свабодны дух народа?
Дзе свабодных думак рой?
Дзе жаданне стаць сцяною,
За свабоду ісці ў бой?..

Назаўтра пасля вобыску, 25 кастрычніка 1925 года, Коласа выклікаюць на допыт у ДПУ. Адзін з членаў лістападаўскай групы (М. Дземідовіч) на яго паказвае:

«Колос — всемирно известный белорусский поэт и националист, ярый защитник белорусских прав и крестьянства, известный организатор в Минске Самостоятельной Вольной Белоруссии в крестьянских интересах. Со мной связи не имеет. С Метельским только и знается с Макареней. В работе мы получали указания от Макарени, а тот от Метельского, а он (Метельский) или сам, или от Коласа — не знаю…»

Якуб Колас на допыце ўсе абвінавачванні катэгарычна адмаўляе: «По поводу предъявленных мне следственных и др. документов, указывающих на то, что я стою во главе Минской антисоветской организации, то могу сказать, что я ни в каких политических организациях при Соввласти не состоял и не состою. Я этим совершенно не интересуюсь. Имею заявить, что произведенный у меня обыск ГПУБ 24 октября 1925 г. считаю

вполне законным и необходимым, т. к. у ГПБУ для этого было достаточно материалов…»

«Имею заявить, что обыск считаю вполне законным…» — гэта яго само «ГПБУ» напісаць і папрасіла. На ўсялякі выпадак, бо яшчэ ва ўсе бакі вецер…

Перад судом Міхась Дземідовіч ад сваіх паказанняў адмовіўся, але гэта ўжо не мела значэння: Коласа змусілі да пакаяння. «Мой грамадзянскі абавязак, — напіша ён у пазнейшых паказаннях, — падказаў мне публічна выступіць у савецкай прэсе і заявіць аб маім палітычным Credo («Савецкая Беларусь» № 277, 6 снежня 1925 г.)». А 10 снежня, праз чатыры дні пасля публічнага выступлення Коласа, намеснік старшыні ДПУ Беларусі І. Апанскі заявіць у той жа газеце пра ліквідацыю контррэвалюцыйнай арганізацыі, «якая згуртавалася вакол выкладчыка беларускай мовы ў Слуцку *якогасьці* Лістапада».

На гэтым, зразумела, нічога не скончылася, бо скончыцца не магло. Пасля падрыхтоўчых 20-ых гадоў наперадзе былі вырашальныя 30-ыя…

15 лістапада 1930 года, вечарам у суботу, на допыт у ДПУ выклікаецца Янка Купала, а 16 лістапада, з раніцы ў нядзелю, Якуб Колас. Ягоныя паказанні, пазначаныя тым днём, варта прывесці цалкам.

«16-га лістапада 1930 года мне былі прад'яўленыя абвінавачванні праз паказанне некаторых асоб (паказанні былі выбітыя з акадэміка С. Некрашэвіча, прафесара Я. Лёсіка ды інш. — *У. Н.*), арыштаваных па справе нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыйнай арганізацыі (Саюза вызвалення Беларусі. — *У. Н.*), паказанні ў тым, што я быццам бы належу да «руководящего центра и являюсь идеологом» гэтай контррэвалюцыйнай арганізацыі. Я катэгарычна пратэстую супроць гэтага цверджання, як неабаснованага на фактах, цверджання галаслоўнага, не адпавядаючага сапраўднасці, цверджання, якое з'яўляецца хлуснёй і агаворам у мэтах для мяне невядомых. Аглядаючыся на пройдзены шлях сваёй работы за час майго ўдзелу ў беларускіх інстытуцыях з 1921-га года, калі я прыехаў у Менск (Тэрміналагічная навуковая камісія, Інстытут беларускай культуры) і праглядаючы астаўленыя сляды гэтай работы на падставе таго невялікага матэрыялу, які ў даны момант ёсць у мяне пад рукою, я павінен прызнаць, што я своечасова не адзначаў многа якіх нацыянал-дэмакратычных контррэвалюцыйных ідэалагічных вывіхаў у рабоце адзначаных інстытуцый.

Перада мною першы № журнала «Адраджэнне» за 1922 г. Літаратурна-навуковы веснік Інстытута беларускай культуры, дзе між іншым змешчаны: некаторыя мае творы (два ўрыўкі з паэмы «Новая зямля», «У Палесскай глушы»). Не даючы падробнага аналізу часопіса ў цэлым, як з выразна нацыянал-дэмакратычнай афарбоўкай, спынюся на некаторых яе момантах. Так у артыкуле «Якуб Колас як нацыянальны беларускі паэта» з першага ж абзаца даецца няправільная, не марксісцкая ўстаноўка. «Гісторыя кожнага народа ёсць выяўленне нацыянальнага характару з боку валявога; літаратура ёсць выяўленне гэтага характару з боку інтэлектуальнага і галоўным чынам эмацыянальнага: у літаратуры адбіваецца складаны комплекс думак і пачуццяў народа». У гэтым і ў шмат якіх іншых абзацах таго ж артыкула даецца не марксісцкая, а нацыянал-дэмакратычная афарбоўка і наогул шкодная контррэвалюцыйная ўстаноўка. Гэты нацыянал-дэмакратызм раскідан скрозь па часопісе. Найболей жа ярка выражаны ён у «Крыніцы беларускага культурнага жыцця». Спыняцца падробна на кожным праяўленні вузкага, абмежаванага нацыянал-дэмакратызму — значыць патраціць многа часу, а таму абмяжуюся агульнаю заўвагай: усе гэтыя праявы носяць надзвычай вузкі, абмежаваны характар, які не мае нічога супольнага ні з марксізмам, ні з задачамі нацыянальнай палітыкі партыі і Савецкай улады, а таму непатрэбны, шкодны і контррэвалюцыйны. Такіх праяваў многа і ў артыкуле-дакладзе Лёсіка «Нацыянальныя элементы ў творчасці Якуба Коласа і Тараса Гушчы». Павінен адзначыць асобна агідны факт ацэнкі выданняў Беларускага каапераыцыйнага выдавецтва т-ва «Адраджэнне», дзе аўтар рэцэнзіі паўстае супроць афармлення вокладкі і факта знаходжання на ёй «кляйма фірмы з пралетарскай сімвалістыкай». Такую выхадку лічу контррэвалюцыйнай і ў ніякай меры не дапушчальнай. Падводзячы падрахункі ўсім гэтым контррэвалюцыйным вывіхам, шавінізму, нацыянал-дэмакратызму, я павінен прызнаць сваю віну ў тым, што я своечасова не пратэставаў супроць такой дзейнасці тых інстытуцый, дзе прымаў удзел і я, што дае аб'ектыўна повад лічыць мяне салідарызаваным з такім характарам паказанай работы *(тут у Коласа стаіць кропка, але пасля яе між радкамі дробна ўцíснута:* і з асобамі, якія вялі яе).

Каб у далейшым адмесці ад сябе ўсякія магчымасці залічыць мяне ў стан антысавецкіх, контррэвалюцыйных элементаў, я катэгарычна і рашуча заяўляю, што я самым цвёрдым і катэгарычным чынам адмяжоўваюся ад усяго, што праціўна духу Савецкай

улады і Камуністычнай партыі, што я парываю з нацыянал-дэмакратычнымі канцэпцыямі, калі яны яшчэ хоць падсвядома жывуць у маёй псіхіцы, і сваёю дзейнасцю літаратурнага і грамадскага характару пастараюся апраўдаць тое высокае давер'е, якое аказвае мне партыя бальшавікоў і Савецкая ўлада.

*16.XI.1930.*

Якуб Колас».

Я прывёў гэтае пакаянне Коласа цалкам, бо, па-першае, яно найкарацейшае з усіх, а па-другое, з яго добра відаць, як следчы выкручвае Коласу рукі: ты не проста пакайся — ты здайся! Ты нам каго-небудзь *здай* — вось што нам ад цябе трэба, а не тваё «стаpанні ў апраўданні высокага давер'я». Калі *здасі,* тады, можа быць, мы табе і паверым. Нават, можа, даруем. І Колас *здае* часопіс, выдавецтва… і Лёсіка, свайго дзядзьку.

Вініць за гэта Коласа?.. Але ж Лёсік ужо арыштаваны і, седзячы ў турме, *здае* Коласа з Купалам (адзін з якіх ягоны пляменнік, а другі — блізкі сябар), прыпісваючы іх да «контррэвалюцыйнага кіраўнічага цэнтра» СВБ.

Вініць за гэта Лёсіка?.. Але ж у сваіх паказаннях *здаюць* адзін аднаго (і Коласа з Купалам) і Некрашэвіч, і Цвікевіч — усе *здавалі* ўсіх…

Магчыма, менавіта гэтага і не вытрываў Купала: 20 лістапада ён не пайшоў на другі допыт, а ўзрэзаў сабе жывот. Хоць ягоны развітальны ліст да старшыні ЦВК А. Чарвякова — гэта тыя ж паказанні (ці пакаянні) на допыце.

У Коласа нервы мацнейшыя, і 20 лістапада, у той жа дзень, у які зрабіў Купала замах на сваё жыццё, Колас піша новае пакаянне, не ўзразаючы жывата. Гэта ўжо не паўтары (як папярэднія) старонкі, напісаныя размашыстым почыркам, а чатыры старонкі з почыркам акуратна-ўборыстым. Прывяду толькі заканчэнне:

«…Лічу сваім грамадскім абавязкам адкрыта заявіць і прызнаць сваю віну ў наступным:

1. Пасіўныя адносіны да тае работы, якая была даручана Савецкаю ўладаю беларускім інстытуцыям (Тэрміналагічная камісія, Інбелкульт, БАН), прызначаным для абслугоўвання культурных патрэб пралетарскіх мас.

2. Невыразнасць мае пазіцыі ў адносінах да нацдэмаўшчыны.

3. Недаацэнка метадаў пралетарскай самакрытыкі як зброі ў руках пралетарыяту ў змаганні за чыстату генеральнай лініі партыі.

4. Несвоечасовае рэагаванне на ідэалагічныя вывіхі, на скажэнне заданняў партыі і Савецкай улады ў правядзенні нацыянальнай палітыкі, на контррэвалюцыйныя выступленні беларускіх нацыянал-дэмакратаў, выяўленых у лісце трох пісьменнікаў, у тэатральнай дыскусіі, у чыстцы Жылуновіча і інш.

5. Няпоўны разрыў з нацыянал-дэмакратычнымі настроямі.

6. Няўвязка мае літаратурнае працы з пралетарыятам фабрык і заводаў.

7. Адрыў ад савецкай і пралетарскай грамадскасці.

Гэтае маё прызнанне сваіх памылак, жаданне і абяцанне зжыць іх, вытруціць з свайго нутра не ёсць галаслоўная дэкларацыя: сваёю літаратурнаю і грамадскаю работаю на карысць пралетарскай грамадскасці я пастараюся давесці на справе.

Якуб Колас. *20.XI.1930*».

Бадай што паэма «Сымон-музыка», якую Колас перапісваў тройчы, не далася яму так цяжка, як гэтыя пакаянні… І калі ён думаў, што ўжо ўсё, адкаяўся — дык памыляўся. Яго змушаюць не ў агульных фармулёўках («няпоўны разрыў, недаацэнка метадаў, няўвязка працы»), а наўпрост і канкрэтна прызнаць сваю віну, што ён і робіць, напісаўшы 30 лістапада яшчэ адзін пакаяльны ліст, надрукаваны 3.XII.1930 года ў газеце «Звязда» пад назваю «Супроць «адраджэнцаў» буржуазнай Беларусі». Колас прызнае ў лісце, што «ў шкоднай контррэвалюцыйнай рабоце, побач з актыўнейшымі прадстаўнікамі беларускага нацыянал-дэмакратызму, прымаў удзел і я…» І ў гэтым жа нумары газеты называюцца імёны тых, побач з кім прымаў Колас удзел «у шкоднай контррэвалюцыйнай рабоце»: той жа Лёсік, Цвікевіч, Ластоўскі, Смоліч… Праз тыдзень, 10 снежня, свой пакаяльны ліст напіша (а дакладней, падпіша) і Купала — што яму, калі жывы застаўся, было яшчэ рабіць?.. Гэтаксама можна спытаць: як і што было рабіць Коласу пасля развітальна-пакаяльнага ліста Купалы?.. Хіба толькі напісаць яшчэ (12 снежня) адкрыты ліст да моладзі: *«Дык шчыльней жа пад сцяг Камуністычнае партыі!..»* — да чаго яго пасля трэцяга пакаяльнага ліста, разагнаўшыся, змусілі, часова пакінуўшы ў спакоі Купалу.

Як яны адзін перад адным — і кожны сам па сабе пачуваліся?.. Колас казаў: «Мы забыліся, калі смяяліся».

Тут узнікае, няхай на тле вечнасці і не такое важнае, але і не самае дробязнае пытанне: а якія ў іх адносіны былі — у Коласа з Купалам? Сапраўды сяброўскія?.. У людзей, якія пазнаёміліся,

калі кожнаму было па трыццаць? У паэтаў, якія вялі няспыннае саперніцтва? Прычым саперніцтва на вастрыі ляза… Прычым калі адзін з іх, які на некалькі месяцаў раней нарадзіўся і на год раней першы верш надрукаваў, быў заўсёды на крок наперадзе… «Я старэйшы… — перадае Колас быццам бы жартаўлівыя словы Купалы пры іх першай сустрэчы, — я ўжо сваёй маці ўсміхаўся, а ты яшчэ і разу ў калысцы не вякнуў».

«Той-сёй можа падумаць, што паміж мною і Купалам сапраўды ляжала нейкая непрыязь, — прагаворвае Колас, нібы наперад пярэчачы такому меркаванню. — І нібыта вынікала яна праз спаборніцтва за першае месца».

Так, «той-сёй» можа такое падумаць… Як, зрэшты, і такое: «Мы з Купалам думалі з першых сваіх крокаў пра адно…»

Адно ў іх сяброўстве для мяне відавочна: Колас *стараўся* сябраваць. Чаго не скажаш пра Купалу, хоць гэта якраз ён першы крок да іх сяброўства зрабіў, завітаўшы ў пачатку жніўня 1912 года ў Смольню, дзе беспрытульны Колас, жывучы ў той час то ў Лунінцы, то ў Беларучах, то ў Стоўбцах, аказаўся выпадкова, «наездам». Яго і ў хаце не было, у Мікалаеўшчыне «гуляў», калі прыйшоў Купала, намуляўшы ў дарозе ногі новымі чаравікамі. «Ішоў да мяне пешкі, бо пашкадаваў грошы на фурманку. Чорт яму плаціў, таму балаголу, лепей прыхапіць непустую пасудзіну».

Што ж сталася пры непустой пасудзіне?.. «Спярша страшэнна саромеліся адзін аднаго. *Я стыдаўся свайго таннага лапсардачка — Купала ў новым пільчаку выглядаў куды ямчэй*… Мы больш маўчалі і часцей, чым належала, кулялі чаркі. Разгаварыліся, як добра асвойталіся. *Янка даволі многа ведаў, ён у шырэйшым свеце нігаў»*.

У словах Коласа мной вылучана тое, што, як мне здаецца, ад пачатку вызначыла *няроўнасць* ва ўзаемаадносінах паэта ў *лапсардачку* і паэта ў *пільчаку*. Хоць назаўтра, развітваючыся ў хмызняку, яны на роўных спявалі:

А каваль мяне пазваў —
Малаток у рукі даў.
Ой, хачу ці не хачу,
А ўжо бабаю хаджу.

Наступным разам, летам 1913 года, Колас з Купалам коратка спаткаліся ў Вільні, дзе надоўга развіталіся, а з пачатку 20-ых, вярнуўшыся з вандраванняў, кожны са сваіх, жылі ў Менску да

чэрвеня 1941 года амаль суседзямі: аднаму да аднаго — праз парк прайсці…

5 студзеня 1923 года Колас піша ў лісце да жонкі, якая з дзецьмі жыла ва ўрочышчы Антонаўка (зараз гэта Менск, раён чыгуначнай станцыі Усходняя: «На Новы год я заходзіў толькі да Купалы. Купала быў у мяне… Сёння ж закончыў я «Новую зямлю».

Ёсць аповед, са словаў Коласа пераказаны Максімам Лужаніным, у які я — пры ўсім жаданні — ніяк не магу паверыць.

«У мяне з Янкам такая размова была. Ён падараваў мне новы том. Я і ўзяўся за кнігу. Засланіў «Курган» мне ўсю работу: хаджу, паўтараю. Дацягнуў да вечара і не ўтрываў: дай схаджу да Купалы, скажу яму, што вельмі гэта добры твор. Аж тут сам Купала на маім панадворку. Янка гаворыць: «Ведаеш, Каласок, якое здарэнне? Я ўвесь дзень твайго «Сымона» чытаў. Прыбіліся да мяне спачатку радкі: «Восень прала кужаль тонкі, павуціння белы лён». Пачаў шукаць той раздзел, ды неўзаметку ўсю кніжку прачытаў. Вось прыйшоў табе сказаць». Я паказваю на кіёк, кажу, што з тым самым намерам выбіраўся да яго. Пасмяяліся мы і замачылі крыху ўзаемнае прызнанне…»

Паверыць у гэтую калядную паштоўку з анёламі я не магу не толькі праз сведчанне сына Коласа Данілы Канстанцінавіча: «Купала чакаў, пакуль Колас першы наведае яго або пазвоніць». Ці праз сведчанне самога Коласа: «Сустрэнешся з ім, бывала: «Здароў, Янка!» — «Здароў, Якуб!» Часамі на гэтым і гаворка ўся». Калі Колас і распавядаў Лужаніну пра «ўзаемнае прызнанне, якое замачылі крыху», дык толькі таму, што хацеў, каб так яно было. Бо ўсведамляў, разумеў, *якую* ён, на ўсе вякі, напісаў паэму, а Купала пра яе — ні слоўца. Дык Колас тады ўжо сам давай намякаць, што такой паэмы ў Купалы няма, але яму здаецца, «што Купала вось-вось разгорнецца ў шырокім творы. Такога твора я чакаю, сам смуткую па ім. А найбольш па тым, што не пашчасціў лёс, не даў узяцца за яго Янку».

«У 1925 годзе, — піша ў кнізе сваіх успамінаў «Любіць і помніць» Даніла Міцкевіч, — калі ўрачыста адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы, «Маладняк» паднёс юбіляру адрас, дзе, зразумела, былі выказаны самыя цёплыя словы. Але ў адрасе быў выпад супраць Якуба Коласа. Юбіляр прыняў віншаванне. Бацька пакрыўдзіўся… Колькі разоў казаў, што ён, Колас, у аналагічным выпадку не прыняў бы такога адраса, калі б у ім зняважылі Купалу».

Як кажуць, не факт, але, можа быць, і не прыняў бы…

Ці вось, калі ласка, не меркаванне, а сапраўды факт: у траўні 1938-га Купала хварэе на крупознае запаленне лёгкіх — і Колас амаль месяц штодня (!) наведвае яго ў шпіталі. А ў 1939-ым, 23 лютага, Колас піша ў лісце да С. Гарадзецкага: «С неделю тому назад была телеграмма от Лозовского — прислать стих. к XVIII съезду партии. Написал, послал через Янку. А 21.02. снова получаю телеграмму с напоминанием о высылке стихотворения к 25.02. Выходит, что Янка не передал…»

Лішне казаць, наколькі сур'ёзна па тых часах Купала падводзіў Коласа, які, вынікала, нібыта цягнуў ці нават страйкаваў з вершам да з'езда партыі. А 10 сакавіка 1939 года яны разам падпісваюць прывітанне XVIII партыйнаму з'езду.

Тым не менш усё гэта, можна лічыць, дробязі. Былі ў іх адносінах рэчы больш істотныя.

З паказанняў, дадзеных 31.VIII.1930 года на допыце ў ДПУ Паўлінай Мядзёлкай:

«Последний мой приезд совпал с раскулачиванием его (Купалы) родственников (Раманоўскіх і Аблачынскіх, сем'яў сёстраў Купалы. — *У. Н.*). Он, как всегда, мало говорил, но все же из скудных фраз можно было заключить, что принципиально против коллективизации он ничего не имел, наоборот, признавал большую выгоду, но на него произвела большое впечатление судьба раскулаченных (в большинстве неправильно раскулаченных). Против правильности раскулачивания Романовских он не возражал: «Я их сделал кулаками, я им помогал в хозяйстве. Я виноват… Но Облачинские — многолюдная семья, очень бедные». Высылку раскулаченных считал хуже, чем беженство».

Далей — паказанні арыштаванага па справе «Саюза вызвалення Беларусі» прафесара А. Смоліча, дадзеныя ў ДПУ 28.07.30:

«В начале марта у меня собралась небольшая компания. Были: Тремпович, несколько дам, в том числе жена Купалы. Позже пришли сам Купала и Лёсик, которые перед этим были у него дома. У Купалы была большая неприятность — его двух замужних сестер раскулачили и высылали в эшелоне вместе с детьми из Белоруссии. Он был этим чрезвычайно расстроен… Он упрекал всех белорусов, что ему никто не хочет помочь. Купала, впрочем, обращался главным образом к Колосу, и тот обещал завтра же сходить по этому делу в СНК. Свое обещание Колас исполнил. Вскоре затем высылка сестер Купалы была отменена».

Ці не ёсць гэта пацверджаннем слоў Д. Міцкевіча пра бацьку: «Ніколі не даваў пустых абяцанак. Калі нешта некаму паабяцаў, дык нават калі б выкананне гэтай абяцанкі патрабавала няведама колькі высілку, абавязкова абяцанку выконваў».

З трыццатых прамінулі гады да саракавых… Восенню 1941-га меркавалася адзначыць 35-годдзе творчай дзейнасці Коласа — гэтак жа ўрачыста, як адзначалася 35-годдзе творчай дзейнасці Купалы. Але летам прыйшла вайна… У першыя яе дні Колас з сям'ёй, ледзь выбраўшыся з Менску, скіраваўся ў Ляўкі да Купалы, які «сабраўся ехаць у Маскву, ды ягоны аўтамабіль не мог забраць усіх». Толькі 5 ліпеня, перасаджваючыся з цягнікоў на грузавікі, Колас дабраўся да падмаскоўнай Клязьмы, дзе жыў Міхаіл Дзмітрыевіч Каменскі, брат Коласавай жонкі. У ягоным доме, прыехаўшы з Масквы, калі яе пачалі бамбіць, жыў і Купала. У жніўні 1941-га Колас з сям'ёй быў эвакуіраваны ў Ташкент, а ўвосень Купала — пад Казань.

9 чэрвеня 1942 года Колас піша з Ташкента ў Ленінград, адказваючы на ліст Л. Бэндэ: «О Купале ничего не знаю. Писал ему. Не ответил…

Один мой сын на войне. Известий о нем не имею».

Колас, у адрозненне ад рэфліксійнага Купалы, чалавек больш устойлівы, па-сялянску трывушчы. Але бываюць моманты, у якія нават самыя ўраўнаважаныя і трывушчыя людзі не могуць трываць.

Апроч старэйшага сына Данілы, у Коласа быў яшчэ Юрка, сын сярэдні, і малодшы сын Міхась. З самага пачатку вайны Юрка на фронце, і з верасня 1941 года — ад яго ніякіх звестак. Прапаў? Загінуў? Колас даведваецца, што нейкім чынам ліст ад Юркі ўзяўся пераслаць яму Купала. Узнікае хоць нейкая надзея, але ні перасланага ліста ад Юркі (які так і не вярнуўся з вайны), ні ліста ад Купалы няма і няма. Тады Колас збіраецца з сіламі і піша свой ліст.

«*Ташкент, 17 верасня.*

Дарагі Янка!

Можа, і не варта было б пісаць табе пісьмо, бо ты ў вялікім клопаце аб сабе самым не помніш болей нікога і на пісьмы нікому не адказваеш. Ты ў гэтым бачыш асаблівасць сваёй натуры і, відаць, такая «асаблівасць» расцэньваецца табою, як нешта надзвычайнае, уласцівае толькі Янку Купалу. Іначай нельга найсці тлумачэнне таму, што ты не дужа спяшаешся адказаць на маё пісьмо. Чатыры дні таму назад прыслаў мне пісьмо Пятрусь Броўка. Ён даведаўся пра мой адрас з таго пісьма,

што я пісаў табе. Вось і бярэ мяне крыўда. І асабліва крыўдна мне, што ўзяўся ты, як піша Пятрусь, пераслаць мне пісьмо ад Юркі. А гэтага пісьма, як і ад цябе, усё няма. Ці ведаеш ты, што такое для бацькі і маткі сын, асабліва ў такі час?.. Не, Янка, ты гэтага не ведаеш, або ў цябе няма нармальнага чалавечага сэрца. А ты ж паэт. Паэт жа, калі ён сапраўдны паэт, ёсць рэха людскіх пачуццяў, а не чарапаха, зашыўшыся ў свой тоўсты футляр, зрэдку высоўваючы сваю галаву, каб паглядзець, ці няма чым пажывіцца. Ты, Янка, не злуйся: нічога не зробіш, а праўда вочы коле…

Гэта маё апошняе к табе пісмо. Пісаць і не мець адказу на свае пісьмы — гэта тое самае, што гукаць у чыстым полі, дзе няма жывое душы. Жыві здаровы. У цябе для гэтага ёсць магчымасці.

Бывай, Янка, здаровы.

Якуб Колас».

Не вытрываў — і не толькі крыўду з-за сына, а ці не ўсё, што гадамі тузала, вярэдзіла, балела, выказаў… І ўсё ж Колас, зусім недвухсэнсоўна парываючы свае адносіны з Купалам, яшчэ бачыць нейкую магчымасць іх захаваць, спадзяецца на адказ Купалы, інакш не дапісваў бы ён у канцы ліста адрас: *«Ташкент, улица 1-го мая, 20».*

Апошняя іх сустрэча адбылася ў сакавіку 1942 года ў Казані, куды Колас прыехаў на сесію Акадэміі навук. Яны абодва там выступалі з дакладамі… Жонцы ў Ташкент Колас напісаў: «8.III. за сталом у аднаго з нашых знаёмых сустрэўся з Янкам. Нічога асаблівага не гаварылі, не сварыліся і не дружылі».

Пасля такога ліста — і «нічога асаблівага не гаварылі»? Так не бывае, не можа быць. Калі ж так было, дык толькі ў адным выпадку: Колас свой апошні ліст да Купалы не выслаў. Напісаў і ў стол паклаў. Гэта ў ягоным, у беларускім характары. У характары памяркоўным, як цяпер часцяком сталі казаць.

Не выглядаюць Колас з Купалам, як тое ў дзяцінстве мне здавалася, амаль адным чалавекам. Я не ацэньваю іх, як лепшага і горшага, — абодва лепшыя. Але не лепшыя яны, як яно ў міфах выглядае, сябры. Праблема іх сяброўства ў тым, што Купала адносіўся да Коласа, як паніч да селяніна, — і гэта не самае сімпатычнае з таго, што было ў Купалу.

Пасля смерці Купалы Колас піша ў лісце (8.07.1942) да ягонай жонкі: «Дарагая Уладзіслава Францаўна!… Не верыцца мне, што ўжо не сяду я болей побач з Янкам за адным сталом. Але што паробіш? Так, відаць, судзіла ўжо доля. Ніколі не думаў таксама я, што страта Янкі такім вострым нажом пройдзе па сэрцы…»

Прайшла, не магла не прайсці… Усё, што ёсць побыт, пазабывалася, знікла, засталося толькі тое, што над побытам. Паэзія, пра якую ўжо да скону будзе гаварыць Колас толькі ў звязку з Купалам, аддаючы яму перавагу і перад усімі, і перад сабой.

Высакародны чалавек.

«Два браты паміж людзей» — сказаў не пра Коласа з Купалам, а ўсё ж нібыта і пра іх Кузьма Чорны. Які, між іншым, у 1938 годзе арыштаваны, іх і *здаваў* на допытах («У Купалы по вечерам собиралась вся нацдемовщина…», «Стихи Коласа только внешне по-советски патриотичны, все это маскировка…») і праклінаў: «Как я в эти дни перелома всей своей жизни ненавижу и проклинаю всех этих Янок Купал, Якубов Коласов… и всех прочих, которые, как черти душу, встретили меня когда-то во время моей молодости и направили меня на гибельную дорогу…»

Ніколі наперад не ўведаеш і не ўгадаеш, якая дарога пагібельная, якая — не… Праз Купалу з Коласам Кузьма Чорны выйшаў на дарогу аднаго з лепшых сусветных пісьменнікаў.

Якуба Коласа, які перажыў Янку Купалу на 14 гадоў, не стала 13 жніўня 1956 года. З раніцы ў дзень смерці ён занёс у ЦК КПБ ліст пра стан беларускай мовы. «Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстроўвалася гісторыя народа, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго любоў і гнеў. Прашу зразумець мяне правільна…» Тым самым Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, Якуб Колас, як бы завяршыў свае зямныя справы — і заняўся справамі нябеснымі.

*Ліпень 2005*

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

* * *

Веданне таго, што мы ніколі не скончымся, не знікнем, даецца нам яшчэ да жыцця, да зямнога лёсу — і яно, тое веданне, на час жыцця забытае ці аднятае, палягае ў аснове нашых думак і згадак, фантазій пра неўміручасць душы. Так ёсць, так павінна быць, бо інакш мы не адважыліся б мець тых, пра каго немагчыма, невыносна думаць, што іх не стане — дзяцей і каханых. Так ёсць, бо іначай мы — вар’яты.

* * *

Мы з братам спазніліся...

У бальнічнай палаце стаялі шэсць жалезных ложкаў, і на пяці ложках ляжалі хворыя жанчыны, а шосты быў пусты, зусім пусты, з яго нават матрац знялі, скрозь драцяную сетку віднелася пафарбаваная драўляная падлога, пад ложкам нявытаптаная, таму нібыта гусцей пафарбаваная, чым пасярод палаты, дзе мы застылі, дапытліва пазіраючы на хворых старых жанчын, у якіх не было пра што пытацца, бо ўсё відавочна, але я ўсё ж спытаўся: «А дзе Анастасія Іванаўна?..» — і пяцёра хворых старых жанчын неяк паспешліва, адна перад адной, я ніколі не забуду гэты хворы, старэчы хор, на розныя галасы прапяялі, прамармыталі: «Памерла… памерла… памерла… памерла… памерла»[1].

Маці ляжала ў трупярні адна — зусім голая на высокай, мне па пояс, кушэтцы. Зрадзела-пасівелыя валасы, абветраны, снегам шэрпаны і сонцам палены, твар, спрацаваныя, у вузлах і зморшчынах, рукі, стаптаныя, на падэшвах стрэсканыя, ногі і — ад грудзей па калені — гладкае-гладкае, белае-белае, маладое-маладое, яшчэ цёплае, цела. Недагладжанае, недапешчанае, недалашчанае…

Мы купілі ёй самую прыгожую, якую толькі знайшлі ў Смаргоні, сукенку. Пры жыцці пра такую яна і не марыла.

Пры жыцці, калі я пытаў: «Што падарыць табе на дзень народзінаў?» — кожны раз адказвала: «А ты дай мне якую капейчыну, я сама сабе куплю што-небудзь…» І купляла парсючкоў. Каб вазіць мне і брату кілбасы, вяндліну… Цягала і цягала ў Менск тое мяса разам з трохлітровікамі марынавах гуркоў, памідораў. Прыязджала з такімі клункамі, што не падняць. Калі мы казалі ёй, каб не гарбела, не цягала, бо ўсё ў крамах ёсць, слухала, галавой ківаючы: «Ёсць — і дзякуй Богу…»

Аднойчы, не паддаўшыся на яе хітрыкі з капейчынай, за якую сама сабе яна што-небудзь купіць, я завёў яе ў смаргонскую краму і купіў ёй футра. Назаўтра, калі мы справілі дзень яе народзінаў і з’ехалі, яна пайшла на кірмаш, прадала футра і купіла парсючкоў…

Днём ёй не было калі, а ўвечары, пакуль вочы бачылі, яна чытала... Беларускія кнігі, рускія, польскія… Яе здзіўляла, што людзі ўсё пішуць і пішуць, калі ўжо ёсць Святое пісанне — і ёй цікава было: што ж яшчэ нехта можа прыдумаць, апроч таго, што прыдумаў Бог?

Трацiну жыцця прарабіла яна бухгалтаркай у канторы машына-трактарнай станцыі і расказвала майму малодшаму брату казку пра чарцяня з іменем Бухгалтар, якое прыдумала бухгалтэрыю.

Бацька быў хворы на рак, сам ужо не ўставаў, і мы не казалі яму, што маці памерла, пакуль не прывезлі яе дахаты ў труне. Вывелі яго, каб развітаўся, у пакой, дзе яна ляжала, і ён схіліўся да яе і спытаў, з ёй жыццё пражыўшы: «Хто гэта?..» І я да сёння — грудзьмі і спінай — помню, як працяла, наскрозь пранізала мяне гэтае, здавалася б, амаль вар’яцкае пытанне.

Мы пахавалі маці ў Крэве, дзе яна нарадзілася і куды хацела вярнуцца на вечны спачын — да бацькоў, да дзядоў, да продкаў… Побач з ёю пакінулі месца для бацькі[2].

Бацькавы продкі — на беразе Волгі, там ягоныя крэўныя магілы, і ён, ужо памёршы, не хацеў класціся ў Крэве. Гэтак упарціўся, што, калі мы з братам везлі яго ў труне з Менска, спыняў нас, не даваў ехаць машыне, глушыў і глушыў, як спрактыкаваны механік, матор. Потым ён ляжаў, знясілены змаганнем, у тым жа пакоі, у якім ляжала нядаўна маці, і я, стоячы на тым жа месцы, на якім ён развітваўся з ёю, пытаўся, над труной схіляючыся: «Хто гэта?..»

…Некалі мы схіляліся з маці над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі[3], адбіваліся ў ёй разам з небам і аблокамі, і маці пы-

талася ў мяне, малога, на мой адбітак паказваючы: «Хто гэта?.. Ну, скажы, хто?..» Я кідаў у ваду, у неба з аблокамі, камень — і ў кружным рабінні на вадзе не ставала нікога.

* * *

Прысніласяя, што ёсць на свеце Бог.

* * *

Спытаўся ў саснёнага Бога: «У чым сутнасць майго жыцця? Дзеля чаго я на свеце?..» Бог адказаў: «Дзеля апошняга імгнення. Уся сутнасць твайго жыцця ў апошнім імгненні».

У сне я падумаў, што пачуў банальнасць. Ці нават глупства, калі Бог не схітраваў. Што можа стацца ў тое апошняе імгненне?

Прачнуўшыся, зразумеў, што пачуў не банальнасць. Тым больш — не глупства. Бог не кажа глупстваў нават у сне.

У тваё першае імгненне Ён даў табе ўсё. У апошняе імгненне ты прынясеш Яму тое, што засталося. Ён зазірне ў цябе, убачыць розніцу і спытае: «А дзе маё?..»

* * *

Пра дзіця можна сказаць: «Цела-то малое, а душа-то ўся». Даўно гэта нашу — і нікуды не ўстаўляецца. Мусібыць, дастатковае само па сабе.

* * *

У дзяцінстве, ранкам прачнуўшыся, я амаль заўсёды знаходзіў свае чаравікі — кожны паасобку — у розных кутах. Дзед казаў: «З табой дамавік гуляе»[4]. Хоць ведаў, што звычка ў мяне такая: кідаць, кладучыся, чаравікі абы-куды. І прыкмета аднекуль узялася: ісці ў адным чаравіку — скарачаць зямны шлях маці. Колькі крокаў ступіў — на столькі дзён скараціў. Таму, абуўшы адзін чаравік, я скакаў да другога на адной назе, але колькі я на адной назе ні скакаў— маці ўсё адно памерла.

Мы не можам ніяк, нічога і нікога ўратаваць?..

Хіба нельга было ўзяць адзін чаравік і басанож падысці да другога?.. Можна было. Але такое простае вырашэнне праблемы жыцця і смерці ніводнага разу не прыйшло мне ў галаву.

* * *

Усё, што ўсведамляе сябе, — смяротнае. Несмяротнае толькі тое, што сябе не ўсведамляе. Калі нават існуе яно ўсяго імгненне.

* * *

Каханне — пачуццё, якое не мае штучных аналагаў. Яго нельга зрабіць, стварыць — яно самаствараецца.

У гэтым яно найбліжэй да творчасці. Але не творчасць, якая скарыстоўвае ўсё і ўсіх, штучнае і натуральнае — і каханне.

* * *

Рыгор Барадулін[5] тэлефануе і прагаворвае ў некага вычытанае:

«Якім бы велічным ні ўяўляўся трон — усё адно на ім сядзіць задніца».

* * *

Жывое і абортнае.

* * *

Навакольнае асмяроддзе.

* * *

Неабвержных доказаў існавання нашага свету няма.

* * *

«Данос слугі пераживе Вальтэра»[6], — казаў грамадзянін Фушэ, міністр паліцыі ва ўрадзе Дырэкторыі, які ўсё ведаў пра даносы. «Худы з землянiстым тварам трупа і душой дэмана, драпежным носам, усмешкай у тонка сціснутых губах, з валасамі і бровамі без колеру і бясколернымі, рыбінымі вачыма», — як апісвае яго Бамаршэ[7]. І відаць з апісання, як першы драматург Францыі баіцца галоўнага паліцыянта, бо ў Фушэ на Бамаршэ — шафа даносаў.

Бамаршэ казаў: «Калі выдаць сапраўды поўныя зборы твораў нашых пісьменнікаў, дык самым аб'ёмістым у многіх будзе апошні том з залатым цісненнем: «Даносы».

Бамаршэ, як і Фушэ, таксама ведаў, што казаў.

Цяпер і я гэта ведаю.

* * *

Найпершая якасць, якая вызначае эстэтычны, мастацкі ўзровень паэзіі, ёсць этычны, чалавечы ўзровень паэта.

Маецца на ўвазе не тое, што паэт не п'е, не паліць, не гуляе, а тое, што ён не боўтаецца ў часе, як г…. у палонцы.

Што верны ён не прызначэнню і таму, хто прызначыў, а Прадвызначэнню і Таму, хто прадвызначыў.

Што бессаромна цалуе ён усе патайныя пагоркі, далінкі і плаўныя схілы каханай, але не падлізвае нічый азадак.

Што мае ён свае перакананні і прынцыпы — і на тым стаіць.

Што сярод рэчаў, трантаў і ўсяго, што ён прадае, каб неяк жыць, няма прададзеных сяброў.

Што сярод напісанага ім няма даносаў…

«…і сярод ненапісанага таксама даносаў няма», — як дадаваў звычайна Уладзімір Караткевіч[8].

* * *

Грузін сябе найлепей пачувае, з'еўшы шашлык з віном, а беларус — зжэршы беларуса з г…ом.

Своеасаблівасці нацыянальнай кухні.

* * *

На прэс-канферэнцыі ў Варшаве[9] папрасілі назваць прычыны, па якіх я пакінуў Беларусь. Я збіраўся назваць дзве: ціск улады і здраду сяброў. Але сказаў толькі пра адну. Пра першую. Пакуль казаў пра яе, зразумеў, што другая прычына нікога не цікавіць.

Ад мяне чакалі звароту да польскіх уладаў з просьбай аб палітычным прытулку. Не дачакаліся — і страцілі цікаўнасць.

Пасля прэс-канферэнцыі было некалькі інтэрв'ю — і журналістка з тэлебачання палічыла не лішнім папярэдзіць: «Толькі палітыка, пане, толькі палітыка…»

* * *

Доўга рыхтавалася сустрэча спікера (рэальна ўжо былога, але фармальна яшчэ дзейнага) беларускага парламента Шарэцкага[10] з прэзідэнтам Польшчы Квасьнеўскім[11]. Нарэшце, яго (Шарэцкага) пад Каляды прывезлі з Вільні ў Варшаву — і спачатку я, пасля Пазняк падрабязна тлумачылі яму, чаго ён павінен дамагацца на сустрэчы, што казаць. «Адразу прасіце прытулку для эміграцыйнага беларускага ўрада, у чым Квасьнеўскі адмовіць, затое згодзіцца на ўсё астатняе…» У выніку наш спікер каля гадзіны распавядаў Квасьнеўскаму пра тое, якія б захады ён, Шарэцкі, зрабіў для вырашэння палітычных ды эканамічных праблем, з якімі сутыкаецца… Польшча.

«Дык у Беларусі ўсё нармальна?..» — спытаў, развітваючыся, прэзідэнт Польшчы і больш ні з былым спікерам беларускага парламента, ні з кім-небудзь яшчэ з беларускіх палітыкаў сустракацца не пажадаў.

Увечары Шарэцкі, цалкам сабой задаволены («Мы з ім пагаварылі, як прэзідэнт з прэзідэнтам!») чытаў мне свае вершы. Пра бярозы (ці пра дубы, пароду дрэва я ўжо не помню), якія на чужыне шумяць яму пра Беларусь...

* * *

Прыйшла пара рухацца (Быкаў[12] ужо ў Нямеччыне) з Варшавы ў Хельсінкі — і на развітанне з Зянонам Пазьняком[13] і ягонай жонкай Галінай вячэраем у Чэслава Сэнюха[14]. Для Чэслава Зянон — найганаровы госць, таму чаго толькі на стале нестае, а Галіна раптам кажа: «Як я дахаты хачу! Хоць на ваду і на хлеб, але дахаты…»

Я гляджу на Зянона — дзве слязіны ў вачах. Нейкае імгненне… Наплылі і высахлі, але след іх застаўся ў паглядзе.

Каб не заўважылі, як мяне торгнула, выйшаў нібыта перакурыць...

Радзіма — разуменне шкоднае.

* * *

Нацыянальнае пачуццё хіба лепшае ад іншых? Каханне, сяброўства, бацькоўскіх пачуццяў?.. Канешне ж, не — і ў нармальным грамадстве яго нібыта не існуе. Але гэтак жа нібыта не існуе паветра.

* * *

Пасля ўсяго, што перажылося ў апошні год, ніяк не чакаў, каб хто-небудзь чым-небудзь мяне расчуліў. Але такое сталася — і зрабіў гэта Быкаў, самы суворы чалавек нашай літаратуры. У кватэрцы ў Хельсінкі, дзе ён жыў паўтара гады і дзе жыць цяпер мне, я знайшоў на пісьмовым стале гэткі прывітальны ліст, што шчыманула недзе там, дзе сэрца...

А дома ж ледзьве не кулаком гразіў: я табе дам!.. Любімы пісьменнік прэзідэнта!..

Вось і разбярыся.

У кожным дні мы розныя, у кожным моманце — іншыя.

Там, дзе мы былі, — мы ў натоўпе. «Раскрыжуй яго!..»

Там, дзе мы апынуліся, — мы самі ў сабе…

Ён пакінуў мне свой камп’ютар. Старэнькі, запылены. Я стаў яго чысціць і знайшоў прыклееную знізу пад маніторам паперчынку. На ёй напісана: *«Ёсць першая старонка. З Богам!..»*

* * *

Заўтра, не, сёння, бо ўжо, а поўначы, мне 55... Пяцьдзесят пяць чаго? Жыццяў, скананняў? Усяго...

Не шараговая лічба 55. Выгінастая, пакручастая. І роўная. Яшчэ пры сіле. Здаецца нават, што адзінкі ад яе пачнуць адскокваць, а не дадавацца: 55, 54, 53... Але так не будзе.

Нічога ўжо так не будзе, як было. І дзякуй Богу.

Дзякуй Богу, што даў нарадзіцца. Дажыць да 55. Спазнаць... А хацеў жа памерці маладым. Даруй, Божа...

Не Ты вінаваты, што жыццё стамляе. Вінаваты той, хто стамляецца. «Я не стаміўся, — кажу я сам сабе, — не стаміўся». І нават веру, што не супакойваю сябе, не ўгаворваю.

За паўвекам пачаўшы жыць з нуля, вучуся не думаць пра будучыню. Ва ўсялякім разе так, як думаў дасюль. Думаю: дасць Бог дзень...

Будучыня — люстэрка. Мінулае. Яго хопіць па скон.

Вучуся, гледзячы ў люстэрка, не злавацца, не скардзіцца, не крыўдаваць. Трываць. Дараваць жывым жывое... Нібыта ўмеў і раней, але вучуся. І вялікая навука наперадзе. Калі Бог дасць...

Не прашу ў Бога нічога, дзякуй Богу за ўсё.

Дзякую за Маці, за Бацьку, якіх любіў, якіх пахаваў. Палюдску ўсё, па-боску...

За каханне дзякую, за каханых… За сям’ю, за дзяцей... Як доўга ведалася, што гэта не трэба, замінае!.. Але Бог ведае болей...

Дзякую за Анёла, які ахоўваў мяне і ратаваў, ахоўвае і ратуе...

Не ўсё ад Яго аднаго, волі Ягонай залежала, маё залежала ад мяне. Нешта магло быць лепш, вышэй, але няма на што і няма на каго наракаць. Хіба толькі на самога сябе — там, дзе самога сябе не хапіла. Толькі дзе гэта, дзе? — калі ўжо ёсць разуменне, што і гэткія нараканні — марнае і пустое. Так жыў, такім быў... Не мог быць інакшым. А што шкада, дык што ж... Часам можна дазволіць сабе такую слабасць, гэта не грэх. Прынамсі не вялікі.

Амаль літаратурны грэх.

Дзякую Богу за літаратуру. Прабачаюся, што гнявіў Яго, жадаючы, прагнучы большага, чым Ён даў. Я больш не ўзяў, чым Бог не даў. Не ўзяў лянотай, слабасцю, спакусамі — сваё не ўзяў, што ад мяне залежала. І цяпер наракаць, шкадаваць?.. Калі і ў спакусах жыў — і ў якіх спакусах! — і дзякую Богу яшчэ і за гэта.

Дзякую і за тое, што павёў мяне Бог па свеце, вырваўшы са спакус. Карані засталіся, цяжка, але — шлях. Да самых каранёў, да крэўскіх могілкаў.

*9.07. 2001, Фінляндыя, Хельсінкі*

* * *

Тут непадалёку ў бок Ramsinniemi[15] гатэльчык ёсць невялічкі, мы са Стасам[16], які ўпарта называе мяне не дзедам, а Лапай, праз лясок туды на мора ходзім. Ад гатэльчыка спускаешся на пірс дашчаны, з якога даў нырца — і паплыў... Зручней, чым ісці да глыбіні па камянях ад берага.

За ўсё лета (а такога сонечнага і цёплага, нават спякотнага лета не было ў іх, кажуць фіны, ці сто гадоў, ці ніколі) ніхто нас ні разу не спыніў, не пераняў, а гэтым разам пераймае жанчынка і тлумачыць, што хадзіць нам сюды нельга, бо гэта прыватныя ўладанні. Ну, я прабачыўся, сказаў, што лічыў, паколькі гатэль... а калі не, дык не.

Ідзём дахаты, дарогай тлумачу Стасу, што хадзіць сюды болей не будзем, бо тут усё прыватнае. Шпунт малы спыняецца, недаўменна азіраецца назад і пытае:

— І мора?..

Тое самае і мне, прабачаючыся, карцела спытаць у жанчынкі. Толькі не як чатырохгадоваму дзіцяці, а як *савецкаму* чалавеку.

* * *

Савецкая свядомасць («Хай сабе *нельга*, але, калі хочацца, дык *можна*») найбольш раздражняецца драбязой.

Тут у другі бок праз другі лясок ёсць і пірс, і пляж, і мора — для ўсіх. На беразе альтанка з жароўняй (кілбаскі смажыць) і кафэ маленькае. Са знаёмым, які з Піцера прыехаў, узялі піва і кілбаскі ў краме — сядзім, п’ём, смажым... Піва скончылася, дакупілі ў кафэ, пайшлі ў альтанку. Бяжыць з кафэ гаспадыня: «Нельга!..» Што нельга?.. Аказваецца, піва, купленае ў кафэ, можна піць толькі ў кафэ, ці за столікамі побач. А ў альтанцы п’юць толькі прынесенае з сабой...

«Чаму так?..»

Яна і сама не ведае, чаму так, але й высвятляць з намі не збіраецца, чаму... Нельга — і ўсё.

Для нас гэта ідыятызм, і мы пачынаем даводзіць ёй, што гэта ідыятызм, шукаем спачування наўкол, але нам не спачуваюць. «Нельга — і ўсё». Два фіны, з якімі амаль па-сяброўску мы толькі што размаўлялі, адсоўваюцца і пазіраюць калюча.

Найлепей, не спрачаючыся, перайсці з півам пад парасон каля кафэ, там не горш. Дык не: мы выліваем піва на траву за альтанкай...

На пратэст наш ніхто і ніяк не рэагуе. Вылілі дык вылілі, гэта можна.

* * *

З фінскага антыалкагольнага закона:

«Забараняецца скарыстоўваць алкаголь з мэтай ап’янення».

* * *

Дабіваюся ад Стаса адказу на тое, чаму ён зноў залез у мой камп’ютар, хоць абяцаў не лезці?.. Ён пакрыўджана і ўпарта маўчыць. Амаль крычу, каб не маўчаў, бо нічога нельга растлумачыць маўчаннем, растлумачыць нешта можна толькі словамі! Не дабіўшыся ніякіх слоў, сядаю працаваць, спрабую аднавіць тэкст, які Стас выпадкова знішчыў. Сам ён збягае ў лес — як заўсёды, калі крыўдуе.

Плюю на тэкст, іду шукаць… Знаходжу за валунамі, працягваю мезенец: «Добра, міравая. Гары ён гарам той тэкст, вунь і без яго колькі ўсяго ў свеце…» Малы чапляецца сваім мезенцам

за мой, але замест: «Мірыся, мірыся і болей не біся», — чую ў адказ: «Растлумачыць словамі можна толькі словы».

* * *

Спрабую давесці Стасу, якое дзіва — паэзія, але слухаць пра дзіва паэзіі ён не ў настроі. Тым самым і мяне з імпэту збівае, таму прамаўляю то нейкую няўцяміцу, то банальнасць… Маўляў, усе і ўсё — цені і пыл, а паэзія — вечнасць. Нязгасны чалавечы дух.

Мы ідзём узлескам, сцяжынаю ўздоўж мора, над якім, апускаючыся, палымнее і, здаецца, вось-вось падпаліць ваду вячаровае сонца. Стас спыняецца, глядзіць на мяжу вады і полымя, пытае: «А сонца пагасне?..» Адказваю, што калі-небудзь абавязкова — як і ўсялякі агонь. Як і ўсё…

Малога гэта не засмучае. Ну, пагасне дык пагасне… Ён ідзе далей так, як вядзе яго сцяжына, скача-падскоквае і, знаходзячы рытм руху, раптам рыфмуе, падскокваючы: «Што для чаго, калі сонца пагасне навек, што для чаго напісаў хоць адзін чалавек?..»

* * *

Памёр Астаф'еў[17]. Пісьменнік, ад якога пачуў я словы пра грэх пісьменніцтва.

* * *

На вакзале з грузінам пазнаёміўся — прыехаў з Масквы ў Хельсінкі сыр купляць. 600 тон для пачатку. На фірме *Valio* яму сказалі: «У нас прадстаўніцтва ў Маскве — праз яго і купляйце».

Ён ашаломлены. «Слухай, дурдом! Я ім наўпрост жывыя грошы прапаную, а яны мяне сплаўляюць!..»

З такога гора пайшлі ў рэстаран. Афіцыянт гарэлку кілішкамі стаў насіць. Трыццаць грам у кілішку за пяць еўра. Пляшка абышлася, як білет да Масквы.

З яшчэ большага гора грузін захацеў станцаваць лезгінку. Аркестр — піяніст, кантрабасіст і ўдарнік... Яны нават не зразумелі, чаго ён хоча.

Вярнуліся на вакзал, выпілі ў бары піва. Грузін, як я ні супакойваў яго, не супакойваўся. «Слухай, няхай сыр не захацелі прадаць... Але не сыграць лезгінку!..»

Ён быў жывейшы за свае жывыя грошы... І раптам падумалася: колькі ж разоў слухаў я рэстаранную, замоўленую аркестру, лезгінку? Сто, дзвесце, трыста?.. Ва ўсіх рэстаранах ад Брэста да Хабараўска. А хто-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь «Лявоніху» замовіў?..

Наўрад ці. Я не чуў.

* * *

Надта шмат, каб адмаўляць. Надта мала, каб паверыць.

* * *

На дыпламатычным прыёме клерк з японскай амбасады раптам кажа мне, што ведае, як па-беларуску *thanks*. «Д-зякуй», — кажа клерк.

Я згадваю беларуса, які на марскім Далёкім Усходзе хадзіў капітанам сейнера. Было гэта ў канцы 80-х, калі пачынаўся крымінальны рыбны бізнес. Да сейнера савецкага швартаваўся ў моры-акіяне сейнер японскі — і рыба перавальвалася з борта на борт. Яно і зараз так робіцца, але ўжо за сапраўдныя грошы, а тады — абы за што: амаль задарма. «Ну, усё?..» — пытаўся чарговы японец, разлічыўшыся абы-чым. «Не, не ўсё!» — кожнага разу кожнаму японцу адказваў беларус. — Скажы яшчэ *дзякуй*».

— Вы рыбным промыслам ніколі не займаліся? — пытаюся я ў клерка з японскай амбасады. Той усміхаецца хітранька:

— Бацька займаўся.

Мусібыць, калі беларусаў карміць дармавой рыбай, дык і яны загавораць па-беларуску.

* * *

Салжаніцын[18] піша ў «Расіі ў абвале»:

«Расія зламаная не толькі духоўна, яна падарваная і цялесна... Каб XXI стагоддзе не стала апошнім для рускіх — мы павінны знайсці ў сабе сілы і ўменне супрацьстаяць распаду ўжо зараз...» І тут жа задаецца пытаннем: «Але ці дазволіць нам гэта наш нацыянальны характар?..»

Далей выходзіць, што не дазволіць. Ранейшы (характар староверaў) дазволіў бы, а сённяшні — не... Эвалюцыя нацыянальнага характару настолькі Салжаніцына страшыць, што ён

пачынае сцвярджаць, быццам «рускі характар» трох апошніх стагоддзяў, пачынаючы з часоў смуты і расколу, — гэта зусім і не рускі характар, а ягонае скажэнне — зноў жа праз смуту і раскол. Нібы смута і раскол неяк аббеглі нацыянальны характар па баках і аказаліся ў яго наперадзе.

* * *

У Джона Фаулза[19]: «Скептычная, але ўтульная ангельская душа — іронія напалам з умоўнасцямі».

Ні пра рускіх, ні пра беларусаў так не скажаш. Ну, ніяк…

* * *

Усё, што існуе, існуе толькі для таго, каб існаваць. Гэтым вычэрпваецца ўвесь сэнс быцця. Таму існаваць правільна — існаваць з задавальненнем, чым і кіруецца большасць людзей. Большасць — *правільныя* людзі.

* * *

Страх, апроч страху, — яшчэ і апраўданне. Баяцца зручна. Год семдзесят пабаішся, зірнеш — і жыццё прайшло.

* * *

Уменне жыць — ва ўменні радавацца жыццю. Больш ні ў чым.

* * *

Садом не ў гуморы.

* * *

Здаецца, што ўжо ўсё парушылася, а ўсё яшчэ нешта рушыцца, рушыцца, рушыцца... І не спыніць. А чалавеку трэба мець штосьці непарушнае — на чым стаяць.

Ангельскі вучоны Філіп Гасэ[20] быў правадзейным сябрам Каралеўскага навуковага таварыства, спецыялістам па марской біялогіі. Усё ў ягоным жыцці было хораша і надзейна зладжана, апроч часу, у якім разбураўся міф аб стварэнні свету. Страх перад гэтым разбурэннем змусіў яго, *вучонага-біёлага,* за два гады да

публікацыі дарвінскага «Паходжання відаў...» надрукаваць свой трактат «Пуп Зямлі, або Спроба развязаць геалагічны вузел», у якім супярэчанні паміж біблейскай легендай і тэорыяй эвалюцыі зліквідоўваліся даволі хітра. «У той жа дзень, — даводзіў Гасэ, — калі Гасподзь сварыў Адама, ён стварыў і ўсе выкапні, усе вымерлыя формы жыцця».

Смешна, але шчымліва.

Гасэ не ератык, а я ведаў папа, які, калі выпіваў і мучаўся тою ж праблемаю, што і ангельскі біёлаг, дазваляў сабе ерась: першапачатковы свет стварыў Сатана, свавольны і амбітны анёл Гасподні. Стварыў ён свет на свой сатанінскі капыл: з яшчарамі, дыназаўрамі і ўсёй астатняй дагістарычнай брыдой. Богу ў той час не да Зямлі было, Ён нечым (поп слаба тлумачыў, чым) надта важным займаўся, а пасля бачыць: Зямля ўся ў сатанінскіх вычварынах! Сатану Гасподзь адразу ў пекла ўпёк — і ўсё на Зямлі перарабіў. Брыду ўсю знішчыў, на вычварын ледавік насунуў... Шкілеты іх замерзлыя і знаходзяць палеантолагі, не дзіва.

* * *

Жывеш сабе — і ты маркіз дэ Гіз.

* * *

«Жыццё — гульня ў гульню», — сказаў, здаецца, Шатабрыян[21]. *Кошкін* па-нашаму. У Крэве[22] (дзе кот — кот, а кошка — котка) сказалі б *Коткін*.

Так, калі б не было смерці. Ці якраз таму?..

Бачыш ката і мыш. Гуляюць. Жыццё ідзе.

* * *

Жыццё — чарга за смерцю. Прычым такая, у якой ці рухацца, ці стаяць на месцы — адно і тое ж.

* * *

Расліна, здабываючы энергію, сілкуецца сокамі, жывёліна — раслінай, чалавек — жывёлінай, і ў гэтым ланцужку чалавек — не абавязкова апошняе звяно. Для чаго існуюць і заечая капуста, і заяц?.. Ні для чаго, калі іх не з’есці... Тое самае і чалавек, пра якога Кастанэда[23] прыдумаў, што ён проста харч.

Чалавек для таго, каб ягонай энергіяй сілкаваўся паралельны свет, населены флаерсамі, летунамі. Кастанэда кажа, што яны валодаюць нашай свядомасцю, *ажыццяўляюць* нас і кормяцца нашай энергіяй — дэфіцытам і далікатэсам ва ўсім космасе.

Каб флаерсы цябе не жэрлі, трэба стаць *нясмачным.* Кастанэда не кажа, *як*, але выходзіць, што дастаткова *быць самім сабой* — і цябе не зжаруць.

Кожны, хто не баіцца, дазваляе сабе быць самім сабой — нясмачны...

Флаерсаў, мусіць, зжырае нехта яшчэ, а тых яшчэ нехта... і ўсё, што ёсць, было і будзе — адзін няспынны сусветны жор.

Як даказаць, што гэта не трызненне?.. Ніяк. Бо, дапусцім, ты бачыў сон, у якім цябе пажыраў флаерс... Як ты дакажаш некаму, што бачыў такі сон?.. Ніяк. Але сон такі ты бачыў.

* * *

Шмат хто думае, што пасля таго, як памрэ і ўваскрэсне, тады і зажыве па-сапраўднаму, і будзе самім сабой...

* * *

— Што робіць воін, — пытае Кастанэда, — калі бачыць, што яму канец?.. Ён робіць *тое самае*.

Гэта называецца *бездакорнасць.*

* * *

Ісціна — там і тады, дзе і калі ёсць адказнасць. Гісторыя чалавецтва — гісторыя дактрын, безадказных падробак пад ісціну.

* * *

Гейдар[24] сцвярджае, што ёсць ГЭТА, і ёсць ІНШАЕ. І ўсё.

Але і ГЭТА, і ІНШАЕ — не ЎСЁ.

* * *

Пачалася і скончылася вайна ў Іраку... Наладжаная амерыканцамі, як сусветнае тэлешоу. Больш сучасна: як камп’ютарная гульня. Толькі з сапраўднымі танкамі, ракетамі, самалётамі — і з жывымі людзьмі. Сядзі ўтульненька і гуляй. Гэтага заб’ю, гэтага не...

Чалавецтва набывае іншую, новую якасць... Якую пакуль не асэнсаваць.

У «Guardian»[25] за 27 сакавіка (мне Ева паказала, яна газету гэтую чытае)[26] на першай паласе ўнізе пад фотаздымкам, на якім прыкрыты анучай твар знявечанага, забітага бомбай іракца, рэкламны дэвіз (ці «слаган», «складан»? — як яго называюць) аўстралійскай нейкай фірмы:

«Свет змяняецца — зменімся з ім».

* * *

Несправядлівасць здольная імітаваць справядлівасць ва ўсіх яе праявах і заставацца пры гэтым самой сабой; а калі наадварот: калі ўявіць справядлівасць як імітатара несправядлівасці — якая можа быць мэта такой імітацыі?..

* * *

Маім першым школьным настаўнікам быў габрэй з прозвішчам Цукерман. Жонка ягоная са старэйшым сынам з'ехалі ў Ізраіль, дзе пачалася вайна, дзе старэйшага сына забралі ў армію — і на вайне забілі.

Жонка засталася адна, мой настаўнік з малодшым сынам паехалі да яе ў Ізраіль, дзе зноў пачалася вайна, дзе малодшага сына забралі ў армію — і на вайне забілі.

Я праводзіў іх, калі яны ад'язджалі… Рабіць гэтага было н е л ь г а, але малодшы сын Цукермана быў маім сябрам, і я спытаў яго, развітваючыся: «Ты хочаш, каб цябе забілі? За нешта чужое на чужой зямлі…» І сябар мой адказаў: «Так габрэям трэба…»

Я да гэтай пары не разумею: што ён мне сказаў?

* * *

Мне было гадоў дзесяць, калі я злавіў і забіў котку. Яна жыла ў свірне, бяздомная. Я забіў яе, узяўшы за заднія лапы — галавой аб бетонны слуп. Доўга, размахваючыся, я біў і біў каціным целам аб бетон, у коткі *галавы* ўжо не было, а я ўсё лупіў, лупіў і лупіў!..

Агрэсію, калі ўжо яна ўзнікае, немагчыма кантраляваць — і ў ёй ёсць асалода.

Забіўшы котку, я адразу ж захварэў. Цяжка. Два тыдні я па вачах доктара бачыў: ён думае, што я памру. Але я не памёр.

Маці малілася за ўратаванне маёй душы, а пасля, калі я ачуняў, павяла і мяне маліцца. Дзякаваць Богу за тое, што пакінуў мяне жывым.

Я спытаў папа, ці можна памаліцца за ўратаванне душы коткі?.. Поп сказаў, што нельга.

Чаму? У коткі няма душы?.. Але як мы можам пра тое ведаць?

Гэтая котка пераследуе мяне. Я спрабаваў забіць яе другім разам, у памяці — не выйшла. Я змусіў забіць яе аднаго з маіх літаратурных герояў — не дапамагло. Я ўспамінаю і ўспамінаю яе, пра яе думаю, яна мне сніцца. Прычым кожнага разу сніцца розная: белая, чорная, рудая, у плямы — я не магу згадаць, якой тая, рэальная, забітая мной котка была масці. І такое адчуванне, нібы забіў я не адну, а дзесяткі, сотні, тысячы котак…

Начытаўшыся кніг па псіхалогіі, я разумею, адкуль яна — мая забітая котка. Але тое, што я гэта разумею, ніяк мяне не ратуе. І кожнага разу, калі я пазбаўляюся чарговай, белай ці чорнай, коткі, я з жахам думаю: а калі б я чалавека забіў?.. Белага ці чорнага…

Я ўдзячны Богу за тое, што не паслаў Ён мяне на вайну, не стварыў варункаў, у якіх я мог бы — ці павінен быў бы — забіць. У дадзеным выпадку ў тым жа самым дзеяслове *забіць* зусім іншы сэнс. Можа быць, *той коткай* Бог мяне ад *гэтага* перасцярог? Хаця наўрад ці, наўрад ці… Тут нешта іншае.

Калі вы бачыце… ну, скажам, у кіно, як галоўны герой, апантаны помстай, забівае, знішчае забойцу свайго брата, сваёй жонкі ці дзіцяці — вы пра што думаеце? Пра тое, што ён парушае закон? Як чалавечы, гэтак і Боскі? І ў вас якое адчуванне? Жаху?.. Не. У вас адчуванне спраўджанай справядлівасці! І выкліканае, народжанае яно ў душы вашай не Богам, не Богам…

У коткі няма душы — і Бог на зямлі не жыве?..

* * *

Столькі сніцца ўсяго і ўсялякага, што варта было б аддзячыць неяк... Кнігу напісаць: «Неадплатныя сны».

* * *

«Чалавек ёсць тое, чым ён рызыкуе» — выснова, да якой прыйшоў Жак Дэрыда[27]. Тым самым прапанаваў найбольш аб’ектыўную шкалу і самаацэнкі, і ацэнкі знешняй.

Чжуан-цзы[28] павучаў:

«Майстар гульні са стаўкай на чарапіцу пачне хвалявацца пры гульні на срэбра і звар'яцее пры гульні на золата. Мастацтва адно і тое ж, але варта з'явіцца спакусе, як увага адразу перакідваецца на знешняе. Пры ўвазе да знешняга прытупляецца ўвага да ўнутранага».

Унутранае тут — гульня, і майстар не стане мяняць гульню (змяняць сябе?) пры любой стаўцы.

Тое, што ёсць *майстар* у Чжаун-цзы, вышэй за тое, што ёсць *чалавек* у Дэрыды. Майстар не ацэньвае сябе — і яго ацаніць немагчыма: ён не толькі не думае, чым рызыкуе, а нават не мяркуе, што рызыкуе. Ён у стане *увэй*, нядзеяння.

Гэты іерогліф *увэй,* які абазначае нейкую вяршыню даоскай філасофіі, неспасцігальны, мусібыць, для еўрапейскага мыслення.

* * *

Стары анекдот:

«Што ты можаш рабіць?» — пытаюцца ў мужыка, які прыйшоў наймацца на работу.

«Магу капаць».

«А яшчэ што?»

«Магу не капаць».

У кітайскім варыянце мужык гэты выглядаў бы зусім не такім дурным і лянотным.

Даос Цзы Ся[29] (у кнізе Ян Чжу) распавядае вэйскаму цару пра свайго настаўніка:

«Нішто не можа спыніць яго. Ён здольны пранікаць скрозь жалеза і камень, ступаць па вадзе і полымі — бо ва ўсім падобны ўсім іншым рэчам».

«Чаму ж не робіць так настаўнік?» — спытаў цар.

«Ён здольны ўсё гэта зрабіць, — адказаў Цзы Ся, — але здольны і не рабіць гэтага».

Можна параўнаць з нашай прымаўкай: «Дай Божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць».

Даос мае дзіўны статус *назіральніка за быццём і небыццём.*

* * *

Займець жаданае (па Дао) — гэта займець радасць, да якой няма чаго дадаць.

* * *

Бліскучая фраза (хутчэй за ўсё французская прымаўка) у фільме Жана-П’ера Жэнэ «Амелі»:

*Калі палец указвае ў неба, толькі асёл глядзіць на палец.*

* * *

«Толькі ахвяруючы ўсім, можна заваяваць усё!» — прыдумалі футурысты, калі прыйшла рэвалюцыя.

* * *

Пасля перамогі Рыма над Дакіяй (цяперашнія Румынія і Малдова) імператар Траян наладзіў відовішча, якое доўжылася 123 дні. На арэне біліся 10 000 гладыятараў. Было затраўлена 11 000 звяроў.

Баі гладыятараў — гэта кроў. Смерць. Але разам з тым — гэта культура.

Патрэба ў відовішчах сёння не меншая. Нават большая, бо болей хлеба і вольнага часу. І рымляне ідуць глядзець, як «Рома» б’ецца з «Міланам».

Гладыятараў замянілі футбалісты. Нехта можа назваць гэта вынікам развіцця цывілізацыі. Я згодны. Але не развіцця культуры, бо ў баях гладыятараў яе куды болей. Настолькі болей, наколькі ў «баях» футбалістаў яе меней. Настолькі меней, што зусім няма.

* * *

Тыдзень у Македоніі на кангрэсе International PEN у Охрыдзе.

Ці не кожны другі македонец казаў мне: «Нас з Расіяй дзвесце мільёнаў». Тое самае я чуў і ад сербаў, толькі тыя ўжо бралі круцей, налічвалі трыста мільёнаў... З гэтага можна было б зрабіць выснову пра ролю Расіі ў славянскім свеце, калі б за год, пражыты ў Польшчы, я пачуў нешта падобнае хоць ад аднаго паляка.

* * *

Сербы мараць пра Вялікую Сербію, албанцы — пра Вялікую Албанію, македонцы — пра Вялікую Македонію: аж да

Плоўдзіва. Балгараў, якія двойчы ў мінулым стагоддзі займалі Македонію як сваю этнічную тэрыторыю, не пакідае мара пра Вялікую Балгарыю.

П'ю каву з балгарскім паэтам Георгіем Канстанцінавым, падымаюся з-за стала, адразу падыходзіць македонскі паэт: «Як ты можаш з ім каву піць, калі балгары ў апошнюю вайну прыйшлі ў Македонію з фашыстамі!..»

А Георгій па бацьку — македонец.

* * *

Ужо іншы македонскі літаратар, празаік, даводзіць мне, што і Аляксандр Македонскі — іх нацыянальны ваяр, і Кірыл з Мяфодзіем — македонцы, якія прыдумалі кірыліцу — македонскую азбуку.

Спажываем масціку, выпілі ўжо грам па дзвесце, таму адказваю, што яно не зусім так. Македонскага, кажу, можаце забіраць сабе, ён нам без патрэбы, а што да першай славянскай азбукі, дык створаная яна была насамрэч Кірылам і Мяфодзіем, але не ў Македоніі і нават не ў Балгарыі, а ў Канстанцінопалі па загаду тамчаснага цара *дзеля аб'яднання дзікуноў.* І называлася не кірыліцай, а глаголіцай, на якой ніводны сённяшні македонец ні бэ, ні мэ. А кірыліцу стварылі ўжо вучні Кірылы і Мяфодзія, пяцёра з якіх купіў на рынку рабоў венецыянскі купец і, не ведаючы, што далей з імі, такімі разумнымі, рабіць — адпусціў на волю. Яны і рушылі на Балканы...

— У Македонію? — пытае захмялелы празаік, і я адказваю, што не, у Балгарыю, да цара Барыса...

— Тады пі адзін! — падсумоўвае мой лікбез македонец і адсоўвае ад сябе кілішак.

* * *

На выхадзе з гатэля «Метраполь» размаўляю з рухавым хлопцам. Ён пра што заўгодна — весела і бойка, а пра палітыку — мнецца, ніяк. Пытаюся: «Ты, можа, не македонец?» — і чую ў адказ:

— Я таксіст.

* * *

Энергія маладога нацыяналізму — вар, кіпень. Пена — цераз край, прагне ўсё заліць, але вады ў сагане столькі, колькі ў сагане вады.

* * *

1999 год. Польскае тэлебачанне. Паўвекавы юбілей камернага тэатра. Тэлевядучы пытаецца ў былога дырэктара тэатра пра першы, пастаўлены 50 год таму, спектакль — і дырэктар ніякавата адказвае, што першы спектакль, праўда, быў пастаўлены па п'есе савецкага драматурга. «Але ўжо наступная пастаноўка, — устрапянуўшыся, доўжыць дырэктар, — была прыстойная…»

У студыі акторы, рэжысёры, драматургі — і ўсімі гэта ўспрымаецца зусім нармальна. А калі напрыканцы праграмы тэатральны крытык кажа пра Дастаеўскага[30]: «Вялікі польскі пісьменнік, які змушаны быў пісаць па-расейску…» — ён зрывае хай не авацыі, але ўсё ж апладысменты.

У нацыяналізму, як і ў любой іншай *калектыўнай* з'явы, — праблемы з этыкай.

* * *

Інтэлектуал да маргінала адносіцца з пагардаю, з надуманым пачуццём, а маргінал да інтэлектуала — з нянавісцю. Маргінал натуральны — і пачуццё ў яго натуральнае.

* * *

Чалавека можна выхоўваць у праўдзе колькі заўгодна — гэта не замінае яму маніць.

* * *

Адна з найнебяспечных хвароб — былая веліч.

* * *

Азіраючыся назад, думаеш, што памыляўся, а яшчэ праз нейкі час аказваецца, што памыляўся якраз тады, калі думаў, што памыляўся...

Бамаршэ сказаў: «Час — сумленны чалавек».

* * *

Неяк з Максімам Танкам[31] ішлі мы па прынарачанскім лесе і выйшлі на дзіўны ўзлесак, дзе кружком, нібы ў даўнім друвіскім танцы, стаялі ці не ўсе дрэвы, якія толькі ёсць у Беларусі: бяроза, ясень, елка, дуб, сасна… Яўген Іванавіч паказаў кійком на прагал у тым крузе: «А вось гэтае месца нібы чакае, калі на ім вырасце клён».

Праз гады, калі Максіма Танка ўжо не стала, апынуўся я ў тым жа прынарачанскім лесе, выйшаў на той дзіўны ўзлесак і ўбачыў на тым месцы, на якое паказваў Танк, маладога клёніка... Не думаю, што Яўген Іванавіч сам пасадзіў яго, каб праз гады мяне здзівіць.

* * *

Паставіў кропку ў паэме «Ложак для пчалы» і патэлефанаваў у Менск Мураўёву[32]: як там Быкаў?..

«Прыязджайце, калі хочаце паспець развітацца…»

Прыехаў… Калі развітваліся, сказаў, не ведаючы, што казаць: «Мы яшчэ пасядзім з вамі, Васіль Уладзіміравіч, на вашым любімым валуне ў Вуасары».

«Не пасядзім, Валодзя…»

Праз пяць дзён яго не стала.

Для газеты «Народная воля» напісаў нешта накшталт некралога.

«Дзіўную даў нам Бог краіну. Усё ў ёй нібыта ёсць — у водах рыбы, у лясах звяры і птушкі, у гарадах і вёсках жыхары, якія самі сябе беларусамі называюць, а ладу беларускага, з якога само па сабе было б зразумела, нашто ўсё тут і дзеля чаго, няма і няма. І спрадвеку ў тым нехта вінаваты — то рускія, то палякі, то жыды... Толькі не мы самі, о, не! Дзесяць мільёнаў не вінаватых у тым, што жывуць у айчыне без Айчыны, на таямнічай зямлі з цьмянай, нібыта чужой, гісторыяй і замглёнай, нібыта не сваёй, будучыняй.

Але былі і ёсць людзі, якія жылі і паміралі, адчуваючы сябе ў тым вінаватымі. За сябе і за ўсіх. Бо жылі, каб жыла Айчына, былі, каб была будучыня. Якая, як вядома, пачынаецца з мінулага — але не з цьмянага і з не замглёнага. І не з чужога, а са свайго.

Менавіта па такіх людзях, па іх абрысах паціху-паціху распазнае сама ў сабе Беларусь. І, распазнаная ў сабе, распазнаецца

ў свеце. Яна дадаецца імі да свету — і свет, не такі ўжо вялікі і ні на што, апроч людзей, не багаты, дадаецца імі: такімі людзьмі.

Да таго, што зрабіў для Беларусі, для гонару яе і славы Васіль Быкаў, нельга нічога дадаць, апроч бессмяроцця».

* * *

У часовым маім жытле, у кватэры, у якой жыву я ў Хельсінкі, вісіць на сцяне карціна, якая мне не належыць. Яе, у канцы 1999 года з Хельсінкі ад'язджаючы, разам з геаграфічнымі картамі Еўропы і Беларусі, са сцяжкамі над імі і гербам «Пагоня» пакінуў Васіль Быкаў. На карціне — зімовае дрэва, хутчэй нават заснежаны куст, і на ім чырвоныя снегіры. Яны рассыпаны на вецці так, што ніяк не злічыць, колькі іх. Адзін раз палічыш — семнаццаць, другі — шаснаццаць, трэці — зноў семнаццаць. Калі ў адной з тэлефонных размоў, гледзячы на карціну, я спытаў Быкава, ці заўважаў ён такое дзіва, ён адказаў, што заўважаў — і няма ў тым нічога дзіўнага: проста адзін снягір то адлятае, то вяртаецца.

* * *

Пушкін казаў: «Яшчэ павесялімся», — а бабця казала: «Сёння — як ёсць, а заўтра — бліны».

* * *

Сюжэт.

Жыў чалавек... і ўсё, на што рашыўся, — аднойчы ў адказ на знявагу сарваў, кінуў, пабіў, растаптаў перад крыўдзіцелем *свае* акуляры... і, калі памёр, на чырвонай аксамітавай падушачцы, на якіх паперадзе нябожчыка ягоныя ўзнагароды звычайна нясуць, пранеслі гэтыя пабітыя акуляры.

* * *

Незразумела было, што з гэтага павінна вынікаць, дык нічога і не вынікала.

* * *

Восень 2004 года... Пад канец фінскага жыцця праехаў напачатку верасня ўсю Фінляндыю з Поўдня на Поўнач: праз Тампэрэ, Ювескюль, Оулу, Раваніемі, Муоніа, Кілпіс'ярві — да

Тромсё ў Нарвегіі. Самае нечаканае ў дарозе — зялёная даліна ў гарах уздоўж нарвежскіх фіёрдаў Ледавітага акіяна. Пасля пустой тундры Лапландыі перакочваеш перавал за Кілпіс’ярві — і раптам такое... Палі, гароды, выганы — толькі вінаград не расце. Вось табе і Поўнач... Хоць і павявае ўжо сіберам — і паўночная ноч на падыходзе.

Нарвегія — адзіная краіна ў сённяшнім свеце, якая не мае знешняй пазыкі. Калі б толькі наяўныя грошы, якія там ёсць, падзяліць на ўсіх нарвежцаў з дзецьмі ўключна, дык на кожнага б выйшла па сем мільёнаў еўра.

Краіна не проста выглядае багата — яна багата жыве. Кухаль піва ў Тромсё каштуе амаль столькі ж, колькі ў Хельсінкі паўлітэрак гарэлкі. У барах не надта пасядзіш... Таму сеў я на беразе Ледавітага акіяна і — ад няма чаго выпіць — стаў капаць на берагавой лініі ямку. Далані на тры ў шырыню і даўжыню. Выкапаў і пайшоў, а ямку заліла вада.

Нібыта нічога не сталася... Калі не лічыць таго, што павялічыў я паверхню Паўночнага Ледавітага акіяна. Далані на тры ў даўжыню і ў шырыню...

* * *

Жыццё чалавечае — сямейнае, суседскае. А не заводскае, калгаснае... Ці не саюзапісьменніцкае — паэтычнае там, празаічнае, грамадска-палітычнае...

Дзякуй Богу, я зразумеў гэта раней, чым настала невыносная пара высвятлення адносін...

* * *

На Дзяды, 2 лістапада, асвяцілі надмагілле Быкава.

Нельга сказаць, каб ці яму, ці мне бракавала фантазіі. Але хіба абодва мы маглі ўявіць, што кропкаю ў нашых адносінах стане гранітны валун, прывезены мной на ягоную магілу з Фінляндыі?

Колькі ўсяго пад гэтым каменем…

А над каменем сказаў вось што:

«Сёння мы сабраліся тут, прыехаўшы хто зблізку, хто здалёку, каб у дзень памяці продкаў ушанаваць памяць Васіля Быкава, асвяціць надмагільны камень — і тым самым дарэшты выканаць апошнюю волю Быкава.

Што ў ёй, у гэтай волі? Чаму не беларускі камень на магіле аднаго з найгодных сыноў Беларусі, а гранітны валун з Фінляндыі,

дзе пражыў Быкаў зусім нядоўга?.. Чаму менавіта так, а не інакш выявіў сваю апошнюю волю чалавек, які ніколі і нічога не вырашаў выпадкова?.. Кожны пра тое можа меркаваць па-свойму. Быкаў пакінуў нам і нашым нашчадкам геніяльную загадку, па смерці напісаную прыпавесць, легенду з назваю *«Быкаўскі камень»,* твор з глыбіннай метафарай і сюжэтам, які ў будучыні будзе поўніцца самымі рознымі здагадкамі, будзе працягвацца, дапісвацца ў самых розных варыянтах. Лёс пісьменніка, такога пісьменніка, як Быкаў, не сканчаецца на мяжы фізічнага сыходу і доўжыцца не толькі ў каардынатах зямных, але і ў каардынатах нябесных. Менавіта там, дзе ўсе легенды і ўсе загадкі.

Лёс Васіля Быкава непарыўна знітаваны з лёсам Беларусі. Яны — адно ў адным. Шаснаццаць год таму, якраз на Дзяды, адсюль, ад Усходніх могілкаў шляхам на Курапаты пачаўся рух нашага новага нацыянальнага Адраджэння. Зараз гэты рух нібыта прытух, але так прытухае касцёр, калі ў ім згараюць трэскі, кінутыя на распалку. Потым прыходзіць новы кастравы, разварушвае прысак, дзе тлее агонь, падкідвае дровы — і зноў шугаюць да неба іскры, падобныя на зоркі. На святыя зоркі нашай надзеі, нашай мары пра Беларусь, адным з сімвалаў якой быў і застанецца Васіль Быкаў. Сімвалам яе нескаронай волі, нязломнага духу. Яе глыбокай загадкай і высокай легендай.

Праз надмагільны камень, які нібы вырас з зямлі, лёс Васіля Быкава назаўсёды застанецца зрослым з зямлёй Фінляндыі. На камені надпіс: *«Васілю Быкаву ад горада Хельсінкі».* Прыкладу, каб надмагілле пісьменніку ахвяравалася сталічным горадам іншай дзяржавы, не было ў гісторыі літаратуры. Не толькі беларускай, але і сусветнай. І я дзякую фінам[33], якія ацанілі маштаб асобы і таленту Васіля Быкава, зразумелі сэнс, закладзены ў апошняй быкаўскай волі. Волі, скіраванай у будучыню».

* * *

«Самы моцны той, хто стаіць адзінока», — паўтарае Колас[34] словы Ібсена[35], запісваючы іх у альбом Аляксандры Зотавай[36]. Словы гэтыя не могуць быць выпадковымі, бо адрасаваныя жанчыне не староннняй: ёй падараваў Колас свой фотаздымак, надпісаўшы: *«Уладальніцы адзінай душы».*

* * *

Ён жыў самазабойча, непрыстасавана да жыцця — і быў нясцерпны. Яму б памерці ў лесе, у полі… Дзе б завейваўся, сам на сябе налятаючы, вецер, цепліўся касцёр і плёхалася вада на мяжы святла і змроку… І вецер з вадой і агнём па ім бы заплакалі, як па брату.

Яго не стала ў маленькай кватэрцы, голымі сценамі якой мы спрабавалі адгарадзіцца ад ягонай нясцерпнасці. Ад яго самога — расхрыстанага, апалена, голага. У голых сценах ён жыў адзін і адзін памёр.

Не аднаго і не голага я бачыў яго толькі аднойчы: на пахаванні Васіля Быкава. Не адзін — ён быў з ім, у нечаканым для ўсіх касцюме, у белай кашулі з гальштукам. Стаяў, для ўсіх астатніх староннні, ціхі і строгі. І было відаць, хто яму і каму ён роўня.

Яго месца побач з Купалам[37], Коласам, Багдановічам[38]… З сучаснікаў — побач з Барадуліным.

У ягоны неўладкаваны побыт з'яўляліся выпадковыя і невыпадковыя людзі, мяркуючы, што прыносяць сяброўскую спагаду. Але прыносілі толькі ўласную нясцерпнасць і — праз тое — алкаголь, які быў адзіным ягоным сябрам. Можна сцвярджаць, што ворагам, але ворагі нашы і ёсць нашы сябры.

Памёр ён не праз гэта… Як паляўнічага губіць паляванне, воя — вайна, так паэта — паэзія. Губіць няўмольна — і тым непазбежней, чым больш удачы ў паляўнічага, адвагі ў воя і таленту ў паэта.

Напісаў ён не многа… Выдыхаючы ў вершы ўсяго сябе, колькі цябе ёсць, многа не напішаш. Многа — гэта пустата. А ў яго амаль кожны радок — крываток, намаганне духу. Барацьба з пустатой, што запаўняе абыякавае неба. У якое крыкнуў ён аднойчы, стоячы на мосце над восеньскай начной Свіслаччу, ускінуўшы рукі, страсаючы кулакамі: «Я цябе зрушу, зрушу!.. Я — Сы-ы-ы-с[39]!..» І ў гэтае імгненне сарвалася з нябёсаў адна зорка… за ёй другая… і ён замёр, ашаломлены…

Нясцерпна, што яго не стала.

* * *

З літаратурнай крытыкі савецкіх часоў: «Адна з задач мастацтва — высвеціць патаемнае ў чалавеку…» І высвечвалі, які homo sovetikus патаемна перадавы патрыёт, грамадзянін, сямейнік…

Патаемнае ў чалавеку — брыдкае. Гэта найперш ягоныя патаемныя жарсці. Комплексы. Хто стане хаваць прыгожае?..

Мала хто пакапаўся ў патаемным гэтак, як Дастаеўскі. Жарсці кахання, сумлення, веры… А Фрэйд[40] даводзіў, што патаемнае ў Дастаеўскім зусім іншае. Ён сцвярджаў, напрыклад, што страсць да гульні ў Дастаеўскім (разам з безвыніковай барацьбой за пазбаўленне ад яе) — гэта працяг ягоных мастурбацый, непазбытая цяга да ананізму.

У самога Фрэйда, мяркуючы па ўсім, прыблізна гэткія ж патаемнасці.

А дзе ў Дастаеўскага пра «непазбытую цягу»? Нават у «Запісках з падполля», рэчы самай патаемнай, пра гэта няма. А было толькі, як можна здагадацца, у лістах да віцебскага гімназіста Уладзіміра Стукаліча[41]. Тым жа гімназістам, па настойлівых патрабаваннях Дастаеўскага, спаленых.

Патаемнае ў чалавеку — гэта тое, што пасля яго — попел, прах, зямля. Што маўчыць і пра што не сказаць.

* * *

Грамадзяне і дзяржава…

Менск, 1975 год. Па горадзе пайшлі маршрутныя таксоўкі. Еду на Курасоўшчыну. Таксіст, з усіх сабраўшы грошы, білетаў не дае нікому. Па дарозе спыняюць кантралёры, таксіст хапаецца за білетную стужку, але адарваць не паспявае. Пасажыры (усе як адзін!) пачынаюць крычаць, што ён раздаваў білеты… «Дык дзе вы іх падзелі?» — з’едліва пытаецца адзін з кантралёраў, і мужык побач са мной адказвае: «З’елі!..»

Менск, 2005 год, еду ў маршрутнай таксоўцы ў Лошыцу, таксіст збірае грошы, не выдаючы білетаў. Спыняюць кантралёры, пасажыры (усе як адзін!) пачынаюць крычаць, што ён даваў білеты. Кантралёры з’едліва пытаюцца: «Дзе ж вы іх падзелі?» — і мужык побач са мной адказвае: «У сраку засунулі!..»

Праз трыццаць гадоў у таксоўцы ехалі зусім іншыя людзі па сталіцы зусім іншай дзяржавы, але толькі *знешне* іншыя людзі па сталіцы *знешне* іншай дзяржавы. Унутрана яны, якімі былі, такімі і засталіся. Прынамсі, такімі ж засталіся яны ў перакананні: «Мы разам з таксістам (няхай нават злодзеем) — гэта адно, сваё, а дзяржава (разам з яе кантралёрамі) — гэта іншае, чужое (калі не варожае)».

У 1975 годзе білет каштаваў 20 капеек, у 2005 — 1300 рублёў. У 1975 годзе таксіст адрываў (павінен быў адрываць) білеты ад стужкі, у 2005 — прабіваў (павінен быў прабіваць) праз касавы апарат. Больш аніякіх змен за 30 гадоў не адбылося. Ну, калі не зважаць на лексічныя…

* * *

У кавярні Дома літаратара размаўляюць Янка Брыль[42] і Міхась Стральцоў[43]… Брыль даводзіць Стральцову, што ён, Стральцоў, не проста літаратар, што ён — ахоўнік літаратуры. Чысціні стылю, мовы. Сціплы Міхась Лявонавіч адказвае Брылю, што той зблытаў яго з сабой. На што Брыль заўважае жартаўліва: «Нас немагчыма зблытаць, я вершаў не пішу. І пісаць не збіраюся».

У адрозненне ад празаіка Янкі Брыля, які не пісаў і не збіраўся пісаць вершы, паэт Міхась Стральцоў лічыў (і пра гэта сказаў неяк), што кожнаму прыстойнаму паэту не зашкодзіла б кніга прыстойнай прозы. І напісаў такую кнігу, адно з апавяданняў якой, «Смаленне вепрука», стала ці не найлепшым у беларускай літаратуры.

Пазней тое самае зрабіў паэт Леанід Дранько-Майсюк[44]: напісаў кнігу прозы, адно з апавяданняў якой, «Анёлак і я», стала калі не найлепшым, дык адным з найлепшых у беларускай літаратуры.

Што з гэтага вынікае?.. Тэарэтычна з гэтага вынікае тое, што кожны прыстойны паэт мог бы напісаць прыстойную кнігу прозы, і тады прыстойнай прозы ў нас было, столькі ж, колькі прыстойнай паэзіі.

* * *

9 ліпеня 2006 года мастакі Уладзімір Вішнеўскі[45] і Рыгор Сітніца[46] наладзілі ў Крэўскім замку каралеўскае свята. Каранавалі *караля паэтаў.* Пасадзілі на трон — Вольга трымала над галавой караля вянок…[47]

Потым сабралі і ўмуравалі ў сцяну замка 60 камянёў.

Так мае шэсцьдзесят гадоў паклаліся ў шэсць стагоддзяў.

* * *

Не менш за адчуванне перамог, здабыткаў, здзяйсненняў нацыі, каб яна ўсведамляла сябе нацыяй, неабходнае адчуванне страт. У адчуваннях страт нацыя яднаецца, мацуе і гартуе дух.

Каб нешта страціць — трэба нешта мець. У адчуваннях страт нацыя самаствараецца.

Памятаючы, як глыбінна адчула Беларусь страту Васіля Быкава, цяперашняя антынацыянальная ўлада не дазволіла Беларусі гэтаксама адчуць страту Янкі Брыля. Улада замаўчала нашую нацыянальную страту. Калі нічога не страчана — дык нічога і не было.

Сёння мы развітваемся з Янкам Брылём, разумеючы, што ён застаецца назаўсёды.

Апошнімі днямі ў мяне пыталіся: як я мяркую, што найістотнае пакінуў па сабе Янка Брыль? Я мяркую, што гэта — чысціня стылю. Як у літаратуры, так і ў жыцці.

Брыль і ёсць стыль. Цалкам беларускі. І ў гэтым ён цалкам апраўдаў Богам дадзены лёс.

* * *

«Пры пыльнай дарозе шумяць палыны,
Вясёлыя плачуць наводдаль каліны…»

Наўрад ці хто ўгадае, чые гэта вершы. Бо гэта проза Кузьмы Чорнага[48]. Апошні сказ апавядання «На пыльнай дарозе». Бліскучая проза.

А вось ягоная ж проза з паказанняў у ДПУ (28.10.1938).

«Я упал бы к ногам моей дочурки с воплем человека, который с презрением к своему прошлому вырвал всю нечисть из своей души: «Доченька моя, Ируська, радость моя до самого последнего моего дня, прости меня во имя того, что ты с самого дня своего рождения уже советский человек… Как я в эти дни перелома всей своей жизни ненавижу и проклинаю всех этих Янок Купал, Якубов Колосов, Бедуль, Дубовок и всех прочих, которые, как черти душу, встретили меня когда-то во время моей молодости и направили меня на гибельную дорогу…»

Не дай Бог, канешне, апынуцца ў тым часе на ягоным месцы… І ўсё ж не падобна, што гэта напісана наўмысна для следчага. Зрэшты, як бы там ні было — выключны тэкст. Стылёва — гэта Гогаль пад фінал «Мёртвых душ». Маналог Чычыкава з ягонымі праклёнамі ўсяму і ўсім.

Пісьменнік ва ўсім і ўсюды — пісьменнік.

* * *

Прыгавораны радыкальнымі ісламістамі да смерці Салман Рушдзі[49], стаміўшыся жыць у сховах, стаў шукаць кантакты з братамі па веры, каб неяк з імі паразумецца. Ну, не хацеў ён абразіць Прарока, думкі такой не меў. Хацеў сказаць толькі, што там, дзе іслам, няма свабоднага грамадства, — хіба гэта смяротны грэх?.. І, слухаючы яго па тэлефоне, адзін з правадыроў ісламскага свету, да якога Руждзі звярнуўся па дапамогу, адказаў: «Пакуль мы з табой размаўлялі, мне жонка на нагах пазногці пастрыгла, а ты кажаш, што Каран — не святая кніга».

І паклаў трубку.

* * *

Пахавалі Уладзіміра Будніка[50]… Найсветлага з усіх музыкаў, з якімі давялося мне, абняўшыся, паспяваць у гэтым свеце.

Калі я вярнуўся з Фінляндыі, дык першы, хто спаткаўся ў Менску, быў ён. У скверы на вуліцы Сонечнай…

Пасярод ягонай аднапакаёўкі стаяў раяль, каля акна — пісьмовы стол са старадаўнім крэслам. Ён ганарыўся, што такое мае. «Сядай, на ім Радзівіл сядзеў!..»

Ён сеў за раяль і найграў мелодыю… Менавіта *мелодыю*, а не больш-менш рытмічную паслядоўнасць гукаў, якую, як толькі гукі сціхлі, не ўспомніць. Меладызмам і вызначаўся ягоны талент, і толькі ў таленце ён выглядаў чалавекам, які ўсур'ёз нешта цяміць у жыцці, а ва ўсім астатнім быў наіўны, як дзіця.

Некалі ён паказаў мне музыку, з якой узнікла песня «Янка Купала». Рытмічна яна была зусім іншай, чым стала потым. Ён спяваў яе са словамі «БАМ нас чакае, нашыя сэрцы гукае…», але гэта была мелодыя, у глыбіні якой хаваўся той драматызм, які й дазволіў напісаць адпаведны тэкст. Буднік не ўспрыняў яго адразу: «Ты што!.. Не пройдзе… Так толькі пра Леніна можна…» Я сказаў: «Валодзя, Купала — наш Ленін». І ён згадзіўся: «А праўда што…»

З песняй былі праблемы, яе даволі доўга не бралі ні на тэлебачанне, ні на радыё. Людзей, якія адказвалі за ідэалогію, сапраўды насцярожвала, бянтэжыла тое, што не «Ле-нин всег-да жи-вой…», а «Ян-ка Ку-па-ла…» Урэшце Шпянёў[51] з Паліводам[52] у аранжыроўцы і Кудрын у вакале паднялі песню на такую вышыню, што яна ўзляцела над усімі заслонамі.

Праз «Янку Купалу» яму зайздросцілі. А ён — ні праз што, ніколі і нікому. Калі мне здаралася напісаць нешта ўдалае з іншымі кампазітарамі, «Світанак» з Лучанком[53] ці «Гуляць дык гуляць» з Івановым[54], «Поле памяці» з Захлеўным[55], «Віншавальную» з Раінчыкам[56] ці «Сцяг» з Вайцюшкевічам[57], дык Буднік тэлефанаваў і мне, і Лучанку з Івановым, і Захлеўнаму, і Раінчыку з Вайцюшкевічам, узахлёб віншуючы…

Гэтым разам на вуліцы Сонечнай ён граў і напяваў мелодыю (голас ягоны застаўся ў мяне на дыктафоне) са словамі: «Ўсё прайшло…»

Калі напісаўся тэкст, я паказаў песню Аляксандру Ціхановічу і Ядвізе Паплаўскай. Яны ў адзін голас: «Як прыгожа!.. Няхай Буднік прыносіць клавір». Сталі разам шукаць Будніка — мабільны тэлефон ягоны не адказваў. Гукаўся гудкамі, акумулятар быў яшчэ поўны энергіі, але ўжо *ўсё прайшло…*

А песня засталася:

З даўняй даўніны
Аблачынамі
Ціха плывуць у небе думы курганоў…
Ты зямля мая
Белакрылая,
Бераг высокі белых буслоў.

* * *

З Бураўкіным[58] зайшлі да Гілевіча[59].

Пасля мікраінсульту Ніл Сымонавіч з кавенькай, кепскавата рухаецца нага, рука… Але ўпершыню ён не жаліўся на здароўе! Здаравейшы быў — толькі і рабіў, што жаліўся, а тут раптам — не.

«Забыўся з радасці, што хворы», — здзіўлена сказаў Бураўкін, калі мы выйшлі.

Бураўкін да Гілевіча (праз нейкія ранейшыя між імі рахункі) не надта хацеў заходзіць, а той адкрыта і шчыра быў рады нас бачыць, што Генадзя Мікалаевіча і здзівіла. Не згадваючы аніякіх крыўд (а згадваць іх ён увогуле мастак), Гілевіч смяяўся, жартаваў, нават наладзіў (сястра пазавіхалася) невялічкае застолле. І гаварыў, гаварыў кампліменты нам, мы ў адказ — яму, і я ўжо ўстаў з чаркай, каб спытацца: «Госпадзі, дзе ж мы раней былі?..» — але тут Гілевіч сказаў: «Дзякуй Богу, што мы адзін у аднаго ёсць». І я нічога не спытаўся.

* * *

Вось ужо колькі гадоў тэлефануе па начах, вярнуўшыся з казіно ў свой адзінотны дом, Ігар Шклярэўскі[60] і кожны раз, перш чым я паспяваю раззлавацца, паспявае сказаць: «Калі табе няма каму патэлефанаваць сярод ночы, тады ўвогуле табе няма каму патэлефанаваць».

* * *

Людзей, якія б, ведаючы Шклярэўскага, *любілі* яго, знойдзецца няшмат. Можа, я ды ягоны брат[61]. У яго невыносны характар. Але ў невыносным характары ягоным — неверагодная сіла. Таму няшмат знойдзецца людзей, якія б, ведаючы Шклярэўскага, яго не паважалі.

Калі б ён быў іншы, Масква, якую прыехаў ён некалі заваёўваць, даўно б яго пераважавала і выплюнула. Але паспрабуй пераважаваць цвік.

* * *

З гадамі ўсё больш адчуваецца адсутнасць сэнсу быцця. Не толькі быцця ўвогуле, на якое, калі б не было цябе, напляваць, але, на што, здавалася б, не плюнуць, і быцця ўласнага, свайго існавання. Усё часцей узнікае пытанне: «Ну і што?..» Яно і не пытанне нават, нейкая няўцямнасць: «Ну… і… што…» Ну, жыў ты, жывеш — ну і што? Дамагаўся нечага і дамогся — ну і што? Грошы нейкія, славу нейкую займеў — ну і што? Прыдумаў нешта, напісаў — ну і што? Памрэш — ну і што?

Усё — нічога.

Але нічога і ёсць усё.

* * *

Фраза для нечага: «Развялі тысячу кралёў — і ўсе патрыёты! А здохнуць, як кралі...»

* * *

Найчасцей амбіцыі ў чалавеку значна большыя за яго самога.

* * *

Надзея — рэч ненадзейная.

* * *

У пошуках праўды страчваеш шчасце.

* * *

Што там ні кажы пра чалавецтва, а ўсё ж у большасці людзей прамая кішка знаходзіцца ніжэй за галаву.

* * *

Жыццё ў разумных межах ён скончыў самазабойствам.

* * *

Там, дзе ты не сам герой, там няма герояў.

* * *

Ён з’явіўся на свет, каб яго перайначыць, але трохі не ў час нарадзіўся: у свеце адбыліся якраз такія-сякія перамены — і болей аніякіх перамен ніхто не хацеў.

«І ты дурань, і я дурань», — сказаў ён, напалову сказаўшы праўду.

* * *

Ён ненавідзеў усіх: найбольш гэтых, але не менш і тых.

* * *

У нейкім чалавеку можа неставаць сумлення, мужнасці, спагады і чаго заўгодна, але ў любым і кожным з нас кавалак г…. заўсёды знойдзецца.

* * *

Яўген Еўтушэнка[62], якім сам сябе (бо ў яго бабуля беларуска) называе беларусам, распытвае, хто ж мы такія, што мы такое, якія мы — беларусы? «Ну, няхай добрыя, шчырыя, а што яшчэ?..» І распавядае, як Мікалай Матукоўскі[63] ў 1963 годзе напісаў у ЦК КПСС ліст пра антысемітызм... Пра тое, што ёсць людзі, якія ў такой інтэрнацыянальнай краіне, як СССР, свядома гэты самы антысемітызм правакуюць. Не толькі ў побыце, але і ў мастацтве, што страшней…

Падставай для ліста стала выкананне Трынаццатай сімфоніі Шастаковіча[64] ў Мінску. Маўляў, слухаючы сімфонію, габрэі коса пазіралі на славян, а славяне на габрэяў. І Матукоўскі піша ў лісце: антысемітызму ў нас няма, аднак яго правакуюць такія людзі, як Шастаковіч і Еўтушэнка. Маючы на ўвазе Еўтушэнкаў «Бабін яр».

У канцы 70-ых (здаецца, у 1978-ым) Еўтушэнка прыязджае ў Мінск. Матукоўскі сустракае яго з кветкамі, вязе адразу не ў гатэль, а да сябе снедаць. Назаўтра яны ляцяць на верталёце (разам з Макаёнкам[65]) у Хомічы — шукаць магілу Еўтушэнкавай бабулі. Знаходзяць. «І Коля, — кажа Еўтушэнка, — стаіць каля магілы, глядзіць на мяне і плача. І я не разумею, што адбываецца… Дагэтуль не ўцямлю, калі ён шчырым быў? Калі ліст у ЦК пісаў ці калі над магілай маёй бабулі плакаў?..»

Я някепска, хоць мы і не сябравалі, адносіўся да Матукоўскага, таму кажу, што, магчыма, ён быў шчырым у абодвух выпадках. Ну вось такія мы, беларусы, — шчырыя…

Еўтушэнка прыжмурваецца на мяне і дадае: «І добрыя…»

* * *

Наскрозь рускаму і менавіта па-руску таленавітаму («Я пил из черепа отца за счастье на земле…) паэту Юрыю Кузняцову[66] я неяк даводзіў, што Дастаеўскі хоць і рускі пісьменнік, але беларус з сяла Дастоева, што пад горадам Іванавам, знакамітым сваімі кажухамі. «Чаму ж тады ён сам пра тое не згадаў нідзе і ніколі?» — спытаў Кузняцоў і быў вельмі здзіўлены, калі я працытаваў яму, узяўшы ў ягонай жа бібліятэцы кнігу:

«Усякая здаровая, зямная сіла верыць у сябе і ў сваю праўду, і гэта ёсць найпершая прыкмета здароўя народнага. Гэтая народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, зарука жыццёвасці і энергіі жыцця і ні ў якім разе не

выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не ўратаваў бы сябе ніколі…»

* * *

Кожны раз, стоячы ў Маскве каля нанава адбудаванага ў 2000 годзе храма Хрыста, пачуваю сябе ніякавата…

На гэтым… над гэтым… пад гэтым самым месцам, дзе выгнуўся ў неба пазалочаны купал і ўзнёсся крыж, я плаваў… плёхаўся… даваў нырца… купаўся…

Пасля таго як храм, збудаваны ў гонар перамогі ў Айчыннай вайне 1812 года, бальшавікі ў 1931 годзе знішчылі, на ягоным месцы павінен быў паўстаць, як сімвал новай эпохі, велічны Палац Саветаў. Але не паўстаў. І замест палаца з'явіўся басейн, у якім я і плаваў, калі вучыўся ў Літаратурным інстытуце на «інжынера чалавечых душ».

Дык была ж душа, калі вучыўся я на яе «інжынера»? Але ж ніводнага разу ні сам я сабе не сказаў, ні яна не падказала: «Грэх!»

Чаму?..

«Палац Саветаў» не паўстаў, ён нават не пачынаў будавацца, быў зроблены толькі ягоны праект з Леніным на самай верхатуры, які, здавалася, даставаў правай, узнятай рукой, да неба. «Палац Саветаў» быў гэткі ж казачны, як палац цара Салтана ці Кашчэя Несмяротнага, але пра яго казалі і пісалі, як пра нешта, што насамрэч існуе. Эскізы праекта друкаваліся ў школьных падручніках у адным шэрагу з зусім рэальнымі збудаваннямі. Там жа было напісана, што палац гэты на 350 метраў вышэйшы за Эйфелеву вежу і толькі трохі ніжэйшы за гару Эльбрус.

У мой школьны час гэтая казка ўжо не расказвалася, але сам казачны прынцып, па якім уяўнае выдавалася за рэальнае, не змяніўся. Па сутнасці, гэта быў асноўны, базавы, на якім стаялі і сілкаваліся ўсе астатнія, прынцып савецкай эпохі. «Мы жывём у развітым сацыялізме», — казаў настаўнік грамадазнаўства, і хоць не тое што мы, школьнікі, але і сам настаўнік не ведаў, што ён такое ёсць і з чым яго, гэты развіты сацыялізм, ядуць, калі есці няма чаго, усё адно казачны развіты сацыялізм павінен быў існаваць у нашай свядомасці — і ў ёй існаваў — рэальна. Гэтак жа рэальны, жывым, існавалі тыя, хто гэты сацыялізм — з непазбежным услед за ім камунізмам — прыдумаў, найперш

Ленін. А вось Бог і ўсё пра Яго, як прыдумаўляў і стварыў Ён свет, выдавалася за казку…

А які ў казках грэх?

Казачны.

Ніякі.

Даруй, Госпадзі.

* * *

У бары ЦДЛ раптам чую[67]: Шклярэўскі падсеў на рулетку, як на іголку…

Гэта з ягонай воляй?

Калі б ён захацеў спыніць гульню, ён спыніў бы яе… Тым больш, калі б шукаў у казіно толькі грошы. Але ён не толькі іх шукае…

У 1987 годзе паэт Ігар Шклярэўскі стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Гэта значыць (апрача ўсяго іншага), даволі багатым чалавекам. І ўсё сваё багацце ён ператварыў у сосны, бярозы, асіны… За ягоныя прэміяльныя мы пасадзілі ў чарнобыльскай зоне лес. Пад Петрыкавам, на беразе ягонай любімай, параненай Прыпяці…

Мы садзілі малады лес у працяг старога — і калі я пасадзіў маладую сасонку побач з векавой, мне здалося, што векавуха нахілілася і пагладзіла яе.

Ноччу я падышоў да той векавой сасны… Стаяў і заклінаў яе падаць мне знак, што яна жывая… Дрэва пагладзіла мяне па спіне. Я папрасіў, здранцвеўшы: «Яшчэ раз…» — і дрэва пагладзіла яшчэ раз. Я падумаў, што вецер, але ніжнія галіны сасны былі куды вышэй за маю галаву, куды вышэй…

* * *

У Ракаве[68] з Язэпам Янушкевічам[69] схадзілі на могілкі. Памаліліся над грудкамі ягоных бацькоў. Потым пайшлі на кірмаш. На могілках ніводнага (апроч нас ды нябожчыкаў) чалавека. Хоць субота, вольны вечаровы час. А на кірмашы — цераз вуліцу ад могілкаў — натоўп. Агрэсіўны, бо па суботах у Ракаве кірмаш з чатырох вечара (калі такое было?), а мяса па нейкіх прычынах будуць прадаваць яшчэ пазней, з пяці.

Як жывыя грызліся за тое мяса — бачылі б нябожчыкі! Нібы ў савецкія часы, калі не купіць было. А тут проста пачакаць

гадзіну трэба, на ўсіх хопіць. Так што мяса ні пры чым. Сквапнасць. Натура.

Сярод нябожчыкаў двое, бацька і сын, на могілках якраз праз мяса. Хоць мяса ні пры чым. Натура. Сквапнасць.

Ёсць такое мяса, якое называецца абразальнае. Ці абразное — дзе як. Такога не знойдзеш ні на адным кірмашы свету, апроч нашага. Бо нідзе, апроч як у нас, за тое, што ты, выгадаваўшы кабанчыка, прывёз яго на кірмаш прадаць, ад таго кабанчыка не адкрояць найлепшы кавалак на паўкілаграма. Прычым, за так, ні капейчыны табе за той кавалак не заплаціўшы. Лічачы, што ты абавязаны падзяліцца. Інакш — няма табе месца на кірмашы. Больш за тое: не аддасі кавалак — могуць і ўсяго кабанчыка забраць. Санэпідэмстанцыя наляціць: зараза ў мясе! Бацыла!.. Яшчэ і штраф улепяць.

Жонка і маці нябожчыкаў (мужа не стала ў сорак два, сына ў дваццаць) была якраз «абразальшчыцай». Не пасаду такую мела, а прывілею гэткую праз сваю пасаду. І спачатку, як людзі казалі, па-боску абразала. Па паўкілаграма. Пасля пачала абразаць па кілаграму, потым па паўтара… Людзі кажуць: занадта. Што застаецца ад кабанчыка, калі ты ад яго паўтары кілі найлепшага мяса адымаеш?.. А яна не чуе. Дом шыкоўны купляе, мэблю дарагую. І вось аднойчы муж, сеўшы ў тым шыкоўным доме на дарагое крэсла, з'ядае кавалак мяса, абрэзанага жонкай. І кладзецца на могілкі, бо ў тым мясе — атрута. Не нейкая там зараза ці бацыла, а мыш'як. Атруціць хацелі, канешне, яе, але ён тое мяса з'еў першы…

Мужа яна хавае — і далей абразае. Сын падрастае, яна машыну яму купляе. Сын на той машыне забіваецца…

Яна не кінула абразаць і не падалася ў манашкі грахі замольваць. Як абразала на ракаўскім кірмашы, так на ракаўскім кірмашы і абразае. Дзе яшчэ такое мясістае месца знойдзеш?..

* * *

«У кітайскай мове няма паняцця *справядлівасць»,* — піша ў «Нашай Ніве» Андрэй Дынько[70] і далей удакладняе: «Але ж мы не кітайцы».

Адзін з маіх дзядзькоў, Лявон Іванавіч, часцяком казаў: «Калі пораху няма ў кітайцаў, дык няма ні ў кога».

* * *

Яе муж, палітвязень[71], аб’явіў галадоўку, патрабуючы, каб пытанне пра ягоную краіну, дзе найпершымі каштоўнасцямі названыя чарка ды скварка, было разгледжана ў Савеце бяспекі ААН. Калі гэтага не станецца, ён дагаладаецца да смерці.

Муж галадаў тыдзень, другі, трэці, чацвёрты, пагроза смерці стала рэальнай. Хтосьці ўгаворваў яго спыніць галадоўку, нехта чакаў, калі ён памрэ.

Ведаючы ягоны характар, яна разумела, што ён сканае, але ад свайго не адступіцца. Трэба было яго ратаваць.

Яна пайшла да амбасадара адной з самых магутных дзяржаў свету. Не стала казаць пра дыктатуру і дэмакратыю, а выдыхнула: «Калі ён памрэ, я памру таксама, бо не змагу без яго жыць».

Амбасадар адной з самых магутных дзяржаў свету, мусібыць, ведаў, што такое насамрэч ёсць чалавечыя каштоўнасці. Ён накіраваў свайму ўраду дакумент, у якім абгрунтаваў тэрміновую неабходнасць разгляду ў Савеце бяспекі ААН таго пытання, на якім настойваў палітвязень, што і было зроблена.

Палітвязень спыніў галадоўку.

Жанчыну, якая зратавала ад смерці свайго каханага, 27 лютага 2008 года пахавалі на могілках у вёсцы Тарасава пад Менскам. З гэтага дня ў нас з’явілася месца, да якога ўсе і кожны, хто кахаў і кахае, можа прынесці кветкі.

Гэта ёсць тое, што можа стаць легендай. А імя жанчыны з гэтай легенды — Ірына Казуліна, да шлюбу — Сабалеўская.

* * *

Наведваю Барадуліна ў санаторыі «Крыніца», кажу ў размове, што Бураўкін у шпіталі, са зрокам кепска, аперацыю зрабілі, катаракту выразалі…

«Празорцам стане», — кажа Барадулін.

* * *

Зрок слабее… На вачах маіх многае згарэла і шмат хто пагас.

І што?..

А нічога. Як кажуць японцы: колькі ні глядзі, а таго, чаго нельга ўбачыць, не ўбачыш.

* * *

Сто, калі не тысячу разоў мне казалі, што я не на тым шляху, не на тым баку, бо ўсяму беларускаму, найперш мове з літаратурай, наканавана скананне.

Няхай так.

Але я ў тым не буду вінаваты.

* * *

Пасля прэзентацыі анталогіі беларускай паэзіі[72] ў Гданьску падышла шляхетная полька («пані трошкі ў гадах», як сказаў бы Барадулін, але бездакорна дагледжаная, з густам апранутая):

— Я люблю Маякоўскага, які казаў, што піша вершы нагамі, дык пра вас можна сказаць, што вы чытаеце рукамі.

— Мне прыняць гэта, як камплімент, ці… — пачаў я, і яна перапыніла, дакрануўшыся да рукі:

— Полька ніколі не падыдзе да мужчыны, а тым больш да паэта, каб сказаць «ці…»

* * *

Усміхайся! Гэта раздражняе.

* * *

Ты ўбачыў, што *нехта* ад цябе далёка, і вырашыў да яго наблізіцца. Але гэта магчыма толькі тады, у той момант, калі *нехта* таксама зажадаў набліжэння. Інакш, якімі б ні былі твае высілкі, адлегласць між вамі не зменшыцца: наколькі ты будзеш скарачаць яе — настолькі ж *нехта* будзе падаўжаць.

* * *

Калі з маладосці было відно, які крэтынізм — старасць, дык са старасці відно, якое наіўнае глупства — маладосць.

Вось і ўвесь жыццёвы вопыт.

* * *

Найцяжэй прывыкнуць да чалавечай разнастайнасці. Адсюль: інакшых не павінна быць!

* * *

У Міхася Стральцова ў апавяданні «Свет Іванавіч, былы донжуан» сказ: «І ўюнашы абступаюць мяне і пытаюць, якія я куру цыгарэты...»

Калі не ведаць таго, што можна назваць *асабістай* гісторыяй беларускай літаратуры, дык не дапяць: скуль у такога стыліста, як Стральцоў, гэткая дзікунская калька, як *уюнашы*? А слоўца гэтае якраз з *асабістай* гісторыі літаратуры, яно — памяць пра Міхася Лынькова[73], які да ўсіх маладзейшых толькі так і звяртаўся: «Ну што, *уюнашы...*»

* * *

Валянцін Акудовіч[74] (пры мне) даводзіць Леаніду Дранько-Майсюку, што не можа напісаць пра Някляева нічога добрага, бо надта яго любіць. Па той жа прычыне нічога добрага не можа ён напісаць і пра Дранько-Майсюка.

З гэтага вынікае, што тых, пра каго Акудовіч напісаў, ён любіць не надта. А навыдумляў жа з іх паэтаў: каго з тазікам, каго без…

Зрэшты, няма ніводнага паэта, якога б нехта не выдумаў. А калі ніхто паэта не выдумляе, тады ён выдумляе сябе сам.

* * *

Цікаўнасць да беларускай гісторыі, увогуле да беларушчыны — шмат у каго ад Уладзіміра Караткевіча. А ў ім адкуль? У зрусіфікаваным (якім ён і быў да паступлення ў Кіеўскі універсітэт) юнаку з усходняй Беларусі...

Дык вось: беларуская свядомасць — аж да беларускага нацыяналізму — у Караткевічы ад нацыяналізму ўкраінскага, з якім ён сутыкнуўся ў Кіеве і быў ашаломлены тым, што гэткая з’ява ёсць. Тады, спытаўся ён у сябе самога, чаму няма яе ў Беларусі?.. Калі б не гэтае пытанне, ён, можа быць, застаўся б у Кіеве. У горадзе, які па скон любіў.

* * *

Неяк спытаўся я ў Караткевіча, скуль у яго звычка да слова *прыўкрасна,* якое і на слых, і на зрок — калька з рускай…

— А што, хіба кепска? — шчыра здзівіўся Уладзімір Сямёнавіч. — Па-мойму, прыўкрасна!

* * *

Сказ з рукапісу Субоціна[75]:
«Отчетливо помню сейчас тот испуг, который я пережил».
І праўка Маршака[76]:
«Я до сих пор помню, как я испугался».
Вышэйшая школа рэдактуры.

* * *

У Шварца[77] ў «Голым каралі»:
«Я старик грубый. Скажу прямо: умница ты, король!»

* * *

Старацца *казаць праўду*, старацца *пісаць праўду*… А як бы гэта і казаць, і пісаць праўду, *не стараючыся?..*

* * *

Таццяна Працька[78] ў ЗША ў сям'і дачкі. Тым часам прызначаны з'езд БХК, на якім павінны прыняць яе адстаўку і абраць новага старшыню. Але заявы Працькі няма, ёсць толькі жаданне пакінуць пасаду, выказанае ёй у прэсе. І на пасяджэнні назіральнай рады Аляксандр Сасноў[79] узняў дэбаты: насамрэч сыдзе Працька з пасады старшыні ці ў апошні момант адмовіцца? Маўляў, калі яна сыходзіць — гэта адзін з'езд, калі застаецца — іншы, дык да якога з'езда рыхтавацца?

У дэбатах тых было малавата… ну, скажам, этыкі, і тым не менш я ўзяў у іх удзел, даводзячы, што Таццяна, наколькі я ведаю яе, не можа зрабіць таго, чаго асцерагаецца рада: сказаўшы, што сыходзіць, застацца. Нехта згадзіўся са мной, нехта — не, а Сасноў спытаў: «А скуль ты можаш ведаць, наколькі ты яе ведаеш?..»

Я паглядзеў на ўсіх, хто быў на радзе, і, што-кольвечы пра іх успомніўшы, падумаў: «А праўда што…»

І адразу ж ніякавата стала, што так падумаў.

Таццяна Працька і муж яе Зміцер Козыр збудавалі ў Смалявічах, побач з якімі жывуць, касцёл. Не кавярню ці краму, а храм.

Месцам будоўлі стаў гарадскі сметнік, дзе цяпер — побач з храмам — парк і кветнік.

Касцёлу далі імя святога Валянціна.

Чаму?

Таму што Зміцер з Таццянай закаханыя. У Бога, у жыццё, у прыгажосць і адно ў аднаго. Вось скуль я магу ведаць, наколькі я іх ведаю.

* * *

Памёр Аляксандр Салжаніцын. Літаратар сусветнага маштабу. Асоба, якая шмат для каго стала эталонам мужнасці. У тым ліку — для В. Быкава.

Чалавек высокага таленту і высокага сумлення. На іх скрыжаванні, скрыжаванні таленту і сумлення, ён і спраўдзіў свой лёс. Гэта не самае ўтульнае месца, якое можа ў жыцці выбраць чалавек. Але ён яго выбраў.

Расійскі патрыёт. Дзяржаўнік. Нават вялікадзяржаўнік. Як Пушкін, як Дастаеўскі. Праз гэта (найперш праз артыкул «Як нам уладкаваць Расію?» для многіх — шавініст. Хоць ён марыў уладкаваць Расію так, каб яе любілі.

Яго не стала раней, чым ён памёр.

Чаму?..

Распад імперыі прывёў да дзвюх жахлівых страт. Былыя савецкія людзі, якія амаль пагалоўна былі чытачамі, страцілі не толькі літаратуру. Страцілі пісьменніка. Не адно Салжаніцына — пісьменніка ўвогуле. Прафесійнага прапаведніка, духоўнага лідэра з маральным аўтарытэтам.

Пісьменнік жа страціў не толькі чытача — і не толькі духоўнае лідэрства, аўтарытэт. Ён страціў сэнс быцця.

Найлепей гэта відаць якраз на прыкладзе Салжаніцына. У той Расіі, з якой ён, як цяля з дубам, бадаўся, ён быў усім. Пісьменнікам, лідэрам, маральным аўтарытэтам. У той Расіі, якую ён, так мовіць, выбадаў, ён стаў нікім.

Калі зыходзіць з таго, што кожны нармальны чалавек найперш цікуе сваю карысць, дык за што Аляксандр Ісаевіч бадаўся? Быкаў за што?.. Дый мы, грэшныя…

Самолет по небу катит,
Солженицын в нем сидит.
«Вот-те нате! Хрен в томате!» —
Бёлль, встречая, говорит.

*(Прыпеўка 70-х гадоў)*

* * *

Калі туманам наплываюць (а яны наплываюць туманам) настальгічныя ўспаміны пра савецкае мінулае, дзе я, найчасцей, стаю на сцэне перад тысячамі людзей, дастаткова чвэрць гадзіны пагартаць «Архіпелаг ГУЛАГ» — і туман сплывае. І тыя тысячы людзей — зэкі, а я пастаўлены на сцэну лагерным начальствам туманіць ім мазгі.

* * *

Дзіўна чытаць паслясавецкаму чалавеку: «Не сам па сабе капіталізм прывядзе да роўнасці людзей і дабрабыту, а мараль, адпаведная расквітнеламу капіталізму».

Здаецца, аўтар пераблытаў словы капіталізм і камунізм, а рэдактар памылку не выправіў.

Але няма памылкі, бо аўтар (іспанец Раміра дэ Маэсту) — капіталіст. Філосаф, які сфармуляваў тэзу: «Укладанне грошай — праблема этычная».

* * *

З Вольгай паехалі ў Кактэбель[80], дзе я не быў з савецкіх часоў.

У Феадосію цягнік прытахкаў а 2-ой ночы. Таксіст загнуў да Кактэбеля 30 доляраў, бо ноч. Я спытаў: «А колькі днём?..» — і ён адказаў: «У нас дня няма».

Кактэбель непазнавальны. Раней тут быў *п е й з а ж,* цяпер — бясконцая шашлычная на тле Кара-Дагу.

Мусібыць, не засталося мясцін, дзе можна дыхнуць мінулым.

На магіле Валошына[81], як і некалі, марскія каменьчыкі. Але калі раней на каменьчыках пісалі: «Божа, зрабі так, каб яна мяне пакахала!» — дык цяпер: «Госпадзі! Дай мне фірму задарма ў цэнтры горада!..»

Пабачыўся з Аляксандрам Юдахіным[82], які свой дом у Кактэбелі ўжо колькі гадоў абжывае і ніяк не абжыве, бо будаваў яго, каб жыць з сынам, а сына забілі.

Прыехаў на некалькі дзён (як і я, панастальгаваць) Аляксандр Гарадніцкі[83]. Паспявалі за пляшкай кактэбельскага партвейна пра ягоных атлантаў, якія трымаюць неба…

Партвейн, гітара.

Вось і ўсё.

* * *

Папрасіў Барадуліна напісаць верш (для аповесці «Аўтамат з газаванай вадой з сіропам і без»), які б ён хацеў напісаць, але не напісаў, у гады хрушчоўскай адлігі.

— У якім годзе? — спытаў чамусьці Рыгор Іванавіч. Я сказаў, што ў 1961-ым.

Барадулін напісаў — і вось які быў бы той верш.

Рахманыя, няўпартыя,
Мы ўсе — адзін калгас.
Кіруе намі партыя
І думае за нас.
Дазвол ёсць жыць у лагеры
Сацыялізму ўсім.
Дарма буржуі звягаюць,
Мы не зайздросцім ім.
На волю нам не хочацца,
Мы рушым свет стары,
І вораг не праточыцца
У цвёрдыя муры.
Дакладна кожны ведае:
Быў камуніст — Ікар!
Для мар пра заўтра светлае
Хапае голых нар.

* * *

Пахавалі Ніну Мацяш[84]. Стамілася жыць. Спынілася сэрца.

Дзень быў пахмурны, няўтульны, са снегам і дажджом, з пранізлівым ветрам. На могілках, мерзнучы, я глядзеў на Ніну ў труне і баяўся, што яна захварэе. Злавіў сябе на гэтым і чамусьці нават не здзівіўся.

Перад адпяваннем у царкве было развітанне ў Белаазёрскім Доме культуры, дзе мясцовыя ўлады на грамадзянскай паніхідзе не далі ні слова прамовіць. Нікому — праз пісьменнікаў, якія прыехалі з Менска. А раптам скажуць нешта не тое...

Анатоля Вярцінскага[85] гэта надта ўжо абурыла... Ён заўсёды любіў пагаварыць, а з гадамі стаў гаваруном проста нястомным. Хоць што ён мог на той паніхідзе сказаць? Тое самае, што казалі пасля на могілках. Усе — у тым ліку і ён, і я...

«Сёння пад гэтым не надта вясёлым небам мы развітваемся з адной з найлепшых тваіх дачок, Беларусь. З дачкой са шчырым, чыстым і мужным сэрцам, з прамяніста-светлай і глыбокай-глыбокай душой. Такой дачкой ты можаш гэтак жа ганарыцца і гэтаксама любіць яе, як яна ганарылася табой і любіла цябе, Беларусь...»

Пахавалі Ніну не ў Нівах, яе роднай вёсцы, да якой прыбудаваўся Белаазёрск, а на новых могілках — у чыстым полі. На старых могілках, на якіх пахаваныя яе бацькі, нібыта не знайшлося месца.

Затое памінкі былі багатымі. І, трэба сказаць, высокімі. Відаць было, як за гады, пражытыя побач з Нінай, блізкія да яе людзі ўзняліся душамі. Ужо праз адно гэта не дарма, бедная, пакутавала.

Нехта з блізкіх сказаў: «Мы ўсе думалі, што гэта мы яе падтрымлівалі, люлялі на руках. А гэта яна нас падтрымлівала і люляла. І цяпер, калі яна нас пакінула, мы нібы ў паветры з пустымі рукамі...»

Калі вярталіся дахаты, памінаючы Ніну яшчэ і ў дарозе, успамінаўся і ўспамінаўся верш: «Раз’ясніваўся дзень, і ноч растаць хацела, але твая сляза ў маю слязу глядзела...» Чамусьці толькі ён.

* * *

Бураўкін у каторы раз распавядае пра тое, як яны з Вярцінскім збіралі подпісы пад лістом у абарону Быкава. Але гэтым разам ва ўспамінах ягоных усплывае даволі цікавы эпізод з Іванам Навуменкам[86], маім суседам.

Навуменка ліст адразу не падпісаў, пабаяўся… Бураўкін жа з Вярцінскім пастанавілі завершыць збор подпісаў у нейкі там дзень (Бураўкін сам мне памятае, у які) апоўначы. І ўсё, кропка. Хто падпісаў, той падпісаў. І раптам апоўначы тэлефануе Навуменка: «Генадзь, я перадумаў, хачу падпісаць». — «Хацець ты, Іване, — адказвае Бураўкін, — можаш, але падпісаць — не. Раней трэба было падпісваць, калі мы табе гэта прапаноўвалі, а цяпер позна». І кладзе слухаўку, каб спаць.

Але тут тэлефануе Алесь Адамовіч[87]: «Слухай, толькі што Навуменка са мной гаварыў, ты яму ліст падпісаць не даеш, дык няхай падпіша…» Бураўкін і яму адказвае, што позна, бо ёсць наконт гэтага дамоўленасць. І ёсць прынцыпы, у рэшце рэшт… Зноў кладзецца спаць, але яго падымае званок у дзверы:

Адамовіч з Навуменкам. Адамовіч амаль у адчаі: «Ды дай ты яму гэты ліст падпісаць, а то да раніцы тэрор будзе…»

Навуменка падпісаў і сказаў:

— *Цяпер я магу жыць у згодзе з сумленнем.*

Да Навуменкі-суседа і да Навуменкі-літаратара я адносіўся трохі па-рознаму, таму перапытаў: «Так і сказаў?» — і Бураўкін кіўнуў: «Слова ў слова. Вось такі быў некалі Іван…»

* * *

Стрыечныя браты Іван ды Лявон запрасілі ў суботу біць кабана ў Крыўску[88].

Забілі.

Пачатак красавіка… Дзень цёплы, сонечны… Найцяплейшы, як пасля мы дазналіся, за апошнія 63 гады. Значыць, гэткі красавіцкі дзень быў у 1946-ым, калі я нарадзіўся. І хоць ён да мяне — ніякіх адносін, але чамусьці прыемна пра гэта думаць…

Але найцяплейшы не азначае найлепшы. Ва ўсякім разе, не найлепшы гэткі дзень для таго, каб кабана біць. Кроў не гусцее, цячэ і цячэ… Пах душны, цёпла-салодкі… Зусім не той — снежны, марозны, калі з холаду ўрываешся ў хату, каб кульнуць чарку пад свежаніну. А тут ні чарка не кулялася, ні свежаніна не елася… Ну, не тое, каб зусім, але не ў смак, не ў смак.

Усё ў свой час рабіць трэба, усё ў свой час…

* * *

Ад аўтарскай самарэкламы ў сённяшніх выданнях ніяка-вееш... «У геніяльным рамане геніяльны аўтар геніяльна адлюстраваў…»

Быў такі рускі літаратар Антон Сарокін, які яшчэ ў 30-ыя гады рэкламаваў сябе не горш за літаратараў цяперашніх. Ён называў сябе «Вялікім сібірскім пісьменнікам», друкаваў свае грошы, паштовыя маркі. Зрабіў візітоўку: *кандыдат Нобелеўскай прэміі*. На гэтым лавіліся: «Антон Сямёнавіч, вы ж не атрымлівалі Нобелеўскай прэміі!» — «А я і не кажу, што атрымліваў, я *кандыдат* Нобелеўскай прэміі».

Акадэмік Капіца напачатку саракавых казаў: «У нас усе трымаюцца за хвост факта. Але ў газеце факт павінен быць асаблівы. Напрыклад, калі вас укусіў сабака, гэта не газетны факт. А вось калі вы ўкусілі сабаку — гэта ўжо цікава. Калі сабака ўкусіў прэм’ера — гэта цікава, а калі прэм’ер укусіў сабаку — гэта ўжо сенсацыя».

* * *

Для таго каб быць літаратарам, дастаткова не піць.

* * *

Людзі любяць трылеры наўкол і пастаралі ў доме.

* * *

Аляксандр Межыраў[89] памёр. У Злучаных Штатах, дзе дажываў ён жыццё ў доме для састарэлых.

Не рыфмуецца яно: паэт і дом састарэлых.

Апошні раз сустракаліся мы ў Доме творчасці. Незадоўга да ягонага ад'езду. Гэта быў канец лета, і гэта былі Дубулты[90], куды я выправіў Людмілу з Евай[91] і куды прыехаў сам, бо Ева патэлефанавала: «Межыраў хоча маму звесці і ў Амерыку павезці…»

Я не падумаў, што Ева жартуе, бо ва ўсім, што тычылася жанчын, Аляксандр Пятровіч быў прафесіяналам, і спецыялізаваўся менавіта на жонках сяброў і знаёмых — пухам яму зямля.

Я прыехаў, літаратурны раман скончыўся — і мы ўсю ноч пілі. Ён чытаў вершы, плакаў. Казаў, што не хоча ехаць. Бо тут ён геніяльны паэт, а кім ён будзе там?.. Я выказаў меркаванне, што там ён будзе геніяльным таксістам. Жарт быў не найлепшы, бо Аляксандра Пятровіча ледзьве не пасадзілі за тое, што нападпітку збіў ён машынай чалавека. Ды яшчэ збег… Межырыў пакрыўдзіўся, я пачаў выкручвацца і сказаў чамусьці, што там ён будзе рыбаком. На гэта ён адказаў, што ён і тут рыбак. Прычым геніяльны. Пад раніцу некуды пайшоў і вярнуўся з вялізнай рыбінай. Купіў, канешне, у рыбакоў, але наманіў, што злавіў. І папрасіў пабудзіць Людмілу, каб яна тую рыбіну засмажыла. Я пабудзіў…

…И стол был чистым только потому,
Что чистый спирт не оставляет пятен,
Так воздадим же должное ему…[92]

«Ну і што, што збег?.. — спытаў Ігар Шклярэўскі, які першы, патэлефанаваўшы з Масквы, сказаў мне пра смерць Межырава. — Спалохаўся і пабег. Ён не Герой Савецкага Саюза… Дый пасля: дзе няма страху — там няма Бога».

Ігар Іванавіч, які апошнія гадоў дваццаць пяць не выпівае ў застоллі больш за кілішак, быў п'яны. Адзін, як некалі, пляшку выпіў, дазнаўшыся, што Межырава не стала, а пасля ўжо патэлефанаваў. «Якую б, — спытаў, — на развітанне з ім песню заспяваць?..» І заспяваў нечакана: «В тумане скрылась милая Одесса, золотые огоньки…»

* * *

З ліста паэта Ігара Шклярэўскага да паэта Станіслава Куняева (калі яны яшчэ сябравалі):

«Прочел рецензию Абрамыча *(Барыса Слуцкага[93], які падтрымліваў Шклярэўскага ад самага ягонага прыезду ў Маскву).* Я его люблю и уважаю, но он совершенно не понял мой мир. Природа, свобода слов и чувств, мысль во плоти, в чешуе, в росе, в порыве — для него это не мысль, ему надо рассуждение, то есть голая формула, нужны философские потуги и намеки… истинный поэт хрен ложил на все рассуждения… Я разозлился страшно и Абрамычу напишу… он не понимает самого пронзительного — пространство и жизнь, костер и ледяное небо…»

Прыкладна тое самае некалі (калі мы яшчэ сябравалі) напісаў я ў лісце да Разанава[94], але так і не адправіў ліст, парваў. Бо Куняеў, рускі нацыяналіст, хоць і балюча, перакошана, але сябраваць умее (таму і надрукаваў у «Нашем современнике» ўспаміны да юбілею Шклярэўскага «В нашей дружбе и волчьей и нежной…»), а беларускі нацыяналіст (ці касмапаліт?) Разанаў — не. Ніяк.

А ўвогуле я пісаў і рваў лісты і да Быкава, і да Барадуліна, і да…

Напішаш, падумаеш — і парвеш.

Парванае не застаецца.

* * *

Актрыса Ранеўская[95] тэлефануе нараніцы паэтцы Ахматавай[96] і кажа, што ёй сніўся Пушкін.

— Зараз жа еду, — адказвае Ахматава.

Калі мроіць нейкую супольнасць, трызніць нейкім (паэтавым над пабытовым) узроўнем адносін, дык гэтакім.

* * *

Субяседнік Паэта зусім не чытач. Субяседнікі Паэта — Ён і Яна. Бог і Вечнасць. Больш размаўляць Паэту няма з кім і няма пра што.

Але што да Паэта Богу і Вечнасці? Калі наперад ведаюць яны ўсё тое, што ён скажа, бо самі ж і нашэптваюць, і падказваюць яму магічныя словы, падаюць таямнічыя знакі...

Ім цікава: «Ці ўгадае?» — іх займае Гульня.

Паэт — дзіця, Бог і Вечнасць — таксама дзеці.

* * *

Рыгор Барадулін даў рукапіс кнігі (каб я напісаў прадмову) з назвай «Паслаў бы табе душу». Гэта ягонае ліставанне з маці ад 1954 года (калі ён паехаў вучыцца ў Менск) па 1970 — год смерці Куліны Андрэеўны.

Шчымлівае чытво... І шмат у чым (калі нібыта ведаеш чалавека, побач з якім пражыў паўжыцця) нечаканае. Чытаеш — і яшчэ раз пераконваешся: не ведаем мы адзін аднаго (усе ўсіх), якія мы ні ёсць блізкія. Так, не зведаўшы, і развітваемся навечна. Калі выпадкова (як праз гэтыя лісты) не зазірнём у спраты, у сховы сваіх сяброў, дзяцей, бацькоў...

Лісты высвечваюць Барадуліна *жыўцом*. Ён не хаваецца ў іх, бо няма патрэбы, і не выдумляецца, бо перад кім і для чаго? *Маці* яшчэ ж не стала *тэмай* паэзіі (што шмат каго, да прыкладу, Рыгора Саламонавіча Бярозкіна[97], які лістоў барадулінскіх не чытаў, раздражняла: «Ты, Грыша, як дзіця: мама, мама, мама...»)

Між іншым, з лістоў разумееш, чаму ў Барадуліна столькі вершаў, прысвечаных маці. Не маці ўвогуле, а менавіта маці Куліне. Божа, як слепа і ў той жа час мудра яна яго любіла! «Добрый дзень, сыночак мой любый! Палучыла узнова пісьмо і грошi. Детка маё любая, я ужо не знаю, ті сплю, ті уво сне віжу, ті правда гета ты такое чуда тварыш! Ужо на пошце усе удівляюцца, гаворуть: «Во сын невідімый!»

А перад тым, у ранейшым лісце: «Ты став нервный ат добрай жізні...»

Як яна не хацела, каб сын рана ажаніўся! Як упіралася!.. А як толькі справілі вяселле, так маці мякка зламалася — і нявестка стала любай дачкой. Сказала толькі Куліна Адрэеўна нявестцы: «Каб ты была парасяткам, я б цябе не купіла, бо надта ж мала ясі».

Такой жанчыне штодня можна вершы прысвячаць.

Гэтай кнігай Барадулін не толькі маці душу паслаў, многім. Ва ўсякім разе, мне.

* * *

Выйшла нарэшце (з праблемамі і намаганнямі) кніга «Цэнтр Еўропы». Прэзентавалася ў Палацы мастацтваў.

Першае, што ўбачыў, — недагляды. Разнерваваўся…

Трохі супакоіўся тым, што недагляды можна знайсці ва ўсіх кнігах — нават у самых вялікіх. Рабінзон у Дэфо разоў дзесяць ходзіць з карабля на бераг, цягаючы дабро, якое сцеражэ (ці павінны сцерагчы) сабака, а той, прыстаўлены гаўкаць, нават не цяўкае. Ніводнага разу не гаўкнуў, не цяўкнуў. І пасля за ўсё сваё амаль трыццацігадовае жыццё на востраве Рабінзон (у гэткай адзіноце!) аніводнага разу з тым сабакам (няхай сабака пражыў не 28, а 14 гадоў) не загаварыў.

Затое Рабінзон амаль штодня купаўся ў моры… А ў «Трох мушкецёрах» ніхто з герояў (а гэта ж каралі, каралевы, маркізы з графінямі, французская знаць) ні разу не памыўся. Згадваецца толькі нейкае ружовае, адмысловае мыла, якое меў Араміс, каб мыць рукі, але ці памыў ён іх тым мылам — невядома…

Між іншым, Дзюма са сваім афрыканскім паходжаннем (і ўвогуле як чалавек поўдня) быў не надта ахайны, а ў Дэфо не было сабакі.

Прэзентацыі кнігі (якая прайшла на дзіва ўдала: зала ўстала і наладзіла авацыю) паспрыяў Рыгор Сітніца. Неяк яму ўдалося з усімі дамовіцца: з начальствам, з гэбэшнікамі... Пытаюся: як? — а ён: «Пракопавіч, ты не ведаеш, як цябе ўсе любяць! І чытаюць!.. Найперш гэбэшнікі і начальства».

* * *

Дзмітро Паўлычка[98] абсалютна дакладна прачытаў скразную метафару верша «Ляўкі»:

«Уладзімір Някляеў… яму належаць праніклівай сілы радкі пра тое, як жыў і як пачуваўся ў савецкім часе беларускі прарок, — хвалены ўладай і ёю ж забіты Янка Купала:

Быў страшны Купала, на ім,
Яшчэ даваенным, жывым,
Святочна кашуля гарэла!

Праз гэты вобраз можна ўбачыць і Паўло Тычыну ды Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюру ды Андрэя Малышку[99], на якіх

гэтаксама гарэла іхняя святочная, прэзідыумная апратка! Вось жа ўсё, што за таталітарным рэжымам мела святочнае прызначэнне, — гарэла, пякло, спальвала надламаныя сэрцы. Паэзія Уладзіміра Някляева напоўненая нечаканымі метафарамі, за якімі — пакутная доля Беларусі». (Прадмова Дз. Паўлычкі да кнігі перакладаў Святланы Жолаб «Річка — нескінченна», «Кieў», 2007).

А вось жа некалі (пры першай публікацыі ў часопісе «Полымя») Анатоль Вялюгін[100] (сам, без мяне) у радках: «Ён будзе на сходках начных / Спяваць, зратаваных ад кулі / Сяброў абдымаць, на якіх / Святочна палалі кашулі!», — зрабіў праўкі: «Сяброў абдымаць — *і на іх* / *Святочна запальваць кашулі!».*

Змяніўся скразны сэнс метафары, якім Анатоль Сцяпанавіч ахвяраваў або дзеля экспрэсіўнасці («і на іх святочна запальваць кашулі», — канешне ж, больш экспрэсіўна, чым «на якіх святочна палалі кашулі»), альбо каб свядома ад скразнога сэнсу адысці. Болей падобна на другое, бо апошнія радкі верша таксама змененыя.

Было: «Усё гэта будзе пасля. / Усё гэта будзе ніколі. / Пасля — у мальбе і праклёнах, / Ніколі — у спратах віны / Мільёнаў маўклівых, мільёнаў / Жывых і святочна спалёных, / Саснёных, як смутныя сны…» — а стала: «Пасля — у мальбе і праклёнах, / Ніколі — у спратах віны… / *Адзін і адзіны з мільёнаў,* / *Адзін і адзіны, спалёны* / *На росстанях смутных вайны».*

У самім *вершанапісанні* розніца не такая ўжо істотная, але ў сэнсе напісанага — заўважная.

Найдакладней, бадай, сэнс таго, што хацелася сказаць, выявіўся пры перакладзе на рускую мову:

Лишь глянет судьба исподлобья
Глазами минутной вины,
Читая на камне надгробья
О Родине смутные сны.

* * *

Уладзімір Яхантаў, рускі актор, бліскучы чытальнік вершаў, скончыў жыццё гэтаксама, як і Купала: палётам у лесвічны пралёт.

Хоць пішы, хоць чытай…

* * *

З ганарарам за першую кнігу (амаль паўтары тысячы рублёў, шалёныя грошы) шыбую ад касы непасрэдна ў краму, але на выхадзе з выдавецтва мяне даганяе Барадулін: «Няма тут каму і за што прастаўляць, нясі грошы дахаты!..»

Быў 1976 год, Рыгор Іванавіч у застоллях яшчэ ўдзельнічаў, але ўжо не актыўна: наліваючы іншым, сам не піў. Кайфаваў ад успамінаў…

Ні з кім, апроч яго, піць мне ў выдавецтве не надта й хацелася… Але ж не ісці дахаты, не справіўшы рытуал.

Званю Вялюгіну. Так, маўляў, і так, трэба справіць рытуал, а Барадулін… «Бяры скрыню, — не даслухаў Анатоль Сцяпанавіч. — У мяне мора закусі».

Мора дык мора, скрыню дык скрыню… Крама ад дома Вялюгіна цераз дарогу, дакладней, цераз праспект, прыцягваю скрыню гарэлкі, а ў Вялюгіна на круглым стале пасярод гасцёўні насамрэч мора закусі: поўны тазік камсы.

Узнялі кілішкі над тазікам.

— Дык за цябе! — сказаў Вялюгін. — Ты Богам не пачуваешся?

Я падумаў, што ён пра кнігу, засаромеўся:

— Не, ну што вы, Анатоль Сцяпанавіч…

— А я пачуваюся. Гэтаксама, як мы з табой зараз у тазік, Бог з нябёсаў у акіян глядзіць.

* * *

«Чужая мова лашчыць мне вуха, як пірсінг на чужым языку!». Для таго, каб такое ўзнікла, мала, каб з'явіўся паэт А. Хадановіч[101]. Апроч паэта А. Хадановіча, неабходны, як мінімум, пірсінг.

* * *

Валерыі Куставай[102] даслаў верш з апошнім радком «Бог не спіць»[103]. Праз дзень яна піша (нібы ў адказ): «Бог заснуў — і свет наш знік»[104].

Калі параўнаць пакаленне, з якога я, з пакаленнем, з якога Валерыя, дык іх, па-першае (як ні дзіўна) болей (Валерыя Кустава, Віталь Рыжкоў, Марыйка Мартысевіч, Рагнед Малахоўскі, Вальжына Морт, Усевалад Сцебурака, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак, Анатоль Івашчанка, Глеб Лабадзенка, Максім Шчур,

Андрэй Адамовіч[105], яшчэ ёсць маладзейшыя за іх), а па-другое, па ўзроўні яны ў свае 20–30 вышэй (хоць не ўсе, гэта ўжо зараз відаць, здолеюць вытрываць), чым былі ў такім узросце мы.

Сцёбу толькі ў іх зашмат… На ўсіх хапіла б аднаго Хадановіча.

* * *

Літоўцы (тэатр Meno Fortas) прывезлі ў Менск спектакль «Атэла», пастаўлены Някрошусам[106].

Даўно з такой асалодай не глядзеў на сцэну, па якой, як кветкі, раскідваліся метафары. Шматзначныя, вынаходлівыя. І гэта ў банальным аповедзе пра тое, як раўнівы муж, паверыўшы паклёпу, задушыў жонку.

Здорава, між іншым, задушыў. Прыгожа.

Спектакль на тры дзеі, кожная гадзіны паўтары. Някрошус не шкадаваў і не шкадуе часу, праведзенага на сцэне. Магчыма, ён лічыць, што па-за ёй час проста марнуецца. Можа быць.

Апоўначы, пад фінал спектакля, зала Дома афіцэраў, напачатку перапоўненая, амаль спусцела. Да мяне падышоў Алег Груздзіловіч са «Свабоды» і спытаў, як я думаю, чаму ўсе збеглі… «Менску не хапае тэатральнай культуры?..» — глядзеў ён на мяне, чакаючы, бо ў яго праз 20 хвілін эфір.

Я сказаў, што людзям па хатах пара.

— І больш нічога?

— І больш нічога.

Прайшоўшы за кулісы, я спытаўся ў актораў, якія на працягу ўсяго спектакля боўталі ваду ў празрыстых каністрах, імітуючы марскія хвалі: як яны думаюць, што яны рабілі?.. Яны сказалі, што імітавалі марскія хвалі, і больш нічога.

* * *

Калі я рэдагаваў бюлетэнь «Тэатральны Мінск»[107], дык абавязаны быў прысутнічаць на так званых *здачах* спектакляў Міністэрству культуры. У той час любы спектакль трэба было *з д а в а ц ь,* каб займець дазвол, *д о п у с к* на сцэну — па меркаваннях найперш ідэалагічных. На тых *з д а ч а х* было нямала момантаў даволі камічных…

*Здавалася* опера Рыгора Пуксты[108] «Аповесць пра сапраўднага чалавека». Актор, які выконвае ролю Аляксандра Мерэсьева, паўзе па сцэне і пяе: «О, колькі дзён паўзу я — ні кроплі ў роце

не было…» І адразу ўступае хор: «Гангрэна! Гангрэна! Яму адрэжуць ногі!..»

Я не вытрываў, засмяяўся.

На абмеркаванні оперы інструктар аддзела культуры ЦК КПБ (здаецца, прозвішча ягонае было Парватаў) спытаў, што я ў гераічным творы ўбачыў смешнае. Я адказаў. І нейкая дама з Міністэрства культуры адразу абурылася: «Чалавеку ногі адразаюць, а яму смешна!..»

Спектакль прынялі. Ідэалагічным патрабаванням адпавядаў ён цалкам.

* * *

З Ігарам Шклярэўскім амаль тыдзень прабылі на лецішчы ягонага брата на Бярэзіне. Ігар прыехаў з Масквы з усёй сваёй рыбацкай зброяй, у першы ж дзень злавіў жыўца на шчупака, але болей ні вуду, ні спінінг у Бярэзіну ні разу не закінуў. Жывец дастаўся кату Бонусу.

Ігар гаварыў, гаварыў і гаварыў… Дзень і ноч, дзень і ноч… Пра паэзію і пра гульню. Трэцім ці чацвёртым ранкам я спытаў: «Дык мы пойдзем лавіць?..» Ён якраз распавядаў пра тое, якія жарсці душу распіралі, калі перад самым юбілеем (яму ў ліпені было 70), усё прайграўшы ў казіно, ён пазычыў, ужо сабраўшыся дахаты, дзве тысячы даляраў, адну паставіў на 25, на свой дзень народзінаў, другой тысячай абклаў нумар з чатырох бакоў па 250 — і шарык упаў у нумар...

Пасля спытаў у адказ на маё пытанне: «Як ты думаеш, чаму я кінуў лавіць?..»

Рака — не рулетка.

Жарсці не тыя.

Тым не менш, каб хоць выгляд зрабіць, што збіраемся лавіць, сталі ладзіць лодку, якая працякала з кармы, і ён згадаў, як плаваў некалі матросам.

— Матрос Шклярэўскі! — спыняе мяне аднойчы на палубе капітан. — Вашы дзеянні ў выпадку пагрозы затаплення судна?

— Ацэньваю верагоднасць затаплення, рыхтую выратавальныя сродкі для пасажыраў, стараюся не дапусціць панікі…

— Усё фігня, матрос Шклярэўскі! Хапайце малаток і прабівайцеся да шлюпкі!

* * *

Міхась Стральцоў нападпітку задаваў, здаралася, зусім нечаканыя пытанні. Ну, да прыкладу: «Калі ты паэт, дык скажы, што такое кандак?..»

Пра кандак ніхто (у тым ліку я) нічога не ведаў. Але я даznаўся з энцыклапедыі, што гэта такое, і калі ў бары Дома літаратара Міхась Лявонавіч запытаўся пра той кандак у Міколы Федзюковіча[109], я за таго адказаў.

«Кандак — жанр візантыйскай царкоўнай паэзіі, назва якога паходзіць, магчыма, ад грэцкага kontakion, што значыць кароткі, але больш верагодна — ад цюркскага kondgar, што можна перакласці як настаўленне на шлях ісціны». (З энцыклапедыі).

Прыкладна так, як напісана ў энцыклапедыі, я і сказаў.

Уразіў мой энцыклапедычны адказ не столькі Стральцова, які ўхвальна кіўнуў: «Малайчына, што прачытаў, паэту трэба ведаць прафесію», — колькі Міколу. Ён хадзіў ад стала да стала і ўсім прапаноўваў наліць і выпіць за Някляева стоячы, бо такіх разумных, як я, ён не сустракаў і ўжо наўрад ці сустрэне, хоць сам скончыў літаратурны інстытут. Аляксей Дудараў[110], з якім мы тады вельмі блізка сябравалі, амаль заўсёды і паўсюль бывалі разам, выпіць за мяне згадзіўся, але ўставаць, седзячы з Жэняй Янішчыц[111], не захацеў, спытаўшы: «А з чаго ты ўзяў, што Някляеў такі разумны?» Мікола пачаў тлумачыць яму, чаму: «Бо Някляеў ведае… ведае… бо ведае… бо…» — ніяк не мог ён, нахадзіўшыся ад стала да стала, успомніць, чаму я разумны, а Дудараў усё чакаў, не ўставаў, шклянка ўсё не налівалася, і Мікола скончыў знясілена: «Бо ты кандак!..»

«Не энцыклапедычна, але лагічна», — пачуўшы гэта і ціха засмяяўшыся, сказаў Стральцоў.

* * *

Чалавек лёсу адзінотнага, Міхась Стральцоў нейкі час знаходзіўся амаль за кратамі — у Мазыры ў так званым лячэбна-працоўным прафілакторыі. А памёр ён ад раку. На памінках па ім я спытаўся ва ўсіх, хто прамаўляў пра яго, як яно водзіцца, усялякія пранікнёныя словы, сябе ўспамінаючы ўлюбёным ягоным сябрам: а хто з вас хоць аднойчы наведаў Стральцова ў тым прафілакторыі?.. Калі яму кепска было, калі ён ледзь не канаў…

Аказалася, што ніхто.

* * *

Адзінае, што маем на зямлі, — адведзены нам час. І ні з кім, і ні з чым не развітваемся мы гэтак лёгка, як з часам.

Віншую з Новым годам!

Сутнасць жыцця ў развітанні з ім.

* * *

Брат з’ехаў з Менска ў Смаргонь[112]. Доўга (праз тое, што Някляеў) не мог знайсці хоць якую-небудзь працу. Каб жыць, завёў гаспадарку: курэй, трусоў…

Прыязджаю ў Смаргонь, братавая кажа:

— Так, Валодзя, і жывём. Калі ўжо зусім сумна робіцца, выпіваем пляшку і глядзім, як трусы я…цца.

* * *

Брат пытае раніцай: «Сталін у якім годзе памёр? У дзевяцьсот пяцьдзесят трэцім?»

«Ну…»

«А ты ведаеш, што 953 грамы — гэта дакладная вага 1 літра 40-градуснай гарэлкі?..»

Як не ведаў я гэтага, так мог не ведаць, але якія дзіўныя асацыяцыі могуць блукаць у братавай галаве!

Вечарам выпілі.

* * *

Рэпутацыя, у тым ліку літаратурная, аднойчы сфармаваная, застаецца нязменнай. Нават калі той, чыя рэпутацыя маецца на ўвазе, змяняецца да непазнавальнасці, яго ўсё адно пазна*ю*ць па рэпутацыі. Як бычка ў статку па кляйме.

* * *

Можна дарогу прайсці ўдоўж, а можна перайсці ўпоперак.

* * *

Іншым разам, пастрыгаючы пазногці, ён рабіў выснову, што яны даволі хутка растуць. І ніякіх іншых высноў ніводнага разу не зрабіў.

Аднойчы, гледзячы ў люстэрка, сам у сябе спытаўся: «А колькі разоў засталося мне пазногці пастрыгаць?..» Але наўрад ці гэтае пытанне можна лічыць нейкай іншай, адрознай ад папярэдняй, высновай.

* * *

Ён сабраўся і пад руку са старасцю рушыў у апошнюю дарогу. Праз вярсту азірнуўся: можа, апроч старасці, яшчэ хто-небудзь яго праводзіць?.. Але больш на дарозе не было нікога.

* * *

Тры радасці жыцця: жанчыны, сябры, алкаголь.

Першымі робяцца лішнімі ў тваім жыцці і сыходзяць з яго жанчыны. За імі — хто ўслед за жанчынамі, хто аднaчасова з імі — сябры. Застаецца з табой алгаколь, ды аказваецца, што без жанчын і сяброў і ён без патрэбы.

У канцы шляху зноў, як і ў пачатку, ты ні з кім і ні з чым.

* * *

Сярод усіх святочных дзён не хапае мне Дня Ціхага акіяна.

* * *

Усё было б інакш, калі б чалавек не прыдумаў, што паселены ён на зямлі ў ролі прадстаўніка неба.

* * *

Прыклад някепскай сучаснай прозы:

«На Шыкатане, на беразе Ціхага акіяна, на краі свету, не думаецца пра прыгажосць і бясконцасць прасторы, якая называецца планетаю Зямля, не робіцца зразумелай твая нікчэмнасць (быў такі сахалінскі кампазітар з беларускім прозвішчам Нікчэмны, які напісаў знакамітую некалі песню са словамі «На острове нормальная погода...») ды дробнасць перад магутнымі сіламі прыроды і самою прыродаю ўвогуле, а прыходзіць момант, калі пачынае здавацца, што перад табою проста дэкарацыя акіяна ці шырокі экран кінатэатра і, калі пратканіненую паперу прабіць — за ёю будзе проста цемра, якая ёсць нішто, пачатак пачаткаў ці канец канцоў, альбо пачатак канца ці канец пачатку; якая знішчае

ўвогуле ўяўленне пра час і прастору і ўсялякі пачатак адначасова робіцца канцом, а канец — пачаткам, і ўсё сціскаецца ў кропку і гэтая кропка — ты, адзінокі, забыты ўсімі, пакінуты…»

Гэта пачатак аповесці «Пуціна» Барыса Пятровіча[113], першае апавяданне якога надрукаваў я некалі ў часопісе «Крыніца».

Аўтар здаваўся мне тады тыповым беларусам. Спакойным, ураўнаважаным. Ціхмяным. Але вось праз гады (ён ужо аўтар некалькіх кніг) гуляем мы ў карты… Мне ўсё адно, прайграю я ці выйграю, бо гуляем так — ні на што. А яму не ўсё адно, ён гуляе на ўсё! І ажно бялее і губы кусае, калі я раблю ход лепшы за ягоны… А калі раптам прайграе, дык кідае карты ўроссып і гатовы мяне кончыць, знішчыць, забіць!

Памыліўся я некалі ў вызначэнні ягонага характару… Зрэшты, ці не ўсе ў гэтым — у адносінах да ўсіх беларусаў — памыляюцца?

* * *

Напісаўся даволі дзіўны верш.

Пакуль Абаму[114] не забілі,
Яшчэ мы шанец не згубілі
Грахі прад Богам замаліць
І ўсіх, каго мы не любілі,
Пакуль Абаму не забілі,
Яшчэ мы можам палюбіць.

Пакуль, як на клавіятуры,
Свет беласкуры, чарнаскуры
(Чаму і музыка гучыць),
Мы можам не спраўляць хаўтуры
Па свеце, і псалмы і суры
Адной малітваю лучыць.

Пакуль Абаму не забілі,
Яшчэ мы шанец не згубілі
У храмах свечкі запаліць.
Заб’юць Абаму — рухнуць храмы,
І Бог памрэ, і цень Абамы
Над Богам будзе галасіць.

Што гэта?..

Неадчэпнае ў апошні час прадчуванне нейкай сусветнай катастрофы. Я нават бачыў сон з такім сюжэтам: у Пакістане вырабілі партатыўную атамную бомбу, нехта яе ўкраў і выбухнуў у Амерыцы, якая не змусіла сябе чакаць з адказам…

Вайна ў тым сне не зачапіла Беларусь.

Чаму?..

Таму што я люблю яе больш за ўвесь астатні свет — і Бог, які пасылае нам сны, не рашыўся на тое, каб у мяне Беларусь адняць. Чаму ж тады адымаюць у мяне Беларусь іншыя?.. Тыя, якія адымаюць у мяне беларускую мову, культуру, гісторыю, памяць?.. Яны вышэй за Бога? Ці ў іх Бога няма?.. Ці ў іх няма Бога толькі беларускага?..

* * *

На чарговым дні народзінаў Віктара Казько[115] ў чарговы раз аглядаем ягоны сад на лецішчы ў Дудутках. Пра кожнае дрэва ў гаспадара свая гісторыя, якая штораз паўтараецца ў адных і тых жа дэталях.

Я не юны мічурынец, таму аднойчы не вытрымліваю.

— Апанасавіч, ты мне ўжо ў дзесяты раз тое самае распавядаеш! І ў мінулым годзе, і ў пазамінулым!..

Казько ўважліва разглядае прывой на грушыне.

— Ты помніш?.. Дакладна тое самае?

— Помню! Дакладна.

— І нічога не блытаю?

— Нічога.

— Дык і добра. Ты помніш, я не блытаю… Значыць, ні ў цябе, ні ў мяне ніякага склерозу.

* * *

Кажу Віктару Казько, што ягоная кніга «Бунт незапатрабаванага праху» — гэта *прах незапатрабаванага бунту*…

— Гэта неяк страш-на-ва-та… — па звычцы сваёй трохі расцягваючы словы, прамаўляе Віктар Апанасавіч, які і напісаў гэтую страш-на-ва-тую, адну з лепшых у нашай літаратуры, кнігу.

* * *

Паміраючы ад раку, Яўген Будзінас[116] напісаў сцэнар свайго пахавання і аддаў жонцы для выканання.

Ні ў якім разе не несці яго ў царкву. І дома — ніякіх папоў, малітваў… Труну паставіць у ягонай любімай прыстройцы на лецішчы ў любімых Дудутках. Пажадана, каб сталася гэта зімой — і ён глядзеў бы, як падае снег, але ад сцэнарыста яно не залежыць.

Сталася гэта ўвосень. Падала ў садзе апошняе лісцё.

Ніякай пахавальнай музыкі. Толькі тая, якую любіў. Найперш песні Акуджавы…

З нейкім зусім іншым сэнсам гучала над труной у прыстройцы: «И друзей соберу, на печаль свое сердце настрою…» Ці песня Лазы «На маленьком плоту…» Асабліва: «Но мой плот вовсе не так уж плох…»

Далей па сцэнары — развітанне з любімым млынам. Каля млына — развітанне з сябрамі. Тут сказаць, хто і што хоча…

Спаліць у крэматорыі. Моўчкі, без прамоў.

Памінкі справіць у ягоным любімым грузінскім рэстаране ў Сцяпянцы. Успамінаць пра тое, пра што ўспомніць хараша і весела. Як хараша і весела было жыць.

Пахаваць у Дудутках…

Жэня вытрымаў стыль.

На сорак дзён падаў снег.

* * *

Мальер[117] сказаў: «Мы паміраем толькі аднойчы, але на ўсё жыццё».

* * *

Ігар Шклярэўскі кажа:

«Мне 70, а я пачуваюся ўдвая маладзейшым, я вальсую па начах, напісаўшы нечаканы тэкст, гуляю ў казіно, чытаю кнігі, я адчуваю сябе шчаслівым… і раптам заўважаю, што ні пра што не мару. Не ведаю, пра што марыць… Вось гэта і ёсць старасць».

* * *

Калі кажуць: «Стары ўжо, пажыў…» — чамусьці ўспамінаю фотаздымак хворага Малевіча[118] ў шпітальным ложку. Ляжыць

на крайку падушкі, прыкрыты прасцінай, загорнутай з-пад шыі на коўдру — і барада на прасціне, праз якую ён нагадвае і Дастаеўскага, і Распуціна, і пратапопа Авакума адначасова.

А Малевічу ў 1935-м, калі ён памёр, было ўсяго 57.

Калі памёр, замест абраза над ім павесілі ў надгалоўі «Чорны квадрат». Магчыма, выключна для гэтага (ці з думкай пра гэта) ім і намаляваны.

* * *

Я б хацеў састарыцца і памерці разам з маім жыццём. Не раней і не пазней.

* * *

Мая бабуля Алімпа[119] любіла сядзець на валуне на ўскрайку нашага поля. Валун быў такі, што трэба было прыстаўляць лесвіцу, каб на яго ўзабрацца. Бабуля ўзбіралася і падоўгу на камені тым сядзела. Звычайна рабіла яна гэта на заходзе сонца. Глядзела, нерухомая, як яно сядае, завальваецца, палаючы, за Багушоўскі лес…

Я спытаў аднойчы: навошта ты на камені гэтым сядзіш і сядзіш? Яна адказала: «А там, пад ім, мае костачкі».

Пакуль бабуля была жывая, дзіўнаваты адказ яе здаваўся мне дурнотай. Калі яна памерла, ён здаўся мне загадкай. Цяпер ён здаецца мне метафарай. Літаратурай.

* * *

Ёсць вершы з сакрэтамі — і ёсць з таямніцамі. Сакрэт разгадаў — і ўсё, верш назаўсёды скончыўся. Таямніцу ж не разгадаць. Да прыкладу, таямніцу Багдановіча: «У краіне светлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты…» Альбо таямніцу Бараташвілі ў перакладзе Пастарнака: «Этот синий-синий иней мглы над именем моим».

* * *

На 50-годдзе Анатоля Сыса з’ездзілі да яго ў Гарошкаў[120]: Акулін[121] (які ўсё і зрабіў, каб мы з’ездзілі), Арлоў[122], Вярцінскі, Дранько-Майсюк, Пашкевіч[123], Пятровіч, Кася Камоцкая[124], Алесь Камоцкі[125]…

На могілках, дзе пахаваны Сыс, маўчалі…

Побач са мной мясцовая маладая кабецінка ціха распавядала кабеціне старэйшай, як удала з’ездзіла на Украіну. «Там за даляр купіш столькі, колькі ў нас за пяць».

Раптам успомнілася, як Сыс захацеў, каб за верш, надрукаваны ў «Крыніцы», яму заплацілі далярамі. «Някляеў, я паэт валютны!..»

Я сказаў бухгалтарцы, каб памяняла рублі на даляры.

Заплацілі. Выйшла сто даляраў.

Праз дзень валютны паэт прыходзіць у рэдакцыю фіялетавы:

— Прадай мне эпітафію!

— Якую эпітафію?

— Сваю. «Памёр, каб не стамляць нікога: ні Бога, ні людзей і ні сябе самога».

— Забірай за сто даляраў.

Ён пляскае па пустых кішэнях:

— Прапіў валюту…

— Тады і эпітафію прапіў.

Ён глядзіць на мяне з пакутаю ў вачах:

— Тут у вас без грошай ні выпіць, ні памерці…

А вось жа памёр. Без грошай. Без нічога, без нікога. І эпітафія на камені надмагільным ягоным — не купленая.

* * *

Успомнілася, як ездзілі ў Глушу[126] (Бураўкін, Букчын[127], Гарэцкі[128], Законнікаў[129], Тарас[130], Тычына[131]…), каб адзначыць 80-годдзе Алеся Адамовіча. Быў слаўны восеньскі дзень з сонцам і дожджыкам, наогул было ўсё гэтак хораша, як рэдка бывае. Гаварылі пра Адамовіча на могілках, у клубе, у застоллі… Калі вярталіся ў Менск, Валянцін Тарас, ужо трохі нападпітку, раптам спытаў: «Як думаеце, чуў нас Алесь ці не?.. Я дык па літарах на камені на ягонай магіле — *А-л-е-с-ь А-д-а-м-о-в-і-ч* — загадаў: чуе — не чуе? Чуе — не чуе?.. Выйшла, што чуе. Нават літара апошняя ў імені ягоным і прозвішчы якраз тая, з якой слова гэтае пачынаецца: *ч*уе!»

Нехта спытаў: «А ты мяккі знак улічваў?..»

* * *

Усё часцей стамляешся пасярэдзіне шляху.

Процілегласць смерці не жыццё, а жаданне жыць.

* * *

Вяртаючыся ў мінулае, шкадуеш пра няздзейсненае. Больш там няма чаго рабіць.

Пасля ўсім расказваеш, нібы ні пра што ў мінулым не шкадуеш.

* * *

ЖЫЦЦЁ
*(Раман)*
Толькі ўстаў, а дзень пад вечар.
(*Канец першай і другой часткі).*

* * *

Як толькі пацягне раскрыцца, расхрыстацца, так згадваецца запавет Канфуцыя[132]: «Ніколі не распавядайце пра сябе ні добрага, ні кепскага. У першым выпадку вам не паверацць, у другім — прыўкрасяць».

* * *

Канфуцыя спыталі:

— Ці можна дазнацца, што было раней за неба і зямлю?

— Можна, — адказаў Канфуцый. — Раней было тое ж, што і цяпер.

* * *

З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц.

# ЦУДЫ ЎСЕ Ў АДНЫМ АДЗІНЫМ ЦУДЗЕ
## *Спроба аўтабіяграфіі*

### ТАК НАПІСАНА[1]

Калі 6 чэрвеня 1999 года, у дзень 200-годдзя Аляксандра Пушкіна, апынуўся я за мяжой, аказалася, што ў мяне не зусім акрэслены статус. У Пушкіна — акрэслены, а ў мяне — не. Таму паўстала пытанне пра палітычны прытулак, бо статус палітычнага эмігранта акрэслены цалкам. Гэтак, што ты *не можаш* зваротна перайсці мяжу, вярнуцца дамоў…

Падціскалі мяне з такім рашэннем, падбівалі да кроку такога і з нашага боку, і з таго. Кожны са сваім інтарэсам — а ў мяне які?..

І з беспрытульнага тлуму ў галаве прыснілася мне, нібы ўрэшце пайшоў-такі я палітычнага прытулку прасіць. Аказаўся ў нейкай казённай польскай установе, дзе гэты прытулак альбо даюць, альбо не даюць, і злосная на ўсіх «прытульшчыкаў» свету пані раздражнёна зайшлася ненавісцай мне кірмашовай візготкай:

— Як ледзь мы лепей зажылі, так адразу ўсе ў беднае польскае панства паперліся!.. А вам нашто наш прытулак?.. Вы і так паляк, у вас дзядзька ў Польшчы жыве![2]

Здранцвеўшы, я ўспомніў, што ў мяне яшчэ і бацька рускі, і наогул Бог ведае, хто я, але пачаў даводзіць, што я ўсё ж беларус, хоць у мяне бацька рускі і дзядзька ў Польшчы жыве, ды пані слухаць не стала:

— А скуль мы ведаем!.. Мы на словах нікога не прымаем — пішыце заяву і аўтабіяграфію!.. — І я фізічна запомніў, як у тым сне на нейкім бланку, які мне выдала візготная пані, на ягоных

верхніх лінейках чорным па белым напісаў: **«Аўтабіяграфія для прыёму ў беларусы».**

Помню, што лёгка, як заўсёды, пачаў аўтабіяграфію з месца і даты народзінаў, але з тым, што далей пісаць, як выявіцца беларусам так, каб мяне прынялі ў беларусы, — узнікла праблема…

Сон гэты быў з тых хуткіх, кароткіх сноў пад ранне, якія цалкам і падрабязна запамінаюцца, і я пра яго стаў думаць, бо адчуваў, што не такая ўжо і дурнота мне прыснілася.

Я задаўся просценькім пытаннем: а колькі ж напісаў я за сваё жыццё гэтых самых аўтабіяграфій?.. Безліч!.. А для чаго я іх пісаў? Каб паступіць у тэхнікум, у інстытут, у Саюз пісьменнікаў, каб паехаць за мяжу, каб атрымаць медаль, ордэн, прэмію, каб працаваць у газеце, у часопісе, на тэлебачанні, каб стаць карэспандэнтам, загадчыкам аддзела, галоўным рэдактарам — і гэтак далей, і далей, і далей, і яшчэ чорт ведае для чаго… І калі ў прэамбуле, у абавязковай саваёй частцы: дзе і калі нарадзіўся, на каго вучыўся, з кім і калі ажаніўся — аўтабіяграфіі тыя былі аднолькавымі, дык далей, у частцы змястоўнай і больш-менш адвольнай, у залежнасці ад таго, куды і па што я з імі шчаміўся, плішчыўся, былі яны даволі рознымі. Прычым настолькі, што ў біяграфію аднаго чалавека іх і не складзеш… А каб не толькі скласці, але і пражыць гэтыя біяграфіі без узаемавыключэнняў, трэба падзяліць іх па меншай меры на чалавек трох-чатырох, адным не абыдзешся.

Я ніколі не адчуваў у сабе асаблівай цэласнасці, нават не ўяўляю, як гэта чалавек сябе цэласным пачувае. Цэласнасць у нейкія асобныя моманты, калі трэба ўсе свае часткі сабраць, каб прыняць адно-адзінае рашэнне, — калі ласка. А так, каб праз усё жыццё, — не. Не магу разабрацца ў частках, няма інструкцыі па зборцы — і не разумею, як. Хоць людзі, якія лавілі мяне на ўнутранай раздвоенасці (адна жанчына нават сказала, што я ўвесь вітражны), даводзілі, што яны цэласныя і ёсць.

Ну, добра. Няхай так. Але як з аўтабіяграфіяй для ўступлення ў беларусы быць? Ды не з аўтабіяграфіяй — ці мала чаго не свайго ў ёй прыдумаць можна…

І зразумеў я раптам, што ніяк. Што толькі так, як ёсць. Як я пражыў, *як напісана.* Богам на небе і мной на зямлі. Бо так, *як напісана*, я і жыў. І быць так і таму, *як напісана,* з усёй маёй біяграфіяй, з усім маім жыццём.

# КАРАНІ

Даўным-даўно адзін з каралёў Брытаніі, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць з плячэй сваіх цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў. Дзякуючы геніяльным фантазіям Шэкспіра, увесь свет ведае пра тое, што сталася далей…

Значна менш, чым легенда пра ўладара Брытаніі караля Ліра, вядомая свету гісторыя пра ўладара Вялікага княства Літоўскага Гедзіміна, які, састарэўшы, вырашыў падзяліць паміж сямю сынамі найбагацейшыя гарады сваёй дзяржавы. Двух са сваіх семярых сыноў, у тым ліку Альгерда, вялікі князь абдзяліў.

Па смерці Гедзіміна Альгерд, якому дасталося Крэва, рушыў вайной на брата свайго Яўнута, адабраў у яго вялікакняскі, па спадчыне Яўнуту перададзены, вянец — і з дапамогай другога свайго брата, Кейстута, сам стаў вялікім князем. Амаль праз сорак гадоў Кейстут гэтаксама, як дапамог Альгерду, дапаможа стаць вялікім князем і сыну Альгердаву, свайму пляменніку Ягайле, а Ягайла ў «падзяку» за гэта загадае забіць яго ў кутняй вежы Крэўскага замка. Мала таго, Ягайла загадае забіць у Крэве і сына Кейстута, свайго брата стрыечнага Вітаўта, якога ўратуе, выведзе з вязніцы жанчына…

Напал жарсцяў чалавечых, што віравалі ў Крэўскім замку, ніколькі не меншы, чым у трагедыях Шэкспіра. У Крэве стагоддзямі спляталіся, сцягваліся ў вузел заблытаныя шляхі і сцяжыны нашай гісторыі.

Пад рэштками замкавых сцен, на руінах нашай гісторыі прайшло маё дзяцінства. Праз гэта, адсюль я — беларус. Нацыянальнасць — не запіс у пашпарце, а мова, гісторыя і культура, да якіх ты належыш. Хоць бацька мой, Пракоп Міхайлавіч Някляеў, родам з Волгі, — ва ўсім рускі чалавек. З неабдымнымі, як прыволжскія стэпы, памкненнямі і стыхійным, так да скону і не ўтаймаваным, характарам. На вайне яго, цяжка параненага і кантужанага, нават закапалі былі ў магілу, але ён і ў магіле выжыў. У 1945 годзе, калі ён адваяваў, яго не адпусцілі на Волгу, а накіравалі ў Заходнюю Беларусь. Тут лёс і звёў яго з маёй маці, так што я ў нейкім сэнсе — вынік вайны, таму і напісаў у адной з першых сваіх паэм: «Сутыкненне нацый і народаў вырашала: быць мне ці не быць?..» Пра тое самае адна з найбольш біяграфічных маіх аповесцяў «Мірон ды Мірон».

Маці мая, Анастасія Іванаўна Магер, вечная працаўніца, ціхая верніца. Калі бацьку я помню з пісталетам у руках, з якога — ледзь што не па ім — пачынаў ён страляць ва ўсе бакі, дык маці — са Святым Пісаннем, з малітваю перад абразом: «Даруй, Божа, пасланаму Табой мужу майму…»

Малілася яна, калі царкву ў Смаргоні зруйнавалі, пад яблыняй, якую называла Царквой. Ва ўсіх дрэў у нашым садзе былі свае імёны…

Так я і вырас, гэтак — паміж пісталетам і абразом — і прайшло дзяцінства. Амаль усё, што мной напісана, адтуль.

## ГРАМАТА

Чытаць я навучыўся недзе гадоў у пяць — і не па лемантары, а па Бібліі. Мой дзед Ясь, Іван Маркавіч Магер, якога дасюль у Крэве згадваюць, як святога, аслабеў на вочы і ўжо не бачыў літары Святога Пісання. «Цяпер твае вочы будуць маімі», — сказаў ён аднойчы і стаў вучыць мяне грамаце. Літары ў нас называліся Агрэст, Бульба, Гурок, Карова, Морква, Парэчка, Свіння, Цялушка, Шчаўе, Яблык,— яны раслі ў садзе і на гародзе, мыкалі і рохкалі ў хляве. І штовечар я дзеду, заікаючыся і ад няўмення, і ад намагання хоць неяк спасцігнуць тое, што напісана, чытаў: «Слово в начале было у Бога и само было Бог».

У вайну, не надта любячы Саветы, якія яго раскулачылі, адабралі зямлю, лес, тартак і зрабілі амаль жабраком, дзед Ясь хаваў у сваёй хаце савецкага афіцэра. Габрэя, ды яшчэ камісара. Знайшоў яго, усяго ў крыві, у яме, дзе буртавалася бульба. Сказаў жонцы, дачцэ і тром сынам, якіх немцы за гэта, каб дазналіся, разам з ім адразу б павесілі: «Бог паслаў да нас чалавека, каб мы яго ўратавалі…»

Калі дзед памёр, ён паслаў мне з таго свету доказ існавання Бога. Праз гады я напісаў пра гэта ў прыпавесці «Чмель і вандроўнік», прысвечанай Васілю Быкаву.

У Крэве я пайшоў у першы клас. З другога класа вучыўся ўжо ў Смаргоні. Скончыўшы сёмы, захацеў стаць геолагам. Вандроўкі, намёты… Касцёр, гітара… Рамантыка. У чатырнаццаць год «паступаць на геолага» паехаў у Кіеў, дзе драматычна закахаўся. Бялявенькая такая, яснавокая… Не помню, як яе звалі, але помню, як мяне праз яе білі. Пяцёра таксама ў яе закаханых хлопцаў, з якімі жыў я ў адным інтэрнацкім пакоі.

Старэйшыя за мяне, ужо пасля арміі… Закручвалі ў коўдру — і кедамі! Каб раскахаўся… Справіцца з імі было мне не па сіле, паскардзіцца не дазваляў характар. Трываў, колькі мог. Аднойчы закашляўся — на насоўцы кроў. Ну, думаю, рамантыка рамантыкай, каханне каханнем, а жыццё даражэй. Бывай, бялявая!.. Дый экзамены, бо не да іх было, здаў я абы-як. Не паклалася перада мной сцяжына, па якой можна было б пайсці ў геолагі… Не лёс.

Праз два гады падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка[3], не стаўшы перад тым ні ветэрынарам, як бацька хацеў, ні, як хацела маці, музыкам. Хоць маці і ўгаварыла бацьку прадаць карову і купіць мне акардыён.

Але і радыёмеханіка з мяне не выйшла. Законы, па якіх бегае ток па электраланцугах, аказаліся неспасцігальнымі. Пасля трэцяга курса вярнуўся дахаты, сказаў: «Усё. Не маё». Маці ў плач: «Сынок, ты ўжо хоць дзе-небудзь давучыся, людзі ж думаюць, што адусюль цябе выганяюць. З хаты на вуліцу не выйсці…»

Каб магла маці выходзіць на вуліцу, паехаў давучвацца. А як давучыцца, калі не цяміш, якую навуку спасцігаеш?..

Перад зімовай сесіяй купіў кнігу Альберта Энштэйна. Нават не ведаючы, нашто і чаму… І раптам чытаю, Энштэйн прызнаецца: вось усе кажуць, што я геній, тэорыю адноснасці прыдумаў і ўсялякае такое, а я, па праўдзе сказаць, дагэтуль не ведаю, чаму электрычная лямпачка гарыць.

Раблю ў кнізе закладку ды шыбую з Энштэйнам здаваць экзамен па спецыялізацыі. Шэры зімовы ранак, у аўдыторыі лямпачкі гараць. Бяру экзаменацыйны білет і, нават не чытаючы прапанаваных мне пытанняў, вяртаю білет выкладчыку. Кажу: у вучэльні вашай я выпадкова, зараз вы паставіце мне двойку, мяне выганяць — і гэта будзе справядліва. Але, каб усё ж хоць нешта талковае я адсюль вынес, не шкадаваў пра зусім ужо марна страчаны час, растлумачце вы мне на развітанне: чаму электрычная лямпачка гарыць?..

Давай мне выкладчык распавядаць, як адзін электрон штурхае другі электрон, а другі — трэці, і гэтак далей… Я ўважліва слухаю, галавой ківаю… Дзякую за тлумачэнні — і кладу перад выкладчыкам на сваю заліковую кніжку разгорнутую кнігу Энштэйна: а вось ён не ведаў…

Прозвішча выкладчыка было Дубко, але ён не аказаўся дубам. Выпускнік прэстыжнага маскоўскага (Баўманскага) інстытута, ён ацаніў мой, як сёння б гэта назвалі, пэрфоманс і даў мне магчымасць скончыць электратэхнікум сувязі.

З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля ў Сібіры і на Поўначы… З гэтымі маімі інстытутамі, з іх хоць і кароткімі, але насычанымі праграмамі, не параўнаць аніякія іншыя. Ва ўсялякім выпадку, не параўнаць з імі ні педагагічны, ні літаратурны інстытуты, адзін з якіх я скончыў, а другі, зноў жа, не…

## ЛІТАРАТУРА

Першая мая кніга павінна была выйсці на рускай мове, калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце4. Свету яна не пабачыла: я забраў рукапіс з маскоўскага выдавецтва «Молодая гвардия». На мяне там глядзелі, як на вар'ята, але я ведаў, што рабіў: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» паабяцалі выдаць мае беларускія вершы. У выбары я не вагаўся: першая кніга павінна быць беларускай. Бо пра карані, пра Крэва.

Прыехаў з Масквы ў Менск падпісваць дамову, а мне паказалі адмоўную (так званую закрытую) рэцэнзію. На чатырох аркушах. Зваротная старонка апошняга аркуша была ў плямінах ад сала, са слядамі нажа — і пахла цыбуляй… Нейкія людзі ў выдавецтве пілі, закусвалі, пасцяліўшы на рэдакцыйным стале газету, пад якую падклалі, што пад руку патрапіла, каб стол не парэзаць.

Паэзія тады ўяўлялася мне храмам — і гэта было, як лаянка ў храме. Не сама рэцэнзія, якую, як пасля прызнаўся яе аўтар, яго змусілі напісаць, а тое, як абышліся з ёй, са мной і з самім храмам ягоныя служкі. Я быў гатовы ўзненавідзець усю беларускую літаратуру…

Урэшце кніга са змененай назвай (не маёй, а выдавецкай) і без аднаго верша (пра які я потым сам забыўся і нідзе яго не друкаваў) выйшла. Найперш намаганнямі Рыгора Барадуліна, які падключыў да гэтага, як цяжкую артылерыю, Куляшова з Панчанкам. Народных, якія мелі вагу і моц, паэтаў.

Выкінулі з кнігі верш пад назвай «Праўда»[5]. Усяго чатыры радкі:

Божа мілы, да магілы
Мне прасіць тваёй парады:
Дзе набрацца боскай сілы,
Каб казаць людскую праўду?

Выкінулі мусібыць, праз тое, што ў той час, у пачатку 70-ых, Бога ў нас не было.

Неяк я праглядаў сваю першую кнігу — і намагаўся зразумець: з чаго маглі ўзнікнуць праз гэтыя вершы хоць нейкія праблемы?.. Не зразумеў.

Я і зараз шмат чаго не разумею, таму займаюся, займаюся і займаюся літаратурай. Бо толькі праз яе (праз мастацтва) і яшчэ праз Бога (праз веру) можна ў гэтым свеце нешта ўцяміць. Хоць крышку, хоць неяк наблізіцца да ўсведамлення: дзеля чаго ты тузаешся ў жыцці?

Калі сказаць, што няма і не можа быць з гэтага тузання ніякага выніку, гэта будзе праўда, але нейкая надта ўжо абсалютная, касмічная — за межамі разумення. Таму, можа, і пілуем мы, рэжам, трушчым неймаверную праўду на меншыя, маленькія і маленечкія (кожны на свае) праўдачкі. Здавалася б, з іх, няхай і маленькіх, але бясконцых у сваёй колькасці, ужо даўно павінна была б скласціся нейкая адна вялікая праўда, а яна не складваецца, не складваецца… Ці, нечакана для ўсіх і кожнага, раптам склаўшыся, зноў рассыпаецца. Бо не можа быць праўдзівым малюнак, складзены з кубікаў. Тым больш, што ўсе ведаюць: на кожным баку кожнага кубіка — фрагменты розных малюнкаў.

І ўсё ж менавіта мастацтва здолела больш-менш праўдзіва накідаць абрысы свету, у якім няма адной для ўсіх праўды. І найперш гэта здолела зрабіць літаратура, якую не цікавіць, чаму гарыць электрычная лямпачка.

Тая літаратура, у якой я пачынаў, савецкая імперская літаратура скончылася. Яна патанула, як «Тытанік». Лёс тых, хто знік у акіяне разам з караблём, трагічны. Але ці не горшая, бо самотная, доля тых, хто застаўся на беразе.

Мы чыталі вершы на стадыёнах, друкаваліся ў часопісах з мільённымі накладамі — і мільёны хацелі быць падобнымі на нас, на паэтаў. На каго яны хочуць быць падобнымі сёння?..

Парадаксальная праўда ў тым, што і на стадыёнах, і ў часопісах мы ўсё зрабілі для таго, каб ні стадыёнаў, ні часопісаў у нас не стала.

Сёння літаратура не большая, але і не меншая за сябе. Займае тое месца, якое займае. І з ім можна звыкнуцца, калі пісаць і пісаць, а не ўспамінаць і ўспамінаць…

Калі пісаць, дык толькі так пісаць,
Як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай,

Як з вены ў вену кроў пераліваць…
Пісаць, як спавядацца і маліцца.

## ПАЛІТЫКА

«Калі ты не займаешся палітыкай, дык яна займецца табой…» Мной яна ўпершыню (шчыльна, каб адчуў) занялася ў сярэдзіне 70-ых.

Набліжаўся чарговы з'езд КПСС. Мяне выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола. «Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з'езду ад савецкай моладзі».

Пытацца: «Чаму я?» — не выпадала. «Дзякуй за гонар». Сапраўды ж: адзін з усіх.

Напісаў і паехаў у Менск. Праз месяц зноў выклікаюць. «Твае вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езда…»

Да канца эпохі Брэжнева, абвешанага зоркамі і анекдотамі, заставалася чатыры гады. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У грамадстве, не для ўсіх заўважны, блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэткі час мне чытаць на ўсю краіну: «Плыви, страна, эпохи ледокол!..»

Я ўсё разумеў… Не шмат знойдзецца паэтаў, якія выпіць са мной захочуць.

Пасля тыя ж паэты, усё ж выпіваючы, дапытвалі: «Чаму не адмовіўся?..» А вы станьце пасярод неабсяжнага кабінета сакратара ЦК па ідэалогіі — і адмоўцеся. Скажыце: «Пайшоў ты са сваім з'ездам!..» Толькі перад тым папрасіцеся ў псіхушку з больш-менш адвольным рэжымам, дзе б вам хоць пісаць дазволілі.

Пайшлі бясконцыя рэпетыцыі… На радыё, тэлебачанні, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў… З усіх бакоў гэбісты, загадчыкі цэкоўскіх аддзелаў і сектараў — чалавек сто за гэта адказвала. Я ў соты раз чытаў пра ледакол эпохі — і ў соты раз думаў…

Кожнаму чалавеку дае жыццё шанец на выйгрыш. Некаму — выйграць грошы, некаму — лёс. Калі шанец такі вялікі, дык ён, звычайна, адзін. Але большасць людзей, мяркуючы, што ён не апошні, яго прапускаюць.

Мой шанец выглядаў, як лёс. І ў соты раз падумаўшы, я вырашыў яго не прапусціць: сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, якая патанае… Расстраляць мяне, прыкінуў,

наўрад ці расстраляюць, часы ўсё ж не сталінскія. Канешне, пасадзяць, але шанец таго варты…

Ды адно — падумаць, іншае — зрабіць.

Не змог. Не здолеў.

Не знайшлося ў апошні момант сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі аточвала ахова, выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны на паўтары пазней, нібы нешта западозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся, чытаючы: усё адно пойдзе фанаграма, запісаная ў студыі на Шабалаўцы. Якая розніца: пачулі б мяне ці не?.. Проста не здолеў, не змог. Не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: «Плыви, страна, эпохи ледокол!..» І вяла запляскалі ў далоні Брэжнеў, Суслаў, Гарбачоў…

Я не быў тады (і нават не мысліў, што буду) дысідэнтам, не збіраўся выступаць (беларускі савецкі паэт) супраць савецкай улады. Мяне не задавальнялі ў ёй канкрэтныя асобы і — адпаведна — іх канкрэтныя дзеянні. Гэткай матывацыі аказалася недастаткова, каб з разлікам, запланавана здзейсніць тое, на што здольныя толькі людзі апантаныя. Якія ні на што не разлічваюць.

Шкадаваць пра гэта позна, а прызнацца ў гэтым — не. Хай яно і без патрэбы. Хіба толькі дзеля таго, каб праясніць адну з прычын, па якіх не склаліся ў мяне адносіны з новай беларускай уладай, з Лукашэнкам. Я не мог дапусціць, каб тое, што адбывалася са мной некалі на імперскай сцэне Савецкага Саюза, праз паўжыцця паўтарылася на мястэчковай сцэне. На ўзроўні фарса. Хоць і на крамлёўскай сцэне была не такая ўжо высокая трагедыя, але ўсё ж…

## ЖЫЦЦЁ

Наўрад ці хто-небудзь чуў, каб я на жыццё жаліўся…

Некалькі разоў яно падломвалася — дык што ж… Бацькі мае жылі куды цяжэй, не жалячыся. І ніколі і нічога, молячыся, маці ў Бога не прасіла. Толькі дзякавала, толькі дзякавала…

У кнізе «Так», напісанай у Польшчы і Фінляндыі, дзе мне не надта хацелася быць, я на вокладку вынес радкі з паэмы «Ложак для пчалы», самай беларускай з усіх напісаных мной паэм:

…Як смерць, бялее маці,
Кажа маці: «Не прасі.

Ані каліва якога,
Ні свайго і ні чужога,
Як бы ты ні бедаваў,
Не прасі нічога ў Бога —
Ён і так табе ўсё даў…»

Паэма гэтая маці і прысвечаная.

У гэтай жа кнізе — прысвячэнні жанчынам, якіх кахаў. Нябесныя жанчыны. Я не варты ніводнай з іх.

Апроч кахання, сям'і, сяброў, Бог даў яшчэ і занятак, які па мне. Літаратуру. Паэзію. Хоць доўгі час, даволі жорстка сябе ацэньваючы і самому сабе не давяраючы («Нібыта ўвайшоў без білета Туды, дзе спытаюць білет…»), я і Богу не давяраў. А раптам Ён памыліўся?.. І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай кнігі, ці нават пасля пятай, пасля «Прошчы», я падумаў, што, можа быць, і не сталася памылкі на нябёсах. А калі сталася, дык невялікая. Такая, якую можна выправіць на зямлі.

…Я рабіў некалькі спробаў (даруй, Божа!) пакінуць зямлю. Бог не даў мне гэтага здзейсніць. Не дазволіў саграшыць перад Крэвам, перад продкамі, перад маці, а перадусім — перад Ім. Каб я ўрэшце ўцяміў:

Ува ўсім, што ёсць, было і будзе —
Ані ў чым цябе магло не быць.
Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:
У неверагодным цудзе
Жыць.

*Сакавік 2004, Хельсінкі, Менск*

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

### ВЕРШЫ

Вершы, датаваныя гадамі 1969–1995, друкуюцца паводле выд.: Някляеў, У. Адкрыццё. Мінск, 1976; Някляеў, У. Вынаходцы вятроў. Мінск, 1979; Някляеў, У. Знак аховы. Мінск, 1983; Някляеў, У. Наскрозь. Мінск, 1985; Някляеў, У. Галубіная пошта. Мінск, 1987; Някляеў, У. Прошча. Мінск, 1996; Някляеў, У. Выбранае. Школьная бібліятэка. 1998. За выняткам: верш «Трэці дзень» друкуецца паводле часопіса «Дзеяслоў», 2008, № 2 (33); верш «Не па ваду, не па дровы…» друкуецца паводле рукапісу.

Вершы, датаваныя гадамі 1996–2004, друкуюцца паводле выд.: Някляеў, У. Так. Мінск, 2004. За выняткам: верш «З Дранько-Майсюка» друкуецца паводле часопіса «Дзеяслоў», 2003, № 5.

Вершы, датаваныя гадамі 2005–2009, друкуюцца паводле часопіса «Дзеяслоў», 2006, № 3 (22), «Дзеяслоў», 2008, № 2 (33); выд.: Ягамосць (бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»). Мінск, 2009; выд.: Колькі ў небе зор. Смаргоншчына літаратурная. Мінск, 2009. За выняткам: вершы «Такі празрысты, ціхі вечар…», «Евангелле», «Боскі падарунак», «Апошні паэт», «Залатая сцежка» друкуюцца паводле рукапісу.

### ПАЭМЫ

*Маланка (с. 91)*

Упершыню — час. «Полымя», 1983, № 2.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Знак аховы. Мінск, 1983.

*Індыя (с. 111)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1995, № 10 (15).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Прошча. Мінск, 1996.

[1] *Свамі* — святы.

[2] *Англійскіх могілак Калькуты.* — Калькута (Kolkata) — сталіца штата Заходняя Бенгалія (Індыя); у Калькуце ад часоў каланізацыі захаваліся могілкі англійскіх афіцэраў.

[3] *Гаруда* — міфалагічная птушка з тулавам чалавека і галавой арла, на якой лятаў бог Вішну.

[4] *Мандара* («вялізная», «цвёрдая») — гара, на якой жывуць багі.

[5] *Увесь у жоўта-залатым* — колер апраткі індыйскіх манахаў.

[6] *Евангелле ад Рамакрышны.* — Рамакрышна (Гада д-хар Чатэрджы, 1836–1886) — рэлігійны рэфарматар, філосаф неаіндуізму.

[7] *Гатовае па волі Брамы.* — Брама (brahma) — найвышэйшы сярод багоў, носьбіт творчай сілы; стваральнік свету.

[8] *Яно глядзела ў вочы Ямы.* — Яма — валадар царства мёртвых; у індуісцкай міфалогіі Яма — «першы, хто памёр».

[9] *Хары і Меру* — горныя вяршыні ў Гімалаях.

[10] *Суцці* — рытуальнае самазабойства: самаспальванне ўдавы на кастры мужа.

[11] *Дзе Вішну абвіла змяя.* — Вішну — адзін з трох (Брама, Вішну, Шыва) вярхоўных багоў індуісцкага пантэона; бог, які ахоўвае, зберагае свет.

### *Прошча (с. 122)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1999, № 10 (15).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Прошча. Мінск, 1996.

### *Паланэз (с. 134)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2002, № 1.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Так. Мінск, 2004.

[1] *«Ja kocham cię...»* — я кахаю цябе (польск.).

[2] *«I love you»* — я кахаю цябе (англ.).

[3] *Вайдаў фільм без Вайды.* — Анджэй Вайда — польскі рэжысёр, аўтар фільма «Пан Тадэвуш» паводле паэмы Адама Міцкевіча.

[4] *Міцкевіч з Францыі лісты / Чытае Польшчы ўсёй...* — эпізод з фільма «Пан Тадэвуш».

[5] *Акторы... Кветкі Тэлімэне, / Якую не сыграла ты, / Саперніцы як прайграла...* — Тэлімэна — гераіня паэмы «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча; у аднайменным фільме А. Вайды ролю Тэлімэны выканала Гражына Шапалоўска.

[6] *Аліцыя чытае вершы...* — Аліцыя Бахельда-Курус — акторка, выканаўца ролі Зосі Харэжкоўскай у фільме А. Вайды «Пан Тадэвуш».

[7] *Літва мне снілася... Па Нальшы / Скакалі вершнікі...* — Нальша — зямля старажытнага нальшанскага племені (з гарадамі Браслаў, Ашмяны, Вільня, Трокі, Ліда, Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Наваградак, Маладзечна, Смаргонь, Вілейка) з цэнтрам у Крэве.

[8] *Далей балоты / І Жмудзь. Яе пад крыжакоў / Аддаў я, каб не ліць там кроў…* — Жмудзь (Жэмайтыя, літ. *Žemaitija*) — зямля паміж нізоўямі Нёмана і Віндавай (Вентай) на паўночным захадзе сучаснай Літвы.

[9] *…і ў срэбры тым / Стаяў Міндоўг, а поруч з ім — / Ягайла, пяты сын Альгерда…* — Міндоўг (~1195–1263) — заснавальнік і першы вялікі князь (1248–1253) Вялікага княства Літоўскага, першы і апошні кароль літоўскі (1253–1260); Ягайла (~1348–1434) — вялікі князь літоўскі (1377–1392), кароль польскі (1386–1434) і вярхоўны князь літоўскі (1392–1434), заснавальнік каралеўскай дынастыі Ягелонаў; Альгерд (~1295–1377) — вялікі князь літоўскі.

[10] *Яшчэ з пары, як Гедзімін / Заваяваў сталіцу вількаў.* — Гедзімін — вялікі князь літоўскі (1316–1344); сталіца вількаў (ваўкоў) — Вільня.

[11] *Праз гэты доўг — супроць Масквы — / Я з Польшчай ажаніцца мусіў…* — У 1386 Ягайла ажаніўся з польскай каралевай Ядзвігай (каранаваная ў 1384) і стаў каралём Польшчы.

[12] *— У Ясну Гуру / Паедзем?* — Ясна Гура (Jasna Góra) — каталіцкі манастыр (г. Чанстахова, Польшча). Поўная назва: Санктуарый Прасвятой Дзевы Марыі Яснагурскай (польск. Sanktuarium Najświętszej Maryi Panny Jasnogórskie).

[13] *Гэта — шлях. / Яго пачаў я пад Дуброўнай.* — Маецца на ўвазе Грунвальдская бітва, вядомая яшчэ як Бітва 15 ліпеня 1410 пад Дуброўнай.

[14] *Суомі* — адна з назваў Фінляндыі.

[15] *Маё імя / Спаліў манах… / Спазнаў я Тао.* — Тао — старажытнакітайская (у еўрапейскай транскрыпцыі *Дао*) філасофская сістэма самаўдасканалення («шлях узнясення») чалавека; спальванне напісаных на паперы імёнаў — адзін з рытуалаў (сучасных) медытацый Тао.

# ПРОЗА

## АПАВЯДАННІ

### *Бомба (с. 177)*

Упершыню — дадатак «Літаратурная Беларусь», газ. «Новы час», 2008, 31 сакавіка – 6 красавіка.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы. Мінск, 2009. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»).

*Юзік (с. 180)*

Упершыню — дадатак «Літаратурная Беларусь» газ. «Народная воля», 2009, 10 лютага.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Музей Броўкі (с. 182)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2009, № 2 (39).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Залатая Арда (с. 191)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2008, № 6 (37).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Цмок (с. 204)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2009, № 2 (39).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Адлюдак (с. 207)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2007, № 5 (30).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Хайбах (с. 228)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 21 снежня 2001 г.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Чмель і Вандроўнік (с. 237)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 2003, № 28.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

## АПОВЕСЦІ

*Мірон ды Мірон (с. 246)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2004, № 6 (13).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Прага (с. 276)*

Упершыню — час. «Полымя», 2001, № 12.

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

*Вяртанне Веры (с. 328)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2008, № 4 (35).

Друкуецца паводле выд.: Някляеў, У. Цэнтр Еўропы.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, ЭСЭ

### *Шлях (с. 407)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2007, № 3 (28).

Друкуецца паводле рукапісу.

### *Праз лес, праз лёс (с. 443)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2007, № 4 (29).

Друкуецца паводле рукапісу.

### *Знакі прыпынку (с. 481)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 2005, пачынаючы з № 47 (з працягам у наступных нумарах).

Друкуецца паводле рукапісу.

[1] *«Памерла… памерла… памерла… памерла… памерла».* — Маці: *Някляева (Магер)* Анастасія Іванаўна (1919–1993).

[2] *Побач з ёю пакінулі месца для бацькі.* — Бацька: *Някляеў* Пракоп Міхайлавіч (1911–1993).

[3] *…над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі.* — Крэўлянка — рэчка ў Крэве; аўтар падае назву рэчкі менавіта так, хоць на мапах — *Крыўлянка.*

[4] *Дзед казаў: «З табой дамавік гуляе».* — Дзед: *Магер* Іван Маркавіч (1887–1975).

[5] *Барадулін* Рыгор (1935) — народны паэт Беларусі, рэдактар першай кнігі У. Някляева «Адкрыццё».

[6] *«Данос слугі перажыве Вальтэра».* — Маецца на ўвазе Мары Франсуа Аруэ *Вальтэр* (1694–1778), французскі пісьменнік, філосаф, гісторык.

[7] *Бамаршэ* П’ер Агюстэн Карон (Pierre Augustin Caron de Beaumarchais, 1732–1799) — французскі пісьменнік.

[8] *Караткевіч* Уладзімір (1934–1987) — паэт, празаік, найяскравы прадстаўнік гістарычна-рамантычнай плыні ў беларускай літаратуры.

[9] *На прэс-канферэнцыі ў Варшаве…* — З 6 чэрвеня 1999 па 25 сакавіка 2000 У. Някляеў жыве ў Варшаве; згаданая прэс-канферэнцыя, арганізаваная старшынёй камісіі Еўразвяза на рэферэндуме 1996 года ў Беларусі Тадэвушам Івіньскім, адбылася 20 ліпеня 1999 у польскім Сейме.

[10] *Шарэцкі* Сямён (1936) — старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1996–1999); з ліпеня 1999 — у эміграцыі.

[11] *Квасьнеўскі* Аляксандр (Aleksander Kwaśniewski, 1954) — прэзідэнт Польшчы ў 1995–2005.

[12] *Быкаў* Васіль *(*1924–2003) — народны пісьменнік Беларусі; з 1997 па 2003 — у эміграцыі.

[13] *Пазьняк* Зянон (1944) — старшыня Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання; з 1997 — у эміграцыі.

[14] *Сэнюх* Чэслаў (1930) — польскі (беларускага паходжання) перакладчык, паэт, публіцыст; пераклаў паэму У. Някляева «Паланэз».

[15] *Тут непадалёку ў бок Ramsinnieti…* — з вясны 2000 У. Някляеў жыве ў Хельсінкі (Фінляндыя).

[16] *…мы са Стасам* — з унукам.

[17] *Астаф'еў* Віктар Пятровіч (1924–2001) — рускі пісьменнік, блізкі сябар В. Быкава.

[18] *Салжаніцын* Аляксандр Ісаевіч (1918–2008) — рускі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970); у 1974 высланы з Савецкага Саюза, да 1987 — у эміграцыі (ЗША).

[19] *Фаулз* Джон (1926–2005) — пісьменнік, прадстаўнік постмадэрнізму ў ангельскай літаратуры.

[20] *Гасэ* Філіп Генры (Philip Henry Gosse, 1810–1888) — ангельскі вучоны-натураліст.

[21] *Шатабрыян* Франсуа Рэнэ дэ (Chateaubriand François René de, 1768–1848) — французскі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч, «бацька рамантызму» ў французскай літаратуры.

[22] *Крэва* — мястэчка ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобл., дзе У. Някляеў правёў дзіцячыя гады; сталіца старажытнай *Нальшы,* знакавае месца беларускай гісторыі: у 1385 у Крэўскім замку была падпісана дамова паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай (Крэўская унія).

[23] *Кастанэда* Карлас (Carlos Castaneda, 1925–1998) — амерыканскі антраполаг, філосаф.

[24] *Гейдар* Джэмаль Джахідавіч (1947) — ісламскі філосаф, палітолаг, грамадскі дзеяч.

[25] *«Guardian»* (The Guardian) — уплывовая ангельская газета.

[26] *…(мне Ева паказала, яна газету гэтую чытае)* — Ева *Някляева*, дачка.

[27] *Дэрыда* Жак (1930–2004) — французскі філосаф, вядомы сваёй тэорыяй «дэканструкцыяў», паводле якой сэнс любога тэксту можа быць патлумачаны адвольна.

[28] *Чжуан-цзы* (таксама Чжуан Чжоу, IV ст. да н. э.) — кітайскі філосаф.

[29] *Цзы Ся* (V ст. да н. э.) — кітайскі філосаф, вучань (па некаторых звестках — унук) Канфуцыя.

[30] *Дастаеўскі* Фёдар Міхайлавіч (1821–1881) — рускі (беларускага паходжання) пісьменнік.

[31] *Танк* Максім (Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995) — народны паэт Беларусі.

[32] *Мураўёў* Генадзь Мікалаевіч (1938) — прафесар, доктар медыцынскіх навук.

[33] *«І я дзякую фінам...»* — У тым, каб на магіле Васіля Быкава з'явіўся камень з Фінляндыі, паспрыялі Юка Малінэн (віцэ-прэзідэнт Фінскага ПЭН-цэнтра) і Юр'ё Лармала (дырэктар дэпартамента культуры муніцыпалітэта г. Хельсінкі); падрабязней гл.: Някляеў, У. Стрэмкі (у кнізе «Наш Быкаў». Мінск, 2004).

[34] *Колас* Якуб (1882–1956) — народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры.

[35] *Ібсен* Генрык Юхан (Ibsen Henrik Johan, 1828–1906) — нарвежскі драматург і тэатральны дзеяч.

[36] *Зотава* Аляксандра Георгіеўна — настаўніца, блізкая знаёмая Якуба Коласа; падрабязней гл. эсэ У. Някляева «Праз лес, праз лёс».

[37] *Купала* Янка (1982–1942) — народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры; пра Я. Купалу гл. эсэ У. Някляева «Шлях».

[38] *Багдановіч* Максім (1891–1917) — паэт, класік беларускай літаратуры.

[39] *Сыс* Анатоль (1959–2005) — паэт; гл. вершы У. Някляева «Пакацігарошак», «Лён», прысвечаныя А. Сысу.

[40] *Фрэйд* Зігмунд (1856–1939) — нямецкі філосаф, псіхолаг; стваральнік псіхааналізу — методыкі лекавання псіхічных захворванняў.

[41] *Стукаліч* Уладзімір (1856–1918) — літаратуразнавец, гісторык, краязнавец; у час навучання ў гімназіі — карэспандэнт Ф. М. Дастаеўскага; расстраляны ў 1918 годзе за «контррэвалюцыйную дзейнасць».

[42] *Брыль* Янка (Брыль Іван Антонавіч (1917–2006) — народны пісьменнік Беларусі.

[43] *Стральцоў* Міхась (1937–1987) — беларускі паэт, празаік, эсэіст.

[44] *Дранько-Майсюк* Леанід (1957) — беларускі паэт, празаік, эсэіст; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў У. Някляеў.

[45] *Вішнеўскі* Уладзімір (1955) — беларускі мастак-графік.

[46] *Сітніца* Рыгор (1958) — беларускі мастак, паэт.

[47] *...Вольга трымала над галавой караля вянок.* — Жонка: *Някляева* (Болдырава) Вольга Валянцінаўна.

[48] *Чорны* Кузьма (Раманоўскі Мікалай; 1900–1944) — пісьменнік, класік беларускай літаратуры.

[49] *Рушдзі* Салман (1947) — брытанскі (індыйскага паходжання) пісьменнік, аўтар рамана «Сатанінскія вершы», у якім ісламскія радыкалы ўбачылі знявагу Карану і прысудзілі пісьменніка да пакарання смерцю.

[50] *Буднік* Уладзімір (1949–2007) — кампазітар, сааўтар многіх песень У. Някляева.

[51] *Шпянёў* Андрэй (1941) — музыкант, аранжыроўшчык; артыст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.

[52] *Палівода* Ігар (1950–1996) — кампазітар, музыкант, аранжыроўшчык; артыст ансамбля «Песняры».

[53] *Лучанок* Ігар (1938) — кампазітар, народны артыст Беларусі.

[54] *Іваноў* Валерый (1948) — кампазітар, народны артыст Беларусі.

[55] *Захлеўны* Леанід (1947) — кампазітар, народны артыст Беларусі.

[56] *Раінчык* Васіль (1950) — кампазітар, народны артыст Беларусі; кіраўнік ансамбля «Верасы».

[57] *Вайцюшкевіч* Зміцер (1971) — беларускі кампазітар, бард.

[58] *Бураўкін* Генадзь (1936) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч.

[59] *Гілевіч* Ніл (1931) — народны паэт Беларусі.

[60] *Шклярэўскі* Ігар (1938) — рускі (беларускага паходжання, нарадзіўся ў п. Бялынічы Магілёўск. вобл.) паэт.

[61] *...я ды ягоны брат.* — Алег *Шклярэўскі*, беларускі фотамастак, кінарэжысёр.

[62] *Еўтушэнка* Яўген (1933) — рускі (па маці беларускага паходжання) паэт; напісаў прысвечаны У. Някляеву верш: «Среди всех негодяев, / Проходимцев, громил, / Ты, Володя Некляев, / Светлый дух сохранил!»).

[63] *Матукоўскі* Мікалай (1929–2001) — беларускі драматург, публіцыст.

[64] *Шастаковіч* Дзмітрый (1906–1975) — рускі (беларускага паходжання) кампазітар.

[65] *Макаёнак* Андрэй (1920–1982) — беларускі драматург; народны пісьменнік Беларусі.

[66] *Кузняцоў* Юрый (1941–2003) — рускі паэт; адзін з перакладчыкаў вершаў У. Някляева.

[67] *У бары ЦДЛ раптам чую…* — маецца на ўвазе Цэнтральны Дом літаратара (Масква).

[68] *Ракаў* — мястэчка ў 35 км ад Менска (Валожынскі р-н).

[69] *Янушкевіч* Язэп (1959) — беларускі навуковец, даследчык літаратуры, кандыдат філалагічных навук.

[70] *Дынько* Андрэй (1974) — журналіст, рэдактар газеты «Наша Ніва».

[71] *«Яе муж, палітвязень…»* — маецца на ўвазе *Казулін* Аляксандр Уладзіслававіч (1955), палітык; у 2006 — кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь; з 2006 па 2008 — палітвязень.

[72] *«Пасля прэзентацыі анталогіі беларускай паэзіі…»* — Antologia poezji białoruskiej od XV do XX wieku «Nie chiliłem czoła przed mocą», выд. Kolegium Europy Wschodniej, Wrocław, 2008.

[73] *Лынькоў* Міхась (1899–1975) — народны пісьменнік Беларусі.

[74] *Акудовіч* Валянцін (1950) — беларускі філосаф, культуролаг; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца».

[75] *Субоцін* Васіль Яфімавіч (1921) — рускі пісьменнік.

[76] *Маршак* Самуіл Якаўлевіч (1887–1964) — рускі паэт, перакладчык.

[77] *Шварц* Яўген Львовіч (1896–1958) — рускі пісьменнік, драматург.

[78] *Процька* Таццяна — кандыдат гістарычных навук, старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта.

[79] *Сасноў* Аляксандр (1947) — старшыня назіральнай рады Беларускага Хельсінскага камітэта; у 1994–1996 — міністр працы Рэспублікі Беларусь.

[80] *З Вольгай паехалі ў Кактэбель…* — Кактэбель (Планерскае) — курортны пасёлак (Крым).

[81] *Валошын* Максімілян (1877–1932) — рускі паэт, мастак; у ягоным доме ў Кактэбелі быў створаны Дом творчасці пісьменнікаў.

[82] *Юдахін* Аляксандр (1941) — рускі паэт.

[83] *Гарадніцкі* Аляксандр (1933) — рускі паэт, бард.

[84] *Мацяш* Ніна (1943–2008) — беларуская паэтка.

[85] *Вярцінскі* Анатоль (1931) — беларускі паэт.

[86] *Навуменка* Іван (1925–2006) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец.

[87] *Адамовіч* Алесь (1927–1994) — беларускі пісьменнік, крытык, грамадскі дзеяч.

[88] *Стрыечныя браты Іван ды Лявон запрасілі ў суботу біць кабана ў Крыўску.* — Крыўск — вёска непадалёку ад Крэва (Смаргонскі р-н).

[89] *Межыраў* Аляксандр (1923–2009) — рускі паэт; апошнія гады жыцця пражыў у ЗША.

[90] *Дубулты* — курортны пасёлак (Латвія), дзе знаходзіўся Дом творчасці пісьменнікаў.

[91] *...куды я выправіў Людмілу з Евай.* — Маюцца на ўвазе першая жонка і малодшая дачка.

[92] *...И стол был чистым только потому...* — вершы А. Межырава.

[93] *Слуцкі* Барыс (1919–1986) — рускі паэт.

[94] *Разанаў* Алесь (1947) — беларускі паэт; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца».

[95] *Ранеўская* Фаіна Рыгораўна (1896–1984) — руская акторка, народная артыстка СССР.

[96] *Ахматава* Ганна Андрэеўна (1889–1966) — руская паэтка.

[97] *Бярозкін* Рыгор (псеўданімы: Р. Барута; С. Тарасаў; 1918–1981) — беларускі літаратуразнавец, крытык.

[98] *Паўлычка* Дзмітро (1929) — украінскі паэт; Герой Украіны.

[99] *Праз гэты вобраз можна ўбачыць і Паўло Тычыну ды Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюру ды Андрэя Малышку...* — украінскія паэты, рэпрэсаваныя бальшавікамі.

[100] *Вялюгін* Анатоль (1923–1994) — беларускі паэт, кінасцэнарыст, перакладчык; загадчык аддзела паэзіі часопіса «Полымя».

[101] *Хадановіч* Андрэй (1973) — беларускі паэт.

[102] *Кустава* Валерыя (1984) — беларуская паэтка.

[103] *Бог не спіць...* — радок з верша У. Някляева «Церні».

[104] *Бог заснуў — і свет наш знік...* — радок з верша В. Куставай «Калыханка для Бога».

[105] *...Валерыя Кустава, Віталь Рыжкоў, Марыйка Мартысевіч, Рагнед Малахоўскі, Вальжына Морт, Усевалад Сцебурака, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак, Анатоль Івашчанка, Глеб Лабадзенка, Максім Шчур, Андрэй Адамовіч* — паэты, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру на памежжы XX–XXI стст.

[106] *Някрошус* Эймунтас (1952) — літоўскі рэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1986).

[107] *Калі я рэдагаваў бюлетэнь «Тэатральны Мінск»...* — Бюлетэнь выдаваўся Беларускім тэатральным аб'яднаннем, У. Някляеў рэдагаваў «Тэатральны Мінск» у 1974–1975.

[108] *Пукст* Рыгор (1900–1960) — беларускі кампазітар.

[109] *Федзюковіч* Мікола (1943–1997) — беларускі паэт, перакладчык.

[110] *Дудараў* Аляксей (1950) — беларускі драматург.

[111] *Янішчыц* Яўгенія (1948–1988) — беларуская паэтка.

[112] *Брат з'ехаў з Менска ў Смаргонь.* — Родны брат *Някляеў* Іван Пракопавіч (1951); Смаргонь (Гродзенская вобл.) — горад, у якім нарадзіўся У. Някляеў.

[113] *Пятровіч* Барыс (Сачанка Барыс Пятровіч; 1959) — беларускі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў».

[114] *Абама* Барак (Barack Hussein Obama; 1964) — прэзідэнт ЗША.

[115] *Казько* Віктар (1940) — беларускі пісьменнік.

[116] *Будзінас* Яўген (1944–2007) — празаік, публіцыст, бізнесмен; стваральнік культурна-краязнаўчай сялібы «Дудуткі».

[117] *Мальер* (сапр. імя Жан Батыст Паклен; 1622–1673) — французскі драматург, актор.

[118] *Малевіч* Казімір (1878–1935) — рускі мастак; найбольш знакамітая ягоная карціна — «Чорны квадрат».

[119] *Мая бабуля Алімпа...* — бабуля па маці *Магер* (Гецэвіч) Алімпіяда Антонаўна (1894–1973).

[120] *Гарошкаў* — родная вёска паэта А. Сыса.

[121] *Акулін* Эдуард (1963) — беларускі паэт, бард.

[122] *Арлоў* Уладзімір (1953) — беларускі пісьменнік; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца».

[123] *Пашкевіч* Алесь (1972) — літаратар, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў.

[124] *Камоцкая* Кася — беларуская спявачка.

[125] *Камоцкі* Алесь (1958) — беларускі бард, паэт.

[126] *Глуша* — родная вёска Алеся Адамовіча (на Магілёўшчыне).

[127] *Букчын* Сямён (1941) — беларускі пісьменнік, публіцыст.

[128] *Гарэцкі* Радзім (1928) — беларускі вучоны ў галіне геалогіі, геатэктонікі; акадэмік, заслужаны дзеяч навукі.

[129] *Законнікаў* Сяргей (1946) — беларускі паэт.

[130] *Тарас* Валянцін (1930–2009) — беларускі паэт, перакладчык.

[131] *Тычына* Міхась (1943) — беларускі літаратуразнавец.

[132] *Канфуцый* (Кун Фуцы, 551–479 да н. э.) — старажытнакітайскі філосаф, заснавальнік філасофскай школы канфуцыянства.

### *Цуды ўсе ў адным адзіным цудзе (с. 543)*

Упершыню — газ. «Свободные новости плюс», 2006, 5–12 ліпеня.

Друкуецца паводле рукапісу.

[1] *Так напісана* — тэкст з аўтарскай прадмовы да кнігі «Так».

[2] *Вы і так паляк, у вас дзядзька ў Польшчы жыве!* — адзін з братоў маці У. Някляева, Магер Мікалай Іванавіч, з паваеннага часу жыў у Польшчы, служыў у польскім войску, даслужыўся да звання палкоўніка.

[3] *Праз два гады падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка* — у 1961 У. Някляеў, скончыўшы 9 кл. Смаргонскай СШ № 1, паступіў у Мінскі электратэхнікум сувязі, які скончыў у 1965.

[4] *...калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце.* — На аддзяленне паэзіі Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага (Масква) У. Някляеў паступіў у 1971; на другім курсе перавёўся са стацыянара на завочнае аддзяленне, якое пакінуў у 1975, не скончыўшы інстытут.

[5] *Выкінулі з кнігі верш пад назвай «Праўда».* — Верш нідзе не друкаваўся, існуе толькі ў рукапісе.

## SUMMARY

Uladzimir Niakliaeu (a poet, prose writer and literary critic) was born on July 9th, 1946, in Smarhon, Hrodna region, Belarus. Currently lives in Minsk, Belarus.

In 1962–1966 he studied at Technical School of Electronic Communication, Minsk, then at the poetry Department of Literature Institute, Moscow (1971), and graduated in 1973 from the Faculty of Philology of the Institute of Pedagogics, Minsk.

After graduating from the Technical School, he worked in telecommunications in Siberia and the Far East, then at a TV repair shop in Minsk. In 1972–1975 he was on staff of *Znamia Yunosti newspaper*, then in 1975–1978 he edited the bulletin *Teatralny Minsk*. In 1978 he was the editor-in-chief of the main division of literary and drama works for Belarusian TV. Since 1987 he was the editor-in-chief of *Krynitsa* literary magazine which had a circulation of several hundreds thousand copies in the 1980s and played a very significant part in reviving Belarusian culture through youth. In 1998 he was the Head of *Litaratura i Mastatstva weekly arts publication*. In 1998–2001 he was the Chairman of the Belarusian Union of Writers.

From 2001 to 2004 he lived and worked in Finland. In 2004 he moved back to Belarus. Since 2005 he has been the Chairman of Belarusian PEN Centre.

His first poems appeared in print in 1970 and were followed by the first book of poetry «Otkrytie» (*Discovery*) in 1976. Other books include «Izobretateli vetrov» (*Inventors of the Winds*), 1979; «Mestnoe vremya» (*Local Time*), 1983; «Znak ohrany» (*Sign of Protection*), 1983; «Naskroz» (*Through*), 1985; «Derevo boli» (*Tree of Pain*), 1986; «Golubinaya pochta» (*Pigeon Post*), 1987; «Veda» (*Knowledge*), 1989; «Zvezda polyn» (*The Star of Wormwood*), 1991; «Proscha» (*Sacred Place*), 1996; «Labukh» (*Amateur*), 2003; «Tak» (*So*), 2004, «Tsentr Europy» (*The Centre of Europe*), 2009.

# ЗМЕСТ

**Паэмы**



**Песні**

**Някляеў, У.**

**Н99** Выбраныя творы / Уладзімір Някляеў; уклад., камент. В. Болдыравай; прадм. Р. Барадуліна. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 576 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор» : Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6930-74-7.

Аднатомнік выдатнага беларускага паэта і празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Някляева (1946) склалі лепшыя вершы, паэмы, песні, апавяданні, аповесці, эсэ і дзённікавыя запісы 1969–2009 гадоў.

Пяцьдзесят другі том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі
В. Болдыравай, Ю. Іванова, Я. Коктыша, У. Крука,
Е. Някляевай, Т. Процькі, А. Шклярэўскага

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Някляеў Уладзімір Пракопавіч**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шуст*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 20.01.2010.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,24 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 26,93.
Наклад 1000 асобнікаў (1 з-д — 1–500). Зак. 1.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-6930-74-7

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбраныя творы